Друкуецца па выданню:
Галавач П. Збор твораў: У 3-х т.
Мінск: Дзяржвыд БССР, 1958. Т 3. 416 ст.

Галавач П.
Г 15 Праз гады: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 368 с., 4 л. іл.
У пер.: 2 р. 20 к.

У рамане «Праз гады» вядомага беларускага празаіка Платона Галавача (1903—1937) знайшлі сваё адлюстраванне жыццё дакастрычніцкай беларускай вёскі, развіццё рэвалюцыйнага руху, барацьба за калектывізацыю. У цэнтры твора — складаны жыццёвы шлях Паўла Будніка, камуніста, чалавека вялікай сілы волі і непахіснага характару.

Г $\frac{4702120200-059}{М 302(05)-84}$ 123—84

ББК 88Бел7
Бел2

*Былому камсамольцу*
*камуністу-інжынеру*
*Андрэю Агеевічу БАРОДЗІЧУ*

Раніцою дзевятага мая 1913 года ў аўдыторыях Санкт-Пецярбургскага універсітэта, на Васільеўскім востраве, дазналіся пра самагубства студэнта Kулікоўскага. І гэтай жа парой на пляцы, каля Ісакіеўскага сабора, юнак год дзевятнаццаці — дваццаці, апрануты ў студэнцкае паліто, перадаў хлапчуку-газетчыку запіску для сваёй знаёмай, якая жыла на Галадаі.

Было блізка ля дзесяці гадзін, калі студэнт прыйшоў на пляц. Халаднаваты паўночна-заходні вецер і дробны, непрыкметны, і таму асабліва дакучлівы дождж загналі студэнта пад масіўныя далі каланады сабора, дзе ён і стаяў, аж пакуль не змеціў газетчыка. Тады, спяшаючыся, збег уніз, прывітаўся з хлапчуком, кіўнуўшы яму галавою, і перадаў у ягоныя рукі запіску. Хлапчук узяў запіску, патрымаў яе перад вачыма, чытаючы адрас, і асцярожна паклаў сабе ў кішэню. А яшчэ цераз пяць хвілін хлапчук крочыў у напрамку да маста, які злучае горад з Васільеўскім востравам, а студэнт ішоў Неўскім праспектам у публічную бібліятэку, што на рагу Садовай. Акурат у гэтую пару ў калідорах універсітэта пачыналіся гарачыя спрэчкі аб прычынах, якія штурханулі Кулікоўскага на самагубства, але наш студэнт пра смерць Кулікоўскага яшчэ не ведаў і, нават больш таго, спадзяваўся абавязкова сустрэць яго ў бібліятэцы.

«Хвароба душ», як назваў эпідэмію самагубстваў адзін з вядомых тагачаснікаў-журналістаў, была ў Расіі, як ніколі дагэтуль, пашыра-

на. Кожны дзень газеты нямымі і цьмянымі радкамі петыту паведамлялі аб знойдзеных трупах. Смерць спраўляла свой урачысты парад. З жыцця ішлі разам: і маці, у якой галадавалі дзеці, і безработны, якім авалодвала роспач, і інтэлігент, упэўненасць якога была пахіснута, каму засталіся разбітыя ілюзіі і дарэмныя блуканні ў пошуках агульначалавечай справядлівасці і шчасця. Ледзь прыкметнымі зданямі адыходзілі яны, разгубленыя і пакалечаныя. У гэтым струмені дачасна перарваных жыццяў смерць студэнта Кулікоўскага прайшла б непрыкметнай, калі б яна не мела сувязі з іншымі, яшчэ ранейшымі падзеямі, што адбыліся ва універсітэце, і з лёсам людзей, пра якіх я і маю намер расказваць.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ПАДЗЕЯ ПЕРШАЯ

У пакой зайшоў Буднік. Распранаючыся, ён дастаў з кішэні складзеную чацвяртушкай газету.

— Чыталі? Разумееце, як гэта лоўка зроблена?

— Пілацееўшчына! — не ў меру высокі і гэтак жа не ў меру танклявы Кулікоўскі схапіў газету і, скамячыўшы яе ў даўгіх тонкіх пальцах, захадзіў па пакоі.— Мы павінны пратэставаць! Хто? Скажыце мне, хто будзе несці адказнасць за дзеянні гэтых паважаных паноў прафесароў і думцаў? Яны іграюць на пачуццях крэўнасці і адзінства веры і імкненняў. А якія словы: «шматмільённае рускае сэрца б'ецца суладна з сэрцам славян»... Які пафас!.. Усё, усё забруджана імі, закідана гразёй. Самыя чыстыя імкненні народа яны затапталі салдацкім ботам!.. Гэта хлусня! Хлусіць будзе і Пілацееў, і мы павінны пратэставаць...

— Гэта не толькі хлусня,— перабіў яго Буднік...— «Руская нацыянальная самасвядомасць дапаможа...» За гэтымі словамі нешта большае, чым простая хлусня.

— Я не хачу шукаць большага, каб пратэставаць, з мяне годзе таго, што апаганьваюцца лепшыя народныя пачуцці.— Кулікоўскі шырока ўзмахваў даўгімі рукамі і пальцамі левай рукі пахвілінна хапаўся за пенснэ.

— Дзівак ты...

— Гэта чаму ж дзівак? — спыніўся раптам Кулікоўскі і зняў пенснэ ды так і стаяў, трымаючы яго кончыкамі даўгіх тонкіх пальцаў.— Я прапаную пратэставаць, не дапусціць пілацееўскай лекцыі, якое ж гэта дзівацтва?

— І ўсё-такі ты дзівак. Лекцыю сваю Пілацееў будзе чытаць. Не дапусціць лекцыі ў нас не будзе магчымасці.

— Тады як жа? — Кулікоўскі шырока ўзмахнуў рукой, у растапыраных пальцах якой трымаў пенснэ.— Значыць, маўчаць?

— І маўчаць не трэба.

— Ха-ха! Дзіўна! І не пратэставаць і не маўчаць! Хаха. Вось гэта і ёсць дзівацтва.

— Для такой катэгорыі інтэлігентаў, як ты, усё маё заўжды будзе дзівацтвам.— Буднік зняў паліто і павесіў яго на этажэрку з кнігамі.— Ты, браток, прабач мне, але я табе гэта даўно хачу сказаць. Ёсць такая катэгорыя добрых людзей, паважаных інтэлігентаў. Паглядзець на іх звонку, паслухаць іх — чыстае ўцелясненне дабра і справядлівасці. Добрыя, сумленныя людзі, чулыя. Яны ў адзін момант могуць угнявацца і стаць на нейкі час выказнікамі народнага абурэння. У адзін момант яны могуць узрадавацца, захапіўшыся добрай справай, але гэтак жа лёгка, сустрэўшыся з перашкодай, яны робяцца бяссільнымі, бездапаможнымі. Бяда, што жывуць яны не розумам, не глыбінямі волі. Залішне тонкія душы ў такіх інтэлігентаў. Мітусяцца яны ў жыцці, самі не ведаюць, чаго шукаюць. Гоняцца за многім, жывуць напружанасцю перажыванняў, якія вельмі хутка праходзяць і, дзякуючы гэтаму, не маюць цэльнасці. Сацыяльная міміка ў такіх людзей багатая, а фізіяноміі няма. Прабач, але ты задужа падобен да гэтай катэгорыі людзей...

— Ну, ты не зусім праўду кажаш.

— Як хочаш, але я ў гэтым пераконаны. Іменна з гэтай прычыны ты, калега, убачыў за адозвай гуртка славянафілаў толькі апаганьванне чыстых парываў рускай народнай душы, хлусню, а трэба бачыць спрытнага штукара-жанглёра, які пачынае гуляць з такімі рэчамі, як народ, нацыя, вайна. За пафасам, за заслонаю прыгожых слоў пра еднасць веры і імкненняў славян хаваецца твар вайны. Вольнасць балканскіх славян Пілацееў і славянафілы робяць сваім дэвізам для таго, каб заняволіць Турцыю.

Гаворачы, Буднік хадзіў па пакоі ад сцяны да сцяны, стрымліваючы ў хадзе сваю ўзрушанасць. Час ад часу ён зусім спакойна падносіў да ілба шырокую далонь рукі і адкідаў ёю ўгору непаслухмяныя валасы.— І нам трэба раскрыць сутнасць пілацееўскіх намераў. Адразу пасля лекцыі выступлю апанентам я. За мной, калі будзе магчымасць, яшчэ хто-небудзь з вас. Гэтак мы зможам хоць пару слоў сказаць пра тое, што і прафесарскі

шавінізм, хоць ён і ў белых, чысценькіх пальчатках, гэткі ж, як і шавінізм чарнасоценца, які арудуе дручком... Я думаю, што трэба дзейнічаць так.

— Можа быць, можа быць.— Кулікоўскі сеў у крэсла, шырока расставіўшы даўгія ногі, і на калена паклаў руку, у якой трымаў пенснэ.

Пасля гэтых слоў, сказаных Буднікам, хвілін пятнаццаць яшчэ вяліся гарачыя спрэчкі вакол меўшай быць публічнай лекцыі прафесара Пілацеева, пакуль усё было ўмоўлена. Тады госці пайшлі, а ў пакоі засталіся Буднік і Кулікоўскі. Трэба сказаць, што адносіны паміж імі былі выражэннем своеасаблівай дружбы. І хоць не было амаль ніводнага пытання, з-за якога не ўзнікалі б паміж імі спрэчкі, і хоць вельмі рэдка згаджаўся Буднік з поглядамі, якія выказваў Кулікоўскі, усё ж ён надзвычай глыбока паважаў Кулікоўскага, цаніў яго за тонкі розум і за ўласцівую яму глыбокую шчырасць у пераконаннях. Цэнячы ў Кулікоўскім гэтыя якасці і ведаючы яго як надзвычай кволую натуру, Буднік ставіўся да яго вельмі беражліва. І цяпер, як толькі засталіся яны ў пакоі ўдвух, Буднік падняўся з крэсла і падышоў да Кулікоўскага, які сядзеў моўчкі, барабанячы пальцамі па крэсле.

— Ну, ты, таго, не крыўдуй, што я раскрычаўся так. Такая ўжо мая натура неспакойная, і мне крыўдна, калі ты са мной не згаджаешся, калі ты гаворыш не тое, што трэба.

— Гм...— Кулікоўскі ўзняў галаву і ўсміхнуўся.— А ты ўсур'ёз думаеш, што заўжды гаворыш тое, што трэба?..

— Уяві сабе, што так.— Буднік весела зарагатаў.— Такая ўжо, чорт яе, натура мая: усё думаю, што праўда на маім баку.

— Ладна, думай так і наперад.

Буднік апрануў паліто і пайшоў з пакоя на лесвіцу. Следам выйшаў і Кулікоўскі.

— Асцярожна ідзі,— папярэдзіў ён,— а то ў гэтай пякельнай цемры ногі паламаць можна.

Буднік, намацваючы нагамі сходкі лесвіцы, пайшоў уніз. Ужо як быў на другім паверсе, яшчэ раз пачуў папярэджанне Кулікоўскага, які згары крычаў аб асцярожнасці. Ён, не спыняючыся, штосьці крыкнуў угору і крокаў не суняў. Буднік дайшоў да універсітэцкай набярэжнай.

Па-над цёмна-шэрай бліскучай паверхняй Нявы разгонна шпацыраваў злосны паўночна-заходні вецер. Вецер гнаў над Пецярбургам пухлыя мутныя хмары. У змроках начы хмары абвісалі на зямлю і павольна сунуліся над камяніцамі горада. Дажджу не было. Вецер гулліва свістаў у дзівосных спляценнях жалезных парэнч на масту і з разгону шырока ўзмятаў над набярэжнай пясок і пыл. Ён зрываў з галавы ў Будніка шапку, шырока расхрыстваў полы паліта і сярдзіта рваў са сцен тэатральныя афішы.

Буднік спыніўся каля афіш. Вялікімі сінімі літарамі афіша паведамляла, што чацвёртага снежня тысяча дзевяцьсот дванаццатага года ў актавай зале універсітэта дэпутат Дзяржаўнай думы, прафесар Пілацееў, прачытае публічную лекцыю на тэму пра мінулае і будучнасць балканскіх славян. Буднік доўга стаяў перад афішай. Вецер калыхаў над набярэжнай электрычны ліхтар, і ад гэтага вялізны цень Будніка гойдаўся па сцяне, закрываючы афішу. Буднік прыпомніў гаворку Кулікоўскага пра тое, каб пазрываць афішы.

«Дзівак»,— сказаў ён сам да сябе і ўсміхнуўся. За гэтым прыпомніў, што абяцаў сёння быць на Галадаі, і тады ўжо, не затрымліваючыся, пайшоў з набярэжнай у напрамку да трамвайнага прыпынку.

А цераз некалькі дзён пасля гэтага ва універсітэце чытаў лекцыю дэпутат Дзяржаўнай думы прафесар Пілацееў.

Калі зала запоўнілася слухачамі, ён прыйшоў і адразу стаў каля трыбуны, пакланіўшыся аўдыторыі. Быў ён нізкарослым, з пышнай русай барадой. Чорны фрак утульна сядзеў на яго шырокіх прыўзнятых плячах. Пілацееў стаяў ля трыбуны, трымаючы левую сваю руку на стале, які стаяў побач. Растапыраныя, кароткія і пухлыя белыя ягоныя пальцы выразна выдзяляліся на цёмна-зялёным аксамітавым абрусе. За сталом, тварам да лектара, абапёршыся локцем на стол, сядзеў адзін з прафесароў універсітэта. Зала момант маўчала, разглядаючы лектара, а калі ён прыўзняў руку і, лёганька кашлянуўшы, пагладзіў рукою бараду, што паказвала на пачатак прамовы, некалькі чалавек у зале запляскалі.

— Панове!..

Пілацееў гаварыў спакойна і разважліва, то падступаючы шчыльна да самай трыбуны, то адыходзячы з-за трыбуны ў прастору паміж ёю і сталом.

— ...Прадбачанне магчымасці агульнаславянскага аб'яднання выклікае абурэнне з боку нямецкіх палітыкаў. Германія — небяспечная для славянства сіла...

Лектар доўга, разважліва і пераканаўча, як здавалася яму, гаварыў пра інтрыгі нямецкіх і аўстрыйскіх палітыкаў на Балканскім паўвостраве, дзякуючы якім нават палітыка руская ў адносінах да балканскага пытання праводзілася па ўказцы нямецкай дыпламатыі.

— Але,— прафесар адышоў ад трыбуны,— ім не рэалізаваць сваіх планаў. Заслугай рускай грамадскай думкі было тое, што аўстрыйскі план, які пагражаў фактычна поўным эканамічным, а пасля і палітычным заваяваннем Балканскага паўвострава, быў раскрыты. Настроі рускага грамадства перадаліся нашай дыпламатыі, якая зразумела, што Аўстрыя мяркуе стварыць нешта накшталт балканскай федэрацыі пад гегемоніяй Аўстра-Венгрыі. Тады,— прафесар Пілацееў адкашляўся і выпіў вады,— і ўзнікла ў Дзяржаўнай думе ідэя, якая супроцьстаўлялася аўстрыйскаму плану, ідэя чыгункі, якая злучала б Адрыятычнае мора з Дунаем. З той жа пары пачынаецца і фактычнае ажыццяўленне ідэі пра аб'яднанне балканскіх дзяржаў...

Лектар гаварыў, часта спасылаючыся на свае выказванні па гэтаму ж пытанню, якія ён рабіў праз газеты і часопісы. Пры гэтым ён часта і самаздаволена, пасабліваму падкрэсліваючы гэтыя свае словы, паўтараў: «яшчэ ў тую пару мы прадбачылі», «яшчэ тады мы гаварылі». А калі загаварыў ён пра балканскую вайну, зала пачала слухаць з больш напружанай увагай і ўзрушанасцю. Адчуваючы гэтую ўзрушанасць і ўвагу, прафесар пачаў гаварыць больш патэтычна. Узрушанасць аўдыторыі перадалася і яму. Ён цяпер часцей пераходзіў з месца на месца, і правая яго рука ўсё часцей уздымалася ў паветра.

— ...З усіх народаў Еўропы народы Балканскага паўвострава, якія ў гэты час паспяхова вядуць барацьбу з Турцыяй за сваё вызваленне, з'яўляюцца найлепшымі нашымі саюзнікамі.

— Адзінства крыві,— прафесар Пілацееў гаварыў, раз за разам рассякаючы рукой паветра,— крэўнасць моў, адзінства веры і векавая абарона намі, рускімі, іхніх інтарэсаў нарадзілі вялікі і святы саюз славянскіх народаў, які будзе ўзмацняцца ў блізкай і ў далёкай будучыні. Вось чаму мы, рускія, так спакойна глядзім на тое, што Турцыя шукае сабе саюзнікаў супроць Расіі.

Але самым жыццёвым пытаннем на Блізкім Усходзе для нас, для Расіі, з'яўляецца пытанне вольнай дарогі для нашых караблёў. І з гэтай прычыны мы ўсё ж не можам, мы не маем права аднесціся абыякава да пытання, хто ж будзе гаспадаром на Балканах?

У гэтым месцы яго прамова набыла яшчэ большую патэтычнасць.

— Перад намі суровае запытанне века: як мы, руская інтэлігенцыя, павінны паставіцца да вялікай трагедыі, што адбываецца на Балканах? Ці можам мы, ці маем мы маральнае права, мы, рускія, якія так багата зрабілі, каб забяспечыць мір і шчасце адзінакроўных з намі народаў на Дунаі,— ці маем мы права быць спакойнымі сузіральнікамі канчатковай, быць можа, барацьбы прыгнечаных балканскіх народаў з чужаземнымі ўладарамі? Ці, можа, нічога ўжо не гаворыць нашаму сэрцу ўсведамленне братэрства па крыві і па веры і памяць аб тым, што зроблена нашымі продкамі для вызвалення румын, славян і грэкаў з-пад турэцкага векавога прыгнёту?.. Дзеля самазахавання і свайго спакою мы не маем права,— прафесар не гаварыў, а крычаў, падаўшыся ўсёй сваёй постаццю ў прастору паміж трыбунаю і сталом,— маўчаць і бяздзейнічаць, бачачы пагалоўнае знішчэнне мужчын, жанчын і дзяцей аднае з намі веры, бачачы насмяянне над іхнімі трупамі. Свет павінен ведаць, што шматмільённае рускае сэрца б'ецца суладна з сэрцамі тых, хто геройскі, адважна рве ланцугі векавога турэцкага прыгнёту. У сваім геройскім святым змаганні за сваю незалежнасць нашы браты, памятаючы вялікую місію Расіі, глядзяць і сёння на нас з вялікай надзеяй...

Калі Пілацееў скончыў прамову, па зале пракацілася і хваля воплескаў і хваля кароткіх адрывістых гаворак. Прафесар пакланіўся, ледзь схінуўшы ў бок да аўдыторыі галаву, адышоў ад трыбуны і сеў. Пасля падняўся, каб наліць сабе вады, а напіўшыся, адкінуўся плячыма да крэсла і доўга, не спяшаючыся, выціраў насоўкай успацелы квадратовы свой твар.

Зала голасна і ўзрушана гаманіла. У гомане падняўся з-за стала, з-за цёмна-сіняга аксаміту, прафесар, які кіраваў лекцыяй, і абвясціў перапынак. Пасля перапынку зала зноў напоўнілася.

Буднік ішоў спакойна, і так, праведзены ўважлівымі поглядамі ўсяе залы, прайшоў да самай трыбуны.

Як і раней прафесар, Буднік, злёгку пакланіўшыся,

стаў шчыльна да трыбуны і левую руку паклаў на мяккі цёмна-сіні аксаміт стала. Пасля шырокай далонню рукі адкінуў угору з ілба непаслухмяныя валасы і, як і прафесар, лёганька кашлянуў і кінуў з трыбуны ў залу лаканічнае і звычайнае: «панове», якое прагучала ў поўнай цішыні.

— Прафесар Пілацееў,— гаварыў Буднік,— з'яўляецца і дэпутатам Дзяржаўнай думы. Гэта абавязвае нас з асаблівa вялікай увагай аднесціся да таго, што казаў паважаны Феакціст Антонавіч.

Зала маўчала.

— У працягу стагоддзяў,— гаварыў Буднік,— балканскія народы не мелі сіл, каб пазбавіцца ад цяжкога прыгнёту, каб дапамагчы сваёй незалежнасці, каб самім вырашаць лёс свой. Лёс гэтых шматмільённых народаў вырашаўся палітыкамі, уладарамі больш магутнай нацыі. На лёс гэтых народаў пасягалі многія, і ў выніку балканскае пытанне стала пытаннем вялікіх інтрыг еўрапейскай дыпламатыі, у прыватнасці інтрыг аўстрыйскіх і нямецкіх палітыкаў...

Буднік гаварыў і дапытліва ўзіраўся ў залу. Там ён бачыў збянтэжаныя, здзіўленыя твары сваіх таварышаў. Яны ўважліва ўслухоўваліся ў словы ягонай прамовы і не разумелі, да чаго ён вядзе яе. Прамова была яўна не такой, якую павінен быў сказаць Буднік згодна ўмаўленню. І ўжо дапытлівымі і злоснымі поглядамі яны блукалі па ягоным твары, патрабуючы тлумачэнняў, а высокі неспакойны Кулікоўскі, трымаючы ў пальцах рукі пенснэ, размахваў рукою ў паветры па-над галовамі таварышаў, пытаючы ў іх, як зразумець Будніка.

— Пра ўсё гэта,— казаў Буднік,— гаварыў нам паважаны прафесар і дэпутат Дзяржаўнай думы. І я не маю намеру спрачацца з прафесарам па гэтай часці ягонае лекцыі. Але...

Зала зноўку змоўкла. Кулікоўскі паднёс да твару руку з пенснэ ды так і трымаў яе перад вачыма, баючыся не пачуць, што скажа Буднік.

— Але, панове,— сказаў Буднік,— паважаны прафесар і дэпутат Дзяржаўнай думы Пілацееў, гаворачы пра вялікую гістарычную місію Расіі ў мінулым у адносінах да славян, заклікаў рускую грамадскасць перастаць быць спакойным сузіральнікам балканскіх падзей, заклікаў яе не маўчаць, а дзейнічаць... Расія, па словах паважанага прафесара і дэпутата Дзяржаўнай думы,

павінна дзейнічаць. Расія павінна, гэта значыць, выкарыстаўшы момант, умяшацца ў вайну і адарваць ад Турцыі частку яе тэрыторыі, як гэта зрабіла Аўстрыя, захапіўшы ў свае рукі Боснію і Герцагавіну, як гэта зрабіла Італія, захапіўшы ў апошняй вайне Трыпалі... Да такой, менавіта, дзейнасці заклікае прафесар рускую грамадскую думку... Страшны, жудасны твар вайны выглядае з-за заслоны прыгожых прафесаравых слоў. Яшчэ не параслі травою магілы рускіх салдат на палях Манчжурыі, а паважаны пан прафесар і дэпутат заклікае ўмяшацца ў новую вайну...

З самых далёкіх куткоў зала адгукнулася воплескамі. Воплескі перакінуліся на сярэдзіну залы. Хтосьці падняўся ў пярэдніх радах і, махаючы пальчаткай, крычаў, патрабуючы спыніць прамоўцу. Яго падтрымала яшчэ некалькі галасоў з розных месц залы. Тады з задніх месц зноўку запляскалі і закрычалі, патрабуючы, каб пярэднія змоўклі. Зала загаманіла спрэчкамі. Прафесар, які кіраваў сходам, пачаў званіць; званіў настойліва, доўга. А ў агульным гомане гучаў зычны голас Будніка.

— Ганьба! Ганьба, гаворым мы, бачачы, што пад вучонай тогай прафесара, уцелясненнем гуманнасці і справядлівасці, крыецца мундзір ваяўнічага афіцэра-нацыяналіста. Нарумянены, падсаладжаны патэтычнымі словамі пра дэмакратыю і свабоду, пра крэўнасць славян, прафесарскі шавінізм яшчэ больш прыкры, яшчэ больш брудны, чым голы, нічым непрыкрыты шавінізм палітыкаў-чарнасоценцаў... Мана! Усё гэта мана, прафесар! Дзе ёсць шавінізм, там няма дэмакратыі, там няма свабоды!..

І калі, скончыўшы прамову, Буднік пайшоў ад трыбуны ў залу, зала адгукнулася рэдкімі воплескамі і крыкамі. З пярэдніх месц падняўся рослы вусаты мужчына ў штацкім. Ён доўга стаяў з разведзенымі ў бакі рукамі, а пасля крыкнуў, звяртаючыся да аўдыторыі, у якой знік прамоўца:

— Ды як вы смелі? Якая нахабнасць! Хто даў вам права зневажаць?..

За сталом падняўся прафесар, які вёў лекцыю, і абвясціў, што студэнт Буднік трымаў сябе недапусціма і што другія апаненты слова атрымаюць толькі ў тым выпадку, калі будуць трымаць сябе дастойна і гаварыць па тэме лекцыі. І следам за гэтым ён папрасіў прабачэння ў прафесара Пілацеева за прамову Будніка.

Калі зала крыху супакоілася, ён даў слова наступнаму апаненту, але абарваў ягоную прамову ў самым пачатку.

Той пастаяў хвіліну каля трыбуны, спрабуючы гаварыць, але голас ягоны губіўся ў агульным гомане, і, махнуўшы рукой, штосьці крыкнуўшы ў залу, чаго не зразумелі, пайшоў назад. З свайго месца падняўся высокі танклявы Кулікоўскі і, трымаючы над сабою руку з пенснэ, пачаў пратэставаць, патрабуючы выслухаць апанентаў. Яго ніхто не слухаў, і ён гэтак жа безнадзейна махнуў рукой і сеў на месца. Тым часам прафесар Пілацееў падняўся з крэсла, штосьці спяшаючыся сказаў да аўдыторыі і пайшоў у суседні з актавай залай пакой. Тады пайшлі з залы і слухачы, выносячы запальчывыя спрэчкі ў цішыню вуліцы.

Каля самых дзвярэй на вуліцы Кулікоўскі дагнаў Будніка. Шырока ўсміхаючыся, прытрымліваючы левай рукой пенснэ, ён доўга ціскаў Буднікаву руку.

— Ну, гэт-та, калега, здорава выйшла. Я нават не чакаў. Ты, ч-чорт, так хітра пачаў, што ніхто не спадзяваўся пачуць таго, што пасля пачулі... Брава, калега. Сёння ж я пастараюся забегчы да цябе і паталкаваць... Брава... А цяпер іду вось тут, непадалёк...

Кулікоўскі кіўнуў галавой і знік, а Буднік пайшоў да сябе на кватэру.

Пасля шумнай універсітэцкай залы маленькі пакой здаўся незвычайна цесным. Пяць крокаў ад дзвярэй да стала і кніжнай этажэркі. Два крокі ад крэсла да ложка. Цесна і няўтульна. Буднік падышоў да акна і спыніўся каля яго, узіраючыся ў далячынь за раку, у раскіданыя ў беспарадку шматлікія агні вялікага горада. Агні па-незвычайнаму іскрыліся за абледзянелымі шыбамі акна. У вушах усё яшчэ жыў гоман актавай залы. Здавалася, што ўнізе, пад вокнамі, ідзе шумны натоўп студэнтаў. Захацелася пайсці на вуліцу. Але гадзіннік паказваў на палову дванаццатае ночы. Буднік сеў. Як сеў, неўзаметку падкраўся сон. Ужо ў напаўсне ён распрануўся і лёг. А ноччу прачнуўся, як застукалі ў дзверы. Буднік прахапіўся і, не разумеючы, колькі ён спаў, парашыў, што стукае Кулікоўскі. Уключыў святло. Тады здзівіўся, зірнуўшы на гадзіннік: было чатыры гадзіны ночы. У дзверы зноў пастукалі.

— Адчыніце!

Нехта незнаёмы закашляў за дзвярыма і паціху загаварыў. Буднік зразумеў, што за дзвярыма хтосьці не адзін.

— Адчыніце! — патрабаванне паўтарылася ўжо голасам больш настойлівым.— Вам тэрміновая тэлеграма.

«Паліцыя»,— зразумеў Буднік і ўважліва агледзеў пакой, стараючыся прыпомніць, ці няма ў пакоі чаго-небудзь недазволенага. Памяць працавала напружана і хутка. Супакоены, ён моўчкі адамкнуў дзверы і адышоў да ложка. У пакой зайшло двое. Жандар паціху прычыніў дзверы і застаўся стаяць каля іх, а другі, прывітаўшыся, абвясціў, што зробіць вобыск. Пакуль ён пераглядаў паперы ў стале і кніжкі, якія перакладаў з этажэркі на стол, Буднік апрануўся і стаў побач з ім. Калі афіцэр перайшоў да ложка, Буднік зноўку паставіў кніжкі на этажэрку.

— Пане жандарскі афіцэр,— сказаў ён,— вы дарэмна шукаеце. Нічога недазволенага ў мяне няма, ні ў чым злаўчынным я не замешаны.

— Гм... Я буду рад, калі гэта так,— адказаў афіцэр.— А цяпер пакажыце вашыя чамаданы.

— Будзьце ласкавы.

Нічога не знайшоў афіцэр і ў чамаданах. Скончыўшы пошукі, ён зноў падышоў да стала і напісаў пратакол вобыску.

— Падпішыце.

— Але вы не маеце права забіраць гэтых кніг. Яны цэнзураю не забаронены.

— Маркса і Ласаля я забяру. Калі яны будуць нам не патрэбны, мы іх аддадзім вам. Так... А цяпер, зрабіце ласку, збярыцеся. Вы на нейкі час пройдзеце з намі ў аддзяленне, каб даць такія-сякія паказанні. Ключ ад вашага пакоя я перадам вашай гаспадыні. Яна папярэджана і чакае нас...

Вуліца ў гэтую пару была маўклівай. Пад нагамі паскрыпваў умёрзлы снег. Ад гэтага холад здаваўся яшчэ большым, і Буднік наставіў каўнер ды глыбока схаваў у кішэні паліта схаладзелыя рукі. Каб сагрэцца, ён шырока крочыў і, час ад часу ўсміхаючыся, паглядаў, як паспяшае за ім, часта тупаючы нагамі, жандарскі афіцэр. А ззаду, за плячыма ў яго, чуўся неадчэпны рытмічны скрып цяжкіх крокаў жандара.

## ПАДЗЕЯ ДРУГАЯ

Назаўтра Кулікоўскі не бачыў Будніка, аднак не надаў гэтаму значэння. Але калі не спаткаў Будніка і яшчэ ў працягу трох дзён, гэта яго здзівіла, і ўвечары

на трэці дзень ён пайшоў да Будніка на кватэру. Пакой, які займаў Буднік, быў замкнёны, і Куліноўскі адразу ж вярнуўся дадому, а назаўтра прыехаў да Будніка з самага ранку. Пакой зноў быў замкнёны. Думаючы, што Буднік спіць, ён пачаў стукаць у дзверы. Стукаў доўга і настойліва, але з пакоя ніхто не абзываўся. Гэта ўсур'ёз ужо ўстрывожыла яго, і ён, пабразгаўшы яшчэ хвіліны дзве дзвярыма, пабег уніз да гаспадыні. Ад яе даведаўся, што Будніка арыштавалі ноччу яшчэ чатыры дні таму назад. Пасля гэтага ён адразу кінуўся ва універсітэт і там ужо дазнаўся, што ў ноч пасля лекцыі Пілацеева арыштавана яшчэ трое студэнтаў. Бязмерна ўсхваляваны, ён уварваўся ў аўдыторыю ў часе прафесарскай лекцыі па матэматыцы і пачаў патрабаваць, каб студэнцтва пратэставала і патрабавала вызвалення арыштаваных. Ягоная ўсхваляванасць адразу перадалася і студэнтам. Студэнты вылучылі дэлегацыю з пяці чалавек, якім даручана было перагаварыць з рэктарам універсітэта. А ў часе перапынку паміж лекцыямі настрой матэматычнае аўдыторыі перадаўся і іншым. Пераважная большасць студэнтаў была шчыра абурана арыштамі і адобрыла ініцыятыву матэматыкаў у справе пасылкі дэлегацыі да рэктара.

Калі дэлегацыя прыйшла да рэктара, ён страшэнна здзівіўся, але дэлегацыю выслухаў. Пасля зусім спакойна сказаў, што пра арышты ён ведае, але зусім не ведае, з якой яны прычыны зроблены.

— Гэтым я зусім не цікавіўся і не цікаўлюся,— сказаў ён.— Паліцыя ведае, за што арыштоўвае. Гэта яе справа.

— Але як жа так? — Куліноўскі першым пачаў спрэчкі з рэктарам.— Іх арыштавалі пасля лекцыі пана дэпутата Думы Пілацеева. Гэта дае нам права думаць, што ў прыватнасці Буднік арыштаваны за тое, што асмеліўся спрачацца з панам дэпутатам Думы.— Высокі, танклявы, ён стаяў перад рэктарскім сталом, крыху сагнуўшыся, абапёршыся правай рукой на край стала. Левай пахвілінна прабаваў, ці не ападае пенснэ.— Студэнты абураны. Студэнты патрабуюць тлумачэнняў. Мы просім вас даведацца аб прычынах арышту і паведаміць іх нам.

Рэктар спакойна сядзеў, абапёршыся локцямі аб ручкі крэсла, і знізу пазіраў у твар Куліноўскаму.

— Не! — рэктар адмоўна заківаў галавой.— Я гэтага рабіць не буду.

— Але мы вас просім, студэнты патрабуюць гэтага.

— А я зрабіць нічога не магу. Не буду. Універсітэт — не дэпартамент паліцыі і не жандарскае аддзяленне. Ні да якіх арыштаў мне аніякае справы няма.— Ён прыўзняўся з крэсла і зірнуў на гадзіннік.— Я, панове, сказаў вам усё, што мог. Прабачце, прашчайце...

Кулікоўскі зняў пенснэ і пачаў праціраць шкельцы, падоўгу хукаючы на іх. Яшчэ адзін момант дэлегацыя нерухома стаяла супроць рэктарскага стала, мяркуючы, што рабіць. Тады адзін з дэлегатаў сказаў:

— Мы вымушаны будзем самі патрабаваць тлумачэнняў ад дэпартамента паліцыі.

Рэктар паціснуў плячыма.

— Як хочаце, панове. Гэта вашая справа, але я не рэкамендаваў бы рабіць гэтага.— Ён хвіліну памаўчаў, а пасля яшчэ раз сказаў: — Так, я вельмі не раіў бы рабіць гэтага, панове...

З рэктарскага кабінета дэлегацыя выйшла незадаволенай. Тут жа ў калідоры было вырашана неадкладна напісаць пратэст дэпартаменту паліцыі. На другі дзень пратэст быў адасланы па адрасу, і студэнты, чакаючы адказу, заспакоіліся...

Прайшло некалькі дзён. Першая і самая моцная хваля абурэння, выкліканая арыштамі, уляглася, і пераважная большасць студэнтаў, да якіх звяртаўся Кулікоўскі з прапановаю зноўку пачаць справу з пратэстамі, безнадзейна махала ў адказ яму рукамі і раіла спакойна чакаць канца справы арыштаваных. Кулікоўскі злаваў, нерваваўся і адыходзіў ад сяброў і знаёмых і з тым, як праходзіў час, усё больш і больш замыкаўся ў сабе. А яшчэ прыблізна цераз чатыры з паловаю месяца ва універсітэце стала вядомым, што арыштаваных пасылаюць у далёкія губерні на жыхарства ў прыпісных месцах.

Паведамленне пра лёс арыштаваных зрабіла моцнае, цяжкае ўражанне на студэнтаў, якія ведалі арыштаваных, але такога абурэння, як самы арышт, яно не выклікала. Кулікоўскага ж яно з асаблівай сілай уразіла і пакрыўдзіла.

Увесь той дзень Кулікоўскі зусім разгублены праблукаў па горадзе. У свой пакой ён прыйшоў, як змерклася. Прыйшоў зусім стомлены, але не лёг адпачываць, а, не запальваючы святла, доўга блукаў па пакоі з кута ў кут.

Цераз нейкі час, зусім ужо стаміўшыся, ён уключыў

святло і сеў да стала. Пачаў штосьці пісаць. Але пісаць было, бачна, цяжка, і ён адкінуў ручку ды пачаў кудлычыць валасы сваімі даўгімі танклявымі пальцамі. Цяжкія неадчэпныя думы не давалі спакою. Было жаданне вызваліцца ад іхняе ўлады. Заплюшчыўшы вочы, ён выцягваў пад сталом на ўсю даўжыню ногі, клаў сабе на патыліцу рукі, сашчэпленыя ў пальцах, і сядзеў так нерухома, сілячыся задрамаць. Але сон не прыходзіў. Мыслі, ад якіх ён хацеў пазбавіцца, ішлі не хаатычна, як да гэтага, а ў строгім лагічным парадку, набываючы сэнс канечне патрэбнага, няўхільнага.

За акном не змаўкаў роўны, прыглушаны гоман горада. У гэты гоман зрэдку ўрываліся крыклівыя галасы сірэн аўто і прарэзлівыя званкі трамваяў. Ён наўмысля стараўся канцэнтраваць свае мыслі на гэтым, і абуджаная свядомасць, адведзеная на момант знойдзенай сілай волі ў бок ад звычайнае свае сцежкі, накрэслівала ў ваабражэнні ломаную гукаў, якімі жыве горад. Як чалавек, які цвёрда ведае, што няўхільна ідзе да абрыву, да свайго канца, але не хоча гэтага і ў той жа час не мае сіл, каб не ісці туды, і таму, каб абмануць сябе, ідзе не проста да абрыву, а блукаючы ўдоўж яго, чым толькі падаўжае сваю сцежку, а не абмінае яе,— Кулікоўскі, чапляючыся мыслямі за ўсё выпадковае, імкнуўся адцягнуць увагу ад галоўнага, чым жыў ужо некалькі тыдняў.

Раптам, схапіўшыся з крэсла, ён падышоў да акна і з разгону штурхануў далонямі рамы. Акно расчынілася на ўсю шырыню, і пакой зразу напоўніўся і вільготнай прахладай вясны, і іскрыстымі плямамі далёкіх і блізкіх гарадскіх агнёў, і густа сплеценай, багатай гамаю гукаў каменнага горада, і надакучлівым, які рэжа вушы, крыкам галак, што спыніліся нанач на тапалях у бліжэйшым скверы. Сквер зусім блізка. Голыя, яшчэ бязлістыя, высокія дрэвы роўнай сцяной стаяць побач з суседнімі камяніцамі. Пасля і гэта стала прывычным. Гукі нараджаліся і знікалі.

Знізу даходзіў шоргат шматлікіх ног. Шэрымі ценямі рушылі бесперапынна ў адзін і ў другі бок пешаходы. Лёгшы грудзямі на падаконнік, пазіраў Кулікоўскі ўніз. Шэрыя цені ўнізе бязмэтна снаўдаліся ў адзін і ў другі бок. Ён уявіў сябе паміж іх. «Нашто я там? Што я там буду рабіць? Каму з іх патрэбен я?» І раптоўна зачыніў акно. «А тут? Каму ж я патрэбен тут?» Павольна павярнуў галаву і азірнуўся наўкола сябе ў па-

коі. У самым далёкім куце белая, халодная ў сваёй бялізне, печ, каля сцяны ложак, стол, этажэркі з кнігамі, а вакол чатыры сцяны і над імі мярцвяна белая столь. Пакой палохаў пустэчай і маўклівасцю. Тады ён зноўку стаў ля акна, абапёршыся рукамі на падаконнік. Узяў папяросу і доўга здзіўлена пазіраў, як дрыжыць рука. З гэтай прычыны запамятаў на папяросу і не закурыў, а нерухома стаяў каля акна, углядаючыся ў далячынь панад горадам. Там цэлае мора палымнеючых зыркіх агнёў. За імі патануўшая ў цемры далячынь расійскіх прастораў. Што там? Што ў той далечыні, дзе мяжуе з цемрай замкнутае кальцо пецярбургскіх агнёў?

Расія! Вялікая расійская зямля. А на ёй, як лішай, як кароста, струп'е саламяных расійскіх вёсак. Расія!.. Спаясаная вузкімі паскамі грузкіх, бясконцых вясковых дарог, згубленая ў прасторах лясных, балотных, стэпавых, блукае яна ўпоцемках! Расія!.. Сярод неабдымна вялікіх багаццяў зямлі, на ўсіх скрыжаваннях дарог, дзе пахіленыя ў моху крыжы, яна, апранутая ў пачоснае, абвешаная жабрацкімі торбамі, палахлівая і згорбленая стаіць з працягнутай рукой і, азіраючыся па баках, хаваючы ў схіленых да зямлі вачах і халопскую жывёльную пакорлівасць, і непамерна вялікую, узгадаваную ў крыві, злосць і нянавісць, нізка згінаецца, б'ючы паклоны багатаму купцу і расійскаму дваранiну, ураднiку і станавому, земскаму начальніку і прыставу, і багатаму мужыку-міраеду.

Ты и могучая, ты и бессильная
Матушка Русь...

А ўнізе бесперастанку, шоргаючы нагамі па каменнаму тратуару, усё гэтак жа не спяшаючыся, сноўдаліся шэрыя цені. І Кулікоўскаму захацелася зноўку адчыніць акно і адсюль, з пятага паверха, крыкнуць уніз да людзей нешта крыўднае і абразлівае. «Нішто нашае не патрэбна ім. Нікому!..» Знерваваны, ён крута рвануўся і пайшоў да стала. Яшчэ стоячы, узяў ручку, але ў момант адкінуў яе і, таропка схапіўшы паліто, пайшоў з пакоя. Спяшаючыся, замкнуў за сабою дзверы, як бы ўцякаў ад каго. Калі ключ дзынкнуў у замку, гэта абрадавала. Было адчуванне, што ўцёк ад нечага страшнага. Доўга стаяў каля дзвярэй, слухаючы цішыню, якая засталася за ім у пакоі. Пасля паціху, спатыкаючыся, пайшоў уніз.

На тратуары густы струмень пешаходаў захапіў яго

і павёў за сабою. Маўклівы, разгублены, ён паціху ішоў за натоўпам. Блукаў там доўга, а пасля раптам завярнуўся і пайшоў дадому. Як і раней, ідучы на вуліцу, ён замкнуў за сабою дзверы і, не скідаючы паліта — было пасля вуліцы халаднавата,— сеў да стала. Узяў са стала ручку і на кавалку паперы, які ляжаў на стале, пачаў пісаць.

«Яшчэ ўчора я на многае спадзяваўся, я ва многае верыў. І хоць дарога была згублена, я ішоў вобмацкам, спадзеючыся знайсці яе і сустрэць на ёй сваіх, каму дораг святочны дзень рэвалюцыі. Але замест дарогі — сцяна. Глухая сцяна. Куды ісці цяпер? Назад? Шукаць іншых дарог? Ці, можа, спыніцца і ладзіць жыццё каля сцяны, спадзеючыся, што некалі выгляне сонца і абагрэе? Гэтага я не хачу, а іншых дарог я не бачу, няма іх.

Я хацеў, каб скончыліся буднія дні на зямлі. Я хацеў, каб заўтрашні дзень быў запісаны ў каляндар чырвонай, святочнай фарбай. Але я гартаю лісткі календара і бачу толькі чорныя фарбы. Але перада мною глухая сцяна і сытая ненавісная морда ротмістра.

За сцяной здань далёкай, галоднай, змучанай голадам Расіі. Сцяны мы ніколі не разбурым, бо ніколі мы не зможам сабраць патрэбных сіл, бо мала нас і мы разбрыліся адзінкамі кожны ў сваё.

Баязліўцы! Гэта мы, мы, інтэлігенты, а ніхто іншы, вінаватыя ў тым, што кожны дзень, кожная хвіліна рускага жыцця, цяжкага і жудаснага, кладзецца на душу каменнай глыбай. Глыба гэтая душыць нас. Прыціснутыя ёю да самай зямлі, мы страцілі сваю волю і смеласць. Усё для нас стала абыякавым, і мы маўчым, хоць і бачым, што ўсё вакол нас, самае лепшае, што жыло ў народзе, забруджана, затоптана ў гразь наваксаваным ботам ротмістра. Мы страцілі нават сілу пратэставаць.

Усё і назаўсёды страчана намі. Вось чаму мэты высокія сталі для нас, для нашага пакалення зусім недасяжнымі. Вось чаму ўстала перад намі, аддзяліўшы нас ад Расіі, глухая сцяна. Услухайцеся! Калі вы не зусім яшчэ сталі глухімі, вы пачуеце, як змучаная, скрываўленая, галодная Расія б'ецца ў перадсмяротных сутаргах і праклінае нас. Я не хачу слухаць гэтых праклёнаў, і таму я іду ад вас, баязліўцы! Лепш так, чым жыць каля сцяны. Я буду рабіць тое, на што маю яшчэ сілы. Я буду пратэставаць сваёй смерцю...»

Падняўшыся з-за стала, Кулікоўскі скінуў паліто, а тады склаў напісанае невялікім пакетам, сунуў сабе ў

кішэнь і пайшоў да акна. З разгону адчыніў акно на ўсю шырыню, спяшаючыся, узлез на падаконнік і, каб не думаць, каб не даць часу развагам, кінуўся ўніз.

Падаў Кулікоўскі з разгону і плашмя, грудзьмі, падкурчыўшы пад галаву рукі, лёг на бруку непадалёк ад тратуара. Залюдненая, гуляшчая ў такую пару, вуліца палахліва шарахнулася ўбок, ускрыкнула і з гоманам стоўпілася каля акрываўленага трупа. Штурхаючы друг дружку, каб зірнуць на труп, упарта лезлі людзі ў натоўп. Лезлі і злосна крычалі адзін на другога. А збоку падыходзілі яшчэ і, дагадваючыся, у чым справа, станавіліся на цыпачкі, каб зазірнуць у сярэдзіну натоўпу.

З перакрыжавання вуліц, змеціўшы сумятлівы натоўп, пайшоў паліцэйскі. Ён ішоў, падняўшы ўгору рукі, і натоўп пакорліва расступіўся да самай сярэдзіны, адразу зноўку замкнуўшы за паліцэйскім круг. Паліцэйскі нагнуўся над трупам, крануў яго, ці жывы, і пайшоў да тэлефона. А праз сем хвілін яшчэ труп падабрала бальнічная карэта. Тады натоўп, крыху ўсхваляваны, разышоўся, шпацыруючы па тратуарах, а вуліца зноўку жыла, як і да гэтага, шоргатам ног, аганькамі, сірэнамі і шыпячым свістам аўтамабільных шын, крыклівымі галасамі рамізнікаў і цокатам конскіх капытоў. І цераз хвіліну ўжо нельга было дазнацца, што на запыленым, схаваным у паўзмроку бруку ляжаў яшчэ зусім нядаўна труп чалавека.

## ПАДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Раніцой назаўтра Будніка выклікалі з камеры да начальніка турмы, а той абвясціў, што ён вызваляецца і павінен неадкладна ж у працягу дваццаці чатырох гадзін выехаць у адну з губерань паўночна-заходняга краю для жыхарства ў прыпісным месцы.

Выйшаўшы з турмы, Буднік у першым жа кіёску купіў паперы і, напісаўшы на ёй некалькі слоў, заспяшаў у горад. У горадзе ён не пайшоў адразу да сябе на кватэру, а накіраваўся на пляц, што каля Ісакіеўскага сабора, дзе сустрэўся з хлапчуком-газетчыкам. Аддаўшы хлапчуку запіску, ён зноў-такі не пайшоў на сваю кватэру, а накіраваўся ў публічную бібліятэку, спадзеючыся спаткаць там патрэбнага яму чалавека.

У бібліятэцы Будніку напаткаць таго, каго ён шукаў, не давялося. Але затое адразу ж, прыехаўшы туды, ён дазнаўся пра смерць Кулікоўскага.

Калі, задыхаўшыся ад хадзьбы, ён за хвіліну падняўся на пяты паверх і стаў перад дзвярыма пакоя, у якім жыў Куліхоўскі, пакой мылі. Сагнуўшыся над вядром з вадою, выкручвала анучу жанчына — круглатварая, шыракаплечая, стоячы на падлозе шырокімі ступнямі босых ног. Яна здзіўлена зірнула на Будніка і разагнулася. Трымаючы ў руках анучу, якой мерылася збіраць з падлогі ваду, яна сказала:

— Вы, пэўне, да пана студэнта прыйшлі? Вы, пэўне, нічога яшчэ не ведаеце? Пан студэнт наш гэтай ноччу выкінуўся з акна і разбіўся. Паднялі ў карэту ўжо зусім нежывога... Божа мой,— сказала яна ўсхвалявана,— ён жа такі худы быў і кволы, што, здаецца, каб на зямлі спатыкнуўся ды ўпаў, дык і то разбіўся б, не тое што з такой вышыні...

Буднік маўчаў, разгублена аглядаючы пусты пакой, а жанчына падалася з пакоя да яго і гаварыла яшчэ, прыпамінаючы вясёлы характар нябожчыка.

— Жыў, вясёлы такі,— казала яна,— добры, як спаткаецца, заўжды загаворыць... і раптам такое... божа мой...

— А запіскі ён ніякай не пакінуў?

— Не. Не ведаю як пры сабе, ці было што, а тут нічога такога не знайшлі... А вы хто ж яму будзеце? Дружылі?

— Так. Я часам заходзіў да яго. Ну, дзякую, бывайце...

Пачынала кружыцца галава, і, адарваўшы погляд ад пакоя, ён павольна пайшоў уніз, механічна перастаўляючы ногі з аднае сходні на другую. Тады адчуў, як авалодала ўсім целам кволасць і ногі ў каленях пачалі дрыжаць. Узяўся за парэнчу лесвіцы і спыніўся, змеціўшы, што жанчына стаіць за дзвярыма, назіраючы за ім.

— А вы нежывога яго бачылі? Можа, ён жывы яшчэ?

— Бачыла. Не, ён быў ужо мёртвы. Дзе вы бачылі, з такой вышыні кінуўся, ды каб жывы...

Буднік пайшоў, паціху ступаючы са сходні на сходню, трымаючыся рукой за парэнчу. Як выйшаў на вуліцу, адчуў сябе лепш. Думаў пра свой ад'езд з Пецярбурга. Заняты гэтымі думамі, ніяк не мог згадзіцца, што гэтая смерць ёсць факт, што адбыўся ўжо. У залюдненай, гаманлівай і шумнай вуліцы, што бесперапынна жыла рухам трамваяў, бязлікіх рамізнікаў і пешаходаў, сярод усяго гэтага гоману цяжка было паверыць, што

чалавек, які яшчэ ўчора блукаў па гэтай вуліцы, сёння не жыве, больш ніколі не будзе сярод жывых.

— Дурань, чорт яго...— прамармытаў ён у злосці, зусім ужо авалодаўшы сабой, і, каб хутчэй пазбавіцца ад сумных дум, каб разгубіць тугу, паехаў парадкаваць свае справы з ад'ездам. З гэтымі справамі ён да самага полудня прабыў у паліцэйскай управе. Адтуль на колькі хвілін заскочыў да сябе на кватэру, агледзеўся і, нічога яшчэ не збіраючы, паехаў да сваёй даўняй і блізкай таварышкі, якая жыла на Галадаі. Ён быў упэўнен, што таварышка атрымала ягоную запіску і цяпер чакае яго ў сябе на кватэры. Але калі прыехаў на Галадай, знаёмай дома не было. Не ведаючы, дзе яна і ці ведае яна пра яго лёс, Буднік цэлую гадзіну праблукаў па-над берагам рэчкі Смаленскай.

Вясна ў гэтым годзе рана ўвайшла ў свае правы і напоўніла рэчку мутнай і халоднай вадой ледзь не да самых берагоў. Шырока ішла веснавая вада ракой і пад ветрам крылася частымі зморшчынкамі, якія, абганяючы друг дружку, бесперапынна ішлі за ветрам наўскасяк цераз рэчку да другога берага. Нізка над горадам ішлі мутныя хмары, і ад гэтага вада ў рэчцы была падобна колерам да расплаўленага волава.

Буднік павольна ішоў за ветрам паўз бераг рэчкі. Вецер абганяў яго, забягаў наперад і кружыў па-над рэчкай, падымаючы з набярэжнай пыл і смецце... Ад усяго: і ад поўнае рэчкі, і ад неспакойнага ветру лёгка думалася і пра смерць Куліκоўскага, і пра заўтрашні вымушаны ад'езд у далёкі, згублены ў балацяных прасторах павет, дзе ён будзе цераз некалькі дзён. Як скрозь сон, праступалі даўно пакінутыя па-за памяццю некалі ў дзяцінстве знаёмыя мясціны. Нізкія, пракураныя дымам смольнай лучыны хаты пад саламянымі стрэхамі, барадатыя твары сялян, адзінокія дрэвы свойскіх ігруш і яблынь і дзічак у дварах каля хат і на межах у полі, а вакол усяго гэтага за полем замкнёны круг сінявых лясоў. І больш нічога не мог прыпомніць Буднік з тых месц. Цяпер, як ні разу яшчэ за ўвесь гэты дзень, ён адчуў, што горад, у якім вырас і пражыў столькі год, робіцца недасяжна далёкім. Пройдзе колькі дзён яшчэ, і ў адзін з вясновых вечароў ён будзе стаяць дзесьці там, за вясковай вуліцай, у полі. Вакол будзе непарушная цішыня і густая цягучая цемра. А гэты горад будзе дзесьці на адлегласці тысячы з лішнім вёрст. У полі не будзе аніводнага гуку, акрамя ветравых шолахаў, а

дзесьці, за тысячай з лішнім вёрст, усё гэтак жа будзе жыць гаманлівы і шумны горад. Праўда, будзе нябачная ніць, якая праз тысячавёрставыя прасторы звяжа яго з гэтым велізарным горадам, і па ёй, па гэтай ніці, будзе перадавацца яму, як б'ецца пульс далёкага горада. Але ці не разарвецца ў адну з хвілін гэтая ніць? І што тады? Трэба быць падрыхтаваным і да гэтага, і да ўсяго, што можа здарыцца, што можа чакаць яго ў тых далёкіх мясцінах.

Буднік дайшоў да суседняй вуліцы, якая выходзіла канцом да рэчкі, і пайшоў назад. Ішоў хутчэй. Яшчэ раз пайшоў на кватэру да сваёй знаёмай, але яе не было дома і на гэты раз. Тады ён напісаў запіску, у якой прасіў таварышку прыехаць да яго, а сам паехаў у горад.

Трэба было спяшацца, бо трэ было яшчэ абавязкова сустрэцца з таварышам па партыйнай бальшавіцкай арганізацыі, да якой належаў і Буднік.

Гэты таварыш меў непасрэдныя сувязі з партыйным камітэтам, і Будніку неабходна было з ім умовіцца адносна сваіх зносін з арганізацыяй. У гэтага таварыша Буднік прабыў каля гадзіны. Ён перадаў таварышу неабходныя сувязі з студэнцкім гуртком і ўмовіўся пра ягонае спатканне з Земянковай. Тут жа было ўмоўлена паміж імі, што пакуль не будуць наладжаны яго сувязі з мясцовай бальшавіцкай арганізацыяй, ён будзе мець зносіны з гэтым таварышам цераз студэнтку Земянкову.

Выйшаў Буднік ад таварыша, як змерклася, і на кватэры ў сябе адразу ж лёг адпачыць. А праз паўгадзіны прыйшла да яго Земянкова. Маладая, моцная, рухавая, яна ўнесла ў пакой вулічную веснавую прахладу і гоман і адразу ж разбудзіла Будніка. Той палахліва падняўся, сеў на канапе і, павітаўшыся з Земянковай, доўга праціраў заспаныя вочы. А Земянкова стаяла перад ім, панезвычайнаму радасная, і з рогатам кудлычыла ягоныя валасы, тармашыла галаву.

— Ну-у! Паўлік! Нібы ніколі не спаў ты... ды зірні ж на мяне, ну, вось так, вось так!..

— Я цябе цэлую гадзіну чакаў каля тваёй кватэры,— сказаў Буднік.— Увесь час блукаў па набярэжнай. Дзе ты прападала?

— Я цэлы дзень не была дома. І абедзве твае запіскі атрымала толькі што. Уляцела ў пакой, прачытала і хутчэй да цябе...— Раптам і голас яе змяніўся і твар

стаў сумны і сур'ёзны.— Але як жа гэта так? Паўлік? І галоўнае, так нечакана, так раптоўна! І толькі ж за гэтае выступленне, так?

— Так. Больш нічога ў іх не было, толькі гэта. Хо-го! Каб яны ведалі большае, тады я паехаў бы не ў паўночна-заходні край, а трошачку далей.

Земянкова села ў крэсле супроць яго і моўчкі пазірала яму ў твар. Яна разумела, што ўсё магло скончыцца значна горш, і радавалася, што горшага не здарылася. У такіх жа ўмовах былі яшчэ вялікія магчымасці для работы, і яна сказала:

— Добра, што скончылася толькі так. Я вось цяпер разумею, што магло быць...

Ён варухнуў плячыма, нібы штосьці скідваючы з сябе.

— А я аніяк не магу звыкнуцца з думкай, што заўтра ж трэба выехаць адсюль, і выехаць назаўжды. Так... Прыдумалі яны нядрэнна... І ўсё-ткі не зусім хітра прыдумалі, бо яшчэ зусім невядома, дзе я буду для іх больш небяспечны: тут ці там. Часу вось нам, Лідачка, каб быць разам, засталося зусім мала. Усяго некалькі гадзін. А яшчэ ж трэба спаткацца з адным таварышам, з якім я пазнаёмлю цябе. Ты прабач, што я, не пытаючы цябе, умовіўся пра спатканне ў кансерваторыі. Вінавата маё захапленне «Музыкальнай драмай». Перад ад'ездам мне захацелася пабыць там. Вось і ўсё. Я спаткаю таварыша каля касы і адразу ж пазнаёмлю вас. Дзесяці хвілін вам хопіць для таго, каб умовіцца пра ўсё неабходнае. Пасля разам, усе трое, мы будзем глядзець спектакль. Гэтага хопіць, каб таварыш запомніў цябе навек... Давай адразу і пойдзем, бо часу засталося небагата. А пасля, Лідачка, калі ты не будзеш пярэчыць, прыедзем да мяне і апошнія гадзіны прабудзем разам. Мы ж так рэдка былі разам, і... хто ведае, калі зноўку спаткаемся?..

— Не трэба пра гэта, пасля... Я не хачу пра гэта думаць. І ў нас жа яшчэ,— яна зірнула на гадзіннік,— адзінаццаць з лішнім гадзін нашых.— Узяла ягоную руку.— Мілы ты мой.— І пагладзіла сваёй шырокую ягоную далонь.— Хадзем.— Першай паднялася з канапы, пацягнула за рукі за сабой і яго, а потым, пакуль ён чысціў гамашы і апранаў паліто, мітусілася па пакоі, запаўняючы яго сваёй рухавасцю і радаснай гамонкай.

Яшчэ цераз тры з паловай гадзіны яны вярнуліся на кватэру да Будніка і ўсю ноч прабылі разам, а на досвітку Буднік пачаў збіраць свае рэчы, каб падрыхтавацца да ад'езду.

Урэшце ўсё было складзена і, напакаваны да краёў, замкнёны чамадан стаяў каля іхніх ног на самай сярэдзіне пакоя; самі ж яны нерухома стаялі друг супроць дружкі, шукаючы слоў, каб зноўку пачаць гутарку, абарваную з тым, як дзынкнуў у чамаданным замку ў апошні раз ключ.

За сценамі дома ўнізе глуха шумела рака, ды раз-пораз, следам за шырокімі, цераз усё неба, успышкамі бліскавіц, нараджаліся і знікалі, паступова змаўкаючы дзесьці за горадам, ледзь-ледзь прыглушаныя і па-веснавому ўрачыстыя грымоты першай у гэтым годзе навальніцы.

Нараджаецца дзень, і ўжо можна бачыць, як ледзь прыкметна палымнее высокае неба, мяняючы фарбы. Хутка з вільготнымі ветрамі прыйдзе з-за камяніц першы сонечны промень, і тады, скінуўшы з сябе апошні след начы, глыбокая і неспакойная рака разгуляецца вясёлымі, іскрыстымі ўсплёскамі.

— Ліда! — гэтае слова зрываецца з ягоных вуснаў нечакана. Ён дзівіцца свайму голасу, услухоўваецца, як замірае ў яго на вуснах яе імя, і тады зноў упаўголаса кліча:

— Лідачка!..

— Што, мілы? — Змораная, яна ўздымае галаву і глядзіць яму ў твар шырока раскрытымі, круглымі, цёмна-шэрымі вачыма.— Што?

— Я ўсё яшчэ не веру,— кажа ён,— што мы заўтра не спаткаемся. І зусім не магу ўявіць, як жа будзе цяпер? Калі ж мы зноўку сустрэнемся? Гэта ж так далёка. А мне ж назаўжды забаронена прыязджаць у Пецярбург... І так далёка...

— Вельмі далёка.— Яна бярэ ягоную руку і, ведучы яго за сабой, ідзе да канапы.— Хадзі, пасядзім яшчэ разам хоць адну хвілінку...

Як селі, Ліда прыхінулася да яго грудзей.

— Ты даруй мне,— кажа яна праз нейкі час,— што я вось такая нядобрая. Я вельмі добра разумею ўсё, што зрабілі з табою. Мне дужа цяжка. Я надзвычай глыбока ўсё гэта адчуваю і ў той жа час вось і не ўмею, зусім не ўмею сказаць табе пра гэта... Баюся, што гэта цябе пакрыўдзіць... Не? Не пакрыўдзіць? Ты мяне разумееш?.. Любы ты мой, харошы... Мне вось потым, як ты паедзеш, самой цяжка будзе. Тады я нідзе сабе месца не знайду.

— Але ж мы яшчэ спаткаемся, і вельмі хутка.

— Так, так, мы спаткаемся. Як толькі будзе магчымасць, я збяруся і проста да цябе ў вёску. А як скончу, тады назаўжды прыеду і будзем разам працаваць там. А як мне добра, калі я думаю аб гэтым.

— Так, так, тады мы будзем ужо заўжды разам,— кажа ён, гладзячы яе валасы.— Заўжды...

Раптам, падняўшыся, ён хапае яе сваімі рукамі, уздымае з канапы і, трымаючы рукамі за плечы, цалуе.

— А цяпер хадзем.

Захінаючыся ў паліто, Ліда першай выйшла на вуліцу і за дзвярыма на ганку чакала яго. Была пара, калі яшчэ не бачачы сонца адчуваеш ягонае святло ўгары, адчуваеш, як цэлай грамадай цеплыні ападае яно на горад, і чакаеш першага бляску ягоных праменяў на высокіх жалезных дахах.

Збоку глуха шумела рака і поўніла наваколле сваім шумам і маторавым гулам. Над берагамі ракі падняўся белы туман і, сцелючыся нізка, над самай паверхняй вады, плыў па рацэ. У тумане плыў па рацэ катэр. Туман густы, і нельга бачыць бартоў катэра і паверхні вады. Відаць толькі паласаты рознакаляровы флаг на носе катэра і матрос, які стаіць на катэры, заклаўшы ў кішэні рукі. Нерухомы, ён плыве над туманам, як казачны волат, высечаны з чорнага мармуру. І здаецца, што на яго пазіраюць вачыма з-пад нахмураных ілбоў мармуровыя, барадатыя асілкі, якія на ўзнятых угору руках трымаюць над сабою грамаду шматпавярховага дома.

Сонца ўстае над зямлёй, разрывае густую тумановую заслону і першымі праменямі свеціць проста ў твар. Нараджаецца жыццё ў вуліцах горада, на набярэжнай, дзе прыстань, і на рацэ. Спуджаны туман згортваецца клубкамі і, радзеючы, паволі падымаецца ўгору, агаляючы паверхню ракі. Тады яны бачаць, як з'яўляецца над вадой борт катэра, а загадкавы рухомы матрос знікае ў тумане.

Па вуліцы прайшлі насустрач ім салдаты з вінтоўкамі, пэўне, вартавалі ноччу нейкія склады на прыстані. Следам, абмінаючы салдат, праехала чорная арыштная карэта.

Па самай сярэдзіне рэчкі плыве за вадою човен. У чаўне, на дне яго, стаіць на каленках мужчына ў паласатай матроскай кашулі. Ён раз-пораз згінаецца над вадой і поўнымі далонямі чэрпае яе з ракі, а тады ў далоні акунае свой твар. Вада цячэ па ягоным твары, і мужчына фыркае, пырскаючы вакол сябе. На другім

чаўне, што плыве следам за першым, гэтак жа на каленках стаіць барадаты мужчына і шырока хрысціцца на ўсход.

Вуліцай едуць фурманкі, высока нагружаныя цюкамі. Ад прыстані пахне спаленым каменным вугалем, рыбай, пракіслай капустай і нафтай. Адзін за другім ідуць з баржы на прыстань грузчыкі, несучы мяшкі ■ мукою. Яны асцярожна скідаюць мяшкі з плеч і ў парадку складаюць іх ярусам на засланы на прыстані брызент. На грузчыках шызая ад мукі і рваная вопратка і шызыя лапці з аборак. Грузчыкі, як адзін, барадатыя, і ва ўсіх іх шызыя бароды і гэткія ж шызыя валасы, што тырчаць над патыліцамі і вушамі з-пад казырковых былых салдацкіх шапак. Толькі па росту яны розныя. Паклаўшы мяшкі, яны, не абтрасаючы з вопраткі мучнога пылу, зноў ідуць на баржу.

Да прыстані па рацэ ідзе пасажырскі параход. Ён густа дыміць, папераджальна гудзе і грыміць лопасцямі вінта ў вадзе. Змеціўшы параход, сходзяцца ў кучу на прыстані мужчыны і жанчыны з чамаданамі, сундукамі, карзінамі і вузламі.

Ідучы побач з Лідай, Буднік моўчкі ўсміхаўся, дзівячыся, як па-незвычайнаму хараша ляжыць на яе ілбе ў сонцавай пазалоце кудзярок валасоў. Валасы выбіліся з-пад капелюша і, рассыпаўшыся залачонымі ніцямі, ляглі цераз увесь яе высокі лоб, сплёўшыся па-над брывом залачонымі кольцамі.

— Белабрысая ты мая! Ты ж не ведаеш, якая ты прыгожая.

Ён усміхнуўся і на хаду ўзяў яе за руку. Сустрэўся з яе ўсмешкай.

— Вось бачыш! А ты гэтага і не заўважаў раней,— і зарагатала, хітравата ўсміхаючыся насустрач яму.

З завулка выехаў, наганяючы іх, рамізнік.

— Я стамілася,— сказала Ліда.— Давай паедзем.

А калі селі і рамізнік пагнаў каня, яны не прыкмецілі, дзе адышла рака ўправа за камяніцы. Ехалі вуліцай яшчэ нешматлюднай, бо было яшчэ дужа рана, і дзівіліся на санлівыя, завешаныя фіранкамі, падобныя адно на адно, вокны кватэр. Зрэдку сустракаўся ў вуліцы дворнік. Пасля дажджу дворнікі ляніва пахаджвалі па вуліцы, падбіраючы мятлою кавалкі мокрых, абарваных тэатральных афіш, кінутых некім газет і папяросных недакуркаў. Ехалі доўга і дзівіліся на шырокую, асветленую сонцам, спіну санлівага рамізніка і слухалі, як раз-

мерна і па-лянiваму спакойна і ад гэтага цяжка стукацяць па бруку конскія капыты.

— Ну, вось і прыехалі.

Рамізнік павярнуўся тварам да іх і спыніў каня, туга нацягнуўшы лейцы.

У вакзальнай зале душна. З кухні з-за буфета даходзіць у залу пах зваранай кіслай капусты і смажанага мяса. Па зале ходзяць, бразгаючы шпорамі, афіцэры з бліскучымі гузікамі на мундзірах, з бліскучымі шнуркамі і звёздачкамі на эпалетах. Ходзяць яны купкай і носяць за сабою па зале папяросны дым.

Ліда запрапанавала паснедаць, а як селі за столік, угледзелася ўбок, да бліжэйшага століка, за якім адзінцом сядзеў малады яшчэ мужчына.

— Хто гэта?

— Прафесар Галынскі, па кафедры хіміі... даволі вядомы ўжо.

Тады Буднік пачаў разглядаць прафесара. У маладога прафесара чысты белы твар з тых, што ў меру даўгія і вузкія. У профіль асабліва вылучаецца высокі пакацісты лоб, і там, дзе навісае лоб над вачыма, лахматыя, па-незвычайнаму вялікія бровы. Пад брывамі даўгаваты, з гарбінкай на самай сярэдзіне, нос, тонкія губы і пад імі выгнуты наперад круглы, чыста паголены падбародак. Калі прафесар, заўважыўшы на сабе ўважлівы погляд, паклаў відэлец і нож і хустачкай выцер рот ды зірнуў насустрач студэнту, той змог убачыць светлыя, шырока раскрытыя вочы. Пазіралі яны на студэнта дапытліва і крыху здзіўлена, бо студэнт усё гэтак жа ўважліва пазіраў цяпер проста ў твар яму, і, каб не збянтэжыцца, каб па-абыякаваму аднесціся да гэтага праз меру ўважлівага позірку, прафесар узяў сарвэтку і доўга ўважліва выціраў ёю пальцы рук, а пасля расплаціўся з афіцыянтам, падняўся і пайшоў з вакзала на перон.

На пероне людзей было небагата. І тут, як і ў зале, блукалі на пероне афіцэры. Каля сцяны станцыйнага будынка, убаку, стаяла, побач з сундукамі, чалавек дванаццаць салдат з вінтоўкамі. Апранутыя па форме, туга падпяразаныя папружкамі, яны стаялі вакол сундукоў паўкругам, наўмысля, каб не сустракацца поглядамі з афіцэрамі і не аддаваць ім чэсці. Непадалёк ад іх на сундуках сядзелі два матросы. Яны курылі, рагаталі, перасыпаючы частым рогатам сваю гутарку, і як праходзілі каля іх пехацінскія афіцэры, цыркалі скрозь зубы на

перон перад сабою слінай. Яны не падымаліся з сундукоў, не аддавалі афіцэрам чэсці, і афіцэры, праходзячы каля іх, злосна моршчыліся, стараліся не заўважаць іх.

Непадалёк ад матросаў, сагнуўшыся над чамаданамі, стаіць збянтэжаны насільшчык. Перад ім, трымаючы яго за гузік, стаіць неспакойны, мітуслівы, тоўсценькі чалавек у раскошным дарагім паліто і ў шырокім капелюшы і нешта падоўгу тлумачыць насільшчыку. Насільшчык, відаць, даўно разумее, чаго хоча ад яго гэты нізкі тоўсценькі чалавек, і таму гэтак старанна ківае згодна галавою ды ў каторы раз паўтарае адно і тое ж:

— Я, пан, не з такіх, я чалавек казённы, на тое і бляха ў мяне вісіць за нумарам.

Буднік таўсцяка ў твар не бачыць, але адгадвае ў ягонай постаці штосьці знаёмае. Яно, гэтае знаёмае, і ў манерах тлумачыць, і ў высока прыўзнятых квадратовых шырокіх плячах. Зацікавіўшыся таўсцяком, Буднік пайшоў па пероне, каб зірнуць яму ў твар.

— Ну, вядома ж, гэта ён,— сказаў Буднік, звяртаючыся да Ліды.— А я ніяк не мог дагадацца, дзе я яго бачыў раней.

— Гэта прафесар Пілацееў? Так?

— Ён.

У гэты час да Пілацеева падышоў Галынскі. І адразу ж Пілацееў змяніўся. Ён стаў больш важны і больш спакойны. Ёсць людзі, якія штучна выгадоўваюць у сабе другую, паказную натуру. Ад таго, калі бачыш такога на людзях у асяроддзі ніжэйшых за яго чынамі ці па стану ў грамадстве, складаецца ўражанне аб ім як аб ганарлівым чалавеку, чалавеку цвёрдай волі. Але варта апынуцца такому дзесьці ў нязвыклым месцы, у баку ад свайго штодзённага,— у асяроддзі людзей, якія непадуладны яму, і тады ўраз, як часовая вопратка, спадае з яго ўся важнасць і ганарлівасць, а застаецца зусім-зусім звычайны, дробненькі мітуслівы чалавечак. Да гэтай катэгорыі людзей належаў і Пілацееў. Апынуўшыся на вакзале, ён разгубіўся. Разгубленасць прыйшла з тым, як ён адчуў сваю залежнасць тут ад шматлікіх, непадуладных яму сіл, у прыватнасці і ад незнаёмага рыжага насільшчыка. Ён баяўся, што насільшчык возьме і сыдзе кудысьці з чамаданамі, пакінуўшы яго з пустымі рукамі на пероне, сярод незнаёмых людзей. З'явіўся ў яго раптам і страх перад далёкай дарогай, якую давядзецца праехаць у поездзе. І ад усяго гэтага занепакоіўся Піла-

цееў, замітусіўся і нават рукой узяў за медны бліскучы гузік рыжага насільшчыка. Але варта было прыйсці Галынскаму, як разгубленасць і мітуслівасць зніклі. Перад Буднікам зноў стаяў ганарлівы, важны прафесар і дэпутат Думы. Вось ён скупа ўхмыляецца, гаворачы, і больш ветліва, але ўсё ж зверху неяк усміхаецца да Галынскага, маўляў, вы яшчэ, баценька, малады, зялёны. А насільшчыку, як падышоў поезд, ён толькі паказаў на поезд сваім кійком, нават слова да яго больш не сказаў.

— Ведаеш, Лідуся,— сказаў Буднік, назіраючы за Пілацеевым,— мне хочацца падысці да яго і сказаць яму штосьці абразлівае.

Ліда нічога не сказала на гэта, узяла толькі ягоную руку.

— Паўлік, як жа так?

— Мы хутка спаткаемся. Улетку ты прыедзеш да мяне.

— Я прыеду, абавязкова прыеду,— гаворыць яна неспакойным прыцішаным голасам.— Я абавязкова прыеду.

Натоўп рушыць да вагонаў, штурхае іх локцямі, чамаданамі, карзінамі і, азіраючыся, кідае ў іхні бок зласлівыя словы прабачэння.

— Так,— кажа Буднік,— значыць, еду, пара ў вагон.

Адзін момант яны моўчкі стаялі друг супроць дружкі. Потым Буднік, як і ў пакоі, узяў Ліду рукамі за плечы, прыхінуў да сябе і пацалаваў яе ў вусны.

— Ну, вось і развіталіся,— сказаў ён, радасна ўсміхаючыся.

— Любы ты мой, харошы... Ну, ідзі... А я прыеду...

Пасля яна стаяла каля вагона супроць акна, за якім мітусіліся людзі. Калі яны ўпарадкаваліся і адышлі, да акна прыліп белы знаёмы твар і шырокая далонь рукі. Яшчэ момант, і рука, як крануўся з месца поезд, захадзіла па шкле, выдаючы Будніказу ўсхваляванасць, а Ліда пайшла побач з вагонам, нясмела махаючы рукой, з разгубленай усмешкай на твары. Ішла яна гэтак, аж пакуль абмінуў яе, бразгаючы жалезам, апошні вагон, а тады стала на пероне і стаяла так, пазіраючы ўслед поезду. Цяпер можна было разгледзець яе твар, зусім яшчэ малады, і на ім, над роўным, простым, з ледзьледзь прыкметнай гарбінкай, носам, крыллямі цёмнарусыя бровы і паміж імі складку ледзь прыкметных

зморшчын, а вышэй, над высокім ілбом, залацістыя кудры бялявых валасоў.

З перона яна пайшла тады, калі поезд зусім знік за камяніцамі горада.

•

## ПАДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Па пясчанай раз'езджанай дарозе брыдуць дзве фурманкі. Худыя нізкарослыя коні, змучаныя даўгой дарогай, ідуць, схіліўшы дадолу галовы, і, падымаючы капытамі пыл, ляніва, неахвотна адмахваюцца хвастамі ад дакучлівых мух. Коні збоку выглядаюць за дужа маленькіх яшчэ і таму, што на калёсы над драбінкамі пастаўлены белыя палатняныя будкі. Крокаў за пятнаццаць наперадзе ад фурманак ідзе двое мужчын. У мужчын твары абветраныя, загарэлыя, запыленыя. Шэры пыл густым пластам і на тварах, і на вопратцы. Адзін з іх высокі, шыракаплечы, гадоў трыццаці, з невялікай яшчэ, выцвіўшай на сонцы, русай барадой. Паверх белай пачоснай кашулі ён падпяразаны шырокай салдацкай папружкай. На нагах у яго, як і ў другога, лапці. Ступае ён шырока, размашыста, але нячаста. Ён стаміўся. На твары, на ілбе ў яго кроплямі пот, які змяшаўся з пылам, але ён не звяртае на гэта ўвагі і не сцірае поту, як гэта робіць другі, час ад часу падносячы да твару сваю далонь. Гэны другі старэйшы за высокага і меншы ростам. У яго густая чорная барада. Даўгую белую кашулю ён увабраў у штаны і па штанах туга падперазаўся саматканым паяском.

Ззаду, побач з другой фурманкай, ідзе высокая худая жанчына. Жанчына ўвесь час паказвае рукой у наваколле ды нешта апавядае хлапчуку, які сядзіць на возе, высунуўшыся з будкі. Хлапчуку год адзінаццаць. Ён сядзіць у будцы на рэчах, на мяшках і ўвесь час трымаецца рукамі за нагу. Нага апухла ад нечага, відаць, дужа баліць, і ён увесь час згінаецца над ёю ды хукае на яе. Час ад часу жанчына, нагнаўшы пярэдні воз, заглядае ў будку. Там сядзяць двое дзяцей: дзяўчынка год дзевяці і гадоў дзесяці хлапчук. Дзеці яшчэ больш, чым дарослыя, пазагаралі і ад загару, і ад пылу зусім чорныя. Зірнуўшы на дзяцей, кінуўшы ім пару якіх слоў, жанчына зноў адыходзіць убок і ідзе побач з задняй фурманкай.

Калі фурманкі праехалі мост, што на Хвошчаўцы, так завецца тутэйшая рэчка, уз'ехалі на ўзгорак, тады адразу

перад вачыма ў мужчын паўсталі цэлаю паскай саламяныя стрэхі гумен, хлявоў і хат. Мужчыны ажывіліся, яны з цікавасцю ўзіраюцца ў вёску і часта перакідваюцца словамі, паказваючы ў яе бок рукамі, і па гаворцы і па тым, з якой цікавасцю мужчыны разглядаюць вёску, можна дагадацца, што месцы гэныя ім знаёмыя, і яшчэ можна зразумець, што ў гэных месцах яны даўно не былі. Пра гэта сведчыць і тое, як яны раптам спыніліся, пачакалі жанчыну і загаварылі з ёй, паказваючы на высокі гантовы дах, што высіўся над саламянымі. Гаварыў высокі мужчына. Ён, як параўняўся са сваёй фурманкай, дык зазірнуў у будку і сказаў да дзяўчынкі:

— Ну, дачушка, прыехалі дадому. Вунь ужо хаты відаць.

Тады дзеці вылезлі з будкі, сталі на возе на каленках і нерухома стаялі так, углядаючыся ў вёску. Вылез на перадок і хлапчук, які сядзеў у будцы ў задняй фурманцы і, загледзеўшыся на вёску, запамятаў, што баліць нага.

У гэты акурат час з палявой дарогі на гасцінец выйшаў, параўнаўшыся з фурманкамі, шапятоўскі настаўнік. Як убачыў ён здалёк, яшчэ з поля, фурманкі, паранцыў, што едуць цыганы, бо ніхто ж, акрамя цыганоў, не ездзіў у гэтых месцах з будкай на возе. Цяпер ён здзівіўся, бо і па вопратцы, і па гаворцы людзі гэныя былі зусім падобнымі на тутэйшых, але ж па ўсім відаць было, што едуць яны здалёк. Пра гэта сведчылі і патрэсканыя капыты на нагах у коней, і паламаныя пазвязаныя спіцы ў катках, і з'езджаныя тонкія шыны, якія не хацелі трымацца на катках і былі прывязаны да іх дротам.

Настаўнік выйшаў на гасцінец, пастаяў, пакуль фурманкі праехалі, а тады перайшоў гасцінец і дагнаў мужчын. Ён першым павітаўся з імі, зняўшы шапку. Мужчыны разам адказалі на ягонае прывітанне і пачалі разглядаць яго, відаць, хацелі пазнаць, хто ён такі. Павітаўшыся, маўчалі, чакалі, што незнаёмы чалавек абгоніць іх і пойдзе далей сваёй дарогай. Але ён не абганяў, наўмысля ішоў побач з імі, углядаючыся ў іхнія твары. Пасля першым і загаварыў.

— Адкуль гэта едзеце, дзядзькі? — спытаў ён. Мужчыны зразу не адказалі, толькі зноўку зірнулі ўважліва на яго.— Відаць, здалёк аднекуль?

— Здалёк,— адказаў старэйшы.— З самага таго краю зямлі,— ён паказаў рукою на паўночны ўсход,— амаль

з таго свету едзем. А вы хто ж такі будзеце? — запытаў ён.— Можа, пана нашага сын, каторы вучыцца ў студэнтах?

— Не. Настаўнікам я тут, вось у гэтай вёсцы. Раней вучыўся ў студэнтах, а цяпер мяне з Пецярбурга сюды выслалі, каб жыў пад наглядам паліцыі.

— А-а, ну, гэта іншая справа,— сказаў селянін.— Я-то бачу, што не падобны вы на панскага сына... Так, высланы, значыць. Так... Багата ў Расіі высланых. Вось і мы былі ў тых краях, куды на катаргу высылаюць, толькі мы ўжо самі туды ездзілі.

— Перасяленцы?

— Ага, перасяленцы. Ездзілі на край свету, думалі, што хоць там жыццё знойдзем, аж і там сапраўдная катарга.— Гаварыў, а маладзейшы ішоў моўчкі і ўважліва разглядаў незнаёмага чалавека, які назваў сябе высыльным.

— А вы як жа, жылі там хоць трохі, ці адразу ж і паехалі назад?

— Жылі,— адказаў селянін.— Шэсць гадоў таму назад, як мы паехалі адсюль на перасяленне ў Сібір. Жылі бедна. Зямлі тае столькі мелі, што ні араць яе, ні баранаваць, нават курыцу не было дзе папасвіць. А жыць жа хочацца...

— Хацелася хоць які кавалак, ды каб сваёй зямлі займець,— умяшаўся ў гаворку маладзейшы селянін.

— Праўду кажа. А казна ж да ўсяго ўгаварвала. Вось мы і паехалі.

— Я,— зноў умяшаўся ў гутарку маладзейшы, відаць, карцела яму, каб выгаварыцца з новым чалавекам,— усё прадаў: і хату, і хлявы, і зямлю, і паехаў. І ён гэтак. Паехалі вось так, як і цяпер едзем,— ён паказаў на фурманкі.— Толькі што дабра тады больш было на вазах.

Старэйшы памаўчаў, а пасля махнуў рукой і сказаў:

— Ну, няхай от ён пра ўсё раскажа.

— Ды ўжо раскажу,— згадзіўся той.— Няхай чалавек паслухае, няхай ведае, якая яна праўда ёсць на свеце. Ага... Дык вось з'ехаліся мы ў горадзе, багата нас, з усіх валасцей паз'язджаліся, скрозь, відаць, аднакава людзям смачна жыць. Ну, як з'ехаліся, дні чатыры пастаялі там на палігоне, а пасля пагрузілі нас у эшалоны і павезлі ў Сібір. Ехалі туды бог ведае колькі часу, а як прыехалі ў Табольскую губерню, куды былі прызначанымі, аказалася, што няма тых зямель, якія нам меркаваліся, занятыя ўжо. І вось зноў мы сядзім, пакуль

думала казна, што рабіць з намі. Урэшце далі нам павадыра нейкага, і паехалі мы зноў, паехалі цераз усю Томскую губерню, ужо аж пад Енісейскую. А там прывялі нас у тайгу, дый жывіце сабе, хоць зубамі той лес грызіце...

Ідзе селянін цяжкой і шырокай хадою, гаворачы, пазірае то сабе пад ногі, то ў палявы прастор. І побач, маўклівыя, ідуць і старэйшы селянін, і жанчына і з вялікай увагай, як бы новае што, слухаюць селянінава апавяданне пра свае блуканні па сібірскіх таежных прасторах.

— Ну тайга дык тайга, парабілі мы сабе курані і пачалі сяк-так секці лес ды калупаць зямлю паміж пнёў. Але што ж ты з ёю зробіш, з той тайгой? Ірваліся колькі сілы ставала, каб хоць што-небудзь пасеяць. За першы год нічога так і не зрабілі. Зімавалі ў зямлянках, галадам пухлі. Некаторыя адразу адтуль уцяклі, мусіць, было да чаго ўцякаць, а мы куды ж паедзем? Ды і як жа ехаць, калі пад нагамі ды вакол такая зямля багатая, сібірская! Рады былі мы, што да яе прырваліся, дык ужо не хацелі з яе сыходзіць. А з вясной і лепш трохі стала: трава вырасла, дык ірвалі яе і варылі есці. І ўжо ж так рабілі, так рабілі, ні дня таго не ведалі, ані ночы. Трэба было і карчаваць, і хатку хоць якую ставіць.

— Рабілі як ніколі,— кажа селянін.— Жыватамі ўсю тую зямлю выпаўзалі, на карачках па ёй хадзілі, каб хоць што ды пасеяць сваё на ёй...

Старэйшы ідзе побач і згодна ківае галавою, а ў жанчыны вочы распаліліся, набеглі слязьмі ад успамінаў.

— А тут вады блізка няма, а тут яшчэ неўраджай. Бацька мой змучыўся ў той рабоце, апух з голаду і памёр, а брат, вунь ён ідзе,— селянін азірнуўся назад і паказаў рукой у працяг гасцінца, па якім, следам за фурманкамі, ішоў адзінцом чалавек,— як валіў дрэва, пад яго папаў. Дрэва яго прыціснула, усе духі адціснула і навек яго скалечыла. Цяпер ён нічога і лёгкага нават рабіць не можа.

— З яго цяпер не работнік,— пацвердзіў старэйшы.— Цяпер з ім гора адно, а работы з яго цяпер няма ўжо і ніколі не будзе...

— А ў яго жонка там жа падарвалася і памерла,— перабіў яго маладзейшы.— Каб яшчэ там жыць, дык і самі падохлі б, як пацукі. Якое ж гэта жыццё, калі хоць разарвіся, куды ні кінься, дык ты адзін. У каго было сыноў трое ці пяцёра вялікіх ужо, той, можа, да чаго і

даб'ецца. І мы біліся, усё чакалі. Уцякаюць людзі, праклінаюць усё, а мы сядзім, думалася: а можа, бог дасць, як абжывемся. Шэсць гадоў так біліся, на карачках ля тых пнёў поўзалі, а цяпер вось назад едзем. І ў эшалонах ехалі і так, ды імем Хрыста, як жабракі, па людзях карміліся, каб хаця як назад прыбіцца.

Ён змоўк.

— А як жа цяпер? — спытаў настаўнік.— Як жа тут жыць будзеце?

— Тут? — селянін момант маўчыць.— Хто ж яго ведае... У мяне тут брат яшчэ ёсць, да яго еду. Ну, а жыць, жыць як-небудзь, хоць парабкам, буду. Мо ж хоць які заработак у панскім двары будзе... Неяк буду перабівацца, усё роўна прападаць, ці там, ці тут... Тут, можа, назусім у двор у парабкі паступлю...

— Вось і ўсё наша жыццё,— сказаў, уздыхнуўшы, старэйшы.— Блудзім па свеце, ходзім па зямлі, ды ўсё не па сваёй.

— Ого, каб свая ж зямля! Ды хіба пайшоў бы хто ад яе?.. А то адна дзесяціна, шнуркі, збірай яе па жменьцы...

Як уехалі ў вёску, гаворка спынілася. Твары ў сялян сталі сур'ёзныя, задумённыя. Яны адышлі ад сваіх фурманак і цяпер ідуць разам з коньмі, трымаючы ў руках лейцы.

Насустрач фурманкам бягуць дзеці і палахліва ціскаюцца купкаю ў дварах за плотам. Яны думаюць, што прыехалі цыганы. З хатніх вокан, з двароў і агародаў дзівяцца жанчыны і мужчыны.

Перасяленцы пазнаюць сваіх былых аднавяскоўцаў і з мужчынамі, якія выходзяць на вуліцу, вітаюцца. Тыя адказваюць на вітанні і падоўгу ўглядаюцца ў твары прыезджых, пакуль пазнаюць. А ўжо тады падыходзяць да фурманак і вітаюцца з прыезджымі за руку і ідуць побач з імі па вуліцы.

Спыніліся фурманкі на сярэдзіне вёскі супроць новай хаты Мікіты Шкробата. Гэта і быў той брат, пра якога гаварыў настаўніку селянін. Мікіта выйшаў з хаты, адчыніў з двара вароты і, як зайшоў на вуліцу, яшчэ не павітаўшыся з братам, сказаў:

— Ну, вось і Тарэнта прыехаў,— а пасля падышоў да яго і павітаўся, тры разы пацалаваўшыся з ім крыж-накрыж. За гэтым павітаўся гэтак жа і з Тарэнтавай жонкай.

— Дык паганяй у двор хіба ды распрагай.

— А ўжо ж заеду: больш жа няма куды.

— Значыць, у Мікіты госці?

Гэта сказаў адзін з суседзяў, які стаяў на вуліцы.

— А ўжо ж госці,— згадзіўся Мікіта, але нельга было разабраць, ці рад ён гасцям такім, ці напалохала яго іхняе з'яўленне. Толькі сам ён пасля гэтага ўзяў каня за аброць і павёў яго ў двор. Тым часам другая фурманка паехала далей па вуліцы. Як ад'язджала яна, Тарэнта з двара крыкнуў:

— Ну, бывай, Мікода. Прыходзь, можа, разам і тут будзем долі якой шукаць.

— Да ўжо ж будзем,— адгукнуўся той.

З вуліцы тады частка сялян пайшла на Мікітаў двор, а частка пайшла за Мікодавай фурманкай. Як распрэглі Тарэнтавага каня і выпусцілі яго на гумнішча, самі не пайшлі адразу ў хату, бо нельга было пакінуць на двары адных суседзяў, а весці ўсіх у хату Мікіту не хацелася. У хаце палуднаваў каморнік. З гэтай прычыны і астаўся Мікіта стаяць каля бярвення, непадалёк ад Тарэнтавых калёс, і разам з другімі слухаў, што апавядае Тарэнта. Яшчэ цераз колькі хвілін прыйшоў на двор і самы меншы брат іхні, які ездзіў з Тарэнтам у Сібір, Павал. Ён прыйшоў зусім змучаным, увесь у поце і пылі і, павітаўшыся з усімі прысутнымі, адразу сеў на бярвенне ды, скінуўшы шапку, пачаў ёю выціраць успацелы твар. Як сеў Павал, усе ўбачылі, што сядзіць ён згорблена, не па гадах сагнуўшыся, і што дрыжаць у яго худыя рукі. Каб схаваць гэную дрыготку рук, Павал паклаў іх сабе на калені і шапкай накрыў іх.

— Нездароў, значыць, Павал? — сказаў хтось з прысутных. Павал узняў галаву, але нічога не адказаў.

— Вось табе і Сібір,— працягнуў зноў той жа голас.— Вось табе і рай...

— Рай той, мусіць, горш за пекла,— дадаў другі.

— Рай... Паехалі ўпяцярых і ўсе здаровыя, а прыехала назад чацвёра, ды і то адзін калека. Вось табе і рай той.

— Ат, чаго ўжо там наракаць на некага,— перабіў гаворку Мікіта.— Едуць жа людзі і неяк жывуць там, во што.— У ягоным голасе адчувалася лёгкая раздражнёнасць.— А то, можа, паехалі ў нядобрае месца, пасля не захацелі пашукаць лепшага... А гэты,— ён паказаў на Паўла,— неяк жа не ўцікаваў за сабою. Хіба ж бо гэта канечне трэба было яму пад тое дрэва лезці? Каб пільнаваўся, дык і не папаў бы, во што я вам скажу.

— Гэта ты, Мікіта, дарэмна,— адказаў на ягоныя словы Тарэнта.— Табе я не пажадаў бы такога шчасця, як нам давялося там.

У Тарэнты не было ахвоты гаварыць. Убачыў ён, што злуе брат, што нездаволены ён іхнім прыездам, і адразу захадзілі ў галаве думы пра тое, як давядзецца жыць. Побач з Мікітавым дваром, за плотам, былая Тарэнтава сяліба. Цяпер там грады і пасярод град стаіць яшчэ неразбураная, старая стопка. Перад стопкаю невялічкі кавалак двара, незанятага градамі, ды ў сажань шырынёй паска, як бы дарога ад стопкі ў вуліцу. Як ад'язджаў Тарэнта з бацькам у Сібір, дык усіх будынін сваіх лішыліся. Што Мікіту бацька аддаў, а што прадалі чужым людзям. Цяпер на былым іхнім двары стаяла толькі стопка і невялічкі хлеў. «Давядзецца, мусіць, жыць у стопцы»,— падумаў Тарэнта. «Ды ўжо ж так. Абы не назаляць яму»,— гэта пра Мікіту. «Заўтра ж і агледжу яе ды неяк і буду жыць»... А стопка так і стаіць,— сказаў ён уголас.

— Стаіць,— азваўся Мікіта.

— Ведала, што ты назад прыедзеш,— сказаў хтосьці з прысутных.

— А што ты думаеш, з яе можна-такі добрую хату зрабіць,— спяшаючыся, згадзіўся Мікіта.— Яна яшчэ моцная. І цёплая хатка будзе.

— Давядзецца зрабіць,— згадзіўся Тарэнта.— Трэба ж будзе неяк жыць. Неяк памірымся.

— А што ж там, няхай бог крые.— І відаць было, што Мікіта рад, што вось падказалі людзі выйсце. Так ён думаў, што давядзецца брата пусціць у сваю хату, пацясніцца. Не хацелася гэтага, бо чатыры душы лішнія ў хаце,— гэта не раскоша, гэта і чатыры яшчэ раты. Не сядзеш жа адзін спакойна за стол пад'есці, калі чацвёра галодных сібіракоў будзе ў хаце сядзець. А пасадзіць іх усіх за стол, дабра тады не набярэшся. Пра ўсё гэта паспеў быў памеркаваць Мікіта і ад гэтага пачаў злавацц, думаў, што давядзецца ў сваёй уласнай хаце з ядой хавацца. Аж тут загаварыў брат пра стопку, і ўсё яно само неяк ураз вырашылася. Прасячэ Тарэнта ў стопцы акно, падраўняе падлогу, глінай яе пазамазвае і будзе жыць, яму не перашкаджаючы, не тое што на ваччу кожны дзень. І ўжо калі пазней сядзелі яны ў хаце за полуднем, сказаў:

— А што ты думаеш, са стопкай яно і ў самы акурат выйдзе. Нават і абглядаць у ёй асабліва няма чаго. Толь-

кі што акно хіба яшчэ адно прасекці і тады вунь як жыць можна.

— І я думаю, што добра будзе,— згадзіўся Тарэнта.

— А чаму ж: і цёпла, і ў сваім двары, галоўнае, во што. Дваром ды агародам можна ж будзе карыстацца, неяк яно памірымся ўжо, гаспадаркі ж тае ў цябе небагата.

— Якая там гаспадарка,— махнуў рукою Тарэнта.— Мусіць, ніколі ўжо яе не нажыву.

— Чаму? Будзеш рабіць, дык неяк і нажывеш. Нажываюць жа людзі.

На гэтым скончылі полудзень. А пасля полудня адразу пайшлі разам у стопку. Вынеслі са стопкі дзежкі, што стаялі там, і раскідалі засекі. Пазней, як пайшоў Мікіта, Тарэнта з Паўлам падраўнялі ў стопцы зямлю, каб можна было гліняную падлогу выбіць, і перад самым змяркannем нанасілі гліны. Назаўтра Тарэнта з самага ранку збіў у стопцы ток і пакінуў яе на ўвесь дзень з адчыненымі дзвярыма, каб хутчэй ток высах. А яшчэ цераз дзень зрабіў акно на чатыры шыбіны, і стопка стала ўласнай Тарэнтавай хатай.

А яшчэ цераз тыдзень пасля таго, як пасяліўся Тарэнта ў сваёй хаце, адбылася ў іх з братам гутарка пра Паўла. Гэтай гутаркі Мікіта чакаў і да яе падрыхтаваўся раней, бо ведаў, што без яе не абысціся. Гэная гутарка павінна была ўнесці нейкую яснасць у адносіны трох братоў, павінна была вызначыць месца кожнага з іх у жыцці, якое складалася на Мікітавым двары. Гэтага ва ўсякім выпадку жадаў Мікіта. Яго палохала няяснасць,— што ж будзе? Ну, прыехалі, ну, селі на ягонай зямлі, а як жа далей? Няўжо ж так і будуць усё жыццё блытацца ў яго пад рукамі, замінаць яму жыць? Так меркаваў Мікіта. І да гутаркі пра Паўла прыйшоў зусім гатовым. Адбылася гутарка надвячоркам. Тарэнта ішоў у двор, а Мікіта з двара. Сустрэліся за хлевам, на сцежцы, якая вядзе да гумна. Як сустрэліся, Мікіта хацеў моўчкі абмінуць брата і схіліў галаву ўніз, але яшчэ раней Тарэнта спыніўся і крыкнуў на курэй. Куры корпаліся ў градах. Тады спыніўся і Мікіта.

— Вось погань, каб іхняга народу не было, усе грады папсуюць,— сказаў ён і пачаў махаць на курэй рукамі. А як пабеглі куры з град і Мікіта намерыўся пайсці, Тарэнта пачаў гаворку:

— Я вось не ведаю, як з Паўлам зрабіць,— сказаў ён.— Каб жа я хоць троху абжыўся, а то ж у самога ў

мяне нічога няма, а тут ён... Можа б, ён і ў цябе які час пажыў?

— У мяне? — здзівіўся Мікіта.— У мяне ж каморнікі, дзе ж ён у мяне там будзе?

— Месца ён вялікага не займе.

— А што ён у мяне будзе рабіць?

— Як рабіць? Я ж гэта кажу, каб ён у цябе пажыў які час, бо мне ж няма на чым трымаць яго. А каб ён рабіць мог, я ў цябе тады і не пытаў бы нічога.

— Гм... вось табе і на, дажыўся чалавек...

Колькі хвілін яны абодва маўчалі. Пасля, як маўчаць далей нельга было, Тарэнта спытаў:

— Дык як ты?

— Што як? — здзівіўся Мікіта.

— Ну, а наконт таго, каб ён пажыў у цябе. У мяне ж гэта няма чаго і самому есці.

— А ў мяне лішне дабра, ці што? Навошта ж ён мне? Дзяцей няньчыць, дык у мяне і сваіх нянек хапае, во што. А карміць яго з нейкай ласкі мне няма ніякай рацыі...

— А як жа яму жыць?

— А я ж адкуль ведаю, як яму жыць. Дабро ж у яго нейкае было, мне ж ён яго не пакінуў.

— Чаўпеш ты нямаведама што.

— Бо і ты ж чаўпеш. Паехалі, дабро ўзялі. Недзе там скалечыўся, на каго робячы, а я вінен, выходзіць. То дзякую табе за ласку, во што я табе скажу.

— Ат, каб не казаць дрэннага слова, не чалавек ты, Мікіта, душы не маеш чалавечай, братавай...— Тарэнта безнадзейна махнуў рукой і пайшоў на свой двор, а Мікіта пайшоў у гумно.

З гэтай пары і ўсталяваліся паміж братамі суседскія адносіны, якіх жадаў Мікіта. Пачалі яны жыць кожны сам па сабе на сваіх дварах. Тарэнту такія адносіны звязвалі неяк па руках, ніякавата было яму, калі даводзілася сустрэць Мікіту. А Мікіта акурат гэтага і чакаў і таму рад быў, што ўсё ў іхніх адносінах ясным стала, дагавораным да канца, што няма чаго больш у гаворках з братам прыкідвацца, прытварацца. Ты сабе жыві, а я сабе жыць буду, як умею,— так сфармуляваў ён гэтыя адносіны. Пакуль не было такіх адносін, Мікіту браты ў цяжар былі. Прыйдзе чаго ў хату Тарэнта, няёмка за стол яго не пасадзіць і, хоць не хацеў, а за стол садзіў. Прыйдзе чаго папрасіць пазычыць, ніяк нельга яму ў тым адмовіць. Пазычаў, а сам аж мучыўся, бо хто ж яго ведае, як з яго пасля возьмеш тое пазычанае дабро, як

■ ім пасля лічыцца. Крэўнасць перашкаджала. А пагаварылі пра Паўла, і ўсё ясным зрабілася. Цяпер Тарэнта ў хату да яго так сабе з-за дробязі не пойдзе, не пусціць туды і дзяцей, каб не назалялі, не прыйдзе і пазычыць, калі ў чым завядзецца патрэба. Так і павялося. Браты пачалі жыць кожны сам па сабе, як чужыя.

Багатае Мікітава жыццё пачалося з таго, што нечакана для ўсіх узяў Мікіта замуж дачку кірпатаўскага багатыра Кажанца Рыгора. У таго дзяцей усяго двое было: сын ды дачка, і ён дачцэ ў пасаг даў дзесяць дзесяцін зямлі. Такім чынам стала ў Мікіты сваіх адзінаццаць дзесяцін. А як паехалі браты з бацькам на перасяленне ў Сібір, ён і іхнюю зямлю, тры дзесяціны, адкупіў і тады ўжо займеў аж чатырнаццаць. Цесць пасабіў Мікіту і на скаціну ўзбіцца, і на новую хату. Хутка займеў Мікіта пару коней, ды ажна шэсць штук кароў і свайго бугая. І жыццё Мікітава стала сытым і лёгкім, зайздросным для другіх. Але зямля Мікітава была не ў адным месцы. Чатыры дзесяціны былі раскіданы ў палосках па шапятоўскім полі, а дзесяць па кірпатаўскім. Багата было клапот з паласамі, і таму, як пайшлі па акрузе весткі пра хутары, Мікіта першым загаварыў пра іх у Шапятоўцы, і загаварыў так, нібы нельга было яму без хутароў жыць больш аніводнага дня. З гэтай жа прычыны, ды яшчэ ■ некаторых, нікому нявыказаных меркаванняў, як прыехалі ў Шапятоўку каморнікі, Мікіта сам запрапанаваў ім стаць да яго на кватэру. Вечарамі дома даўгія гадзіны выседжваў ён на лаўцы каля каморнікаў, стараючыся хоць чым дагадзіць ім, усё нібы рабіў з нейкай там гаспадарскай ласкі. А ўжо на тройцу, як селі ўсёй сям'ёй за полудзень і каморнікі выпілі па чарцы гаспадарскай гарэлкі, Мікіта, падліваючы ў чаркі, загаварыў:

— Значыць, па-новаму жыць будзем... та-ак я вам скажу, маладзец, хто да такога дадумаўся, душу ён мужыцкую нашую зразумеў, во што я вам скажу. Ах, як зразумеў ён яе. Сілы няма ў мужыка па палосках тых бегаць. У каго адна якая дзесяціна там, той, я вам скажу, гуляючы, за тыдзень шнуркі свае абойдзе з сяўнёй і з плугам, а ў каго дзесяць якіх дзесяцін ці, скажам, чатырнаццаць, як у мяне, таму няўпраўка, таму хоць разарвіся. Таму зямлю ў адзін кавалак сабраць хочацца, во што я вам скажу. Каб гэта выйшаў раніцою ў поле, а яно ўсё перад тваімі вачыма, куды ні зірні... На душы шырэй ажна робіцца ад дум такіх, пан камор-

нік,— звяртаўся ён да старэйшага. Той еў, сагнуўшыся над міскай, і маўчаў.— Толькі ў мяне адна загвоздка ёсць,— Мікіта спыніўся каля яго і схіліўся над сталом, упёршыся ў стол рукамі.— Першае, што зямля мая не ў адным вобчастве: чатыры дзесяціны тут, у Шапятоўцы, а дзесяць там, у Кірпатаўцы. А другое, будынкі ў мяне новыя, нядаўна стаўленыя: не абжыўся я ў іх, а тут зноў перавозь ды стаў. Сіл у чалавека на такое не стане, во што я вам скажу.

— А можна і без такіх турбот абысціся.— Каморнік пастукаў лыжкай аб край міскі і паклаў яе на міску зверху.— Можна, скажам, хутар так нарэзаць, каб пасля, як будзем Кірпатаўку разбіваць на хутары, каб тады другі хутар побач з першым аказаўся, каб уся зямля разам была. А перавозіцца, як ты захочаш. Хутар мы табе так выражам, што будзе ў ім і твая сяліба і другім канцом акурат упрэцца ён у кірпатаўскае поле. Клінам вось так зробім.— Каморнік павёў пальцам па стале, абрысоўваючы пляц Мікітавага хутара.— Тут вузей ад сядзібы, а там шырэй, як бы паласа адна, аж да самага раўчука. А налета адтуль табе прырэжам другі хутар, і жыві сабе на здароўе.

Пакуль гаварыў каморнік, Мікіта стаяў, схіліўшыся над сталом, не скранаючыся з месца, а з другога краю стала нерухома сядзела Мікітава жонка, прагна ловячы кожнае каморнікава слова. Як скончыў каморнік, яна не ўтрымалася.

— Каб жа вам, паночкі, бог здароўечка даў за тое, што і вы нам дабра зычыце. Гэта ж бы жыві тады і не памірай ніколі.

— Вось і будзеце жыць, гаспадынька, будзеце добра жыць. Мы што сказалі — зробім.

— Дай жа бог вам здароўечка,— зноў тое ж паўтарыла Мікіціха.— Хай вас бог беражэ.

— Не ведаю я ўжо, чым мне вам і аддзякаваць,— замармытаў і Мікіта, схіляючыся ніжэй над сталом, хацеў пакланіцца каморніку.— З бяды вы мяне навек выцягваеце, во што я вам скажу, паночак.

— Мужыцкая бяда і нам родная, самі мы з мужыкоў ды па мужыцкаму дзелу колькі год ужо ходзім. І робім як лепш, каб менней тае бяды было.

— А яе багата, бяды гэтай. Крута мужыку з зямлёй, цесна, і мужык неспакойны з-за гэтага. Вунь лапаціцкія гэтай вясной пана ледзь не забілі, спаліць хацелі, што зямлі не аддаў у арэнду. А ў пятым годзе нашага пана

як папатрэслі! У нас і цяпер неспакойныя ёсць,— зноў ён над сталом схіліўся.— Ёсць, такія ёсць, што на ўсё пойдуць. Такіх трэба было б куды-небудзь у Сібір на вольную зямлю пасылаць, во што я вам скажу. Самі не хочуць ехаць, дык іх варта было б пасылаць туды, ды назад ужо не пушчаць. А то ў мяне браты два яшчэ ёсць. Паехалі дзесьці з бацькам, а цяпер паведамілі, што назад едуць. Шэсць гадоў прабылі там, а цяпер назад. Гэта не парадак так рабіць, во што я вам скажу. Прыйдзе і тут толькі замінаць будзе другому. З-за іх, такіх, тут чалавеку разгону няма ў жыцці. Ім бы такім, калі ўжо не шанцуе самім жыць, дык ідзі ў парабкі і рабі як след, як табе паложана, а не задавайся, не замінай другім.

Гэтая Мікітава гутарка з каморнікамі адбылася на тройцу ў часе полудня. А цераз тры яшчэ тыдні прыехаў назад з Сібіры Тарэнта. І ў той жа вечар, як сабраліся каморнікі спаць ісці, Мікіта ўсунуўся ў хату да іх і сеў на лаўцы, паклаўшы на калені далонямі рукі.

— Вось я і дачакаўся гасцей,— сказаў ён.— Прыехаў, значца, брат. І як мне з ім цяпер давядзецца, розуму не дабяру. Цяпер будзе на маім горбе скулой сядзець. З сядзібы я яго не выселю, брат жа...

— Ну, сядзіба, гэта што ж, няхай сабе і сядзіць, мы нават яе можам неяк і выразаць, хоць і ў тваім плане. А больш тут нічога. Зямлю ж ён табе прадаў?

— Ага, прадаў.

— І паперы на гэта ёсць?

— Папер няма, але ж сведкі ёсць.

— Думаеш, ён чапляцца да цябе будзе?

— Хто ж яго ведае. Вось параіцца хацеў, як рабіць.

— Ніяк не рабі. Няхай жыве на сядзібе, і ўсё. Як жыць, няхай сам сабе думае, табе што... Смешны ты, гаспадар, усё трывожышся, усё неспакойна бегаеш.

— Дзе ж тут будзеш спакойны, калі ўсё яно так вядзецца, усё пра другіх думаць даводзіцца. Гэта не спакой, а гора адно, во што я вам скажу. Але дзякуй вось, што параілі, я так яму і скажу: няхай сам за сябе цяпер думае. За мяне ніхто іншы не думаў, во што. На гэтым спакойнай ночы вам...

Ён непрыкметна высунуўся з хаты і, ціхенька прычыніўшы дзверы, пайшоў на сваю палавіну, дзе заўжды жыў з сям'ёй. А як лёг у ложак, доўга не мог заснуць, усё варочаўся з боку на бок, скідаючы з сябе коўдру, усё

меркаваў, хацеў адгадаць, як паставяцца да яго браты. Гэтыя меркаванні мучылі яго, не давалі яму спаць, і таму так бязмерна рад быў Мікіта, калі пагаварыў з братам, калі ўсё галоўнае ў іхніх адносінах было дагаворана да канца.

З часу гэнай гутаркі адышло ад воч тое, што палохала сваёй невыразнасцю.

А яшчэ праз нейкі час на вуліцы, супроць яго хаты, спынілася панская каламажка і з яе злез Ермалай Трыфанавіч, панскі аканом. Не чакаючы, пакуль ён пойдзе ў двор, трушком падбег Мікіта да варот, адчыніў іх і пакланіўся аканому.

— Міласці просім, будзьце ласкавы, заходзьце. А можа, коней у двор увесці?

Мікіта застыў на месцы, чакаючы, пакуль аканом вытра хустачкай успацелы твар і адкажа.

— Не трэба, я ненадоўга.

— Як ваша ласка. А чаго, дазвольце ведаць, заехалі?

— Каморнікі дома? — замест адказу запытаў аканом.

— Дома, падвячоркваюць. Ото ж і выйдуць, я ім скажу. Гэтай жа хвілінкі скажу.— І Мікіта, не надзяючы шапкі, кінуўся ў сенцы, а праз пару хвілін выйшаў назад, прапушчаючы наперад ад сябе каморнікаў.

— Дзень добры, панове. Феакціст Антонавіч вельмі прасіў да яго пад'ехаць на гадзіну якую. От, калі маеце час, дык сядайце і паедзем.

Не даючы каморнікам гаварыць, аканом пайшоў з двара і завярнуў коней. Следам за ім пайшлі і каморнікі.

— Ну, сядайце, панове. Бывайце здаровы,— кінуў ён ужо з каламажкі ў бок да Мікіты, які стаяў на вуліцы. Мікіта збянтэжыўся. Такі нечаканы аканомаў прыезд па каморнікаў здзівіў яго. Хацелася як мага хутчэй даведацца, на што спатрэбіліся пану каморнікі. Заняты здагадкамі, ён не адразу адказаў на аканомава развітанне, а ўжо як паехала каламажка вуліцай, нешта збянтэжана прамармытаў і, зачыніўшы вароты, пайшоў на двор да старасты, спадзеючыся хоць што даведацца ад таго. Старасты дома не было, і ён хутка вярнуўся да сябе. Павячэраўшы, ён доўга сядзеў на лаўцы каля стала, час ад часу пазіраючы ў акно, ці не едуць каморнікі назад. Але хутка зусім сцямнела, а каморнікаў не было, і, не дачакаўшыся іх, Мікіта лёг спаць. Спаў неспакойна і хутчэй не спаў, а доўга ляжаў на ложку, услухоўваючыся ў кожны шорах, слухаў, калі бразне ў аконную шыбіну каморнікава рука.

Хата, запоўненая густой цемрай, рабілася цеснай. Згары абвісала чорная столь, і над ложкам пад столлю ў цемры ценькімі галасамі звінелі камары. Яны падоўгу спявалі, трывожачы сваім піскам і без таго неспакойны Мікітаў сон, а пасля раптам садзіліся яму на лоб і змаўкалі. Месца, дзе кусаў камар, нясцерпна свярбела, і ўзлаваны Мікіта далонямі рук цапаў сябе па твары, давячы камароў. Разбуджаны, чуў, як спакойна дышуць дзеці і побач глыбока, ▪ уздыхамі, жонка. Прыслухоўваўся да іхняга дыхання і пачынаў забывацца, засынаў. Гэта цягнулася да поўначы. Апоўначы, як зусім забыўся ў сне, здалося, што едзе ён кудысь на калёсах, і калёсы тыя на жалезным ходу, лёганька гэтак бразгочуць восі ў калёсных утулках. Бразгат гэты прыемны, песціць слых, і Мікіта доўга ўслухоўваецца ў яго, пакуль з двара ў акно забарабанілі мацней. Разбуджаны, ён глынуў сліну і ўсхапіўся бегчы да дзвярэй. Папярэдне зірнуў у акно.

— Чаго ж гэта ён зваў вас? — запытаў Мікіта ў каморнікаў, прапускаючы іх у сенцы.— Справа якая, ці так сабе, на пачастунак?

— На пачастунак,— кінуў малодшы, і Мікіта адчуў, як дыхнула на яго ад каморніка вінным пахам.

— Пачастунак пачастункам, а затым і справа вялікая, вунь якая справа...

Каморнікі пайшлі ў сваю палавіну, а Мікіта выйшаў на двор, пастаяў хвіліну на ганку, пасля паціхеньку зайшоў у сенцы, запёр дзверы і пайшоў да сябе, растрывожаны каморнікавымі загадкавымі словамі.

Тое, што трывожыла ў гэты час Мікіту, займала не толькі ягоныя думы, а і думы ўсіх шапятоўцаў, усіх ваколічных сялян. Калі ў акрузе з'явіліся каморнікі, па ўсёй ваколіцы пайшлі ўпартыя чуткі, што цар, нібы з повадү юбілею дома Раманавых, даў маніфест, якім загадаў панам перадаць сялянству на выкуп лішкі сваёй зямлі. Гаварылася, што акурат, мераючы хутары, і будзе казна наразаць кожнаму панскай зямлі. Шапятоўцам такая гаворка, як нікому, была па сэрцы, бо ж побач ляжалі шырокія прасторы панскай зямлі, ад якой спадзяваўся кожны атрымаць нейкі кавалак і сабе. Пра такі маніфест упарта, на кожнай сходцы, дапытваліся шапятоўцы ў каморнікаў. Але каморнікі адказвалі жартамі, і ніяк нельга было зразумець, што яны хочуць сказаць.

Гэткімі думамі жыў і Мікіта, спадзеючыся, што прырэжуць зямлі і яму. І калі павёз панскі аканом да сябе

каморнікаў, Мікіта падумаў, што гутарка там будзе ісці менавіта пра гэтую справу. Яшчэ больш ён пераканаўся ў гэтым, калі пачуў загадкавыя каморнікавы словы, і, як лёг у ложак, думаў толькі пра тое, як бы даведацца хутчэй пра ўсё падрабязна, каб ведаць, што рабіць. Запоўненая такімі думамі, прайшла неспакойна і гэтая ноч.

## ПАДЗЕЯ ПЯТАЯ

Цераз колькі дзён пасля таго, як прыехаў Буднік у Шапятоўку настаўнічаць, усе ўжо ведалі, што хоць ён і прыехаў здалёк, аднак жа прыехаў не ў чужыя месцы, а як бы на сваю радзіму.

У Шапятоўцы аб'явіўся быў некалі яшчэ салдат-уцякач і заявіў сябе доктарам-ветэрынарам. Звалі гэтага салдата Андрэем, а па прозвішчу Буднікам. І сапраўды, як пасяліўся Буднік у Шапятоўцы, дык і пачаў лячыць і кароў, і свіней, і коней. А за гэтым па ўсёй ваколіцы пайшлі пра яго гаворкі, што ён і не салдат зусім, а вучоны доктар-ветэрынар, які меў дзесьці ў горадзе службу, ды спіўся і цераз гэта згубіў сваё месца. Пайшла такая гаворка, і людзі паверылі б ёй ды хутка здзівіліся, бо змецілі, што хоць і заходзіць Буднік у карчму вельмі часта, але п'е зусім мала. Цераз нейкі час ажаніўся ветэрынар на дачцы шапятоўскага бабыля-ўдаўца Барабанчыка, чыйго прозвішча так і не ведалі ніколі шапятоўцы. Быў Барабанчык кавалём. Жыў адзін з дачкою, а як пайшла дачка замуж, адзінцом застаўся і хутка памёр у сваёй кузні, згарэўшы з гарэлкі.

З дачкой Барабанчыкавай ветэрынар прыжыў сабе сына, Паўла Budніка. Яшчэ цераз год які, як нарадзіўся Павел, жонка ветэрынарава памерла. Так звялося ў Шапятоўцы Барабанчыкава кодла і пачалося кодла новае, ветэрынарава.

І можа б нічога такога цікавага ў ветэрынаравым жыцці і не было б, каб не давялося яму цераз год і два месяцы, як памерла жонка, лячыць у маёнтку панскіх коней. А то пайшоў ветэрынар раз у панскі двор, пайшоў другі, а пасля неяк і зусім у двор жыць перайшоў, прызначыла яго пані там як бы старэйшым для нагляднання за статкам ды коньмі. А з той пары і пайшлі пра ветэрынара новыя гаворкі. З гаворак жа тых разумець выпадала, што ўзяла яго пані ў двор не так для жывёлы, як для сябе, каб жыў з ёй заместа мужа, які жыў дзесьці ў Пецярбургу. Гаварылі пра гэта скрозь і ўсе, бо сустра-

калі пані з ветэрынарам і ў полі, і бачылі, як яна разам з ім і ў мястэчка ездзіла.

А ветэрынар тым часам жыў у двары, лячыў жывёлу, і панскую, і мужыцкую, ды гадаваў сына. Як падрос сын, аддаў яго на мястэчка ў навукі, дзе сын і жыў аж да самай пары, калі ветэрынар з Шапятоўкі выехаў.

Сталася так, што паклікаў пан сваю жонку да сябе ў Пецярбург, дзе быў і ягоны самы старэйшы сын. Пані спачатку паехала ў Пецярбург адна, а цераз месяц які вытрабавала туды да сябе і ветэрынара, зноў як бы для догляду за коньмі.

Невядома, што такое было ўжо там у іх у Пецярбурзе, толькі цераз якіх месяцаў пяць яшчэ дайшла да шапятоўцаў чутка, што прагнаў пан ветэрынара і той пайшоў рабіць на завод, бо быў ён, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і добрым, дасканалым столярам.

А пра тое, што пазней было, расказаў шапятоўцам ужо сам ветэрынараў сын, Павел Буднік. Расказаў ён, што працаваў ветэрынар столярам на заводзе аж пяць гадоў, пакуль яго не забіла там. Працуючы на заводзе, прыладзіў туды і сына, але цераз тры гады, навучыўшы сына рамяслу, настаяў, каб падаўся сын у студэнты, а цераз паню выхлапатаў для сына ва універсітэце месца казённакоштніка. Сам жа хутка пасля таго памёр.

Гісторыю гэную ўсю ад пачатку і да канца за гэты час Павел Буднік чуў ад шапятоўцаў не адзін ужо раз. Бацькава мінулае было назаўжды пахавана разам з ім, і таму вобраз бацькаў ва ўяўленні Паўла Будніка паўставаў як нешта зусім малазнаёмае і загадкавае.

Пра ўсё гэта і думаў Павел Буднік, цяперашні шапятоўскі настаўнік, ідучы дадому, і таму, што быў цалкам заняты гэнымі думкамі, ён так спужаўся, калі раптам убачыў, як нешта, чаго нельга было амаль адрозніць ад ценяў, павольна перапаўзло дарогу і знікла ў кустах. Тое, што змеціў настаўнік, і тое, што раптам пачуў, і здзівіла яго, і напалохала. Ён спыніўся. Пачутае было падобна і на чалавечыя стогны, і на вурчанне галоднага хворага звера. Тады настаўнік падаўся яшчэ крыху наперад да кустоў і ўжо непадалёк ад іх зноў спыніўся і прыслухаўся да наваколля, але не пачуў больш нічога, як і нічога не ўбачыў.

Нерухома стаялі каля дарогі старыя раскарацістыя дубы і за імі, густа пасярэбраныя расой і месяцам, альховыя кусты. Нясмела бруілася з-пад хмар на шырокія шатры дубоў дрыглівае месяцава святло. На перасохлым

дарожным пяску пад дубамі непарушна ляжалі іхнія чорныя цені. Ападаючы на дол цэлай грамадай, цені раскідалі вакол сябе мутныя шэрыя пляміны лісцяў, узорылі дарогу. А за дубамі, у кустах, поўзалі па лісці ціхія шолахі.

Баяўся варухнуцца, каб не прайшло што-кольвеч паза слыхам, а вачыма палахліва і таропка шукаў, узіраючыся ў спакойную густату алешніку.

На грудзях у кішэні нясмела цікаў гадзіннік. З гадзіннікавым ціканнем прыйшло заспакаенне. Яно пасілілася, калі з боку кустоў дайшла хваля цёплага ветру і з ёй шчыплівы пах свежаскошанай травы, што не паспела яшчэ высахці.

— Пэўне сабака хворы туляецца тут ля кустоў,— напаўголаса сказаў настаўнік сам да сябе і крануўся ісці.

Але не прайшоў ён і пяці крокаў, як з боку кустоў данесліся ледзь чутныя стогны. Цяпер ён ужо зусім выразна чуў, што стогне чалавек. Не раздумваючы, ён таропка, амаль подбежкам пайшоў да кустоў.

— Хто тут?

Чалавек застагнаў мацней, і, ступіўшы яшчэ пару крокаў наперад, настаўнік знайшоў яго. Чалавек сядзеў за кустом, у мураве, выцягнуўшы перад сабою ногі, і працягла, цяжка стагнаў.

— Хто тут? — паўтарыў сваё пытанне настаўнік і схіліўся над чалавекам. Той застагнаў цішэй і загаварыў, захліпаючыся ад болю...

— Шкробатаў я, Тодара Шкробата сын, Павал...

— А што гэта з вамі? Чаго вы тут? Біў хто?..

— Не.— Чалавек заківаў галавой.— Нічога са мной. Я сарваны з Сібіры, дык вось жывот мяне хапіў... зарэжа, здаецца...— І, следам за гэтымі словамі, нібы каб сцвердзіць іхнюю праўду, чалавек хапіўся рукамі за свой жывот, прыгнуўся да самае зямлі і галасна застагнаў.— Не чапайце мяне,— сказаў ён настаўніку, калі той нахіліўся, каб падняць чалавека з зямлі.— Не кратайце... так яно хутчэй сціхне...

Чалавек згінаўся, трымаючыся абедзвюма рукамі за жывот, курчыўся, прылягаючы ілбом аж да самай зямлі. І ўжо не стагнаў, а нема, па-звярынаму, роў праз шчыльна сцятыя зубы. Пакуль цягнуўся прыпадак, настаўнік стаяў і разгублена, не ўмеючы дапамагчы, пазіраў на чалавека. Але хутка прыпадак скончыўся. Чалавек змоўк, паволі выпрастаўся і сядзеў, цяжка дыхаючы, не кранаючыся з месца, не верачы яшчэ, што пакуты скончы-

ліся. Седзячы на траве, ён дробна дрыжаў і задаволена мармытаў нешта неразборліваe, прыслухоўваючыся, як прыемна сціхае боль. А яшчэ праз хвіліну, не спяшаючыся, асцярожна падняўся з зямлі.

— Дык чаго ж гэта вы ў кусты хаваецеся? — запытаў настаўнік, пераканаўшыся, што боль у чалавека прайшоў.

— Людзей саромлюся. Я ж малады яшчэ... можа, вам і равеснік толькі яшчэ.

Настаўнік уважліва ўгледзеўся ў чалавека. Гэта быў далёка яшчэ не стары па гадах мужчына. Але твар ягоны, абраслы барадой і дачасна спаласаваны маршчынамі, сведчыў, што чалавек гэты пастарэў без пары, раз і назаўсёды згубіўшы ў адзін час свае сілы. Ён павольна ішоў цяпер поруч [redacted] настаўнікам, нясмела ступаючы на зямлю, баяўся, каб не спатыкнуцца.

— Вось так як хопіць, дык хоць жывым у зямлю лезь,— загаварыў ён.— Усяго б я ацураўся, нічога б я на свеце не хацеў, каб толькі ў жываце так не балела... баліць — сіл маіх няма, [redacted] людзі не вераць, думаюць — прыкідаюся. А якое ж тут прыкіданне, калі сарваны я.

І ўжо зусім заспакоены, ён клапатліва і падрабязна апавядаў новаму чалавеку пра сваю хваробу.

— А часта бывае такі боль? — запытаў настаўнік.

— Часта. Калі сяджу, нічога не робячы, ці ляжу,— тады амаль і не баліць, а як толькі вазьмуся што рабіць ды сагнуся раз-другі, жывот і хопіць. Тады кідаюся на зямлю, ды вось так і качаюся па ёй, пакуль не сціхне. Як не раблю, нічога ў мяне не баліць, а людзі думаюць, што я гультайствую, прыкідваюся хворым. А я на братавым карку, як скулянка, сяджу: ем, п'ю, а ў хату з мяне аніякай карысці. А брату самому есці няма чаго, сваіх дзяцей няма на чым гадаваць, куды ж я тут? Такі вось я не патрэбен цяпер нікому, адна назола з мяне. Мне цяпер адно толькі: ці ў старцы ў свет пайсці, ці задушыцца. Жыць мне няма як. У мужыцкім нашым жыцці такія непатрэбныя, хаты імі не падапрэш...

Буднік прыгледзеўся і цяпер толькі заўважыў, што сусед ягоны ідзе, неяк няўдала згорбіўшыся, і было гэта зусім ненатуральна, нібы наўмысля ён не выпростваецца да канца, баючыся, што зноў забаліць жывот.

Як ішлі пад дубамі, Буднік зазірнуў угору, адкуль звісала густалістае частае голле. Адтуль наплылі на твар густыя чорныя цені. Яны затрымаліся на твары на адзін толькі момант, потым парадзелі і сплылі, і Буднік

убачыў, як дрыжала, пераліваючыся на дубовым лісці, серабрыстае месяцава святло.

За дубамі адразу пачынаўся мурожны поплаў. Туляючыся краем сваім да дарогі, ён далёка ўбаку клінам уразаўся ў жыта. Няскошаная, яшчэ ў самай сіле сваёй, трава цежалела ад буйной расы. Калі выставіць руку і патрымаць яе хоць хвіліну далонню ўгару, адчуеш, як густа кладзецца на далонь раса. Далей, павяртаючы за поплавам у жыты, выпрасталася дарога, даўгая і вузкая.

— У самы раз касіць цяпер,— зноў абазваўся хворы.— Людзі ў двор у заработкі будуць хадзіць, а я на прызбе, як прыкаваны, буду сядзець, з дзецьмі, у цацкі буду гуляць з імі... навошта ж мне гэта? — пакрыўджана пытаў ён.

Ідзе ён пасярод дарогі і шырокімі расходжанымі ступнямі босых ног мякка шлёпае па пяску. А Буднік, павольна перастаўляючы ногі, нейкі час пазірае на свае, парыжэлыя ад пылу, гамашы. Ідзе ён сцежкай каля самага жыта. З жытніх каласоў ападае серабрыстае месяцава святло, цячэ па саломе і капае на зямлю паміж жытнімі сцёбламі на сцежку і на гамашы. Гэтым святлом шчодра паліты ўвесь жытнёвы прастор. Яно цярушыцца з самай гары, з надхмар'я, дзе, паволі гойдаючыся ў рэдкіх туманах, павіс месяцаў рог.

Цярушыцца і ападае дробнай расой на жыта, а яно, дрымотнае ад коласавай буйнасці, ціхімі хвалямі схіляецца то ў адзін, то ў другі бок па ўсяму прастору, як толькі хапае вокам. У такі час ад земляных багаццяў і ад сілы яе ідзе ў чалавека зайздрасць.

— І ніколі мы за ўвесь свой век не пажылі, як людзі, ні разу не пад'елі ўволю,— гаворыць глыбока пакрыўджаны чалавек.— А я так бы рабіў, я ж так люблю працу...

Як толькі падышлі да сцежкі, што нацянькі вяла праз жыты да гумнаў, ён прыпыніўся, каб развітацца.— Я сюдэй пайду,— сказаў ён, паказаўшы рукой у прасцяг сцежкі на ўзгорак, за якім мясціліся вясковыя гумны.— Я ў пуні сплю, туды і пайду адразу.— Чалавек павярнуў з дарогі і пайшоў сцежкаю, а настаўнік зразумеў, што пайшоў чалавек ад яго на сцежку не таму, што бліжэй гэтак ісці, а каб не распальваць сябе зайздрасцю да чужога здароўя.

Ідучы па дарозе, Буднік пазіраў услед чалавеку. Вось толькі што хісталася над жытам ягоная згорбленая постаць. Потым плыла над жытамі адна яго галава, а хут-

ка і яна знікла, патануўшы ў жыце за ўзгоркам, а перад вачыма ў Будніка яшчэ нейкі час маячыў вобраз высокага згорбленага чалавека. Потым і ён, гэты вобраз, растаў, расчыніўшыся ў густым месяцавым святле, і знік. А за гэтым ужо і прыйшла радасць. Была яна, гэтая вялікая радасць, ад сілы і маладосці, і была звонкай яна, як і сама маладосць. Радавала ўсё: і адчуванне поўных сіл сваіх і пачуццяў, і наскрозь прасветленыя месяцам кавалкі хмар, што блукалі ўгары; і рэдкія, у лагчынах, туманы, якіх не кранаў яшчэ вецер, і пакінутая далёка ззаду чорная паска ценю, што паслалася пад дубамі.

Казачнай велічыні лятучая мыш прыляцела з надхмар'я з поўначы і над паловай зямлі распасцерла свае шэрыя крыллі. І ціхімі ветрамі ад сенажацей, дзе, дрымотна булькаючы ў крывых берагах, цячэ Хвошчаўка, нясмела дыхнула на дарогу ноч. Ад подыхаў яе ўсё навакол налівалася малочным, працэджаным праз частыя сіты пушыстых хмар, святлом і змянялася. Залацістыя ўдзень жыты цяпер мутнавата бялелі, а затуленая ценямі знаёмая далячынь дарогі была казачнай, нябачны канец яе губіўся дзесьці за небасхілам, дзе аплывала на зямлю густая цёмная сінява. У далечыні той плавалі цяпер шматгалосыя непазнаныя гукі і вабілі пайсці за сабой у нязмерны прастор зямлі, якому нідзе няма краю. Ад гэтага не было краю і маладым чалавечым сілам.

Даўгая і вузкая слалася наперадзе паміж жытамі паска дарогі. З палявых прастораў плылі над дарогай далёкія цёплыя ветры.

Калі Буднік ступіў на даўгую шапятоўскую вуліцу, вёска канчала свой перажыты дзень. У рэдкім ужо двары парадкавалі, запазніўшыся, жывёлу, ды дзе-нідзе курыў мужчына, нерухома стоячы пасярод двара ў бегалай вопратцы, гатовы да сну, і пазіраў у неба, каб угадаць заўтрашняе надвор'е.

У другім канцы вуліцы, расцягваючы словы, спявалі дзяўчаты. Песня будзіла пачуцці і ўтаймоўвала іх. Спакойна напластоўваючы мыслі, яна прымушала чалавека па-інакшаму бачыць наваколле і глыбей адчуваць яго.

Ой, насі злота, не хіні к грудзям.
Ой, гаруй гора, не кажы людзям...

Пелі дзяўчаты каля хаты Каляды.

Цераз колькі хат быў канец даўгой шапятоўскай вуліцы, дзе выходзіла яна дрогкай грэбляй цераз выган у шырокі палявы прастор. Там жа, дзе пачынаўся за вяс-

ковымі платамі выган, мясціўся і будынак школы. Калі Буднік прыйшоў да школы, яго чакалі. На высокім школьным ганку на лаўцы сядзеў Мікода Жук.

— Мусіць, даўно чакаеце? — запытаў настаўнік і, павітаўшыся, сеў на лавачцы насупраць Мікоды.

— Я чуў нешта новае,— замест адказу сказаў Мікода.— Гэта ж варта б нешта думаць.— У Мікоды густая, чорная, як смалой аблепленая, барада. Асветленая месяцам, яна блішчыць, а Мікода, гаворачы, гладзіць яе, забіраючы ўсю адразу ў шырокую жменю, падобна, што хоча сцерці з барады густы месяцаў блеск.— Як жа гэта так? І няўжо гэта так і зробіцца?

— А вы думаеце, не?

— Дык няўжо ж на яго нідзе і ўправы знайсці нельга?

— Пакуль знойдзеце ўправу тую, дык і лапцей на нагах не стане.

— Вось табе і на! А вы ўсё сваё!

— Я? Сваё. Па-мойму, тут управу шукаць трэба, а не там.

— Загаварыць мужыку трэба?

— Вось іменна, загаварыць. Пайсці і сказаць, што такой панскай ласкі не хочаце.

— А калі нічога?

— Тады трэба паказаць яму сваю сілу, у саміх сабе знайсці на яго ўправу. Тады прысмірэе. А не — ён вас усіх у балота загоніць і хаты вашыя з сядзіб у багну сапхне...

Мікода сядзеў моўчкі. Слухаў і пазіраў проста ў твар настаўніку.

— Не трэба быць такімі пакорлівымі. Трэба ўмець агрызнуцца. Пакажыце яму зубы, разумееце? Убачыць зубы, забаіцца, каб не ўкусілі. А то б'юць іх, а яны кланяюцца. Зямлю адбіраюць, а яны дзякаваць гатовы... Проста па евангеллю жывуць.

Мікода ўсміхнуўся.

— Гэта Тарэнта ў нас сапраўды па евангеллю. Усё аб справядлівасці думае, на яе спадзяецца, на праўду. Яму што ні кажы, а ён сваё: маўляў, быць таго не можа, каб праўда не перамагла. Нібы ён тую праўду бачыў дзе. Такіх не ўгаворыш, каб зубы паказаць. Для гэтага ўсіх ураз падняць трэба, а нашых хіба падымеш?

— А я думаю, што на гэтым усе сойдуцца, акрамя тых, каму ў цэнтры хутар выразалі.

— Ах, каб жа ўсіх на такую справу ўзняць, тады б ён не парызыкаваў.

Па твары ў Мікоды забегалі зморшчыны, а рукі зняліся з кален і даўгімі агрубелымі пальцамі ўшчаперыліся ў край лаўкі. Трымаючыся за лаўку, схіліўся Мікода ў бок да настаўніка і тады адну руку сціснуў у кулак.

— Нашых так во біць трэба, а не ўгаварваць.— Кулаком махнуў і цяжка апусціў на калені кулак.— Свайго ж інтарэсу разумець не хочуць. Гаворыш ім, а яны зубы скаляць ці вохкаюць.

— Ну,— настаўнік усміхнуўся,— вы, дзядзька Мікода, нешта ў злосць вялікую ўвайшлі сёння. Біць іх і без нас б'юць. А трэба, каб адбівацца навучыліся. Каб рука не шапку перад панам здымала, а каб кулак яму паказвала, а то ён так і думае, што мужыцкая рука толькі для таго, каб араць, касіць ды перад ім яшчэ шапку з галавы здымаць...

— Адбівацца, гэта вось і правільна. Гэтага я і хачу.

— А на гэтай самай справе ў самы раз пачынаць адбівацца. Справа гэтая амаль усіх вас за самае балючае бярэ. Вось тут і чапляй іх і цягні за сабой. Прапусціць гэтага так не можна. Па хатах пайсці трэба, гаварыць трэба, сабрацца, ды да яго пайсці і пратэст заявіць, паслухаць, што ж ён скажа, а тады паглядзець, дый больш нешта-небудзь...

— Як гаворыце вы, у мяне аж кулакі свярбяць. Гэта ж такая справа, такая справа! Ну, не дажджэ ён, каб гэта яму так мінулася. Мусіць, забыўся ён ужо на пяты год, дык мы яму прыпомнім, мы яму пакажам і зубы, калі на тое пойдзе. Заўтра я да хлопцаў зайду, пагавару з імі, каб не маўчалі.

— Трэба, каб ён сілу вашу адчуў. Зямлі вы ў Пілацеева не адбераце, не ў тым справа, але сваёй можаце не аддаць. Калі выйдзе так, як хочам мы, а не ён, тады ў другі раз некалі і на большае зможам падняць сялян. Вось што галоўнае. Не аддадзім зямлі, селянін сілу сваю адчуе і ўжо, калі давядзецца, пойдзе і на большае, пойдзе і па пілацееўскую зямлю.

Паміж гутаркай прыслухаўся Буднік да навакольнага і не пачуў больш дзявочай песні. Дзяўчаты, відаць, скончылі песню і разышліся па хатах. Хутка сышоў з ганка, збіраючыся дадому, Мікода.

...На выгане дружна крычалі ў канавах каля грэблі люгашкі. Далёка ў балоце гукала сава. Ад ракі паволі поўз па аўсах, у бок да балота, туман. Туман набракаў

расою, цяжэў і, ападаючы з аўса на выган, асядаў у лагчынах і павісаў камякамі на алешнікавым голлі, густа нагортваючыся вакол кустоў.

— Добрая ноч. У такую ноч хоць як рабі, не стомішся. Так... І ўсякая ноч добрая, калі жыць чалавеку добра. Эх-ха! — Мікода глыбока ўздыхнуў і яшчэ раз падаў настаўніку руку.— Дажывем мы такі з табой, пане настаўнік, да нечага, а? Нешта нейкае некалі будзе, мусіць, нам?

— З зямлі нас нікуды не прагоняць, чаго ж бедаваць. А покуль тое нешта нейкае будзе нам, дык мы яшчэ пажывем ды тое-сёе зробім. Так ці не?

— Ды яно так. А з зямлі, гэта вы верна кажаце, нікуды нас не прагоняць. Не тут, дык у Сібіры дзе-кольвек, але мусімуць даць нам на ёй месца. Яно так. А я Сібіры дык ужо і не дужа баюся, быў там. Мы нідзе не прападзем. А тым часам глядзіш, і людзі трохі паразумнеюць. Ну, я пайду, позна ўжо. А днямі падыду яшчэ.

Мікода кіўнуў галавой і пайшоў цераз двор у вуліцу і далей цераз яе ў гумны. Хутка там у ценях паміж будынкамі і знікла ягоная постаць. Тады Буднік намерыўся пайсці спаць.

Але акурат як намерыўся ён пайсці на ганак, бразнула нечакана аканіца. Каб паглядзець, што там, Буднік зазірнуў за вугал. Там ён адразу і замеціў мужчыну.

— Чаго гэта вы тут? — крыху збянтэжаны нечаканай сустрэчай, запытаў настаўнік.

— Каля рэчкі хадзіў, глядзеў, каб коньмі паплавы хлопцы не патравілі, а адтуль і пайшоў нацянькі цераз ваш двор, во што... Так што добрага вечара вам. Вы, можа, спалохаліся? Я гэта так нечакана, а гэта ж і позна.

Настаўнік прамаўчаў.

— А ці не чулі гэта вы, што лапаціцкіх мужчын заарыштавалі, бульбу панскую, скараспелку, яны з поля кралі: капалі ды зносілі сабе дадому. Я гэта ад швагра ўведаў, Мірон Кажанец з Кірпатаўкі, можа, чулі? Ён у жандарах служыць, дык са станавым быў там, следства вялі. Казаў ён, што пападзе гэтым, лапаціцкім. А можа, і не?

Буднік зноў прамаўчаў.

— Мусіць такі, засудзяць людзей,— сказаў селянін.— А як на мой розум, дык і няма за што судзіць іх, во што. Каб было што есці, не пайшлі б яны бульбы тае красці.

— А твайму швагру, Мікіта, мусіць, добра жывецца? — перабіў селянінаву гаворку настаўнік. Ён прыпомніў, што бачыў Мірона Кажанца гэтай вясной у Шапятоўцы на вечарынцы. Жандар пахвілінна закручваў свае кароткія вусы і, танцуючы, цяжка тупаў ботамі, аж уздрыгвала зямля. «Такімі ботамі ўсё ў зямлю ўтаптаць можна»,— падумаў тады Буднік і ўвесь вечар не мог пазбавіцца гэнай думкі. Увесь вечар стаяў у ягоным уяўленні вобраз жандара з вусамі пруткай шчаціны, абутага ў цяжкія, падкаваныя жалезам, боты. Гэны вобраз жывым паўстаў у ягонай памяці, і цяпер Буднік падумаў, што Кажанец пэўне злосна біў лапаціцкіх мужчын кулакамі па тварах, па грудзях і, б'ючы, зусім не думаў пра тое, каго б'е.— Лёгкі хлеб у твайго швагра,— сказаў настаўнік.— Каму кулаком у зубы тузане, каго бізуном па спіне шлёгне і жыве сабе. Ні мазалёў тых табе, ні ўтомы. Толькі няхай бы ўжо і радню патроху цягнуў за сабою на гэны хлеб.

— Хлеб ягоны няцяжкі,— згадзіўся селянін,— а пра радню ён не вельмі што спагадае. Ды вы думаеце? Ён хоць і швагер мне, а я, далібог жа, не пайшоў бы ў такую службу, а калі б і пайшоў, то хіба з'ехаў бы куды далей ад дому, во што. А то ж вакол усё свае людзі, усе ведаюць, ■ ты арыштоўвай іх, цягай. Каб хоць чужыя, незнаёмыя, во што...

— Э, чаго там глядзець на тое, што свае. Мала што свае. Няхай не крадуць! А то, бач, захацелася ім бульбы панскай.— Гаворачы, Буднік пазіраў проста ў твар селяніну і хітравата ўсміхаўся.— Дзіва што! Панская бульба, ведама, смачная, але ж яна панская, а не іхняя.

— Ну, можа, у людзей не было чаго есці, во што, скажу я вам.

— Няма чаго есці? Дык памірай з голаду, раз няма чаго есці; мала што, пры чым жа тут панская тая бульба, а? Э-эх ты, Мікі-та! А як па-твойму?

— Я ў гэтым мала разбіраюся,— адказаў селянін.— Нам гэта невядома, гэта вам больш ведаць.

— Чаму мне? Мая справа дзяцей вучыць, каб бацькоў слухаліся, каб богу маліліся, каб паноў паважалі...

— Дзеці дзецьмі, а старым сваё трэба, во што я вам скажу. Можна часам і расказаць ім тое-сёе, канешне, тым, каторыя больш панятлівыя, каторыя лішне нідзе нічога не скажуць...

— Ого! Ай да Мікіта! Ха-ха-ха! Маладзец ты, Мікіта. Далібог — маладзец! А скажы, ці плоцяць яны табе

хоць колькі за тое вось, што ты пераказваеш швагру ўсё, што дзе было, што хто гаварыў?.. А? Ці, можа, ты гэта так, з добрай ласкі робіш? Няхай бы ж хоць троху плацілі, гэта ж праца не абы-якая, не тое што лёгкая каторая...

Гаварыў Буднік і, пазіраючы проста ў твар селяніну, усміхаўся, а той збянтэжана лыпаў вачыма і адводзіў погляд свой ад настаўнікавых вачэй.

— Што вы, што вы гэта, пане настаўнік,— спужана загаварыў ён.— Я такой справай не займаюся, няхай мяне бог пакарае, калі што якое, во што. Па мне няхай што хочуць гавораць і то мне нічога, во што. Гэта вы, пане настаўнік, крыўдзіце мяне. Я... ды няхай мне язык вось тут на месцы адсохне, во што, калі я што якое хоць калі пераказаў яму.

— Ай, які ты хітры, Мікіта.— Буднік зарагатаў.— Навошта ж табе ад мяне хавацца? Я ж ведаю. А ты і богам клянешся і языком сваім... э-э, гэтага не трэба. Служы, браце! Гіне мужык, есці няма чаго, лезе ў пельку, а ты яму падсабі, падсабі ўлезці туды, добрую справу зробіш, начальства пахваліць, мядаль калі-кольвеч, можа, дасць, калі ўдала служыць будзеш...

— Вы гэта дарэмна, пане настаўнік, напалі на мяне. Дарэмна мяне пакрыўдзілі сваімі словамі. Я да швагра свайго ніякага касацельства не маю, во што. Што ён мне? Хлебам ён мяне не корміць...

— А ты не крыўдуй. За праўду якая ж крыўда? Казённай службы саромецца не трэба. Служы, Мікіта! Цісні капейкі. Э-эх ты, Мя-а-кіта! — кроў паганая. Ну, ідзі спаць.— І, не развітаўшыся, Буднік узбег на ганак і пайшоў у кватэру, замкнуўшы за сабою дзверы. Мікіта ж пастаяў яшчэ хвіліну на двары, а потым азірнуўся на школьны ганак, паказаў ганку кукіш і пасунуўся на вуліцу.

## ПАДЗЕЯ ШОСТАЯ

Сыта палуднавалі. Пасля полудня адпачывалі ў пакоях, а пазней, напіўшыся кавы, гулялі ў садзе, блукалі па сцежках, пасыпаных жоўтым пяском, і гутарылі.

Пілацееву ільсціла, што малады і даволі вядомы прафесар-хімік Галынскі, вядомы ў Пецярбурзе як крайні радыкал у сваіх палітычных пераконаннях, прыехаў да яго на час летніх вакацый. У Пілацеева ў сувязі з гэ-

тым былі свае меркаванні. Ён дэпутат Дзяржаўнай думы. Як такі, ён лічыць сябе пераконаным земцам. Слава такая даходзіць і ў гэныя месцы, на ягоную радзіму, і Пілацееву хочацца, каб гэная слава стала большай. А пашырэнню такой славы, як нішто іншае, можа садзейнічаць прысутнасць Галынскага, ягоныя разважанні ў прысутнасці пілацееўскіх суседзяў і знаёмых.

— Вось сюдэю хадземце, я пакажу вам пітомнік. Гэта справа майго агранома... Незвычайны чалавек, я вам скажу.

Па-над сцежкаю плавалі ў цёплым паветры пярэстыя матылі, снавалі ў паветры ўзорыстыя фантастычныя тканіны. Нізка над зямлёй гудзелі чмялі і пчолы. Сытыя ад мёду пчолы падалі на пахучыя краскі і калыхаліся на лёгкіх іхніх сцяблах, упіваючыся салодкім ліпкім мёдам. А над густым царствам красак, паклаўшы цяжкое ад пладавіны галлё на арэхавыя падпоркі, стаялі радамі шырокія куртатыя яблыні. З галін спакойна і ўрачыста звісалі буйныя яблыкі. Яблыкі загаралі на сонцы, ружавелі, наліваліся празрыстым вінным сокам і пахлі. Пахла яшчэ скошаная ўранку павяўшая трава.

Збоку, паміж бэзавых белых кустоў, мільганула і знікла чыясь постаць, а яшчэ праз хвіліну Галынскі ўбачыў агранома. Ён сядзеў на лавачцы побач з жонкай Пілацеева.

Паходзіў аграном з сям'і гарадскіх мяшчан-крамнікаў, але ў гэтай прафесіі быў няўдачнікам і хутка выбраў другую, не па свайму паходжанню, і любіў пакпіць над крамнікамі, гэтым самым як бы помсцячы ім за тое, што не прынялі яны яго ў сваё асяроддзе. Кпіў над імі, друкуючы ў мясцовай павятовай газеце вершаваныя фельетоны, бо быў, акрамя ўсяго іншага, і літаратарам. Гэную сваю працу ён больш за ўсё паважаў, а на прафесію земскага агранома глядзеў як на крыніцу, што дае яму сродкі для жыцця.

Зімою аграном часцей за ўсё жыў у горадзе, а на лета прыязджаў у пілацееўскі маёнтак, блукаў па лесе і па полі, зрэдку даючы такія-сякія парады панскаму аканому, і пісаў вершы.

Пілацееў да агранома неяк прывык і пасябраваў з ім. Падабалася яму аграномава церазмерная ветлівасць і паслухмянасць і яшчэ тое, што ўмеў аграном вельмі прыгожа гаварыць. Калі збіраліся да Пілацеева паны суседзі, аграном заўжды быў цэнтрам увагі. Ён скрозь патрапляў у пару: там анекдот раскажа, там усміхнецца

акурат у патрэбную хвіліну, там слова трапнае кіне, а то, як засумуюць госці, пачне забаўляць іх і развесяліць, прымусіць зарагатаць. Штосьці паспеў пачуць пра яго і Галынскі і таму не без зацікаўленасці запытаў у Пілацеева, хто такі ягоны аграном.

— Сузон Іванавіч — цікавейшы чалавек, карысны чалавек. Калі б ён раптам знік, мне чагось не хапала б. Гэта тып інтэлігента з народа, якіх мала, якія дужа патрэбны, без якіх мы шмат у чым як без рук. Я над гэтым не раз думаў, назіраючы за студэнцтвам. Ён мог бы быць узорам для нашай моладзі.

— Можа быць, можа быць.

— Вы не верыце? А я пераконаны ў тым, што ён спадабаецца і вам, Міхаіл Палікарпавіч.

— Можа быць, я не спрачаюся. Я толькі хачу сказаць, што мы задужа багата ўзораў прыдумваем для нашай моладзі і, выбіраючы іх, кіруемся толькі сваімі густамі. З гэтай прычыны моладзь наша не ўмее быць падобнай на тых, каго мы раім за ўзор для яе.

— Прабачце, але мне здаецца, што ў вас гэта ў прывычку ўвайшло: абавязкова і ва ўсім пярэчыць агульнапрынятаму.

— Гм... а пры чым жа тут агульнапрынятае?

— Я маю на ўвазе нашыя спрэчкі аб дзейнасці земстваў, паколькі Сузон Іванавіч акурат і з'яўляецца працаўніком земства. Такіх працаўнікоў па ўсёй Расіі дзесяткі тысяч. Іхняя роля ў жыцці рускага народа немаленькая. Па адным, непрыкметна, яны робяць велізарную справу насаджэння сельскагаспадарчай культуры...

— Прабачце, Феакціст Антонавіч, я дужа мала часу ў вас, але мне здаецца, што аграном ваш не бывае на сялянскім полі.

— Гм... Гэта не зусім так. І прытым самае важнае — паказальнае поле, а яно на мяжы з сялянскімі палосамі. Яны маюць магчымасць бачыць непасрэдную карысць, якую даюць аграномавы парады. Вы, Міхаіл Палікарпавіч, не хочаце бачыць маштабаў нашай дзейнасці. Уся Расія ахоплена дзейнасцю земстваў. Уявіце сабе гэта, і вы адчуеце грандыёзнасць нашай дзейнасці. Земства — гэта ўцелясненне сапраўдных інтарэсаў народа.

— І ўсё ж гэта толькі крошкі, калі браць Расію з яе патрэбамі. Радзіма наша шмат у чым вінавата перад рускім народам. Нашаму пакаленню варта б скінуць са сваіх плеч грахі нашых продкаў. Скінуць іх можна сме-

лымі дзеяннямі, справамі. А ў планах земцаў, Феакціст Антонавіч, мне здаецца, больш меркаванняў, чым справы.

— Гэта няпраўда. Няпраўда, Міхаіл Палікарпавіч. У маладосці рукі задужа вялікія, яны ўсё адразу захапіць хочуць. Маладосці скрозь цесна, усяго мала. Палітыка за гэта маладосці і не любіць, палітыка з-за гэтага заўжды з маладосцю ў сварцы.

— Маладосць не загана.— Галынскі адкінуўся ўбок і, сагнуўшыся, падняў жменю скошанай травы, паднёс яе да твару.— Чалавецтва тады толькі і было б шчаслівым, калі б ішло да сваіх ідэалаў крокамі маладосці, а не старасці, якая баіцца неасцярожных крокаў і таму часцей за ўсё ахвотней топчацца на адным месцы, а не ідзе наперад. Як нідзе, гэта шкодна ў Расіі. Расіі, Феакціст Антонавіч, патрэбна дэмакратыя, якая паставіла б Расію маральна поплеч з перадавымі еўрапейскімі дзяржавамі. А то нас хутка абгоніць Кітай, так-так, нават Кітай. Нам патрэбна такая дэмакратыя, якая мела б маральнае права гаварыць ад імя ўсяго рускага народа і народаў, якія насяляюць Расію. Дэмакратыя, якая раз і назаўжды скончыць з дэспатыяй. А пакуль што вялікім дакорам для Расіі, для нас, стаяць у нас перад вачыма такія падзеі, як пецярбургскія студзеньскія пятага года. У гэтым праклящце Расіі, наша ганьба...

— Ну, Міхаіл Палікарпавіч, гэтак нельга. Патрэбна большая цвярозасць. У палітыцы цвярозасць самая неабходная якасць. Палітык не мае права гарачыцца і, прабачце, хапаць цераз край, як гэта робіце вы, мой малады сябра.

— Вы патрабуеце большай цвярозасці? Добра. Я буду разважаць так, як вам хочацца. Расія эканамічна і культурна засталася далёка ззаду ад еўрапейскіх дзяржаў. Прычына гэтаму — дэспатычны парадак. Дэмакратыя будзе велізарным стымулам да прагрэсу. Дайце Расіі сапраўдную дэмакратыю, і цераз два дзесяткі год, а можа, яшчэ і раней, яна стане ў адзін рад з перадавымі цывілізаванымі краінамі Еўропы. Расія скіне тады з сябе ўсе сляды азіятчыны. Вось, паважаны Феакціст Антонавіч, мой план, выкладзены зусім цвяроза.

— Я разумею вас, Міхаіл Палікарпавіч, але зразумейце ж і вы мяне. Паспрабуйце зрабіць гэта, і вы ўбачыце вялікую крэўнасць нашых ідэалаў. Хіба ж мы не таго самага хочам? — Пілацееў шырока развінуў рукі.— Толькі мы, Міхаіл Палікарпавіч, з магчымасцямі лічымся, а вы не хочаце лічыцца. Земцы не ворагі дэмакратыі,

але саюзнікі, так-так, самыя блізкія яе саюзнікі. Нашыя ідэалы гэта і ёсць рэальнае ўвасабленне той дэмакратыі, пра якую вы гаворыце. Так-так, так яно і ёсць, і іншай формы для сваёй дэмакратыі вы не знойдзеце. Мы робім для народа і ад яго імя.

Сцежка павяртала за кусты малінніку. І адразу на завароце Пілацееў змоўк і спыніўся, углядаючыся ў прасцяг саду, дзе купкай стаялі дзеці, а пасля рашуча пайшоў да іх проста па садзе. Следам за ім пайшоў і Галынскі. Калі падышлі бліжэй да месца, дзе былі дзеці, Галынскі спалохана спыніўся.

На дрэве, на таўстой галіне, сядзеў Пілацееў-студэнт і трымаў у руцэ канец вяроўкі, якая была наматана ў некалькі столак на галіну. Каля дрэва паўкругам стаялі дзеці, і пасярод іх, на вяроўцы, вісеў стары аканомаў сабака. Студэнт то шмаргаў вяроўку ўгору і падымаў сабаку над зямлёй, то апускаў яго дадолу. Вяроўка сціскала сабаку горла, і ад болю сабака, калі яго падцягвалі ўгору, пішчаў, выгінаўся і падкідваў у паветры сваё старое цела, каб гэтым аслабіць вяроўку, якая душыла за горла, і дрыгаў заднімі лапамі, шукаючы, каб у што-кольвеч уперціся імі. Лапы апоры не знаходзілі і дрыгалі ў паветры, а дзеці рагаталі следам за студэнтам. Студэнт шморгаў за вяроўку, прыцмокваў языком і пакрыкваў на сабаку. Урэшце, акурат калі Галынскі з Пілацеевым падышлі ўжо зусім блізка, сабака павіс нерухома, выставіўшы перад сабою лапы, а потым з адчаем замахаў лапамі, каб учапіцца імі за вяроўку, закруціў галавою, ловячы вяроўку зубамі, але не злавіў яе і, абяссілеўшы, павіс, драпаючы лапамі перад сабою паветра.

— Кіньце! Што вы робіце!

Галынскі кінуўся да дрэва, але яго абагнаў Пілацееў-бацька. Ён выхапіў з сынавых рук вяроўку, шмаргануў яе да сябе, і цела сабачае паступова, як разматвалася вяроўка, абсунулася на зямлю. Дзеці прыціхлі і адышлі ўбок. Студэнт пасядзеў яшчэ хвіліну на дрэве, збянтэжана ўсміхаючыся Галынскаму, і, не знайшоўшы ў таго спачування свайму ўчынку, спрытна саскочыў з дрэва на зямлю.

— Вельмі цікава назіраць, як канае сабака,— сказаў ён.

— Сорам! — угневана сказаў да студэнта бацька.— Чорт ведае, чым ты займаешся. Сорам, Адам.

Галынскі разгублена азірнуўся наўкола і маўчаў.

Было жаданне падысці да студэнта і з абурэннем сказаць яму адно толькі кароткае і грубае слова, але ён гэтага не зрабіў і толькі здзіўлена павёў плячыма. Ён нічога не сказаў студэнту і тады, калі той зноў загаварыў пра сабаку.

— Бачылі, як яна драпала кіпцюрамі? Інстынкт. Шукала, каб за што-кольвеч зачапіцца і выратавацца.

Цяпер ужо хацелася моўчкі падысці і стукнуць студэнта па твары. Бацька разгадаў маўчанне Галынскага і яшчэ раз сказаў да сына:

— Не разумею, як гэта прыйшло табе ў голаў такое глупства? Сорам... Чорт ведае, што такое. Ты мяне гэтым зусім здзівіў, я цябе не разумею... Ідзі, скажы, каб сабаку выкінулі з саду. А вы, Міхаіл Палікарпавіч,— звярнуўся ён да Галынскага, разумеючы, што той хоча застацца адзін,— пэўне, пойдзеце адпачыць? Ідзіце, а я займуся гаспадарчымі справамі.

Галынскага Пілацеевы змясцілі ў пакоі сваёй хатняй бібліятэкі. Невялікі ўтульны пакой бібліятэкі мясціў у сабе цяжкі пісьмовы стол і дзве шырокія шафы. Да іх цяпер далучыўся яшчэ драўляны шырокі і нізкі ложак. Усё: і стол, і ложак, і кніжныя шафы былі зроблены цярплівым майстрам, які быў і надзвычай удалым разьбяром. Цяжкі стол упіраўся ў падлогу чатырма моцнымі звярынымі лапамі з выпушчанымі кіпцюрамі, а з-пад краёў яго ва ўсе бакі паглядалі злосныя сабачыя пысы з аскаленымі зубамі. Па дубовых спінках ложка віліся кляновыя галіны ўперамешку з дубовымі, и якіх, паміж лісця, звісалі жалуды. Але прыгажэй за ўсё былі зроблены шафы для кніжак.

Шафы выстаўляліся напаказ сваімі багатымі, укве чанымі дзівоснай разьбой, краямі, непадобнымі адзін на адзін. То ад самай падлогі віўся ўгору густым вянком спелы пажоўклы хмель; то абвісалі цяжкімі гронкамі спелыя чырвоныя вішні; а то раптам шырока раскідваў сваё веццe пышны ружовы куст. І ва ўсім гэтым, пад зашклёнымі дзверкамі, мясціліся ў кружках выразаныя на дубе барэльефам твары вядомых пісьменнікаў і паэтаў даўнейшых часоў. За ўсім гэтым панавала спакойная змрочнасць, хаваючы ў сабе шчыльныя рады дарагіх і рэдкіх кніжак. Галынскі звычайна падоўгу выстойваў перад шафай, раней чым адчыніць яе дзверцы, і з-за шкла ў дзверцах любаваўся кніжкамі, стараючыся адгадаць іх. У такія хвіліны ён клаў на шкло далонь рукі і слухаў, як ідзе ад шкла да рукі прыемны халадок і з ім

спакой. Калі шкло награвалася ад рукі і рука пераставала адчуваць гэны холад, ён адчыняў дзверцы і зноў стаяў перад кнігамі, выбіраючы, якую б узяць у рукі. На гэты раз ён больш, як звычайна, прастаяў каля шафы ў прасторы паміж яе расчыненымі дзверцамі. Быў тут свой асобны схаваны свет. Ад кніг ішоў своеасаблівы пах. Шчупаючы вачыма іхнія вокладкі, Галынскі адгадваў назвы кніг, і тады пачыналі ажываць у ягоным уяўленні даўно знаёмыя вобразы людзей. Некалі яны жылі, блукалі пешшу і ў карэтах па неабдымных прасторах Расіі і еўрапейскіх дзяржаў, жылі ў сваіх маёнтках, служылі ў дэпартаментах і казённых канцылярыях, дзейнічалі, а пасля, схопленыя пяром аўтараў, паслухмяна ўвайшлі ў кніжны свет, каб час ад часу, ажываючы са старонак кніг, напамінаць аб сабе і сваім часе. І цяпер жывымі бачыў іх Галынскі. Яны выглядалі з цёмнай глыбіні шафы, з-за шчыльных радоў кніг, выскальваліся ў злосных, саркастычных ухмылках, смеючыся над ім і яго сучаснікамі.

Разам абедзвюма рукамі ён шчыльна прычыніў дзверцы шафы і адышоў да стала. На стале ляжаў томік вершаў. Белыя старонкі з калонкамі вершаў заціснуты ў масіўную, цёмнага колеру, вокладку. Кніга такая заклікана абуджаць панурыя пачуцці. Галынскі падняў кнігу са стала і наўгад разгарнуў яе.

Уж слишком отрывочна жизнь и вселенная;
К профессору-немцу пойду непременно я;
Наверное, жизнь не оставит он так:
Системы придумает, даст им названия...
Надевши халат и ночной свой колпак,
Он штопает дырки всего мироздания.

Галынскі прачытаў верш і, не стрымаўшыся, раптам голасна зарагатаў.

— Ха-ха! У самы б раз пачытаць гэта прафесару-немцу... Ха-ха-ха! — І гэтак жа раптам змоўк.— А мне?..— зноў наўгад разгарнуў кніжку і, шырока ўсміхаючыся, некалькі раз голасна прачытаў радкі, якія трапілі на вочы.

Как дивно солнце ни свети,
А все ж оно должно зайти.

Тады згарнуў кніжку, паклаў яе на стол і, асцярожна ступаючы па падлозе, каб не парушаць цішыні, што ўсталявалася ў пакоях, пайшоў на веранду. Парашыў

ён пасядзець колькі хвілін на верандзе, а пасля схадзіць на возера пакупацца. Апынуўшыся ў суседнім з верандай пакоі, ён спыніўся і застыў на месцы. На верандзе Пілацееў гутарыў з сваім аканомам. Аканом, высокі цяжкі чалавек, цэлыя дні снуе то дзесьці ў полі, то па двары, тупаючы цяжкімі ботамі, з высокімі, аж за калені, халявамі і бесперапынку выцірае вечна ўспацелы свой лоб. Галынскага асабліва здзівіла адна аканомава прывычка. Ён ніколі не надзяе на галаву шапку, але абавязкова носіць яе з сабою ў левай руцэ, куды б ні ішоў, ці далёка, ці блізка.

За час, які жыве ў гасцях у Пілацеева Міхаіл Палікарпавіч, ён змеціў шмат чаго новага для сябе ў натуры Пілацеева. Гэнае новае і цікавіла, бо неяк не вязалася яно з агульным уяўленнем аб прафесары Пілацееве, дэпутаце Дзяржаўнай думы.

Здзівіла Галынскага ягоная хітрасць, уменне прытварацца. Пра што б ён ні гаварыў у прысутнасці старонніх, ён заўжды ўмее быць незвычайна спакойным і добрым. Спакой асабліва ў пальцах рук. Гаворыць ён, паклаўшы тонкія пальцы рукі на краі стала, і трымае іх выцягнутымі, нібы напаказ выстаўляе. А Галынскі адгадаў, што робіць ён гэта свядома, так, каб па руцэ кантраляваць сябе. Спакой і добрасць у Пілацеева знікае, калі ён гаворыць з кім-кольвеч адзін на адзін, ці то з аканомам, ці то з жонкай. У такі момант акурат і патрапіў цяпер на веранду Галынскі. Пілацееў стаяў, перавесіўшыся цераз стол, ушчаперыўшыся рукамі за край яго, і не крычаў, а злосна шыпеў у бок да аканома. Аканом стаяў перад ім і, спалохана камечачы шапку, зусім як селянін, апраўдваўся. Калі на веранду выйшаў Галынскі, Пілацееў хуценька адхінуўся і сеў за стол і, яшчэ не паспеўшы схаваць злосць, з робленай усмешкай, сказаў:

— Патравілі мужыкі сенажаць. Цэлы табун кароў па сенажаці прайшоў, а Ермалай Трыфанавіч,— ён кіўнуў галавой у бок на аканома,— не забраў табуну, пашкадаваў мужыкоў. А ім прашчаць нельга. Чым больш ты ім просціш, тым больш яны табе нашкодзяць.

Аканом змаўчаў, а Галынскі папрасіў прабачэння, што перашкодзіў ім, і пайшоў у сад. З'явілася думка, што гаворкі пра земцаў і іхнія ідэалы былі для Пілацеева накшталт аканомавай прывычкі насіць з сабою шапку і ніколі не надзяваць яе на галаву. Гэтыя гаворкі былі ў значнай долі модай і былі для знаёмых, для

гасцей і агулам для староннніх. У гэтым быў і адзін з сакрэтаў прывязанасці да агранома, без якога Пілацееву не хапала цэльнасці. Сувязь з аграномам, з гэтым земскім дзеячом, толькі лішні раз падкрэслівала перад староннімі лібералізм самога Пілацеева.

Перад тым як пайсці да возера, Галынскі прысеў на лавачцы каля бурштынавага куста. Хутка мімаходзь па садзе, тупаючы цяжкімі ботамі па нагрэтай сонцам зямлі, прайшоў аканом. Ён ветліва заківаў Галынскаму галавой, махнуў рукою з насоўкай і выцер успацелы лоб, а тады нешта сказаў пра гарачыню. Галынскі сказанае толькі адгадаў, бо слоў не пачуў. І ветліва ўсміхнуўшыся яму, гэтак жа нешта невыразнае сказаў пра надвор'е. З гэтым падняўся з лавачкі і пайшоў да возера.

Далёка ў лесе, за возерам, дзе плыло над верхавінамі дрэў вячэрняе сонца, трубіў пастух. Над возерам лёталі, сцелючыся па-над самай вадой, ластаўкі, дзесьці ў берагах блізка былі іхнія гнёзды. Ветру зусім не было, і вада ў возеры стаяла спакойнай, без ніводнай рабінкі. Прахладная глыбіня азёрная была цёмна-сіняй, а ў ёй, як застыглыя, нерухома ляжалі лёгкія пуховыя шматкі белаватых хмар.

Убаку, улева ад месца, дзе стаяў Галынскі, бераг азёрны зарос густым чаротам і асакой. Там, каля чароту, мітусіцца рыба. Час ад часу, гуляючы, выскачыць рыба над паверхняй вады, бліснe серабрыстай луской на сонцы і цяжка плёхнецца назад у ваду, парушаючы яе люстэрны спакой. Тады нараджаюцца на вадзе і бягуць у бакі па возеры, забіраючы ўсё большы і большы прастор, роўныя, як бы кім размераныя, кругі. Рыба пойдзе далёка на халоднае азёрнае дно, а кругі яшчэ доўга жывуць, пакуль не сатруцца [redacted] люстэрна-гладкай паверхні вады.

На другі бок возера, над самым яго берагам, стаяць высокія гонкія алешыны, глядзяцца ў вадзяную чыстую прахладу і ўбіраюць яе ў сябе густым лісцем схіленых да самай вады галін. Захацелася Галынскаму ўвайсці ў ваду і паплыць аж туды, да тых дрэў.

Не спяшаючыся, скінуў ён з сябе вопратку і хвіліну стаяў голы над вадою, дзівячыся ў яе празрыстасць. Пасля шырока развінуў рукі, напружыў мускулы і звёў іх кулакамі ля плячэй. Дыхаў поўнымі грудзямі і дзівіўся, як высока ўздымаюцца грудзі і як намнога раздаюцца яны ў шырыню. З паднятымі да плячэй рукамі пайшоў у ваду. Вада абдала ногі холадам, і рукі ад нечаканага холаду выцягліся ўдоўж цела. Вада рабілася

глыбей, і холад падымаўся па целе вышэй і вышэй. Вось ён пад самымі каленямі, і гэта асабліва непрыемна. Вось і калені ў вадзе, і яна шчакоча халадком бёдры. Вышэй і вышэй. Тады цела раптоўна лягло на ваду, а рука, закінутая далёка наперад, грэбла пад цела празрыстую тугую яе глыбіню.

Хутка рукі стаміліся, і Галынскі лёг на ваду плячыма. Ляжаў спакойна, не напружваючы сіл, і ледзь прыкметна час ад часу пашавельваў плячыма.

Лежачы, дзівіўся на свае грудзі. Правай рукой чэрпаў ваду і паліваў ёю грудзі і твар. Прыемна было адчуваць сябе дужым і радасным. І ад таго, што адчуў сілу, зноў павярнуўся тварам да вады і паплыў наперад. Быў ён у гэты час на самай сярэдзіне возера. Алешыны і другога берага ўсё былі далёкімі, недасяжнымі. Праплыўшы яшчэ колькі, Галынскі зноў адчуў стомленасць у руках і падумаў, што да берага не даплыве. Зірнуў у ваду. Вочы ўбачылі чорную бездань, і тады знізу пайшло па целе халадком адчуванне далёкага дна, якога нагамі не дастаць. Нарадзіўся страх і скаваў цела і рукі. Спяшаючыся, ён павярнуўся, каб плыць назад. Рукі ўздымаліся над вадой і білі па вадзе часцей, як трэ было. Страх, што можна страціць сілы і ўтапіцца, авалодваў Галынскім. І ён адчуў, як твар пакрыўся потам. Ацяжалелі ногі і ападалі ў ваду, цягнулі туды за сабою цела. Так здавалася Галынскаму. Спалоханы, ён яшчэ часцей замахаў рукамі, пачаў, згубіўшы над сабою ўладу, бязмэтна біць па вадзе нагамі. Рукі ў момант стаміліся і адмаўляліся працаваць. Нагу схапіла сутарага. Каб выратавацца, ён паспрабаваў зноў легчы на спіну і адпачыць, але як толькі ён лёг на спіну, адчуў, што цела не хоча трымацца на вадзе, і тады зноў хутчэй лёг на ваду грудзямі і, ужо зусім не валодаючы сабою, плыў наўздагад у напрамку да берага, плыў, пахвілінна акунаючыся ў ваду ледзь не ўсёй галавой. Вада наплывала ў рот, у нос і вушы і перамагала, перашкаджаючы дыханню. Стомленае цела не хацела трымацца на вадзе і ўсё часцей і часцей зрывалася, ападаючы ўніз у чорную бездань. Здавалася, яшчэ адзін момант і ўсё будзе скончана, бо рукі адмовяцца грабці. Захацелася крычаць, клікаць кагось на дапамогу.

— А вы спакайней,— сказаў нехта збоку.— Лягайце грудзямі на маю руку, вось так.

Галынскі адчуў, як нешта лягло пад грудзі і прыўзняло іх, і тады ж убачыў, што побач з ім плыве зусім

незнаёмы яму чалавек. Прысутнасць гэтага другога адразу вярнула ўпэўненасць у сваіх сілах.

— Прабачце. Я вельмі ўдзячны вам. Без вас маё становішча было б даволі незайздросным.— Ён паспрабаваў усміхнуцца.— І ўмею добра плаваць, а вось неяк здаў, раптам, нечакана... Вельмі ўдзячны. Цяпер я паплыву сам.

— Гэта здараецца. Варта згубіць упэўненасць, і цела пачынае ісці на дно.

— Я хацеў даплыць да таго берага,— Галынскі кіўнуў галавой у бок алешын.— Пасля зірнуў пад сябе ў ваду і збаяўся, што не даплыву, і страціў сілы.

Падплылі да берага. Першым на ногі стаў і палез на бераг незнаёмец. З берага ён нагнуўся, каб падаць Галынскаму руку. Падымаючыся за яго рукой з вады, Галынскі цяпер змог разгледзець рослага, шырокага ў плячах, мужчыну.

— Цяпер адпачніце, прафесар,— запрапанаваў незнаёмец, і Галынскі, здзіўлены такім зваротам, уставіўся поглядам у ягоны твар.

— Я сустракаў вас яшчэ ў Пецярбурзе,— вытлумачыў незнаёмец.

— З кім жа я маю гонар гаварыць?

— Я тутэйшы настаўнік. Спрабаваў вучыцца ў Пецярбургскім універсітэце і ў тыя часы часта чуў ваша імя.

— Як разумець вашае «спрабавалі вучыцца»?

— Па раду прычын я вымушан быў пакінуць універсітэт. Гэта не можа цікавіць вас.

— Наадварот, нават вельмі цікавіць, і, калі можаце, я прасіў бы назваць прычыны.

— Я быў арыштаваны, а пасля мяне паслалі сюды жыць.

— Нават так? Вашае прозвішча дазвольце ведаць?

— Буднік, Павел Андрэевіч.

— Вельмі рад. Буду рад бачыцца з вамі.— Галынскі цяпер яшчэ ўважлівей агледзеў незнаёмца з ног да галавы.— Вы, пэўне, зможаце багата цікавага расказаць з жыцця сялян.

— Цікавага, уласна кажучы, мала. Жыццё тут напаўжабрацкае, галоднае, цяжкае.

— Прафесар Пілацееў, тутэйшы абшарнік, гаварыў мне, што суседнія вёскі цяпер выдзяляюць на хутары. Я думаю, што гэтак будзе значна лепш.

3 Зак. 2947

— Думаю, што не так. Бяда ўся ў зямельным галадзе. А хутары зямлі не прыбавяць.

Гаворачы, настаўнік апрануўся і тады пайшоў за Галынскім да месца, дзе ляжала ягоная вопратка. Калі апрануўся і Галынскі, яны селі на ўзгорку, на мураве. Настаўнік сядзеў, шырока расставіўшы ногі, і пальцамі выскубваў з зямлі калівы муравы.

— У тутэйшых вёсках працэнтаў шэсцьдзесят сялян не маюць да чаго рук сваіх прыкласці. Ім няма работы,— сказаў ён.

— Але ўсё ж рэформа, мне здаецца, значна аздаровіць сельскую гаспадарку ў Расіі. Яна ўздыме агульны ўзровень сельскагаспадарчай культуры. Мне здаецца, што сялянства ў значнай долі галадае таму, што знаходзіцца ў вялікай залежнасці ад стыхійных сіл: ад пяскоў, ад засухі, ад забалочвання. Няўзброенае ведамі, яно бездапаможна ў барацьбе са стыхійнымі сіламі прыроды.

— Селяніну перш за ўсё зямля патрэбна, прафесар, а не рэформа. Зямля і сродкі. Над большасцю сялянскіх хат вечна вісіць дамоклаў меч нядоімак. Вечна стаіць здань голаду. Хутары гэтага не знішчаць.

— А ўсё ж такі. Гэта развязвае ініцыятыву тых, хто мае зямлю. Да ўсяго карысная дзейнасць земстваў...

— Хутар развязвае ініцыятыву багатага,— перабіў яго настаўнік,— а земствы, што ж, яны не для селяніна. Гэта справа дваранская. Аграном земскі сядзіць на панскім двары. Гласныя ад сялян у земстве, па сутнасці, зусім безгалосыя, там галасоў больш дваранскіх, чым сялянскіх.

— Што ж, па-вашаму, трэба? — Галынскі цяпер адчуў, што ў сваіх развагах ён пачынае абапірацца на аргументы, якія чуў ад Пілацеева. Хацелася і цяпер загаварыць пра неабходнасць дэмакратычнага ладу для Расіі, але не ўяўляў, якім канкрэтным зместам у дадзенай справе, у пытанні пра зямлю, зможа ён напоўніць гэнае разуменне дэмакратыі, і таму маўчаў, слухаючы настаўніка.

— Спрабавалі аслабіць зямельны голад перасяленнем,— гаварыў настаўнік,— але ніхто не ведае, ці ёсць патрэбныя для гэтага запасы вольных зямель. Большасць перасяленцаў, прамучыўшыся ў тайзе некалькі год, варочаецца жабракамі назад. А хутары? Ну, што за хутар з двух дзесяцін? На гэты хутар селяніну трэба перанесці ўсе свае будыніны. Будынкі старыя. На месцы

яны стаяць, а кранi — рассыплюцца. Такія хутаране стануць сапраўднымі жабракамі...

— Дык што ж, ідэя аб дадатковым надзяленні зямлёй?

— Ва ўсякім выпадку такая ідэя жыве ў масах сялян, а падзел на хутары зрабіў яе надзвычай папулярнай.

— Але ж гэта пагражае новымі непарадкамі?

— Пагроза непарадкаў, пане прафесар, будзе жыць датуль, пакуль панская зямля не пяройдзе ў рукі сялян.

— Так, можа быць, можа быць. Але справа ўся ў метадах. Мне здаецца, што вы ўсё ж недаацэньваеце ролі гэтай рэформы і ролі асветы. Рост культурнасці абудзіць ініцыятыву, знойдуцца крыніцы прылажэння сіл, вырасце праслойка моцных сялян, падымецца ўзровень ураджайнасці...— Галынскаму здалося, што ён знайшоў патрэбныя аргументы.— Такі селянін не захоча доўгі час хадзіць пад ферулай урадніка. Ён пачне патрабаваць гарантыі палітычных свабод. Такі перад панам шапкі скідаць не стане... на такіх можна будзе абаперціся ў справе заваявання далейшых рэформ...

— Такіх будзе два-тры на вёску, а сотні ўсё ж такі застануцца без зямлі і галоднымі. Зямля патрэбна. Пытанне пра зямлю вырасце ў вялікую сілу і адыграе калі-небудзь у рускіх падзеях не апошнюю ролю. Ну, бывайце, я павінен пайсці. Буду рад спаткацца з вамі і пагаварыць.

— Вельмі рад нашаму знаёмству, бывайце.

Настаўнік надзеў шапку і пайшоў ад возера нацянькі па асінніку, а Галынскі паволі пайшоў у двор, абдумваючы тое, што пачуў ад настаўніка, і тое, што гаварыў сам. І за сябе стала крыўдна, бо ўсё, што гаварыў, цяпер не пераконвала і яго самога.

На верандзе ў двары Галынскі засціг агранома, Пілацеева і яшчэ двух незнаёмых. З імі Галынскага пазнаёміў сам Пілацееў.

— Каморнікі,— сказаў ён,— праводзяць працу ў суседняй вёсцы.— Пасля зірнуў з веранды ўбок, дзе заходзіла сонца.— Дзіўна. Я, здаецца, яшчэ ніколі не бачыў такога сонца.

Галынскі зірнуў на захад. Вялікае сонцава кола, палымнеючы, кацілася па абрысу палёў за садам і краем сваім ледзь-ледзь кранапася зямлі. На зямлі ляжалі даўгія, шырокія цені дрэў і ўзгоркаў. Зямля супроць сон-

ца чарнела і, было падобна, уздымалася краем угару насустрач сонцу. Яшчэ колькі хвілін, і сонца знікне, а пакуль яно гулліва кружыцца, павісаючы праменем на галінах самых далёкіх у садзе дрэў, на абрыўках хмар, што не паспелі сысці за небасхіл. Хмары, апаленыя сонцам, таюць і расплываюцца на небасхіле. Голле дрэў згінаецца да зямлі, а сонцаў круг растае, аплываючы па краях, расцякаецца па небасхіле над самым краем зямлі густой чырванню.

— Дзіўны вечар,— сказаў Галынскі і змоўк, слухаючы гаворку гаспадара з каморнікамі.

Водбліскамі толькі што адышоўшага дня ярка палымнела на захадзе неба. Начныя змрокі нясмела туляліся ў лесе за рэчкай. Яшчэ толькі ў лагчыне над берагамі і над рэчкай паслаўся лёгкі шызы туман, а да веранды падышоў ужо летні вечар і стаяў за верандай, дзівячыся на яе з-за парэнч, густа аплеценых зялёным хмелем. Вечар адчуваўся ўва ўсім: і ў навакольнай празрыстай цішыні, і ў няспынных, хоць і нясмелых яшчэ крыках цвіркуноў, і ў ажыўленым камарыным піску і дзынканні жукоў. І яшчэ плыў вечар над зямлёю лёгкімі посвістамі ў крыллях запозненых качак, што спяшаліся да возера.

На веранду прынеслі з пакояў лямпы і вячэру. І адразу за верандай змрокі сталі гусцейшымі, вечар падышоў яшчэ бліжэй. Большай стала і прахлада.

Галынскі сеў за стол. Ён пазіраў на прысутных і ніяк не мог вызваліцца ад дум пра гутарку з настаўнікам. Слухаў, як булькае ў самавары вада, а перад вачыма паўставалі вобразы, народжаныя словамі настаўніка.

— Як жа жывецца тут, панове,— запытаў Пілацееў, звяртаючыся да каморнікаў.

— Незвычайна добра,— адказаў старэйшы.— Жыццё тут незвычайна добрае.

— Гэта правільна,— згадзіўся аграном.

— Гэта чыё ж жыццё такое? — зусім нечакана для самога сябе кінуў словамі Галынскі і, улавіўшы ў словах злосць, змоўк. Яму не хацелася ў гэты момант спрэчак, бо адчуваў, што будзе ў спрэчках раздражлівым і злосным, і таму застаўся задаволеным, калі на яго ныя словы ніхто не азваўся.

— Так, панове, жыць нядрэнна, жыццё — рэч добрая.— Гэта гаварыў Пілацееў. Ён сядзеў, як звычайна, адкінуўшыся да спінкі ў крэсле, так менш прыкметнай

была ягоная нізкаросласць, і павольна гаварыў, трымаючы на стале руку з выцягнутымі на ўсю даўжыню пальцамі.— У сілу сваіх абавязкаў я вымушаны жыць у сталіцы, а я надзвычайна люблю вёску. Хочацца быць блізкім да зямлі. Мяне зямля лечыць. Вы разумееце, панове, зямля — гэта ўвасабленне сілы і прастаты, добрасці і спакою. Блізкасць да зямлі робіць людзей добрымі і працавітымі, дадаў бы я яшчэ, робіць іх па-свойму мудрымі. Хіба не праўда? — ён дапытліва азірнуўся на прысутных.

Каморнікі нерухома сядзелі, услухоўваючыся ў кожнае яго слова, і старэйшы пахвілінна, ледзь не за кожным словам Пілацеева, згодна ківаў галавою. Аграном сядзеў, трымаючы ў пальцах відэлец, круціў яго, а Галынскі курыў і нервова барабаніў пальцамі па стале.

— Вялікая сіла ў зямлі,— гаварыў Пілацееў,— а мы гэтага яшчэ да канца не зразумелі. У Расіі багата зямлі. У Расіі, панове, шмат багатай зямлі...

— І на гэтай зямлі ў Расіі шмат галодных і беззямельных,— не ўтрымаўся ад рэплікі Галынскі.— А рускія гарады кішаць беспрацоўнымі...

— Але, Міхаіл Палікарпавіч, гэта пакуль што няўхільна...

— Чаму няўхільна? Гэта было б зразумелым у беднай бясплоднай краіне, але ж гэта ўсё мае месца ў Расіі з яе казачнымі багаццямі. Бюракратыя руская задушыла ўсякую энергію, усякую ініцыятыву, і галоднае сляпое насельніцтва ходзіць па краіне, шукаючы работы, ходзіць па гэтых багаццях...

— Дайце Расіі чутачку большую канстытуцыю і вы не пазнаеце яе.

— Што ж канстытуцыя? Канстытуцыя ж маецца?

— Ну, па-вашаму, пашырэнне дэмакратыі...— Пілацееў на гэты раз карыстаўся ягонымі аргументамі. Галынскаму хацелася запярэчыць і словам пра дэмакратыю, але прыпомніў, што раніцою сам аб дэмакратыі гаварыў, і змаўчаў.

— А пашырэнне дэмакратыі, панове, зменіць Расію. Расію ахлыне гаспадарчая ініцыятыва. Знікне тады наша расійская нерухомасць, наша гультайства. Рускі народ самы здольны з усіх народаў Еўропы, ён яшчэ нічым не сапсаваны. Ён вылучыць і сваіх здольных прамыслоўцаў, і сваіх разумных дзеячоў дзяржаўных, і тады пабачым, ці не прыйдзе Еўропа, каб і ў нас павучыцца таму-сяму.

— Добра, але куды ж дзенуцца сотні тысяч беззямельных, галодных сялян?

Пілацееў уважліва зірнуў на Галынскага, стараючыся разгадаць ягоную раздражлівасць, і заківаў галавою.

— Вы, Міхаіл Палікарпавіч, нешта не ў гуморы сёння. Вы наўмысля не хочаце разумець самых простых рэчаў.

— Што ж, я, Феакціст Антонавіч, вельмі дрэнны палітык.

— Ну, гэта няпраўда.

— Чаму ж няпраўда? Я зусім, напрыклад, не разумею, чым жывуць, якімі ідэаламі жывуць сёння палітыкі, пачынаючы ад самых крайніх сацыялістаў і канчаючы земцамі...

Гэта было ўжо зусім свядомым выпадам супроць Пілацеева. Пілацееў зразумеў гэта, але, каб не спрачацца, пастараўся загладзіць агульную збянтэжанасць, равёўшы гутарку на іншае.

— Міхаіл Палікарпавіч — дабрэйшы чалавек,— сказаў ён, звяртаючыся да агранома.— Вялікі філантроп і палітык у больш шырокім сэнсе гэтага слова, чым мы. Палітычныя пераконанні Міхаіла Палікарпавіча, можа быць, менш практычныя, чым нашы, затое больш агульначалавечыя.— Па твары ў яго прабегла лёгкая, ледзь прыкметная ўсмешка. Галынскі гэтую ўсмешку адгадаў, але абмежаваўся тым, што падзякаваў Пілацееву за тлумачэнне ягоных палітычных пераконанняў. Пілацееў тым часам папрасіў прабачэння і дазволу заняцца з каморнікамі гаспадарчымі справамі. Галынскі падняўся, развітаўся і пайшоў да сябе.

Апынуўшыся ў сябе ў пакоі, Галынскі паспрабаваў разабрацца ўва ўсім, што цэлы дзень займала ягоныя мыслі. Калі гаварыў, усё здавалася ясным, непахісна верным. Але варта было хоць каму запярэчыць яму, як знікала гэная непахіснасць, і тады з усёй сілай давала адчуць сябе адсутнасць цвёрдай глебы пад нагамі, таго, на што можна было б абаперціся. І вось гэтай апоры не было. Разуменні, якімі ён аргументаваў свае мыслі, былі пустымі, не мелі канкрэтнага рэальнага зместу. Ён стараўся напоўніць іх гэткім зместам, і здавалася, што робіць гэта паспяхова. За словамі аб дэмакратыі паўставаў, хоць і цьмяны яшчэ, цень новай Расіі. Але прыходзіў выпадковы чалавек, народны вучыцель, і пачынаў гаварыць пра зямлю. Тады цень новай Расіі, створанай

ім у ваабражэнні, засланяўся жабрачымі постацямі галодных сялян. Постаці брылі адна за другой натоўпамі, і вобраз новай Расіі знікаў, расчыніўшыся ў струмені галодных людзей, а ён адзін бездапаможна стаяў убаку, не ўмеючы пасабіць гэтым галодным, не ўмеючы захаваць у памяці вобраза, які стварыў для сябе і Расіі. Так было і на гэны раз. Стомлены гэтымі мыслямі, ён распрануўся і лёг, каб хутчэй заснуць. І тады ўзбрылі на памяць, абудзіўшы ўсмешку, радкі з верша:

Как дивно солнце ни свети,
А все ж оно должно зайти.

А за гэтым прыйшоў сон.

## ПАДЗЕЯ СЁМАЯ

Каморнік, падняўшы ўгору рукі, шырока раскінуў іх над плячыма і, заплюснуўшы вочы, глыбока, доўга пазяхаў. А калі апусціў рукі і зірнуў перад сабою, убачыў гаспадара.

— Ну, Мікіта Тодаравіч, рыхтуйся з сіламі, зямлі падбавіцца,— сказаў ён.

Мікіта застыў на месцы, нахіліўшыся ў бок да каморніка.

— Зямлі цяпер у Шапятоўцы здорава прыбавіцца, так што ты не зявай.

— А вы не жартуеце,— з сілай выціснуў з сябе Мікіта.

— Якія ж жарты, чалавеча, калі пан вам усё сваё балота аддае...

— Так...— Мікіта яшчэ ніжэй схіліўся і рукой упёрся ў ложак.

— На балоце тым дзесяцін гэтак чатырыста, а ён аддае вам іх за дзвесце і без усякай прыдачы, проста ў адмену.

— Ну?..

— Вось і ну. Не разумееш?

— Чаму ж не разумець? Толькі нешта яно для нашых як бы крыўдна будзе, во што...

— Крыўдна? Як жа крыўдна, калі ён вам дзве дзесяціны за адну аддае.

— Але ж там балота, якая ж яна зямля там? Там жа нават і асака расце толькі з краю.

— А вы гуртам возьмеце, канавы пракапаеце, і будзе ў вас тады залатая зямля. А галоўнае, па адной дзесяціне зусім дарэмна прыпадае вам...

— Вы, пане каморнік, жартуеце, а для нас зямля — яна самае важнае. Дзвесце дзесяцін у нас адрэзаць, гэта, як хочаш, дык кожнаму забаліць. Гэта па жывому рэзаць давядзецца. Як жа ж цяпер? З хутарамі як жа будзе?

— Некаторая перамерка будзе. Поле тут нарэжам, а сенажаці там, на балоце. Давядзецца нейкі кусок і табе там даць.

— Якія жа там сенажаці? — Мікіта выпрастаўся і стаяў з разведзенымі ў бакі рукамі.— Гэта ж, не дай бог, пекла, а не сенажаць. Гэта ж прапасці трэба...

— Табе што? Табе мы і тут каля рэчкі нямалы кавалак дадзім, ды з кірпатаўскага боку яшчэ. Табе-то плакаць няма чаго.

— Я і не плачу,— Мікіта ўраз паспакайнеў.— Я гэта да таго кажу, што людзям будзе дужа ж крыўдна, во што... А тым часам апранайцеся ды ідзіце снедаць, аладачак напякла жонка свежанькіх...

— Зараз прыйдзем, дзякую, Мікіта Тодаравіч. А ты не палохайся. Твая справа пэўная.

— Яно дзякаваць вам.— Мікіта ля дзвярэй яшчэ спыніўся.— Гм... не паняць мне аднаго толькі, адкуль гэта нашыя некаторыя пра гэта яшчэ раней дагадваліся?

— Пра адмену?

— Ага. Па вуліцы ўчора гаварылі ўжо. Яно, праўда, не дужа хто верыў, бо і пра іншае ж гаворкі ўсё ходзяць, як вам вядома, аж тут, во што... Вось табе і прырэзка...

У гэты ж час акурат прыехаў у Шапятоўку панскі аканом. Спыніўся ён насупроць Тарэнтавага двара. Тарэнта з хаты выйшаў без шапкі, у белай пачоснай кашулі. Ён здалёк яшчэ прывітаўся з аканомам, пасля адкінуў варотцы і выйшаў на вуліцу.

— Якая ж гэта да мяне ў паноў справа?

— Справа не да аднаго цябе. Можа б ты старасту сказаў ды хлапцоў паклікаў, каб сышліся. Пагаварыць трэба пра зямлю.

— Клікнуць можна, цяпер яшчэ ўсе па хатах, снедаюць. А тым часам праедзьце яшчэ троху, да Сузонавай хаты, там ужо ў нас заўжды збіраюцца.

Тарэнта адразу і пайшоў наперад па вуліцы, а следам за ім паехаў і аканом. Каля Сузонавай хаты Тарэнта спыніўся, сказаў аканому пачакаць трошкі, а сам пайшоў назад у вуліцу, каб наказаць старасту, ды яшчэ тамусяму з мужчын.

З хаты да аканома зразу ж выйшаў Сузон. Павітаў-

ся ён з аканомам, прывязаў ягонага каня за рабіну, што расла на двары ў яго каля вуліцы, а тады запрасіў аканома пасядзець на прызбе. Яшчэ цераз пару хвілін вынес з хаты невялічкі ўслон.

— Сюды сядайце, а то на прызбе штаны забрудзяцца.

Хутка вярнуўся Тарэнта. Пасля прыйшоў Хвойчык-салдат і яшчэ некалькі мужчын і каморнікі. Мужчыны прыходзілі адзін за другім і паўкругам станавіліся на двары ды закурвалі, пакуль яшчэ маўклівыя, негаваркія. Толькі час ад часу кіне хто слова і зноў маўчыць, слухаючы, як практыкуецца ў заўсёдашніх сваіх жартах Хвойчык.

— Пану аканому наша шанаванне,— кажа Хвойчык, нізка згінаючыся ў паясніцы.— З самым сонцам нешта вы да нас прыехалі, ці не з добрым чым?

— А калі ж гэта я да вас з паганым ездзіў?

— Нешта і я таго не прыпомню. Дык ці з прырэзкай, пан, да нас, ці з абрэзкай?

Мужчыны нарыхтаваліся слухаць, што скажа аканом. Стаялі моўчкі.

— Я да вас, хлопцы, не жартаваць прыехаў,— сказаў ён, падымаючыся з услона.

— А мы ж як бы і не жартуем. Пану, пэўне, весела жыць, што яму ўсё жартам здаецца.

— То добра, то добра, пане мой каханы, калі ты не жартуеш. І я прашу цябе памаўчаць.— Аканом дастаў з нутраной кішэні складзеную ў чатыры столкі паперу, разгарнуў яе асцярожна і перадаў каморніку.— Вось пан каморнік няхай прачытае, а жарты, пане мой каханы, на іншы раз адкладзем.

Каморнік узяў паперу, правёў перад тым, як чытаць, рукой па твары, выцер губы, пасля павольна, слова за словам, прачытаў напісанае на паперцы.

Як толькі ён скончыў, некалькі мужчын, у тым ліку і староста, пацягнуліся рукамі да паперкі.

— Гэта калі ж той праект быў, каб рабіць адмену? Хто гэты праект сачыняў?

— Праект складалі мы, зыходзячы з меркаванняў мэтазгоднасці,— адказаў каморнік.— Намі ўлічвалася малазямелле і тое, што такая адмена пазбавіць вас ад залежнасці ад панскіх зямель, якія абкружаюць вас...

— Вось вам, хлопцы, і прырэзка, а вы ўсё не верылі,— сказаў Хвойчык зусім спакойным голасам, пры агульным яшчэ маўчанні.

— І якая прырэзка,— падтрымаў яго Мікода Жук,— хочаш касі, хочаш дровы сячы, хочаш плавай...

— Ты гэта, Мікода, кінь, гэта табе не жартачкі, зямлі лішаюць, поля сухога лішаюць, а ты!..

— І ўзапраўду, няма чаго жартаваць, няма чаго зубы скаліць. Радасць тут невялікая!

— Іч, надумаліся! Праект сачынілі!

— Але як жа ж гэта?

— Які ж гэта закон дазволіў рабіць так, а?

— Гэта ж не дай бог! Гэта ж зусім прападаць тады.

— А вы паслухайце раней толкам, што да чаго,— каморнік падняў руку, каб змоўклі.— Тут крычаць няма чаго, тут усё па закону зроблена. Адмена такая прадугледжвае вашыя ж выгады. Вам не давядзецца плаціць пану за пасбішча, і дзвесце дзесяцін зямлі вы зусім дарэмна атрымоўваеце.

— Сам тую зямлю вазьмі!

— Хай ён задавіцца той зямлёй!

— Надумаліся, афармілі, закон знайшлі!

— Але ж, для нашай выгады.

— Каб ён так на тым свеце сабе выгадаў!

— Як жа, выгада, прастор: сядай на купіну і воўкам вый, весела будзе.

— А ты кінь, Мікода, кінь зубы скаліць...

— Я зубы скалю? — Мікода, варочаючы локцямі, пайшоў цераз натоўп да каморніка і нечакана ўзяў з ягоных рук паперку, падняў яе ўгару.

— Вось хто зубы скаліць, з нас насміхаючыся. А я да таго кажу, што дурнямі быць не трэба, маўчаць не трэба. Яны закон знайшлі, і мы закон на закон знойдзем...

— Адмена законная,— скептычна кінуў каморнік, беручы з рук Мікоды паперку.

— А ты з рук яе не рві,— азірнуўся Мікода на каморніка.— Паперы з рук не рві. Калі законная, я не з'ем яе, не парву, а мне яна для слова патрэбная. Кажаш, па закону ўсё? Кажаш, што на яе закону не знойдзем? А можа, мы і шукаць таго закону не будзем, а возьмем і не дадзім пану зямлі, няхай ён на нас закону пашукае. Вось ці знойдзе ён яго, мы тады паглядзім. Вось я табе якое скажу і панскаму аканому. Няма чаго зямлю адбіраць. Мы па ёй на карачках век свой поўзалі, мы яе жыватамі сваімі выраўнялі, а ты нам балота хочаш даць? — Мікода змоўк, пазіраючы проста ў твар каморніку. Каморнік бачыў перад самымі вачыма злосныя Мікодавы вочы, чорную ягоную бараду, адчуваў на

сваім твары ягонае гарачае парыўчатае дыханне і спалохаўся, адышоў на крок назад.— Балота нам не трэба. За балота мы сваёй зямлі не дадзім!

У натоўпе загаманілі, пачалі ціскацца наперад мужчыны, каб адтуль крыкнуць свае словы. Пазбіраліся каля натоўпу і жанчыны з дзецьмі, запрудзілі ўвесь двор.

— Праўду кажа! Няма чаго дурнямі быць! Няма чаго маўчаць!

— Пайсці і сказаць яму, так і сказаць!

— Якой хваробы хадзіць яшчэ, няхай сам ідзе, калі яму трэба!

— Не даваць зямлі!

Крычалі, спяшаючыся, перабіваючы друг дружку, нібы не крыкні яны і зямля перастане быць іхняй, адмена стане тады зусім законнай.

— Не даваць! Сілай не прыйдзе браць!

— Коллем яго, калі сілай прыйдзе браць!

— А ты, пане мой каханы, пра колле крычы, ды асцерагайся,— аканом падняўся на цыпачкі і зазірнуў у натоўп, каб адгадаць, хто крычаў.— За такія словы ў суд...

— Пацалуй сам сабе, перагніся... Судом ён страшыць.

Аканом зноў падняўся на цыпачкі.

— Я, пане мой каханы, знайду цябе, не хавайся. Я табе пацалую, пане мой каханы, а не сабе. Так пацалую...

Яго перабіў Мікіта. Ён аднекуль збоку вылез і закрычаў, махаючы рукамі на мужчын:

— Ну, чаго мы крычым, а? Ці мы не людзі, што так вось лаемся, нібы той, што з-пад лазні. Тут жа пра закон справа ідзе, во што я вам скажу. А раз закон, дык неяк яно па-іншаму трэба. Гэта ж ні то, што нехта прыйшоў у тваю клець і бярэ дабро. Тут жа можна і ласкавей неяк пагаварыць, во што...

— Ласкавы ты вельмі, як жа. Унь брата ў хату не пусціў, такі ласкавы.

— Не твая тая справа, во што; брат мой, а не твой.

— Ён ласкавы, яму што ж, яму дагодзяць. Хабару даў, падмазаў...

Пры гэтых словах пачырванеў каморнік, кінуўся быў наперад, але ў час стрымаў сябе і нічога не сказаў, скептычна скрывіўшы губы.

— А ты бачыў? Ты бачыў, як я падмазваў? Ты гэта бачыў? — Мікіта лез праз натоўп да Хвойчыка, налязаў на яго, крычаў і пырскаў у твар слінаю.

— А ты не плюйся, адыдзі, ну! — Хвойчык рукой узяў Мікіту загрудкі і паціху адпіхнуў ад сябе.

— Ты мяне не штурхай, во што, ты мяне не чапай! — Мікіта лез яшчэ.— Ты мне кажы на тое, пра што пытаю!..

— А ты адыдзі! Ураз адыдзі, а то носам зямлю заарэш...

— І ты не гарачыся, Міхалка. Не чапай яго, смярдзець будзе...

— Толькі што.

— Ды пра справу трэба ж нешта думаць, а не тузацца.

— Праўда што.

— Думаць тут няма чаго,— зноў загаварыў Мікода.— Мы тут не бунтаваць сабраліся...

— А падобна на тое, пане мой каханы.

— Няхай пану тое не здаецца. Я мяркую, што мы збярэмся колькі там і сходзім сёння да Пілацеева, скажам сваё слова яму...

— А як ён нічога?

Натоўп прыціх.

— Нічога? Тады не дадзім. Не дадзім, і ўсё, няхай ён на нас управы шукае...

Аканом падаўся наперад, надзеў шапку і пайшоў да каня. Каня сам адвязаў ад рабіны і ў руках павёў на вуліцу, а ўжо там сеў у сядло. Конь затупаў на месцы, закруціў галавою, бразгаючы цуглямі, а як круціўся, гойдалася ў сядле шырокае аканомава цела і сядло рыпела цупкай, новай яшчэ сырыцай. Побач з канём стаяў цяпер Тарэнта. Ён за ўвесь час не сказаў аніводнага слова і цяпер моўчкі пазіраў то на запыленыя конскія капыты, то на вялікі аканомаў бот, пастаўлены ў заржавелае стрэмя сядла.

— Я, людзі мае каханыя, паеду ўжо,— кінуў аканом зверху,— а вы як сабе хочаце рабіце.

— Праязджай, праязджай сабе, пан,— падняў галаву Тарэнта.— У справе мы разбярэмся, праўду знойдзем, нідзе яна не дзенецца. Праўды і пану схаваць не ўдасца, вылезе...

— Ты, пане мой каханы, пра якую праўду гаворыш?

— А пра тую самую.

Аканом падабраў у руку повад і пагнаў каня, тузануўшы яго ў бок нагамі. Тады Тарэнта, памаўчаўшы, як бы сам да сябе, сказаў:

— Іч ты, надумаліся! У старца торбу адабраць рашыліся...— Як сказаў гэта, схамянуўся і загаварыў да ўсіх.— Да яго, раз ён так робіць, хадзіць няма чаго. Трэба вышэй праўды шукаць. У губерню напісаць трэба, скардзіцца, а да яго чаго ж хадзіць? Ён ад свайго не адступіцца.

— Ды канешне ж не адступіцца.

— Дык чаго ж ісці тады? Я ж і кажу да таго.

— А ты думаеш, у губерні праўду знойдзеш? Там як у Сібіры мы долю знайшлі сваю...

— А што ж, па-твойму, ужо нідзе праўды няма? Знойдзецца ж недзе...

— Праўду знойдзем, як не дадзім, і ўсё.

— За такую праўду судзіць могуць.

— Няхай і судзяць. А пакуль тое будзе, дык мы сёння да яго сходзім і скажам, што на адмену не згодны. Вось і ўсё. Я вось пайду, можа, Міхалка ды ты, ды Сузон, яшчэ, можа, хто.

— Ахрэм няхай яшчэ.

— Ага, ён жа староста.

Пасля полудня, надвячоркам ужо мужчыны накіраваліся ў панскі двор. Як ішлі па садзе, нагналі Міхаіла Палікарпавіча, павіталіся з ім і моўчкі абмінулі яго. Сяляне адразу прайшлі ў двор да веранды і там спыніліся, а Міхаіл Палікарпавіч зайшоў на веранду.

Праз нейкі час на веранду выйшаў Пілацееў. Сяляне закашлялі і паціху, амаль разам, прывіталіся.

— Што ж гэта вы да мяне талакой цэлай прыйшлі, які інтэрас маеце? — запытаў Пілацееў, падрабляючыся пад сялянскі говар.

— Інтэрас маем вялікі.

— Несправядлівасць выйшла.

— Несправядлівасць? У чым жа?

— Так, несправядлівасць. Не па праўдзе вы надумаліся адмену рабіць. І гэта не толькі што па-зямному несправядліва, а і па-боску.

— Гм... ну?

— Пра гэта ў нас і гаворка.

— Аканома вашага мы бачылі і каморніка. Усё ў іх быццам бы і па закону афармлена, толькі мы не ведаем, хто афармляў такое...

— У павеце афармлялі, там, дзе след, па ўсіх правілах, фальшы ў гэтым няма.

— Фальш у тым, што ты, пан, ад нас поле бярэш

выrабленае, чыстае, угноенае, а нам багну балотную даеш.

— Але ж я зрабіў гэта для вашай карысці. Я бяру дзвесце дзесяцін пяску, пяску ж, якое ж там поле ў вас, і ціпцу няшчаснага, а вам даю чатырыста, ажна чатырыста дзесяцін, па дзве за адну, даю гатовую сенажаць. А як пракапаеце канавы такія-сякія, будзе вам сена хоць заваліся.

— Якое ж там сена, пан, туды ж нагой ступіць нельга, там жа ж і асака расці не хоча, адна вада.

— Ваду ў канавы спусціце.

— Якія ж там канавы? Хто ж гэта іх нам капаць будзе?

— Ха-ха-ха! — Пілацееў зарагатаў.— А вы хочаце, каб нехта выкапаў? Ну, ведаеце, давайце лепш так гэта, па-суседску. Справа гэтая зроблена па закону, і гаварыць пра яе мне з вамі няма чаго. А каб было па-суседску, давайце лепш пагаворым пра пасбішчы, прагон. І лесам вы маім карыстаецеся, і лазой, і луццём. Хіба не так? А? Ніводнага ж палена дроў вы ў казны не купляеце, усё ж на маім балоце жывіцеся.

— Лесу мы вашага не чапаем, гэта вы дарэмна.

— Дарэмна? Кажаш, дарэмна? А калі злаўлю, а? Вось яно адно на адно і выйдзе. А шкоды вы мне сколькі робіце? Днямі толькі чаго нарабілі. І я не хацеў з вамі апастырацца, не забраў кароў.

Сяляне маўчалі.

— А работу дзе знаходзіце? З каго жывеце? І за жніво, і за касьбу, і за ворыва, за ўсё з мяне. Тысячы ў мяне зарабляеце...

— Гэта мы сваім мазалём зарабляем. Гэта мы, дзе хочаце, заробім.

— Дзе хочаце? Ну, пашукайце. Дарогі ў свет шырокія, можа, і лепшае што знойдзеце.

Гаварыў ад сялян амаль увесь час толькі адзін. Іншыя толькі час ад часу падтрымлівалі яго, згаджаліся з ім.

Гэта быў самы высокі, сярэдніх год мужчына. Галынскаму кінулася ў вочы, як ён увесь час у гаворцы напамінае Пілацееву аб справядлівасці.

— З-за гэтага толькі і прыйшлі? — пытаў Пілацееў.

— Гэта для нас, пане, самае вялікае. Мы справядлівасці хочам і да цябе, як да вучонага і як да дэпутата, прыйшлі пагаварыць, каб ты, пане, ад адмены адмовіўся.

— А калі я ад яе не адмоўлюся?

— Тады мы пойдзем у іншым месцы праўды шукаць.

— Нікуды мы не пойдзем,— умяшаўся ў гутарку другі селянін,— а не возьмем адмены, і ўсё.

— Як гэта не возьмеце?

— А так што не возьмем. Самі сваё поле араць будзем.

— Але ж яно маё. Яно ў хутары вашыя не ўвойдзе.

— А гэта ўжо як яно хоча, увойдзе ці не, толькі мы яго пану не дадзім.

— Не дасцё? Хо-го! Хто ж гэта вас такім гаворкам навучыў, а?

— Самі мы вучоныя, вучыць нас на такое не трэба. Як няма чаго есці, такая навука сама ідзе.

— А ты хто, стараста?

— Стараста вось ён, а я, як і іншыя, я ніхто.

— Чаму ж ты тады ад усіх гаворыш?

— Усе так гавораць, дык і я гавару.

— Праўда ж, што ўсе,— падтрымалі яго галасы.

— Бо ўсіх гэта чапае, а не яго аднаго.

— Ага... значыць, кажаце, не дасцё адмены?

— Не дадзім.

— А хто ж гэта ў вас пытаць будзе, а? Зямля тая мая. Яна ў хутары не ўвайшла, не ўвойдзе і... усё, можаце ісці.

Раптам усталявалася цішыня, Пілацееў пайшоў да сябе ў пакоі. А яшчэ праз хвіліну адзін з сялян сказаў:

— Бач, які хітры! Яго зямля... ну, што ж ты скажаш?..

— То як жа будзе? Можа б пайсці туды, папрасіць...

— А ўсё роўна прападаць, ці так, ці так: не дадзім, і ўсё, чаго за ім бегаць? Сабакі мы, ці што? За сваю зямлю, ды яшчэ бегаць, прасіць... ані дажджэ ён, здохне!..

Хтось з сялян галасна, на ўвесь двор, вылаяўся. Тады разам з гоманам яны пайшлі назад праз сад, а следам за імі пайшоў і Міхаіл Палікарпавіч. Пайшоў да возера. Тое, што яму давялося пачуць, і здзівіла яго, і балюча ўразіла. Было жаданне пайсці зараз жа да Пілацеева і пагаварыць з ім. Была ўпэўненасць, што варта сказаць Пілацееву, што гэта нядобра, што гэта не варта інтэлігента, вучонага, і ён ліквідуе ўсю гэту непрыемную справу з зямлёй. Некалькі разоў Галынскі парываўся падняцца і пайсці ў дом, ды нешта стрымлівала. Але не хацелася пакідаць гэтай справы і так, як яна была.

«Урэшце ўсё гэта можа прывесці да вялікіх непаразуменняў. Лепш урэгуляваць пытанне па-іншаму».

Парашыў адшукаць настаўніка і зразу ж падняўся і

сцежкаю ад возера пайшоў да вёскі. Як ішоў, падумаў, што вось зусім нечакана для самаго сябе ўмяшаўся ў такую важную справу. У гэтым знаходзіў нейкае задавальненне. Гэтае задавальненне пераконвала ў неабходнасці зрабіць, што надумаўся. Заняты гэтымі меркаваннямі, не заўважыў, як падышоў да самай вёскі. Пры самым уездзе ў вёску стаялі дзве фурманкі з сенам. Каля фурманак сышлося некалькі мужчын, а сярод іх быў і настаўнік. Яны пра нешта вельмі ўважліва апавядалі настаўніку, а той моўчкі слухаў. Калі падышоў Галынскі, сяляне змоўклі і хутка паехалі.

— Я вельмі рад, што так хутка знайшоў вас,— сказаў Галынскі, падаючы настаўніку руку.— Калі маеце час, я прасіў бы прайсціся са мною.

— Час у мяне ёсць. Я вас слухаю.

— Справа тычыцца вашых сялян і Пілацеева. Мне давялося чуць гутарку Пілацеева з дэлегацыяй сялян. Я не ведаю падрабязнасцей. Гутарка ішла пра адмену.

— Я гэту справу ведаю. Пілацееў дамогся таго, што землеўпарадчая камісія зацвердзіла праект адмены, выгадны для яго. Ён пераступае чатырыста дзесяцін зусім дзікага, бескарыснага балота сялянам і за гэта бярэ дзвесце дзесяцін іхняга поля і сенажаці, якія мяжуюць з ягонай зямлёй.

— Так, так я прыблізна зразумеў з гутаркі, што справа ў такой адмене. Гутарка ні да чаго не прывяла, і я баюся, што з усяго могуць выйсці вялікія непрыемнасці для абодвух бакоў.

— Чаму?

— Пілацееў вельмі цвёрда намерыўся ажыццявіць гэты праект, а сяляне заявілі, што зямлі не дадуць.

— Так і заявілі? — Буднік запытаў гэта з асаблівай нейкай цікавасцю.— Сказалі, што зямлі не дадуць?..

— Так.

— Значыць, добра. А я думаў...

— Як добра? Гэта ж і кладзе пачатак для непрыемнасцей, пра якія я гавару.

— Але ж, прафесар, для сялян не можа быць большай непрыемнасці, чым аддаць за нішто дзвесце дзесяцін сваёй зямлі. Якія ж непрыемнасці яшчэ?

— Ну, а калі яны пачнуць не аддаваць?

— Калі гэта будзе і калі ім удасца зямлі не даць, гэта будзе велізарнейшым плюсам у палітычным росце сялянства.

— Але ж справа дойдзе да суда? Пры чым жа тут гэты плюс?

— Усіх судзіць не будуць, гэта будзе нявыгадным, але затое гэта будзе добрым урокам і для Пілацеева, і для другіх. Пілацееў, прабачце, нягоднік. Я ведаю яго па Пецярбурзе. Я ніколі не думаў, што ён сумленны ў пытаннях так званай вялікай палітыкі, але я ўсё ж не думаў, што ён такі, такі вось у пытаннях адносін да сялян. У гэтых справах у яго нават няма малейшага праяўлення таго, што прынята называць чалавечнасцю.

— Добра, я не буду спрачацца з вамі пра якасці Пілацеева. Але мне хочацца, каб вы ўзялі гэную справу ў свае рукі.

— Я вас не зусім разумею.

— Бачыце, я пераконаны ў тым, што Пілацееў робіць несправядліва, і калі б сяляне паскардзіліся, мне здаецца...

— З гэтага нічога не выйдзе. Скаргі сялянскія ні да чаго не прывядуць.

— Калі б за справу ўзяліся вы...

— Шукаць справядлівасці ў казённых канцылярыях, дзе сядзяць такія ж дваране, як і Пілацееў, гэта крыху смешна.

— Усё ж такі лепш гэта, чым канфлікт.

— Наадварот, прафесар.

— Як жа наадварот? Ну, я разумею, калі стаяць на вашым пункце гледжання, гэта было б лепш, калі б такі канфлікт, хаця я ні ў якім разе яго не адабраю, калі б, скажам, такі канфлікт наспеў у маштабе ўсёй Расіі, калі б гэта насіла характар сялянскай аграрнай рэвалюцыі; але ж тут вы маеце справу з адным зусім нязначным фактам, з канфліктам, у якім абавязкова прайграюць сяляне.

— Чаму вы так думаеце, прафесар?

— Ну, што ж, хіба вы не разумееце? Зямлі не аддаць яны ж не здолеюць.

— Чаму ж не здолеюць?

— Таму хаця б, што фармальна ўсё зроблена па закону.

— У законаў не такая вялікая моц, як вы думаеце, прафесар. Уся справа ў тым, каб не сяляне хадайнічалі, а каб пачаў хадайнічаць Пілацееў. Калі сяляне будуць трымацца да канца, гэта акажа даўленне і на канцылярыю, там, уверсе. У такім выпадку сяляне могуць выйграць значна хутчэй.

— Я думаю, што можна дамагчыся зусім справядлівага развязання гэтага канфлікту.

— А я ў гэтую справядлівасць не веру. Не верац у яе і сяляне. У нас ёсць адзін селянін, Шкробат Тарэнта. Ён сам ы існы прыхільнік справядлівасці. Ён, здаецца, быў сярод дэлегацыі, але, як відаць, ён таксама не вельмі моцна верыць у існаванне такой катэгорыі, як справядлівасць. Дазвольце мне сказаць тое, што я думаю. Ні ў якую справядлівасць у дадзеных расійскіх умовах, якая бараніла б інтарэсы селяніна перад дваранствам ці рабочага перад заводчыкам, я не веру. Яе няма і не можа быць. Інакш дваранства павінна быць несправядлівым у адносінах да самога сябе. Так... і я зраблю ўсё магчымае, каб сяляне ў такую справядлівасць не верылі. Інакшага я рабіць не буду. Прабачце, але ўзяць на сябе ініцыятыву ў шуканні такой справядлівасці я не магу і зраблю ўсё, што змагу, каб сяляне яе не спрабавалі шукаць. Рабіць адваротнае, значыць сеяць дарэмныя і шкодныя ілюзіі, што такая справядлівасць існуе, а яе няма, прафесар.

— Але ўсё ж ткі? Вы забываеце, што акрамя фармальнай законнай справядлівасці ёсць яшчэ справядлівасць, як выяўленне пачуцця гуманнасці, чалавечнасці, тое, што вышэй усякіх фармальных законаў. Яно адыгрывае вялікую ролю ў справе ўплыву на фармальныя дзяржаўныя законы.

— Часцей бывае наадварот. Шукаць такой справядлівасці ў дадзеным выпадку справа яшчэ менш паспяховая, чым калі б шукаць справядлівасці фармальна-законнай.

— Можа быць, можа быць. Я бачу, што вас пераканаць у чым-небудзь дужа цяжка. Я вельмі шкадую, што вы адмаўляецеся накіраваць гэную справу ў напрамку, які я прапанаваў. Я перакананы, што калі б вы ўзяліся за гэта, справа скончылася б у карысць сялян.

— Усё можа быць, але я за такую справу брацца не магу. Гэта справа адвакатаў...

— А не рэвалюцыянераў?

— Вы ўгадалі, прафесар.

— Прабачце, што я прыйшоў да вас з такой прапановай.

Галынскі пацiснуў руку настаўніку.

— Бывайце.

Галынскі пайшоў, а настаўнік яшчэ доўгі час стаяў на сцежцы, пазіраючы ў далячынь за раку. Там пад са-

мым небакраем плылі цёмныя, густыя хмары. Час ад часу там успыхвалі бліскавіцы, і тады за хмарамі прыглушана вурчэў гром. Туды, у напрамку да рэчкі, ішоў Галынскі, і настаўнік яшчэ доўга назіраў, як чарнела прафесарава постаць, вырысоўваючыся на небасхіле. Калі Галынскі знік у прыдарожных кустах, настаўнік, спяшаючыся, пайшоў у вёску.

У сваім пакоі настаўнік знайшоў на стале ліст. Як пазнаў почырк, разарваў канверт і застыў каля акна над густа спісанымі ліасткамі паперы.

«Любы мой, дарагі, харошы! З найвялікшай радасцю я чакаю нашага спаткання. Я лічу дні. Іх засталося не так багата. А за імі столькі радасці. Цэлых дзесяць дзён мы будзем разам. Праўда, гэта зусім небагата, але ж я мірuся з гэтым, калі думаю, што на лета ўжо зусім прыеду да цябе, прыеду, каб быць нам заўсёды разам. Нам будзе хораша, праўда? Я ж так моцна, так горача люблю цябе. Ці чакаеш ты мяне? Ці хочаш, каб я прыехала? Напісала гэта і сама сябе лаю, бо дурань я за такія словы, бо хіба ж ты можаш не чакаць мяне?..»

— Якая дзівачка ты,— Буднік павярнуўся тварам да стала, на якім у белай папяровай рамцы, зробленай ім самім, змяшчалася картка Ліды Земянковай. Радасная, яна, як жывая, пазірала з карткі проста ў твар яму і ўсмешкай дражніла.— Яшчэ як рад буду, яшчэ як чакаю, а ты не верыш, белабрысая? Вось прыедзь толькі хутчэй.

А тады зноў чытаў ліст.

«...Твой апошні ліст я чытала сваім. У нашай радні ў доме шмат хто захварэў. Хвароба пачалася на тым тыдні. Хворых адвезлі ў бальніцу. Дыягназ пакуль невядомы, і як доўга яны прабудуць там, хто ачуняе, цяжка пакуль што сказаць...»

— Малайчына ты, Ліда,— ён зноў павярнуўся тварам да карткі.— Разумная ты мая, харошая...

«...Нашы вельмі рады, што ў цябе ўсё добра са здароўем. Ты малады яшчэ і павінен сваё здароўе берагчы, ставіцца да яго асабліва ўважліва. Вельмі дзякуем за навіны. Ад усіх нашых табе прывітанне. Як атрымаеш мой ліст, адразу ж напішы адказ. Я буду чакаць твайго ліста і часу, калі спаткаю цябе, роднага свайго, любага...»

Неба яшчэ не змянілася колерам, а знізу ад зямлі, дзе рэчка, падняліся змрокі. Яны гусцелі, перамяшаў-

шыся з туманамі, і плылі па зямлі ад рэчкі, запаўняючы сабою наваколле. Непрыкметна пракрадаліся ў пакой, і кутоў, з усіх бакоў, насоўваліся на стол, які стаяў непадалёк ад акна. А з двара яны гэтак жа насоўваліся на будынак школы. Хутка ўсталюецца вечар. Тады Буднік запаліць лямпу і на маленькіх, вузкіх лістках паперы будзе пісаць адказ на атрыманы ліст. А пакуль ён стаіць каля акна, абапёршыся на лушняк плячом, і перачытвае яго, аддаючыся ўспамінам. Час ад часу на твары ў яго нараджаецца радасная, ледзь прыкметная ўсмешка. Тады ён павяртае галаў у бок стала, адкуль, абкружаная змрокамі, насустрач яму пазірае Ліда, і паціху, ласкава называе яе імя.

## ПАДЗЕЯ ВОСЬМАЯ

Рыпнулі дзверы ў сенцах, паціху адчыніліся і зачыніліся хатнія. Хата сустрэла цеплынёй і прымешаным да яе пахам пракіслага свінога цеста. Насустрач узняўся з-пад стала сабака і, пазяхаючы, выцягнуўся на падлозе.

— Глядзі-тка! Гэта ж ён у хаце сядзіць, каб яго ваўкі зарэзалі. Вон пайшоў!..

Гаспадыня злезла з палка і затупала на сабаку нагамі. Тупала босымі нагамі па глінянай падлозе, і сабака не баяўся. Ён пастаяў хвіліну на сярэдзіне хаты, мяркуючы, куды б схавацца, калі гаспадыня ўзлуе, а калі яна адчыніла дзверы, не спяшаючыся пайшоў з хаты. На двары, ці то ад злосці, што выгналі з хаты, ці то з другой прычыны, забрахаў і, брэшучы, пайшоў да хлява.

Гаспадыня пазяхнула, зачыніўшы дзверы, перахрысцілася і зноў палезла на палок да дзяцей. А Павал зняў з біла над палком стары кажух, ускінуў яго на сябе і моўчкі пайшоў з хаты. Яго ніхто не спыніў, не запрапанаваў павячэраць, і ад гэтага стала крыўдна, хоць сам жа гэтага і жадаў, хоць сумысля для гэтага і не пайшоў у хату раней, калі там вячэралі.

Каля хлява Павал прыпыніўся і лёганька свіснуў. Гэта ён клікаў за сабой сабаку. Сабака моўчкі вылез з-пад варотніцы і, віляючы хвастом, пачаў лашчыцца. Калі Павал пайшоў, ён гэтак жа спакойна пацёгся следам за ім.

У пуні, у самым далёкім куце, ляжала леташняя жытняя салома. Туды першым ускочыў сабака і пачаў

масціцца спаць, а за ім, разварушыўшы трохі салому, каб была мякчэй, лёг і Павал.

— Ну, спі, Мурза,— сказаў, звяртаючыся да сабакі.— Спі, браце,— і далонню ў цемры наўгад намацаў сабачую спіну і пагладзіў яе па мяккай шэрсці. Сабака пакорліва выгнуў спіну, пацёгся галавой бліжэй да Паўла і задаволена застукаў па саломе хвастом.

У гэты момант прыйшоў у пуню Тарэнта. Ён пастаяў нерухома ў адчыненых варотах, прыслухаўся, крануўся быў пайсці назад, але затрымаўся і цераз хвіліну зайшоў у сярэдзіну пуні.

— Ты спіш? — шыбнуў Тарэнта пытаннем у цёмны кут і насцярожана прыслухаўся. У куце зашамацела салома. Гэта Павал падняўся і сеў на саломе, а замест адказу закашляў.

— Трэба нам з табой да нечага дайсці,— сказаў Тарэнта, стоячы на сярэдзіне пуні.— Жыў ты ў мяне тры гады,— голас Тарэнтаў знервавана дрыжаў і паступова выроўніваўся з тым, як ён гаварыў больш.— Я цябе з хаты не гнаў і цяпер не ганю, жыві сабе, але ты ж сам ведаеш, як мне даводзіцца...

Пуня адказвала на Тарэнтавы словы глыбокім маўчаннем, і словы ў цемры глухлі і губіліся, і было падобна, што чалавек гутарыць з самім сабою. Ад гэтага голас яго то мацнеў, то зноў рабіўся кволым, нясмелым.

— Я кажу, што трымаць цябе болей мне няма як,— раптам вырвалася ў брата пасля кароткай паўзы.— Мае харчы, ты сам ведаеш, якія. Адным словам, няма пра што тут доўга гутарыць, бо каб было на чым, дык тады жыві сабе, і ўсё, а так я ж адзін на ўсіх вас не нараблю: і на цябе, і на дзяцей сваіх...

Ён змоўк і стаяў, не кранаючыся з месца. Праз шчыліну паміж дошчак у шчыце свяціў у пуню месяц. Святло вузенькай паскай ляжала на Тарэнтавай шапцы, на шчацэ каля вуха і на свіце. Было ад гэтага ніякавата, думаў ён, што з цёмнага кута пазірае на яго Павал і бачыць ягоны твар, але не мог скранууцца з месца, так і стаяў пасярод пуні, чакаючы Паўлавага адказу на свае словы. А Павал бачыў, як знервавана шавеліцца братаў твар, і, наглядаючы за ім, маўчаў, бо не зусім добра зразумеў ён, чаго хоча той.

— Дык куды ж гэта мне цяпер дзецца?

Павал запытаў і змоўк, а пасля ні то крыўдуючы, ні то пытаючы ў брата парады, дадаў:

— Хіба ў старцы мне пайсці, ці што?..

І больш не сказаў ані слова.

— Дык што ты мяне дакараеш? — пакрыўджана азваўся Тарэнта.— Хіба ж я вінаваты ў тым, што ты такі?.. Ці гэта ўсё гора мне аднаму трэба? Мо ж і Мікіта не хвор спагадаць брату, у аднаго ж бацькі радзіліся.— І каб апраўдаць сябе, дадаў: — Каб было на чым табе сядзець у мяне, дык тады сядзі сабе, я тады нічога не сказаў бы табе...

— Я цябе не дакараю, чаго ж мне цябе дакараць? А да Мікіты я не пайду, не згадзіўся ж ён мяне тады ўзяць...

— Рабі, як сабе хочаш, але трымаць цябе болей у мяне няма сілы... Мікіта гэткі ж брат табе, як і я, аднаго бацькі дзеці...

Тарэнта пастаяў колькі хвілін яшчэ, чакаў, можа, яшчэ што скажа Павал, але нічога не дачакаўся і пайшоў, прычыніўшы за сабою вароты.

Калі братавы крокі сціхлі, Павал лёг і нацягнуў на галаву кажух. Нейкі час ён ляжаў нерухома, і спакойна ляжаў побач з ім Мурза. А пасля гаспадар доўга моўчкі варочаўся і, выпростваючыся на ўвесь рост, рыўся галавой глыбей у салому і паціху стагнаў. Сабака падняў галаву, прыслухаўся і пачаў пысай шукаць гаспадаровага твару. Але твару ён не знайшоў, не мог падабрацца галавой пад кажух. Гаспадар маўчаў, а сабака адчуў, як заварушыліся, нібы ў ліхаманцы, каляныя лапікі на старым кажусе. Нешта адгадаўшы, падаўся сабака яшчэ бліжэй да гаспадара і, аблізваючы языком шапку, пацiху працягла пішчаў і раз-пораз кратаў лапай кажух у месцы, дзе, па ягонаму ўяўленню, было гаспадарова плячо.

А тым часам Тарэнта проста з гумна прыйшоў на Мікітаў двор і адразу паляпаў яму ў акно. Мікіта толькі што паклаўся спаць і задрамаў. Ён падхапіўся з ложка і падаўся да акна, прыглядаючыся, каб пазнаць, хто там стукае ў такі позні час, а пазнаўшы брата, у адной бялізне выйшаў на двор.

— Чаго гэта ты ў такі час ходзіш? Мо што? — Ён не дагаварыў, устрывожаны нечым неадгаданым.

— З Паўлам я ото гутарыў...— Тарэнта гаварыў, пазіраючы сабе пад ногі, і дзівіўся мімаходзь на левае крысо сваёй парыжэлай світы.

— А-а! — працягнуў, здагадаўшыся, Мікіта і, заспакоены адгадкай, шырока, на ўвесь рот, пазяхнуў.— Дык што?

— Дык што? Дык што? — узлавана перадражніў яго Тарэнта.— Табе ўсё нічога, а што гэта я каму падраджаўся хіба да смерці карміць яго, рабіць на яго, ці што? Мне ёсць на каго рабіць. Поўная хата вунь, раблю, дык ніяк нарабіць на іх не магу, а ты ж, здэцца, гэткі ж брат яму, як і я. Заўтра ён да цябе прыйдзе, я адправіў.

— Я яго да сябе не прасіў,— спакойна сказаў Мікіта.— Патрэбы я ў ім аніякай не маю.

— А я маю патрэбу, што я кармлю яго цэлыя тры гады?

— Ты пасля бацькі дабро за яго ўзяў.

— Я табе тое дабро аддам, з'еш ты яго. Дабро ўзяў! А лячыў я яго за якія грошы? І сваё вунь дабро аддаў на гэта.

— Вельмі ты ўжо багата перадаў там.

— А можа, ты свайго перадаў, га? Яшчэ ўпікае...

— Я не перадаваў, бо я ж і ягонага не браў.

— А зямлю арэш?

— Зямлю я купіў, і ты зямлёй мяне не ўпікай.

— Багаты, а сэрца не маеш, як воўк.

Мікіта наступіў нагою на камень, доўга і ўпарта ўціскаў камень у зямлю і злаваў, што нельга разабраць, ці то нага падаецца мякаццю, ці то зямля.

— Ён заўтра да цябе пяройдзе. Я сказаў яму, што больш трымаць яго не буду, няма на чым.

— Хм...— Мікіта варухнуў плячыма і злосна адштурхнуў нагою камень.— А чаго ж гэта ён да мяне прыйдзе? Я ж яго не прасіў ісці.

— А куды ж ён пойдзе?

— А куды хоча няхай ідзе, мая справа якая?

— У старцы гоніш?

— Няхай сабе і ў старцы ідзе. Ці ў яго аднаго такая доля? Па старцах людзей багата ходзіць...

— Тфу! — Тарэнта злосна з сілай плюнуў сабе пад ногі і, завярнуўшыся, пайшоў з двара. Каля варот яшчэ спыніўся і кінуў у бок да Мікіты:

— Нібы гэта мне аднаму трэба... Ды няхай яно ўсё пропадам прападзе, няхай згарыць, што мне. Я гэта не абзадачваўся карміць яго да самай смерці...

Мікіта, не даслухаўшы да канца братавых слоў, пайшоў у хату.

А назаўтра абодвух братоў здзівіла, калі ў працягу цэлага ранку Павал не прыйшоў дадому. Зразу ж пасля снедання Тарэнта пайшоў у гумно. На саломе ляжаў па-

кінуты Паўлам кажух, а самога яго не было. Тарэнту рупіла дазнацца, куды пайшоў Павал. Рупіла і таму, што баяўся, каб не нарабіў брат з сабою чаго нядобрага, і таму яшчэ, што была надзея, што ўрэшце Павал пайшоў кудысь у людзі, далей ад дому. Вось чаму, калі не прыйшоў Павал дадому і ў працягу цэлага дня, не прыйшоў і нанач, Тарэнта паспакайнеў, парашыўшы, што Павал пайшоў жабрачыць. Каб зусім упэўніцца ў гэтым, схадзіў на другі дзень пад вечар Тарэнта ў Кірпатаўку да радні, хацеў дазнацца, ці не ў іх часам Павал. У радні Паўла не было, і, заспакоены, ён павольна сяішоў дадому палявымі сцежкамі. Сцежка вілася то сярод нязжатай яшчэ ярыны, то пожнямі, на якіх стаялі ў бабках снапы жыта. Стаялі бабкі даўгім радам, адна за адной, па ўсёй вузкай паласе. Час ад часу трапляла паласа шырэйшая і снапоў на ёй было больш, бабкі стаялі на такіх у два рады. Паміж палос даўгія чубатыя межы. На межах трава, лазняк і маладыя хвойкі. Межы канцамі сваімі ўпіраюцца ў бальшак, за якім сцелецца шырокі абшар панскай зямлі. Той абшар для Тарэнты стаў больш знаёмым за гэнае лета. Дзень у дзень ідзе ён туды ў заработкі: то жаць, то касіць, то прыбіраць снапы. Ходзячы, марыць аб сваёй зямлі, яшчэ не знойдзенай тут.

Па-над полем плывуць лёгкія мяккія ветры. Ад вятроў шамаціць спелае калоссе ў снапах, састаўленых бабкамі. Далёка, куды сплываюць вятры, над балотам чарнее ўпоцемках малады яшчэ лес. Густая цемрадзь вісіць над тым лесам, а Тарэнта спыніўся ў полі і блукае ў той далечыні вачыма, шукаючы ў яе нямотнасці адказу на свае мары. Нерухома, як укопаны, стаіць ён. Нешта неабдымна вялікае, урачыстае і трывожнае прыйшло ў чалавека ад шырокага палявога прастору, ад прахлады і цішыні, узяло чалавека ўчэпістымі рукамі сваімі за самае балючае, спыніла яго, і тады чалавек, як ніколі яшчэ блізка, убачыў самога сябе, зразумеў сваю прыкаванасць да зямлі, сваю вечную ад яе залежнасць і сваё бяссілле. Дзяцінства, юнацтва, маладосць, сілы ўсе — усё будзе аддадзена ёй. Рахманым зверам ляжыць зямля спрадвеку вакол гэтага чалавека і бярэ ад яго ўсё, бярэ назаўжды, не вяртаючы ўзятага, даючы яму ад сваіх вялікіх скарбаў толькі жабрацкую долю.

Усё жыццё чалавек гэны прагне большай блізкасці да зямлі, спадзеючыся ў гэнай блізкасці знайсці самога сябе, гаспадара. А зямля ляжыць вакол яго, поўная за-

гадкавасці, вабіць сваёй блізкасцю, дражніцца сваімі багаццямі і не пераступае іх.

— Каб хоць колькі, каб хоць кавалачак нейкі мне сваёй зямлі, хіба ж бы я тады жыў так?.. Хіба ж бы шляўся па чужому, губячы там свае сілы? Эх-ха!..

Тарэнта азірнуўся наўкола па полі і пайшоў. Не спыняючыся, ішоў да самага свайго двара, а ў варотцах спыніўся, упёршыся поглядам у чорную пляміну свайго акна.

З-за хмар ледзь-ледзь прасвечваў месяц, і па двары паўзлі мутныя, ледзь прыкметныя цені іх. Пад ценьмі нізкая, натапырыўшыся страхой і няроўнымі вугламі, стаяла былая стопка, цяперашняя ягоная хата, цёмная і маўклівая.

— От, здохнеш у гэтай хаце, і ніхто табе не дапаможа, ніхто па табе не спагадае.

Да хаты ўсяго некалькі крокаў. Перад вачыма ляжыць з адбітым краем камень [redacted] жорнаў. Ён замест ганка. За ім невысокі парог і вузкія дзверы. Дзверы, як адчыніш, трымай за клямку, а то адкінуцца аж да сцяны, а перад тым, як стукнуцца аб сцяну, заскрыгочуць, каўзануўшыся па глінянай падлозе. Варта б хутчэй пайсці ў хату. Там напэўне стаіць, прыхінуўшыся плячыма да печы, высокая і маўклівая ягоная жонка, чакае яго, каб разам вячэраць. У жонкі на шчацэ пад вокам барадаўка. Падобна барадаўка на слязу, і Тарэнту здаецца часта, што жонка нечага плача. Гэта адтаго, што вобраз жонкі вечна стаіць перад вачыма ў яго цяжкім дакорам за жыццё, якога не здолеў наладзіць ён і для яе, і для сваіх дзяцей. Цераз гэта і не хочацца ісці ў хату, і Тарэнта пазірае ўправа на суседскі гарод. За плотам сярод канапель стаіць там пудзіла, стаіць, здзіўлена растапырыўшы ў бакі рукі, і цікуе за ўсімі з-пад нізка насунутай на колік шапкі. Раздражняе Тарэнту пудзіла, бо заўжды здаецца яму, што нехта жывы стаіць там, сярод канапель, і цікуе за яго дваром.

— Чаго ж гэта ты як аслупянелы стаіш?

Тарэнта не чуў, як выйшаў з яго хаты Мікіта і падышоў да яго. Ад нечаканасці перапалохаўся і пачаў адплёўвацца.

— Я наўмысле зайшоў да цябе. Ты з ім, з гэтым, часта гаворыш тое-сёе, дык глядзі, во што. Чалавек ён палітычны, пад наглядам жыве. Ён тут водзіць хеўру, пакуль свайго даходзіцца, во што...

У Мікіты на круглым прыплюснутым твары скулянкай тырчыць маленькі кірпаты нос, тырчыць над самай

губой так, што аж няма дзе вусам расці, і яны падаліся ў бакі і ўгару.

— І ў каго ты толькі ўдаўся такі? На чарта табе такім займацца, а? Думаеш, разбагацееш, калі чалавека ўтопіш? Глядзі, Мікіта, некалі і ты даходзішся.

— Мне няма чаго даходжвацца. Я от цябе як брата папярэджваю, і ўсё. Не паслухаеш, дык некалі памянеш маё слова, во што.

Мікіта пайшоў да сябе, а Тарэнта зайшоў у хату, павячэраў і, сказаўшы жонцы, што сходзіць зірне на выгане каня, зноў пайшоў.

Конь зафыркаў, сагануўшы пысай па роснай мураве, і паскакаў у бок ад канавы. Праскакаўшы некалькі крокаў, ён спыніўся, прыслухаўся да наваколля і, апусціўшы галаў долу, зашамацеў губамі ў мураве. Тарэнта пастаяў яшчэ колькі хвілін на дарозе, пазіраючы, як грызе конь, і пайшоў назад у вёску на Сузонаў двор.

Хата Сузона Каляды паміж суседнімі зусім губіцца. Увечары гэта яшчэ больш у вочы кідаецца: Давыдзюковы бярэзіны, і так высокія, яшчэ больш угару лезуць і засцяць густым галлём, засланяюць неба над вуліцай і над Сузонавым дваром. А ўслед за бярэзінамі лезе ўгару вострым гонтавым дахам і Давыдзюкова хата. А з другога боку, адвярнуўшыся глухой сцяной да Калядовай сядзібы, стаіць хата Піскуна Арцёма. І Калядова хата, не ведаючы, куды ёй кінуцца, збянтэжана стаіць пасярод неабгароджанага двара, натапырыўшыся саламянай страхой і няроўна абрэзанымі вугламі, ды ад збянтэжанасці яшчэ ніжэй прысядае да зямлі. Па вышыні яна акурат у рост Хвойчыку Міхалку. Ён стаіць каля хатняй сцяны, абапёршыся на яе плячыма, а шапка ледзь не кранаецца яе страхі. Высокі, дужы ў плячах, ён, як бы наўмысля, падпёр плячыма Сузонаву хату, каб яна не абурылася.

— Ну і хата ж у цябе, Сузон,— кажа ён, варухнуўшы плячыма,— каб піхнуў, дык і абярнулася б.

— Княжацкі палац, а не хата?

— А ў цябе, Тарэнта, лепшая?

— Я ж табе не раўня, ты ж гаспадар, а я бабыль, на чужым сяджу.

— Гаспадар, толькі што...

У гэты час прыйшоў на Сузонаў двор і настаўнік. Ён павітаўся, падаўшы ўсім руку, і спыніўся побач з Тарэнтам. З ім першым і загаварыў.

— Як жа будзе, дзядзька Тарэнта? На днях жа пан

пачне поле заворваць, не слухае вашай справядлівасці ён, а?

— У паноў, відаць, справядлівасці няма. А вышэй каб пайшоў, можа, і знайшоў бы яе.

— Няма яе і там, і часу ж няма шукаць. Справа не ў гэтым. Справа ў тым, каб зрабіць усё як мага дружней і лепш, так, каб не было ім за што ўчапіцца. Як, мужчыны? Гаварылі з імі?

— Гаварылі. Араць ні за што не дадуць.

— А калі стражнікі прыедуць?

— Усё роўна не дадуць.

— Галоўнае, каб тады не спалохаліся ды не разбегліся. А яшчэ думка ў мяне ёсць, што, можа б, варта зараз жа, звозячы снапы, пачынаць сваім поле араць, не чакаючы яго. Як зааруць, яшчэ мацней будуць трымацца. Як па-вашаму?

— Так і па-нашаму. Я бо думаю, што так лепш будзе. Пакладзе чалавек сілу на ворыва, тады крыўда яшчэ большая будзе.

— Значыць, трэба з усімі пагаварыць заўтра ж, каб так і рабілі: няхай звозяць снапы і зараз жа, следам, аруць. Трэба ўсё рабіць, каб не вам бегаць ды шукаць на яго ўправы, а каб ён бегаў. А яму хутка і ў Пецярбург ехаць... Адным словам, трэба ўсё рабіць неадкладна і рабіць усім разам. Пакуль ён сюды-туды кінецца, поле будзе заворана, а тады няхай сабе і стражнікаў вядзе, тады яны нічога не зробяць... І глядзіце, хлопцы, каб хто з іх на вас не паказаў.

— Нашыя людзі не такія...

— А каго дык і вельмі трэба сцерагчыся,— сказаў Тарэнта, прыпомніўшы сваю гутарку з Мікітам.— Так і не ўгледзіш, як выкажуць, хто пачаў усё гэта. Ёсць такія, вунь хоць бы і брат мой, Мікіта...

— Мікіту прыстрашыць можна.

— Дужа ты яго прыстрашыш. Гэта ж не чалавек, а я сам не ведаю што. Ён гэта мне сёння нешта намякаў ужо, каб я не вельмі важдаўся з вамі.

— Яго прыстрашыць трэба,— паўтарыў Міхалка,— з ім няма чаго цацкацца.

— Гэта няхай тады хто-небудзь адзін зробіць,— заўважыў Буднік.

— Я і зраблю. Вось зараз жа пайду і пагавару з ім. Тошна яму зробіцца.

Цямнела. Месяц знізіўся і згубіўся ў хмарах. Усё больш і больш назойліва лезлі да людзей камары. Яны

ліплі да твару, да рук, да ног, усмоктваліся ў чалавечае цела. Людзі бараніліся ад камароў і злавалі.

— Хадземце,— запрапанаваў настаўнік.— Заўтра ж толькі пагутарце з мужчынамі, ды трэба дзейнічаць, не трэба ўпускаць часу. А ты, Міхалка, з Мікітам будзь асцярожны: прыстраш сабе, але яму асабліва не прагаварыся.

— З ім я пра што ж гаварыць буду? Яму я скажу толькі камплімантаў пару, і ўсё.

Мужчыны зарагаталі і пайшлі ў вуліцу, а Сузон застаўся стаяць на месцы. Калі адышліся мужчыны хаты на тры, ён намерыўся пайсці ў хату і тады ж заўважыў, як нехта пералазіў цераз плот з ягонага агарода на старастаў. Подбежкам ён кінуўся ў агарод, але пакуль падбег туды, больш нікога не ўбачыў і пайшоў у хату, парашыўшы заўтра раніцою сказаць пра гэта настаўніку.

Тым часам Міхалка прыйшоў у Мікітаву хату. Жонка Мікітава сядзела пры лучыне, а Мікіты дома не было.

— Не ведаю, куды гэта ён сцёгся,— сказала яна на Міхалкава запытанне.— Ды пасядзі ўжо, нікуды ж не дзенецца, прыйдзе.

І сапраўды, цераз колькі хвілін ён прыйшоў. Прыйшоў, задыхаўшыся, нечым устрывожаны. Змеціўшы ў хаце Міхалку, збянтэжыўся і доўга стаяў ля парога, абтрасаючы світу.

— Дзе гэта ты хадзіў поначы?

— У гумно хадзіў.

— У гумно? — жонка хацела яшчэ нешта сказаць, але Мікіта перабіў яе.

— Ты вось сядзі, калі сядзіш. Трэба было, дык хадзіў, мо ж парадку ніхто не навядзе.— А знайшоўшы сабе апраўданне, ён паспакайнеў і загаварыў да Міхалкі:

— Нешта ж ты позна, гэта ж ніколі не было такога?

— А як патрэба з'явілася, дык і прыйшоў. Дай выйдзем на якую хвіліну на двор.

— Сакрэт які ў цябе, ці што? Ну, хадзем.

Міхалка падняўся з лаўкі і пайшоў следам за ім. А ў сенцах, як адчыніў Мікіта дзверы, сказаў:

— Ты нашто апастыраешся з людзьмі, Мікіта, а? Чаго ты ходзіш там, дзе табе не трэба?

— Як гэта я хаджу, дзе не трэба? Што ты, чалавеча, чаўпеш?

— Я не чаўпу. Адно скажу, што ногі людзі перабіць могуць, калі будзеш лезці не ў сваё. Не ў свае аглоблі не ўпрагайся, Мікіта. Дабра з гэтага не будзе.

Мікіта спалохаўся, парашыў, што яго бачылі і пазналі.

— Далібог жа, я ото ад рэчкі ішоў, цераз Сузонаў двор, аж бачу, вы там, дык я па агародах пайшоў...

Міхалку такое Мікітава прызнанне аж падмыла.

— Дык ты і сёння бегаў за намі? І падслухаў, а?

— Далібог жа, нічога я не чуў, ад рэчкі ішоў я, во што.

— Ты мне не спавядайся, я не поп. А толькі калі ты хоць каму пра ўсё гэта скажаш, тады памятай, так гэта табе не абыдзецца. Я наўмысля пайшоў, каб гэта сказаць табе.

— Вось табе і на! Што гэта ты, чалавеча? Ці мне ўжо нельга і па зямлі хадзіць? Што ж гэта вы надумаліся? За каго ж гэта вы мяне лічыце? Ці я вораг сабе, ці што? А не дай бог, што цяпер здарыцца, дык я пакутаваць павінен? Што ж гэта вы, хлопцы, бога не маеце, ці што?

— Я табе сказаў, што трэба было, і ўсё. А ты памятай...

Міхалка пайшоў, а Мікіта, разгублены, спужаны ягонымі словамі, яшчэ доўга стаяў на двары, пакуль крыху супакоіўся, і толькі тады пайшоў у хату. У хаце, зацікаўленая тым, чаго прыходзіў Міхалка, чакала жонка і сустрэла яшчэ на парозе пытаннем.

— Чаго, чаго? Усё табе ведаць хочацца,— злосна буркнуў на яе Мікіта і са злосцю бургануў на палок з сябе світу.

— То чаго гэта цябе ўскруціла? Якое ліха яшчэ, чаго ты?

— Таго, што жыць вунь мне няма як, па зямлі ўжо хадзіць нельга мне. З'ядзяць, можа, хутка, тады от парадуешся...

Жонка больш нічога не пытала, каб не ўводзіць яго ў злосць, баялася, што пачуюць сварку каморнікі. Мікіта ж моўчкі павячэраў і лёг спаць, а ўжо ў ложку расказаў жонцы пра сваю гутарку з Міхалкам.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕВЯТАЯ

Цераз тры дні ўвечары ў школу да Будніка на паштовых конях прыехаў з пакетам стражнік. Пакетам Будніку прапанавалася неадкладна ж з'явіцца да ўрадніка,

каб даць некаторыя тлумачэнні на цэлы рад пытанняў, звязаных, як было напісана ў пакеце, з ягонай службай.

Яшчэ цераз два дні павінна была прыехаць Ліда, і Буднік падумаў, што калі нічога асаблівага не крыецца за словамі, напісанымі ў пакеце, ён зможа проста з воласці паехаць на станцыю і сустрэць яе. Ён нават рад быў некалькі такому выпадку. Ведаючы, што Ліда прывязе з сабою што-нішто з партыйнай літаратуры, ён меркаваў, як выкарыстае яе, што зможа не асабліва хавацца з ёю, калі з гутаркі з ураднікам высветліцца, што яны ні ў чым сур'ёзным яго не западозрылі. І заадно меркаваў, як бы лепш сустрэць Ліду ў сваім пакоі. Ён парашыў неадкладна ж папрасіць жанчыну, якая даглядала за школай, каб яна дагледзела і ягоны пакой. Трэба было спяшацца, і ён паслаў за жанчынай хлапчука, а сам пачаў рыхтавацца ў дарогу.

Жанчына хутка прыйшла. Здзіўленая такімі нечаканымі і познімі зборамі ў дарогу, яна запытала настаўніка, ці надоўга ён едзе.

— Дні на тры. Раней у воласць, да ўрадніка, вось нешта пакет прыслалі, а пасля на станцыю, сустракаць буду нявесту.— Ён усміхнуўся, змеціўшы на твары ў жанчыны здзіўленне.—Так, так, нявесту, у госці да мяне едзе. Вось я і хачу прасіць вас, цётачка, каб прыбралі ў мяне хоць троху, а то ж я такога беспарадку тут нарабіў, што яна спужаецца і ўцячэ назад.

— Дык гэта праўда?

— А як жа вы думалі. Самая што ні на ёсць праўда. Цераз два дні на трэці чакайце, прыеду ўжо не адзін.

— Ну, дай бог шчаслівай дарогі, калі так.

Стражнік стаяў на двары каля коней. Калі Буднік, развітаўшыся з жанчынай, пайшоў садзіцца, сеў за ім і стражнік і хутка, як паехалі, пачаў драмаць. Тады Буднік, узіраючыся ў ягоны твар, прыпомніў Пецярбург і свой арышт. Мільганула здагадка, што за ўсім гэтым выклікам цераз пакет можа хавацца таксама арышт, але ў гэта не верылася, калі бачыў перад сабою спіну паштовага рамізніка і спакойны санлівы твар стражніка, які зусім не сачыў за ім, нічога не патрабаваў ад яго, а спакойна драмаў, схіліўшыся галавой на сена. Можна было сысці з каламажкі і пайсці ў лес: ён бы не толькі не затрымаў, ён нават не пачуў бы. Хутка, каб больш упэўніцца ў тым, што ўсё гэта не хавае за сабою нічога сур'ёзнага, Буднік папрасіў рамізніка спыніцца, а сам злез і адышоў у бок ад дарогі. Стражнік прачнуўся, раз-

буджаны гаворкай, але нічога не сказаў яму, і калі Буднік прыйшоў і зноў сеў на сваё месца, ён, як і раней, драмаў. Гэта зусім супакоіла, і Буднік аддаўся марам пра блізкае спатканне і ўспамінам пра далёкі, даўно пакінуты Пецярбург і пра сваіх, пакінутых там, таварышаў.

У гэты ж вечар збіраўся ў дарогу, у Пецярбург, і Міхаіл Палікарпавіч Галынскі. Склаўшы свае рэчы, ён перад захадам сонца пайшоў да возера, каб паблукаць па яго беразе і пасядзець на сваім звыклым месцы. Як і заўжды, ён сеў на лавачцы і пачаў узірацца ў супрацьлеглы бераг возера, над якім высокай сцяной стаялі алешыны. Стаялі дрэвы нерухома, а пад імі, над берагам, над самай вадой, сядзеў чалавек. Ён сядзеў, згорбіўшыся, падагнуўшы пад сябе ногі так, што галава ягоная амаль ляжала на каленках. Галынскі доўга, аж да стомы ўваччу, узіраўся ў чалавека, хацеў спаймаць у ягонай постаці хоць адзіны рух, але чалавек не кранаўся з месца, сядзеў нерухома. Каля ног у яго гэтаксама нерухома ляжала нешта чорнае.

Калі Галынскі намерыўся адвесці свой погляд убок, чалавек шавяльнуўся, варухнуў галавою, зірнуў на возера, навакол сябе і, крыху падняўшыся над сагнутымі нагамі, няўдала кінуўся ў ваду. Галынскі ўсхапіўся з лаўкі і застыў на месцы. Над вадою цераз момант мільганула два разы галава, узняліся, хапаючыся за ваду, рукі, мільганула белая кашуля, і ўсё знікла. Чорнае, што ляжала каля ног у чалавека, аказалася сабакам. Як боўтнулася вада, сабака падняў галаў, насцярожана азірнуўся, прыслухаўся і, калі ўбачыў на вадзе галаву свайго гаспадара, забрахаў, бегаючы па беразе, і кінуўся ў ваду. Ён доўга з піскам плаваў па возеры, соваў у ваду пысу, фыркаў і зноў пішчаў. Стаміўшыся ж, вылез на бераг і, не страсянуўшы з сябе вады, пачаў выць. Тады Галынскі пабег у двор.

Човен падцяглі па прыбярэжным пяску да вады, і не паспеў Галынскі сесці на лавачку, як парабак спіхнуў човен у ваду. На вёслах сядзеў панскі конюх, а маладзейшы парабак, як паплылі, адпіхнуўся яшчэ ад берага восцямі, і човен роўненька пабег з-пад вёслаў па гладкай паверхні возера да другога берага, дзе выў сабака. Калі човен наблізіўся, сабака кінуўся ў ваду, падплыў да чаўна і з піскам паплыў назад, ведучы за сабою човен да месца, дзе ўтапіўся яго гаспадар. Конюх узяў восце ў рукі, стаў у чаўне на каленкі і апусціў восце ў ваду.

— Ён дзе-кольвеч тут і ляжыць,— сказаў ён, мацаючы азёрнае дно.— Сплыць далёка не сплыве, вада тут дужа павольна ідзе.

Восці стукалі жалезным рогам у дно, нічога не знаходзячы, а з дна падымаліся на паверхню вады бурбалкі. Тады падаліся з чоўнам трошачкі ўбок. Там восці і натрапілі на тапельца.

— Здаецца, знайшоў,— сказаў конюх, і паціху пачаў падымаць восце ўгору. З дна густа пайшлі па паверхні бурбалкі, усплыла жоўтая муць, а з яе, зачэпленая восцямі, выплыла белая пачосная кашуля, ды мільганула, крутнуўшыся, і зноў схавалася ў ваду чалавечая галава.

— Бяры рукамі, каб не ўпаў.

Маладзейшы ўхапіўся за кашулю рукою, а конюх паволі павёў човен пад бераг, дзе можна было лёгка вылезці на зямлю.

Човен ткнуўся тупым носам у мяккі бераг і стаў. Конюх, спяшаючыся, вылез з чаўна, папрасіў Галынскага патрымаць човен, а сам нагнуўся над вадою і пацёг тапельца на бераг. Тапельца паклалі на беразе на траве. Непадалёк ад яго сеў сабака і ўстрывожана ціха пішчаў. Галынскі нагнуўся над тапельцам і прыслухаўся да сэрца. Следам за ім паслухаў сэрца і конюх і, злёгку ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Капут яму, пане. Дзе ж ён будзе жывы, паляжаўшы ў такой вадзе. Не-е ўжо.— А пасля, прыгледзеўшыся да твару, паведаміў: — Гэта Павал Шкробат з Шапятоўкі, селянін тутэйшы.

— А як жа гэта ён, чаго?

— Наўмысля пэўне. А то што ж яму было рабіць? Ён быў сорваны, працаваць жывот не даваў, бо як возьмецца за што, яго і сагне крукам. Такі чалавек ні да чаго ў жыцці.

Конюх памаўчаў. Ён доўга ўглядаўся ў пасінелыя худыя тапельцавы ногі, на якія садзіліся камары, потым пайшоў да куста, наламаў галля з алешніку і ім пакрыў ногі і твар.

— Браты цяпер рады будуць,— сказаў ён,— хоць неяк рукі ён развязаў ім.

Галынскага словы гэтыя здзівілі і крыху спалохалі сваёй грубай праўдзівасцю.

— Яму, небараку, больш і ходу не было, як сюды от.— Ён кіўнуў галавою ў бок возера.— Як па-нашаму, ды так яно лепш, раз ужо чалавек ні да чаго няздатны,

раз такое здароўе,— дадаў ён яшчэ, змеціўшы, што Галынскі не разумее яго.

Непадалёк ад тапельца, пад дрэвам, ляжала невялікая старая торба. Конюх адышоўся, падняў торбу і зірнуў у яе. У торбе ляжала некалькі скібак чорствага хлеба і каля дзесятка спечаных бульбін.

— Ён, відаць, па старцах хадзіў,— сказаў конюх.— Ну, то гэта ўжо не жыццё, я вам скажу: хадзі, прасі, ды няхай яно згарыць, лепш ужо так от.

Ад тапельца маладзейшы парабак пайшоў у вёску, каб наказаць радні, а Галынскі з конюхам на чаўне паплылі назад на свой бераг. Там Галынскі сеў на лавачцы.

За плячыма прывычна шамацела асіннікавае лісце. Над галавой звінелі камары, а вочы блукалі па гладкім, чыстым прасторы вады, цёмным у густой сіняве саваёй, на якой жылі звонкія, у вячэрняй цішы, усплёскі рыб.

...Ад дум Галынскага адарвалі галасы, якія раптам узніклі на другім беразе каля тапельца. Відаць, прыйшлі туды сяляне цэлай групай, каб забраць нябожчыка ў хату. Галынскі па галасах адгадваў, як сяляне бралі тапельца на рукі, як паклалі на калёсы. Хутка галасы прымоўклі і ў цішыні забразгалі па лясной дарозе колы. Тады Галынскі пайшоў дадому. Там ён доўга яшчэ сядзеў сярод Пілацеевых, апавядаючы ім пра здарэнне з тапельцам. Спаць лёг позна, а раніцою адразу ж паехаў на станцыю.

Ранак быў ядраным. Сонца, адрываючыся ад зямлі, плыло ўгору і награвала зямлю, але яшчэ не было горача. Коні дружна беглі рыссю, падымаючы капытамі пыл. Пыл не паспяваў падняцца і кружыўся пад каламажкай, а пасля цэлымі слупамі доўга стаяў над дарогай. Галынскі зажмурваў ад сонца вочы і ўглядаўся ў дарогу наперадзе. Хутка ён змеціў на дарозе трох коннікаў і наперадзе ад іх некалькі чалавек, якія ішлі пешшу. Галынскі сядзеў, не адрываючы ад дарогі погляду, аж пакуль не нагналі коннікаў. Калі каламажка пачала наганяць іх, коннікі з'ехалі ў бок з дарогі і спыніліся. Спыніліся і тыя, што ішлі пешшу. Галынскі зразумеў, што вядуць арыштаваных. Ад гэтага стала няёмка. Абмінаючы іх, Галынскі прыўзняў шапку і павітаўся. Сяляне адказалі на прывітанне і тады пайшлі, а Галынскі прыпомніў, што бачыў старэйшага, з чорнай барадой, і другога, высокага, русага, на двары ў Пілацеева.

«Няўжо ж за гэтую справу з зямлёй?»

Ён звярнуўся з пытаннем да фурмана, але той пра арышты нічога яшчэ не ведаў.

Галынскі азірнуўся назад. Абкружаныя пылам, узнятым коньмі і каламажкай, ішлі па пясчанай дарозе арыштаваныя, а за імі, на адлегласці некалькі крокаў, ехалі конныя стражнікі. Галынскі падумаў, што сяляне ў гэты момант пазіраюць на яго з дакорам, і адтаго таропка адвёў погляд ад іх. Ехаў, пазіраючы сабе пад ногі, сагнуўшыся, яшчэ доўгі час баяўся падняць галаву і азірнуцца, а калі азірнуўся яшчэ раз, постаці арыштаваных сялян і стражнікаў былі ледзь прыкметнымі над далёкім узгоркам. Захацелася хутчэй ад'ехаць ад гэтых месц, дзе давялося ўбачыць так багата цяжкога і незразумелага, захацелася да сябе ў Пецярбург, у спакойную адзіноту, каб там абдумаць бачанае і зразумець яго, разабрацца ў ім, каб там вызваліцца ад пачуцця бездапаможнасці, якое нарадзілася тут, у гэтых месцах, і цяпер ціснула на мозг, прыгнечвала і не давала спакою.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕСЯТАЯ

У купэ да Ліды, у якім яна доўгі час ехала адна, зайшло двое новых пасажыраў. Адзін з іх, нізкаваслы і каранасты, лысы, з добрымі светлымі вачыма, як распрануўся ў вагоне, дык засумяціўся, раскладаючы па палічках свае чамаданы і вузлы, а другі сеў да акна паважна, праз меру спакойны ў гэтай паважнасці, і разгарнуў свежы нумар газеты. Быў гэты худашчавы, высокі, гладка прычасаны і ўвесь, ад прычоскі да даўгіх пазногцяў на пальцах левай рукі, быў задужа ён далікатны і адтаго непрыемны.

— Прабачце, я ўставаць буду.

Ліда падняла галаў і аправіла плацце. Тады пасажыр, які раскладаў свае рэчы, пакланіўся ёй і выйшаў з купэ, а другі моўчкі сядзеў, закрыўшыся газетай. Ліда скінула з сябе коўдру, седзячы на лаўцы, яшчэ раз агледзела плацце і, падцягнуўшы да сябе ногі, пачала апраўляць панчохі. Вачыма ўвесь час сачыла за суседам, які нерухома сядзеў, закрыўшыся газетай. Спусціўшы панчоху, Ліда задзівавалася сваёй нагой і, гладзячы далонню гладкую выпукласць свайго калена, усміхнулася. Пасля зноў нацягнула на нагу гладкі шоўк панчохі і, ужо зусім гатовая, спусціла ногі ўніз і надзела чаравікі. Была яна радаснай па-дзяцінаму. Радасць была задзі-

рыстай і неспакойнай. Ад гэтага, выходзячы з купэ, каб пайсці памыцца, яна кінула да свайго суседа:

— Я даўно ўжо гатовая, вы смела можаце адкрыцца,— і, не паслухаўшы, што сказаў ён, выйшла. А ў калідоры, звяртаючыся да другога свайго суседа, запытала:

— Скажыце, хто такі наш сусед па прафесіі?

— Здаецца, аграном. Земскі аграном,— адказаў той, некалькі збянтэжаны такім нечаканым запытаннем.

Стоячы ўжо над умывальнікам перад люстэркам, Ліда аблівала твар вадой з поўных далоней. Пасля дзівілася, як сцякае з твару вада, капаючы цуркам з кончыка носа, зноў смяялася і падоўгу прамывала вочы, не ведаючы, на што патраціць лішак сіл і радасць. Радасць была бязмерна вялікай, такой, калі хочацца абавязкова падзяліцца ёю хоць з кім, хто згодзіцца выслухаць. Яшчэ чатыры прыблізна гадзіны і канец дарозе, а там спатканне, так даўно чаканае. Уяўляючы ўсё гэта, Ліда жмурыла ва ўсмешцы вочы і шаптала да некага ласкавыя, пяшчотныя словы: «Любы ты мой, харошы, родны». Слухала свой голас і зноў жмурыла вочы, а тады набірала яшчэ поўныя прыгаршчы вады і акунала ў іх твар.

Калі прыйшла ў купэ, суседзі вялі паміж сабою, відаць, даўно, яшчэ да поезда, пачатую гутарку. Гаварыў больш маладзейшы, а другі час ад часу пярэчыў яму ці, не згаджаючыся з яго меркаваннямі, выказваў сваё і не для таго, каб спрачацца, а так, каб сказаць тое, што думае. І адчувалася ў ягоным голасе да ўсяго нейкая палахлівасць.

— Вайна,— гаварыў ён,— нясе ў сабе вялікую сілу разбурэння, так-так, і вы, Сузон Іванавіч, дарэмна, дарэмна вы гаворыце, што вайна танней можа абысціся, чым мір. І няхай чатыры мільёны салдат у Еўропе, і няхай яна на армію і флот страціла за леташні год чатыры мільярды рублёў, але затое ж людзі, жывыя людзі асталіся. Гэта даражэй, чым што, так-так, даражэй...

— З вашага пункту гледжання, але не з пункту гледжання агульнанародных інтарэсаў.

— Як жа ж так? — здзівіўся той.— А якія ж мае пункты гледжання? Вось я, скажам, настаўнік, дзяцей вучу. Дзеці маюць бацькоў, адзетыя, нябосыя, а тады бацькоў забяруць, каго заб'юць, каго скалечаць. Ну, гэта, ведаеце, няхай лепш міне яно, такое, так-так.

Лідзе гэная гутарка напомніла Пецярбург. Апошнія

месяцы Пецярбург жыў тэмай вайны, якой яшчэ не было, але якую прарочылі і ўгадвалі. У друку ўсё яшчэ жыло водгулле нядаўняй балканскай вайны. Журналісты стараліся адгадаць апошнюю арыентацыю Турцыі і балканскіх дзяржаў.

Газеты пісалі пра імкненні ваеннай партыі Аўстрыі і нямецкага мілітарызму. Прыпамінаючы святкаванне стогадовага юбілею руска-французскай вайны, газеты праслаўлялі палітыку Расіі, абвяшчаючы яе палітыкай міру, і кідаліся папераджальнымі пагрозамі па адрасу невядомых яшчэ ворагаў і ліслівымі паклонамі ў бок магчымых саюзнікаў. Тоўстыя часопісы змяшчалі вялікія рэфераты прафесароў і палітычных дзеячоў, рускіх і замежных, у якіх абмяркоўваліся зусім несхавана пытанні эканамічных інтарэсаў, якія будуць звязанымі з вялікай еўрапейскай вайной, і пытанні, якія былі тэмай гутаркі і Лідзіных суседзяў па купэ, у якіх палітыкі даводзілі, што захаванне міру каштуе народам намнога больш, чым выдаткі, якія былі б зроблены, калі б узнікла еўрапейская вайна. Ва ўсім адчувалася незвычайная раздражлівасць і нервовасць. Было падобна, што дзесьці зусім блізка, хоць і ўбаку яшчэ, блукае здань вайны. Палкія публіцысты штурхалі гэтую здань да актыўных дзеянняў і былі нездаволены, што народы так доўга затрымліваюцца.

— Дык няўжо ж такі можа ўзнікнуць вайна? Гэта, Сузон Іванавіч, страшна, гэта вялікая бяда, так-так, страшная бяда.

— Зусім натуральна, можа, і, можа, не ў далёкім часе.

Лідзе не хацелася слухаць гэтай гутаркі, не было жадання ўмяшацца ў яе, і яна пайшла з купэ ў калідор. Перад спатканнем, якога яна так доўга чакала, ні пра што іншае не хацелася думаць. У калідоры яна стала каля акна. Поезд ішоў сярод поля. Непадалёк ад чыгункі паказваліся вёскі. Яны вынікалі з-за ўзгоркаў і хутка знікалі, адыходзячы ў далячынь. Тады перад вачыма слаліся палявыя прасторы. За полем сінелі лясы, а перад імі на сенажацях, густа, на кожнай паласе, стаялі невысокія прысадзістыя, з вострымі вярхамі, стагі. Пасля лес, непрыкметна падкраўшыся, абкружаў чыгунку, і поезд ішоў у цяні паміж дрэў, сеючы вакол сябе пасілены водгуллем жалезны гоман.

Лідзе хацелася, каб хутчэй была патрэбная станцыя. Яна застыла каля акна, зачараваная сваімі думамі. Хацелася разгадаць, які ён, ці не змяніўся. На адзін момант

падыходзіў нечакана смутак, але яна адганяла яго, аддаючыся марам. Насустрач поезду дуў мяккі і цёплы вецер. Яна высунула ў акно насустрач ветру галаву і, зажмурыўшы вочы, адчуваючы, як кранаецца твару вецер, думала пра першы пацалунак пры спатканні, адчувала яго сваімі вуснамі і тады, выставіўшы ў акно рукі, цягнулася імі ў загубленую за лесам далячынь.

Перад апошнім перагонам зайшла ў купэ і прыгатавала рэчы. Калі поезд пайшоў ад станцыі, апранула паліто і зноў выйшла ў калідор. Яшчэ цераз нейкі час вынесла туды і чамадан. Час ад часу высоўвала ў акно галаву і пазірала наперад поезду, ці не відаць станцыі. Станцыі не было, і Ліда была задаволена гэтым, хацелася авалодаць сабой перад тым, як выйсці з поезда. Але з тым, як набліжаўся поезд да станцыі, яна яшчэ больш хвалявалася.

Поезд прайшоў па масту над рэчкай і цераз чатыры хвіліны спыніўся насупраць чырвоных сцен даўгога будынка станцыі. На момант Ліда замерла на месцы, узіраючыся ў натоўп людзей, які пайшоў ад станцыі да поезда. Пасля, як пайшлі з вагона яе суседзі па купэ, схапіла чамадан і, спяшаючыся і адтаго блытаючыся ў дзвярах, пайшла за імі. Выходзячы з вагона, адчула, як часта забілася сэрца, а рукі і цела ўсё акволела, і ногі пачалі дрыжаць. Думала, што выйдзе з дзвярэй вагона і ўбачыць яго, падасць яму руку. І ад гэтага ўсхваляваная і радасная, ледзь прыкметная ўсмешка шавяліла вусны. Выходзячы на сходкі, зірнула ў натоўп, але таго, каго чакала спаткаць, не было. Ураз сышла з вуснаў усмешка, сэрца, схопленае трывогай, сціснулася і забілася яшчэ часцей. Павольна, з расхрыстаным паліто, яна пайшла ад вагона ў бок да станцыі, усё яшчэ спадзеючыся на нешта. Яе абкружылі рамізнікі, пыталі, ці далёка ехаць, і прапанавалі свае паслугі. Не звяртаючы на іх увагі, блукаючы поглядам сярод людзей, Ліда ішла, усё яшчэ не губячы надзеі. Але таго, каго чакала, не было і ў пустой забруджанай залі станцыі, не было і на пляцоўцы за вакзалам. Не ведаючы, што рабіць, зусім разгубленая, яна моўчкі стаяла на высокім станцыйным ганку. Рамізнікі наперабой нешта гаварылі ёй, а яна не слухала іх, думала, што зрабіць: ехаць туды ці пачакаць поезда і, захаваўшы крыўду, паехаць назад? «А можа, ён не атрымаў тэлеграмы? Ці, можа быць, захварэў, што ж гэта я». І ўжо не пярэчачы, калі рамізнік узяў з яе рукі чамадан, пайшла за ім. У высокіх

мажарах, засланых сенам, на сундуках і карзінах сядзела ўжо чацвёра чалавек. Гэта былі, як пасля высветлілася, местачковыя пагулянскія жыхары. Яны спаткалі Ліду, доўга разглядаючы яе, стараючыся прызнаць у ёй знаёмую, а не прызнаўшы, запыталі, адкуль і куды едзе, і тады пачалі, запамятаўшы на яе, гаварыць пра сваё. Фурман пайшоў яшчэ да вакзала, але хутка вярнуўся, не знайшоўшы болей пасажыраў, і, прымасціўшыся наперадзе, так, каб паставіць на аглоблі ногі, пагнаў коней.

Калі пабеглі рыссю коні і мажары забразгаталі жалезам тоўстых шын па шашы, Ліда пачала пераконваць сябе ў тым, што той, каго яна чакала спаткаць, не прыехаў па нейкай важнай прычыне.

Коні беглі рыссю. Мажары ўздрыгвалі, ляскаталі жалезам і перашкаджалі думаць. Пасажыры, прыгрэтыя ранішнім сонцам, пачалі драмаць, а Ліда прымасцілася, як ямчэй, і, аблакаціўшыся на драбінкі, моўчкі пазірала ў поле.

У мястэчку Ліда на некалькі хвілін зайшла ў харчэўню, каб папалуднаваць, а пасля наняла рамізніка і паехала далей. Надвячоркам, ужо зусім змучаная дарогай, калі павольна крочыў ляны і стомлены конь, і з'езджаная каламажка пахвілінна бранчэла старымі рысорамі, Ліда задрамала. А калі прахапілася і раскрыла вочы, выязджалі з лесу. У гэты момант рамізнік павярнуўся тварам да яе і паказаў пугаўём у напрамку да зараснiку, які бачан быў наперадзе на ўзгорку.

— Вось там і Шапятоўка, зусім ужо блізка.

Ліда паднялася з месца, стала ў каламажцы, але нічога яшчэ не ўбачыла, акрамя зарасніку. Цяпер вярнуўся настрой, які быў у вагоне. Зноў, занятая думкамі пра спатканне, яна захвалявалася і папрасіла рамізніка падагнаць каня. Цяпер хацелася як мага хутчэй даехаць да вёскі. Уяўляла, як уедзе ў вёску і знойдзе школьны будынак. Калі ён у сваім пакоі, то выйдзе на ганак і ад нечаканасці, калі не атрымаў тэлеграмы і не ведае пра яе прыезд, разгубіцца. А яшчэ лепш, думала Ліда, калі б яго ў пакоі не было. Тады яна зайшла б туды і моўчкі чакала б яго. Знайшоўшы яе ў сваім пакоі, ён быў бы бязмерна рад. Яна чакала б яго, як заўжды там, у Пецярбурзе, згарнуўшыся дзе-небудзь на канапе ці на лаўцы. А пасля яны цэлы вечар сядзелі б побач,— яна расказала б яму багата цікавага пра сябе, пра Пецярбург і пра іхніх агульных таварышаў.

Па вясковай вуліцы конь ішоў ціха, і Ліда, ужо не ўмеючы ўседзець на месцы, разглядала вясковыя будынкі, стараючыся адшукаць школьны. Здавалася, што конь ідзе задужа павольна; нездаволеная маруднай яздой, яна некалькі разоў парывалася сысці з каламажкі і пайсці пешшу.

З двароў на Ліду пазіралі дзеці і жанчыны. Жанчыны некаторыя выходзілі з двароў на вуліцу, віталіся з Лідай, ішлі следам за каламажкай, разглядаючы яе. Непадалёк ад школы адна з іх падышла да каламажкі.

— Вы, гэта, паненачка, мусіць, да нашага настаўніка прыехалі?

— Так. А вы яго ведаеце?

— А як жа, ведаю, добра ведаю, ён і казаў мне, што вы прыедзеце...

— Гаварыў?

— Гаварыў, і так рад быў, што вы прыедзеце.

Абрадаваная гэтымі словамі, Ліда ўсміхнулася.

— І сказаў, што прыедзеце вы разам, прасіў, каб я пакой прыбрала.

— Яго няма дома? — Ліда паднялася і схапіла рамізніка за плячо.— Стойце.— Лідзе хацелася разабрацца ў тым, што гаворыць сялянка.

— Я ж і кажу, што ён папрасіў мяне прыгатаваць пакой, а сам паехаў у воласць, нейкі пакет яму стражнік прывёз быў. Паехаў і сказаў, што адтуль па вас паедзе і прывязе. Я вось гэта і гляджу, што вы адна едзеце... Няўжо ж размінаваліся дзе, ці што?

— Кажаце, стражнік прыязджаў? Даўно? — у Ліды мільганула думка пра арышт.

— А ўжо трэці дзень сёння. Акурат увечары паехаў...

— Значыць, яго арыштавалі,— хутчэй падумала, чым сказала Ліда.

— Што вы, паненачка? Завошта ж? Не дай бог!

— А за што нашых арыштавалі? — гэта ўмяшалася ў гаворку яшчэ адна з жанчын. Цяпер іх сабралася аж восем.

— А майго за што арыштавалі?

— І вашых арыштавалі? — Ліда сышла з каламажкі.

— Арыштавалі. На досвіцці прыехалі стражнікі, забралі і пагналі ў воласць. Дык, мусіць, і настаўніка, раз іх, бо ён жа гэта з імі больш і гаварыў, ні з кім другім.

У тым, што Буднік арыштаваны, не было сумненняў.

Заставалася дазнацца падрабязней аб прычыне арыштаў і ехаць назад.

— Я хацела б пераначаваць у каго-небудзь,— сказала Ліда.

— У мяне і паначуйце,— запрапанавала жанчына, якая першай загаварыла з ёй.

Ліда пайшла за сялянкай, а следам за імі паехаў, завярнуўшыся, і рамізнік. Побач пайшлі і сялянкі, што былі сабраліся ў вуліцы. Разам яны пайшлі і ў двор. Калі гаспадыня пабегла ў хату, каб там крыху ўпарадкавацца, тая з жанчын, што гаварыла пра арышты, цяпер зноў пачала тую ж гаворку.

— Не дай бог, што ў нас робіцца тут. Вось узялі, пагналі, а куды, а за што, каб жа ведаў хоць хто. Не ж за тое маюць права забраць, што схадзілі да пана?

У хаце гаспадыня падмятала падлогу і, спяшаючыся, мокрай анучкай выцірала лаўкі, калі зайшла ў хату Ліда. У хаце было цесна і цёмна. Гліняная падлога, збітая, відаць, даўно, была няроўнай. Над галавой тоўстымі бэлькамі навісла столь. На жэрдцы, падсунутай пад бэлькі, вісела калыска. За калыскай на палацях, што былі замест ложка, моўчкі непрыкметна сядзела дзяўчынка і, паставіўшы на пачапку босую нагу, гойдала калыску ды нясмела пазірала на Ліду, бліскаючы парай палахлівых воч.

— У калысцы сын, шосты месяц яму,— вытлумачыла гаспадыня.— А гэта нянька ўжо. Сарамлівая дужа. З таго, мусіць, што расце вось гэтак, адна. Сама я на рабоце ўсё, няма каму дагледаць.— Гаспадыня паставіла на стол перад Лідаю кварту з малаком.— Вось хоць падсілкуйцеся трошкі з дарогі, пакуль вячэра. Прабачце ўжо, што харчы такія... Бедна мы жывём,— вытлумачыла гаспадыня.— Зямлі ў нас сваёй няма; хлеба няма свайго. А цяпер яшчэ і гэтае няшчасце... Як катаржнікі жывём...

— А яны што ж рабілі? — пераняла Ліда гутарку на другое.— Чаго яны хадзілі да пана?

— Зямлю сваю каб не даць.— Гаспадыня падрабязна расказала Лідзе пра гісторыю з адменай.— А ў майго ж той зямлі і няма, але пайшлі ж — захацелася ім чужое застойваць. Пайшлі і пану сказалі, што зямлі яму адменьваць не дадуць. Можа, яшчэ нагаварылі яму чаго і недалікатнага, дык цяпер будуць пакутаваць.

— І Павел Андрэевіч хадзіў?

— Настаўнік? Не, ён не хадзіў, ён толькі гаварыў

часам з мужчынамі, раіў тое-сёе. Яго, відаць, цераз гэта і ўзялі. Ды можа ж ён яшчэ і не арыштаваны?

Была мільганула такая думка і ў Ліды, а за ёй думка, каб астацца яшчэ на некалькі дзён і пачакаць. Але зразумела, што гэта будзе дарэмнай надзеяй. З усяго, што расказала сялянка, можна было зразумець, што Буднік арыштаваны. Калі толькі па справе, пра якую расказала сялянка, тады можна будзе спадзявацца, што праз нейкі час ён вызваліцца. Але магло быць і іншае. Паліцыі магло быць вядома большае, і тады неабходна было, не трацячы часу, неадкладна ехаць назад і папярэдзіць аб усім сваіх у Пецярбурзе. Заставацца тут нельга было, каб не ставіць пад пагрозу арышту і сябе. Памеркаваўшы пра гэта, Ліда выйшла да рамізніка і сказала яму, што хоча ехаць ноччу, адразу ж, як адпачне конь.

## ПАДЗЕЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ

Тое, што здарылася, адбылося так раптоўна і так нечакана для большасці шапятоўцаў, што яшчэ доўга пасля, прыпамінаючы гэтыя падзеі, шмат хто з іх не мог вытлумачыць, чаму пайшлі яны той ночы на панскі двор.

Быў будні дзень. За два дні перад тым, не дачакаўшыся, калі прыйдуць дадому арыштаваныя, шапятоўцы выехалі ў поле, каб самім узараць свае шнуры, што папалі ў зямлю, адбітую Пілацееву ў адмену на балота.

Дзесяткі па два баразён прагналі, калі на поле прыйшоў каморнік. Ходзячы на палосках, ён паспрабаваў з адным, з другім пагаварыць, каб адраіць араць, але хутка, закурыўшы каля Хвойчыка, ён безнадзейна махнуў рукой і пайшоў у вёску.

Пазней, перад самым полуднем ужо, на поле прыехаў панскі аканом. Ён рыссю, з крыкам уз'ехаў на свежую раллю. На паласе, на якую ўз'ехаў аканом, араў Піскун Арцём. Апынуўшыся адзін на адзін перад аканомам, Арцём быў спалохаўся і спыніў каня. Баючыся, каб хаця не ўваліў аканом на яго ўсю віну, ён пачаў быў апраўдвацца.

— Ці ж я адзін ару, ці я пачаў? Аруць усе, дык і я ару.

Але калі аканом загадаў ехаць дадому, ён запярэчыў.

— Калі ўсе паедуць, дык і я паеду, я не супроць, але адзін я не паеду. Што ж я, людзі араць будуць, а я буду пазіраць на іх? От, ганіце іх,— ён паказаў рукой на іншых,— то і я паеду.

Ад Піскуна аканом упоперак палос паехаў па раллі да другіх. Каля кожнага ён спыняўся і загадваў неадкладна ж ехаць дадому. Пагражаў, што паадбірае плугі. І ўвесь час выціраў насовачкай успацелы лоб. Як пачаў ён ездзіць, некаторыя мужчыны, не жадаючы адзін на адзін сустракацца з ім і каб смялей было адчапіцца ад яго, сышліся каля Хвойчыка, нібы закурыць да яго прыйшлі. Яны стаялі на раллі вакол Міхалкі, закурвалі і моўчкі слухалі аканомавы пагрозы. Пасля Хвойчык не ўтрымаўся.

— А ты паспрабуй, можа, і адбярэш плугі.

— Ты маўчы! — прыгразіў яму аканом.— Я цябе даўно ведаю, хто ты такі.

— То я вельмі рад, што ты мяне ведаеш.

— Пабачым, ці доўга ты парадуешся, пане мой каханы, вось пабачым.

— Ты вось патыліцу вытры, бач, успацеў, папрацаваў, бедны.

— Для пана стараецца...

— Расхадзіўся!

— Я цябе ў астрог пасаджу! На катаргу! На катаргу сашлю!..

Аканом сагнуўся з сядла і засіпеў Хвойчыку ў твар.

— Не сіпі, як гадзіна! — Міхалка кулакі сціснуў і адышоў на крок.— Глядзі, каб самога куды не саслалі...— Сказаў гэта і пайшоў да плуга.

— Некалі мне з табою важдацца.

— Дык я з табой яшчэ паваждаюся.— Аканом завярнуў каня і паехаў на дарогу.— Хочаце араць? — крыкнуў ён ужо едучы і скрывіў твар хітраватай усмешкай.— Арыце, арыце! Арыце, калі ахвоту маеце!

З гэтым ён і паехаў. Аралі мужчыны і на другі дзень, і ў гэты дзень на поле ўжо ніхто не прыехаў. Не прыехаў ніхто і ў дзень, калі канчалі даворваць. Стомленыя працай, узбуджаныя насцярожаным чаканнем,— што ж будзе? — шапятоўцы раз'ехаліся па дварах, умаўляючыся, каб заўтра выехаць і пасеяць на ўзараным жыта. У гутарках пра сяўбу прайшоў і канец дня. А надвячоркам, акурат як заходзіла сонца, у Шапятоўку прыехаў хлапчук з двара. Уехаў ён у вуліцу з усяго разгону і, едучы, закрычаў. Перапалоханыя крыкам, мужчыны павыскаквалі з хат і бягом кінуліся з двароў у вуліцу, дзе спыніўся хлапчук. Не злазячы з каня, ён размахваў рукамі, цяжка дыхаў і, глытаючы словы, расказаў, што прыслалі яго парабкі з двара. Прыслаўшы, наказа-

лі, каб папярэдзіў, што загадаў пан выехаць парабкам у поле і ўкругавую аб'ехаць сеялкамі ўзаранае шапятоўцамі поле.

Навіна, якую прывёз хлапчук ад парабкаў, громам звалілася на шапятоўцаў і ў момант сабрала ўсіх іх на вуліцы: і мужчын, і жанчын, і дзяцей. Напалоханыя такім нечаканым паваротам справы, некаторыя мужчыны замітусіліся па натоўпе, яшчэ больш раздражняючы яго, пасіляючы крыклівы гоман, які стаяў у вуліцы. Ніхто не ведаў, што рабіць, куды кінуцца. Пайсці праганяць парабкаў з поля,— гэта будзе самаўпраўствам. Пра гэта крычаў і стараста і хто-ніхто з мужчын, якія парашылі, што лепш, каб не было гэтай справы з зямлёй, і ўжо даўно гатовы былі ацурацца яе, але не зрабілі гэтага, паколькі не рабілі гэтага ўсе. З другога боку, усе разумелі, што калі даць пану засеяць поле, тады наўрад ці ўдасца ўтрымаць яго ў сваіх руках. І ўсе ведалі, што дзейнічаць трэба хутчэй, што нельга траціць часу.

— Дык рабіць жа што будзем? Чаго ж гэта мы базар адкрылі тут? Да якой жа гэта пары мы маўчаць будзем?

— Дзе Міхалка дзеўся?

— Ісці трэба! З поля прагнаць!

— Мала толку з таго будзе, што мы толькі праганяць яго будзем.— Міхалка, які стаяў у натоўпе маўклівы, загаварыў.— Чулі, як ён пазаўчора крычаў, катаргай пагражаў? Мы яго праганяць будзем, а ён нас па аднаму ў астрог пасадзіць. Тут не ганяць трэба. Тут такое сказаць трэба, каб яму больш не захацелася і нагой ступіць на нашу зямлю. Годзе з імі важдацца нам! Годзе прасіць ды кланяцца за сваё дабро. Ці ў нас рук няма? Ці ў нас кулакоў няма? — Ён падняў над натоўпам сціснутыя ў кулакі рукі.— Ці мы ўжо зубоў не маем? Ён думае, што мы маўчым, дык мы рахманыя! Мы кусацца ўмеем. Мы так укусіць можам, што ажна тошна стане яму. Няма чаго патураць яму. Яму зямлі нашай захацелася? аддай! Яму таго захацелася? аддай! Яму, можа, яшчэ і жонкі чыёй захочацца? Годзе патураць! Не парабкаў праганяць, а на двор пайсці паказаць яму, дзе яго месца. Пяты год яму паказаць, калі забыўся! Няма чаго баяцца! Астрогі ўсё роўна для нас збудаваны!..

Міхалка рвануўся з месца і пайшоў па вуліцы, а за ім, вакол яго, пайшоў гаварлівы, узбуджаны яго-

нымі словамі і злосцю за зямлю, гатовы на ўсё, натоўп сялян.

Сонца закацілася за лес і адразу стала цямнець. З-за небасхілу выйшла, шырока займаючы неба, цёмная хмара і завурчала перакатамі грому. У гэты ж час ад шапятоўскіх агародаў выбег у поле чалавек. Спяшаючыся, азіраючыся, каб ніхто яго не ўбачыў, ён пабег нацянькі цераз поле. Бегучы, ён увесь час азіраўся назад, адкуль даносіўся гоман чалавечых галасоў. Пілацееў пасля вячэры пра нешта гутарыў з акаромам, калі [illegible] саду да веранды прыбег, засопшыся, гэны чалавек.

— Ратуйцеся! — крыкнуў ён, узбягаючы на веранду.— Нашы на двор ідуць. Кажуць, пяты год мы яму пакажам, калі забыўся! Усе ідуць, як адзін. Злосныя. У злосці ўсяго нарабіць могуць. А я нацянькі цераз поле пабег, каб хаця папярэдзіць, каб хаця сказаць...

— Дзякую! — Пілацееў кінуў гэтае слова, а сам пабег у пакоі. Пасля выскачыў з пакояў ужо апрануты ў паліто. Хутка за ім выбегла перапалоханая жонка і сын. На двары, дзе канюшні, аканом з парабкам-конюхам запрагаў коней. Яшчэ цераз тры мінуты коні пад'ехалі да ганка.

— Я, папа, не паеду,— раптам сказаў Пілацееў-студэнт.— Я паспрабую пагаварыць з імі.

— Глупства, кінь! — крыкнуў бацька.— З імі мне няма аб чым гаварыць. З імі заўтра стражнікі пагавораць, а не ты.

— Але, папа, не думаеце ж вы, што гэта бунт? Гэта ж смешна...

— Гэта не смешна. Мець справу з дзікім, асепленым злосцю натоўпам гэта не смешна. Зараз жа сядай і паедзем.

Чалавек, які прыбег на панскі двор, усё яшчэ стаяў каля веранды. Цяпер і ён падышоў да фаэтона.— Трэба ехаць, панічок. Бог ведае, што яны надумаліся. Кажуць, пяты год яму прыпомнім...

— Ну, гэта, ведаеце, глупства. А ў агуле, як хочаце, я магу і паехаць,— і адразу ж, следам за бацькам, палез у фаэтон.

— Шчаслівай дарогі, пане,— кінуў чалавек, як краналіся коні, і пакланіўся.

— Дзякую, пасабі тут Ермалаю Трыфанавічу за дабром прыглядзець, калі што якое...

— Дзякую, пане.

Коні рвануліся і рыссю пайшлі з двара. Было зусім ужо цёмна і, як заўжды перад навальніцай, ціха. І Пілацееў, як паехалі па пясчанай дарозе, пачуў злева ў полі гоман. Гоман, нарастаючы, набліжаўся да ягонай сядзібы, нёс у сабе пагрозу ёй. А з правага боку набліжалася навальніца. Сінявятыя агні бліскавіц успыхвалі то тут, то там, бегалі па чорным полі хмары, скрыжоўваліся, на момант знікалі і зноў ірвалі на кавалкі чорную заслону хмар. І разам з гэтым, не змаўкаючы, грымеў гром.

Як выехалі на бальшак, Пілацееў загадаў спыніць коней і азірнуўся. У прасвеце паміж высокіх тапалёў чарнелі будынкі ягонай сядзібы. Убаку, дзе сядзіба, угары над ёю, пахвілінна бліскала маланка, і ўжо не змаўкаючы, а толькі прыціхаючы на момант, гойдаліся над небасхілам зласлівыя грымоты. А з поля, як прыціхалі грымоты, даносіўся гоман чалавечых галасоў. Роўным струменем, не змаўкаючы, гоман плыў па-над полем страшнай, неразгаданай сілай і пагражаў паглынуць у сабе пілацееўскую сядзібу. Потым гоман перарос у крыкі. Нехта на некага тукаў, нехта крычаў, каб кагось лавілі. У крыкі ўмяшалася конскае ржанне. Затарахцелі па няроўнай дарозе колы. Пілацееў здагадаўся, што ўцякаюць з поля, накіраваныя туды аканомам з сеялкамі, парабкі. Ад усведамлення свайго бяссілля і ад злосці хацелася Пілацееву кінуцца і плакаць. Штосьці камяком падвярнулася да горла, перашкаджала дыхаць.

— Паганяй! — Пілацееў падняўся з месца і тузануў у плячо фурмана.— Паганяй! — прахрыпеў ён яшчэ раз, злосна сапучы таму ў патыліцу. Фурман шмаргануў за лейцы, сцебануў коней пугай, і коні рыссю рвануліся з месца. Пілацееў, як стаяў, упаў на сядзенне. Фурман гнаў коней шпарчэй і шпарчэй. Фаэтон то роўна каціўся па выбітых, раз'езджаных каляінах, то зыбаўся на выбоінах, і тады Пілацееў згінаўся і, шырока растапырыўшы рукі, хапаўся імі за фаэтон, каб не ўпасці.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ПАДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Атрымаўшы свежае папаўненне на месца згубленых на пазіцыі, батальён, пасля некалькіх дзён адпачынку, ноччу зноў рушыў у акопы, пакідаючы за сабою ў тыле напалову разбуранае сяло. З сяла, перапоўненага лазарэтамі і казакамі, выходзілі падбадзёранымі, адчуваючы за сабою жывых людзей. Але бадзёрасць знікла, як апынуліся ў некалькіх кіламетрах ад сяла сярод поля. Знік размераны цвёрды крок, і ногі затупалі блытана і нясмела, кожны ішоў, як яму было ямчэй. Салдаты зараслі барадамі. На тварах загар і пыл. На гімнасцёрках гразь, перамешаная з потам. На кожным шынель у скатку, паходны мяшок за плячыма, кацялок каля папружкі і на плячы на рамні вінтоўка. Шкробат бачыць іх побач з сабою, вакол сябе, адчувае іх локцямі сваіх рук. Шмат каго з старых акопнікаў ён ведае. Яны ідуць разам, купкамі, вылучаючыся сярод новых. Іх не дужа багата. Большасць іх засталася пасля баёў забітымі на полі ці ў нямецкім палоне, як хадзілі ў атаку, а шмат хто папаў адтуль у лазарэт. Старыя акопнікі ведаюць, куды ідуць, і, занятыя сваімі думамі, крочаць маўкліва, як цені. Маўклівасць іхняя перадаецца навічкам і палохае іх. Ад таго Сузону, які ідзе поплеч са Шкробатам, здаецца задужа цяжкой і вінтоўка, і паходны мяшок, і кацялок, які матляецца каля папружкі і злёгку дзынкае, стукаючы аб гузікі на рукаве гімнасцёркі. Яны гнуць Сузона да зямлі, скоўваюць плечы і ўсё цела, таму і рукі і ногі як быццам бы звязаныя. Рукой ён стрымлівае кацялок, каб не звінеў, і, каб не адставаць, стараецца ўвесь час ісці ў нагу з Тарэнтам Шкробатам. Угары зоры патанулі ў святле поўнага месяца. Аблітае месяцавым святлом, усё наўкола застыла, і ў напружанай блакітавай цішыні крокі салдацкія, цяжкія і няўпэўненыя, званчэй, як заўжды.

Яны палохаюць. Здаецца, хаваецца дзесьці паблізу страшная, неразгаданая небяспека і хочацца, каб крокі былі цішэйшымі.

— Кажаш, цяжка жывуць? — Шкробат гаворыць упаўголаса, павяртаючы галаву ўправа да Сузона.— Там цяжка, а тут яшчэ горш: ідзі вось, падстаўляй галаву пад кулі. Я ўжо чацвёрты раз гэтак вось іду ў акопы. Пакуль што цэлы, а заўтра, можа, заб'юць...

Сузон маўчыць, але крокі ягоныя робяцца яшчэ больш нервовымі, збіўчывымі. Шкробат бачыць, як блішчаць на ягоным твары кроплі поту. Ён кранае яго за рукаў гімнасцёркі на плячы і адчувае, што гімнасцёрка вільготная ад поту.

— Спакайней ты ідзі, а то зусім заморышся.

— Калі ж дужа цяжка...

Шкробат прыпамінае, як яны, чатыры дні таму назад, выпадкова спаткаліся. Рэзервовую роту, у якой быў Сузон Каляда, прыслалі на папаўненне. Рота прыйшла надвячоркам і спынілася на вясковай вуліцы. У гэты час ад фронту ў напрамку да дывізійнага лазарэта везлі параненых. Везлі даўгім абозам і на казённых вайсковых і на сялянскіх фурманках. Цяжка параненыя ляжалі па двое на калёсах. Якія маглі сядзець, сядзелі па шэсць, па сем чалавек. Хто мог ісці, ішоў пешшу. Салдаты з рэзервовай роты натоўпам сталі каля дарогі, па якой праязджаў абоз. У гэты час на пярэдняй фурманцы з параненым здарыўся прыпадак. Ён пачаў кідацца з калёс, ірваў на сабе перавязку і біўся аб калёсы. Селянін, які вёз параненага, спыніў фурманку і пабег з крыкам, шукаючы сястру. За пярэдняй фурманкай спыніўся і ўвесь абоз. Тады салдаты падышлі да самых вазоў, палахліва аглядаючы параненых. Сузон стаяў каля самых калёс. На калёсах ляжала двое. На галовах у іх чырвонабурыя павязкі, кроў, змешаная з пяском. На другім возе, што побач, параненыя сядзяць з абвязанымі тварамі, з падвязанымі рукамі.

— Дай, зямляк, закурыць.

Сузон дрыглівай рукой, спяшаючыся, выняў з кішэні кісет з табакай і, перагнуўшыся цераз калёсы, на якіх ляжалі параненыя, падаў табаку. А калі ў другі раз сагнуўся над калёсамі, каб узяць ад параненага кісет, раптам адчуў, як знізу схапілі яго загрудкі нейчыя рукі. З хрыпам, спрабуючы падняць з саломы абвязаную, абмазаную крывёю галаву, паранены скачанелымі пальцамі ўхапіўся за Сузонаву гімнасцёрку, а

поглядам нерухомым, ашклянеўшымі вачыма, упёрся яму ў твар. Скачанелыя пальцы курчыліся, камячылі ў жменях гімнасцёрку, падбіраючыся вышэй да горла. Спіну абдало холадам, і, спуджана ўскрыкнуўшы, Сузон ірвануўся з рук параненага і адскочыў ад калёс. Бледны, як палатно, ён увесь дрыжаў, не валодаючы сабою, калі пачуў раптам знаёмы голас.

— А ты, зямляк, не бойся. Бач, і сам спужаўся і яго ледзь не ўдарыў. Яшчэ не такое ўбачыш...

Твар у салдата, які гаварыў, загарэлы, запылены і русая невялікая барада. Сузон, прыгледзеўшыся, пазнаў салдата.

— Тарэнта? А я вось спужаўся...

Ён азірнуўся на параненых. Абоз зноў крануўся і паехаў далей.

— Каб толькі такое бачыць,— Тарэнта махнуў рукой,— гэта ж яшчэ хоць жывыя, перавязаныя...

У той вечар яны разам вячэралі, запіваючы варам без цукру, і Тарэнта слухаў Сузонава апавяданне пра жыццё ў даўно пакінутай Шапятоўцы. Дзень за днём ён прыпамінаў пражытае, прыпамінаў знаёмых і пра кожнага распытваў, дома ён ці на вайне. І хоць чатыры ўжо месяцы прайшло, як быў Сузон у Шапятоўцы, расказанае ім было такім новым і блізкім, што здавалася Шкробату зусім нядаўна бачаным на свае ўласныя вочы.

Рота, з якой прыбыў Сузон, прыйшла на папаўненне батальёна, у якім служыў Тарэнта, і яны разам ужо ідуць у акопы.

— Памятаеш,— пытае Шкробат,— тады мы ў астрозе думалі, што горай няма жыцця ўжо. Аж яно ёсць, вось дзе яно. Хай бы ж цяпер узялі ды ў астрог заперлі... Сядзеў бы ды знаў бы, што жывы будзеш, а то, бач, бухаюць, спакою на іх няма...

Наперадзе чуліся гарматныя стрэлы. Яны то змаўкалі зусім, то грымелі рэдка, па адным, то разам цэлымі залпамі. Як змаўкалі гарматныя стрэлы, тады выразна чуліся вінтовачныя. І зноў, то залпамі, то адзінкамі. Зрэдку ляскаталі кулямёты. Пасля ўсё змаўкала, і над полем панавала напружаная цішыня і ў ёй блытаныя, стомленыя крокі салдат.

Хутка ўбачылі наперадзе былую вёску. У вёсцы не засталося аніводнай будыніны. Толькі шкілетамі ў баку ад вуліцы, дзе былі гумны, тырчалі голыя чорныя азяроды, а па баках вуліцы бялелі, пры месяцавым святле,

уцалелыя печы. Печы стаялі пасярод абвугленых, недагарэўшых галавешак.

— Бачыш, чаго нарабілі? — Шкробат паказвае рукой на вогнішча.— А людзі кінулі ўсё, рынулі і паўцякалі, каб хаця самім выратавацца. Я вось думаю цяпер, што, можа, і лепш зрабіў, што Сібір тады кінуў. А то пяўся б, пяўся б і ўсё роўна пайшоў бы на вайну, нічога не нажыўшы для сябе. А так, калі жыў буду, можа, і пажыву яшчэ, бо цяпер-то ўжо хоць што, ды новае будзе ў парадках, не можа быць, каб так сабе людзі столькі пакутавалі... Не можа быць, каб цяпер зямлі не далі тым, хто на франтах нацерпіцца столькі... гэта ўжо як хочаш, але толькі так быць не можа, як было... А ты, часам, нічога не чуў пра настаўніка? Ніхто не гаварыў?

— Не, нічога не чуў.

— Мусіць, саслалі на катаргу...

Угары ў паднябессі, асветленыя месяцам, непрыкметна праплывалі кавалкі хмар. Яны праходзілі пад месяцам, на момант хаваючы яго, і тады па зямлі павольна сунуліся іхнія мутныя цені. Пад ценямі змеціў Сузон за вёскай, што каля кустоў, пры дарозе мітусяцца постаці людзей. Калі падышлі бліжэй, разгледзеў каля кустоў коней, запрэжаных у санітарныя двуколкі. З дарогі з-за кустоў прыязджалі двуколкі, і тады санітары здымалі з іх параненых і клалі на зямлю.

— Параненыя!..— Сузон палахліва ўздрыгануў і падаўся ў бок ад дарогі, штурхаючы ў бок і Шкробата. Параненыя ляжалі на зямлі, чакаючы перавязкі, і цяжка стагналі.

— Недалёка фронт,— сказаў Шкробат.— Параненых адтуль на руках выносяць, а сюды падвозяць на конях. Тут перавязачны пункт. Хутка мы спынімся, акопы хутка.

Як бы для таго, каб пацвердзіць ягоныя словы, зусім блізка прагрымела некалькі вінтовачных стрэлаў. Пачалі сустракацца коннікі і пехацінцы, якія рушылі ад пазіцыі ў тыл, шукаючы бліжэйшага штаба. Гэта і была жывая сувязь штаба з фронтам. Хутка прыехаў коннік да камандзіра батальёна і перадаў загад. Батальён раз'ядналі па ротах і ротамі ў паасобку павялі наперад. Рота, у якой былі Шкробат і Сузон, хутка прыйшла ў сад і моўчкі размясцілася там пад дрэвамі. Яшчэ ротны аддаваў загад узводным, яшчэ вылучалі дазоры, а стомленыя салдаты, расклаўшы шынялі, клаліся на мураву пад яблыні і засыналі.

Над усім пануе мёртвая цішыня. Цішыня нараджае страх, палохае. Сузон моўчкі ляжыць са Шкробатам і прыпамінае час, калі іхнюю роту разам з іншымі высылалі на фронт. Вайна, фронт, параненыя і забітыя — усё гэта было далёкім, нерэальным, усё гэта было цяжка ўявіць. І таму ні пра смерць, ні пра раны не думалася, калі крануўся ноччу эшалон са станцыі, пакінуўшы за сабою пабляднелыя ў белаватай імгле туманаў жоўтыя і чырвоныя агні семафораў. Эшалон мінаў перагон за перагонам. На станцыях усё менш і менш сустракалася штацкіх. Станцыі былі перапоўнены салдатамі. Пасля, досвіццем, эшалон прыйшоў на станцыю, пра якую гаварылі, што яна спалена нямецкімі аэрапланамі. Нехта крыкнуў у вагоне аб гэтым, і ўсе кінуліся з вагона, каб зірнуць на разбітую немцамі станцыю. Побач з чыгункай тырчалі з руін рэшткі цагляных сцен. На сценах, праваліўшыся ў сярэдзіну, вісеў пакручаны жалезны дах. Побач са сценамі высокія абвугленыя ствалы тапалёў з голымі чорнымі сукамі.

Сузон прыпомніў тую станцыю, калі ўбачыў перад вачыма цяпер разбураныя будынкі былога мястэчка... Тут, каля саду, відаць быў вінакураны завод. Завод разбіты. Уцалелі толькі яго бакавыя сцены, і над сценамі, перарэзваючы наўскасяк зорнае неба, раскарачыўшыся на ўсю шырыню іх, высокія кроквы.

Сузон ляжыць жыватом на зямлі, углядаючыся ў далячынь за сад, дзе, па яго думцы, немцы, і не можа, баіцца пакласці на мяшок галаву і заснуць.

Досвіткам за садам падняўся белы густы туман. Салдат разбудзілі і пагналі з саду ў акопы. Як ішлі цераз сад, Сузон убачыў, што ў садзе ляжаць павываранчваныя з карэннем дрэвы. У садзе былі ямкі, вырытыя снарадамі, і ў ямках, пасля нядаўняга дажджу, стаяла поўна вады. За дрэвамі ўправа відзён быў, з белымі аканіцамі, дом. Дом быў зусім някрануты, толькі без шыб у вокнах. Шыбы павыпадалі, як разрываліся ў садзе снарады. Непадалёк ад акопаў, дзе канчаўся сад, каля куста ляжаў забіты салдат. На ім шынель у скатку, кацялок, невялічкая рыдлёўка. У мураву ўшчапеліся ягоныя скручаныя пальцы. Як праходзілі каля забітага, Сузон адчуў, як задрыжалі ногі, і па-незвычайнаму абрадаваўся ён, калі ўвайшлі ў акопы. Цяпер ён змог разгледзець, што наперадзе, перад акопамі, за калючым дротам цячэ невялікая рака. Рака цячэ паўз самае мястэчка, і побач з ракою, то вы-

ходзячы за мястэчка, то туляючыся да самых местачковых старых разбураных будынін, цягнуцца акопы.

Калі ўзышло сонца, туман з рэчкі сышоў, і Сузон убачыў управа ад сябе на рэчцы разбураны мост. Сярэдзіна маста праваліласся і апала ў ваду, і ў ваду апаў, зачапіўшыся краямі за сваі, канец маста, які выходзіў у бок мястэчка.

— Галавы, глядзі, не высоўвай,— папярэдзіў Сузона Шкробат, і Сузон палахліва прыгнуўся, асядаючы на дно акопа. Седзячы, прыхінуўся плячыма да дошчак, якімі былі абабіты акопныя сцены. Але як толькі сеў ён, з боку немцаў пачуліся вінтовачныя стрэлы. Спачатку адзінкамі, пасля гусцей і гусцей. Стралялі злева. Тады па акопах забегаў узводны: ад салдата да салдата папоўз загад падрыхтавацца да стральбы. Салдаты таропка падніmаліся з месца і, зараджаючы вінтоўкі, станавіліся да байніц. Над акопам праляцелі са свістам, свідруючы паветра, першыя нямецкія снарады і разарваліся далёка за акопамі. Пасля, намацваючы лінію акопаў, снарады пачалі падаць бліжэй, уздымаючы ў часе разрываў цэлыя горы зямлі, жудасны грукат і звон і танклявы свіст, які пакідалі за сабой, адлятаючы ад месца разрыву жалезныя аскабалкі снарадаў. Перапалоханыя салдаты ўжо даўно стаялі, як прыкаваныя, прытуліўшыся да акопнай сцяны, і стралялі за раку, але ўсё часцей і часцей яны азіраліся назад, заміраючы ў жудасным чаканні, што чарговы снарад упадзе ў акопы. А снарады кладзіся ўсё бліжэй і бліжэй. За плячыма ў салдат блукала па полі смерць. Яна не спяшалася прыйсці ў акопы, адкуль насустрач ёй час ад часу пазіралі людзі шырока раскрытымі, палахлівымі вачыма. Закружыўшыся ў віхорных скоках, яна насілася над полем за акопамі і папярэджвала аб сваім прыйсці. Вось яна зусім ужо блізка. Ужо аскабалкі чыгуну звіняць над самымі галовамі. Яшчэ момант, і перад вачыма ў салдат узнялася чорная сцяна пяску і дыму і сыпанула зямлёй у акоп. Пасля яшчэ і яшчэ. Чорны віхор з грымот, звону і свісту закружыўся над акопамі, перад вачыма ў перапужаных салдат. Салдаты дрыглівымі рукамі падабралі з акопа вінтоўкі і з перакошанымі страхам тварамі палезлі з акопаў, а пасля, як хто, папаўзлі і пабеглі ад акопаў у тыл, за мястэчка, дзе зелянелі ў лагчыне густыя кусты алешніку. Сузон не памятаў, як ён вылез з акопа і пабег. Бег доўга, прыгнуўшыся да зямлі, трымаючы ў правай руцэ вінтоўку. Ззаду грымелі, разрываючыся, снарады і густа, з пераборамі, ляскаталі кулямёты. Над га-

лавой, свідруючы паветра свістам, ляцелі снарады з рускай батарэі, але Сузон не спыняўся, бег, азіраючыся час ад часу па баках, каб не адарвацца ад другіх. Пасля лёг на зямлю і папоўз, бо так зрабіў салдат, які бег побач, крокаў на дзесяць ад яго. Спыніліся ў лагчыне і пачалі акапвацца. Акапаўшыся, праляжалі ў ямках да вечара, а тады, падагнаныя афіцэрамі, паўзлі зноў на старую пазіцыю. Стральбы не было. Зноў над усім панавала жудасная цішыня. Па полі, па якім раніцою беглі яны ад акопаў, хадзілі санітары і падбіралі параненых, а падабраўшы, неслі за мястэчка да дарогі. Тады і ўбачыў Сузон, як пранеслі санітары Тарэнту Шкробата. Неслі яго на шынялі, і Тарэнтавы ногі, звісаючы з шыняля, бездапаможна матляліся над зямлёй, кранаючы яе заднікамі чобатаў. Пазнаўшы Шкробата, Сузон мятнуўся да санітараў, хацеў спыніць іх, але санітары таропка прайшлі міма. Наўздагон ім ён крыкнуў яшчэ, пытаючы, ці жывы, але санітары не адказалі. І тады, адчуўшы сябе ў адзіноце, ахоплены страхам, што можа быць забітым ці параненым, ён азірнуўся па баках і, спяшаючыся, папоўз да салдата, які ляжаў улева ад яго. Поўз, сутаргава сціскаючыся, часта і цяжка дыхаючы, хапаючыся за зямлю дрыглівымі пальцамі.

На другі дзень Сузон быў паранены ў левае плячо і пасля перавязкі быў накіраваны з партыяй параненых у вёску. Як ад'язджаў абоз, ён па дарозе падышоў да кіпяцільніка ў санітарным атрадзе. Там, нацэджваючы з кіпяцільніка ў біклажку сабе вады, напаткаў знаёмага. Гэта быў худашчавы высокі мужчына ў акулярах, у санітарнай форме. Прыгледзеўшыся да яго, Сузон пазнаў былога земскага агранома Ягуплу, які жыў у Пілацеева.

— Я вас ведаю,— сказаў Сузон, неяк нечакана для сябе, абрадаваўшыся, што напаткаў знаёмага.— Вы жылі ў нашых месцах у панскім двары.

Той адказаў на прывітанне і ўважліва ўгледзеўся ў Сузонаў твар.

— Мяне вы наўрад ці пазнаеце, дзе там!..

— Чаму ж? Ты з Шапятоўкі?

— Ага. А вы ж як тут?

— Я ў санітарным атрадзе.— Ён яшчэ раз уважліва ўгледзеўся ў Сузонаў твар.— У акопах быў?

— Ага, паранены вось у плячо,— ён паказаў перавязанае плячо, адхінуўшы каўнер гімнасцёркі.— Са мной у акопах быў яшчэ той, калі памятаеце, самы высокі,

Шкробат Тарэнта. Яго паранілі на дзень раней, чым мяне. Я не ведаю, ці жывы ён, бо, як неслі, без памяці быў...

— Гэта русы такі?

— Ага, ён.

— Нешта я яго не сустракаў тут...

— Дык, можа, памёр? — Сузон палахліва выпрастаўся і дапытліва зірнуў Ягуплу ў твар. З крана на зямлю цёк вар.

— Не ведаю. Кран закруці. Н-ну, бывай здароў, шчаслівай папраўкі.— Ён паднёс да казырка кончыкамі пальцаў руку і пайшоў у напрамку да лазарэта, а Сузон прыкруціў кран і моўчкі стаяў перад кіпяцільнікам, не ведаючы, што рабіць. Было жаданне пайсці следам за Ягуплам у лазарэт і папрасіць яго даведацца, ці жывы яшчэ Шкробат. Але па дарозе з вёскі рушыў ужо абоз, з якім павінен быў ехаць і ён. Калі абоз ад'едзе далёка, ён наўрад ці зможа пасля дагнаць яго, будзе перашкаджаць шпаркай хадзе рана. А прайсці пешшу не хопіць сіл. І каб не астацца, ён пайшоў за абозам.

## ПАДЗЕЯ ДРУГАЯ

З лясной дарогі выйшаў чалавек і, кінуўшы сабе пад ногі мяшок, які нёс у руцэ, сеў на капец. З капца тырчаў новы дубовы слупок, на абцёсаным баку яго быў выпалены дзяржаўны герб. Слупок паказваў мяжу паміж панскай зямлёй і шапятоўскай. Чалавек у старым шынялі. На нагах у яго салдацкія боты з нізкімі халявамі. На плячах, на шынялі шэрыя з сукна апалеты і на шэрай шапцы-кучомцы салдацкая кукарда. А за плячыма салдацкі паходны мяшок, поўна набіты рэчамі. Да мяшка прывязаны кацялок і бляшаная кварта. Як сеў чалавек, зняў мяшок з плеч і паклаў яго пад ногі сабе, побач з другім, а тады пацёгся, размінаючы плечы. Відаць, быў ён стомлены даўгой дарогай і рад быў адпачыць. Адпачываючы, разглядаў уважліва, што трапляла на вочы.

Перад вачыма далёка наперадзе злева відзен роўны рад тапалёў, якія цягнуцца абапал дарогі, што вядзе ад бальшака ў панскі двор. Правей ад тапалёў з-за ўзгоркаў тырчаць адзінкамі дрэвы і віецца каля дрэў слупкамі шызы дым. Чалавек дагадваецца, што за ўзгоркамі хаты. У хатах у гэтую пару пачынаюць тапіць печы. Яшчэ правей — палявая прастора, шапятоўская і панская зямля. Па полі дзе-нідзе рассяліліся хутарцы. Чалавек хоча прыпомніць, дзе тут чый хутар, але погляд ягоны затрым-

ліваецца на самым блізкім хутары, што непадалёк ад лесу. На пясчаным узгорку, над самым краем балотца, што зарасло нізкім хвойнікам і алешнікам, стаіць непакрыты хлеў-трысцен: чацвёртая сцяна з жэрдак. І на жэрдкі, якія ляжаць на сцянах пад кроквамі, накіданы яловыя лапкі. Імі і прыкрыты хлеў. Побач з хлевам маленькая хатка, да якой прыстаўлены высокія нахіленыя жэрдкі. Так зрабіў гаспадар каля хаткі сенцы. І больш ніякіх будынін. Двор не агарожаны.

Пакуль чалавек разглядаў хутарскія будынкі, з лесу, заплікаючы шынель на гузікі, выйшаў ягоны спадарожнік і прысеў поплеч з першым. Ён на багата ніжэй за першага і драбней у целе. Як і першы, ён у салдацкай адзёжы. Пусты левы рукаў ягонага шыняля запіхнуты ў карман.

— Бач, рассяліліся! — першы махнуў у бок поля рукой, паказваючы на хутары.

— А такі пераехалі некаторыя,— згадзіўся другі.— А чый жа гэна хутар?

— Ці ты забыўся? Ці ты не пазнаў Ганорыкавай хаты?

— Дык гэта Сымонаў хутар? А дзе ж яго гумно?

— Вунь там, мусіць,— паказаў першы рукой убок, за хату, дзе тырчаў голы стажар.

— Пад'ехалі людзі,— сказаў другі.— Вунь, як падупалі з-за гэтых хутароў ды з-за вайны. Як цяпер і жыць?..

— Хто падупаў, а хто і падняўся, ды яшчэ і як. Мы вось там зямлю крывёю палівалі, а Давыдзюк тут панаваў...

— І Мікіта ваш...

— І Мікіта панаваў, іх вайна не ўкусіла.

— Не пайму я, што цяпер будзе з усяго таго: ні то вайна, ні то мір, і ніхто нічога не ведае, як будзе з зямлёй...

— Чаму ніхто не ведае? Цяпер, брат, таго не будзе, што было. Цяпер ён так не паздзекуецца, як тады,— першы пагразіў кулаком у бок да панскай сядзібы.— Тады гэта людзі пайшлі не ягоную адбіраць, а каб сваёй хаця не аддаць, і то ён казакаў вытрабаваў, наздзекваўся з людзей. Вось няхай цяпер гэта зробіць! Цяпер калі пойдзем ужо, дык і сваю назад адбярэм і ягоную возьмем і казакаў не прывядзе, не будзе адкуль прывесці.

— А каб і прывёў, дык бы людзі, пабачыўшы смерць, не цырымоніліся б з імі доўга...

— Цяпер не тое... Цяпер, Сузон, зямля будзе. Не

можа быць, каб зямля нашай не была. Людзі ж цяпер за яе зубамі ўшчаперацца, ды не дадуць. Ого! зямля... Я, бывала, у акопах сяджу, пазіраю на поле ды думаю, што ў мяне вось сваёй зямлі няма. Думаю, а ў самога аж слёзы бягуць ад крыўды: за што, думаю, пакуты я прымаю тут... Цяпер таго не можа быць. Без зямлі нам і жыць няма чаго. Гэта тады жылі, баяліся, чакалі нечага, на нешта спадзяваліся, думалася, а можа як-небудзь выб'ешся, раз ішло яно ўжо так па парадку аж ад бацькоў саміх. А пачынаць нанава ўсё — няма як нам. У нас адны рукі голыя, а то дык і рук няма,— ён зірнуў на спадарожніка, у якога левы рукаў быў запхнуты ў карман шыняля.— Купляць нам зямлю хіба за кукіш толькі... Не-е! Цяпер яе купляць ніхто не будзе. А інакш за што ж ваявалі? Цяпер, брат, парадак не той будзе, не стары рэжым...

Гаворачы, чалавек падняўся, ускінуў на плечы сабе мяшок і, пачакаўшы спадарожніка, пайшоў з ім па дарозе да ўзгорка, над якім уздымаўся слупамі шызы дым.

— Ну, а як бывае ды не дадуць зямлі, а? Як жа тады?

— Чаму не дадуць?

— Ну, а хто ж яго ведае? Зямля ж яна панская, усё ж такі нейкі закон на яе будзе, мусіць.

— Ну, канешне ж, будзе рэвалюцыйны закон. І тады вось няхай паспрабуе ён не даць!

— А як, бывае, закон не такі будзе?

— Як гэта не такі? А які ж іншы закон быць можа цяпер? Што ж гэта, стары рэжым, ці што? Ты ўжо аб гэтым не гавары. Якія ж яшчэ законы іншыя? Рэвалюцыя яна тут уся, у зямлі. Законы цяпер сам народ пісаць будзе, а не міністры, як пры цару. А ў народзе скрозь аднакава. Народ супроць сябе выдаваць законаў не будзе... Я вось газеткі з сабой каторы месяц ужо нашу, каб сваім, як прыеду, пачытаць.

Чалавек шырока крочыць па вільготнай зямлі, пакідаючы на ёй глыбокія сляды. Спяшаючыся паспяваць за ім, ідзе Сузон. У твар ім дуе з-за ўзгорка, ад ракі, вільготны вецер.

— Паноў гэтых,— чалавек паказвае рукой у бок сядзібы,— як ветрам ліст з зямлі знясе. Годзе ім панаваць.

— А я ў гэта мала ўнікаў,— кажа другі.— Як адрэзалі руку, дык пра іншае што і думаць не мог. Што ж я без рукі? Хіба можна ў гаспадарцы без рукі? Тут і дзве рукі маеш, дык ніяк не наробішся, а з адной што ж я зраблю? — скардзячыся, выстаўляе Сузон наперад сваю

адну руку і трымае яе перад сабою, растапырыўшы пальцы, як бы дзівіцца, што задужа малая ў рукі далонь.

— Неяк пражывеш, чаму ж...

— Гібець буду, а не жыць...

І адразу ў першага знік настрой добры, з якім ішоў ён усю дарогу. Ідучы, нёс пачуццё радасці, што вось застаўся жыць, а цяпер ідзе дадому, ідзе як бы і назусім ужо, а дома сустрэне жонку, дзяцей, адпачне і ад дарогі даўгой і ад вайны. Думаючы пра ўсё гэта, ён ані разу не падумаў пра тое, як жывуць дома без яго. Адтаго, як загаварыў Сузон пра сваю руку, бядуючы, як давядзецца жыць, тады перад вачыма паўстаў вобраз цеснай нізкай хаты з голымі паліцамі, на якіх, відаць, даўно ўжо не ляжаў печаны хлеб. «І чым яны толькі жывуць там?» — гэтае пытанне паўстала перад ім нечакана, першы раз за ўвесь гэты дзень.

Цераз некалькі мінут яны ішлі па шапятоўскай вуліцы. Вуліца за гэтыя гады змянілася мала. Хто-ніхто выбраўся на хутар, і цяпер сяліба пуставала. На некаторых сялібах не было ўжо хат, але стаялі яшчэ неперавезенымі то хлевушок які, то варыўня, то клець. Прайшоўшы яшчэ нейкі час, яны папрашчаліся. Сузон пайшоў далей па вуліцы, а той, што заставаўся, дрыглівай рукой адкінуў з-за колічка вароты і, усхваляваны, спяшаючыся, пайшоў у хату. У хаце паўзмрок, ужо вечар, і чалавек доўга не можа разгледзець, ёсць хто ў хаце ці не. Толькі ўжо, як скінуў з плячэй мяшок, і паклаў яго на лаўку, ды на яго кінуў шапку, тады ўбачыў, што з кута ад палка ідзе да яго рослая высокая дзяўчына.

— Тата!

Дзяўчына ўскінула на ягоныя плечы свае рукі і кранулася цёплай шчакой да яго твару, а ён узяў яе за плечы і за паясніцу і пацалаваў у губы.

— А дзе ж маці? Кастусь дзе?

— Мама кросны тчэ ў Давыдзюка. Ахрэміха парадзіха, дык нанялі маму, каб да фэсту саткаць. А Кастусь кароў яшчэ не прыгнаў. У дзядзькі пасе. Я пабягу маме скажу, што ты прыехаў.— Дзяўчына схапіла з жэрдкі старую мультановую хустку з брыжамі і, ускінуўшы яе на галаву, бягом пабегла з хаты цераз двор у вуліцу, а бацька тым часам скінуў з сябе шынель і павесіў яго на крук над лаўкай. Цяпер, застаўшыся адзін у хаце, ён пачаў аглядаць яе. Голы, не засланы абрусам стол. Той жа палок, прыкіданы старымі коўдрамі і розным рыззём з адзёжы. Нізкая, збітая з гліны печ. Насупраць печы,

каля сцяны, услон. На ім вядро драўлянае, а каля вядра з лубка каробка, і ў ёй некалькі печаных бульбін. Над усім нізкая столь, а ўнізе ўсё тая ж гліняная падлога, ужо няроўная, выбітая нагамі. Над галавой за бэлькамі шамацелі прусы. Прусы поўзалі і па сцяне.

Стоячы пасярод сваёй хаты, чалавек адчуў цяпер, што яму няма куды больш ісці, не трэба ісці, што дарога скончана і ён дома, у сваёй уласнай хаце. Дзесьці далёка засталася вайна, перапоўненыя салдатамі эшалоны, лазарэт, і вось ён вольны, сам па сабе, нікому не падуладны чалавек. Захацелася хутчэй і паўней адчуць гэную вольнасць. Для гэтага трэба было пайсці да людзей і гаварыць з імі. Пакуль не было людзей, не было ўпэўненасці, што ўсё, чым жыў гэтыя тры гады, скончана. Было адчуванне нястачы ў нечым вельмі важным і патрэбным.

У гэты час у хату, задыхаўшыся, убегла дачка і, схапіўшы на хаду з галавы хустку, шыбанула яе на жэрдку.— Зараз прыйдзе мама. Я ёй сказала, што так нехта прыйшоў, не сказала, што ты.— І шырока, радасна ўсміхнулася ды запляскала ад захаплення далонямі.— Вось цікава будзе.

За ёй усміхнуўся і бацька.

— Ну, як жа вы хоць тут?

— А вось так.— Марыля (так звалі дзяўчыну) развяла рукі, паказваючы імі хату, усю адразу, маўляла, вось і ўсё, чым жывём. За акном на двары мільганула постаць маці. Марыля, як убачыла яе, зноў запляскала далонямі і стала ў куце каля палка.— Ты ж маўчы толькі,— сказала яна да бацькі.— Няхай яна цябе пазнае.

У хаце было зусім цёмна. Маці ўвайшла ў хату, і як прычыніла за сабою дзверы, разгублена спынілася на момант, а тады пайшла да стала, каля якога сядзеў мужчына.

— Тарэнта! Ты гэта! Божа ж ты мой!..— Кінулася на шыю мужу, які падняўся насустрач ёй з лаўкі. Пасля, выціраючы фартухом вочы, усміхнулася.— А яна ж не сказала, што ты прыйшоў.

Марыля зарагатала.

— Мне цікава было, ці пазнаеш ты тату.

— Ну вот, каб яшчэ не пазнаць...— жонка замітусілася па хаце, расклала на комінку агонь, стол заслала абрусам і пачала гатаваць вячэру. Управіўшыся каля вячэры, села на ўслон з другога канца стала і тады толькі асмелілася запытаць, ці надоўга прыйшоў дадому муж.

— А ўжо зусім. Хай без мяне ваююць, я наваяваўся

за тры гады. Дый вайне, мусіць, хутка канец, усе салдаты з фронту паўцякаюць хутка.

— Ну, а як жа галава ў цябе? Ці не баліць з таго? — абрадаваная словамі мужа, яна паднялася і пайшла да яго. Рукой адной абаперлася на стол і, схіліўшыся да мужа, далонню другой рукі павяла па яго твары. Спыніла руку, як намацала пальцамі на ілбе ў яго ямінку.— Божа ж мой! Без вока мог застацца...

— А каб троху ніжэй, дык і не было б вока.

І ад радасці, што жывы муж і што засталося цэлым ягонае вока, захацелася ёй пакласці мужу на плечы рукі, цалаваць яго і галасіць ад радасці. Але саромелася і яго і дачкі і толькі сказала перад тым, як адысці:

— Тарэнтачка... божа ж ты мой...

А дачка падышла да бацькі і таксама пальцамі намацала на ілбе ў яго ямачку, пакінутую ранай.

— А як жа куля? — запытала яна.

— Куля ўвайшла тут, а выйшла вось дзе.— Бацька сваёй рукой намацаў яшчэ другую яміну на галаве. Тады і дачка і маці заўважылі, што маленькая мясцінка на галаве ў бацькі не зарастае валасамі, а вакол яе пучок зусім белых валасоў. І яшчэ, ведучы па яго галаве далонню, перабіраючы пальцамі ягоныя валасы, жонка прыглядзелася да прыкметна серабрыстых, пасівеўшых.— І сівых валасоў ужо багата ў цябе,— сказала яна і яшчэ раз правяла па галаве рукой.

— А ты хіба памаладзела за гэты час? — ён усміхнуўся.

— Так і я памаладзела, акурат...

У гэты час у хату прыйшоў і Кастусь. Ён скінуў з плеч світу, паклаў яе на запечак і туды ж паклаў лапці, якія разуў яшчэ, відаць, на двары. Як паклаў лапці, стаў каля комінка і пачаў углядацца ў бацьку.

— Ідзі ж хоць прывітайся з бацькам.— Маці стаяла непадалёк ад стала і ўсміхалася абрадаваная, што сабралася ў хаце ўся сям'я.

— Тата? — Кастусь здзіўлена зірнуў убок, дзе сядзеў бацька, і пайшоў да яго.

— Ці вучыўся ж ты хоць гэтую зіму?

— Вучыўся, а як жа.

— Мы з Марыляй ужо рабілі ўсё, каб хоць яму як вучыцца.

— Цяпер-та ўжо лягчэй будзе ў навуку пайсці,— сказаў бацька.— Цяпер навука для ўсіх будзе. Рэвалюцыя ўсім дзверы адчыніць... Цяпер, можа, за рэвалюцыяй

і зямлі як сваёй прыдбаем, будзе на чым жыць, тады вучыся сабе, можа, куды і вышэй падасіся.

— Каб жа ж зямля...— жонка глыбока ўздыхнула: — Божачка ты мой. Рабіла б, здаецца, ад цёмнага да цёмнага, не цягалася б па людзях. А то як прыйдзе лецейка, дык і цягнешся дзень у дзень, ды ўсё не на сваё, усё на чужое...

— Некалі і на сваё пойдзеш, не ўсё ж нам па чужым хадзіць.

— Каб жа ж таго дачакацца мне...

Тарэнта падняўся і ўзяў з лаўкі свой мяшок. Адвязаў ад мяшка кацялок і кварту, а пасля паклаў яго на стол і пачаў развязваць. Да стала падышлі Кастусь з Марыляй і сталі поруч з бацькам, а маці адышла, падклала на комінак свежай лучыны і вярнулася на сваё месца, толькі не села, а стала на ўслон каленам і нахілілася над сталом, абапёршыся на яго локцямі. Бацька развязаў мяшок і выцяг з яго акопную салдацкую рыдлёўку.— Дзяржанне можна будзе зрабіць,— сказаў ён, перадаючы рыдлёўку ў рукі сыну.— Яна хоць малая, але ўскапаць ёю ўсё можна.

— Дзіва што можна...

За рыдлёўкай дастаў няношаную салдацкую гімнасцёрку і штаны. Гімнасцёрку ўзяла ў рукі жонка, разгарнула перад вачыма над сталом.

— Зусім жа яшчэ новая, няношаная.

— Няношаная.

— На святы тату добра будзе.

Яшчэ дастаў дзве пары падношанай бялізны і пару новай. Пасля выцяг новую зусім шапку-кучомку.

— Добра будзе Кастусю на зіму.

Кастусь абрадавана ўзяў шапку, надзеў яе на галаву і, адплікнуўшы, адгарнуў яе верх і закрыў ім патыліцу і вушы. Шапка была вялікая, Кастусёва галава зусім схавалася ў шапцы, налязае ажна на вочы.

— Троху, мусіць, вялікаватая толькі? — бацька пазірае на Кастуся, а той рукой адпіхае непаслухмяную шапку ўгору з ілба.

— Не, нічога будзе, трошачку толькі вялікаватая.

— А гэта вось боты старыя,— кажа бацька, выцягнуўшы з мяшка зношаныя, са збітымі абцасамі, ссохлыя боты. Перад тым як перадаць іх жонцы, круціць у руках, разглядае.— Трэба будзе абцасы падбіць, ды дзёгцем памазаць, і будзе добра табе,— гаворыць ён да жонкі і перадае боты ў яе рукі.

— Зносіш і сам, не вельмі яны мне спатрэбяцца, па хаце тупаючы...— Але боты ўзяла і агледзела іх гэтак жа, як рабіў муж.

— Ідзі, Марылька, падкладзі лучыны,— загадала маці і пачала збіраць са стала рэчы, а Тарэнта згарнуў мяшок і таксама аддаў яго жонцы.

— Пасаг вам прынёс,— сказаў ён.

Хутка ляглі спаць. Перад сном жонка дастала з сундучка пару чыстай бялізны.

— На, пераадзенься, а то з дарогі... Толькі ты, мусіць, прывык да панскай, а тут пачосная.— Жонка засмялася і, пакуль распранаўся муж, затушыла на комінку галавешкі, якія не паспелі дагарэць. Пасля ўпоцемку, кладучыся спаць, паклала руку на мужава плячо і далонню правяла па голай спіне.— Які ты худы, косці адны.— Гаварыла шэптам.— Адны косці. І жывата зусім няма, бач, падцягнула як, адна яміна, а не жывот...

— А ў цябе не падцягнула? Ці, можа, ты нагадавала жывот тут без мяне, а?..— сказаў гэта і абняў жонку, тулячы яе да сябе.

— А ты яшчэ што скажы. З кім жа гэта я магла нагадаваць яго? Не да таго мне было тут...

Пазней, калі зморанае цела акволела і вочы, стомленыя ўгляданнем у цемру, закрыліся ацяжалелымі павекамі, у галаве пачалі раіцца сны. Сны вярталі ў мінулае, у перажытае.

Цёмная ноч. Такая цёмная, што за пару крокаў нельга разгледзець чалавека, бачыш толькі, як мітусіцца ягоная постаць. Чорна ўнізе, дзе нябачныя лужыны вады і глыбокая гразь, размокшая ад дажджу гліна, грузкая і ліпкая. Чорная і ўгары, дзе навісла густая дажджлівая хмара. Яна вісіць над самымі галовамі і бесперастанку лье цэлымі струменямі халоднай вады. Ужо прамоклі шапка, шынель, ужо няма на целе аніводнай сухой ніткі. Стомленыя ногі шлёпаюць па лужынах, поўных вады. Гліна наліпае на чобаты і робіць іх да немагчымага цяжкімі, ледзь паднімаеш нагу. На плечы цісне мокры ацяжалелы мяшок. Сырыцы рэжуць плечы. Хоць бы на адну хвіліну спыніцца, пастаяць. Але трэба ісці. Трэба, карыстаючыся цемрай, адысці на наступную пазіцыю. І ад усведамлення таго, што ісці яшчэ далёка, хочацца кінуцца на зямлю, хоць гразь там, хоць вада, і, закрыўшы шынелем галаву, ляжаць, ляжаць без канца. Але наўкола гойдаюцца перад вачыма чорныя гарбатыя постаці і да-

кучліва, не змаўкаючы, шлёпаюць па гразі ацяжалелымі нагамі.

Раптам за плячыма ўзвілася ракета і разарвалася высока ўгары, брызнуўшы ў цемру асляпляючым зыркім святлом. За ёй яшчэ і яшчэ ў розных месцах. Пасля з-за небасхілу, рассоўваючы цемру, падняўся высока ў неба велізарны слуп святла. Момант адзін ён хістаўся, стоячы проста над зямлёй: было падобна, быццам людзі натоўпам паднялі гэты гіганцкі слуп і хочуць паставіць яго моцна на зямлі, каб стаяў ён нерухома і асвятляў зямлю. Яшчэ хіснуўся слуп у адзін, у другі бок, на момант замёр нерухома, устаўшы над зямлёй, а пасля павольна пачаў падаць на зямлю, схіляючыся над небасхілам. З гэтым вынырнуў з-за небасхілу другі слуп святла, і, то скрыжоўваючыся, то рассоўваючыся па баках, яны захадзілі панад зямлёй. Нехта страшны працягнуў з-за небасхілу даўгія свае вогненныя рукі і абмацвае імі зямлю, чагосьці шукае на ёй. Вось ён узмахнуў рукою над галовамі шчыльнай рухавай масы згорбленых ценяў, што ідуць па гразі ў цемры, і цені міжвольна прыгнуліся да зямлі, убіраючы глыбей у плечы галовы. Пасля абедзве рукі павольна зблізіліся, як бы збіраючыся абняць гэты строй ценяў, і захадзілі па строі, абмацваючы кожнага ў паасобку. Цені палахліва замітусіліся і, яшчэ не даслухаўшы каманды, мятнуліся ў бакі па полі і пабеглі наперад, стараючыся ўцячы. Але ўцячы нельга было. З-за небасхілу адзін за другім паляцелі шыпучыя клубкі агню. Яны падалі ззаду, наперадзе, з бакоў, сярод самай гушчы мітуслівых згорбленых людскіх ценяў і з грукатам, са звонам ірваліся, засланяючы сабою свет. Каб уцячы ад іх, каб выратавацца ад смерці, ён, Шкробат Тарэнта, салдат сто трыццаць сёмага Сімбірскага палка, кінуўся на зямлю рукамі ў грузкую, ліпкую гліну і папоўз па ёй, месячы яе каленямі ног, цягнучы за сабою па гліне без меры цяжкія свае ногі. Вакол яго падаюць палымнеючыя клубкі, разрываюцца, шыбаюцца ў цемру кавалкамі чалавечых цел, а над усім поўзаюць даўгія, страшныя вогненныя рукі. Ён паўзе, нясмела паглядаючы цераз плячо ўгору, і не заўважае, як перад вачыма вырастае плот. На плоце, перакінуўшы нагу цераз нагу, сядзіць чалавек і, скалячы на яго знізу з-пад абвіслага чэрапа з ашчэранага рота зубы, пляскае далонямі вялікіх абвіслых рук, як бы смеючыся з яго. Ён кідаецца ўбок, але з зямлі раптам падымаецца чалавечы шкілет, акурат такі, як бачыў ён некалі ў адным з гарадоў у магазіне, і ракам паўзе на яго,

пазіраючы ў твар яму нерухомымі ямінамі. Ускрыкнуўшы, ён кідаецца ў другі бок, але і адтуль паўзе гэткі ж самы шкілет. Тады, каб нічога не бачыць, ён нацягвае на галаву шынель і кідаецца тварам у гразь. І тады чуе яшчэ, як ціха пляскаюць абвялыя далоні мерцвяка, што сядзіць на плоце. Каб не чуць іх зусім, ён усё больш і больш нацягвае на галаву шынель і рыецца галавою ў мяккую гліну палявой дарогі.

— Тарэнта, Тарэнта! Божа ж мой! Чаго ж ты... Устань!..

Праснуўшыся, ён бачыць, што не ляжыць на ложку, а стаіць на ім каленкамі, зарыўшыся галавой у падушку. Галава захутана коўдрай. Пад коўдрай горача і няма чым дыхаць. Скінуўшы з галавы коўдру, ён садзіцца на ложак і бачыць, што на ложку сядзіць побач спалоханая жонка. Яна трымае сваю руку на ягоным плячы, і ён адчувае, як дробна і часта дрыжыць усё яе цела.

— Божа ж мой, што з табой, Тарэнтачка?!.

— Нічога...— ён прыпамінае сон і, усё яшчэ не вызваліўшыся ад страху, уздрыгвае...

— Што гэта? Можа, запаліць на комінку?..

— Нічога... не трэба. Хачу піць.— Ён падняўся, пайшоў па хаце да ўслона, дзе стаяла вядро з вадою, і доўга, цяжка глытаючы яе, піў з кварты ваду. Пералежаная рука дрыжала, і дрыжала ў руцэ кварта, бразгаючы аб зубы. Напіўшыся, ён зноў моўчкі лёг.— Кладзіся,— сказаў ён да жонкі,— чаго ж сядзіш? У мяне гэта сон... а часамі, як і не сплю, дык такое перад вачыма ходзіць... Ляж, спі...

Жонка лягла, паправіўшы коўдру, і дрыглівай рукой абняла мужа за плечы, тулячыся да яго грудзей, а пасля пачала моўчкі, ласкава гладзіць рукой яго, стараючыся супакоіць.

Раніцой назаўтра Тарэнта зайшоў да Мікіты, але перакінуўся некалькімі словамі з ім і пайшоў дадому. Дома, на сваім двары, не ведаў, за што ўзяцца. Хата старая, спарахнелая. З ёй нічога не зробіш, яе не наладзіш, яе лепш не чапаць. Гэткі ж стары і хлеў. І ў хляве ўся Тарэнтава маёмасць: худы кашлаты конь. Тарэнта адчыніў вароты і каня з хлева выгнаў на двор.— Ідзі хоць пабадзяйся троху па кустах.— Прычыніў хлеў і пагнаў каня ў вуліцу, а адтуль на прагон. Як загнаў каня ў зараснік, зайшоў да Сузона. Двор Сузонаў быў усё гэткім жа, як тры гады таму назад, але хата яшчэ больш прынізілася да зямлі.

У хаце было цесна і накурана. На лаўцы каля самага стала сядзеў зусім незнаёмы чалавек, немалады ўжо: год так пад сорак сем; побач з ім сядзеў Мікода Жук, далей Сымон Ганорык. А з другога боку каля стала сядзеў стараста поплеч з Сузоніхай. Перад імі непадалёк ад стала стаяў сам Сузон і, размахваючы рукой, апавядаў пра фронт. Правая яго рука то выпростваласся на ўсю даўжыню, то адыходзіла ўбок, то згіналася, падымаючыся ўгору з тым, як ён гаварыў, а следам за ёю куксай варушыўся пад гімнасцёркай пакінуты каля самага пляча кавалак левай рукі, і ад гэтага баўтаўся каля ягонага боку пусты рукаў гімнасцёркі. Змеціўшы гэны рукаў, Тарэнта доўга не мог адарваць ад яго погляду. Рукаў прыгадаў яму абвіслыя рукі мёртвага салдата, якога ён бачыў у сне.

— Ты ім пра вайну не расказвай, не пужай іх, няхай лепш яны пра сваё раскажуць.— З гэтымі словамі Тарэнта падаў усім прысутным руку.

— А чаму ж, няхай расказвае, нам паслухаць цікава.

— Каб цябе, Ахрэм, у акопы на паўгода, мажа б тады не было цікава. Цікавасць тут бач якая? — ён паказаў на Сузонаў пусты рукаў.— Тут хочацца, каб хаця як запамятаць на яе, а табе цікава.

— Цікавасць, правільна, што малая,— умяшаўся ў гутарку настаўнік. Гэта і быў той незнаёмы чалавек, што сядзеў каля самага стала.— Цікавасць шкодная. Ненавідзець трэба вайну. І я таму за бальшавікоў галасаваць буду, калі давядзецца, што яны першыя супроць вайны, так-так, першыя лозунг міру абвясцілі.

— І пра зямлю ў іхняй праграме так як след сказана. У самы раз мужыку гэтая партыя.

— А на маё меркаванне, Іван Пятровіч,— стараста ў гутарцы ўвесь час звяртаўся толькі да настаўніка,— для мужыка самай падхадзяшчай будзе партыя эсэраўская, я так паняў з газет, калі вы чыталі...

— А ты за якую партыю, Тарэнта, а?

— Я? Чорт іх там разбярэцца, якая з іх лепшая самая. Чуў я і тых, і гэтых.

— Ну?

— А пайду за той, якая жыць мне дасць. Больш мне нічога ад іх не трэба...

— Хо-хо! Нічога яму больш не трэба, толькі жыць. Яно, брат, у гэтым і ёсць усё.

— Тарэнта за бальшавікоў будзе,— сказаў Мікода.

— Шчэ не ўгадаў, можа, акурат і за эсэраў.

— А ну іх усіх да мацеры! Вы мне раскажыце вось

лепш, як жывяцё, як у вас тут? Можа, краналі ўжо зямлю ягоную? — Тарэнта кіўнуў галавой у бок да акна.

— Як гэта краналі?

— Ну, як? Ці ж ты думаеш, што яна яму ўся так і застанецца? Ну, гэта годзе. Годзе, мы без зямлі насядзеліся... Рэвалюцыя недарма рабілася. Гэта да рэвалюцыі вы так жылі,— раптам напаў ён на Давыдзюка,— што сваім братам-мужыком насміхаліся, у адну дудку з панам ігралі і не было на вас справядлівасці нідзе. А цяпер будзе...

— Што ж гэта я табе зрабіў такое, што ты на мяне напаў?

— Мала што ты мне зрабіў?.. усе вы рабілі...

— Ну, то Тарэнта за бальшавікоў будзе,— зноў сказаў Мікода.— А зямлі пакуль што не чапалі, чакаем, як яно там, які закон будзе.

— А другіх законаў і быць не можа, як такія. Якія ж яшчэ могуць быць законы?

— Вось тады і пойдзем браць зямлю. Тады ўжо і сваю назад адбярэм і ягоную возьмем...

Ад Сузона Тарэнта пайшоў у поле. Трэба было пагледзець каня, а да ўсяго цягнула пахадзіць, падзівіцца на месцы, у якіх даўно не быў. Каня ён хутка знайшоў у зарасніку. Зараснік быў паміж хутарамі Сапуновым і Піскуновым. Атрымаўшы ў хутары зараснік, ні Сапун, ні Піскун кустоў не выцярэблівалі. У зарасніку пачалі пасвіць сваіх коней ды цялят, куды ганялі іх з вёскі, бо ні той, ні другі яшчэ на хутар не перабраліся, а ўжо за імі пачалі пускаць туды сваіх коней і іншыя. І цяпер, калі ў зараснік прыйшоў Тарэнта, тут пасвіўся не адзін яго конь.

Ад коней Тарэнта пайшоў у поле. На колішняй мяжы, дзе была яшчэ іхняя бацькава паласа, расла груша-дзічка. Расла яна над самым ярам на ўзгорку і шырокім шатром раскінула над узгоркам калючае сваё веццe. Веццe шуміць лісцем ад ветру, які плыве па-над полем. У полі стаяць на ўзгорках, раскіданыя адзінкамі, хутарскія будынкі. На многіх няма стрэх. Вакол іх шэрая пустэча поля, кінутага пад аблог, і лапікі жыта, што выспявае, і зялёныя лапікі ярыны.

Над полем носіцца восенскі вецер і аплывае ўдол за полем, дзе глухой сцяной стаіць балотны хвойнік. Хвойнік на балоце расце на купінах. Ён там куртаты, нізкі і напалову сухі. Не паспеўшы ўзрасці, ён падсыхае ў галлі, гніе ў карэнні і ападае ў мох, які засмоктвае яго на самае сваё

дно. Мох на балоце густы, спорны. Ён вырастае хутка і разрастаецца шырока, паўзе з балота на шапятоўскія сенажаці, густа аплятаючы прыбалотны край іхні бурым сваім кажухом, а мятлюжкі, пажарніца ды асака пачынаюць адыходзіць далей у глыб сенажацей, назаўжды пакідаючы сваё ранейшае месца імхам і хвашчу.

Ранняй вясной стаіць балота непрыступнай зялёнай цытадэллю над нерухомымі вадзянымі прасторамі. Улетку раніцай і ўвечары стаіць над балотам густая тумановая заслона. У спякотныя летнія дні балота часта гарыць. Тады цэлыя тыдні стаіць над балотам, аплываючы з ветрамі за небасхіл, воблака дыму.

Увосень, як пачынаюцца частыя ў гэтых месцах дажджы, дробныя і спорныя, з балотнага дна, з-пад імхоў, уздымаецца вада і затапляе прывычныя свае берагі. Рос на балоце лес. Бацькі дзядоў шапятоўскіх звалілі высозныя дубы, ёлкі, алешыны і зрабілі з іхніх ствалоў кладкі, каб хадзіць за балота рабіць на панскае поле. Кладкі аселі на балотнае дно, зараслі мохам, і цяпер не ўсякі ўмее намацаць іх пад вадой, пад імхамі сваёй нагой.

Позна ўвосень і зімой на балоце выюць ваўкі. Стаямі блукаюць ваўкі па балоце, часта выходзячы адтуль за здабычай, і ў такія часы часта павольнай рыссю перабягаюць усю шапятоўскую вуліцу. Крокі ў ваўкоў частыя і цяжкія, і восенскай ноччу з хаты выразна чуваць, як бяжыць іхні табун па вуліцы і, тулячыся да аконных шыб, людзі доўга і дапытліва ўзіраюцца ў вулічную цемру. Выюць ваўкі на балоце ў даўгія зімнія ночы і тады, калі высока ўгары над хвойнікам стаіць поўны месяцаў круг, і тады, калі кружацца над балотам сумятлівыя снежныя завірухі.

Тарэнту хочацца пайсці да балота. Ён думае, што вось прыйшоў з вайны, прыйшоў, калі добра ўсё абыдзецца, як бы зусім. Трэба пачынаць жыць. Але дзе ж пачынаць? Усё жыццё ён насіў у сабе ўзгадаваную мару пра зямлю, пра жыццё на сваёй уласнай зямлі. За тры гады, якія прабыў ён у салдацкіх казармах, у набітых людзьмі эшалонах, у акопах і ў лазарэце, мара выспела, вырасла ў вялікую сілу, якая і вяла яго за сабою. Яна, гэная сіла, прывяла і дадому. Як ішоў дадому, усё здавалася ясным, прастым: прыйсці і пачынаць жыць па-новаму, не так, як жыў да вайны.

А прыйшоў вось дадому і адразу адчуў адсутнасць нечага вельмі важнага. Гэтым важным была зямля. Не хапала яе. А значыць, даводзілася пакуль што пачынаць

жыццё такое ж, як было некалі. Гэтага не хацелася. І не хацелася з гэтай прычыны ісці дадому на свой двор. Не было там да чаго рук прыкласці.

І ён стаяў на ўзгорку, пад грушай, заняты сваімі думамі, не заўважаючы, як праходзіць час. Апамятаўся, як зарыкалі на дарозе каровы. Набліжаўся вечар. Пастухі гналі кароў з пашы дадому. На дарогу выйшаў акурат насустрач статку і, спыніўшыся каля дарогі, здзівіўся. Сярод статка ён не ўбачыў аніводнага вала. У статку ішоў у самай сярэдзіне толькі адзін рослы рабы бугай. Ішоў ён спакойна і ўпэўнена, ведаючы, што ніхто яго не патрывожыць, і сумаваў, што няма з кім пабіцца. Адтаго, змеціўшы новага чалавека ў нязвычнай адзежы, ён стаў на раскарачаных нагах, схіліў да зямлі кароткую сваю галаву, чмыхнуў, раздзьмухваючы ноздрамі дарожны пясок, і зароў буйна і задзірыста, б'ючы сябе цяжкім хвастом па крутых сытых баках, падкідваючы ўгору з зямлі нагамі пясок. І адразу каровы адышліся ў бакі, абганяючы яго, а маладыя бычкі захадзілі вакол, нюхаючы раздутымі ноздрамі паветра.

Пастух падышоў і ляснуў пужкаю, разганяючы маладых, пасля шлёгнуў пугай бугая.

— Што ж гэта, Ярома, у тваім статку валоў няма?

— Валоў?.. Гм... Ён валоў захацеў. Ты глянь, колькі кароў засталося, а ні то валоў. Усе там! — Ярома махнуў некуды ў прастор рукой.

— Вайна паела?

— Яна ўсё паела: і валоў, і хлеб, і людзей.

— Вайна хутка скончыцца, Ярома.

— І я чуў, што скончыцца, годзе ўжо.

— Ну, а як ты жыць цяпер думаеш, Ярома? Зямлю думаеш браць?

— Зямлю? А дзе ж я яе вазьму, тую зямлю? Дый на што яна мне, да чаго? — ён зірнуў на свае рукі.— Носам я яе не ўзару...

— Ну, канём узарэш, каня купіш, хлеба ж у цябе цяпер больш, чым ва ўсіх...

— Які там хлеб?.. І сіл у мяне на зямлю няма ўжо.

— А я вазьму сабе зямлі, я яшчэ пажыву. Вось, брат, жыў жа я, як і ты, ні кала, ні двара, а цяпер хоць пажыву, як людзі...

— То ўжо хіба чуваць што пра зямлю? — запытаў пастух.

— Яшчэ пакуль нічога не чуваць. Але ж справа тут ясная. Зямлі цяпер павінны даць, каб на зіму чалавек

мог ужо і пасеяць тое-сёе... Так, брат, цяпер пажывем, можа, троху і мы, як людзі, не ўсё ж нам гібець. Як ты думаеш, Ярома, пажывем?

— Табе чаму ж не пажыць, раз зямлі дадуць, ты яшчэ не зломак.

— Ды не зломак яшчэ,— згадзіўся Шкробат і зірнуў на сябе, як бы хацеў пераканацца ў сваёй яшчэ вялікай сіле.

Дома Шкробат накалоў лучыны, занёс яе ў хату і ўжо да ночы больш нікуды не пайшоў з сваёй хаты. Так быў пражыты першы дзень яго пабыўкі, а за ім бясконцым ланцугом пацягнуліся другія дні, падобныя на гэны, запоўненыя працай на панскіх сенажацях і напружаным чаканнем, што ў адзін з іх будзе ўрэшце знойдзена тое, што шукае ён усё сваё жыццё. У гэтым чаканні прайшоў і канец жніўня. І можа б доўгі яшчэ час нічога не змянілася б у жыцці Шкробатавым і ў жыцці шапятоўцаў, каб не трапіла неяк Тарэнту Шкробату ў адзін з дзён пабыць у Пагулянцы ў воласці.

## ПАДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

У воласці, у зборным пакоі, калі зайшоў туды Тарэнта, каля стала цэлым натоўпам стаялі сяляне. За сталом на шырокім даўгім услоне сядзеў салдат. Ён нешта чытаў. Чытаў голасна і павольна, так што кожнае слова запаміналася.

— «У сучасны момант,— чытаў ён,— на месцах будуць утвораны прымірыцельныя земляробчыя камеры для добраахвотнага пагаднення паміж сялянамі і землеўласнікамі...

— Пытанне пра арэнду зямель, якія пустуюць, таксама спешна распрацоўваецца. У імя агульнага парадку прашу кіравацца пастановай Часовага ўрада і не ўстанаўляць самавольна падабенства законаў».

Тарэнта пачуў толькі канец прачытанага. Ён стаяў нерухома на месцы, як укапаны, але нічога не зразумеў і таму, як змоўк салдат, пачаў праціскацца да стала.

— Ты, зямляк, пачакай,— амаль крыкнуў ён, змеціўшы, што салдат згортвае паперку, з якой чытаў, і мерыцца пакласці яе ў адварот рукава.— Я ў гэтым нічога не разабраў...

Мужчыны прапусцілі Тарэнту да стала, чакаючы пачуць яшчэ нешта, і зноў згрудзіліся вакол стала шчыльным кальцом.

— У чым ты нічога не разабраў? — запытаў салдат.

Ён сядзеў усё гэтакі ж спакойны на сваім месцы, а перад ім, схіліўшыся над сталом, стаяў Тарэнта. Рукой адной Тарэнта ў стол упёрся, а другую працягнуў да салдата, паказваючы на ягоную паперку.— А што ты тут хацеў разабраць? — запытаў салдат.— Ды ці ты гэтага не чытаў? З вясны ж яшчэ, здаецца, на сцяне вісела, мог бы і прачытаць.

— Я таго не ведаю, дзе яна вісела, а ты яшчэ раз прачытай, дай разабрацца ў тым, што напісана.

— Разабрацца ў гэтым — лёгка разбярэшся, калі галаву маеш,— сказаў салдат і падняўся з-за стала, трымаючы ў руцэ паперку.— Вясной пачалі дзе-нідзе мужычкі панскую зямлю браць, засяваць. Думалі, раз рэвалюцыя, раз цара скінулі, дык зямля і іхняя...

— А чыя ж зямля?

— Ну, вось і ён, аказваецца, акурат гэтак жа думае.

— А ты не жартуй! Ты хто такі будзеш?

— Хто я, гэта, зямляк, справа не такая важная. Важна, што міністр Шынгароў мужычкоў такіх да парадку заклікае, абяцаючы ўсё па закону зрабіць. Ну, а гэта вядомая рэч...

У Тарэнты ад цеснаты і ад напружання на ілбе выступіў пот. Ён зняў з галавы шапку і шапкай выцер лоб.

— Ты скажы, як жа з зямлёй, раз ён, закон, абяцае, а браць не можна. Які ж тады закон?..

— А вось які закон: цара скінулі, а паны ды падпанкі розныя засталіся. Дык што ж ты думаеш, што яны табе самі, ды яшчэ па закону зямлю аддадуць? Ім абманіць мужыка пакуль што трэба, вось і цягнуць ды абяцанкамі яго кормяць. Маўляў, сам не бяры, мы вось камеру ўтворым, а вы там тады ўжо з панамі і згаворыцеся, ці вас зговораць, якую зямлю вам пан у арэнду здасць, ды за якую цану здасць.

— Як гэта ў арэнду? — думка працавала напружана і шпарка, стараючыся ўлавіць сэнс у тым, што гаворыць салдат. Гэта трэба было зрабіць як мага хутчэй, бо адчуваў Тарэнта, як з незвычайнай шпаркасцю разбураюцца планы, якімі жыў ён гэныя месяцы пасля рэвалюцыі, як знікаюць надзеі, вынашаныя ў адзіноце, правераныя ў гутарках і спрэчках са сваімі аднадумцамі. Усё было зусім прастым, выразным. Ён і думкі не дапускаў, што з зямлёй можа быць неяк інакш, не так, як гэта ўяўляў сам ён.— Ты пачакай,— папрасіў ён салдата.— Пра

якую ж арэнду ты гаворыш? Якая ж арэнда, раз зямлю народу перадаць павінны?

— У вас пан ёсць? — запытаў салдат замест адказу.

— Ёсць. Пілацееў у нас.

— Зямлі ў яго сколькі?

— Удоб'я тысячы чатыры, ды балотнай...

— А ў вас ува ўсіх сколькі?

— У нас і палавіны таго няма.

— Дык чаму ж гэта ты думаеш, што ён аддасць вам зямлю па сваёй волі?

— Ды не ён аддасць, улада аддасць.

— А ўлада чыя ж? Твая ці ягоная? Ты вось салдат і я салдат, ведаем, як на фронце было. Пакуль не сарвалі з яго катарага эпалеты, пакуль не пырнулі таго-сяго штыком, дык хоць і рэвалюцыя, хоць і свабода, а ён усё ў морду меціўся нашаму брату. І тут тое ж самае. Цара скінулі, а князі ды абшарнікі засталіся: Львоў, Гучкоў, Мілюкоў, Шангароў... Нябось твайго прозвішча няма сярод іх? А ім аднаго і хочацца, каб хаця зямлі як не аддаць. Яны закон абяцаюць, а які ж, як ты кажаш, закон можа быць? Калі б хацелі зямлю аддаць, дык закон на гэта лёгка напісаць, думаць тут багата не трэба вельмі. А вось яны думаюць, думаюць, каб як хітрэй выкруціцца, каб не аддаць зямлі. Яны табе арэнду падсунуць, можа, балота тое, што казаў, прададуць...

— Так...— Шкробат стаяў насупроць салдата, абеімі рукамі ўпёршыся ў стол. Пад правай рукой, заціснутая ў пальцах, ляжала на стале шапка. На ілбе і на шчаках пад вачыма буйнымі кроплямі выступіў пот.— Так,— сказаў ён яшчэ раз, стараючыся ўлавіць у салдатавых словах самае галоўнае,— а што ж тады рабіць?

— Браць зямлю трэба. Ты на фронце быў?

— Ну?..

— Салдацкія камітэты на фронце бачыў? Дык вось свае такія камітэты ўтвараць трэба і браць зямлю і даваць яе тым, у каго няма, у каго мала. Па-другому тут няма чаго думаць, гэта не для добрага слова кажу, не для таго, каб пагаварыць толькі. Сам я салдат Ізмайлаўскага палка. Вясной у нас таварыш Ленін быў. Таварыш Ленін салдат прасіў, як перадавых з сялян, пасабіць сялянству разабрацца ў палітыцы. Я ад палкавога камітэта прыехаў, вось дакумент мой.— Салдат адхінуў палу шыняля, дастаў з кішэні дакумент і, разгарнуўшы, паклаў яго перад сабою на стол.— І таму я не ад свайго імя гавару і не сваімі словамі, а словамі таварыша Леніна. Цара сён-

ня няма ў Расіі, але пануюць капіталісты і абшарнікі, у іхніх руках улада, а не ў руках народа, а трэба, каб знізу і да верху, ад тваёй вёскі глухой,— рукой паказаў на Тарэнту,— да Піцера, каб улада належала Саветам рабочых, салдацкіх, батрацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Толькі такая ўлада і перадасць зямлю. Я прыехаў сюды пасабіць вам, паколькі я сам з тутэйшых месц. І табе, зямляк, на сябе справу трэба ўзяць. Дадому прыедзеш і збірай сваіх, камітэт выбірайце, ды няхай камітэт і забірае зямлю... А чакаць няма на што, справа — ясная. Тут справа такая цяпер, што ці мы зямлю возьмем і засеем з восені, ці паны нас абкруцяць... Вось і ўсё.— Салдат узяў са стала дакумент і падаў Тарэнту.

— Гэта точна, што ты Ізмайлаўскага палка,— сказаў Тарэнта, аддаючы дакумент назад. Ён узяў са стала шапку і зноў шапкай выцер успацелы твар. Пасля надзеў шапку і пайшоў ад стала да дзвярэй. Але каля дзвярэй спыніўся зноў.

— Ну, а замацаваць за кожным як жа тут зямлю, калі, скажам, мы яе ўзялі б?

— А так і замацоўвайце камітэтам. Галоўнае, каб пасеяць на зіму, а вясной разбярэцеся, да вясны ўся наша ўлада будзе, а не іхняя...

Не даслухаўшы, што яшчэ скажа салдат, Тарэнта выйшаў з воласці, адвязаў ад плота каня і, нікуды больш не заязджаючы, паехаў дадому. Было адно жаданне, як мага хутчэй даехаць, пагаварыць з Мікодам і нешта рабіць, рабіць хутчэй, бо, здавалася, прапусцяць яны яшчэ колькі дзён і тады ўсё загіне. Распалены гэткімі думкамі, ён старанна шморгаў за павады, падганяючы каня, і пахвілінна тузаў яго пад бакі ботамі. Ад такой неспакойнай язды балелі ногі. Конская спіна рэзала, было цвёрда сядзець на ёй, і Тарэнта раз-пораз саскакваў з каня і цягнуў яго за повад за сабою, мераючы дарогу шырокімі, крыху нервовымі крокамі.

Да Шапятоўкі пад'ехаў Тарэнта, як зусім змерклася. Словы салдатавы не выходзілі з галавы. Яны хвалявалі, хацелася як мага хутчэй пераказаць іх і іншым. Таму, як прыехаў на свой двор, зайшоў толькі ў хату, каб паказацца, і зараз жа пайшоў да Мікоды. У Мікодавай хаце, як прыйшоў ён туды, плячыма да дзвярэй стаяў нехта ў салдацкай гімнасцёрцы і гаварыў амаль зусім падобнае да таго, што чуў Тарэнта ад салдата ў воласці. Ужо Тарэнта гатоў быў падумаць, што прыехаў-такі салдат і ў Шапя-

тоўку, як той павярнуўся тварам насустрач яму, Шкробат пазнаў Міхалку Хвойчыка.

— Вось табе і на! — сказаў Тарэнта, вітаючыся з ім.— Я толькі думаў, што от прыеду і здзіўлю іх, сказаўшы, што, аж і ён тое самае гаворыць.

— А ты дзе ж што пачуў такое?

— Вось пачуў жа, у воласці.

Тады ўсе, хто быў у хаце, прыціхлі, далі Тарэнту расказаць пра пачутае. Усё, што казаў Хвойчык, было цікавым, дражніла жаданні, якія цэлымі гадамі насілі яны ў сабе, але здавалася яно чамусьці далёкім, пэўне таму, што здалёк прыехаў і прывёз усё гэта Хвойчык. Але калі пачулі тое ж самае ад Тарэнты, калі пачулі ад яго, што пра гэта, не хаваючыся, гаварыў салдат, які мае спецыяльныя дакументы, які для гэтага і прыехаў ажна з Петраграда, тады ўсё паўстала ў новым, іншым святле.

Першым пасля Тарэнты абазваўся Мікода.

— Ага,— сказаў ён,— значыць, і па другіх месцах людзі гэтак жа думаюць? Ну, то няма чаго баяцца і нам. Як ты думаеш, Іван Пятровіч? — звярнуўся ён да настаўніка.

— Як я думаю? Думаць можна на розны лад, але справа такая, калі быць праўдзівым: паўгода прайшло, як рэвалюцыя адбылася, а сяляне ўсё яшчэ чакаюць сваёй долі, ім усё яшчэ прапануюць пачакаць. Вось тут і законнае пытанне, ці варта чакаць? І чаго дачакаешся?

— Калі ж тут чакаць ужо? Сеяць трэба!

— Правільна! Якое тут чаканне можа быць?

— Ды і не мы ж адны, урэшце, такое робім, усе так робяць.

Пасля гэтага яны доўгі час яшчэ раіліся, скучыўшыся каля стала. Было гэта неабходна, каб замацавацца на згаворaным, бо ў гутарцы ўсё здавалася больш ясным і поўным.

Назаўтра пад поўдня сабралі на Сузонавым двары людзей. Збіралі самі, без старасты, і збіралі не ўсіх, а толькі тых, у каго зусім няма зямлі, ды ў каго яе мала. Аднак на збор прыйшлі ўсе.

— Сышліся мы па вялікай справе,— сказаў Тарэнта, як сабраліся.— На двары восень, людзі пасеялі амаль, а мы ўсё нечага чакаем, гледзячы на пілацееўскую зямлю. А я думаю, што чакаць няма чаго, раз рэвалюцыя паўгода таму назад як была. Зямля народная павінна быць.

— А дзе ж закон? — вытыркнуўся наперад староста.— Па якому ж гэта праву ты зямлю возьмеш?

— Зямля народная, гэта ясна, для гэтага і рэвалюцыя была, і пакуль там нехта да закона дадумаецца, нам сеяць трэба, нам няма чаго чакаць. А як і што будзе, пра тое нам раскажа Іван Пятровіч.— Рукой паказаў на настаўніка, які стаяў побач.

Настаўніка слухалі з вялікай увагай, і ні адзін чалавек не запярэчыў, калі настаўнік запрапанаваў скласці камітэт, назваўшы прозвішчы Шкробата Тарэнты, Мікоды Жука, Хвойчыка Міхалкі, Сузона Каляды, Ганорыка Сымона і сваё. За гэтым некалькі хвілін маўчалі. Настаўнік перапісаў на паперы прозвішчы камітэтчыкаў і падаў паперу бліжэйшым, каб на ёй распісаліся.

— Гэта правільна,— пахваліла настаўнікаву выдумку некалькі галасоў,— каб пасля не казалі, што мы нічога ведаць не ведаем...

— Каб калі ўжо давядзецца адказваць, дык усім, а не аднаму каму.

— А калі я не згодзен на такое? — запытаў стараста. Яго ўраз падтрымаў Мікіта і яшчэ некалькі чалавек.

— То цябе ніхто і не просіць. Я, хлопцы, пра гэта і сказаць хачу. Зямлю мы таму дадзім, у каго яе няма, ды ў каго мала. А табе, Ахрэм, ды Піскуну, ды Сапуну, ды Мікіту нашаму, то, я думаю, няма чаго даваць, хопіць з іх і той, што маюць.

— Дык то ж свая! — закрычаў Мікіта.— Якое ж ты маеш права пра тую зямлю гаварыць, упікаць мне той зямлёй? Га? Ён не дась!..

— Ага, а як жа, асэсар то такі!

— Дык вы ж падпісаць паперы не хочаце?

— Папера сваім чарадом, а зямля сваім чарадом.

— Гэта то ўжо не так.

— А мы, мажа, той зямлі і браць не будзем, не дужа на яе пагалімся, але толькі ў такой справе праўда павінна быць.— Стараста загаварыў спакайней.— Не тое што вы яе возьмеце, а другім не дасцё. Хто дасць ці не дасць, гэта справа яшчэ далёкая, але мы, мажа, яе і самі браць не будзем...

— Дык чаго ж вы крычыцё тады?

— Бо ты ж дужа крычыш, голас падняў свой.

Тарэнта зірнуў згары на Мікітаў твар...

— Нешта ты расхадзіўся сёння. Можа, лепей было б, каб памаўчаў?

Мікіта нешта буркнуў і адышоў да старасты.

— А цяпер, Іван Пятровіч, можа, зразу і пойдзем,—

запрапанаваў Тарэнта.— Непарадку ў нас ніякага не будзе: зробім мы ўсё чын-чынам, як след.

З гэтым і пайшлі. Пайшлі спачатку толькі камітэтчыкі; мужчыны заставаліся нейкі час на Сузонавым двары, пасля неяк само так выйшла, усе, як былі, пайшлі вуліцаю ўслед за камітэтчыкамі.

Хутка з дарогі Тарэнта звярнуў на поле і пайшоў да двара нацянькі. Зрабіў ён гэта не таму, што ісці так было значна бліжэй, а таму, што хацелася перайсці поле, якое цераз нейкі час будзе, можа, ягоным. Пра гэта і думаў ён цяпер. Прагна аглядаючы вачыма поле, мяркуе ён, дзе было б лепш узяць зямлю яму самому, ці то тут, бліжэй да дарогі, ці, можа, па той бок двара, ад рэчкі, дзе і высокага поля троху ёсць, і нізіна ёсць. Заняты гэтымі меркаваннямі, ён маўчыць. Слухае, як мякка ступаюць ногі па жытнішчы. «Як пух, мяккая,— думае ён,— вырабілі людзі, сваю так не выраблялі». Нагнуўся і рукой падняў з пожні камяк зямлі. Зямля сухая. Пальцамі расцёр яе і са жмені сыпануў па пожні, пасеяў. І з гэтым парашыў, што зямлю сабе возьме абавязкова каля рэчкі. Ён прыпомніў, як часта даводзілася быць каля рэчкі на паплавах. Улетку там жоўцень красак і густы сакавіты мурожны насціл. Як зморышся, пад сонцам косячы, хочацца тады ўпасці на густую мураву, схіліцца над самай вадой рэчкі і піць яе губамі проста з ракі, піць доўга, аж пакуль не прагоніш дакучлівай смагі. А напіўшыся, легчы ў мураве тварам да зямлі і хоць некалькі хвілін ляжаць, раскінуўшы рукі, ляжаць так, каб увесь твар быў у травяной мякаці, каб дыхаць даўкімі пахамі чорнай ліпкай зямлі і каб вочы бачылі зусім зблізку, як сплялося ў зямлі травяное карэнне. Паляжаць так і тады перавярнуцца і легчы тварам дагары, каб над галавой была сінь нябёс ды лахматыя атрускі белых далёкіх хмар.

— Трава ці расліна, скажам, каранямі, а чалавек і рукамі і зубамі за зямлю трымаецца,— гаворыць ён уголас, але ні да каго не звяртаючыся, і ідзе полем, мераючы яго шырокімі крокамі.— Усё з зямлі жыве. Усё за яе трымаецца, і лішні ты чалавек на зямлі, калі не маеш свайго ўласнага месца на ёй ці калі, скажам, цесна табе на такой вялікай планідзе, калі вузак твой шнур на ёй. Зямля таго любіць, хто цвёрда на ёй стаіць, хто шырокім крокам мерае на ёй сваю часціну... А тут столькі людзей без зямлі сядзелі, голадам душыліся...

Непрыкметна падышлі да панскага двара. У двары пачалі збірацца парабкі. Нехта папярэдзіў і аканома, што

ідуць людзі, а ён адразу ж папярэдзіў і паню. Таму, калі прыйшлі камітэтчыкі ў двор, пані з аканомам стаяла на верандзе, падрыхтаваная да нечаканай сустрэчы. На прывітанне камітэтчыкам яна адказала, ледзь кіўнуўшы галавою, трымаючыся з гонарам, які вынесла з пакояў.

— Мы па справе прыйшлі,— загаварыў з ёю Шкробат,— цэлым камітэтам.— Ён узяў ад Івана Пятровіча паперу і паказаў ёй. Пакуль пані чытала напісанае на паперы, нічога яшчэ не разумеючы, толькі смутна ўгадваючы па ўсім гэтым нешта нядобрае для сябе, Шкробат маўчаў. Загаварыў зноў, як яна аддала назад паперу.— Справа наша аб зямлі. Зямлю мы, пані, ад цябе забярэм...

За плячыма ў абшарніцы стаяў, трымаючы ў руцэ шапку, аканом. Ён пахвілінна выціраў насоўкай лоб і палахліва паглядаў то на камітэтчыкаў, то на парабкаў, якія сышліся да веранды.

— Як гэта так вы забярэце зямлю?

— А так і забярэм, камітэтам, вобчаствам.

— Я вас пра гэта не пытаю, я пытаю, па якому гэта праву?

— Права ў нас ёсць, правы нашы рэвалюцыя адкрыла, цяпер у вас правоў менш будзе.

— Калі вы будзеце грубіць, я адмоўлюся гаварыць з вамі.— Абшарніца хвалявалася і чырванела ад злосці.

— Гэта, скажам, як вам захочацца. Мы рабіць вам беспакойства ніякага не будзем, нам вы не патрэбны. Мы толькі сказаць прыйшлі, папярэдзіць, як гэта гаворыцца, што зямлю забярэм, каб у вас лішніх турбот не было.

— Вы,— абшарніца падалася на крок бліжэй да Тарэнты,— вы думалі над тым, што вы робіце?

— Гэта будзьце ўпэўнены.

— Мы не без галоў.

— Робім тое, што нам след рабіць.

Парабкі ўнізе зашапталіся. Хутка прыйшло чалавек сем сялян яшчэ, а за імі і ўсе, хто быў у Шапятоўцы на сходзе. Ішлі яны з гоманам, у якім вылучаліся задзірыстыя жартаўлівыя галасы. Гэты гоман ды спакойныя галасы камітэтчыкаў напалохалі абшарніцу. Яна адчула сябе бездапаможнай. Пад горла падгарнуліся камяком крыўда і злосць і перашкаджалі дыхаць. Ад гэтага закружылася галава, ногі акволелі, і яна не паспела пайсці ў пакоі, як была надумалася, а нясмела, хістаючыся, адышла назад і апусцілася ў крэсла. Аканом падхапіў яе пад рукі і пасабіў сесці.

— Божа мой! — абшарніца рукой схапілася за грудзі,

пасля паднесла руку з насоўкай да воч.— Божа мой, што ж гэта такое?

— А ты, пані, дарэмна не расстрайвайся,— Тарэнта азірнуўся на сваіх.— Мы табе беспакойства ніякага не зробім...

Абшарніца адвяла ад воч насоўку і, трываючы дрыглівыя рукі перад тварам, прастагнала:

— Божа! І яны яшчэ здзекуюцца.— Заплакала, але цераз хвіліну застукала кулакамі па крэсле.

— Вон! Вон з майго двара! — Схапілася з крэсла і злосная, чырвоная ад злосці, пайшла на мужчын, паказваючы рукой з веранды.— Вон! Я не хачу з вамі гаварыць, я не хачу бачыць вас.

З веранды падаліся былі тады сысці некаторыя. Падаўся назад Тарэнта і Мікода, а настаўнік разгублена адышоў убок, і яна пайшла на Сузона, рукой схапіла яго за гімнасцёрку на плячы адрэзанай рукі, хацела так павярнуць яго з веранды. І ўжо ўсе чакалі, што Сузон пойдзе ўніз, і ўжо настаўнік, баючыся, што абшарніца і яго возьме так за плячо, бокам падаўся ўніз, як адбылося нешта нечаканае. Сузон, як схапіла яго абшарніца за плячо, адразу разгубіўся быў, але калі шмарганула яна за рукаў і кранула пальцамі, уразіла нядаўна загоеную рану, раптам уздрыгануў увесь, збялеў і з размаху сваёй адкінуў яе руку ўбок.

— Ты мяне не чапай! Рукамі не тузайся!.. Сука старая!..

У Сузона ў момант твар укрыўся кроплямі поту, шчокі пачалі падрыгваць.

Зірнуўшы ў твар яму, Пілацеіха падалася назад, ускрыкнула, як назваў яе сукай, і, уцякаючы ў пакоі, істэрычным голасам пачала крычаць, пагражаючы законамі. За ёй у пакоі падаўся і аканом. Цераз нейкі час ён выйшаў адтуль, моўчкі прайшоў каля мужчын і загадаў фурману запрагаць коней. Хвілін цераз пятнаццаць Пілацеіха, хаваючы ў поглядзе пагрозу, прайшла да фаэтона, села і паехала з двара.

Пакуль адбывалася ўсё гэта, мужчыны маўчалі. Сузон стаяў сярод купкі мужчын і ўсхвалявана гаварыў, што яму ўжо надакучыла цярпець, што ён нічога не баіцца, хоць бы і катаргі, што калі б яшчэ Пілацеіха кранула, ён штурхануў бы яе так, што аж паляцела б. А камітэтчыкі раіліся, што зрабіць. Да іхняй гаворкі, крыху збянтэжаныя ўсім, што ўбачылі, прыслухоўваліся сяляне. Было сярод сялян і некалькі жанчын, тыя, у каго забра-

лі мужчын на вайну. Самай бойкай сярод жанчын была ўдава Вера Занькові. Маладая, моцная, заўжды вясёлая, была яна сярод жанчын самай знатнай. І хоць, сабраўшыся дзе-небудзь пры лучыне, любілі бабы шапятоўскія пасакатаць пра Веру, пашаптацца пра тое, як яна на каго з хлопцаў зірнула, нават паганіць яе за тое, што вось яна дзе ні пойдзе, дык усюды ёй нешта весела, усё ж любілі яе, любілі і за весялосць, і за тое, што нікому і нідзе яна не пераступіць свайго. І цяпер, адчуваючы сябе роўнай сярод мужчын, яна першая падала параду камітэтчыкам, што рабіць.

— Хай сабе і едзе, думае, што нехта збаіцца яе. А вы бярыце там паперы якія, калі трэба, і мерайце зямлю, а няма папер, без іх. Усё роўна ж пасадзяць вас,— усміхнулася яна, дражнячы,— нікуды ж вы не падзенецеся.

— Ды яно і праўда, скажам аканому, каб пайшоў з намі, і будзем адбіваць участкі кожнаму па парадку.

— А каморнік жа хто ў нас? — ажывіўся натоўп, падбадзёраны такім канцом.

— А навошта каморнік?

— Каморнік у панскую карысць мераў, а мы сабе самі.

— На вока!..

— На крывую бярозу мяжу павядзем...

І з гэтым пайшлі. Мералі перш ад рэчкі. Непадалёк ад сядзібы канчалася паласа канапляніку. Паўз каналянік і пайшлі камітэтчыкі з сажонкай, якую зрабіў нехта ўжо на панскім двары. Як адмералі дзвесце сажняў, спыніліся і азірнуліся назад, ці далёка.

— Вузка, гані яшчэ.

— Гані, поля хопіць.

Калі ў другі раз спыніліся, тады забілі ў зямлю сыры, зацясаны тут жа калок. Забіваў калок Мікода. Ён старанна біў па калу абухом сякеры і ўсё рукой спрабаваў, ці годзе біць, каб нялёгка было выцягнуць яго пасля з зямлі. І на поле, як і ў двор, прыйшлі ўсе шапятоўцы. Усім хацелася на свае вочы бачыць, што робіцца, дзе каму які ўчастак адаб'юць.

Забіў Мікода калок і, разагнуўшыся, запытаў:

— Дык чыя гэта мяжа будзе?

— Ага, каму ж гэта запішаш?

На запытанне ніхто не адказаў. Па тварах ува ўсіх прабегла разгубленасць. Мужчыны пачалі хваляваца, парываючыся і не асмельваючыся загаварыць. Гэткім жа разгубленым стаяў моўчкі сярод усіх і Тарэнта Шкробат.

Ён быў неспакойным. Вось-вось намерыцца загаварыць і нічога не скажа, усё пазірае то ў бок пад рэчку, то туды, дзе прыазёрныя сенажаці.

— Тарэнту запісаць трэба,— запрапанавала Вера, разгадаўшы ягоныя меркаванні.

— Яно можна і другому каму,— нейкім па-незвычайнаму ціхім голасам сказаў Тарэнта,— а можна і мне.— Апошнія словы сказаў зусім ціха.

— А чаму гэта, канешне, Тарэнту гэны кавалак? — запытаў нехта.

— А таму, што яму,— адказала Вера.— Вось не табе, а яму.

— Ну, гэта ты тут парадкі не ўстанаўляй, кыш на седала к пеўню!

— Каб жа з цябе добры певень быў, а то грэбень у цябе абвяў зусім...

Мужчыны зарагаталі.

— Так і пішыце за Тарэнтам гэны кавалак,— карыстаючыся тым, што павесялелі ўсе, запрапанавала Вера яшчэ раз.— Ён у нас самы беззямельны, як ёсць.

— Ну, пішы там, Іван Пятровіч,— сказаў Мікода,— хай па яе хоць раз будзе.

— Шчэ не раз па-мойму будзе,— агрызнулася, усміхаючыся, Вера, узяла з Хвойчыкавых рук сажонку і пайшла з ёй паўз канаплянік, мераючы сажань за сажнем, пахвілінна паварочваючыся да іх тварам, укрытым усмешкаю.— Я сама сабе адмераю,— вытлумачыла яна свой учынак.— Не давяраю мужчынам, яны ўсё мяркуюць, каб як бабу абманіць.

— Дужа цябе абманіш.

— А ты паспрабуй,— Вера ўскінула насустрач Хвойчыку ўхмылку, падражніла ўхмылкай і пайшла наперадзе ўсіх з сажонкаю.

— А чаму гэта ты сабе тут мераеш?

— Бо хачу ў Тарэнты суседкай быць.

— Упадабала хіба?

— Нё ж цябе ўпадабаю, такога нягеглага!

І зноў адгукнуліся мужчыны рогатам. Участак, які адмерала Вера, запісалі на яе імя. Сажонку Вера пасля гэтага перадала Хвойчыку.

— Ідзі мерай, мне ўжо хопіць.

Канчалі мераць на другі дзень, акурат у пару, калі з воласці вярталася Пілацеіха. Змецiўшы панскіх коней, сяляне зацікавіліся, ці не спыніцца фаэтон і ці не выйдзе з яго хто-небудзь з валасных, але фаэтон праехаў, не спы-

ніўшыся, аж да сядзібы. На поле гэтаксама ніхто не прыйшоў. Аднак яшчэ цераз дзень у Шапятоўку прыехаў валасны старшыня. Зайшоў ён да старасты, пасядзеў у таго, папалуднаваў і паехаў назад. А яшчэ цераз некалькі дзён даведаліся шапятоўцы, што Пілацеіха паехала ў Петраград да мужа.

Гэта былі першыя дні верасня, сонечныя, цёплыя, у якія звычайна ў гэтых месцах канчаюць сеяць азімае жыта. Але ў тысяча дзевяцьсот семнаццатым годзе восеньская сяўба зацягнулася ў Шапятоўцы на больш, як калі. І кожнага, хто трапляў у гэныя дні ў Шапятоўку, дзівіла, што сеюць усе разам. У некалькі дзён увесь прастор пілацееўскага поля чарнеў свежазабаранаванай раллёй. Хутка раллю баразнамі падзялілі на роўныя пакатыя загоны, а яшчэ цераз некалькі дзён жыта ўзышло. Яшчэ звечара, аглядаючы поле, Тарэнта часта згінаўся над загонам і прыглядаўся да зямлі. Зямля была голай. Дзе-нідзе выскальвалася травіна, але жыта яшчэ не ўзыходзіла. На паверхні загонаў месцамі ляжалі зерні, не прысыпаныя зямлёй. Зерні былі зусім яшчэ не крануты прарастаннем. Згінаючыся над загонам, Тарэнта то запіхаў зерне такое ў мяккую раллю, то клаў на зерне зверху камяк зямлі, каб пад зямлёй зерне хутчэй разапрэла і ўзышло. Назаўтра Тарэнта зноў прыйшоў на поле і не пазнаў яго. Было зусім яшчэ рана. Сонца падымалася над зямлёй з-за балота, кладучы на загоны мяккія, касыя свае промені. Па загоне разам з сонцавымі праменямі цягнуўся даўгі Тарэнтаў цень, губячыся галавою ў далечыні каля рэчкі. Пазіраючы ўслед свайму ценю, Тарэнта змеціў, як змяняецца колер зямлі. Чым далей ад ног, тым мякчэй гэны колер, тым гусцей на ёй зялёнае, ледзь прыкметнае яшчэ адценне, а самы ўзгорак, густа асветлены сонцам, шчацініцца зеленаватай пазалотай.

«Узышло!» Тарэнта застыў на месцы, пасля сагнуўся і сеў на карачках перад загонам, узіраючыся ў цёмнашэрую зямлю. Ён сядзеў з прыкаваным да зямлі поглядам і, углядаючыся ў яе, шукаў на ёй нясмелых, ледзь прыкметных каліў маладога жыта. Вось яны, адно, другое, трэцяе... пятае... дванаццатае... яны зусім яшчэ непрыкметныя, кволенькія. Далей ад яго, асветленыя сонцам, яны больш прыкметныя, а перад вачыма Шкробат ледзь адрознівае іх ад зямлі. Шукаючы іх, ён водзіць панад загонам рукою з выцягнутым пальцам. «Вось... і вось... і вось яшчэ...»

Вочы доўга ўглядаюцца ў адно месца, пакуль палец

кранаецца каліва, якое аказваецца маленькім кавалачкам ад травіны. Жытніх каліў мала, яны рэдкія, і вочы стамляюцца, шукаючы іх, але Тарэнта ўсё гэтак жа сядзіць перад загонам на карачках. Здаецца, што ён бачыць, як узыходзяць новыя калівы. Пад лёгкім пакровам шэрых пясчын ён адгадвае іх. Лёгка, ледзь-ледзь ён кранае пальцам пясчынкі, разгортвае іх і намацвае мякаццю пальца нежны востры канец жытняга парастка. Тады здаецца яму, што ледзь прыкметна варушыцца пясок вакол па загону, як хапае погляд, і вочы бачаць, як, пракалоўшы тонкую плеўку з пясчынак, вылазяць з зямлі новыя парасткі, якіх яшчэ не было.

— Узышло хіба?

Тарэнта паволі, адарваўшы погляд, уздымае галаў угору ад загонаў і бачыць перад сабою братаў твар. Брат таксама крыху сагнуўся над загонам, углядаючыся ў зямлю.— Жыта-то тут добрае,— кажа ён,— яшчэ якое добрае.

Слухаючы яго, Тарэнта падымаецца з зямлі, выпроствасцца.

— Што ты тут робіш? — пытае ён у брата.

— Пагаварыць з табой хачу, во што. Мне, канешне, зямлі той панскай, можа, і зусім не трэба, не аб тым гаворка, шчэ невядома, што з усяго таго будзе, але ты ж брат, во што...

— Ну?

— То нашто табе пры чужых людзях гаварыць рознае, што таму ці другому зямлі не трэба. Шчэ ці выйдзе што з той зямлі, я не пра яе гаворку вяду, але нам жа век разам жыць, во што. Мо ж не раз яшчэ за тым ці за другім давядзецца паткнуцца ў двор, во што, дык, можа, і не варта было б апастырацца.

— А што я табе такое, скажам, зрабіў, што так ты захадзіўся?

— А чаго ж ты крычыш на людзях, што Мікіту зямлі не трэба? Яно, можа, і не трэба, гэтак як я захачу, але чаго табе, канешне, крычаць пра тое, во што! Шчэ і вы той зямлёй ці пакарыстаецеся? Гэта мала што значыць, што нехта нейкі там набрахаў. Без парадку ж яно не абыдзецца, каб што захацеў, тое і зрабіў.

— Але чаго ты да мяне прыстаў, як смала тая?

— Таму і прыстаў, што думаю, як брат родны, мог бы ты і памаўчаць, во што.

— Дык жа ты сам кажаш, што табе зямлі не трэба. Чаго ж мая гаворка цябе так уразіла?

— Гэта мая справа, што я сам кажу...
— Ну, а то мая...
— Дык ты ж, можа, брат мой? во што...
— А які ж ты брат? Ты запамятаў ужо, як Паўла на той свет загнаў?.. На гэта ты ўжо запамятаў? Тады дык ён табе не быў братам? Тады ты з жандарам гэтым сваім круціўся, да паноў, як сабака, бегаў... Тады не бараніў, як брата ў астрог вялі, а можа,— Тарэнта падаўся бліжэй да яго,— можа, ты навёў тады стражнікаў? Нешта ж ты па завуголлю бегаў, часам бачылі... Скажам, чалавек на катарзе не цераз цябе?.. А цяпер ты, як паноў напужалі, як жандараў пабілі, спалохаўся? Я яшчэ да твайго шва-гера дабяруся, нідзе ён не дзенецца...

Мікіту братава злосць напалохала не на жарт. Ён стаяў перад ім — на багата ніжэйшы, баязлівы і часта лыпаў вачыма. Ад страху і ад крыўды, што страшыць родны брат, ён захваляваўся і спачатку не здолеў ніводнага слова сказаць, толькі цяжка дыхаў, пазіраючы ў твар брату; а як саўладаў з сабою і змог загаварыць, сказаў толькі адно:

— Я людзей не тапіў, стражнікаў не наводзіў, во што, і ты мне не ўпікай такім... ды падумай, можа, яшчэ давядзецца чаго і да мяне патыкнуцца,— дадаў ён пасля кароткай паўзы і, больш нічога не сказаўшы, пайшоў з поля.

Тарэнта на гэтыя словы змаўчаў брату, толькі ад злосці плюнуў сабе пад ногі, ды як папаўся пад ногі кавалак дзёрну, з усёй сілы адшвырнуў яго нагою ўбок. За гэтым, пастаяўшы яшчэ троху на месцы, пайшоў каля жыта да рэчкі. Да рэчкі ішоў па-незвычайнаму хутка, хоць спяшацца не было патрэбы, а як прыйшоў да рэчкі, лёг над берагам на мураве і, адкінуўшы ўбок шапку, каб не ўпала з галавы ў рэчку, намерыўся піць ваду. Аднак піць зразу не стаў, бо крануў рукой на самым беразе зямлю, і з зямлі на ваду пасыпалася смецце. Пакуль сплывала смецце, ён ляжаў над вадой, углядаючыся ў спакойную і павольную плынь ракі, і слухаў, як супакойваецца сэрца. Лежачы на зямлі, ён выразна чуў, як яно б'ецца, а піць пачаў, як зусім супакоіўся і як сплыло з вады смецце, і піў доўга, смагла, а пасля падняўся на каленкі і доўга выціраў рукою змочаны ў вадзе твар.

## ПАДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Чалавек, які так моцна зацікавіў Тарэнту, прыехаў на павятовы сялянскі з'езд пад самы канец. У велізарным халодным памяшканні гарадскога тэатра дэлегаты сядзелі ў радах на крэслах і чакалі галасавання рэзалюцый. Былі тут і барадатыя дзядзькі ў бараніх шапках, у кажухах і ў армяках і былі шмат хто ў салдацкіх шынялях, яшчэ не змененых на вясковую вопратку. У шынялі і ў салдацкай шапцы-кучомцы, толькі без кукарды ўжо, быў і Тарэнта. Ён сядзеў у адным радзе з салдатам, якога некалі яшчэ бачыў у воласці. На з'ездзе салдата гэтага Тарэнта сустрэў у гэты вечар, як уваходзілі ў тэатр, і вельмі лёгка пазнаў яго. Разгаварыўшыся, яны селі ў адным радзе, і цяпер былы салдат Ізмайлаўскага палка слухаў Тарэнтава апавяданне пра тое, як яны бралі панскую зямлю.

І вось акурат у гэты час паўз іхні рад прайшоў высокі, шыракаплечы, малады яшчэ мужчына ў чорным штацкім паліто. Убачыўшы яго, Тарэнта здзівіўся, што ў твары гэтага чалавека дужа багата як бы знаёмага. Ён быў упэўнен, што дзесьці бачыў яго некалі, але дзе, прыпомніць не мог. Можа, і прыпомніў бы, калі б прыгледзеўся да таго чалавека ўважлівей, але чалавек прайшоўся цераз залу на сцэну. Цяпер, хоць і бачыў яго Тарэнта, пазнаць было цяжка, бо дужа далёка. Аднак Тарэнта змоўк і ўважліва пазіраў на сцэну.

— Гэта таварыш Андрэй,— сказаў салдат, заўважыўшы цікавасць, з якой Тарэнта разглядаў прайшоўшага чалавека.— Ён старшыня рэўкома. Ты яго ведаеш?

— Не ведаю, але мне здалося, што нібы я яго дзесьці бачыў.

Чалавек, якога салдат назваў таварышам Андрэем, прайшоў на сцэну і, клікнуўшы ад стала яшчэ двух вайсковых, адышоў з імі крыху ўбок. Там нешта сказаў ім і зараз жа паказаў нейкую паперку. Вайскоўцы прачыталі паперку і разам са старшынёй рэўкома пайшлі са сцэны за кулісы. Цераз момант адзін з іх вярнуўся і адазваў ад стала яшчэ чатырох чалавек у штацкім і іх таксама павёў за кулісы. Зацікавіўшыся тым, што робіцца на сцэне, салдат, які гутарыў з Тарэнтам, падаў яму на развітанне руку і сам пайшоў на сцэну. Пасяджэнне з'езда не пачыналася, і па зале перакатваліся ціхімі хвалямі гаворкі. Зала глядзела на старшыню, які кіраваў пасяджэннем, і чакала, што ён скажа, а ён маў-

чаў, трымаючы ў руках званок, ды раз-пораз аглядаўся назад за сцэну. Па таму, як нерваваўся старшыня, паглядаючы за сцэну, зала пачала адгадваць, што ёсць нейкая нечаканая навіна, і яшчэ больш прыціхла. Поўная ж цішыня ўсталявалася ў зале, калі з-за сцэны прыйшоў з другімі старшыня рэўкома і, не сядаючы на месца, аб нечым загаварыў да членаў прэзідыума. Гаварыў ён ціха, так што з залы не было чуваць ніводнага слова, і члены прэзідыума слухалі яго, скучыўшыся, схіліўшыся галовамі да яго. Пагаварыўшы, ён разгарнуў у руцэ спісаную чарнілам паперку і паціху прачытаў яе. Як скончыў чытаць, дэлегаты, члены прэзідыума, заківалі, у знак згоды з напісаным, галавою, а тады селі на свае месцы і зашапталіся. Калі сеў і той, каго ведаў цяпер Тарэнта як таварыша Андрэя, з-за стала падняўся старшыня з'езда і даў слова аднаму з дэлегатаў для зачытання рэзалюцыі па дакладу аб бягучым моманце. Дэлегат падняўся, расплікнуў кажух і, не спяшаючыся, пачаў чытаць рэзалюцыю.

...У зале была напружаная цішыня. Нерухома сядзелі дэлегаты з'езда, слухаючы рэзалюцыю. І калі старшыня запрапанаваў галасаваць за рэзалюцыю, падняліся рукі ўсіх, што сядзелі ад пярэдніх да самых далёкіх задніх радоў. І тады, як бы ўзняты з месца гэтымі рукамі, з-за стала падняўся старшыня рэўкома.

— Мы толькі што,— сказаў ён,— прагаласавалі рэзалюцыю, якой далі абяцанне Саветам падтрымліваць іх да канца. Мы зрабілі гэта таму, што Саветы — сапраўдная народная ўлада, якая дала народу мір, зямлю і свабоду. Але гэтыя народныя заваяванні, здабытыя ў крывавым змаганні, ворагі народныя хочуць адабраць назад. Контррэвалюцыянеры ўсіх нацый, што насяляюць Расію, не могуць прымірыцца з урачыстасцю рабочай і сялянскай рэвалюцыі. З усіх бакоў яны збіраюцца на савецкую ўладу. Апошнія свае сілы збірае контррэвалюцыя, каб даць яшчэ раз бой рабоча-сялянскай рэвалюцыі. Слуга і апрычнік Мікалая другога, царскі жандар Доўбар-Мусніцкі, па прыкладу здраднікаў Карнілава, Каледзіна і Дутава, перайшоў адкрыта ў стан контррэвалюцыянераў і ўчора абвясціў, што польскі корпус з гэтага дня знаходзіцца ў стане вайны з рускім народам.

Абвяшчаючы нам вайну, гэты контррэвалюцыянер спрабуе гаварыць ад імя польскіх салдат. Здраднік польскага народа, які раней пайшоў на службу да крывавага цара і за трыццаць срэбнікаў, стоячы на чале

казакаў, расстрэльваў польскіх рабочых і сялян, сёння, падкуплены ворагамі народа, хоча зрабіць з польскіх салдат зброю і іхнімі рукамі расстрэльваць рускіх і беларускіх рабочых і сялян. Мы верым, што польскія салдаты не пойдуць за гэтым царскім апрычнікам. Але мы ведаем, што за ім пойдуць тыя, хто, прыкрываючыся лозунгамі свабоды польскага народа, думае пра свае маёнткі, капіталы, фальваркі і даходныя чыны. На барацьбу супроць іх мы павінны падняць свае сілы. Мы не дадзім абшарнікам і генералам задушыць нашу рэвалюцыю! Хай ведае Доўбар-Мусніцкі і ўся яго хеўра, што мы да апошняй кроплі крыві будзем біцца за савецкую ўладу, за сваю справу. Хай ведае гэны кат рабочых і сялян, што на акрываўленых за гады імперыялістычнай вайны палях Беларусі ён сустрэне магутную сцяну ўзброеных рабочых і сялян, аб якую будзе зломлены штык контррэвалюцыі. Сілы рэвалюцыі растуць і мацнеюць. Новыя і новыя тысячы рабочых, парабкаў і сялянскай беднаты ідуць у чырвонагвардзейскія палкі, каб бараніць сваю справу, справу сваёй рэвалюцыі, каб не аддаць назад абшарнікам і капіталістам зямлі, фабрык, заводаў і свабоды. Я веру, што і многія з вас, таварышы, у адказ на абвешчаную нам буржуем-генералам вайну, як адзін, увальюцца ў рады Чырвонай гвардыі і паўстануць на абарону савецкай улады і рэвалюцыі!

Далоў, таварышы, бандытаў-генералаў, царскіх апрычнікаў!

Далоў здзекі над рабочымі і сялянамі!

Няхай жыве Кастрычніцкая рэвалюцыя!..

Калі была скончана прамова і сціхлі воплескі, падняўся старшыня з'езда і абвясціў, што тыя з дэлегатаў, хто хоча да канца бараніць заваяванні рэвалюцыі, хто не хоча аддаць назад зямлі абшарнікам, могуць запісацца ў члена прэзідыума — у старшыні вайсковага аддзела Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў і будуць накіраваны ў часці рабоча-сялянскай Чырвонай гвардыі.

...У даўгой і шырокай тэатральнай зале, асветленай некалькімі цьмянымі электрычнымі лямпачкамі, паўзмрок. У паўзмроку, размясціўшыся на крэслах, сядзяць вакол Тарэнты маўклівыя, задуменныя людзі. Яны сабраліся ў гэную залу з усіх канцоў. З усіх дваццаці дзвюх валасцей павета, з самых далёкіх і глухіх вёсак, дзе пакінулі свае хаты. Пазіраючы на іх, Тарэнта хоча

адгадаць, пра што яны думаюць. Ён у гэты час адчувае, як далёка цяпер свая хата, і адчувае, якім бездапаможным будзе ён у ёй адзін, калі паедзе туды і сутыкнецца з сілай, якая, здавалася, пільнуе яго і іх усіх, хто сабраўся тут. Як ніколі яшчэ за ўвесь гэты час, ён упершыню адчуў няўпэўненасць у тым, што ўзятая ім і засеяная жытам зямля ягоная зямля. Варта яму адхіліцца думкамі ад чаго іншага, і ён бачыць перад вачыма сваю шырокую паласу, падзеленую на роўныя, простыя загоны. Гэная паласа цяпер належыць яму. Ён знайшоў сваё месца ў шырокіх палявых прасторах зямной планеты. Укрытая снегавымі завеямі, ляжыць ягоная паласа, не кранутая яшчэ нікім іншым, і ён адчувае яе ў сябе пад нагамі і цяпер, седзячы тут, у паўзмрочнай зале тэатра. Але тое, што ён пачуў, пасеяла трывогу. Ён раптаў адчуў, якая вялікая адлегласць паміж ім і той ягонай зямлёй. Здавалася, адлегласць гэная запоўнена ўжо варожымі сіламі, што цікуюць яго, што спрабуюць перагарадзіць яму дарогу да сваёй зямлі. Ён адчуваў, як балюча нацягваецца ніць, што звязвае яго з зямлёй. Здавалася, яшчэ нейкі час, і ўсё прапала. І ледзь валодаючы сабою, высокі, шыракаплечы, ён падняўся з крэсла і, трымаючы ў руцэ шапку, пайшоў цераз залу на сцэну. Са сцэны на яго пазірала паўтара дзесятка воч, і сотні воч праводзілі з залы. Падняўшыся на сцэну, ён спыніўся каля стала і паклаў на стол, на паперы, сваю шапку.

— Хіба нам не ўелася яшчэ ў печань вайна? — запытаў ён раптам, звяртаючыся да залы, і зала насцеражылася, гатовая нешта адказаць яму, і людзі з прэзідыума павярнулі да яго галовы, чакаючы, што ён скажа далей.— Хіба мала крыві пралілі мы па акопах? Нямала! Ні ў каго з нас няма ахвоты ваяваць, кожнаму, ведаю я, хочацца дасядзецца як хутчэй і паехаць дадому. Але што ж там дома ў нас? А ці не будзе так, што прыедзем мы па адным дадому, а нас усякія Доўбар-Мусніцкія ды таму падобныя за горла возьмуць, перадушаць нас па адным? Не будзе нам спакою дома, як сабе хочаце. Не будзе нам веры ў тое, што зямля наша гэта наша зямля, пакуль будуць шляцца па зямлі буржуі ды генералы розныя. Перадушыць іх трэба, кончыць з імі трэба, а там спакойна можна будзе дадому ехаць, і араць там, і сеяць, і касіць. А цяпер няма нам ходу дадому. І таму я таксама абвяшчаю сябе чырвонагвардзейцам. За цара ваяваў, за капіталістаў, буржуяў ды і за сябе паваюю, так што прашу запісаць там Тарэнту Тодаравага Шкробата.— І не

паспеў старшыня рэўкома падняцца з месца, ён вельмі ўважліва ўвесь час углядаўся ў Тарэнту, а пры апошніх Тарэнтавых словах прыўзняўся з крэсла і намерыўся нешта сказаць яму, як Тарэнта ўзяў са стала шапку і, спяшаючыся, пайшоў у залу, на сваё месца.

У зале падняўся гоман. Дэлегаты гаварылі паміж сабою, аб нечым раіліся, спрачаліся, падымаліся з месц і зноў садзіліся. Асобныя пралазілі па радах паміж крэсламі і ішлі да сцэны. Хутка перад сцэнаю і ў праходзе згрудзілася некалькі дзесяткаў дэлегатаў, а тыя, што засталіся на сваіх месцах, падняліся з крэслаў і стаялі. Калі б старшыня рэўкома мог у гэты час уважліва ўгледзецца ў залу, ён заўважыў бы, як асобныя з дэлегатаў знервавана і спяшаючыся прабіраюцца цераз натоўп да сцэны; як другія ў каторы ўжо раз парываюцца пайсці туды і не асмельваюцца, застаючыся на месцы; як некаторыя разгублена хаваюцца за плечы тых, што стаяць наперадзе ад іх, каб не быць заўважанымі; як урэшце хто-ніхто з іх, паціхеньку крадучыся каля сцяны, спяшаўся да бліжэйшых дзвярэй, каб на гэты час выйсці з залы. Але ён быў заняты іншым. Разам з другімі яшчэ членамі прэзідыума ён адно за другім упісваў прозвішчы дэлегатаў з'езда ў паслужны спісак Н-скага пяхотнага стралковага чырвонагвардзейскага батальёна. Калі запіс быў скончаны, было адзінаццаць гадзін ночы. З гоманам выйшлі дэлегаты з'езда з тэатра на цёмную гарадскую вуліцу. І тады нехта, як бы жартуючы, адышоў убок крыху і крыкнуў:

— Смір-р-на! Батальён, стройся!

Дэлегаты спыніліся і змоўклі. Тады той жа голас ужо ўсур'ёз запрапанаваў:

— А давайце, таварышы, пройдзем па горадзе строем, ды з песнямі. Нябось, багата яшчэ ў горадзе буржуяў розных сядзіць, пазашываўшыся па кутках, дык няхай чуюць... Мы не спім, мы іх, калі захочацца ім вылезці, хутка на зуб возьмем...

— Ну, от выдумаў,— запярэчыў быў нейчы голас, але яго заглушылі другія:

— Чаго там выдумаў!..

— Правільна!

— Стройся!

— Прынімай улева!

А пасля над усімі голас першага, які запрапанаваў ісці строем:

— Батальён, у дзве шарэнгі стройся!.. Раўняйсь!..

Батальён, смірна!.. Рады ўздвой!.. На пра-а-гоп!.. Па чатыры ў шарэнзе, батальён, шагам арш!.. Аць, два! Аць, два!.. Аць, два!..

Мерна гойдаючыся ў радах, ахутаных цемрай і мяцеліцай, ішлі па вуліцы дэлегаты з'езда. Горад яшчэ не спаў. Яшчэ свяцілася святло з дамоў і з-за фіранак, павешаных на вокны, і цераз шчыліны ў аканіцах. Паміж дамамі кружыўся, уздымаючы завіруху, вецер. Вецер злосна кідаўся на сцены дамоў, бразгаючы аканіцамі і паржавелымі за вайну старымі шыльдамі. Вецер гнаў перад сабою мяцельныя белыя табуны, уцякаючы ў далёкі канец галоўнай вуліцы, туды, дзе матляецца на ветры адзінокі цьмяны ліхтар. А за ветрам па вуліцы ішлі радамі людзі, і за імі доўгі час рушыла цішыня. Цішыню парушалі толькі посвісты мяцельнага ветру ды прыглушаны, мяккі ў снезе, роўны тупат соцень ног. А ў цішыні нарадзіўся і, падняўшыся над строем, паплыў голас песні, якая прыйшла на вусны запявалу сама сабой і якая, як ні адна іншая, у гэты момант, паглынула ў сабе настрой людзей, што ішлі ў страі.

Вихри враждебные веют над нами,  
Темные силы нас злобно гнетут,  
В бой роковой мы вступили с врагами,  
Нас еще судьбы безвестные ждут.

Людзям было прасторна ў вузкай гарадской вуліцы. У людзей жылі думы пра зямлю, пра свабоду і пра сілы, якія збіраюцца дзесьці за заснежанымі прасторамі, каб адабраць і зямлю, і свабоду ў іх. Людзі ішлі з цвёрдым намерам не аддаць нікому ні зямлі, ні свабоды, былі ўпэўнены, што нікому не аддадуць іх, і, як ніколі, адчувалі сваю сілу. І таму як дацягнуў запявала апошняе слова, дзесяткі галасоў няроўных, але ўпэўненых, падхапілі песню, узнялі яе ўгору і запоўнілі песняй пустынную вуліцу.

Знамя великой борьбы всех народов  
За лучший мир, за святую свободу.

У страі, у пярэднім радзе, ішоў чырвонагвардзеец Тарэнта Шкробат. Перад радам, у якім ішоў ён, чалавек у вайсковым нёс сцяг. Ён ступаў шырока і ўпэўнена, у такт песні. Ззаду, з-за строю, налятаў мяцельны вецер і разгортваў палотнішча сцяга, адносячы яго наперад, куды ішоў строй, куды за ветрам неслася і песня, словамі якой думаў у гэты час Тарэнта.

А наперадзе, у канцы даўгой вуліцы, паказваючы строю дарогу, гойдаўся на слупе адзінокі цьмяны ліхтар.

## ПАДЗЕЯ ПЯТАЯ

Дзень выдаўся мяккі, з адлігай. Над зямлёю зыбаліся ў вятрах туманы. У туманах павольна, засцілаючы дарожны адхон густым дымам, пад'язджаў да горада поезд. Галынскі даўно прачнуўся і агледзеў вагон. Яму холадна, бо ў вагонным акне разбіта шкло, у акно дуе вецер. Яму даўно хочацца злезці з паліцы і, стоячы, сагрэцца, але злезці няма як, вагон шчыльна набіты людзьмі, і ён ляжыць, ухутваючыся ў паліто, падмінаючы верхнюю палу пад сябе, глыбей насоўвае на галаву капялюш, а рукі ўсё глыбей і глыбей засоўвае ў рукавы і, лежачы так, дыхае сабе пад паліто на грудзі.

Вагон шчыльна набіты вайскоўцамі і штацкімі. І вайскоўцы, і штацкія з мяшкамі і сундукамі, калі б пайсці па вагоне, давялося б ісці па сундуках і мяшках, пераступаючы цераз людзей, якія, скурчыўшыся, спяць на падлозе, абшчаперыўшы рукамі свой мяшок.

На ніжняй паліцы насупроць Галынскага сядзяць двое вайсковых. На іх паношаныя шынялі, але затое новыя сінія штаны і добрыя хромавыя боты. Побач з імі жанчына, сялянка, трымаючы на каленях у сябе мяшок, поўна набіты нечым, і каля яе двое дзяцей.

— Значыць, зноў вайна,— кажа яна,— і невядома калі ўжо яна скончыцца, калі вы дамоў паварочаецеся.

— Ну, гэта то вядома, мы цяпер дадому едзем, мы наваяваліся, з нас хопіць, цяпер няхай ваююць дурні, каму не прыелася вайна.— Вайсковец сядзіць, адхінуўшыся плячыма да акна, і ад ветру паставіў каўнер шыняля.— Нам вайны годзе, цётачка.

— Мой жа прыслаў ліст, піша, што не прыедзе яшчэ дадому, піша, што полк іхні падаўся ў гэтыя, у бальшавікі.

— Відаць, не сядзеў у акопах, калі яшчэ мала.

— Як жа не сядзеў? Як пайшоў, дык усё па акопах, аніводнага разу і на пабыўку не прыехаў.

— Значыць, дурань,— спакойна заключыў вайсковец.

Жанчына змоўкла, але ў гутарку ўмяшаўся Галынскі.

— Як жа гэта вы так разважаеце? — запытаў Галынскі.— Улада ж цяпер, здаецца, ваша, а не буржуйская. За яе паваяваць вам варта было б.

Вайсковец зірнуў на Галынскага, штурхануў локцем таварыша і, падняўшыся з месца, выцягнуўшы шыю, зазірнуў Галынскаму ў твар, пад каўнер паліто.

— А-а-а! Буржуй загаварыў, здрасце... Наша вам... Галынскага гэта збянтэжыла.

— Я прасіў бы вас, грамадзянін, не крыўляцца, гэта некрасіва...

— Іч ты! Не-кра-сі-і-ва яму! А калі мне красіва, а? Што ты на гэта скажаш мне? Яму некрасіва! Табе красіва, каб наш брат ваяваў за цябе, ці за бацькоў тваіх, ды за ўсякую сволач паганую. Не-е, жартуеце! Улада цяпер наша, цяпер мы вас на вайну пагонім, цяпер вы за нас паваюйце. Паставім вас, паставім кулямёцік ззаду і гайда, пайшлі. А не захочаце ісці, мы вам патылічкі кулямёцікамі прачэшам...— Гаворачы, вайсковец паказаў рукамі, як ён будзе страляць з кулямёта.— Хо-го! Вось тады вы і паспрабуеце, што ёсць вайна. А шубу тваю буржуйскую сабе возьмем, і капялюшык возьмем.

— Я прасіў бы вас, грамадзянін, не грубіць. Вы салдат, сорамна!..

— Сорамна? Бач ты! сароміць пачаў, нежнасцей захацеў. Мінуліся часы вашы, нежныя, буржуйскія, не тады жывеш! Ты такога бачыў? — пытаў ён у таварыша, штурхаючы таго ў бок локцем. І пасля абое залівaліся рогатам. А вакол на мяшках, на сундуках сядзелі людзі, вайскоўцы і штацкія, і з цікавасцю назіралі за гутаркай вайсковага з буржуйскай шубай, чакаючы, чым яна скончыцца.

— Гэта свінства, грамадзянін салдат,— сказаў Галынскі, падняўшыся на паліцы.

— Што-о? — салдат адхінуўся ад акна.— Свінства?..

— Так, так, нават больш чым свінства, гэта хамства, простае хамства.

— Ты мяне свіннёй абзываць? Хамам? А гэта нюхаў? — ён выставіў Галынскаму кулак.— Я табе такое свінства задам...

— Замаўчыце! Я гаварыць з вамі не хачу!

— Дык я з табой пагавару.— Салдат намерыўся падняцца з месца і пачаў выблытваць ногі з сундукоў, якія стаялі ў праходзе паміж ніжнімі лаўкамі. Але не паспеў ён падняцца, як збоку аднекуль падышоў яшчэ вайсковец. Ён, нічога не гаворачы, схапіў салдата за каўнер шыняля і пасадзіў назад на лаўку.

— Ты сядзь! — крыкнуў ён да салдата.— Ты да чалавека не прыставай, калі не ведаеш, хто ён. Ты, можа, у тысячу раз горшы буржуй.

— А ты адкуль такі ўзяўся? — падняў быў галаву салдат.

— Адтуль, адкуль і ты, а толькі, калі не замаўчыш, я табе вытлумачу гэта падрабязней.

— Ну, не пужай, не дужа такіх баімся.

— А вось тады збаішся... Расхадзіўся, ён буржуяў у вагоне біць будзе! А сам з фронту зайцам бяжыш? На фронт супроць буржуяў не хочаш?.. Ведаем мы вас, такіх рэвалюцыянераў. Вам бы толькі ўхапіць што!

Вайскоўца падтрымалі другія пасажыры, і салдат змоўк.

Поезд падыходзіў да горада. Горад то паказваўся камяніцамі з-за ўзгоркаў, то знікаў, хаваючыся за іх. Пасля праехалі мост, і хутка поезд спыніўся супроць даўгога станцыйнага будынка. Галынскі ўзяў з паліцы свой чамадан і моўчкі пайшоў з вагона. Ён і не азірнуўся, калі салдат яшчэ кінуў наўздагон яму лаянкай. Было крыўдна і ад крыўды, нічым не заслужанай, цяжка. Адтаго і станцыйны двор прайшоў гэтак жа моўчкі, спяшаючыся. Не таргуючыся, узяў рамізніка і папрасіў яго ехаць як мага хутчэй. Хацелася хутчэй да сябе, у сям'ю і ў адзіноту, каб адпачыць. Думкі, як ехаў, былі пра бацькоў, якія жылі ў гэтым горадзе. Але ў гэныя думы раптам урываліся ўспаміны пра вагонны інцыдэнт, і за гэтым, з яшчэ большай сілай, чым там, у вагоне, нарастала крыўда. У жыцці, якое пачалося, Галынскі адчуваў сябе разгубленым, бездапаможным. Ён хацеў бы прыняць гэтае жыццё, але шмат што ў ім напалохала яго, было незразумелым, і ён чакаў, што ўрэшце, у нейкі час, усё ўтаймуецца, стане больш простым, больш лёгкім для разумення.

Рамізнік спыніўся перад ганкам двухпавярховага дома. Усхваляваны Галынскі ўзбег на ганак. За дзвярыма калідорчык, пасля злева дзверы ў большы калідор, і там, за дзвярыма, старая маці. Яна абрадуецца, убачыўшы сына, пэўне, будзе плакаць, трымаючы рукі на яго плячах. Калі ўзяўся рукой за знаёмую дзвярную ручку, рука задрыжала, шмарганула дзверы і адчыніла іх на ўсю шырыню. Ад акна, з-за акуляр, здзіўлена зірнула насустрач маці, ускрыкнула ад радасці і, знімаючы акуляры, пайшла насустрач сыну.

— Міша! Ты?!.

Доўга цалавала яго твар, гладзіла рукой яго валасы, зноў цалавала твар і абмацвала рукамі ягоныя плечы і ўвесь час радасна, неяк разгублена, усміхалася праз на-

плыўшыя на вочы слёзы. Насустрач ёй усміхаўся і сын, запамятаўшы на ўсё, што было ў дарозе, і, не выпускаючы з сваіх рук яе локцяў, за якія былі закасаны рукавы кофты, павёў яе сесці на канапу і пачаў расказваць пра сябе і пра Петраград.

— Бацька абрадуецца, не паверыць, ты ж так нечакана прыехаў. Бацька твой рэвалюцыянер, бальшавік, цэлымі суткамі прападае дзесьці ў іх ды ў лазарэтах. Нават сам Андрэй ці Андрэеў іхні прыязджаў да яго, раіўся аб нечым. Пра Андрэя таго бацька гаворыць, што дужа разумны ён і культурны чалавек.— З гэтымі словамі маці падхапілася з канапы.— Вось табе і на. Балбачу, а каб накарміць цябе, дык і запамятала. Ты распраніся, памыйся ідзі, а я хуценька на прымусе згатую чаго-небудзь.— Але пайшла не да прымуса, а ў спальню, і як прыйшла адтуль, сказала сыну, што прыгатавала яму чыстую бялізну і новы гарнітур.— Зусім я разгубілася ад радасці, не ведаю, што і рабіць, запамятала, што ты з дарогі.

Галынскі пайшоў у спальню і адтуль хутка пачуў, як засіпеў на кухні прымус. Было ўтульна і хораша. Усё супакойвала, і захацелася, як багата год таму назад, адчуць сябе юнаком, каб гэты час, пакуль будзе дома, ні пра што не думаць.

Каля акна на стале ляжалі кнігі, нейкія паперы, скляначкі, вата і бінты. І гэта было, як і раней, як заўжды. Побач са спальняю быў бацькаў кабінет, дзе ён працаваў і дзе прымаў пацыентаў. Захацелася прайсці туды. У кабінеце гэтаксама было як і ў апошні раз, калі ён быў дома. Тая ж мэбля, стол з прыладамі, шафа, тумбачкі, усё было на сваім месцы, і на сваім месцы вісеў белы чысценькі бацькаў хатні халат, які надзяваў ён, прымаючы хворых.

У кабінет прыйшла маці. Рукі свае яна трымала перад сабою голыя, з закасанымі за локці рукавамі, і ўсё яшчэ, як і адразу пасля сустрэчы, абрадавана ўсміхалася.

— Глядзіш? Усё ў яго як і было. У прывычках ён вялікі кансерватар, не можа цярпець, калі хоць паперку на стале з месца скранеш. А вось, здаецца, і ён ідзе,— прыслухаўшыся да крокаў у калідоры і да знаёмага ціхага пакашлівання, сказала яна. А калі бацька зайшоў у пярэдні пакой і зняў з ног галошы ды скінуў з плеч паліто і павесіў яго, маці павяла насустрач яму сына. Абое былі рады, абое разрагаталіся, калі бацька ад здзіўлення спыніўся сярод пакоя і, зняўшы акуляры, пачаў праці-

раць шкельцы, а пасля зноў надзеў іх і толькі тады пазнаў сына.

— Ба! Гэтак жа нельга, нечакана... Ну, хадзі пацалуемся, ды я хоць зблізку пагляджу на цябе, які ты стаў.— Бацька расцалаваўся з ім, а тады, пакашліваючы, сеў у крэсла.— Змарыўся, да чорта багата работы... Ну, а ты як жа? Знайшоў сябе ці яшчэ не? Я для сябе гэтае пытанне проста вырашыў: людзям патрэбна мая дапамога, я дапамагаю, а мне бальшавікі не перашкаджаюць, нават, наадварот, яны рады кожнай новай справе. Старшыня рэўкома наш цікавейшы чалавек. У павятовым гарадку грамадскі нядзельны універсітэт адчыніў, упрасіў мяне чытаць там лекцыі па медыцыне і прыродазнаўству. Супроць папоўшчыны ваюем.

Слухаючы яго, Галынскі зайздросціў бацьку. Ён таксама спрабаваў проста вырашыць пытанне пра сваё месца ў жыцці, але не мог. Думаючы пра гэта, ён сказаў бацьку:

— Я таксама хачу прыняць гэтую рэвалюцыю, але ў ёй вельмі многа жорсткага. Рэвалюцыя павінна быць чалавечнай...

— Не ведаю. У нас тут у правінцыі пакуль што ніякіх жорсткасцей не было. Можа, у вас, у сталіцы, і больш жорсткасці, можа быць, там жа буржуяў багата, а?..

Апошнія словы бацькавы Галынскага спалохалі. Ён раптам прыпомніў вагон, сваю гутарку з салдатам.

— Вось гэтая тэрміналогія,— сказаў ён,— я яе чуў у вагоне ад салдата, які ўцякае з фронту...

— Цябе палохае тэрміналогія? Глупства гэта.

— Не толькі яна. За тэрміналогіяй ідуць справы...

— Ну, не ведаю, не ведаю, я не хачу спрачацца, давай лепш папалуднуем, а паспрачацца яшчэ паспеем. Вось цябе звесці б з нашым рэўкомаўцам для спрэчак, ён цябе хутка супакоіў бы, а я не ўмею і не люблю... Я з рэвалюцыяй пакуль што мірна жыву, я са сваёй работай знайшоў месца ў ёй... Кармі, Кацярына Паўлаўна, кармі,— звярнуўся ён да маці.

Пасля абеда Галынскі лёг адпачыць і прачнуўся толькі ноччу, гадзіне аб адзінаццатай. У пакоі было цёмна. Толькі маленькая паска святла прасочвалася ў шчыліну паміж лушняком і прычыненымі дзвярыма з суседняга пакоя, а з-за вокан аднекуль у пакой даходзіла песня. Яна то мацнела, то сціхала з тым, як праходзіў пад вокны вецер. Вецер сыпаў у вокны снегам, снег шуршаў на аконных шыбах, насвістваў у шчылінах

паміж сцяной і аканіцамі дома, і тады прыціхала песня, як бы аддалялася, але адыходзіў вецер, абсунуўшыся снегавой вопраткай кудысьці ўніз, і песня мацнела.

Галынскі нерухома ляжаў на ложку.

У суседнім пакоі пратупалі мяккія матчыны пантоплі. Тады Галынскі падняўся з ложка і паклікаў яе. Маці прыйшла ў спальню з лямпай, трымаючы яе перад сабою.

— Я наўмысля не пабудзіла цябе вячэраць, хацела, каб адпачыў з дарогі.— Маці падышла і паставіла лямпу на стол.— Ты не ўставай, я падам табе вячэру сюды.

Маці пайшла са спальні і хутка вярнулася назад, несучы вячэру. Пасля гэтак жа прынесла чаю і сама сядзела на крэсле супроць сына, пакуль ён вячэраў.

— Ты мяне, мама, корміш, як хворага, у ложку.

— Але ж вельмі позна, навошта ж уставаць.

— Я спаў бы яшчэ, калі б не песня.

— Відаць, пайшлі чырвонагвардзейцы, яны часта ноччу ходзяць. Што ж, Міша, будзе з усяго гэтага?

— Я не ведаю. Можа, некалі будзе і добра, калі ўсё гэта скончыцца, а пакуль што будзе багата ахвяр і неапраўдана жорсткага. А ў агуле, мама, я не ведаю, што будзе. Я хацеў бы, каб працаваць вось так, як бацька, але я так не ўмею і шкадую, што не ўмею...

— А бацькі ўсё яшчэ няма,— паведаміла маці, перабіўшы сына.— Пэўна, у шпіталі... Ён заўжды вечарамі наведвае аперыраваных.

— І не ведаю, ці навучуся,— скончыў сын сваю думку.— Інтэлігенцыя ва ўсім гэтым, мама, як бы зусім лішняя, непатрэбная. Ваяваць яна не ўмее, а вучыць няма каго...

— Усё гэта неяк пройдзе... Ты спі, Мішанька, адпачывай, а я пасяджу яшчэ, пачакаю бацькі.

Калі маці сабралася пайсці, Галынскі запытаў у яе пра Пілацееву.

— Яна пакуль тут у сваім доме. Хоча паехаць да мужа і баіцца пакінуць дом.

— Ну, а ён, Пілацееў, як жа?

— Хоча паехаць за мяжу...

— А сын? Ён усё яшчэ ў войску?

— Не ведаю. Пэўне, там яшчэ... Ну, спі, я пайду...

А назаўтра пасля снедання Галынскі пайшоў наведаць Пілацееву. Жыла Пілацеева ў сваім уласным доме, які мела ў гэтым горадзе. Гэта быў прыгожы аднапавярховы будынак, пастаўлены ў глыбіні двара, у садзе, наводдаль ад вуліцы. Раней Пілацеевы наязджалі сюды

толькі час ад часу, на некалькі дзён, а ўвесь час у доме жыла маці Пілацеевай, якая і даглядала за домам. Пілацееў пабудаваў гэты дом адразу ж пасля свайго вяселля ў падарунак жонцы. Тады ж ён заказаў аднаму скульптару работу, і цераз нейкі час белая, высечаная з мармуру постаць жонкі на ўвесь яе рост стаяла ў садзе насупроць вокан дома.

У дзень, калі не было дажджу, яна стаяла адкрытая, а нанач дворнік насоўваў на яе спецыяльна зробленую для гэтага вузкую высокую будку. Каля гэтай будкі, як падышоў Галынскі да дома Пілацеевых, і сабраліся купкай чырвонагвардзейцы. Каля самай будкі, прытуліўшыся да таго яе бока, які расчыняўся, стаяў стары барадаты дворнік і, растапырыўшы рукі, бараніў будку ад чырвонагвардзейцаў, якія хацелі зірнуць, што ў ёй.

— Дзед, а дзед,— прасіў чырвонагвардзеец,— адчыні будку, дай зірнуць на паненку.

— Адыдзіце! Не дам адчыняць! — крычаў, злуючы, дворнік.— Няма чаго здзекавацца!

— Ды якія ж тут здзекі, дзед? Мы толькі зірнуць на яе хочам.

— Ці прыгожая, ці ладная.

— Не дам, няма чаго насміхацца! — Дзед адной рукой трымаў дзверы, а другой нешта шукаў у глыбокай кішэні свайго моднага парыжэлага паліто. Знайшоўшы, хуценька павярнуўся тварам да будкі і дрыжачымі рукамі начапіў на дзверы замок.— Ну, пайшлі, пайшлі,— закрычаў на чырвонагвардзейцаў.— Няма чаго стаяць тут, замок вунь павесіў, замка не кранеце.

— А мы замочак штыхом, вось так, ён і пстрыкне.— Малады чырвонагвардзеец, які ўвесь час вёў з дзедам гутарку, паказаў, як можна штыхом падчапіць замок, каб яго адарваць.

— Толькі крані! — Дзед стаў на растапыраных нагах і зноў адхінуўся плячыма да будкі.— Я цябе самога тады штыхом...

— Ты штыхом? — Чырвонагвардзеец схіліўся тварам да дзеда і раптам адхінуўся, заліўшыся рогатам.— Дзедка, ды завошта ж ты мяне штыхом пароць будзеш? Хоць бы на яе жывую зірнуў, а з-за такой смерці прымаць не буду, не буду, дзедка.

Пастаяўшы каля брамы, Галынскі пайшоў у двор да ганка. Калі спыніўся на ганку пазваніць, той жа голас, звяртаючыся, відаць, да дзеда, запытаў:

— А гэта што за буржуй? Не твой гаспадар?

Галынскі пачырванеў, шмаргануў нервова званок. Тады з саду ад будкі пабег да яго дзед.

— Не сюдэй, не сюдэй, з двара цяпер ход да нас,— сказаў ён, здалёк яшчэ прыўзняўшы шапку.— Пані ад страху захварэла зусім. Прыйшлі, дом заняць хочуць... Што ж гэта робіцца? Ні закону табе, ні парадку ніякага... Насміхаюцца...

Пілацеева сядзела ў крэсле. Калі зайшоў Галынскі, яна паднялася насустрач і пайшла да яго, выціраючы насоўкай вочы.

— Міхаіл Палікарпавіч! Родны, пасабіце! Як у турме я тут. Я не ведаю, чаго яны ад мяне хочуць. Ну, забралі зямлю, забралі дом у маёнтку, дабро забралі ўсё. Няхай бяруць, няхай прападае ўсё, але гэты дом... Феакціст піша, што ён хадайнічае, просіць мяне пачакаць, пакуль прыйшле нейкія паперы. Але яны ж не хочуць чакаць. Ім, бачыце, спатрэбіўся мой дом для штаба! Божа мой! Божа мой! Дзе знайсці праўду? Пасабіце, Міхаіл Палікарпавіч, схадзіце вы да іх, роднецькі...

Разгублены стаяў Галынскі сярод пакоя, не ведаючы, што зрабіць.

— Вера Пятроўна, супакойцеся,— сказаў ён.— Добра, я зараз жа схаджу ў рэўком, я пагавару...

— Схадзіце! — Пілацеева абрадавана схапіла рукі Галынскага.— Схадзіце, родны мой, пагаварыце з імі, папрасіце.

Цераз хвілін дваццаць пяць Галынскі быў каля памяшкання рэўкома. Гэта быў двухпавярховы дом вядомага купца-лесапрамыслоўца. Стаяў ён перад гарадскім пляцам, насупроць сабора. Перад домам пляц быў заняты сялянскімі фурманкамі. Перад самым пад'ездам каля рэўкома стаялі шырокія сані-развалы. Каля саней чырвонагвардзеец. Ён курыў. Галынскага ён правёў уважлівым поглядам, і таму ад гэтага погляду стала няёмка, бо і ў ім угадаў ён тое ж, што чуў у садзе ў словах, кінутых на яго адрас чырвонагвардзейцамі.

Наверсе, куды паказалі Галынскаму ісці, ён апынуўся ў залюдненым вялікім пакоі былой купецкай канторы. Былі тут і штацкія гарадскія людзі, і прыезджыя сяляне, і вайскоўцы. Некаторыя з іх стаялі, скучыўшыся, каля пастаўленых у покутах сталоў, курылі і голасна гутарылі.

З гэтага пакоя Галынскі прайшоў у суседні, менш залюднены, а адтуль прайшоў у кабінет старшыні рэўкома. Сам старшыня сядзеў за сталом. Быў гэта зу-

сім малады яшчэ, высокі, ладны ў плячах, чарнявы мужчына. Нават заўважыў Галынскі ў ягоным твары нешта як бы знаёмае, але прыпомніць не змог, дзе бачыў яго, і падумаў, што гэта проста кінулася яму ў вочы тое агульнае, што заўважыў ён ва ўсіх гэтых людзей. Акрамя старшыні, у кабінеце было яшчэ трое: двое вайскоўцаў і адзін у штацкім. Гутарка паміж імі, наколькі мог разабраць Галынскі, вялася пра гарадскую бібліятэку і пра нейкія кнігі. Як толькі Галынскі прыйшоў, старшыня развітаўся з імі і запрасіў Галынскага сесці. Калі Галынскі, адрэкамендаваўшыся, сеў, старшыня рэўкома ўважліва зірнуў яму ў твар, парываючыся нешта сказаць, але стрымаўся. Як сеў на месца, загаварыў пра наведвальнікаў, якія толькі што выйшлі з кабінета.

— Таварышы вайскоўцы прывезлі вельмі трывожныя чуткі. Дзе-нідзе ў маёнтках сяляне разбіраюць па хатах, а то і паляць кніжкі з былых абшарніцкіх бібліятэк. Недапусцімая справа. У гэтых бібліятэках часта ёсць надзвычай рэдкія кнігі і агулам багата карыснага і для нас. Мы ж не думаем увесь век ваяваць. Вось неяк адцярэбімся ад белагвардзейцаў і самі сядзем за кнігі, пачнем вучыцца. Тады і спатрэбяцца кнігі. Па гэтай справе мы пасылаем спецыяльных людзей, каб збіралі і захоўвалі кнігі на месцы, а найбольш каштоўныя няхай сюды вязуць, будзем ствараць у горадзе прыкладную грамадскую бібліятэку... Та-ак... Ну, а чым жа я магу быць карысным для вас, прафесар?

Хвалюючыся, адчуваючы сябе разгубленым, Галынскі расказаў пра справу з Пілацеевай.

— Я думаю,— Галынскі на гэтым скончыў гаварыць,— што вы можаце ўмяшацца ў справу і зрабіць так, каб дом не забралі.

— Гэтага нельга, прафесар. Чаму ж мы павінны, забіраючы дом купца Лемяховіча, пакідаць дом абшарніку Пілацееву?

— Але ён і дзеяч навукі.

— Ну, і бог з ім. Мы яшчэ не ведаем, ці будзе ён працаваць з намі. Калі будзе, тады мы яго забяспечым і месцам, дзе можна будзе жыць яму, а гэты дом патрэбен нам, вельмі патрэбен.

— Але ж ён хадайнічае перад цэнтрам, можа здарыцца так, што цэнтр верне яму дом.

— Гэтага не будзе, дом гэны яму зусім непатрэбен. Так... І яшчэ мы вось не ведаем, дзе яго сын, афіцэр. Напэўне, у белых...

— Пра сына я нічога не ведаю. Але мне здаецца, што з жонкай прафесара Пілацеева вы маглі б хоць пакуль што абысціся па-іншаму. А так усё гэта падобна на класавую помсту.

— Ад помсты мы не адмаўляемся, але ў дадзеным выпадку мы не помсцімся, мы толькі бярэм тое, што належыць народу і што зусім непатрэбна Пілацеевым. Не думае ж Пілацееў, я спадзяюся, што рэвалюцыя — жарт. Абшарнікаў у нас не будзе, не будзе і абшарніцкіх асабнякоў. А калі ён захоча быць сумленным дзеячом навукі і працаваць з намі, што ж, няхай, мы яго без страхі не пакінем. Так... Жонцы я раіў бы лепш паехаць да яго, у Петраград, для яе так лепш. А дом мы забярэм, канешне.

— Ну, прабачце, што я заняў гэтым ваш час.— Галынскі намерыўся падняцца ісці.

— Гэта нічога. Ну, а вы як жа да нас? Адпачыць? Ваш бацька дзіўны чалавек, энергічнейшы чалавек. Ён надзвычай багата робіць, пасабляе нам. Мы, бачыце, ужо і цяпер патроху за навуку бярэмся, арганізавалі цыкл грамадскіх лекцый для дарослых. Вы, прафесар, торфазнаўца? Нам некалі вельмі спатрэбіцца ваша дапамога. Вы, пэўне, месцы гэныя ведаеце. Дзесяткі тысяч дзесяцін тарфяных балот. Некалі мы на гэтых балотах будзем рабіць цікавейшыя справы.

— Так, так, гэтае пытанне мяне даўно цікавіць. Штонішто я рабіў і ў галіне даследавання торфу.

— Цікавейшая работа, вось толькі вайна, кругом белагвардзейцы збіраюцца. А ўжо як скончым з імі, возьмемся і за торф. І за ўсё возьмемся, ды па-сапраўднаму, па-гаспадарску. І, ведаеце, прафесар, цераз нейкі час цікавейшае жыццё будзе ў нашай краіне. Старому і ў памяці месца не застанецца. А то хіба гэта жыццё?!

Старшыня рэўкома падаўся тварам да Галынскага, руку з сабранымі ў жменю пальцамі прыўзняў над сталом.

— У аднаго тысячы дзесяцін зямлі, а ў тысячы чалавек па дзесяціне, па паўтары, па дзве. І вечны голад, вечная недастача, як нейкае праклянцце ўвесь век вісела над гэтымі. Ды хіба толькі гэта? А здзекі над чалавекам, насмяянне над ім з боку больш моцных, з боку тых, у каго кішэнь тугая была. Дом гэты, дзе мы, купцу Лемяховічу належаў, дык ведаеце, што вырабляў некалі гэты купец тут на пляцы? Збіраў сялян, паіў і прымушаў біцца, абяцаючы даць ім грошай. У тых дзеці галодныя,

голыя, босыя, подаці на шыі вісяць, ну, і біліся, біліся да крыві, часта да смерці. Адсюль некаторых ужо ў бальніцу, проста ў мярцвецкую адвозілі. А ён сядзеў на балконе з прыставам, з земскім начальнікам і любаваўся... Аб гэтым мне ваш бацька расказваў... І я вось не разумею, чаму некаторыя з інтэлігентаў, якія па-сумленнаму ненавідзелі тое жыццё, не хочуць працаваць з намі, чагосьці баяцца. То марыў чалавек аб справядлівасці, аб чалавечнасці, а як прыйшоў час справядлівейшы з справядлівых, тады такія людзі, шмат хто з іх, сталі ўбаку, а то і супроць нас.

Гаворачы, старшыня рэўкома пазіраў Галынскаму проста ў твар, і Галынскі вытрымаць ягонага погляду не здолеў, здавалася яму, што гэты чалавек нешта ведае пра ягоныя сумненні і наўмысля загаварыў пра такіх інтэлігентаў. Зразумеўшы так словы старшыні рэўкома, Галынскі адчуў у іх дакор і на свой адрас.

У кабінет увайшло зразу некалькі чалавек вайскоўцаў. Галынскі падняўся, каб ісці.

— Бывайце. Я вельмі рад быў сустрэцца з вамі. Пра вас я багата добрага чуў ад свайго бацькі.

— Дзіўны чалавек Палікарп Мітрафанавіч... Ну, дзякую за добрае слова. Вы, бяспрэчна, хутка зноў у Петраград?

— Так. Сюды я на некалькі дзён толькі.

— Тады шчаслівай дарогі. Спадзяюся, што мы другі раз спаткаемся ў лепшых умовах... Вось тады і паспрачаемся. Бывайце.

...З рэўкома Галынскі пайшоў назад да Пілацеевай. Перад асабняком на вуліцы стаяла двое саней. З саней чырвонагвардзейцы насілі ў дом сталы, крэслы і нейкія скрынкі. Цяпер ужо быў адчынены і парадны ход, але Галынскі ў дом пайшоў кругом. Пілацееву ён засціг усё ў тым жа стане разгубленасці. Седзячы ў крэсле, яна плакала, а каля яе тупала яе старая маці, трымаючы ў руцэ шклянку з вадой. Засцігшы яе ў такім выглядзе, Галынскі не ведаў, ці то абнадзеіць яе, ці то сказаць праўду, тое, што пачуў ад старшыні рэўкома. Але не хацелася рабіць ні таго, ні другога, і, каб не схлусіць і каб дарэмна не абнадзейваць яе, Галынскі загаварыў пра неабходнасць неадкладнага выезду ў Петраград.

— Божа мой, але ж яны забяруць увесь дом.

— Што ж з таго? Яны занялі яго і так. Усё роўна Феакцісту Антонавічу трэба будзе хадайнічаць. Я баюся,

што гэта зацягнецца. А там вы будзеце больш спакойнымі. А калі ўсё ўладзіцца з домам, прыедзеце.

— Ах, я нічога не разумею, Міхаіл Палікарпавіч, але я зраблю, як вы раіце... Я нічога не разумею, я зусім разгубілася... Як я ненавіджу іх, божа мой, як я ненавіджу іх... Міхаіл Палікарпавіч, а можа, вы з намі папалуднуеце, я буду так рада.

— Не, не, дужа ўдзячны, але не магу, я сказаў, што буду палуднаваць дома. Бывайце...

У той жа дзень увечары Галынскі, як прыйшоў дадому бацька, сказаў яму, што хоча з ім пагутарыць адзін на адзін.

— Сакрэт? — бацька здзіўлена зірнуў з-пад акуляраў.

— Так. І дужа вялікі.

— Ого! Ну, тады гайда да мяне ў кабінет.

Ён прапусціў у кабінет наперад сына, а сам зачыніў дзверы, пайшоў да стала, узяў другую пару акуляр, працёр іх і надзеў наверх на акуляры, якія былі на вачах.

— Ты, Палікарп Мітрафанавіч, навошта ж дзве пары акуляр надзяеш?

— Акуляры? — бацька зразу не зразумеў, а пасля разрагатаўся і акуляры зняў.— Ну, гэта чорт ведае, што такое. Прывык з пацыентамі мець справу, надзеўшы аж двое акуляр, дык вось я цябе хацеў за пацыента прыняць.— Бацька яшчэ доўга рагатаў, расказваючы пра другія выпадкі аналагічнага парадку, а Галынскі, слухаючы яго здаровы радасны рогат, пазіраў яму ў твар, пазнаваў да дробязей бацьку, якім ён быў і некалькі год таму назад, і губіўся, зараней угадваючы, што бацька не пахваліць яго за надуманае, не згодзіцца з ягонымі аргументамі. Адгадваючы гэта, не ведаў, ці трэба расказваць бацьку тое, што меркаваў, ці, можа, так паехаць з дому і ўсё вырашыць самому, баяўся, што бацька, не згадзіўшыся з ім, пачне пярэчыць, што бацькавы словы народзяць сумненні ў правільнасці рашэння, якое ён па сутнасці прыняў канчаткова. Ён бачыў перад сабою вясёлы бацькаў твар, бачыў, як трасецца ад рогату ягоная, пасярэбраная сівізной круглая кароткая барада, і зайздросціў бацьку, што ён жыве вось такім, як бы і нічога не змянілася, ці як бы нічога з таго, што робіцца за сценамі дома, у якім ён жыве, не тычыцца яго асабіста. Пакуль ён думаў над гэтым, бацька, усё яшчэ балагурачы, прымасціўся як ямчэй у крэсле і намерыўся слухаць сына.

— Ну, што ж там у цябе? — запытаў ён.— Сумнае

ці вясёлае? Я сумнага страшэнна не люблю, жыць ад яго не хочацца.

Бацькава пытанне засцігла сына ў такім стане, калі ён усё яшчэ не ведаў, гаварыць ці не гаварыць. А бацька схіліўся, каб слухаць, і чакаў.

— Ну, выкладывай, Міхаіл Палікарпавіч, я слухаю.— Ён пазіраў сыну проста ў твар, і сын, не ўмеючы схаваць усхваляванасці, напружанасці, з якой думаў над тым, што займала яго, то адкідваўся плячыма да спінкі крэсла і ўскідваў нагу на нагу, а рукой прыгладжваў валасы, то ставіў нагу на падлогу і, адхінуўшыся ад спінкі крэсла, стукаў па падлозе абцасам башмака. Хацелася прыдумаць нешта і сказаць бацьку, каб не гаварыць галоўнага, таго, што збіраўся гаварыць, з чым наўмысля паехаў да бацькі з Петраграда.

— Ды ў цябе, відаць, нешта дужа сур'ёзнае, Міша? Так? Ну, гавары, чаго ж? — бацька ўраз зрабіўся сур'ёзным, а на твар, які зусім нядаўна быў яшчэ вясёлым, лёг цень трывогі. Тады Галынскі, падсунуўшыся з крэслам да стала, паклаў на стол правую руку і пачаў гаварыць. Гаварыў наўмысля ціхім голасам, каб выходзіла спакайней, і для гэтага ж ставіў руку локцем на стол і падпіраў рукой твар, але хутка забываўся, і тады дрыглівая рука клалася зноў на стол, і бацька бачыў, як дрыжаць на руцэ ў сына пальцы. Бацька сачыў за рукой поглядам, і сын, угадваючы гэта, каб авалодаць сабою, як бы выпадкова браў пальцамі тоўсты том «Унутранай хірургіі» і то ставіў яго на стол, то клаў, не выпускаючы яго з пальцаў. Сын гаварыў доўга і няўпэўнена, аргументуючы тое, што надумаўся зрабіць, а бацька сядзеў перад ім, устрывожана пазіраючы яму ў твар, нічога не разумеючы, адкуль такое прыйшло да сына, і пахвілінна здымаў і праціраў акуляры. Калі сын скончыў, заявіўшы, што ўсё, што ён сказаў, ён сур'ёзна абдумаў, што гэта яго канчатковая думка, бацька падаўся яшчэ бліжэй да яго твару і ціха, так, каб не пачула з суседняга пакоя жонка, крыкнуў на сына:

— Ты гэтага не зробіш! Чуеш?.. Гэта вар'яцтва! Ты думаў, куды ты сябе гэтым паставіш?..

— Я думаў. І я ведаю, што так будзе лепш. Толькі так я змагу застацца самім сабою. Толькі так я змагу быць ні там, ні тут...

— Гэта глупства! Гэта значна больш чым проста глупства. Гэта вар'яцтва. Так, так, вар'яцтва. І ты павінен гэта зразумець. Іншага нічога я ад цябе і чуць не

хачу! — Бацька падняўся з крэсла і захадзіў па кабінеце. Нейкі час хадзіў моўчкі, пасля спыніўся, здзіўлена развінуў рукі і павёў плячыма.

— І адкуль гэта ўсё прыйшло табе ў галаву, Міхаіл, не разумею. Забі мяне, не разумею. Вось выслухаў цябе, і застаецца толькі дзівіцца, нічога не разумеючы... Так... так... так...

— Вы проста не хочаце зразумець мяне.

— Не, не проста, я вельмі хачу зразумець цябе, але не ўмею, не ўмею, разумееш?

— Значыць, ёсць рэчы, якія мы па-рознаму разумеем.

— Можа быць, можа быць. У дадзеным выпадку я хацеў бы, каб гэтага не было. Так... спадзяюся, што ты перадумаеш. Гэта будзе разумней. Жыццё не такая прастая рэч, як табе здаецца. У жыцця свая логіка, свае законы. Так...

— Можа быць, але давайце лепш пакінем гэту гаворку. Я, бясспрэчна, яшчэ падумаю над усім.

— Так, так, гэта будзе лепш.

На гэтым гутарка іхняя абарвалася. У сталовай, калі зайшоў туды Галынскі-сын, гадзіннік званіў чвэртку першай гадзіны ночы. Слухаючы, як сціхае звон, Галынскі доўга стаяў пасярэдзіне сталовай, дзівячыся на з дзяцінства знаёмы прыгожы буфет з пасудай, на шырокі дубовы стол, на светлыя, ■ ледзь прыкметнымі рысункамі, шпалеры на сценах, на старынныя, павешаныя на сценах сталовай, карціны, на лёгкія, наўмысля купленыя для сталовай, цвёрдыя крэслы, і раптам стала яму шкада ўсяго, захацелася быць тут, каб нікуды адгэтуль не ісці.

А праз чатыры дні Галынскі разам з Пілацеевай паехаў у Петраград.

## ПАДЗЕЯ ШОСТАЯ

За акном стаяць белыя бярозы, прыкметна набракаючы пупышкамі. Стаяць нерухома, як ніколі спакойныя, засланяючы тонкім густым веццем далёкае, зусім па-веснавому чыстае, неба. З даху за акном густа капаюць кроплі вады, і з кабінета чуваць, як булькочуць кроплі ўнізе пад сцяною ў лужыне. За садам ляжыць пачарнелая дарога. Угары голыя, без снегу ўжо, дахі дамоў. З двара ўрываюцца праз адчыненую фортку чалавечыя галасы і далёкі голас пеўня, а з кабінета лезе клубкамі сіні махорачны дым. У кабінеце душна, і адтаго старшыня выканаўчага павятовага камітэта даўно расплікнуў каўнер ка-

шулі і часта, перарываючы гутарку, п'е ваду. Чарнявы скуласты твар ягоны, па-незвычайнаму рухавы, выдае ягоную ўсхваляванасць. Гаворачы, ён спяшаецца і час ад часу, як і Мілоўскі, паглядае ў акно на чыстае светлае неба.

— Трэба, таварышы, усё рабіць як мага хутчэй,— кажа ён, заглядаючы ў акно.— Яшчэ тыдні два і зусім прападзе санная дарога, тады будзе цяжэй, а ад некаторых валасцей мы будзем зусім адрэзаны балотамі. Трэба выязджаць у воласці неадкладна, сёння ж, самае позняе, хто сёння не можа выехаць, заўтра раніцою. Памятайце, што нам трэба сабраць на гэты раз з кожнай воласці прыблізна каля тысячы, а то і больш пудоў хлеба. Калі мы не сабярэм хлеба цяпер, мы яго наўрад ці зможам у такім выпадку сабраць наогул. Хлеба небагата, таварышы, але ад яго залежыць надзвычай многа, ад яго залежыць фронт. Другое — паліва. Пакуль ёсць дарога, трэба ўсе пагалоўна падводы мабілізаваць і падвезці дроў да станцыі. Вось усё. Ні на адзін момант не адрывайцеся ў рабоце ад камбедаў. У кулакоў хлеб ёсць, яны яго хаваюць, каб пасля здзіраць за яго тры шкуры. Калі здолееце арганізаваць беднату, вы гэты хлеб дастанеце...

У кабінеце сядзіць чалавек трыццаць. У шынялях, у паўкажушках, у падношаных чорных і шэрых штацкіх паліто, не распранаючы іх, людзі хвалююцца і спяшаюцца, каб хутчэй пайсці адсюль і ехаць. Тут і камуністы, работнікі мясцовага гарнізона, і камуністы з розных павятовых устаноў, і камуністы рабочыя з чыгункі і з «металургічных,— так яны называюцца,— машынарамонтных майстэрань», самага большага, па колькасці рабочых і камуністаў, прадпрыемства горада. А сярод усіх і Васька Мілоўскі, не па ўзросту высокі семнаццацігадовы хлопец, белабрысы, з прастым адкрытым тварам, з якога на ўсё акаляючае неяк крыху здзіўлена, маўляў — бач, якое яно ўсё — пазірае пара вялікіх шэрых вачэй.

У гэтыя месцы Мілоўскі прыехаў зусім яшчэ нядаўна з Петраграда і працуе інструктарам павятовага камсамольскага камітэта, толькі месяц таму назад створанага.

У горадзе інструктаваць асабліва няма каго, бо ва ўсім горадзе толькі сорак сем камсамольцаў, на чыгунцы ды ў металургічных майстэрнях, і таму, як абвясціў партыйны павятовы камітэт мабілізацыю на месяц у вёску для збірання харчразвёрсткі і правядзення двухтыднёвіка па паліву, Мілоўскі заявіў, што ён хоча быць у ліку мабілізаваных, на што і атрымаў згоду.

Як нарада скончылася, Мілоўскі ўзяў мандат і пайшоў дадому. Жыў ён у маленькім пакойчыку ў доме былога гандляра. Пакой цесны і халодны. З гэтай прычыны, збіраючы ў былы салдацкі мяшок што-нішто сабе на дарогу, ён падумаў, што ў вёсцы хоць нагрэецца, хоць нейкі час паспіць у цёплым. Думаючы аб гэтым, наўмысля прыклаў рукі далонямі да гладкай белай бліскучай кафлі печы. Печ была халодная. Мілоўскі адняў рукі ад печы, усміхнуўся, зараней радуючыся цеплыні, якую знойдзе ў вёсцы ў сялянскай хаце, і, праверыўшы, ці ўсё патрэбнае ўзята, завязаў мяшок і ўскінуў яго сабе на плечы. У дзвярах яшчэ спыніўся, каб на што не запамятаць. Дзве пары бялізны былі ў мяшку. У мяшку была і пара новых ануч і паўкуліды чорствага хлеба з таго, што ён выменяў у пекара на муку, атрыманую ў паёк, і дзесятак вялікіх яблыкаў-антонавак, якія купіў на рынку, і ў мяшку ж быў і томік з поўнага збору твораў Віктора Гюго «Дзевяноста трэці год» і пара запісных кніжак. Можна было ісці.

— Я паехаў,— крыкнуў ён у адчыненыя дзверы ў пакой гаспадароў.

З пакоя нешта адказалі, але ён адказу не чуў, пайшоў на вуліцу, адкуль накіраваўся на рынак да сялянскіх фурманак. Там ён хутка напаткаў селяніна з Пагулянскай воласці і згаварыўся з ім ехаць.

А яшчэ цераз колькі мінут яны паехалі. Селянін стаў у санях на коленкі ў саломе і пагнаў каня, а пасля азірнуўся на Мілоўскага і параіў:

— Саломы больш пад сябе падгарні, не саромся.

— Дзякую.— Мілоўскі прыўзняўся, падгроб пад сябе саломы і, скурчыўшыся, прымасціўся ў развалах.

Як змерклася, уехалі ў лес. Высокія хвоі густа стаяць абапал дарогі, і дарога падобна на высокі шацёр, а нізенькі конь у ім супроць дрэў здаецца яшчэ меншым. Конь, не спыняючыся, бяжыць увесь час рыссю, і, калі трапляе па дарозе лужынка, Мілоўскі чуе, як трашчыць пад нагамі ў каня лёд. Пагэтаму ён дагадваецца, што нанач узяўся мароз, і зразу ж адчувае, што пачынаюць настываць ногі. Ён варочаецца ў санях, падкурчвае ногі яшчэ больш пад сябе.

— Ты саломы нагарні ды ў салому іх,— раіць селянін і сам таксама мосціцца, каб было ямчэй сядзець. За дарогу многае перагаворана, і цяпер абодва яны маўчаць, думаючы кожны пра сваё. Селянін сядзіць бокам, час ад часу шморгае лейцамі і прычмоквае губамі, падганяючы каня, пасля паціху, так што Мілоўскі зусім не можа ра-

забраць слоў, спявае. У лесе яшчэ багата снегу, але на дрэвах ні адной сняжыны ўжо няма, і хвоі, калі глядзець на іх знізу ўгару, зусім па-веснавому зялёныя. Гэта адтаго, што пачынае змяркацца. Змрокі падпаўзаюць да дарогі з абоіх бакоў, з лесавых яраў, з-за густых кустоў ялінцу і з-за густа разгорнутых, вывернутых з зямлёй карэнняў старых ёлак, паваленых навальніцай. Яны паўзуць адтуль, нагортваюцца каля тоўстых ствалоў гонкіх хвой і па ствалах, чапляючыся за сухія кароткія сукі ўнізе, лезуць угору і там расплываюцца ў цёмна-зялёным моры густога галля. І калі часам мільгане, адкрыўшыся над дарогай, кавалак далёкага неба, Мілоўскі бачыць, як, ледзь прыкметныя, пачынаюць мігаць адтуль на зямлю першыя зоры. З кожным разам іх больш і больш, і неба робіцца ўсё цямней, падобна, што нехта разгортвае над зямлёй, насцілаючы столку за столкай, трубкі цёмна-сіняй, абсыпанай залочанымі кроплямі, тканіны. Так прыходзіць ноч. Конь упоцемку палахліва натапырвае вушы, уздымаючы галаву, паглядае па баках і бяжыць рыссю. Пад капытамі ў каня хрупае сухі ўмёрзлы снег і шуршыць, паскрыпваючы пад палазамі саней. Мілоўскі дрэмле. Час ад часу ён, калі сані тузаюцца ўбок куды, раскрывае вочы і тады бачыць наперадзе скурчаную спакойную постаць гаспадара і мітуслівую, яна рытмічна гойдаецца ледзь-ледзь у бакі пад дугой, конскую. Пасля раптам робіцца халадней. Мілоўскі раскрывае вочы і бачыць, што лесу болей няма, дарога ідзе сярод поля, і ўбаку бачыць нясмелыя цьмяныя аганькі ў хатах бліжэйшай вёскі. Яны ў чорнай прасторы, паміж цёмна-шэрай зямлёй, што перад вачыма, і зорным небам, і з гэтай прасторы то правальваюцца ў бездань за зямлю, то выныраюць з-за яе і ўздымаюцца ўгору да міглівых зор.

Позна ноччу прыехалі ў мястэчка ў заезджы дом, а раніцою назаўтра Мілоўскі пайшоў у выканком.

На валасным двары стаяла ўжо некалькі сялянскіх фурманак. Папрывязваныя да плоту коні елі сена, а сяляне блукалі па шматлікіх пакоях выканкома. Мілоўскі зайшоў да старшыні. Спыніўшыся перад старшынёвым сталом, ён дастаў з партмане мандат.

— Я прыехаў на цэлы месяц, у дапамогу вам. Прывёз і такія-сякія дырэктывы з павета. Вось,— дастаў яшчэ і паклаў на стол незапячатаны пакет.

— Гэта добра,— сказаў старшыня,— калі так, дык зайдзі да продкамісара нашага і згаварыся з ім. Я напішу рэзалюцыю, каб ён прымацаваў да ўсіх сельсаветаў

па чалавеку. А сам ты як, у адным сельсавеце будзеш ці па другіх праедзешся?

— А пагляджу, як справа пойдзе. Калі ўпраўлюся са сваім, дык і ў іншыя зазірну тады.

— Добра. Валяй да Лёйкі. А сам, можа, паехаў бы ты ў Шапятоўскі савет, а? Гэта ў нас цяжкаваты савет. Вось толькі што ў мяне старшыня быў, ён таксама да Лёйкі пайшоў.

— Гэта з чорнай барадой такі? Я спаткаў яго ў калідоры.

— Ага. Ты з ім і паехаў бы адразу.

— Дык я і паеду. А Лёйка дзе? У якім пакоі?

— А ў канец туды,— старшыня паказаў рукою на дзверы.— Проста па калідоры.

Лёйка сядзеў каля шырокага стала і нешта падлічваў, выпісваючы з картак лічбы на шырокі белы аркуш паперы. Каля стала моўчкі стаяў старшыня Шапятоўскага сельсавета і чакаў, пакуль Лёйка скончыць свае падлікі. Калі ўвайшоў у пакой Мілоўскі, ён азірнуўся на дзверы.

— І ты, таварыш, сюды? Можа, з горада?

— З горада. А вы з Шапятоўскага савета?

Селянін здзіўлена глянуў Мілоўскаму ў твар, падумаў, ці не знаёмы які, што ведае адкуль ён, і, не пазнаўшы, здзіўлена развінуў рукі.

— Ты не дзівіся, дзядзька, усё роўна не пазнаеш.

— А чаму ты ведаеш, што я з Шапятоўскага?

— Старшыня сказаў, раіць мне ў ваш сельсавет паехаць.

— А-а? Ну, тады так, а то я падумаў: адкуль чалавек мяне ведае, а я яго як бы нідзе і не сустракаў ніколі.

— Гэта бывае. Часам здорава памыліцца можна,— падняў галаву ад картак Лёйка.

Лёйка высокі. На галаве ў яго рыжыя, трошку кучаравыя валасы. Пад імі, шчыльна прытуленыя да галавы, не ў меру нейк малыя вушы. Вялікі вуціны нос. На левым воку, на павеку пад брывом, барадаўка. Барадаўку Мілоўскі заўважыў, як Лёйка падняў на яго вочы. Пазіраючы на Мілоўскага, Лёйка зажмурваў правае вока.

— З горада, таварыш? Па хлеб?

— Вось паперы. Старшыня на дырэктыве рэзалюцыю паклаў, каб зараз жа па адным чалавеку ў сельсавет накіраваць, каб і хлеб, і дровы — усё разам каб зрабілі.

— Разам-то гэта цяжкавата, але раз трэба, дык трэба. Колькі там на нас? Адна тысяча трыста семдзесят пу-

доў? Баюся, што калі дасі цяпер, дык да вясны з'ядуць яго...

— Я наконт аўса, як нам яго раздаваць, ці цяпер, ці тады, як сеяць трэба будзе? Людзі цяпер просяць, але я баюся, што калі дасі цяпер, дык да вясны яны з'ядуць яго.

— А гэта які авёс? — запытаў Мілоўскі.

— Насенне для беднаты, у каторых няма.

— Лепш патрымаць тады да самай сяўбы.

— І я так меркаваў, але ж яны лезуць, цярэбяць камбед той: дай ды дай, баяцца нечага, думаюць, што прападзе, калі не аддадуць ім цяпер.

— І я думаю, няхай пакуль што не аддаюць,— згадзіўся Лёйка.

— Ну, добра, толькі ты паперку напішы камбеду, хоць будзе што паказаць, а то ж не вераць, думаюць, сам свае парадкі нехта ўстанаўляе. А ты да нас такі паедзеш? — Жук звярнуўся да Мілоўскага.— Калі да нас, я пачакаў бы.

— Пачакайце, я хутка.

Мілоўскі з Лёйкам засталіся ў пакоі, а селянін пайшоў на зборную. Лёйка дастаў спісак сельсаветаў, перапісаў прозвішчы працаўнікоў валвыканкома, якіх можна было паслаць у сельсаветы, а тады размеркаваў зададзеную лічбу развёрсткі па хлебу на кожны сельсавет і напісаў для Мілоўскага мандат.

— Можаш ехаць. Дзейнічай цвёрда, народ тамашні жыве моцна, зямлі ў іх багата прыбавілася пасля рэвалюцыі.

З гэтым Мілоўскі і паехаў і пад вечар быў ужо ў Мікодавай хаце. У хаце ён засціг хлапца год семнаццаці. Хлапец сядзеў пры акне над кніжкаю. Мілоўскі павітаўся з ім і, паклаўшы на лаўку свой мяшок, зняў шынель. Тады хлапец заўважыў на кашулі ў яго нейкі значок. Ён згарнуў кніжку і намерыўся пакласці яе на палічку, зробленую на куце пад абразамі. Але за кніжкай сачыў вачыма Мілоўскі.

— А што гэта за кніжка, што ты чытаў? — Ён працягнуў руку і ўзяў кніжку з рук хлапца.— Густава Эмара? Гэта цікавая кніжка.

— Часам аж страшна чытаць,— нясмелым голасам сказаў хлапец.

— А Гогаля ты чытаў што-небудзь?

— Не, Гогаля я нічога не чытаў.

— А ў яго ёсць што пачытаць.— Мілоўскі тым часам паклаў кніжку на стол.— «Тарас Бульба», напрыклад, ці «Вій».

— Я «Вій» чытаў,— абазваўся хлапец.

Мілоўскі аглядаў хату. Вялікае месца ў хаце займала шырокая печ. Ад печы да супрацьлеглай сцяны быў пасланы палок з дошчак, засланы коўдрамі. На сярэдзіне палка ляжалі высока ўзбітыя падушкі, на самым версе якіх пакоіўся ясік. Зверху над палком, амаль пад самай столлю, насланы яшчэ палаці, кароткія, даўжынёй у рост чалавека. На палацях ляжалі розныя клункі і адзёжа. Печ з палком і палаці займалі ледзь не палову хаты. Ад палка і да чырвонага кута, паўз адну сцяну і ад кута да сцяны, у якой дзверы, паўз другую, пакладзены тоўстыя і шырокія лаўкі ў адну дошку. Паміж лаўкамі ў куце стол, пакрыты белым абрусам. Мілоўскі падсунуўся да стала і зазірнуў у акно. Следам за ім зазірнуў і хлапец.

— Нешта бацька ў хату не ідзе,— сказаў ён.— Ці не загаварыўся з кім.

— А ты ж не выйшаў пасабіць яму.

— А што там? Каня распрэгці няцяжка, а сена ж яму я паклаў нанач.— І ён зноў узіраецца цераз акно ў двор, дзе мільганула бацькава постаць.— Ды вунь ён ідзе ўжо, нечага на вуліцу хадзіў.

Гаспадар увайшоў у хату, несучы на руцэ збрую.

— Людзі ў нас, каб іх маланка папаліла,— сказаў ён.— Ці яны баяцца, ці яны хочуць таго, чорт іх не разбярэ. Гэта ж на вуліцу мяне Арцём паклікаў. Пытае, ці не чуў я пра тое, што на гэты раз палякі і да нас ужо дойдуць.

— Мусіць, хочацца яму палякаў.

— Можа, і хочацца, ці яго ўгадаеш. А ці хутка вячэра, Рыгор?

— А ўжо хутка.

— Добра, а то я есці захацеў, дый таварыш, відаць, прагаладаўся. Ты ж, мусі быць, і не палуднаваў зусім?

— Што-нішто еў, дзякую, у мяне ў мяшку харчы.

— Такія там, мусіць, харчы, што я і не бачыў, калі ты іх еў.

Мікода разуўся і мокрыя лапці ўскінуў на печ, а на ногі надзеў старыя палапленыя боты.

Сын прынёс у хату і паставіў на стол міску з агуркамі. Мікода зараз жа падняўся з лаўкі, адсунуў ад лаўкі трошкі стол і, паказваючы Мілоўскаму на кут, запрапанаваў лезці за стол.

Сярод стала стаяла вялікая гліняная міска з агуркамі, а побач з ёй другая міска з бульбай.

— Еш, таварыш, харчы ў мяне не вельмі, так вось перабіваюся патроху, то з агуркоў на капусту, то з капусты на агуркі.

— Нічога, добра.

— Ды яно нічога, я дужа люблю агуркі з бульбаю, асабліва расол. Так гэта насёрбаешся і сыт.

На комінку пачала абтухаць дагарэўшая лучына. У хаце ўраз пацямнела, па хаце замітусіліся цені. Тады ад стала пайшоў Рыгор і паклаў на комінак смалякоў.

— А як жа ты нас спаць укладзеш? — запытаў гаспадар.— Куды каго?

— А куды хто хоча.

— Я на лаўцы магу пераспаць,— Мілоўскі скасіў вочы, пазіраючы на шырокую, у паўаршына, лаўку.

— На лаўцы халодна будзе і мулка.

— А са мной на палаці палезем,— запрапанаваў Рыгор.

— Там-то цяплей будзе.

— Ну і добра, палезем.

Калі Мілоўскі даў згоду лезці на палаці, Рыгор смялей падаўся да яго і прыгледзеўся да значка ў Мілоўскага на кашулі. Ён выразна бачыў бліскучы, як бы залочаны, вяночак і ў ім пяціканцовую зорку з чырвонай светлай эмалі, а на зорцы накрыж плуг і малаток.

— Што гэта ў цябе за значок? — асмеліўся запытаць Рыгор.

— Гэта значок КІМ.

— Вельмі прыгожы значок,— сказаў Рыгор і крануўся значка пальцамі.

Калі леглі на палацях спаць, Рыгор зноў пачаў гутарку пра значок.

— А скажы,— папрасіў ён,— значкі гэтыя прадаюцца ці іх так выдаюць камуністам?

— Прадаюцца.

— Я сабе купіў бы, каб натрапіў у горадзе на іх. Я, ведаеш, усё роўна камуністам стану, каб толькі дазнацца ад каго, як і што.

— Аб чым дазнацца?

— Ну, як паступіць, куды...

— Гэта я табе ўсё раскажу,— абрадаваўся Мілоўскі.— Ты пра камсамол не чуў?

— Не-а...

Пакуль гаварыў Мілоўскі аб камсамоле, Рыгор ля-

жаў моўчкі, уважліва слухаючы кожнае слова. Слухаючы, ён прыжмурвае вочы, пазіраючы ў нізкую столь, і бачыць перад вачыма сваю вясковую вуліцу і на вуліцы бачыць самога сябе сярод сваіх сяброў. Ён — камсамолец. Ён ідзе ў сваёй святочнай вопратцы, падпеpазаны папружкаю, і ўвесь час абцягвае пад папружку кашулю, каб яна гладзей ляжала на грудзях, каб выразней відзён быў усім значок, які ў яго з левага боку на кашулі. Ён ідзе ў гэты раз без вінтоўкі, вінтоўка вісіць у хаце на круку над лаўкай. Самая сапраўдная вінтоўка, салдацкая.

— А як жа мне ў камсамол паступіць? — пытаецца Рыгор.

— Табе можна будзе, калі ты захочаш паступіць. У камсамол толькі буржуйскіх сынкоў мы не прымаем, ды папоўскіх розных, а табе паступіць лёгка, абы захацеў.

— Я хацеў бы, калі можна, адразу цяпер і паступіць пры табе. Баяцца я нічога не баюся, куды б ні паслалі,— паспяшаўся ён запэўніць Мілоўскага.

— Толькі трэба, каб ты не адзін, каб яшчэ некалькі хлапцоў ці дзяўчат...

— А хіба і дзяўчат прымаюць?

— А чаму ж не.

— Тады я пагавару з хлопцамі. І дзяўчыну адну, можа, угавару... Я заўтра ж з Кастусём пагавару. А колькі ўсяго чалавек трэба, каб ячэйку арганізаваць?

— Каб хаця трох на першы час.

— Трох я падгавару,— абрадаваўся Рыгор,— Кастуся падгавару, Марылю, Міхаля Сымонавага падгавару...

Унізе пад палацямі даўно спаў бацька, а Рыгор з Мілоўскім доўга яшчэ гаварылі паўшэптам пра тое, калі яны збяруцца. Хацелася, каб хутчэй прайшла ноч. Заўтра ж раніцою ён пойдзе і аб усім пагаворыць з Кастусём і з Міхалём. А пасля, увечары, і з Марыляй.

— Давай будзем спаць,— запрапанаваў Мілоўскі і, перавярнуўшыся на бок, падкурчыў пад сябе даўгія ногі.

— Добра, ужо такі пара спаць.— І Рыгор гэтаксама перавярнуўся са спіны на бок, а галаву схаваў напалову пад коўдру: так лягчэй было кіраваць сваімі думкамі.

Назаўтра Рыгор прачнуўся з тымі ж думамі і, не чакаючы снедання, пайшоў з дому. Снедалі без яго, без яго і палуднавалі, а прыйшоў ён дадому пад вечар ужо. З сабою прывёў яшчэ хлапца. Хлапец быў у вялікіх салдацкіх гамашах, ад якіх да самых каленяў ногі былі

абкручаны зялёнымі абмоткамі. Увайшоўшы ў хату, хлапец ад парога сказаў «дзень добры» і, прайшоўшы трошку ад парога, сеў адзінцом на лаўцы.

Сам жа Рыгор сеў каля стала, непадалёк ад Мілоўскага. Сядаючы, зазірнуў у паперкі, якія ляжалі перад Мілоўскім, а тады паклікаў да сябе хлапца.

— Хадзі, Міхаль, сюды, чаго ты там адзін сеў?

— Мне і тут добра.— Хлапец сядзеў, украдкам паглядаючы з-пад ілба на Мілоўскага. Левай рукой трымаў на калене напалову аблезлую, пашытую некалі з зайца, шапку.

— Ну, хадзі сюды,— зноў запрапанаваў хлапцу Рыгор, і тады пачаў Мілоўскі збіраць са стала свае паперкі. Хлапец падняўся з свайго месца, перайшоў па хаце да лаўкі, на якой сядзеў Рыгор, і сеў побач з ім...

— Дзень добры,— сказаў да яго Мілоўскі і падаў яму руку. Хлапец пачырванеў і ў адказ нясмела падаў Мілоўскаму руку канцамі абвялых пальцаў.

— Ну як, згодзен ты паступіць у камсамол?

Хлапец яшчэ больш пачырванеў і нічога не сказаў. Адказаў за яго Рыгор.

— Ён згодзен, толькі не хоча, каб бацька аб гэтым даведаўся.

— А бацька хіба не любіць камуністаў?

— Не то што не любіць, але дужа ўсяго баіцца, і калі ўведае, што ён паступіў у камсамол, будзе сварыцца. Яму-то ўжо значка нельга будзе насіць,— скончыў сваю думку Рыгор.

— Чаму не? Захачу і буду насіць, што ён мне зробіць?

— Правільна, няма чаго баяцца...

— Ды я яго і не баюся, ён наогул такі сварлівы: абы з-за чаго будзе сварыцца, абы прычэпка была.

У гэты момант у хату вярнуўся гаспадар. Ён прывёў з сабою яшчэ Сузона Каляду і Івана Пятровіча.

— Вось і ўвесь наш камбед,— сказаў.

— Усяго двое?

— А я трэці.

— А вы ж старшыня сельсавета?

— Ну, дык што? Я і там і тут, так выбралі.

— Тады давайце пагаворым.— Мілоўскі пасунуўся далей за стол, а паміж ім і Рыгорам сеў на лаўцы Іван Пятровіч. Сузон жа проста падышоў да стала і стаў, абапёршыся на стол локцем адной сваёй рукі.— З вашага савета палагаецца сто дваццаць пудоў хлеба і дзевяноста

пудоў сена. Давайце зараз размяркуем, хто будзе здаваць, каб на сходзе доўга не валаводзіцца з гэтым. Я думаю, чалавек на сем — дзесяць раскладзем, і ўсё.

— Як на сем — дзесяць? У нас гэта не пройдзе.

— Чаму не пройдзе? Што вы, законаў савецкіх не ведаеце?

— Законы-то мы ведаем, толькі ў нас народ сам не згаджаецца, каб так здаваць развёрстку.

— Гэта правільна,— пацвердзіў Іван Пятровіч.— Спрабавалі мы некалі правесці такі парадак, каб развёрстку толькі багатыя плацілі, але на сходзе такі гвалт падняўся, што нічога і не зрабілі. Тое ж і сёння будзе.

— Але гэта ж няправільна.

— Ды канешне ж няправільна, але што ты з імі, з тымі дурнямі, зробіш, калі яны самі за багатых плаціць бяруцца.

— Гэта не гадзіцца,— расцягваючы словы, сказаў Мілоўскі.— Гэта не па-нашаму. Сёння трэба зрабіць па-іншаму. Хто ў вас самыя багатыя? — Ён узяў аловак і намерыўся запісваць.

— Ну хто, яны вядомыя: Давыдзюк Ахрэм, Шкробат Мікіта, Кот Ермалай, Дзідзянюк Хвядос... Гэта самыя багатыя, а за імі, троху ніжэй, Сапун Мірон, Арцём Піскун, Кот Халамей... Так што і ўсе, калі казаць пра багатых.

— Ды ўсе.

— Ну, дык вось на іх мы і раскладзем хлеб. На Давыдзюка, на Шкробата, наКата Ермалая і Дзідзянюка па дваццаць пудоў хлеба і па пятнаццаць пудоў сена, а на Сапуна, Ката Халамея і на Піскуна па трынаццаць пудоў з фунтамі хлеба і па дзесяць пудоў сена. Вось і ўсё. Правільна так будзе ці не?

— Чаму не?

— Правільна, толькі не згодзяцца нашы. Тыя крык падымуць, што ім адным плаціць, а нашы за іх рукі пацягнуць і за гэтакі парадак галасаваць не будуць.

Сузон стаяў над сталом і аб нечым думаў, пазіраючы на запісы, зробленыя Мілоўскім. Пасля, як сказалі свае і Мікода Жук і Іван Пятровіч, ён абазваўся, выказваючы ўголас свае меркаванні.

— А добра было б, хлопцы, калі б гэтак зрабіць, а? — Ён паказаў пальцам на паперку, на якой Мілоўскі запісаў свае размеркаванне развёрсткі.

— Ды нядрэнна было б,— згадзіўся і Мікода.— Толькі хіба зробіш што з нашым народам.

— Зробім. Вось пабачыце, што зробім.— Усміхаючыся, Мілоўскі падняўся з-за стала.— Можа, пойдзем?

— А ўжо хадзем.

— Сход у вас дзе?

— У школе, у Івана Пятровіча, там раскашней, чым у хаце дзе.

Як прыйшлі да школьнага двара, там былі ўжо амаль усе вяскоўцы. Яны стаялі купкамі і на вуліцы, каля двара, і на самым двары. Калі Мілоўскі следам за Мікодам праходзіў з вуліцы на двор, мужчыны, якія стаялі ў вуліцы, гутарылі пра блізкую вясну.

— Цяпер яна ўраз,— сказаў адзін,— нахопіцца, і тады толькі паспявай араць ды сеяць.

— Наўрад ці будзе чым сеяць: усё ж едуць, усё ж дай ды дай...

Мілоўскі азірнуўся і змеціў таго, хто сказаў апошнія словы. Быў гэта мужчына год сарака, росту сярэдняга, худашчавы, вызначаўся з усіх даўгімі, з вострымі кончыкамі, закручанымі ўгору светла-русымі вусамі. Калі Мілоўскі азірнуўся, ён зразу змоўк і адвярнуўся тварам да вуліцы.

У памяшканні школы таксама было шмат мужчын. Яны сядзелі на вузкіх і нізкіх вучнёўскіх лаўках па два на лаўцы, трошку бокам, бо нельга было, седзячы проста, выцягнуць ног.

Да стала следам за Мілоўскім прайшлі і Мікода Жук і Іван Пятровіч, які выконваў абавязкі сакратара сельсавета, як самы пісьменны ў Шапятоўцы чалавек. Ён адразу ж сеў да стала і пачаў ачыняць аловак, рыхтуючыся пісаць пратакол. А Мікода адчыніў сход і запрапанаваў абіраць прэзідыум. З месц на ягоную прапанову абазвалася некалькі галасоў. Назвалі ў прэзідыум Івана Пятровіча, Ката Халамея і самога Мікоду.

— Тады ідзі, Халамей, сюды, старшынствуй,— сказаў Мікода.

Да стала падышоў мужчына з даўгімі светла-русымі вусамі, той, якога змеціў Мілоўскі на вуліцы.

— Хто ён такі? — запытаў паціху Мілоўскі, схіліўшыся да Мікодавага вуха.— Нешта ён дужа на селяніна не падобны.

— А я і не ведаю, хто ён даўней быў. Сюды ён ужо ў рэвалюцыю прыехаў да брата і сеў на панскую зямлю. А за даўнейшым, відаць, служыў недзе.

Кот стаў за сталом і, азірнуўшыся спачатку на Мікоду, пасля на Мілоўскага, абвясціў парадак дня.

— Першае пытанне — бягучы момант; другое — здача харчразвёрсткі; трэцяе — аб двухтыднёвіку па паліву...

— І бягучыя справы,— падказаў нехта з месца з іроніяй.

— І бягучыя справы, зусім правільна,— згадзіўся Кот.— А больш, як вы захочаце: калі ёсць дадаткі, ці змены, давайце.

— Хопіць і без дадаткаў.

— З нас хопіць і адных даткаў,— зноў азваўся з месца нейчы іранічны голас.

— Даткаў-то з нас хапае,— падтрымаў яго другі.— Толькі ведай — давай...

— Ладна, пасля пагаворыце,— перабіў іх Кот.— Слова мае па бягучым моманце прадстаўнік з горада таварыш...— ён азірнуўся на Мікоду.

— Таварыш Мілоўскі.

— Я самы і ёсць,— Мілоўскі падняўся з зэдліка, зняў шапку і паклаў яе на стол, а на шапку паклаў паперку з тэзісамі свайго даклада.

Хвілін за дваццаць Мілоўскі расказаў пра апошнія навіны з фронту грамадзянскай вайны. Пакуль гаварыў аб вайне, сход слухаў пры поўнай цішыні. Але калі загаварыў, што фронту патрэбен хлеб, сена і паліва паравозам, што без хлеба Чырвоная Армія не будзе мець сіл бараніць заваёвы рэвалюцыі, што без паліва паравозы не здолеюць дастаўляць на фронт паяздоў са зброяй і войскам і што хлеб, сена і паліва павінен даць фронту тыл, па сходу хвалямі пайшла ціхая гамонка, у якой адчувалася нездавальненне. Сход, да якога ўжо не раз за апошнія паўтара года прыходзілі то па хлеб, то па сена, насцярожваўся, стараючыся ўгадаць, ці багата давядзецца даваць на гэты раз. Даць трэба. Гэта шапятоўцы разумелі, бо побач, зусім непадалёк, была зямля, якая адваёўвалася дзесьці далёка на фронце. Але разумеючы гэта, хацелі, каб даваць давялося як мага менш.

— А ці багата даваць? — прарваўся са сходу голас.

— Сто дваццаць пудоў хлеба і дзевяноста пудоў сена.

— Ого!

— Ажно сто дваццаць!..

— У той раз здалі сто семдзесят, а цяпер яшчэ сто дваццаць, а калі ж будзе годзе?

— Тады, таварышы, як белагвардзейцаў разаб'ем,— адказаў Мілоўскі.— А да ўсяго я лічу, што такім, як

ты,— звярнуўся ён да селяніна, якому адказваў,— няма чаго бедаваць.

— Чаму так няма чаго?

— Ты бядняк?

— Бядняк, ну і што?

— Бедната ў нас ад развёрсткі вызваляецца, развёрстку мы не бярэм з апошняга, што ў цябе ці ў другога бедняка ёсць, а з таго бярэм, у каго лішкі ёсць.

— А тым часам плоцім мы ўсе,— адказаў з месца Сузон Каляда.— У нас свае парадкі.

Сход насцеражыўся і змоўк, і раптам з цішыні нехта, не ўцярпеўшы, кінуў Сузону папрок:

— А ты ж думаў, што я за цябе плаціць буду? Зямлі цяпер, слава богу, пароўну амаль маем, дык і плаціць кожны за сябе павінен.

— Яно-то правільна, што кожны за сябе,— адказаў Мілоўскі,— толькі няправільна, што ўсе павінны плаціць.

— Чаму ж гэта так? — аж падняўся з месца той, што папракаў быў Сузона.

— А таму, грамадзянін, што адзін зямлю ўвесь век свой меў і жыў багата, а другі толькі пасля рэвалюцыі зямлю атрымаў і багаццяў не нажыў яшчэ. Зямля ў яго бывае і ёсць, а каня або каровы глядзіш і няма. Дык чаму ж гэта ён, не маючы з чаго, павінен плаціць стольki, сколькі і ты?

— А чаму ж гэта я за яго павінен плаціць? А? Бач ты, да чаго дадумаліся?! — Селянін, ён увесь час стаяў, слухаючы тлумачэнне Мілоўскага, цяпер забегаў поглядам па сходзе, шукаючы спачування, замітусіўся на месцы.— Як жа ж гэта так? Што ж гэта яшчэ за новыя парадкі?

— Ніякіх тут новых парадкаў няма, а ёсць савецкі парадак, які ў вас не праводзіўся. А вы па гэтай справе сваю беднату эксплуатавалі. Зусім няправільна, калі і бядняк плаціў ад зямлі, і багатыр ад зямлі. Гэта вам не царскія подаці. Зямлі ў вас, можа, і пароўну, ды зямля — яна неаднолькавая, раз, ды маёмасць у вас не аднолькавая, два, ды сям'я ў вас неаднолькавая.

— Тры,— падхапіў з месца Сузон.— І зусім таварыш правільна гаворыць, ага, зусім правільна. Возьмем, скажам, Давыдзюка Ахрэма і мяне. У яго гаспадарка спрадвечная, як цытадэля, двор, а ў мяне ні каня, ні будыніны, зямлю тую хоць зубамі грызі.

Сузона падтрымала яшчэ некалькі галасоў з розных месц, і тады падняўся на сходзе гоман і крык. Крычалі

некалькі чалавек у пярэдніх радах, не згаджаліся плаціць развёрсткі па-новаму. Убачыўшы, што гоману гэтага так лёгка не сцішыш, Мілоўскі сеў.

— Няхай перакрычацца,— сказаў ён, усміхнуўшыся.

— Нічога не выйдзе,— нахінуўся Кот Халамей да Мілоўскага.— Несвядомы народ у нас, хоча плаціць па-старому, і я лічу, што прымушаць гвалтам да новага няма патрэбы.— За гэтым, не слухаючы, што адкажа Мілоўскі, ён з тым жа звярнуўся і да сходу. Як загаварыў ён, прыціхлі на хвіліну, слухаючы яго, і тыя, хто крычаў, але з месца падняўся Мілоўскі і стаў каля стала побач з Катом, і рукой паказаў Кату сесці на месца. Халамей збянтэжана змоўк, але не сеў, стаяў і пазіраў на Мілоўскага, не разумеў, што той хоча зрабіць.

— Годзе, грамадзяне, час марнаваць. Есць закон, і крычаць няма чаго. Мы з камбедам прыблізна вызначылі, хто будзе здаваць і колькі хлеба і сена, і я прапаную гэта зацвердзіць.— Мілоўскі ўзяў са стала паперку.— Па нашаму меркаванню развёрстку павінны здаць наступныя грамадзяне: Давыдзюк Ахрэм, Шкробат Мікіта, Кот Ермалай і Дзідзянюк Хвядос па дваццаць пудоў жыта і па пятнаццаць пудоў сена, а Сапун Мірон, Кот Халамей і Піскун Арцём па трынаццаць пудоў і пятнаццаць фунтаў жыта і па дзесяць пудоў сена...

Сход маўчаў.

— Вось нашая прапанова, за якую я і прашу галасаваць.

— А калі мы не хочам галасаваць?

— Чаму не хочаце?

— А таму, што няправільна.

— Калі няправільна мы каму вызначылі, давайце папраўляць будзем. Ну, каму мы няправільна напісалі?..

— Мне няправільна! — ад задніх радоў пайшоў да стала нізкі мужчына ў даўгім кажусе. З шырокага каўняра кажуха ледзь відзён быў ягоны невялікі круглы твар.

— А ты хто будзеш?

— Шкробат Мікіта. Дзе ж вы бачылі, каб аж дваццаць пудоў жыта ў адзін раз мне здаць? Сіл у мяне такіх няма.

— А ты што, дзядзька, бядняк? — Мілоўскі хітравата пазірае то на Мікіту, то на Сузона, які сядзіць непадалёк. Мікіта маўчыць, а Сузон усміхаецца ледзь прыкметна і кідае з месца:

— Дай бог кожнаму такую беднасць.

Тады Мікіта аглядаецца назад, шукае поглядам у радах Сузона, якога пазнаў па голасе. А сход маўчыць, шэпчацца. Сход паспакайнеў, калі адчуў, што развёрстка тычыцца не ўсіх, а толькі багатых, што не давядзецца адбіраць ад зярнят, пакінутых на самым дне ў дзежачцы на насенне, некалькіх фунтаў, каб несці ў старшынёву клець здаваць іх; і, адчуўшы гэта, сход заўсміхаўся, нарыхтаваўся паслухаць Мікітаву сварку з Сузонам. А Кот Халамей выйшаў з-за стала і пайшоў у заднія рады. Там ён схінуўся да Ахрэма Давыдзюка і аб нечым доўга шаптаўся з ім. Мікіта ж, знайшоўшы Сузона, прычапіўся да таго, як на допыце.

— Чаго ты ад мяне хочаш? Чаго да мяне чэпішся, во што?

— Хачу, каб ты збяднеў троху, каб са мной падраўняўся хоць троху.

— А не дажджэш ты, каб я з табой роўным быў, во што. Ён мае багацце ўбачыў, хоча распараджацца ім. Свайго нажыві дый распараджайся тады, во што.

— Пакуль там свайго дачакаешся, дык я лепш тваім буду распараджацца.

— Не дажджэш ты!..

— Чаму не дажду? Ужо ж даждаў, от жа заплоціш дваццаць пудоў.

— Не, не дажджэш ты, каб я за цябе плаціў! Сам жа ты здай дваццаць пудоў. Хітрун знайшоўся. Думае, калі камбед, дык і парадак тут наводзіць будзе.

— І навяду,— ускочыў з месца ўзлаваны Сузон.— Гэта было, што мы за вас усякі раз здавалі, фунтамі зносілі апошнімі, а цяпер годзе! Вы не хворы па дваццаць пудоў здаць. У мяне і мышаці няма чым пажывіцца, а ў вас засекі ад дабра ломяцца...

— А ты ў маёй клеці быў? Ты ў мае засекі заглядаў? Можа, там зярняці аднаго няма ўжо, во што...

— А дзе ж яно падзелася? Хіба пахаваў?

— Ты! — Мікіта рвануўся з месца, хацеў кінуцца да Сузона, але змецІў перад вачыма людзей і стрымаўся.— Ты, Сузон, маўчы, не грашы богу. Я не злодзей, у мяне не крадзенае дабро, каб з ім хавацца... во што...— Мікіта расплікнуў каўнер кажуха, адхінуў яго ад твару, намерыўся яшчэ нешта сказаць, але яму перашкодзіў Кот Халамей. Халамей падышоў зноў да стала і заняў сваё старшынёва месца.

— Ты памаўчы,— кінуў ён да Мікіты.— Сварыцца

тут няма чаго, давайце лепш аб справе гаварыць будзем, каб як у ёй разабрацца.

— Справа ясная,— перабіў яго Мілоўскі.

— Не зусім, таварыш дарагі, ясная, адтаго вось і народ крычыць...

— Ды які ж народ крычыць, калі і крычыць усяго адзін.

— Чаму гэта адзін? — крыкнулі з месца.

— Але ж, чаму гэта ты думаеш, што адзін ён крычыць?

— Вось бачыш, таварыш дарагі, крычыць не адзін ён. Кожнаму зразумелым ёсць, што на семярых такога цяжару ўскласці нельга. Я згодзен, што беднату, канешне, патрэбна ад развёрсткі вызваліць, такіх, да прыкладу, як Сузон, як Ганорыкі, але ж не ўсе ў нас такія, як яны, бедныя. Ёсць жа і такія, што могуць сёе-тое здаць. Вось, да прыкладу, Мікода Жук хоць і небагаты, але і не такі ўжо бедны і тое-сёе можа здаць. Хіба няпраўду кажу? — уставіўся ён поглядам у Мікодаў твар.

— Калі б давялося, дык што-нішто знайшоў бы.

— Ну, вось,— задаволена сказаў Халамей.— А такіх багата ў нас, большасць такіх...

— А ты за якую справу, грамадзянін, агітуеш? — уставіўся яму ў твар Мілоўскі.

— Я за тое агітую, таварыш дарагі, каб больш правільна было, каб не ўскладаць усёй развёрсткі на семярых толькі. Няхай яны, можа, і больш здадуць, чым іншыя, але ж не па дваццаць ды не па трынаццаць пудоў...

— Ну, гэты нумар не пройдзе! — Мілоўскі падняўся з месца.— Я думаю, што справа тут зусім ясная. Раскладаць на ўсіх няма чаго. А калі,— Мілоўскі ўзлавана зірнуў на Мікоду,— старшыня сельсавета хоча што-нішто ўнесці, дык няхай здае да таго дадаткова. І нават прасіў бы, хто можа, каб добраахвотна здаць хоць што-нішто ў дапамогу гераічнай Чырвонай Арміі. Але гэта не ў лік ста дваццаці пудоў развёрсткі, а звыш таго. Развёрстку ж я прапаную зацвердзіць так, як вызначыў камбед. Хто за гэта, я прашу галасаваць.

З радоў паднялося было некалькі рук угору, але зразу ж і зніклі. У цішыні па-асабліваму выразна прагучалі спакойныя чыесь словы:

— Так, хітра прыдумаў, хоць і малады яшчэ. Ты і развёрстку здай, і ты да развёрсткі дай... Хітра...

— Іхнія галовы хітрыя,— згадзіўся другі.

— Я прашу, грамадзяне, аднаго з другім не змешваць,— зразумеў сваю памылку Мілоўскі.— Наконт дадатковай добраахвотнай здачы, я магу і зняць сваю прапанову, паколькі я гэтай прапановай адказваў старшыні сельсавета. Галасаваць я прашу толькі за першую прапанову, наконт развёрсткі. Вось і падымайце рукі, хто за яе.

На гэты раз паднялося толькі чатыры рукі. За развёрстку галасавалі Сузон Каляда, Мікода Жук, які сядзеў у прэзідыуме, і яшчэ двое, якіх Мілоўскі не ведаў. Іншыя не галасавалі.

— Та-ак,— працягнуў ён, здзівіўшыся, што ніхто больш не галасуе.— А хто супроць такой прапановы? Прашу тых падняць рукі.— Супроць паднялося рук дзевяць, а рэшта зноў не галасавалі.

— Значыць, і супроць не галасуеце? — уставіўся Мілоўскі поглядам у пярэдніх.

— Чаму? Вунь галасуюць,— кіўнулі галовамі на сход тыя.

— Ну та-ак,— зноў працягнуў Мілоўскі.— Значыць, супроць галасуюць толькі тыя, каму вызначана здаваць развёрстку, ды яшчэ двое, відаць, з радні іхняй. Адным словам, як відаць, даводзіцца лічыць прынятай першую пастанову.

— Ды што ты баламуціш там?

— Хто ў нас за старшыню сходу, Халамей, ці хто? Што ж гэта?

— Прашу супакоіцца,— адказаў на выкрыкі Мілоўскі.— Старшыня тут ролі не іграе, калі вы не галасуеце... А старшынства я не адбіраю. Калі ласка, вядзіце сход, грамадзянін Кот.— Мілоўскі сеў на месца.

— Дык што ж весці, калі не галасуе ніхто.

— Бо заблыталі ўсё, не ведаем, за што галасаваць.

— Нічога не заблыталі,— спакойна адказаў з месца Мілоўскі.— Усё тут ясней яснага.

— А чаму ж ты не галасаваў за Халамееву прапанову?

— Каб на ўсіх развёрстку раскласці?

— Але ж.

— А таму, што прапанова гэтая не на карысць беднаце, а на карысць багатырам вашым. Калі ж за гэта папракаеце, я не пярэчу, няхай сабе і гэтая прапанова галасуецца. Калі ласка, стаўце на галасаванне сваю прапанову.

— Ну, добра, дык хто за яе, прашу падняць рукі.

Але зноў паднялося толькі дзевяць рук.

— Ну? Што ж вы цяпер скажаце,— звярнуўся Мілоўскі да задніх радоў, з якіх раней крычалі і з якіх цяпер паднялося дзевяць рук.— Справа тут у вас, як відаць, не ў тым, што я некага заблытаў, а, відаць, у тым, што нехта некага баіцца і адтаго і не галасуе. Сам не галасуе, правільна робіць, бо не хоча на сябе долі развёрсткі браць, калі самому есці няма чаго, але і не галасуе за тое, каб багатыя плацілі, бо, відаць, баіцца іх. А баяцца няма чаго. Пара тая мінулася разам з царом, прыставам ды ўраднікам, калі бедната багатыроў баялася. Хто хоча да багатыроў падлізвацца, няхай падлізваецца, а хто сапраўды бядняк, каму дарага рэвалюцыя, той павінен цвёрда голас свой мець, таму няма чаго баяцца...

— Ды мы і не баімся.

— Хто там каго баіцца?

— Ды ўжо ж, мы не дзеці малыя, каб баяцца некага.

— А што ж вы сядзіце так, што ні туды ні сюды? — З месца раптам падхапіўся Мікода Жук.— Я ўжо сядзеў ды маўчаў, думаў, што з таго выйдзе, думаў, хоць раз пасяджу ўжо так, адпачну хоць. Але ж не даводзіцца пасядзець. Гляджу на вас, ажна прыкра робіцца. Ну, правільна, што ў нас такога не было, у тыя разы ўсе здавалі, хоць з апошняга, але здавалі. І сапраўды, у Мікіты засекі ломяцца ад дабра, а ён пуд за дзесяціну нёс і Сузон тое ж нёс. Які ж гэта парадак? А тут вам чалавек робіць як лепш, як след па правілу, и вы не галасуеце, ды яшчэ кажаце, што не баіцёся іх! Аж слухаць такое нудна!

Па сходзе прайшоўся хвалямі гоман, у якім адчуваліся і галасы згоды і галасы нездаволеныя. Мікода сеў. За сталом, разгублена паглядаючы то на Мікоду і на Мілоўскага, то ў задніх рады сходу, стаяў Халамей Кот.

— Галасуйце ж! — запрапанаваў яму Мілоўскі.

— Што ж галасаваць, калі ўсё галасована?

— Галасуйце за прапанову камбеда.— Мілоўскі ўзяў слова і нанава прачытаў сваю прапанову.— Вось за гэта і галасуйце.

— Ну, давайце, калі так. Будзем галасаваць за ўсё нанава. Хто за першае, прашу падняць рукі?

На гэты раз сам Халамей Кот налічыў за прапанову камбеда аж семнаццаць галасоў. За іншае галасавалі ўсё тыя ж дзевяць чалавек.

— Такім чынам, грамадзяне,— Мілоўскі падняўся з месца на гэты раз спакайней, як калі за ўвесь вечар,— прынята першая прапанова. Грамадзянам, на якіх вызначана развёрстка, прапануецца заўтра ж зранку здаць

хлеб, завезці яго ў воласць, а сена здаць не пазней, як цераз тры-чатыры дні. Вось і ўсё.

— Не, не ўсё,— абазваўся з задніх радоў нейчы голас.— А колькі ж галасавала, а?

— Галасавала роўна ў два разы больш, чым за другія прапановы. Развёрстка прынята большасцю галасоў, і ніякіх больш гаворак па гэтым пытанні быць не можа.

— Ну, што ж, грамадзяне,— ад сцяны падняўся і, выціраючы насоўкай лоб, пайшоў паміж радамі на сярэдзіну цяжкі лысы чалавек.— Раз такія парадкі пайшлі, што адзін за ўсіх здаваць павінен, хоць за гэта і не галасуе ніхто, няхай будзе так.— На сярэдзіне ў праходзе ён спыніўся.— Здадзім і сваю долю і за ўсіх здадзім, раз ужо так палагаецца. А мы думалі, што пры савецкай уладзе больш справядлівасці будзе.— Ён пакланіўся злёгку ў бок да прэзідыума і пайшоў да дзвярэй. За ім падняліся ісці і Мікіта Шкробат і Давыдзюк, а пасля і Арцём Піскун.

— Чакай ад іх справядлівасці,— закрычаў, праціскаючыся паміж людзей, Мікіта.— У старыя часы дык яны хадзілі ды крычалі пра справядлівасць, аж аказваецца, вось яна якая, іхняя справядлівасць: каб самім нічога не даваць дзяржаве, а каб нехта за іх даваў, во якая іхняя справядлівасць.— Захінуўшыся поламі кажуха, ён следам за Давыдзюком выйшаў са школы.

— Няхай ідуць, без іх лепш будзе,— сказаў Мілоўскі ўголас.— А гэты, што першым гаварыў, хто такі? — запытаў ён у Халамея.

Халамей запытання як бы не пачуў, не адказаў на яго. Здзіўлены крыху гэтым, Мілоўскі зірнуў падазрона на Халамея і перапытваць не стаў. «Пра цябе самога запытаць у каго-небудзь варта»,— падумаў ён, прыпомніўшы Халамеевы словы, кінутыя там на вуліцы.

Назаўтра, як ледзь развіднела, Мікода пайшоў загадваць, каб везлі ў Пагулянку развёрстку, каму вызначана, і пасля снедання паехаў у воласць, а Мілоўскі застаўся ў Шапятоўцы. З Рыгорам, старшынёвым сынам, ён умовіўся, што ўдзень збярэцца моладзь і можна будзе арганізаваць у Шапятоўцы камсамольскую ячэйку. Сход сабраўся пад полудзень. Перад сходам прыйшоў дадому па Мілоўскага Рыгор, а з ім Ганорык Міхаль і яшчэ адзін хлопец, якога Рыгор назваў па прозвішчу Шкробатам. Рыгор паціху паведаміў Мілоўскаму, што сход будзе ў іхнім таку, куды і збіраецца моладзь.

— Чаму ў таку? — здзівіўся Мілоўскі.

— Каб бацькі не ведалі. Там такія хлопцы прыйшлі, што калі б бацькі даведаліся, папрыбівалі б да смерці.

— Дык усё роўна ж некалі даведаюцца.

— Тое тады будзе, а пакуль што трэба, каб не ведалі.

Мілоўскі хуценька ўскінуў на плечы шынель і пайшоў за хлапцамі. Цераз хвіліны дзве яны былі ў таку. Там іх чакала адзінаццаць чалавек моладзі. Сярод усіх было і дзве дзяўчыны. Хлапцы сядзелі і на варотніцы і на адгародцы з бярвён, якая аддзяляе ток ад прысценка, куды ссыпаюць мякіну, і на дошцы, якую паклалі адным канцом на адгародку, а другім на варотніцу, і на парозе ёўні. Хлапцы асобныя курылі, перакідваліся жартамі і рагаталі, а дзяўчаты моўчкі, поруч, стаялі каля сцяны адразу за варотамі, так, што Мілоўскі заўважыў іх не адразу, як увайшоў у ток. Павітаўся Мілоўскі з прысутнымі, агледзеў іх і ўсміхнуўся.

— Усё роўна як на нелегальны сход мы сышліся, каб ніхто і не ведаў.— Перад ім былі хлапцы год па пятнаццаць, семнаццаць, і старэйшым самым быў Рыгор. Быў ён, як заўважыў Мілоўскі, і самым аўтарытэтным. Яго слухаліся.— А ці ўсе таварышы ведаюць, чаго сабраліся? — звярнуўся Мілоўскі да Рыгора.

— Усе.

— Ведаем,— падтрымалі яго хлапцы.

— У такім разе давайце пачнем сход. Я думаю, што павестка дня ў нас такая будзе: бягучы момант — першае, і другое — арганізацыя ячэйкі КСМ, ну і бягучыя справы. Вось і ўсё. Я пра ўсё раскажу сам, але нам трэба напісаць пратакол нашага сходу, каб усё запісаць. Ёсць у вас хлапцы, якія ўмеюць пратакол пісаць?

— Кастусь Шкробат напіша, ён часам на сходах пісаў. Іван Пятровіч яму паказваў.

— Ну, тады давайце яго абярэм за сакратара, а яшчэ каго-небудзь за старшыню.

— За старшыню Рыгора Жука.

— Ага, яго трэба.

— Давайце Рыгора. Усе за яго? — Мілоўскі дастаў з кішэні свой блакнот і перадаў Кастусю.— Пратакол на гэтым і пішы. На вось і алавак. Тады давайце пачынаць і я раскажу вам, таварышы, у дакладзе па бягучаму моманту аб нашым міжнародным становішчы...

Гаварыў Мілоўскі прыўзнята, з пафасам, і з пафасам скончыў сваю прамову.

— Па гэтаму дакладу,— сказаў ён,— у нас можа быць самая кароткая пастанова, каб, прыняўшы да веда-

ма даклад, усімі сіламі падтрымліваць рэвалюцыйны рух і савецкую ўладу. А цяпер, калі будуць пытанні ў каго па дакладу, задавайце мне, а не, я адразу перайду да другога — пра арганізацыю Камуністычнага саюза моладзі.

Пытанняў не было. Як змоўк Мілоўскі, дзяўчаты зноў зашапталіся, и хлапцы заварушыліся на сваіх месцах. Хто-ніхто з іх падняўся з месца і стаў каля сцяны.

— Значыць, няма пытанняў?

— Няма.

— Тады пяройдзем да другога даклада.

Нядоўгім быў і другі даклад Мілоўскага, але па другому дакладу пытанні былі. Першае пытанне нясмела, ціхім усхваляваным голасам паставіў сакратар сходу Кастусь Шкробат.

— Ці могуць камсамольцаў паслаць на фронт? — запытаў ён і азірнуўся навокал. Мілоўскі не зразумеў, ці то ён баіцца, каб хаця не паслалі яго на фронт, ці то хоча таго.

— Калі хто захоча паступіць у Чырвоную Армію, ён зможа паступіць, калі яму будзе васемнаццаць гадоў.— Адказаў і ўставіўся поглядам у Кастуся. Кастусь пачырванеў.

— А маладзейшым хіба не можна?

— Маладзейшым? — Цяпер Мілоўскі зразумеў Кастуся.— Калі становішча на фронце было цяжкое, камсамол абвяшчаў сваю мабілізацыю, тады ішлі і маладзейшыя. Такая мабілізацыя была з восені неяк. Можа быць і яшчэ.

— А калі мы захочам спектаклі наладзіць,— запытаў другі хлапец.— Нам можна будзе гэта?

— Ага, і пасля ці дадуць нам з горада кніг? — падхапіў пытанне трэці.

— Спектаклі? Калі сілы ў вас на такое хопіць, зрабіце ласку, наладжвайце. Гэта і будзе дапамагаць выхаванню моладзі. Тое ж і з кніжкамі. Я думаю, што ў бягучых справах мы паставім пытанне пра арганізацыю ў вас драматычнага гуртка, харавога і бібліятэкі, для якой папросім кніг у павятовай арганізацыі. За ўсімі справамі трэба будзе камандзіраваць у павятовую арганізацыю старшыню бюро, якога мы выберам сёння.

На гэтым пытанні скончыліся, а яшчэ цераз некалькі мінут была вычарпана і ўся павестка дня. Тады Мілоўскі, перад тым як абвясціць запіс у камсамол, запрапанаваў Кастусю прачытаць пратакол, каб зацвердзіць пастановы, якія ён прапанаваў прыняць па кожнаму пытанню.

Кастусь падняўся з месца, на якім сядзеў, выйшаў на ток, стаў там непадалёк ад Мілоўскага і пачаў чытаць напісанае.

— Пратакол агульнага сходу моладзі вёскі Шапятоўкі,— чытаў ён,— Пагулянскай воласці, які адбыўся дваццаць трэцяга сакавіка тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года. Прысутнічала чатырнаццаць чалавек моладзі гэтай вёскі. Старшынёй сходу быў абраны Рыгор Жук, а сакратаром Кастусь Шкробат. Павестка дня: першае — бягучы момант, другое — арганізацыя ячэйкі КСМ і трэцяе — бягучыя справы. Слухалі: даклад інструктара павяткомячэйкі таварыша Мілоўскага аб бягучым момантце, у якім указана становішча рабочага класа ў сучасны момант. Пры гэтым таварыш Мілоўскі абмаляваў жыццё рабочых і сялян у дарэвалюцыйны час, ход рэвалюцыі і важнасць сплочанасці рабочых і сялян. Пастанавілі: даклад таварыша Мілоўскага прыняць да ведама і ўсімі сіламі падтрымліваць рэвалюцыйны рух і савецкую ўладу...

Па другому пытанню, аб арганізацыі ячэйкі КСМ, таварыш Мілоўскі высветліў, які ўдзел павінна... павінна,— Кастусь прыпыніўся на момант.— Гэта я тут два разы адно слова напісаў.

— Нічога, чытай далей.

— Я пасля выкраслю... Так... Які ўдзел павінна прымаць наша рабоча-сялянская моладзь у сучасным рэвалюцыйным руху як успрыемніца ўсіх пладоў гэтага руху. Затым паказаў на тыя жорсткасці, якія можна чакаць у жыцці, калі пераможа нас буржуазія, і, урэшце, якую перамогу можна атрымаць, калі мы будзем дзейнічаць арганізавана. Пастанавілі: даклад таварыша Мілоўскага прыняць да ведама і звярнуць сур'ёзную ўвагу на тое, каб мы, як сяляне, прымалі большы ўдзел у рэвалюцыйным руху, для чаго пастанавілі зрабіць запіс усіх, хто жадае паступіць у арганізацыю ячэйкі КСМ у вёсцы Шапятоўцы Пагулянскай воласці. Запіс зрабіць тут жа на сходзе. Выбраць бюро ячэйкі ў складзе трох чалавек, прычым выбранымі аказаліся: старшынёй бюро Жук Рыгор, членам Міхась Ганорык і сакратаром Кастусь Шкробат. Даручыць бюро ячэйкі правесці далейшы запіс жадаючых быць перадавымі і прыкладнымі грамадзянамі Савецкай рэспублікі ў ячэйку КСМ.

У бягучых справах паднята пытанне пра арганізацыю драматычнага гуртка і харавога, і пра арганізацыю бібліятэкі, і пра забеспячэнне наогул літаратурай арганізаванай ячэйкі для выхавання моладзі і членаў ячэйкі ў

духу часу і партыі. Пастанавілі: гурткі арганізаваць як драматычны, таксама і харавы, і арганізаваць бібліятэку, прадбачачы, каб у далейшым перанесці ўсю работу ў былы панскі дом. Прасіць аб гэтым у валвыканкома і валкамячэйкі, а павятовую арганізацыю прасіць, каб адпусціла для нашай ячэйкі магчымую колькасць літаратуры, для чаго і камандзіраваць у горад нашага старшыню бюро, таварыша Рыгора Жука.

Кастусь скончыў чытаць пратакол і пайшоў да месца, на якім раней сядзеў.

— Здо-о-рава напісаў,— заўважыў нехта з хлапцоў.

— Так, добра напісаў,— згадзіўся Мілоўскі.

— І нічога не прапусціў, галоўнае.

Кастусь пачырванеў і моўчкі сеў.

— Цяпер,— звярнуўся да яго Мілоўскі,— ты ў пратакол запішы ўсіх, хто жадае быць камсамольцамі.

— Я сябе першым запішу,— адказаў Кастусь і схіліўся над пратаколам.— А цяпер каго? — падняў галаву і ўставіўся поглядам у прысутных.

— Пішы мяне,— узлаваў як бы Рыгор Жук,— Міхаля пішы, Самуся, Ёську, Марылю сваю, Аксану.

— А яны ўсе згодны? — перабіў Рыгора Мілоўскі.

— Вядома, што згодны, а то чаго б яны пайшлі сюды?

— І дзяўчаты згодны? — Мілоўскі кіўнуў да дзяўчат галавою і ўсміхнуўся.

— Згодны.

— Тады пішы, таварыш Шкробат! — і змоўк, чакаючы, пакуль Кастусь скончыць запіс.— А цяпер, паколькі ўсе мы камсамольцы, давайце праспяваем «Інтэрнацыянал».

Мілоўскі кашлянуў і запеў. Да ягонага голасу далучыўся нясмела яшчэ нейчы і за ім адразу некалькі галасоў яшчэ. Галасы мацнелі, выраўніваліся і рабіліся смялейшымі і калі загучалі на поўныя грудзі, у іхнім агульным струмені Мілоўскі адрозніў дзявочыя. Нейкі час яны, нясмелыя, губіліся ў галасах хлапцоў, а пасля ўзняліся над імі, загучалі па-незвычайнаму ўрачыста і ўпэўнена і павялі за сабою песню.

Галасы змоўклі, але яшчэ момант усе стаялі, не скранаючыся з месца.

Вакол Мілоўскага і Кастуся стаўпіліся цяпер усе. Падышлі бліжэй і дзяўчаты. Разыходзіцца не хацелі. Адбылося нешта вялікае і незвычайнае. Ніхто з іх не ўяўляў, у чым яно праявіцца заўтра, цераз некалькі дзён або тыдняў, але ўсе разумелі, што з гэтага моманту пачнецца

нешта новае. І ад таго і ў думках кожнага і ў кожнага на твары ляжалі сляды і незвычайнай усхваляванасці і незвычайнай урачыстасці.

— Вось каб нам ды той панскі дом,— ціха выказаў сваё пажаданне Рыгор.— Там бы мы сабе клуб зрабілі б.

— Там усё можна зрабіць,— гэткім жа ціхім голасам падтрымаў яго Кастусь.

— Я ў валасці пагавару пра гэта. У доме ніхто не жыве?

— Ды ніхто пакуль што не жыве, але Халамей Кот мяркуе туды перабрацца.

— А што, у яго хаты няма?

— Хаты-то няма. Але ён жа не бядняк. Ён чорт ведае адкуль прыехаў, невядома кім яшчэ быў?

— Гэта той, што ўчора на сходзе старшынёю быў?

— Ага.

— Ну, то яму не ўдасца туды перабрацца. Я пра гэта пагавару. Думаю, што выканком пярэчыць не будзе.

— Каб жа не пярэчыў, а то ж так вось і збірацца няма дзе. У хаце збярэшся, дык з хаты выганяць, не захоча ніхто, каб поўную хату гразі яму нанеслі. А там самі дагледалі б, там бы ніхто не перашкаджаў нам.

— Нічога, зробім,— супакойваў Мілоўскі.— Я вазьму ваш пратакол і буду прасіць, каб выканком належную пастанову вынес... Можна будзе нават і ў павяткоме пагаварыць. Я-то буду там яшчэ не хутка, але таварыш Жук як пойдзе, я запіску з ім пашлю, каб адтуль у выканком паперку напісалі належную.

Цераз чатыры дні, яшчэ з самага ранку, Мілоўскі выбраўся ісці ў Кірпатаўку, а Рыгор у горад. Рыгору Мілоўскі даў адрас павятовай арганізацыі і, як і абяцаў, сваю запіску да сакратара павяткома, у якой пісаў пра неабходнасць перадачы шапятоўскай ячэйцы былога пілацееўскага дома. Акрамя гэтай запіскі, Рыгор нёс з сабою ў горад і копію першага пратаколу сходу шапятоўскай моладзі, на якім была арганізавана ячэйка. Усе паперы, каб не згубіць іх, Рыгор паклаў у канверт і з канвертам засунуў у глыбокую нутраную кішэнь сваёй паддзёўкі. У дарозе, ідучы гасцінцам да горада, Рыгор час ад часу здымаў рукавіцу і голай рукой абмацваў у кішэні канверт, правяраючы, ці ляжыць ён на месцы.

Калі ўвайшоў Рыгор на забрукаваную гарадскую вуліцу, у вочы яму кінуліся нізкія драўляныя хаткі з пазачыненымі аканіцамі.

Яшчэ толькі распальваў горан у кузні каваль, і Ры-

гор, упершыню папаўшы ў горад, падышоў да цёмных адчыненых дзвярэй кузні, каб запытаць пра патрэбны адрас.

— Ага... Гэта вашага былога пана дом тут блізка ў садзе, убачыш, як будзеш ісці,— кажа каваль, выслухаўшы яго.— Каля дома такая, з белага, жанчына стаіць. От за той дом, як пройдзеш два кварталы, павяртай налева каля саду, а за рогам зноў направа квартал і выйдзеш на Гогалеўскую. На ёй сабор у канцы ўбачыш, злева.

— Дзякую, я цяпер знайду. Бывайце здаровы,— прашчаецца Рыгор.

— Бывай здароў.— І каваль яшчэ доўга стаіць на двары, пазіраючы ўслед Рыгору, бо насустрач таму з горада едзе даўгі абоз фурманак. Разглядаючы фурманкі, спыняецца, сышоўшы з вуліцы на замошчаны дошкамі тратуар, Рыгор. На фурманках драўляныя скрынкі, маленькія і вялікія, побач ідуць, з вінтоўкамі на плячах, чырвонаармейцы. Ідуць яны купкамі па некалькі чалавек і шумна гутараць. Абоз ідзе доўга, і, стаміўшыся глядзець на яго, скранаецца з месца і ідзе далей Рыгор. Хутка ён бачыць у садзе, з правага боку ад сябе, былы панскі дом і каля дома белую постаць жанчыны. У руках жанчына трымае белы даўгі шалік, якім закрыла левую палову грудзей, адна рука яе, левая, ляжыць акурат на грудзях. Другой рукой яна трымае шалік, скамячыўшы яго ў жмені, над каленам правай нагі. Канец шаліка абгарнуўся па назе і абвіс дзесьці ззаду ажна да пят. Побач стаіць высокая, вышэй ад жанчыны, вузкая будка з дошчак. Каля дома то ў адзін, то ў другі бок па садзе ходзіць вартавы чырвонаармеец. Рыгор прыцішае крокі, разглядаючы вартавога і дом, і мармуровую белую постаць жанчыны, пасля зноў ідзе па-звыкламу шпарка.

Яшчэ цераз хвілін дванаццаць Рыгор спыніўся перад высокім ганкам двухпавярховага чырвонага дома. Над шырокімі, у дзве палавіны, дзвярыма вісела патрэбная Рыгору шыльда. Усё было як след. Быў на рагу, на круглай бляшцы, і патрэбны сямідзесяты нумар, але Рыгор не пайшоў адразу ў дзверы, нават не ступіў на парог, а пайшоў па тратуару каля дома, заглядаючы ў вокны. Вокны высока над зямлёй, і цераз іх, за памутнелымі шыбамі, можна ўбачыць толькі палову столі і самы верх супрацьлеглай сцяны. Рыгор ідзе паўз увесь дом ажна да брамы. Брама адчынена, і ён бачыць у двары цэлую групу чырвонаармейцаў каля аўтабраневіка, але не ведае, што гэта за машына, і доўга стаіць супроць брамы,

дзівячыся здалёк на машыну. Збоку рыпнулі дзверы. На парозе павяткома, выйшаўшы адтуль, спыніўся малады нізкі круглатвары хлапец. Рыгор, як убачыў яго, адразу пайшоў да дзвярэй, павітаўся.

— Гэта тут камсамол, таварыш?

Круглатвары хлапец падняў галаву ўгору, дзе шыльда, як бы хацеў праверыць, ці сапраўды стаіць ён каля камсамольскага павяткома.

— Тут. А ты, таварыш, адкуль?

— З Пагулянскай воласці, з вёскі Шапятоўкі.

— Камсамолец ты?

— Камсамолец, старшыня бюро. Вось у мяне пратакол.— Рыгор палез у кішэнь паддзёўкі і дастаў адтуль канверт.

— А даўно вы арганізавалі ячэйку?

— Яшчэ нядаўна.

— А як жа вы да камсамола дадумаліся, самі, ці хто расказаў вам?

— А ў нас таварыш Мілоўскі, ён і расказаў усё мне, а я іншым, гэтак і сабраў хлапцоў.

— У вас, значыць, Васька Мілоўскі?

— Ага...

— Ну, то хадзем наверх, да сакратара. Ты яму раскажаш усё і перадасі свой пратакол.— Круглатвары завярнуўся, адчыніў дзверы і пайшоў угору па вузкай і крутой драўлянай лесвіцы. За ім, хвалюючыся, паспяшаў Рыгор, цяжка ступаючы вялікімі гамашамі па скрыпучых сходнях.

Угары, на пляцоўцы, круглатвары зноў адчыніў дзверы і пусціў наперад Рыгора. Перад Рыгорам вялікі пакой з чыстай пафарбаванай падлогай. Сцены абабіты цёмнымі шпалерамі. На шпалерах бліскучыя кроплі, лініі. Каля сцен мяккія, абабітыя аксамітам, крэслы. Насупроць вокан, каля сцяны, вялікі люстэрак. Убачыўшы сябе ў люстэрку, Рыгор адвярнуўся і стаў, трымаючы ў руцэ торбу. Другой рукой зняў з галавы шапку. Тым часам круглатвары адчыніў яшчэ адны дзверы і азірнуўся назад. За яго плячыма Рыгор убачыў некалькі галоў, схіленых над шырокім сталом. Тады паклаў торбу на падлогу каля крэсла, а з шапкай пайшоў за дзверы ў суседні пакой.

— Таварыш прыехаў з Пагулянскай воласці,— сказаў круглатвары, паказваючы кіўком галавы на Рыгора.— У іх там Васька Мілоўскі, ён і пасабіў хлопцам зарганізавацца.

Рыгору цераз стол, падняўшыся з крэсла, падаў руку

плячысты хлапец. Пасля гэтак жа павіталіся і іншыя і селі каля стала, а дзяўчына, тонкая, вастраносая, з падстрыжанымі валасамі, стала каленкамі на мяккае крэсла і абапёрлася локцямі на стол, на якім ляжалі кучкай толькі што прынесеныя аднекуль кніжкі.

— Як тваё прозвішча? — запытаў у Рыгора той, што першым павітаўся з ім.

— Жук. Рыгор Жук.

— Тады раскажы, таварыш Жук, з чым ты прыехаў да нас, з якімі навінамі?.. Мілоўскі, значыць, у вас? Ну, як ён?

— А нічога. Як прыехаў, спыніўся ў нас, мой бацька старшынёй у сельсавеце, а ноччу расказаў мне ўсё пра камсамол. Я тады пераказаў усё сваім хлопцам, а ў нядзелю сабраліся і арганізавалі ячэйку.

— Колькі ж чалавек у вашай ячэйцы?

— Чатырнаццаць пакуль што.

— Чатырнаццаць? — здзівіўся сакратар.— А Мілоўскі падрабязна расказаў вам пра камсамол? Гаварыў ён, што, можа, камсамольцам давядзецца ісці на фронт?

— Аб усім гаварыў.

— І вы не баіцёся, калі давядзецца ісці?

— А чаго ж баяцца? — Рыгор патупіў вочы ўніз і пачырванеў.— Баяцца нам няма чаго.

— А калі на фронце заб'юць? — падхапіла вастраносая і ўперлася поглядам у Рыгора. Рыгор адчуў на сабе яе погляд і, падняўшы галаву, зірнуў проста ў твар ёй.

— Заб'юць? Тады будзем забітымі, а пакуль тое будзе, пажывем,— асмялеў ён, змеціўшы, што хлапцы ветліва ўсміхаюцца.

— А як бацькі не пусцяць на фронт? — дапытвала вастраносая, і Рыгор злаваў на яе, але адказваў.

— Мы не малыя, не дзеці мы, каб нас бацькі не пускалі.

Хлапцы зноў ветліва ўсміхаліся, а сакратар сказаў да дзяўчыны:

— Ты, Гэлька, лепш пра дзяўчат запытай, а не пра страх перад бацькамі. Ці ёсць у іхняй ячэйцы дзяўчаты?

— Ёсць, ажна дзве: Шкробат Марыля і Каляда Аксана.

— Ну, вось, бачыш! Ажна дзве дзяўчыны ў ячэйцы. Гэта здорава,— усміхнуўся сакратар.— Малайцы. Добрая ячэйка будзе. А хлапцы вашы хто, беднякі?..

Рыгор падрабязна расказаў пра кожнага ў паасобку, і, калі скончыў, сакратар зноў пахваліў ячэйку.

— Малайцы, цяпер працуйце толькі. Як і што рабіць, вам Мілоўскі пакажа, я яму напішу аб гэтым.

— У нас тут яшчэ адна просьба ёсць,— разгарнуў урэшце свой пратакол Рыгор і прачытаў пастанову па пытанню аб арганізацыі гурткоў і бібліятэкі.

— Добра, мы дадзім троху і кніг і плакатаў. Падбяры ім,— сказаў сакратар да круглатварага.— А пасля будзем дасылаць і кнігі, і газеты поштай, і ўсе нашыя паказанні, інструкцыі. А ўжо, калі давядзецца хоць каму з вашых у горадзе быць, няхай абавязкова заходзяць, мы заўжды перададзім тое-сёе.

— Добра. І яшчэ ў нас просьба адносна панскага дома, каб нам дазволілі ў ім збірацца і адчыніць сваю бібліятэку. Аб гэтым мы і ў пратаколе напісалі, і сам таварыш Мілоўскі да вас сюды запіску напісаў, каб падтрымалі нас. Запіска — вось яна,— Рыгор разгарнуў блакнотны лісток і падаў сакратару.

— Добра, мы гэта зробім. З гэтым таварышам,— сакратар паказаў на круглатварага,— ты сходзіш да старшыні павятовага выканкома. Ён напіша Пагулянскаму валвыканкому, каб дом перадалі вам пад клуб і бібліятэку. Толькі на вас, таварыш Жук, на цябе асабіста і на ўсю ячэйку ляжа адказнасць за дом. Вы будзеце адказваць, калі ў доме хоць што-небудзь паломіцца або будзе папсавана. Дом — гэта народная маёмасць.

— Мы-то яго даглядзім, калі нам аддадуць, а вось калі не аддадуць, дык у ім паселяцца розныя і тады ўжо народнага там мала будзе.

— Пасяліцца там ніхто не паселіцца, калі дом аддадуць пад клуб. А што аддадуць, гэта факт, я зараз жа напішу просьбу да таварыша Андрэя. І з запіскай сходзіць у выканком таварыш Каплан,— сакратар кіўнуў галавою на круглатварага.— А мы з табой яшчэ пагутарым.— Мішка, схадзі, брат, да таварыша Андрэя, зрабі гэную справу для іх, а я пагутару яшчэ з таварышам Жукам. Ты калі, таварыш Жук, мяркуеш дадому пайсці?

— А сёння ж і пайду, каб да ночы хоць у Пагулянку патрапіць.

— Ну, добра. Дык ты, Мішка, ідзі ў выканком зараз жа.

Каплан пайшоў з пакоя, а за ім пайшлі і астатнія, захапіўшы са стала кніжкі і згорнутыя ў трубку плакаты. У пакоі застаўся Рыгор і сакратар павяткома.

Гутарка сакратара з Рыгорам цягнулася, аж пакуль прыйшоў з выканкома круглатвары Каплан. Ён прынёс

адтуль паперку, у якой прапанавалася Пагулянскаму валвыканкому арганізаваць у былым панскім доме клуб і бібліятэку, і перадаў паперку Рыгору. Пад пахай Каплан прынёс вялікую пачку кніг і газет і скручаныя ў трубку плакаты.

— Гэта я ў «Цэнтрапячаці» выпрасіў для вашай бібліятэкі. А цяпер пайду з нашых адбяру яшчэ. А то хадзем разам. Вы скончылі гутарку? — Каплан уставіўся ў сакратара сваімі велікаватымі, ледзь выпуклымі вачыма.

— Скончылі, можаце ісці адбіраць кніжкі. Ты яму не шкадуючы дай, няхай чытаюць.

Рыгор падняўся з крэсла і падаў сакратару руку.

— Бывайце здаровы.

— Бывай здароў. Хлапцам сваім і дзяўчатам перадай ад нас камсамольскае прывітанне. А як жа ты кнігі панясеш? — запытаў ён, убачыўшы, што Рыгор бярэ кнігі пад паху.

— У мяне торба ёсць, я іх пакладу ў торбу, а плакаты ў руцэ панясу.

За дзвярыма Рыгор узяў з падлогі торбу і пайшоў за Капланам у пакой, у якім стаялі дзве шафы і вялізны круглы стол пасярэдзіне. На стале ляжалі газеты. Газеты, даўнія ўжо, ляжалі і на падлозе. Там жа ляжалі грудкамі і кніжкі. Кніжак было поўна і ў шафах. Рыгор задзівіўся на такую колькасць кніг і абрадаваўся, што прынясе адразу дадому такую колькасць. Ён развязаў сваю торбу, ежу пераклаў з торбы ў кішэні паддзёўкі, адчаго яны яшчэ больш натапырыліся, а ў торбу, выцерушыўшы з яе сабе на шапку хлебныя крошкі, паклаў кніжкі і тады адразу разгубіўся. Ад кніжак торба была зусім амаль поўнай. Пакладзі яшчэ некалькі, і ўсё, больш нічога туды не ўлезе. А Каплан стаў на каленкі ў куце перад кніжкамі, пачаў перабіраць іх, адкладаючы на бок тыя, што меркаваў аддаць для шапятоўскай ячэйкі. Да яго падышоў і спыніўся побач, схіліўшыся над кнігамі, Рыгор. На кнігі ён пазіраў абрадавана і разгублена, не верачы, што ўсё гэта будзе ў іх у ячэйцы. Ён браў кнігі ў рукі, перагортваў іх, перачытваў загалоўкі і асцярожна клаў назад. Калі каля ног у яго вырас высокі грудок кніг і Каплан падняўся з кален, Рыгор моўчкі ўставіўся ў ягоны твар.

— Гэта вам,— сказаў Каплан.— Бяры і складвай.

— Але яны ў торбу не ўлезуць. Можа, абора якая знайшлася б у вас тут? Я тады звязаў бы іх з торбай, каб ямчэй было несці.

— А ты на сабе панясеш?

— Панясу. А ў дарозе, можа, хто і падвязе, я папрашуся.

Каплан павярнуўся тварам да Рыгора і здзіўлена агледзеў яго сваімі прыкметна выпуклымі круглымі вачыма.

— Колькі да вас вёрст?

— Сорак сем лічыцца.

— І ты думаеш данесці? Папера цяжкая, гэта табе не пух.

— Данясу, абы аборка знайшлася.

— Аборка то знойдзецца.— Каплан пайшоў да шафы і дастаў клубок шпагату.— Адарві, колькі трэба, і звяжы.— А калі ўкруціў шпагатам кнігі Рыгор і канцамі шпагату прывязаў іх за пачапку да торбы, Каплан падышоў да стала і паспрабаваў падняць іх.

— Цяжка, не занясеш ты іх гэтак. Можа, пакінуў бы троху?

Гэта пытанне палохае Рыгора, і ён, спяшаючыся, бярэцца рукой за вузел, якім звязаны шпагат з пачапкай, і гэтак жа, спяшаючыся, гаворыць:

— Занясу, мне толькі з горада на сабе вынесці, а на гасцінцы я ўжо не буду несці, там багата людзей заўжды едзе, падвязуць.

— Як сабе хочаш. Калі так — нясі.— І Каплан прашчаецца з Рыгорам за руку.— Шчаслівай дарогі...

Цераз мінуту Рыгор, азірнуўшыся яшчэ раз на павяткомаўскі дом, каб лепш запомніць яго, ішоў па гарадской вуліцы. Цераз левае плячо ў яго перакінутыя кнігі. Наперадзе звязаныя шпагатам, а ззаду на плячах, тыя, што ў торбе. Пярэдні пачак цяжэй, ён аб'язджае ўніз, цягне за сабою торбу і вузлом муляе плячо. Адтаго Рыгор час ад часу бярэцца рукой за шпагат і падцягвае пачак з кнігамі вышэй, а каб ён не абсоўваўся назад, злёгку падтрымлівае яго левай рукой. У правай руцэ ён нясе скрутак з плакатамі. Гэтак ён ідзе аж да завулка, а ў завулку, прыпыніўшыся, перакладвае кнігі з левага на правае плячо, бо левае забалела. Гэтак ідзе ён і далей і хутка абмінае дом у садзе, перад якім прыпыніўся раніцою, а пасля і кузню.

Яшчэ хвілін цераз пятнаццаць ён ідзе гасцінцам па цвёрда выбітай у снезе дарозе. Па абодва бакі гасцінца неглыбокія заснежаныя канавы. Над канавамі рэдкія бярэзіны, старыя ўжо ёлкі, часта хвоі, а то чыстая гала і куртатыя, свежыя яшчэ часам, пні спіленых дрэў. Далёка наперадзе сінее хвойны лес. Лес стаіць пад небасхі-

лам роўнай паскай, ашчэрыўшыся да неба частым няроўным зуб'ем, і адтаго падобна паска лесу на даўгую вышчарбленую старую пілу. Над лесам, даўно сышоўшы з поўдня, стаіць у небе сонечны круг і свеціць проста ў твар Рыгору. Ад святла Рыгор жмурыцца і, узіраючыся ў далёкую паску лесу на небасхіле, слухае, як свішча ўгары над галавою ў тэлефонных правадах вецер, ды гудуць густа і звонка высокія тэлефонныя слупы. Абмінаючы слупы, Рыгор прыцішае крокі і ўслухоўваецца ў іхні гул. Час ад часу ён перакладае звязак свой з аднаго пляча на другое. І тады азіраецца назад, адкуль відзён яшчэ высокі цагляны комін завода і востры шпіц касцёла, шукаючы ў голым прасцягу далёкай дарогі маленькай варухлівай кропкі фурманкі.

## ПАДЗЕЯ СЁМАЯ

Даўгаваты, даўно не голены твар. Над ілбом гладка прычасаныя цёмна-русыя валасы. Сярэдні рост. Не па росту вузкая спіна, на якой троху горбіцца не на заказ пашытае штацкае паліто. Паліто ў даўжыню акурат да невысокіх халяў старых салдацкіх чобатаў. У руцэ змятая чорная кепка. Такі выгляд меў мужчына, які ранкам трыццатага ліпеня, пастаяўшы нейкі час на дарозе непадалёк ад шапятоўскага поля, сышоў з яе і накіраваўся па лесе ў бок да дзялянак.

Па лесе мужчына ішоў не спяшаючыся, зусім спакойна, павольна ступаючы ботамі па мяккай, усланай шышкамі і хвойнымі іголкамі зямлі. Ісці было лёгка. Боты коўзаліся па насціле хвойных іголак і падміналі пад сябе буры нізкарослы баравы мох. Высока ўгары над галавою ціха гойдаліся ад ветру асветленыя сонцам вершаліны хвой. Сонца дзе-нідзе прабівалася промнямі праз гушчу касматых галін і залацістымі кроплямі распырскавалася па зямлі каля шурпатых шэрых хвойных камлёў. Над камлямі, на вышыні ў паўтара-два аршыны над зямлёю, высіліся гладкія, укрытыя жоўтай карой, гонкія ствалы хвой, і, як гойдаліся ўгары іхнія вершаліны, было падобна, што палошчуцца яны ў насіненай залочанай вадзе, якая абцякае згары ўніз па ствалах і губіцца ў шчылінах грубай, тоўстай кары на камлях. Час ад часу мужчына прыпыняўся і пазіраў угору. Угары на галлі скакалі непрыкметныя спрытныя вавёркі. Абагрэўшыся пасля ночы, яны спрабавалі свае зубы і кідаліся ўніз хвойнымі шышкамі. Дзесьці непадалёк старанна, раз-пораз, тукаў

дзяцел. Яшчэ далей, дзесьці каля самай дзялянкі, няўтомна рыпела жаўна. А за ўсім гэтым густа чырыкалі на розныя галасы, запаўняючы лес сваімі спевамі, драбнейшыя крылатыя лясныя жыхары. Слухаючы іх, ішоў, не спяшаючыся, мужчына ўсё далей у глыб лесу, дзе ў дзялянках густы малады асіннік і алешнік. Часам пад ногі яму трапляла дзераза, і мужчына, наўмысля чапляючы дзеразу наскамі ботаў, выцягваў яе з моху. Калі трапляў куст чарніц, ён згінаўся і па адной абіраў спелыя ягады.

У дзялянцы мужчына сеў на пні і нейкі час сядзеў на ім пад сонцам, лянівa размінаючы плечы, ды шырока пазяхаў, зажмурваючы вочы. Пасля падняўся з пня і пайшоў на сярэдзіну дзялянкі, а там, агледзеўшы высокае роўнае месца ў самым гушчары, разаслаў на мураве паліто і лёг спаць.

Спаў ён доўга і прачнуўся, як пачуў блізка ад сябе мужчынскія галасы. Тады прыўзняўся на локцях і ўслухаўся, а разабраўшыся, адкуль чутны галасы, пачаў углядацца ў той бок. Хутка паміж тонкіх маладых стваloў асінак ён адрозніў чалавечыя постаці. Трое ў чырвонаармейскай вопратцы, у ватоўках, але без шынялёў, прайшлі па дзялянцы ў напрамку, адкуль раніцою прыйшоў ён. На плячах ва ўсіх трох былі паходныя мяшкі.

«Дэзертыры»,— з іранічнай ухмылкай, упаўголаса сам да сябе сказаў мужчына і, заспакоены, лёг на паліто, перасунуўшы яго далей у цень. Паляжаўшы на спіне, ён хутка заснуў і ў другі раз прачнуўся ад холаду. Падхапіўшыся, ён падняўся на ногі. У лесе было ціха. Дзенідзе толькі нясмела чырыкалі яшчэ неўгаманлівыя птушкі. З бакоў ад лесу на дзялянку насоўваліся густыя змрокі, а над асіннікам, над дзялянкай, пасціла́ўся белаваты туман. Мужчына падняў з зямлі кепку і, ударыўшы ёю сябе некалькі раз па калене, надзеў на галаву. Пасля ўзяў паліто, страсануў яго ў паветры, надзеў у рукавы і, абмацаўшы кішэні, пайшоў з дзялянкі ў лес да дарогі, але, не дайшоўшы да яе, звярнуў на поле. Цераз тры-чатыры хвіліны яго можна было змеціць ужо ў лагчыне, калі ён ішоў каля жытоў, а яшчэ хвілін цераз дваццаць — дваццаць пяць — на сцежцы, непадалёк ад былога панскага двара, каля хутара Ермалая Трыфанавіча. Тут яго адразу счулі сабакі і заліліся брэхам, кідаючыся па дрaты, цераз які быў працягнуты ад хлявоў і да клеці дрот. Мужчына спыніўся на сцежцы за частаколам і пачаў ма-

ніць да сябе сабак, спадзеючыся, што яны перастануць брахаць. Ён падсвістваў, прычмокваў губамі, пстрыкаў пальцамі, але сабакі не змаўкалі, а брахалі яшчэ з большай злосцю. Як разбрахаліся сабакі, з хаты да аконнай шыбы прыліп нейчы твар. Мужчына хутка змеціў яго белую пляміну ў цёмным акне і замахаў рукамі. Тады белая пляміна з акна знікла, а цераз колькі секунд нясмела адчыніліся дзверы над высокім ганкам і з дзвярэй гаспадар высунуў спачатку толькі галаву і азірнуўся па баках, а тады ўжо выйшаў і стаў, не зачыняючы за сабою дзвярэй.

— Хто там ходзіць? — гаспадар уставіўся вачыма ў цемру і пачаў сцішаць сабак.

— Ермалай Трыфанавіч! Свой! Не палохайцеся!

— Хто свой? Ды ціха вы, ваўкарэзы! — крыкнуў ён на сабак, якія ўсё яшчэ не маглі супакоіцца.— Хто ж там свой? — Ён нясмела сышоў з ганка і, усё яшчэ насцярожана азіраючыся па баках, пайшоў да форткі.

— Свой, свой, Ермалай Трыфанавіч, не палохайцеся.

— Калі ж часы цяпер такія, што толькі бойся.— Гаспадар спыніўся непадалёк ад частаколу, углядаючыся ў твар позняга госця, які стаяў за частаколам і прыгладжваў рукою валасы. Хутка пазнаў яго, абрадавана замармытаў нешта і адчыніў фортку.

— Каго ж я бачу, божа ж мой! Як жа ж гэта вы да мяне патрапілі? Хадземце ж хутчэй у хату. Хоць гарбаткай напаю вас ці малачком... Хадземце, сабак не бойцеся, яны таго не зачэпяць, хто са мной ідзе... Ну, ну, пайшлі вон, у будкі ідзіце.— Сабакі адышлі ўбок і селі на зямлі, наглядаючы за гаспадаром.— Яны ў мяне злосныя,— пахваліў сабак гаспадар, праводзячы госця на ганак.— Ужо нікога чужога без майго дазволу на двор не ўпусцяць. Але як жа гэта вы даведаліся, Адам Феакціставіч, што я тут жыву?

— Мне адзін местачковец расказаў. Па ягоных прыкметах я і знайшоў ваш хутар.

— Хто ж бы гэта мог быць там такі, хто мяне ведае?.. Але ці мала хто. Пастойце хвілiначку, а я і гэную аканіцу зачыню.— Гаспадар пайшоў з ганка і зачыніў аканіцу.— А цяпер хадземце ў хату.

У хаце гаспадыня распаліла лучыну на комінку і доўга, не пазнаючы, разглядала госця, калі стаў ён каля парога.

— Не пазнаеце, Палагея Іванаўна?

— Божа! Няўжо ж Адам Феакцістaвіч? Адкуль? — гаспадыня пайшла насустрач госцю.

— Я самы, я самы і ёсць. Самы сапраўдны Адам Феакцістaвіч Пілацееў, цэлы і непашкоджаны,— сказаў ён, схіліўшыся над гаспадынінай рукой для пацалунку.

— Што вы, што вы, Адам Феакцістaвіч? — гаспадыня адабрала ад госця руку.— Не заслужыла я гэтага.

— Заслужылі, Палагея Іванаўна, тым заслужылі, што мяне, як малым быў, часам за вушы цягалі.

— Ды я вас ці цягала яшчэ калі за вушы?

— Часам цягалі. А цяпер, калі ёсць чым, пакарміце мяне.

— Зараз. У адну хвілінку, Адам Феакцістaвіч.

Гаспадыня пайшла з хаты ў другую палавіну, а госць сеў, і супроць яго на крэсле сеў гаспадар.

— Адкуль жа вы, Адам Феакцістaвіч? Здалёк, мусіць?

— Здалёк, і цяпер накіроўваюся зноў у далёкае, ажна ў Петраград. Па гэтай справе я і зайшоў. Мне патрэбен адрас Міхаіла Палікарпавіча. Петраградскі ягоны адрас.

Гаспадар намерыўся нешта сказаць, але госць перабіў яго.— Я разумею, што вы ягонага адрасу не ведаеце, але вы напэўне ведаеце адрас ягоных бацькоў, у якіх я змог бы даведацца аб ім самім.

— Бацька ягоны самы вядомы ў горадзе доктар. Кватэру ягоную там усякі выпадковы чалавек пакажа. А вы,— нясмела запытаў гаспадар,— па якой справе да яго едзеце? Хіба ён не падаўся да бальшавікоў? Вы-то, я спадзяюся, не служыце ў іх, Адам Феакцістaвіч?

— Я пра яго пакуль што нічога не ведаю. А пра сябе не ведаю, што і сказаць. Служыць я пакуль што нідзе не служу яшчэ.

— Вам жа небяспечна так вось ездзіць. Не дай бог дазнаюцца...

— Абы тут не дазналіся, а там я не баюся. Дакументы мае ў поўным парадку.

— Слава богу, слава богу, калі так, Адам Феакцістaвіч. А то ж такія зверствы вакол, такія здзекі над людзьмі. І хай бы сюды палякі дайшлі хоць на гэны раз, каб адагналі ад нас гэных пралетарыяў, бо жыць няма як, задушаць яны рознымі кантрыбуцыямі ды развёрсткамі... Няўжо ж так іхняе панаванне і будзе? Няўжо ж іх не прагоняць ніколі? У нас тут ходзяць розныя чуткі...

— На днях павінен быць рашучы наступ польскіх

войск. Трэба спадзявацца, што на гэты раз яны пройдуць значна далей, чым у мінулы раз.

— Даў бы бог, хоць бы вольна ўздыхнулі мы. Лепш пад палякамі быць, чым пад імі...

Гаспадыня прынесла і расставіла па стале малако, масла свежае, смятану і парэзанае кавалачкамі сала.

— Можа б, яешню з'елі, Адам Феакцістравіч?

— Не, дзякую. Ды вы ж, Палагея Іванаўна, відаць, закарміць мяне хочаце?

— Сілкуйцеся. З дарогі трэба добра пад'есці. А ўжо заўтра я вам згатую любімы ваш кісялёк. Ці, можа, ужо не любіце?

— Люблю, Палагея Іванаўна. Толькі даўно ўжо не еў яго.

— Заўтра я на сняданак згатую.

— Не варта турбавацца, Палагея Іванаўна.

— Божа мой, якія тут турботы. Я так рада, калі зраблю гэтым для вас прыемнае... Цяпер жа такое жудаснае жыццё, такое жудаснае, нічога ў ім не разбярэш. Шчаслівыя Феакціст Антонавіч і Вера Пятроўна, што вырataваліся ад гэтага жыцця. Трэба было і вам, Адам Феакціставіч, адразу за мяжу куды-небудзь паехаць. Шчаслівым бы чалавекам былі. Там бы ў ціхім і перачакалі, пакуль усё гэта скончыцца...

— Не выпала мне. Давядзецца неяк тут чакаць.

Пасля вячэры госць яшчэ нейкі час гутарыў з гаспадаром, а пасля гаспадар павёў яго начаваць у сваё гумно. Гаспадар нёс на левай руцэ падушку і коўдру. За дваром на сцежцы, адкуль можна было разгледзець тапалёвую прысаду каля былой панскай сядзібы, ён прыпыніўся і паказаў госцю туды рукой.

— Зямлю падзялілі, усё дабро парасцягвалі, а дом занялі пад клуб. Камсамольцы цяпер у доме гаспадараць, бібліятэку там завялі, спектаклі. Над богам і над людзьмі насміхаюцца.

Госць моўчкі доўга стаяў на месцы, углядаючыся ў цемру, у якой можна было адрозніць высокую чорную сцяну тапалёў. Пасля, як зацягнулася маўчанне, сказаў:

— Ну, хадземце, пакажыце, Ермалай Трыфанавіч, дзе мне спаць, стаміўся я з дарогі, ды і самі ідзіце адпачываць, а заўтра яшчэ пагутарым.

— Вось і добра, а гэта я вам, каб двор ваш паказаць. Ад мяне ўвесь ваш двор відзён. Я наўмысля так сяліўся, каб назіраць хоць, калі хто што будзе браць з двара. У мяне, Адам Феакціставіч, усё ўлічана, каб толькі вось як-не-

будзь збыць іх, гэных пралетарыяў, тады б мы ўсё да крошкі сабралі б. Я на ласку Феакціста Антонавіча не запамятаў.

— Дзякую, Ермалай Трыфанавіч. Будзьце спакойны. Мы яшчэ на сваё месца прыйдзем... І тады я з імі буду гаварыць крышку інакш, чым гаварыў мой бацька.

Гаспадар зайшоў у гумно і паслаў для госця на свежым сене пасцель. Госць, стоячы на сярэдзіне гумна, пацёгся і пазяхнуў, паказваючы, што хоча спаць, але калі гаспадар пажадаў яму спакойнай ночы і пайшоў у хату, госць зноў надзеў паліто, якое быў скінуў, асцярожна адчыніў вароты і, агледзеўшыся, выйшаў на двор. Гумно было супроць двара. З гэтай прычыны госць, баючыся разбудзіць сабак, адразу шмыгнуў за гумно, пералез цераз плот на поле і разорай, спяшаючыся, пайшоў у напрамку да былога панскага дома. Падышоўшы зусім блізка да двара, ён на хвілінку прытуліўся і наўмысля некалькі раз пaціху кашлянуў, праверыў, ці ёсць сабакі. Злева ад яго быў так званы «чорны» двор і хаты, у якіх жылі парабкі, і хлявы ды гаспадарчыя будынкі. Ад іх густы рад тапалёў, пасля за тапалямі цэлай сцяной бэзавыя кусты. І тапалі, і бэзавыя кусты аддзяляюць «чорны» двор ад «чыстага», на якім каменны белы панскі дом. Дом цьмяна бялее перад вачыма, калі Адам Феакціставіч Пілацееў пазірае ўправа. Ён зусім блізка, і, азірнуўшыся па баках, Пілацееў ідзе цераз двор да веранды. Двор зарос муравой, і крокаў ягоных зусім не чуваць. На момант Пілацееў спыняецца яшчэ перад верандай, пасля асцярожна падымаецца па чатырох драўляных сходках на веранду і крадзецца да дзвярэй. Дзверы замкнёныя. На дзвярах вісіць вялікі цяжкі замок з тых, якімі сяляне замыкаюць свае клеці. Пілацееў бярэ замок на далонь і разглядае яго. Пасля спрабуе тузануць дзверы каленам, але яны не паддаюцца, яны замкнёныя яшчэ і ўнутраным замком. Тады Пілацееў сыходзіць з веранды і ідзе каля сцяны дома ў сад, куды выходзіць дом аж некалькімі вокнамі. Каля першага ж акна ён спыняецца, вынімае з кішэні нож і ў момант ставіць пад нагамі каля сцяны вынятую з акна шыбіну. Пасля, прасунуўшы ў дзірку руку, адчыняе знутры акно і лезе ў сярэдзіну дома.

У доме цёмна і ціха. Ён услухоўваецца ў цішыню і, стаўшы спіной да вокан, чыркае аб карабок запалкай. Запалка нясмела ўспыхвае, пасля гарыць невялічкім жоўтым аганьком, напаўняючы пакой цьмяным святлом, а Пілацееў адносіць яе трошачку ў бок ад вачэй і раз-

глядае пакой. У пакоі не крануты ні столь, ні падлога, ні сцены, усё як было, толькі на самай сярэдзіне стаіць стол і на ім некалькі газет. Запалка патухла, і ён запальвае другую і ідзе ў суседні пакой, у былую гасцінуую залу. Гэта самы большы пакой ва ўсім доме. І ў шырыню і ў даўжыню ён акурат напалову дома. Запалку Пілацееў адразу патушыў, як мільганулі за дзвярыма вокны гасцінай залы, і адтаго ўпоцемках не змеціў, як ударыўся каленам аб нешта драўлянае, што стаяла на падлозе. Схапіўшыся рукою за калена, ён разгледзеў хутка, што на падлозе ў гасцінай зале стаяць радамі даўгія ўслоны. Паміж услонамі ён ідзе вобмацкам да сярэдзіны залы, а тады праходам паміж імі ідзе ў канец залы, дзе быў некалі бацькаў рабочы пакой. Тут ён не можа стрымацца, каб не запаліць сярнічкі, і, здзіўлены, застывае на месцы. Сцяна, якая аддзяляла бацькаў рабочы пакой ад гасцінай залы, знята, і замест бацькавага рабочага пакоя паслany з дошчак нізкія падмосткі. На дроце, працягнутым ад адной сцяны да другой, вісіць хатняя даматканая сялянская коўдра, і Пілацееў здагадваецца, што з некалькіх такіх коўдраў тут бывае заслона, якая хавае падмосткі ад гледачоў. Не раздумваючы, Пілацееў вымае нож і, кідаючы ў цемру словы бруднай лаянкі, нажом намацвае коўдру пад самым дротам, прапорвае яе і тады вядзе нажом, разразаючы коўдру аж да самага нізу. Гэта ён робіць аж некалькі разоў, а тады запальвае сярнічку і скрозь шчыльна сцятыя губы злосна ўсміхаецца, пазіраючы на парэзаную на паскі коўдру. Ад падмосткаў вобмацкам ідзе налева да сцяны, за якой была некалі хатняя бібліятэка. Намацаўшы дзверы, ён некалькі разоў тузануў іх, але дзверы і не думалі падавацца яго сіле. Намацаў на дзвярах замок, запаліў сярнічку і разгледзеў яго. Замок узяў у руку і крутануў, спадзеючыся, што выкруціцца прабой, але замок балюча ўеўся ў далонь рукі, а прабой не падаўся. Нядоўга думаючы, ён пайшоў назад у пакой, цераз акно якога ўлез у дом, і вылез у сад. Ён добра памятае два акны былой сваёй бібліятэкі. Самыя вуглавыя яны: адно ў адной сцяне, другое — у другой. Спяшаючыся, пайшоў каля сцяны ў самы канец яе і на хаду дастаў з кішэні ножык, але перад акном спыніўся раптам, вылаяўся, матнуўся за вугал, да другога акна, але і там спыніўся са злоснай лаянкай: на абоіх вокнах былі зачынены аканіцы. Рукой ён ухапіўся за жалезны прэнт, які трымаў аканіцу, шмаргануў яго, але прэнт не падаўся. І тады, каб хоць чым адпомсціць за сваю злосць,

ён падняў з зямлі камень і з усяго размаху шыбануў яго ў акно, цераз якое лазіў у дом. Камень стукнуўся аб раму. Рама трэснула, падаўшыся ў сярэдзіну пакоя, а шыбы са звонам вылецелі на двор і рассыпаліся кавалкамі пад сцяной. Каб не засталося цэлай і шыбы, якую раней выняў з акна і паставіў каля сцяны, Пілацееў падышоў і стукнуў па шыбе наском чобата. Шыба лёганька дзынкнула і рассыпалася дробнымі кавалкамі па зямлі.

На двары ўсё гэтак жа цёмна і ціха, не чуваць аніводнага гуку. Пастаяўшы з паўхвіліны каля дома, Пілацееў ідзе ў сад і па садзе ў бок да возера, да месца, па якім блукаў раней, наязджаючы ў гэныя месцы ў часе студэнцкіх вакацый. Каля возера ён адразу ж знайшоў месца, дзе раней была лавачка. Цяпер тут было некалькі лавачак, і перад імі цвёрда вытаптаная невялічкая пляцоўка, якую Пілацееў намацваў нагамі. А перад лавачкамі, адлюстроўваючы ў сваёй спакойнай і гладкай паверхні зорнае неба, ляжала вялікае возера. Сыты мох.

Аб возеры блукалі ў народзе паданні, што некалі на яго месцы нібы было голае балота. На балоце тым рос толькі адзін высокі мох, і ў тым імху тапіліся, правальваючыся ў яго, і чалавек, і конь, і карова. Балота зімою не замярзала. Месцамі, прабіваючыся праз глыбокі снег, ад чаго ён так лапікамі і раставаў, над балотам падымаўся з імху лёгкі пар, білі пад імхом крыніцы. Гаварылася ў паданнях, што калі б дастаць з тых крыніц вады, ад усякай хваробы можна было б той вадой вылечыцца, але толькі дастаць яе ніяк нельга было, нельга было да крыніц падступіцца, а хто спрабаваў гэта рабіць, той даходзіў да самай крыніцы і, калі нагінаўся, каб зачэрпнуць вады, правальваўся ў зялёны сакавіты мох і гінуў у ім навекі. Адтаго і людзі, і жывёла — усе баяліся таго балота, і толькі рабыя бацяны ўлетку садзіліся на імху і блукалі па ім ды дзюбамі пілі з крыніц ваду, якой так хацелася людзям. Так было цэлыя вякі, а пасля крыніцы прарвалі мох і затапілі яго, заліўшы сваёй вадой. На месцы балота ўтварылася вялікае і глыбокае возера. З самай глыбіні яго, з дна, у некалькіх месцах б'юць крыніцы гаючай вады.

Незадоўга да вайны з горада прыязджалі да возера манахі. Гэтых ужо добра памятае Пілацееў, як яны палуднавалі ў іхнім двары за доўгімі сталамі. Манахі прыязджалі наглядаць месца, каб будаваць манастыр, але пачалася вайна, і манастыра не пабудавалі. Пілацееў, угледаючыся ў цемру на другі бок возера, уяўляе, дзе быў бы

манастыр. Над самым азёрным берагам стаяла б манастырская царква, з-за алтара якой выносіў бы ігумен у залатой вялікай чары «святую» ваду. Да царквы сыходзіліся б людзі з усёй акругі, з блізкіх і далёкіх месц, і кожны ранак пераклікалася б царква званамі цераз возера з іхнім домам. Званы ў цішыні тутэйшай, у лесе, былі б чутны далёка, і падоўгу б не змаўкала ў лесе іхняе водгулле.

— У-у, сво-олачы! — крычыць у цемру Пілацееў, раптам зрываючыся з лаўкі.— Усё забрудзілі, самае святое апаганілі! А цяпер жыццё спыніць хочаце? — пытае ён голасна ў цемры.— Па-свойму павярнуць яго хочаце? — і, не дачакаўшыся цемры адказу, крычыць: — Не! гэтак не будзе, як вам захацелася! Дарэмна стараецеся! Мы яшчэ сілу сваю збярэм, мы яшчэ памераемся ёю з вашай сілай! — Але цемра маўчыць і гэтай маўклівасцю палохае, напамінаючы Пілацееву аб адзіноце. Сарваўшыся з месца, ідзе тады Пілацееў нацянькі прад сад па роснай мураве да былога свайго двара, але, праходзячы каля дома, ужо не спыняецца, а паскарае крокі, ідзе полем да самых кустоў, што над рэчкай, наўмысля, каб адвесці ўбок сляды, а ў кустах павяртае да гумна Ермалая Трыфанавіча. Спаць яму не хочацца. Спадзеючыся, што прыйдзе сон, ён нейкі час сядзіць на варотніцы. Змеціўшы, як змянілася ў колеры неба над усходам, падымаецца, прычыняе шчыльна вароты і, пералезшы цераз плот, нейкі час ідзе полем, каб быць далей ад хутара, і на дарогу. На дарозе на момант спыніўся, каб азірнуцца назад на хутар і на цёмную сцяну тапалёў за хутарам, і пайшоў дарогаю да лесу.

А назаўтра, не дачакаўшыся госця, Ермалай Трыфанавіч пайшоў у пуню і там знайшоў зусім не змятую, прыгатаваную ім ноччу, пасцель. Па пасцелі ён дагадаўся, што госць зусім не спаў і пайшоў ад яго ноччу ж, бо і прымятая яго нагамі мурава зноў паспела ранкам арасіцца і падняцца ад зямлі.

## ПАДЗЕЯ ВОСЬМАЯ

Надвячоркам у гарадскую бальніцу, у якой быў у гэты час доктар Галынскі, зайшоў старшыня павятовага выканаўчага камітэта. Хутка ў прыёмную, куды зайшоў ён, трусячы кароткай, кругла падстрыжанай, зусім ужо сівой барадою, выйшаў і доктар. У руцэ ён нёс нязменную

сваю другую пару акуляр, якія надзяваў у часе аперацый. Яшчэ ад дзвярэй ён радасна ўсміхаецца госцю, але, падаўшы яму руку, таропка засоўвае футляр з акулярамі ў кішэнь пінжака і садзіцца на чысты, афарбаваны ў белае, зэдлік.

— Гэта нешта страшнае,— кажа ён.— З кожным днём па горадзе павялічваецца колькасць смяротных выпадкаў ад гэтай праклятай «іспанкі». Хворымі запоўнены ўсе бальніцы. Цесна ў нас. Я вось мерыўся да вас, таварыш Андрэй, пайсці, пагаварыць пра арганізацыю новай бальніцы. Каля вакзала я нагледзеў ужо адзін дом.— Галынскі падняўся з зэдліка і стаіць перад старшынёй выканкома, трымаючыся рукой за стол.— Сходзім, а?

— Давайце, Палікарп Мітрафанавіч, я з вялікай ахвотай. Бальніца патрэбна. Збірайцеся.

Яшчэ праз хвіліну Галынскі вярнуўся ў прыёмную ў паліто і ў шапцы, гатовы ісці. Як выйшлі з бальніцы на вуліцу, старшыня выканкома ўважліва агледзеў сутулую, крыху згорбленую постаць старога доктара.

— Зусім вы стаміліся, Палікарп Мітрафанавіч. Можа б вам паменш часу бываць у бальніцы?

— Я ўжо думаў пра гэта. Неяк не выходзіць,— доктар развінуў свае рукі.— Калі б можна было быць толькі хірургам, але ж гэтага нельга. Ха-ха! Часам я шкадую, што не стаў зусім вузкім спецыялістам, хоць бы па зубной справе. Сядзеў бы ў кабінеце, вырываў бы людзям зубы, і ўсё. А таму што цяпер у людзей больш важныя справы, чым хворыя зубы, дык мне і рабіць не было б чаго.

— А скажыце, Палікарп Мітрафанавіч,— раптам пытае старшыня выканкома,— што цяпер робіць сын ваш, Міхаіл Палікарпавіч?

— Сын? — Доктар не разумее, чаму раптам старшыня спытаўся ў яго пра сына.— Баіцеся, таварыш Андрэй, каб ён не быў сабатажнікам?

— Ах, вунь як вы мяне зразумелі? Ды я не пра тое. Я думаю, што мы яшчэ з ім папрацуем у гэтых месцах нямала. З бацькам пад бальніцы месца шукаем, а з ім будзем шукаць месца пад хімічныя заводы.

— Я з вялікай ахвотай саступлю сыну сваё месца,— доктар усміхаецца,— хоць гэта і будзе біць па маёй прафесіі.

— Нам патрэбны будуць бальніцы і тады.

— Я хацеў бы, каб патрэба ў іх была меншая, чым цяпер.— Яны смяюцца абодва.

— Вы, Палікарп Мітрафанавіч, незвычайна жыццярадасны чалавек.

— Зусім у меру. Пры маёй рабоце інакш нельга. Стань тужыць, дык у працягу тыдня і жыць перастанеш. А вось сын мой не такі. Сын ныць любіць. Усё чагосьці шукае, як бы ў тумане ходзіць.

Занятыя гутаркай, яны непрыкметна дайшлі да вакзала. На станцыі стаяў чырвонаармейскі эшалон, які, відаць, зусім нядаўна яшчэ прыбыў, і ўся вакзальная пляцоўка была забіта чырвонаармейцамі. Яны выйшлі з вагонаў, хто вады ў кацялок набраць, а хто проста зірнуць на новы, напатканы ў дарозе, горад, і запоўнілі гоманам і вакзал, і пляцоўку прывакзальную, і прывакзальную вуліцу.

Доктар з старшынёй выканкома схадзілі ў дом, які меркавалася заняць пад бальніцу, агледзелі яго і хутка вярнуліся зноў да вакзала. Пачынала змяркацца. За станцыяй два разы працягла ўскрыкнуў паравоз, і чырвонаармейцы, якія блукалі яшчэ па вуліцы, подбежкам кінуліся да поезда. Пацягнула пайсці за імі і старшыню выканкома, і, сказаўшы пра свой намер доктару, ён пайшоў у вакзал. Следам пайшоў і доктар. Вялікая вакзальная зала амаль пуставала, народ увесь таўпіўся за станцыяй на драўляным пероне. За перонам на трэцяй лініі стаяў чырвонаармейскі эшалон. З шырока рассунутых дзвярэй таварных вагонаў выглядалі маладыя чырвонаармейцы. Чырвонаармейцы стаялі і на пероне, і каля сваіх вагонаў. З перона даносіўся ў вакзальную залу гоман, але ў гомане чутно было, як вурчыць тэлефонны апарат дзесьці ў кабінеце дзяжурнага па вакзале. Злосна і падоўгу круціць дзяжурны ручку апарата, а пасля гэтак жа злосна і падоўгу крычыць у трубку адрывістыя, неразборлівыя словы. Калі ён сціхае, кладучы трубку на апарат, каб зноў пачаць круціць яго, чутно, як у бліжэйшым пакоі стукаціць, прымаючы тэлеграму, апарат Морзэ.

— Пойдзем, ці што, таварыш Андрэй? Мы ж не збіраемся пакуль што ехаць.— І доктар шморгае паціхеньку старшыню выканкома за рукаў паліто. Але той не чуе. Ён туліцца да акна, выцягвае галаву, углядаючыся ў нейчы твар за акном, і, каб уважлівей разгледзець яго, хукае на шкло і, спяшаючыся, праціраe яго далонню рукі.

— Не можа быць! — кажа ён упаўголаса і яшчэ шчыльней туліцца да акна.— Няўжо ж?..

— Чаго не можа быць? Што там такое?

— Я зараз,— кідае старшыня выканкома і, сарваўшыся з месца, кідаецца з залы, каб пайсці на перон. Тады набліжаецца да акна і доктар і ўглядаецца ў натоўп людзей, што на пероне, але нічога не можа ў ім разабраць, не можа зразумець, хто мог бы так зацікавіць старшыню. За акном яшчэ відна, яшчэ не змерклася, але шэрая муць блізкага вечара паспела ўсё афарбаваць у цьмяныя тоны, і доктар праз адны акуляры бачыць толькі, як мітусяцца за акном людзі. Каб уважлівей разгледзець іх, ён дастае з футляра і надзяе другую пару акуляраў і тады мелькам яшчэ бачыць, як праціскаецца ў натоўпе старшыня выканкома, распіхаючы людзей працягнутымі наперад рукамі.

Паравоз зноў ускрыквае, на гэны раз ужо тры разы. Старшыня выканкома, вырваўшыся з натоўпу, подбежкам ідзе каля вагонаў даўгога эшалона, прагна ловячы поглядам наперадзе сярод чырвонаармейцаў шэрае жаночае паліто. Яно зусім блізка. Таварыш Андрэй паскарае крокі, бяжыць бягом і адчувае, як моцна стукаціць сэрца. Цяпер ён не сумняваўся, што жанчына, якая ідзе наперадзе чоткімі крокамі, гэта яна, тая, каго ён не бачыў ужо цэлых сем год, пра каго не меў ніякіх вестак. І хвалюючыся, трацячы ад гэтага голас, ён крычыць:

— Ліда!.. Ліда Міхайлаўна!..

Усё ж не зусім яшчэ ўпэўнены, што гэта яна і ёсць, ён чакае, пакуль жанчына, спыніўшыся, павяртае галаву, а тады бяжыць да яе.

— Ліда!..

Жанчына здзіўлена пазірае насустрач яму шырока раскрытымі круглымі вачыма з-пад цёмна-русых брывей, паміж якімі складка зморшчын. Але гэта толькі адзін момант, пакуль пазнала, а тады ад нечаканай сустрэчы кідаецца насустрач яму.

— Павел! Паўлуша!..

Момант адзін, трымаючыся за рукі, нясмела цягнуцца тварамі друг да дружкі, і яна першая цалуе яго проста ў вусны, але хуценька адрывае вусны ад ягоных і падаецца назад.

— Нядобра,— яна азіраецца на чырвонаармейцаў, якія выглядаюць з вагонаў. Чырвонаармейцы злёгку ўсміхаюцца.— Камісар цалуецца,— гаворыць яна і бязмерна радасна ўсміхаецца, абеімі сваімі рукамі бярэ ягоныя рукі.— Як жа ты мяне ўбачыў? Чаго ты тут?

— Я тут працую ў выканкоме, старшынёю. З самага пачатку. Пасля катаргі быў два дні ў Петраградзе, але

ні цябе, ні каго са знаёмых не знайшоў. Думаў, ніколі ўжо не спаткаю цябе і раптам...— Ён моцна сціскае яе рукі.— Як бы я адчуваў. Цягнула зайсці ў вакзал, зусім выпадкова, і адтуль змеціў цябе...

— А мы на польскі фронт. Я працую камісарам роты... Ведаеш, я тады прыязджала да цябе. Здаецца, на другі ж дзень, як цябе арыштавалі. Памятаю, усю дарогу, як ехала, марыла пра спатканне, думала пра цябе, а пасля, як не сустрэў, было дужа цяжка і крыўдна...

— А цяпер не думала? І, бачыш, сустрэў...

— Паўлуша!.. Як я рада... А ты ўсё гэткі ж? Я часта, часта пра цябе думала, заўжды...

Паравоз засіпеў, выпусціў пар, каб рушыць з месца.

— Мне трэба ехаць... Паўлуша... мілы, як жа так?.. Хоць бы колькі хвілін яшчэ... Паўлуша...— Рукі яе нервова дрыжаць і блукаюць пальцамі па ягоных руках, перабіраюць ягоныя пальцы. Лёганька кранаецца з месца поезд, і тады зноў пачынае цеpазмерна моцна стукаць сэрца, і ад гэтага на вочы пачынае насоўвацца мутнаватая заслона.

— Як недарэчна! Усяго пару хвілін... Лідачка!..

Парыўчата яна схіляе да яго свой твар і яшчэ раз цалуе яго ў вусны.— Бывай...

Нешта камяком падкацілася ў яе пад горла і перашкаджае гаварыць.

— Бывай... Я напішу табе, зараз жа...

Яна момант ідзе побач з поездам, чакаючы, калі дагоніць яе вагон штаба, і, спрытна схапіўшыся за парэнчы, ускаквае на сходні вагоннай лесвіцы.— Я напішу, адразу ж напішу,— крычыць яна да старшыні выканкома, які, спяшаючыся, ідзе побач з яе вагонам.— А як будзе магчымасць, я зараз жа прыеду...

— Прыязджай. Я буду чакаць... І хоць часта пішы, проста на выканком.

— Добра. Бывай, Паўлуша! Я так рада...

— Бывай! — Дайшоўшы да стрэлкі, ён спыняецца і махае ўслед знятай з галавы кепкай. У адказ яму махаюць шапкамі і рукамі чырвонаармейцы і рукой, здалёк ужо, яна.

Даўгой чарадой мільгацяць перад вачыма чырвоныя вагоны. Бразгаціць жалезам поезд, і рытмічна, мацней звычайнага, стукацяць, праходзячы стрэлку, цяжкія жалезныя каткі поезда. Калі, адносячы за сабою стукат і бразгат, абмінае яго апошні вагон, ён, спяшаючыся, ідзе

назад на вакзал. Доктар на месцы. Ён блукае цяпер па зале, у якой запаліліся цьмяныя электрычныя ліхтары.

— Што вы такое ўбачылі? — пытае ён.

— Хадземце, Палікарп Мітрафанавіч, я раскажу.

— Хадземце, хадземце, ды хутчэй расказвайце, а то я ўсе вочы прагледзеў, хацелася ўбачыць, каго вы там такога цікавага спаткалі?

— Вельмі цікавага. Бачыце, я некалі яшчэ, гадоў сем таму назад, у сілу цэлага рада прычын, вымушан быў пакінуць Пецярбург і...

— І дзяўчыну, якую кахаў? Так, таварыш Андрэй?

— Пасля таго яна прыязджала да мяне ў вёску, дзе я вучыў дзяцей, але за дзень ці за два да яе прыезду мяне арыштавалі, і мы не спаткаліся. Так мы і згубілі друг дружку. У семнаццатым годзе я на два дні заязджаў у Петраград, хацеў знайсці яе, але не знайшоў, і думаў, што ўжо больш нідзе яе і ніколі не спаткаю, і вось раптам зусім нечакана ўбачыў яе.

— Яе?

— Так. Яна камісарам роты.

— Значыць, яна паехала зноў?

— Так, паехала. Мы бачыліся не больш двух хвілін.

— І вы яе кахаеце і цяпер? — доктар пазірае ў твар старшыні выканкома.

— Так, кахаю. І вось, як бачыце, пасля такой доўгай ростані пара хвілін спаткання і зноў ростань невядома на колькі часу.

— Гэта цяжка, я разумею гэта...

Разам яны пайшлі па горадзе да доктаравай кватэры, і як развіталіся і доктар знік за дзвярыма дома ў калідоры, старшыня выканкома павольна пайшоў па вуліцы ў напрамку да рэчкі. Упершыню за ўсе гэтыя гады, як ніколі, моцна захацелася яму пабыць з самім сабою.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕВЯТАЯ

У верасні ночы бываюць сцюдзёныя. Адтаго так старанна нацягвае на свае плечы мультановую хустку Аксана і ўсё парываецца пайсці дадому. У каторы ўжо раз падымаецца яна з бярвення, збіраючыся ісці, але за кожным разам ловіць яе за рукі Кастусь, цягне да сябе і зноў садзіць на месца.

— Ну, чаго ты так рвешся дадому?

— Я спаць хачу. Мне халодна.

— Спаць яшчэ рана. А сядзі вось гэтак, і будзе цёпла.

— Пусці мяне, не абдымай.— Аксана скідае з сваіх плеч Кастусёву руку і адсоўваецца.

— Злуеш ты заневашта на мяне?

— Нічога я не злую. Чаго мне злавацъ на цябе?

— Ну, а чаму ж ты такая вось?

— Якая?

— Ды злосная. Проста дакрануцца нельга да цябе. А яшчэ кажаш, што не злуеш.

— І не злую, сам ты нечага злуеш.

— Я-то не.

— І я не. А захацела дадому пайсці і пайду.

— А вось не пойдзеш.

— Чаму? — Аксана схапілася з месца.— Не пусціш?

— Не пушчу.— Паспрабаваў узяць яе. рукі ў свае, але Аксана рук не дала, адышла ад бярвення. Тады падняўся і Кастусь, каб ісці разам.

Нейкі час яны ідуць паасобку моўчкі. Аксана трымае рукамі скамечаную на грудзях пад шыяй хустку, а Кастусь раскрышвае ў пальцах кавалак сухой кары, падняты ім каля бярвення. Кастусь сёння як ніколі ўсхваляваны. Ён ледзь дачакаўся вечара. Цэлы вечар думаў, як спаткаецца з Аксанай і раскажа ёй пра тое, што так моцна хвалюе яго, аб чым яны цэлы вечар шапталіся ўтраіх у бібліятэчным пакоі. Кастусь дагадваецца, што з-за таго, мусіць, і злуе Аксана, бо як ішоў ён у бібліятэку за Рыгорам, яна клікнула было яго да сябе, а ён толькі рукой махнуў, маўляў, зараз прыйду, а не падышоў, нават не павітаўся з ёю. Павітаўся толькі пасля ўжо, як выйшаў з бібліятэкі.

— Ну, чаго ты такая, Аксана, сёння? — пытае ў яе Кастусь.

— Якая гэта я?

— Ну, вось такая, нядобрая...

— Дык чаго ж ты за мной ідзеш, калі я такая нядобрая? Ты, Кастусь, не выдумляй. Проста не захацела я там сядзець, вось і пайшла.

— І ты зусім не злуеш на мяне?

— І зусім не злую.

Кастусь бярэ яе нясмела за локаць і набліжае да сябе.— Давай пасядзім на прызбе,— прапануе ён.

— Чаго ж гэта я буду сядзець у такую пару?

— Ну, вось, зноў...

— Што зноў?

— Ды тое ж самае. Давай вось пасядзім, пагутарым,

каб не было такога.— І Кастусь вядзе яе за локаць за сабою да прызбы і садзіць побач. Нейкі час сядзяць моўчкі. Аксана ўсё гэтак жа камечыць пальцамі на грудзях хустку і пазірае сабе пад ногі, а Кастусь пазірае на яе твар і думае, з чаго б яму пачаць гутарку. У Аксаны дробны чарнявы твар. Тонкія бровы чорныя і пад імі вузкаватыя шчыліны як бы трошку прыжмураных воч. Калі яна пазірае Кастусю ў твар, вастракрылыя бровы ўздымае над вачыма і вочы робяцца большымі, а калі смяецца, шчыліны воч зусім звужаюцца і з-за іх не вочы відаць, а пабліскваюць іскрамі ледзь прыкметныя вугалькі зрэнак.

— Што ты рабіў сёння? — пытае яна, не падымаючы галавы.

— Дровы з лесу вазіў, каб назапасіць, а то хутка не будзе каму вазіць.

— Чаму? — рыўком павярнула да яго твар і ўскінула ўгору вастракрылыя бровы.

— Мяне не будзе дома.

— А дзе ты дзенешся? — вочы пакруглелі адразу і заіскрыліся.

— Як табе сказаць? Заўтра ж у нас пазачарговы сход ячэйкі, ты гэта ведаеш?

— Ага. Ну дык што?

— З павяткома атрымана паперка сакрэтная пра камсамольскую мабілізацыю. Заўтра гэтае пытанне і будзе на сходзе. Нам трэба не менш дваццаці працэнтаў камсамольцаў паслаць на фронт.

— Ну? — Аксана падалася грудзямі да яго пляча, рукі свае паклала на яго калена.

— Паедзем мы ўтраіх: я, Рыгор Мікодаў і Ёська.

— А чаму вы? — пытае Аксана, і нейкі час Кастусь не ведае, што адказаць ёй, а толькі гладзіць яе рукі. У яго перад вачыма зусім блізка Аксанін лоб і над ім несхаваныя хусткай валасы. Яны трошку кучаравяцца над ілбом і, калі Кастусь ледзь-ледзь схінае твар, кранаюцца яго. Ад гэтага хочацца Кастусю схіліцца і пацалаваць яе ў галаву. Самі вусны цягнуцца да яе галавы, але Кастусь стрымліваецца і чырванее ад таго, што ледзь не зрабіў так, як падумалася. І ад гэтага спяшаецца перапыніць маўчанку.

— А каму ж ехаць? — пытае ён.— Ехаць трэба актыву, які ва ўсім павінен быць прыкладам. Вось шкода толькі, што дзяўчат не бяруць,— Кастусь смяецца,— а то я цябе ўгаварыў бы паехаць з намі.

— А ты думаеш, што я збаялася б? — Яшчэ зырчэй іскрацца зрэнкі яе вачэй.— Каб толькі ўзялі, дык ураз бы паехала. Са сваімі хлопцамі я не баялася б.— Аксана, смеючыся, горнецца да Кастуся і, зняўшы з яго калена рукі, бярэцца імі за ягоную руку над локцем. Цяпер яе галава зусім каля самага Кастусёвага твару, і ён бачыць паміж косамі белую прагалінку яе патыліцы. Не ўмеючы стрымацца, ён хуценька згінаецца і цалуе яе і, зноў адчуваючы, што страшэнна чырванее, хутчэй стараецца загаварыць:

— Давай паедзем, ну? Хочаш? А бацька і не пусціў бы цябе.

— Ну! Не пусціў бы. Калі б намерылася, дык нічога ён са мной не зрабіў бы.

— Ого! Ды ты зусім смелая! — І Кастусь горне яе плечы да сваіх грудзей, але пацалаваць больш не асмельваецца, хоць Аксана на пацалунак нічога і не сказала, не пакрыўдзілася.

— Але няўжо ж гэта праўда, што вы паедзеце?

— А ты думаеш, хлушу? Праўда. Пра гэта мы і раіліся, як сядзелі ў бібліятэцы. Рыгор сёння ў мястэчку быў, там і атрымаў пакет аб мабілізацыі. Як ішоў дадому, паказаў мне яго. Мы адразу і згаварыліся з ім, ён усё ж самы лепшы камсамолец у нас. Як ішлі мы ў бібліятэку, Ёська яшчэ зусім нічога не ведаў. Мы яго гукнулі, што нешта скажам, а тады ўтраіх і пайшлі ў бібліятэку. Цераз гэта я і не падышоў да цябе, а ты і ўкрыўдавала.

— Ніякай крыўды ў мяне не было.

— Была.

— Ну, няхай сабе і была, абы не было б цяпер.

— А-а, якая ты хітрая! — Ён схіляе галаву, каб зазірнуць Аксане ў твар.

Твар яна адхінае наўмысля, і ў Кастуся перад вачыма зусім блізка ад вуснаў яе шчака. І зусім блізка белае яе вуха.

— А цяпер не крыўдуеш? Не? — пытае ён і яшчэ больш хіліцца тварам, каб зазірнуць ёй у вочы, а яна, калі ўжо няма як больш ратавацца ад ягонага погляду, павяртае твар да яго і кажа:

— А цяпер не, не.— І гэтак жа раптам адвярнулася; а Кастусь зноў бачыць яе шчаку і за валасамі белую плямінку вуха. Не раздумваючы, ён нахіляецца і цалуе спачатку ў вуха, пасля ў шчаку і, калі яна палахлі-

ва адкідвае галаву, цягнецца яшчэ вуснамі за шчакой, але сам палохаецца і выпускае з рук яе плечы.

— Я пайду,— кажа Аксана, усхапіўшыся з прызбы, і, калі Кастусь хоча падысці да яе, бяжыць, рагочучы, у двор.— Не зловіш, ідзі дадому! — На момант спыняецца каля хатніх дзвярэй, рагоча і знікае за імі, а Кастусь, абрадаваны і разгублены, яшчэ нейкі час стаіць сярод вуліцы, блукаючы поглядам па вокнах Сузонавай хаты. Але ў акне ніхто не паказваецца. Нічога не бачыць ён за бліскучымі цёмнымі клеткамі акна і, яшчэ не ўмеючы разабрацца ў тым, што здарылася,— гэта былі ягоныя першыя і нясмелыя пацалункі, паціху ідзе дадому самай сярэдзінай апусцелай шапятоўскай вуліцы.

Назаўтра пасля поўдня сабраўся камсамольскі сход. Не ўсе ведалі, з якой прычыны склікаецца пазачарговы сход, але пазачарговасць усіх зацікавіла, і на сход з'явіліся камсамольцы ўсе да аднаго. Перад сходам не давялося, як заўжды, падурэць [redacted] гадзіну якую, заняцца жартамі і пераглядам новых, нядаўна прывезеных кніжак. Адразу ж Рыгор зайшоў за столік, стаў, узяўшыся рукой за кант стала, і абвясціў пачатак сходу. Па-звычайнаму хутка сход абраў старшыню і сакратара, і калі яны занялі свае месцы, Рыгор пачаў даклад пра міжнароднае становішча і вывады, якія належыць зрабіць [redacted] яго шапятоўскай ячэйцы КСМ.

— Цяпер, таварышы, становішча такое,— пачаў ён,— што як ніколі за ўвесь час грамадзянскай вайны, Савецкай рэспубліцы пагражае небяспека з боку белагвардзейшчыны ўсякай і Антанты.

Рыгор доўга гаворыць аб крывавых намерах Антанты і расійскіх і польскіх белагвардзейцаў. Гаворачы, ён час ад часу падносіць да твару шэрыя лісткі паперы, на якіх густа і неразборліва надрукаваны машынкай, дасланыя з павяткома, тэзісы даклада. На момант, змаўкаючы, ён учытваецца ў тэзісы і, прыпомніўшы іх, бо чытаў перад гэтым аж некалькі разоў, гаворыць далей.

Кастусь сядзіць за сталом у цёмным куце пакоя. Ён на стол паклаў кулакі адзін на другі і на кулак зверху паклаў востры свой падбародак. Сядзіць нерухома, хіба толькі часам варухне галавою, паверне яе крышачку тварам убок, дзе сядзіць з Марыляй, сястрой ягонай, Аксана. Марыля туліцца да Аксаны і нешта шэпча ёй. Аксана адказвае ёй і ківае галавою. Час ад часу яна ўкрадкам кідае поглядам у кут, дзе сядзіць Кастусь, але зараз жа адварочваецца, баіцца сустрэцца з ягоным

поглядам. Паглядаючы з-пад ілба, Кастусь ловіць яе ўкрадлівыя погляды і думае і пра яе, і пра тое, што церaз два дні ён пакіне Шапятоўку надоўга, можа, аж на некалькі год. Цераз некалькі дзён ён будзе хадзіць у шынялі і ў чырвонаармейскай шапцы, да якой будзе прымацавана пяціканцовая чырвоная зорка. Пасля ён атрымае вінтоўку, патроны, усю амуніцыю і ў поездзе, разам з іншымі, паедзе на фронт. Ён ні разу яшчэ не бачыў поезда, але ён памятае бацькавы апавяданні аб салдацкіх эшалонах і ўяўляе, як будзе ў вагоне спаць на шынялі побач з Рыгорам і Ёськам. «Толькі каб хаця ўсіх разам у адну часць прызначылі, каб не разбілі па адным»,— думае ён. Думка, што, можа, давядзецца апынуцца аднаму сярод незнаёмых, доўга не выходзіць з галавы, і ён заранеи адчувае сваю разгубленасць. «Трэба будзе згаварыцца з хлапцамі, каб у адну часць прасіцца»,— вырашае ён, і тады думкі ідуць далей. Ён памятае шматлікія бацькавы апавяданні пра фронт і ўяўляе, як будзе ляжаць у шынялі на пяску ў акопе. Прыпамінае лісты бацькавы, якія слаў ён, хоць рэдка, з вайны, і вырашае, што абавязкова напіша ліст да Аксаны. Далей Кастусь уяўляе сябе параненым. Ён толькі доўга думае над тым, куды быць параненым лепш, так, каб і не забіла куляй і каб не застацца пасля калекай. «У галаву, як бацька? Але гэта страшна, куля можа выбіць вока або і зусім забіць. Лепш у руку, сама лепш, вядома, у руку, асабліва калі ў плячо. Як загоіцца, нават і непрыкметна будзе, толькі ямачка і зморшчына на скуры астануцца»,— прыпамінае ён след паранення на бацькавым твары. «Ну, вядома, лепш, калі параняць у руку, бо калі ў нагу, напрыклад, дык зноў-такі можа куля так патрапіць, што застанешся калекай, кульгаць будзеш». Быць параненым Кастусю чамусьці хочацца. Ён уяўляе, як пасля прыедзе дадому на пабыўку і спаткаецца з Аксанай. Ён будзе ў шынялі, будзе стаяць, накінуўшы шынель на плечы, а Аксана будзе стаяць побач з ім і будзе паціху, нясмела аб усім распытваць.

Кастусь злёгку паварочвае галаву і кідае з-пад ілба погляд на Аксану.

Рыгор змоўк, перагарнуў тэзісы, шукаючы, ці не абмінуў чаго ў дакладзе, і, пераканаўшыся, што не абмінуў нічога, сказаў ужо іншым голасам, не такім, як гаварыў да гэтага:

— Нам па інструкцыі належыць мабілізаваць двух чалавек, але калі хто захоча добраахвотнікам пайсці,

дык можна будзе і трох або нават і чатырох мабілізаваць. Мабілізацыя добраахвотная,— растлумачыў ён,— спачатку мы павінны абвясціць добраахвотны запіс, а калі такога не будзе, павінны агульным сходам вылучыць з двух камсамольцаў не маладзей шаснаццаці гадоў. Вядома, калі той, каго б мы вылучылі, не захоча, мы яго сілай на фронт не пагонім...

— Але з камсамола пагонім,— перабіў яго Кастусь.

— Гэта само па сабе ясна... А цяпер, таварышы, давайце пачнем запіс тых, хто хоча абвясціць сябе мабілізаваным на справу абароны пралетарскай рэвалюцыі.

Рыгор моўчкі стаіць за сталом і абводзіць поглядам усіх камсамольцаў. Дзяўчаты паціху шэпчуцца і дапытлівымі поглядамі цікуюць за хлапцамі. У іхніх поглядах і насцярожанасць і палахлівасць. Аксана цяпер раз-пораз кідае погляды на Кастуся, які ўсё гэтак жа сядзіць, паклаўшы на кулакі востры свой падбародак. Непадалёк ад яго сядзіць Ёська і злёгку, крыху нейк разгублена, усміхаецца. Другія хлапцы таксама перашэптваюцца, а Сапун Алёша нагнуўся і папраўляе на назе абмотку. Усе чакаюць, ці абзавецца хто першым, і гадаюць, каго давядзецца вылучыць агульным сходам. Яшчэ нейкі час стаіць моўчкі Рыгор, яшчэ раз абводзіць усіх поглядам, а тады ўжо кажа:

— Першым я сябе абвяшчаю добраахвотнікам.

— А другім я,— падымае галаву Кастусь.— Запісвай.

— А трэцім я,— Ёська ад разгубленасці паднімаецца з месца.

Больш не абазваўся ніхто. Цяпер усе пазіралі на гэтых трох, чые імёны і прозвішчы, сагнуўшыся над сталом, запісваў у пратакол самы па ўзросту малады з камсамольцаў сакратар сходу.

— Больш няма? — пытае Рыгор, хоць і ведае, што ніхто больш не абзавецца.— Ну, добра, значыць, у нас ажна трое добраахвотнікаў. І паколькі больш няма, я прапаную прагаласаваць за ўсіх трох, ці давярае нам ячэйка, што мы будзем прыкладнымі... Прашу ўсіх, хто за гэта, падняць рукі...— Моўчкі ён лічыць галасы.— Усе. Значыць, ячэйка лічыць магчымым паслаць на камсамольскую мабілізацыю ўсіх трох таварышаў, якія далі на гэта сваю добраахвотную згоду. А зараз трэба нам правесці і перавыбары бюро, паколькі мы з Кастусём з яго выбываем. Прашу вызначыць, каго мы абярэм у бюро.

Тады раптам па-незвычайнаму неяк разрагатаўся Алёша Сапун, ашчэрыўшыся паўназубым шырокім ротам.

— Ты чаго рагочаш?

— У бюро выбіраць лягчэй, чым на мабілізацыю.

— А ты баяўся, каб хаця цябе не вызначылі, а?

— І баяўся,— ураз пасмірнеў Сапун.— А твая якая справа?

— А такая, што возьмем дый прагонім з камсамола.

— Хаця б не прагнаў...

— Вось тады пабачыш.

— А я і сам магу пайсці, можаш не турбавацца праганяць.

— Ага, гэтак? — Рыгор уставіўся вачыма Алёшу ў твар.— Тады я прапаную неадкладна выключыць Сапуна Аляксея з радоў камсамола, як непатрэбны элемент.

— Ка-алі ласка! выключайце сабе.— Алёша падняўся з лаўкі і, паказваючы сходу свой шырокі, абвіслагубы рот, паспрабаваў усміхнуцца. Але ўсмешка не выйшла, і ён моўчкі пайшоў да дзвярэй.

— Ты білет камсамольскі давай сюды,— крыкнуў Рыгор,— а тады можаш убірацца хоць да чортавай мацеры.

— Здо-о-рава! Акурат так камсамольцу і належыць,— сказаў Алёша, вымаючы з кішэні сінюю кніжку камсамольскага білета, і паклаў яго на лаўку.

— Каб не дзяўчаты,— Рыгор зірнуў на іх,— я цябе яшчэ трошку далей паслаў бы.

Камсамольцы зарагаталі, а Сапун, бразнуўшы дзвярыма, выйшаў са сходу.

— Камсамолец!.. За комінам на печы сядзець яму ды з прусамі ваяваць, а не ў камсамоле быць... Ну, я галасую, хто за тое, каб яго выключыць? Прашу падняць рукі... Так... А то толькі перабіў увесь сход. Ужо даўно бюро выбралі б.

Хутка пасля гэтага сход скончыўся. Камсамольцы падняліся з месц, скучыліся каля стала, за якім цяпер былі ўсе трое мабілізаваных, і паглядалі на іх, усё яшчэ не верачы, што праз пару дзён іх не стане ў ячэйцы.

— Вы ж хоць пішыце нам лісты, дзе будзеце,— просіць Міхаль Ганорык, новы сакратар ячэйкі.

— Будзем пісаць,— у Кастуся голас ціхі. Ён пазірае ўкрадкам на Аксану.— А вы ж і нам пішыце, ды часцей, вам адсюль лягчэй будзе пісаць.

— Хлапцы,— просіць Рыгор Мікодаў,— давайце да

нас пойдзем, пабудзеце ў хаце, пакуль я з бацькам пагавару. Не хачу я, каб ён сварыўся. А пры вас не будзе.

— А тады да нас,— просіць і Ёська.— Уй, я ўяўляю, што будзе мне дома. Але зол зайн ацэй [1],— кажа ён па-яўрэйску і радасна ўсміхаецца.— Абы вы пасабілі першую атаку адбіць, а тады ўжо будзе лягчэй.

Камсамольцы ўсе разам ідуць дадому тапалёвай прысадай. Па абодва бакі прысады маладая жытнёвая рунь. Яна лёгкімі хвалямі пераліваецца пад ветрам. Вецер гойдае верхавіны роўных як адзін высокіх тапалёў, і яны пагуста шумяць над галовамі ў камсамольцаў сваім пажоўклым лісцем і, збіраючы вакол серабрыстых ствалоў маладое тонкае галлё, цягнуцца галлём угору, адкрываючы над прысадай вузкую паску светла-сініх нябёс. Па ёй, перасякаючы яе наўскасяк, плыве, асветлены вячэрнім сонцам, вымыты ў чырвоных сонечных праменях кавалак хмар. Залюбаваўшыся ім, ідзе Кастусь і, не адрываючы ад хмары погляду, пяе, крычыць у вышыню маладым упэўненым голасам:

Свергнем могучей рукою
Гнет вековой навсегда
И водрузим над землею
Красное знамя труда!..

І яшчэ раз, больш павольна і больш размерана, у такт прыцішаным крокам:

И водрузим над землею
Красное знамя труда!..

Калі песня гатова была замоўкнуць, яе падхапілі камсамольцы, пачалі з першых слоў і размашыстую і звонкую вынеслі з прысады на палявую дарогу, завабіўшы ёю і наваколле, і далёкую прастору восенскіх палёў.

У той жа вечар, як ледзь яшчэ змерклася, Аксана, накінуўшы на плечы мультановую хустку, выйшла на двор і, пастаяўшы колькі мінут на двары ля парога, пайшла і села на прызбе. А цераз некалькі хвілін прыйшоў Кастусь. Параўняўшыся з Сузонавым дваром, ён прыпыніўся, а як заўважыў Аксану, дык не пайшоў на двор, а з вуліцы запытаў збянтэжана:

— Што ты робіш, Аксана, цяпер?

— Нічога. Пасяджу вось ды спаць пайду.

— Хадзем паходзім з табою.

— Не хочацца хадзіць, ногі баляць.

---

[1] Хай будзе так.

— Ну, кінь ты, дзе ты іх змарыла так, што баляць. Хадзем.

Цяпер смялейшы ўжо Кастусь ідзе ў двор і, падаўшы Аксане руку, падымае яе з прызбы.— Хадзем паходзім па дарозе.

— Ну, хадзем сабе.

— А ведаеш,— кажа Кастусь, пагадзіўшы,— гэта ж і Хведар старастаў выпісаўся з камсамола. Пасля сходу прыйшоў да Рыгора, плачучы, і аддаў камсамольскі білет, сказаў, што бацька загадаў выпісацца. А я мяркую так, што бацька ягоны нічога яшчэ і не ведае, а проста ён сам спалохаўся, бо чаму ж гэта абавязкова сёння на яго так ужо наваліўся бацька?

— А-а, слухай ты яго. Вядома, спалохаўся.

— За тое ж і далі мы яму з Рыгорам пёру. Больш ужо ніколі не захоча лезці не ў сваю справу.

— А вы ж хутка і паедзеце? — ціха пытае Аксана, пераводзячы, пасля кароткай паўзы, гаворку на другое.— Няўжо ж гэта праўда? Я вось цэлы вечар думаю аб гэтым, а мне ўсё здаецца, што гэта нібы так сабе, нібы не на праўду.— Аксана хіліцца галавой да ягонага пляча.— І вас доўга-доўга не будзе...

— Пакуль не скончыцца вайна.

— Вельмі ж сумна ў нас будзе.

— Чаму сумна? Без нас? Ну-у! Гэта нам дык будзе сумна, а вы ж тут усе разам будзеце.

— Мала што ўсе. Мне, можа, усе і не патрэбны,— загадкава кажа Аксана. А сказаўшы, спынілася па дарозе над канавай і запляскала далонямі.— Глянь, глянь!

— Што там такое?

— Вужака папаўзла ў канаву.

— Табе, можа, здалося! — Кастусь згінаецца да зямлі поруч з ёй.

— Добрае здалося. Я заўважыла, як яна ссунулася з грэблі.

З-за лесу зусім яшчэ нядаўна выйшаў месяц, і цьмянае святло яго яшчэ не здолела разрэдзіць вячэрніх змрокаў. Адтаго і цяжка разгледзець Кастусю, што робіцца ў мураве, якой абраслі берагі канавы.

— Ніякай вужакі там няма,— кажа ён і мерыцца падняцца, а Аксана ў гэты час хоча яшчэ ніжэй нахіліцца над канавай, і яны стукаюцца галовамі, войкаюць, а пасля абодва весела рагочуць, і Кастусь зусім ужо смела бярэ Аксану абедзвюма рукамі за плечы, пазірае ў

вузкія шчыліны яе воч, адкуль іскрацца чорнымі вугалькамі яе зрэнкі, пасля раптам туліць яе да сябе, парыўчата цалуе ў вочы, потым некалькі раз у шчаку і ўрэшце заціхае, упіўшыся пацалункам у яе вусны. Яна сіліцца адарвацца вуснамі ад яго, закідае далёка назад галаву так, што аж бачыць над самай галавой неба, калі на момант раскрывае вочы, але, адарваўшыся, не ідзе ад яго, не вырываецца з ягоных рук, і ён зноў, яшчэ мацней, туліць яе грудзямі да сябе і зноў моўчкі цалуе яе твар, пакуль зноў не ўпіваецца пацалункам у вусны. І зноў сіліцца адарвацца Аксана, адкідаючы назад галаву, і на гэты раз вырываецца з рук і ідзе па дарозе назад да вёскі. Следам за ёю ідзе моўчкі і Кастусь. Доўгі час ён не асмельваецца загаварыць, не ўмеючы вытлумачыць сабе таго, што толькі што зрабіў. Урэшце, калі Аксана паскарае крокі, каб хутчэй дайсці да двара, які зусім ужо блізка, Кастусь нясмела пытае:

— А ты, Аксана, напішаш мне, калі я прышлю табе ліст? — Аксана павяртае да яго галаву і высока ўскідвае вастракрылыя бровы.

— Дык, няўжо ж... а я ўсё не веру, што гэта праўда... А ты напішаш?

— Я напішу, адразу ж, толькі ты адказ прышлі. Прышлеш?

— Прышлю... А ты пішы на татава імя, каб ніхто не ведаў...

— Добра.— І пакуль ён мерыцца сказаць яшчэ нешта, Аксана бягом бяжыць да парога і знікае за дзвярыма.

А на другі дзень пасля гэтага вечара, самым ранкам яшчэ, з шапятоўскай вуліцы выехала параконная фурманка, якой кіраваў старшыня шапятоўскага сельсавета Мікода Жук. Ён моўчкі сядзеў у самым перадку калёс і курыў, паглядаючы назад. Следам за фурманкай, гоней за двое ад яе, абкружаныя камсамольцамі, ішлі: Кастусь Шкробат, Жук Рыгор і Ёська Гоберман. За камсамольцамі ішло яшчэ некалькі чалавек дарослых. Гэта былі Ёськавы бацькі, Кастусёва маці і Рыгорава мачыха. Кастусёва маці скрозь слёзы скардзілася камсамольцам, што вось і сын ідзе следам за бацькам, пакідаючы яе адну. Дзяўчаты суцяшалі яе, а Рыгорава мачыха ўзлавана, гэтаксама праз слёзы, пакрыквала на дзяўчат, папракаючы іх, што нічога яны яшчэ не разумеюць. У полі, як параўняліся з тапалёвай прысадай, што вяла ад дарогі да былога панскага дома, пачалі развітвацца. Мікодзіха неўза-

метку перахрысціла Рыгора і, пацалаваўшы, пусціла яго, а сама сышла ў бок з дарогі і стала там, сцяўшы зморшчаныя вусны. Змеціўшы, як хрысціла мачыха Рыгора, Кастусь узяў маці за абедзве рукі і, смеючыся, пацалаваў яе два разы ў шчаку. Як адышоў сын, яна не скранулася з месца, так і засталася стаяць пасярод дарогі на пяску, скамячыўшы ў пальцах прыўзняты падол белага кужэльнага фартуха. А калі развіталіся хлапцы і з таварышамі і, азіраючыся назад, пайшлі дарогай даганяць фурманку, зусім старая ўжо маці Еськава ўзялася рукамі за галаву, абвязаную цёплай хусткай, разгушкала яе і, тупаючы па дарожным пяску, завохкала, загаварыла ўпаўголаса да самой сябе.

Следам за ёй, калі яна адышла троху, крануліся ісці і камсамольцы. То адзін, то другі з іх аглядаўся назад на дарогу, па якой пайшлі хлапцы, і тады кожны з іх бачыў, як ідзе па сярэдзіне дарогі высокая Ганна Шкробаціха, несучы ў руцэ скамечаны падол фартуха.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕСЯТАЯ

Калі зайсці з двара ў вялікі зборны пакой Пагулянскага валвыканкома, складаецца ўражанне, што на двары зусім ужо вечар, так цёмна ў зборным пакоі. З гэтай прычыны і не можа Мікода Жук пазнаць адразу чалавека, які падышоў да яго на зборнай і падаў руку для павітання. Чалавек немалады ўжо, у чырвонаармейскім шынялі. На правым воку чорная павязка, і шчака правая як бы ўгору падцягнута да вока, адчаго рот троху скрыўлены, і з гэтай прычыны здаецца, што чалавек увесь час хітравата і як бы недаверліва ўсміхаецца, заўжды носячы за сабою гэную ўсмешку, схаваную ў кутку паміж вусам і барадою. Ён высокі, шыракаплечы, і шынель на ім, як бы не зусім да росту, кароткаваты троху. Пазірае на яго Мікода і ківае галавою.

— Гэта вы адкуль жа?

— Ды што ты, Мікода, не прызнаў? — дзівіцца чалавек.

— Няўжо ж Тарэнта? — Мікода пазнае знаёмы голас.— А няхай ты згары. Гляджу, гляджу, думаю, хто б такі гэта? Аж вось ён хто! Багаты, пэўне, будзеш.

— Паспрабую разбагацець, чаму ж. Хіба дарэмна столькі адстукаў? А гэта ж,— ён паказвае рукой на павязку на воку,— не ведаю вось толькі, ці буду хоць троху

бачыць ім. Бач, якім зрабіўся? — правая шчака Тарэнтава з вусам узнялася яшчэ вышэй, а ўсмешка выпаўзла з кутка паміж вусам і барадою і расцяклася па ўсім твары.— Такога і жонка гатова не прызнаць.

— Прызнае, дзе яна дзенецца. А ты зусім ужо ці на пабыўку?

— Зусім, падчыстую. Няма як страляць, дык забракавалі. Ды ўжо і наваяваўся я.

— Дзіва што наваяваўся. Гады ж тры, здаецца, на той і на гэтай ужо два гады амаль.

— Ну так, каля пяці гадоў. Цяпер-то хоць ведаў, за што ваяваў. Бывала, сядзіш дзе-небудзь ды думаеш, што калі цэл застанешся, дык хоць будзе куды прыйсці, ведаў, што на сваю зямлю прыйду... Ну, а ты дадому хутка?

— Ды зараз жа, зайду да аднаго тут на хвілінку і паедзем, ідзі масціся. Гнядую ж маю, можа, прызнаеш?

— Чаму ж не прызнаць?

І цераз некалькі хвілін яны рушылі з валвыканкомаўскага двара на местачковы пляц, а адтуль у завулак, што вёў да гасцінца.

Як паехалі, Тарэнта ўскочыў на калёсы і доўга стаяў на калёсах каленкамі, трымаючыся рукамі за білы драбінак, сачыў, як лёгка збягаюць з местачковага пляца ўніз у завулак калёсы, падганяючы старую гнядую Мікодаву кабылу. У завулку суха, і калёсы коцяцца роўна, аж да самага канца завулка, дзе пачынаецца шырокі раз'езджаны гасцінец, абсаджаны па баках бярэзінамі. Нейкі час дарога іхняя будзе ісці гасцінцам, аж да самага лесу, а ў лесе зверне направа і пачне віцца: то вузкай паскай паміж густога маладога хвойніку, то шырокай грэбляй у гаі, то разгонна і проста ляжа між бору, то шырокім шляхам між палёў. Старая, даўно знаёмая дарога. Кожная канава, кожны пень і куст, і кожнае дрэва, што расце каля дарогі,— усё гэта даўно знаёма Тарэнту. Але прайшло два гады, як не хадзіў ён па ёй, і зараз доўга стаіць каленкамі на калёсах, углядаючыся ў працяг гасцінца, як у нешта невядомае.

— Значыць, ты цяпер ужо зусім дадому? Добра, акурат да часу прыедзеш; сын з дому, а бацька дадому. Ці ты, можа, пра сына і не ведаеш яшчэ?

— А што? — уставіўся ў Мікодаў твар Тарэнта адным сваім вокам.

— Ваяваць пайшлі: і твой, і мой, і Еська кавалёў.

— Як гэта пайшлі,— не разумеў Тарэнта.— Куды?

— Ваяваць, я ж кажу. Зімой папісаліся ў камсамол,

а тыдні два таму назад атрымалі з горада паперку аб мабілізацыі і пайшлі.

— Такі ў войска пайшлі? — усё яшчэ не верыць Тарэнта.

— А няўжо ж куды. І сын мне ліст прыслаў, што хутка іхняя часць на фронт нібы паедзе.

— Як жа гэта? — усхвалявана замітусіўся на возе Тарэнта.— Які ж з яго ваяка? Дзіця горкае... Не было каму крыкнуць на яго...

— Ат! — Мікода махнуў рукой.— Я на свайго і крычаў і ледзь не біў яго, а ён сваё зрабіў... Што той крык...

— Дык жа горкае дзіця яшчэ! Твой жа хоць трохі старэйшы.

— Наколькі ён там старэйшы. Усяго, здаецца, на год ці на паўтара.

— Ух, ух! — круціць галавою Тарэнта.— Не было каму біць іх. Захацелася ім ваяваць. Мала яшчэ бацькі ваююць.

— Хіба іх разбярэш? Раз падаліся ў камсамол, дык, мусіць, нельга было не ехаць. А як мы некалі лезлі?..

— Дык я нічога, што ён у камсамол падаўся, але забіць жа могуць! Які з яго армеец? Ці, бывае, скалечыць, дык тады і бацька калека, і сын.

— Хай бог крые, што ты: заб'юць, скалечаць... Ды, можа, іх яшчэ на фронт і не пашлюць такіх.

— А ты ж кажаш, што сын піша.

— Мала што ён піша. Малады, можа, пахваліцца хоча.

— Ух, ух! — зноў круціць галавой Тарэнта.— А я толькі думаў — вось прыйду, за гаспадарку вазьмуся, дапамогу ад сына мець буду... Ці пасеялі ж яны там з маткай хоць чаго?

— Пасеялі. Сын у цябе працавіты ўдаўся. І мой працавіты. Я ж гэта ўсё больш па сельсавецкіх справах бегаю, а каля гаспадаркі ён амаль адзін і хадзіў. Цяпер вось без яго і не ведаю, як яно будзе. Каб хоць як з гэтага сельсавецтва мне вызваліцца. Вазьміся хіба ты за гэтую справу, а?

— Не, мне, браце, каб як за гаспадарку ўзяцца. Служы ўжо ты хіба і далей.

— Дык жа вось служу, каторы год ужо. А думаеш, лёгка? Багатыры, каб прымелі, даўно са свету звялі б.

— Хутчэй самі сыдуць, а нас не звядуць.

— Ды не звядуць, вядома.

Два гады амаль як не бачыліся Мікода з Тарэнтам, і на гутарку абоім ім мала дарогі ад Пагулянкі да Шапятоўкі.

Думкі роем кружацца, абганяюць адна другую, адна другую нараджаюць. А ў Тарэнты над усімі думкамі жыве адна: прыедзе, урэшце, на сваю ўласную зямлю, умацуецца на ёй і патроху павядзе сваю гаспадарку. Думаючы гэта, ён зараней адчувае смак свайго гаспадарання.

Саскочыўшы з калёс, як прыехалі ў Шапятоўку, Тарэнта нават не падаў Мікоду рукі на развітанне, адразу ж кінуўся ў двор. У двары ўсё было, як і два гады таму назад. Толькі хата яшчэ больш абсунулася да зямлі. Адтаго столь у хаце стала зусім нізкай і над самай галавой у Тарэнты вісела, калі ён, вітаючыся, цалаваўся ў хаце з жонкай. Жонка абрадавалася яму, але ад таго, што прыйшоў бацька, яшчэ больш зрабіўся смутак па сыне, і, ссунуўшы з Тарэнтавых плеч рукі, яна заплакала і села на лаўку каля сцяны.

— І трэба ж было яму ісці ў гэта. Удаўся ў бацьку, лезе скрозь, ці трэба гэта, ці не трэба.

— Нічога, жыў будзе, прыйдзе.— Словы жончыны Тарэнту спадабаліся.

— А калі ж прыйдзе вось такім, як ты, а? Што ж тады? Ты ж хоць стары, а ён жа дзіця яшчэ...

— Чаго-та ён такім прыйдзе? На фронт іх такіх ніхто не пашле, не думай.— І перавёў гаворку на гаспадарку, пра жыта запытаў, пра каня. Абрадаваўся, як прыйшла дачка, рослая, акурат у самай сіле дзяўчына.— Малайчына, што вырасла! А то я ўжо думаў, што не будзе мне памочніка ў гаспадарцы. Ну, ці багата ж у цябе сілы, а? Давядзецца ж нам з табою і хату новую ставіць.

— Ужо і новую,— сказала жонка.— Каб хаця гэтая не разбурылася.— Але абрадавалася такой Тарэнтавай гаворцы і сама дачку пахваліла:

— Вырасла, не зломак, слава богу.

— Бог-то тут нібы ні пры чым. Бацькі не зломкі, дык і дачка такая.

— Бацькі... Бацька вунь на каго падобен стаў. Не галава, а рэшата, уся ў дзірках ужо. Але ж і трапляюць кулі нешта ўсё ў галаву табе.— Жонка ўсміхнулася.— Відаць, выстаўляеш ты яе з акопаў напаказ...

— Чорт яго,— смяецца і сам Тарэнта.— Падцэляць жа вось неяк акурат у галаву. Калі б яшчэ раз давялося, дык бы напэўне ўжо ў лоб проста падцэлілі б.

— Пайдзі яшчэ раз, дык падцэляць.

Раніцою назаўтра Тарэнта пайшоў на сваё поле. За два гады, пакуль яго не было дома, Шапятоўка яшчэ трохі парадзела. Хто-ніхто за гэты час перакінуўся з будын-

камі на хутар або на былую панскую зямлю, на ўчастак, які атрымаў. Тыя, хто быў перасяліўся на хутары раней, цяпер ужо абладзіліся, панакрывалі неяк саломай будынкі, хоць каласом уніз, каб хутчэй, абкуталі так-сяк двары платамі. Тарэнта, ідучы ў поле, думаў, што хоць разарвецца, а збудуе сабе новую хату і завядзе сваю ўласную гаспадарку.

Восеньскае поле сумнае, апусцелае. Лапікамі на ім толькі зелянее рунь, а то ўсё або пляміна шэрай голай раллі, або неўзараная, стоптаная статкам, пожня. Так ад хутара да хутара, у які бок ні глянь. А за ўсім гэтым далёкі або блізкі лес і над ім захмараны небасхіл. Хмары і над галавою нізкія, мутныя. Непадалёк, амаль зусім голыя ўжо, тапаліныя прысады. На дарозе шэры, перацёрты з гноем ды з калівамі сухога сена і саломы, пясок. Паўз дарогу стаптаная, старая, пераспелая і запыленая трава. Ён не заўважае пад нагамі пяску і запыленай муравы, а адтаго, што захмараны небасхіл перад вачыма, думкі не рассейваюцца, а ўсе збіраюцца каля аднаго. І ён радуецца, калі бачыць здалёк яшчэ, як урасла дзёрнам высокая мяжа паміж ягонай зямлёй і зямлёй суседа па хутары, мяжа, якую ён сам абганяў увосень семнаццатага года.

Размеранымі ціхімі крокамі ідзе ён па мяжы, як па сцежцы, не адрываючы погляду ад былога аўсянішча, прыкідае ў галаве, ці багата зямлі зойме двор, выглядае, у якім бы месцы лепш пасяліцца. Перад вачыма роўнае, скрозь аднолькава разробленае поле, хоць бы невялічкі кавалак горшага, каб за яго можна было ўчапіцца думкамі пра сядзібу. Да самай рэчкі ідзе так Тарэнта, пакуль абмінае і кавалак поля, засеяны жытам. Далей пад рэчку ёсць месцы і нятоўныя. Ёсць нават кавалак поплаву, дзе расце ціпец. Можна б на ім і хату ставіць, але пад другія будынкі давядзецца займаць добры поплаў і двор самы не будзе сухім вясной і ўвосень. «Не, лепш там»,— парашае ён і зноў гэткімі ж ціхімі крокамі ідзе па мяжы назад. Зноў мінае жыта і, сцішыўшы і так павольны крок, блукае поглядам па аўсянішчы. Шкода займаць такую зямлю пад сядзібу, але што ж рабіць? Павяртаецца і ад мяжы ідзе па аўсянішчы ўпоперак па загонах. Пройдзе крыху і стане, азірнецца назад, тады зноў ідзе, прыкідвае на вока, ці багата зямлі зойме двор з будынкамі. Шкода зямлі. У Тарэнты пачынае балець галава, яму робіцца горача. Доўга стаіць ён так, сярод поля, блукаючы па ім разгубленым поглядам. У руцэ трымае скамечаную шап-

ку. Вецер шавеліць на галаве ў яго, над чорнай паскай павязкі, русыя валасы, шавеліць бараду і расхінае полы расплікнутага шыняля. Каб хоць кавалачак, каб хоць лапічка маленькая горшай зямлі, зачапіўся б за яе, паставіў бы на ёй хату, а пасля ўжо неяк і другія будыніны размяшчаў бы, не так бы шкода было, а то што хочаш рабі. І ідуць думкі ўкругавую, абганяючы адна адну, і ўсё, нават зямля, пачынае сплываць следам за мутнымі абвіслагрудымі хмарамі за небасхіл за балотам. Але калі сутыкаецца краем сваім зямля з хмарамі, Тарэнта спыняецца поглядам на кавалку поля, што паміж ягонай зямлёй і парабкоўскімі агародамі. Спачатку ён і па ім блукае разгубленым поглядам, не разумеючы, як гэта такі кавалак поля застаўся нікім не занятым. Прыпамінае, што, як мералі зямлю, было на тым полі тады канаплянішча, якое яны і пакінулі ў карыстанне пану.

Аб нечым дагадаўшыся, Тарэнта подбежкам пайшоў на гэны нічый кавалак зямлі, абмераў яго крокамі, некалькі разоў паглядзеў, стоячы пасярод яго, то ў бок да рэчкі, то ў бок да суседавай зямлі, меркаваў, куды вокнамі павінна стаяць хата. Вымеркаваўшы ж гэта, ён, спяшаючыся, пайшоў дадому. Дома, хоць і было пад полудзень, абедаць ісці адмовіўся, запрог у крывулі каня, узяў з сабою пілу, сякеру і, клікнуўшы Марылю, паехаў з ёю ў лес. Як па даўно знаёмым месцы, ехаў Тарэнта па лесе, звярнуўшы з вялікай дарогі, ехаў у глыб лесу, дзе былі цішыня і паўзмрок пад высокімі гонкімі хвоямі. Час ад часу ён прытрымліваў каня, нацягваючы лейцы, і поглядам змяраў адну хвою за другою, а тады шморгаў лейцамі і ехаў далей. Калі ад'ехалі далёка і ад дарогі і ад поля, спыніў каня на грудку каля маладых ялінак, а сам пайшоў з сякерай цераз увесь грудок. Часам ён стукаў абухом сякеры па ствале сасны вышэй камля, слухаў, як звініць сасна, і зноў ішоў. Хутка Марыля згубіла яго з воч. У лесе зацішна і цёпла. Вецер толькі высока ўгары, дзе плаваюць ціхія шолахі, перабіраючы хвойныя іголкі, злёгку бразгаючы спелымі старымі шышкамі. Марыля паглядзела ўгору, прыслухалася да шолахаў, пачула навакольную цішыню і, спалохаўшыся яе, падышла да каня, узяла яго за аброць, а другой рукой выцерла ў яго з-пад вачэй гной. Тады пачула, як дзесьці далёка зацюкала бацькава сякера па мяккім сырым дрэве. Цераз нейкі час сякера была змоўкла, але хутка зацюкала зноў. Так ажна тры разы, пакуль змоўкла зусім, і лес зноўку зацягнула непарушнай цішынёй. З цішыні тады выплылі бацькавы

мяккія крокі, і хутка паказаўся сам ён, урачыста спакойны і абрадаваны. Ён узяў ад Марылі каня і павёў яго за аброць за сабою, выбіраючы, дзе прастарней праехаць. Гоней цераз двое ён спыніў каня і прывязаў яго лейцамі за малую хвойку.— Туды пад'едзем,— сказаў ён, махнуўшы галавою ў напрамку, куды накіроўваўся ісці.— Бяры пілу і хадзем.

Зусім непадалёк, менш чым за гоні ад каня, Тарэнта спыніўся каля сасны, скінуў шынель і разам з тапаром паклаў яго ў бок ад сябе і пачаў каленкамі масціцца каля сасны на зямлі.— Ну, давай. Світку скінь, а то душна будзе.

Піла хутка ўелася ў мякіш сасновай кары, галасней зазвінела, крануўшы канцамі зубоў дрывоціну, і запырскала з-пад зубоў дробнымі жоўтымі апілкамі. Калі распіл у дрывоціне стаў глыбокім і ў ім схавалася ўся піла, Тарэнта падняўся, узяў сякеру і дзюбкай самай уваткнуў яе ў распіл, каб яго не сціскала, каб лягчэй было хадзіць у ім не шырока разведзенай піле. Калі астаўся паміж чашкай, высечанай у сасне сякерай і пілой, зусім тонкі кавалак дрывоціны, Тарэнта выхапіў з распілу сякеру і адкінуў яе ўбок, а пілу пачаў вадзіць яшчэ шпарчэй і, калі ў распіле затрашчала дрэва, выняў з яго пілу і махнуў рукою на Марылю:

— Адыдзі!..

Дрэва злёгку калыхнулася, пасля на момант замерла, як бы наглядаючы месца, куды падаць, зноў калыхнулася ўжо мацней і, зашумеўшы галлём, разганяючы перад сабою паветра, паплыло зялёнай верхавінай уніз, а потым ускінула ўгору з пня цяжкі камель і плашмя, усім сваім цяжарам адразу, упала на мяккую, усланую дзеразой, мохам і хваёвымі іголкамі зямлю. Тады і вухнула, заспакоіўшыся, што дасягла зямлі.

Нерухома ляжала стромкае дрэва на зямлі, а па ім, па гладкай жоўтай кары, блукала вострая сякера, то проста абламваючы, калі яны тонкія і сухія, то ссякаючы сырыя і моцныя смольныя сукі. Калі сукі асталіся толькі каля самай верхавіны, Тарэнта пайшоў каля дрэва, куляючы па роўным ягоным ствале тапарышча сякеры. Адмерыў пятнаццаць тапарышчаў і стаў над дрэвам.

— Нясі пілу,— сказаў ён да Марылі і, калі яна падышла, дадаў яшчэ, пазіраючы ў бок камля: — Аршын па трынаццаць у даўжыню, я думаю, хопіць, будзе прасторная хата. Калі разжывемся, можна будзе і перагарадзіць дошкамі, адбіць чыстую палавіну.

Пасля гэтых слоў паверыла ў новую хату і Марыля і абрадавана зірнула на дрэва следам за бацькам.

— Ды хопіць, уга!..

Як адпілілі ад дрэва два бервяны, адно на пятнаццаць тапарышчаў, а другое на дзевяць з паловай, Тарэнта пайшоў па каня. Каня падвёў да бервяна і, зняўшы калёсы з перадка, падагнаў перадок да дрэва. Трэба было ўскласці камель бервяна на перадок, а верх на заднюю вось. Высек Тарэнта калы: адзін сабе, адзін Марылі. Парашыў, што раней ускладзе бервяно на пень, а тады пад'едзе пад яго перадком калёс. Але і на пень падняць нялёгка. Марыля багата не пасобіць, усяго сілы ў яе, каб падтрымаць сваім калом бервяно, пакуль бацька падсоўвае далей кол, каб яно не абсунулася назад на зямлю. Бацька гнецца пад калом, падсоўваючы пад яго плячо, упіраецца ў зямлю шырока растапыранымі нагамі і, напінаючыся з усяе сілы, падымае бервяно. Баючыся, каб не ўпала яно назад, мітусіцца ён поглядам па бервяне і пакрыквае на Марылю, падбадзёрвае крыкам яе, прымушаючы сабрацца з апошнімі сіламі, бо яшчэ троху падаць угору і бервяно будзе на пні, каб толькі тады своечасова пусціць з рук кол і падхапіць яго рукамі. Пра гэта думае Тарэнта і, напружыўшы ўсе свае сілы, падымае кол. Сіла ад напружання вырастае, і бервяно ўспаўзае на пень. Яшчэ ледзь-ледзь і тады трэба кідаць кол. Апошні рывок, і бервяно на пні. Але, ірвануўшыся з апошніх сіл, Тарэнта не можа стрымацца ў час, і кол яшчэ з усёй сілай напірае на бервяно і тады, калі яно ўжо на пні. Бервяно лёгка коціцца па пні, Тарэнта бачыць, як яно момант адзін гойдаецца яшчэ на самым краі пня, і ў свядомасці мільгае думка пра небяспеку, што яно вось-вось упадзе, але падаўшыся з разгону грудзямі наперад больш чым след, ён ужо не можа стрымацца і толькі з адчаем крычыць на Марылю і разам з колам падае на зямлю следам за бервяном. Перапалоханая крыкам, Марыля не можа скрануцца з месца. Калі ж яна кідаецца з калом на другі бок пня, бервяно ляжыць ужо на зямлі, адкаціўшыся ад пня ўбок, і яна міжволі, хоць зусім не хоча гэтага, хоць ведае, што гэта нядобра, пырскае рогатам, калі, адплёўваючыся, падымаецца з зямлі бацька і аглядае свае запэцканыя зямлёй рукі.

— Чаго гэта рагочаш, як кабыла? — кідае на яе лаянкай бацька.— Воч не маеш, ці што, каб у час падтрымаць бервяно.

— Дык як бы ж я падтрымала, калі я пасабляла вам?

— Пасабляла! — усё яшчэ злуе Тарэнта.— Бачыла ж,

можа, што падыму ўжо тут і адзін. Толькі розуму ў галаве няма, не дагадалася прытрымаць...

Марыля вінавата маўчыць і пазірае ў зямлю, сабе пад ногі. Адпачыўшы, яны зноўку коцяць бервяно на пень. На гэты раз коцяць яго па калу, які адным канцом ляжыць на пні, у высечанай для гэтага чашцы, а другім на зямлі. Так падымаць лягчэй. Гэта ведаў Тарэнта і тады, калі браўся за бервяно ў першы раз, але здалося яно яму ў той раз спачатку зусім лёгкім і адтаго коліка ён не падклаў.

На гэты раз бервяно на пень лягло спакойна, а ўжо з пня зусім лёгка спіхнуў яго Тарэнта на перадок калёс. Верхавіну было лягчэй класці, і цераз колькі хвілін яшчэ яны ехалі з лесу, везучы на разведзеных крывулях даўгое, простае бервяно. Бервяно Тарэнта павёз не дадому, а на поле, дзе быў раніцою, і скінуў яго на паласе, што ляжала паміж парабкоўскімі агародамі і ягонай зямлёй. Да вечара на тым месцы ляжала аж чатыры бервяны, і ўвечары ж, як пачало змяркацца, Тарэнта пайшоў да старшыні сельсавета Мікоды Жука. У хаце ён сеў на лаўцы насупроць Мікоды, агледзеўся ўважліва навокал сябе і сказаў, выпускаючы з кутка, паміж вусам і барадою, ухмылку:

— А ведаеш, буду я сабе хату ставіць.

— Хату? — як бы здзівіўся Мікода.— Нешта ж ты дужа хутка надумаўся.

— Чаму хутка? Я яшчэ і на фронце аб гэтым думаў. Раз ужо свая зямля ёсць, дык трэба на яе мацней садзіцца, каб ветрам не здула. А хату ставіць буду і пастаўлю сабе лепшую за тваю.

— Найшоў чым здзівіць! Мая ж старая.

— А я ж не пра гэта кажу. Твая на колькі ўдоўжкі?

— Аршын восем ці дзевяць.

— А я сабе пастаўлю восем на трынаццаць.

— Так ужо і паставіш? Калі тое яшчэ будзе? Ды і на чорта табе, калі да справы гаварыць, такая вялікая?

— Я з разлікам раблю: можа, калі разбагацею, дык тады пераб'ю яе на дзве палавіны.

— А няхай ты згары! — Мікода зарагатаў.— Яшчэ ніводнага суку няма на тым полі, а ён ужо і хату перабіваць збіраецца.

— А можа, там і бярвенне ўжо ляжыць,— хітравата падміргнуў Тарэнта,— а не толькі сукі.

— Адкуль тое бярвенне ўзялося? Ці, можа, сёння ўжо і вазіў, а?

— Вазіў. Чатыры бервяны прывёз. Самавольна зваліў тры сасны. А цяпер прыйшоў да цябе, пішы, браце, паперку ў выканком ці ў лясніцтва, куды там трэба, няхай дадуць мне лесу. Заўтра ж паеду хлапатаць.

— Ты гэта ўсур'ёз?

— Ну, а як ты думаў? Трэба ж мне нешта рабіць, не сядзець жа ўвесь век у той стопцы. Вось і буду патроху рабіць, пакуль сілы яшчэ ёсць. За зіму лес перацягну, а з вясны, як адсеюся, пачну зруб ставіць. Ну, а некалі і скончу.

— Ды скончыш, абы сіла была.

— Сілы ў мяне хопіць на хату, ды цясця — чорта прыцягну, няхай пасабляе. Хоць пасобіць няхай лес вывезці ды пацясаць. Чорт яго, мне здаецца, што каб трэба было, дык горы цяпер варочаў бы на сабе, каб толькі на ногі ўзбіцца. Наш жа час прыйшоў, Мікода, ды каб нам не жыць? Хо-го-го! А каму ж тады жыць, калі не нам? Хіба зноў багатырам, ці што? Гэта, браце, не той час, не іхні... Ну, дык пішы паперку, каб мне дарам лесу далі, паколькі я чырвонагвардзеец былы і круглы бядняк: ні кала свайго, ні двара.

— Ды напішу, табе такую паперку не грэх напісаць. Вось павячэраю, ды сходзім да Івана Пятровіча і там напішам усё як след.

На тым жа тыдні Тарэнта выхлапатаў сабе лесу, а яшчэ цераз паўтара ці два тыдні прыехаў у Шапятоўку аб'езчык і адкляйміў у лесе дваццаць дзве сасны. Гэтыя дваццаць дзве сасны, ды яшчэ колькі штук па ўласнаму свайму выбару, Тарэнта зімою вывез да тых чатырох бярвенняў, якія прывёз быў на другі дзень, як прыйшоў з Чырвонай Арміі. За зіму ды за вясну бярвенне падвяла, і вясной, перакінуўшы ўсю лягчэйшую работу ў полі на жонку ды на дачку, Тарэнта падоўгу выстойваў над бярвеннем, сагнуўшыся, цясаў яго, а адсеяўшыся, падвячоркам неяк, пасля тройцы ўжо, клікнуўшы з сабою і дачку і жонку, паклаў на высокія штандары першую падрубіну пад паўздоўжную сцяну хаты. З той пары кожны дзень ад самага ранку і да змяркання сядзеў Тарэнта на зрубе. Падвячоркам з жонкай, дачкой ды цесцем, які наўмысля прыходзіў для гэтага, яны падымалі на зруб два новыя бервяны, а назаўтра Тарэнта адзін ужо выбіраў у бервяне драчку, высякаў вугал, клаў мох і прыладжваў бервяно да зруба. Вянок за вянком вырастаў зруб новай Тарэнтавай хаты, і калі адным разам надвячоркам прыйшлі да зруба Мікода Жук з Сузонам Калядой, каб ска-

заць Тарэнту, што скончылася вайна з палякамі, яны налічылі ў зрубе восем вянкоў і здзівіліся.

— Глядзі-тка,— сказаў Мікода,— гэта ж ён хутка сцены такі выведзе: яшчэ вянкі чатыры, і ўсё

— А ўжо такі небагата,— выпусціў Тарэнта з-пад вуса ўхмылку.— Вянкі чатыры, і ўсё, хопіць вышыні. Буду на дванаццаты вянок бэлькі класці.

— А там яшчэ адзін вянок і кроквы,— сказаў Сузон, з зайздрасцю аглядаючы зруб.

— Кроквы — справа лёгкая,— абазваўся Тарэнта зверху.

— Ды ты злезь адтуль, пагаворым хадзі,— запрапанаваў Мікода.— Ці, можа, ты мяркуеш ужо на гэтую зіму перасяліцца ў яе, што так гоніш?

— У-у-у! — Тарэнта махнуў рукою.— Далёка яшчэ да таго перасялення. Яшчэ духу ці хопіць? Зруб-то пастаўлю, а яшчэ ж столь, падлога, сталярка, ды гонт, ды ўсякая хвароба...— уткнуў сякеру ў бервяно і палез дадолу. Як злез, падаў суседзям руку для прывітання.

— Вайна ж скончана,— сказаў Мікода,— ці паверыш? Вось ён толькі што з мястэчка прыйшоў, чуў там.

— Ты што, праўду гаворыш ці жартуеш? — Тарэнта раптам ажывіўся, уставіўся адным сваім вокам спачатку ў Мікодаў твар, пасля ў Сузонаў.

— Якое ж жартую. Няхай ён скажа.

— Праўда,— пацвердзіў Сузон.— На свае вушы чуў.

— Ну, тады, хлопцы, будзем жыць. Па-сапраўднаму будзем жыць, а? І што без вока я ледзь не астаўся, зусім не шкада мне для такога. Цяпер чалавек хоць ведаць будзе, што не давядзецца яму ўвесь век пакутаваць. Гэта добра, калі праўда, што вайна скончылася.

— Дык жа праўда. Я ж на свае вушы чуў, як абвяшчалі ў воласці.

— Значыць, усё-такі наша ўзяло! А столькі ж іх было, гэных генералаў розных ды палкоўнікаў.— Тарэнта пачаў апавядаць пра перажытае на фронце і, захоплены ўспамінамі і навіной, якая парадзіла іх, не заўважыў, як знізілася сонца. Асветленыя сонцам, новыя сцены жаўцелі, песцілі вока, і, загледзеўшыся на іх, пашкадаваў сваёй страчанай рукі Сузон і ўголас пазайздросціў Тарэнту:

— Ты-то, Тарэнта, будзеш жыць, ты цяпер на ногі ўстанеш, а мая справа прапашчая. Адно ў мяне, што зямлі, канечне, прыбыло, а на будыніну я ніколі не ўзаб'юся. Адной рукой бервяна не падымеш.— Ён выставіў руку наперад і варухнуў пад кашуляй левым бязру-

кім плячом.— А тут яшчэ конь ледзь ногі валачэ, наўрад ці пацягне ўвосень плуг.

— Так, нешта ён у цябе няспраўны,— згадзіўся Тарэнта.— А мой неяк выкараскаўся, патроху цягне.

— І другога ж цяпер не купіш,— скардзіўся Сузон далей.— За якую ж трасцу яго купіш. А без каня горай яшчэ, як без рук. Без каня не нагаспадарыш і на добрай зямлі.

— Да, брат, без каня гаспадарыць цяжка,— згадзіўся Мікода.— Але неяк жа давядзецца трымацца, неяк пражывеш. Як мірны час стане, дапамогу якую ад улады атрымаеш.

— Адным словам, не прападзеш,— перабіў Мікоду Тарэнта Шкробат.— Быць таго не можа, не тыя часы...

З-за былых панскіх будынін выбегла Марыля, Тарэнтава дачка. Сонца свяціла ёй проста ў твар, іскрылася на белабрысай яе галаве, і, залюбаваўшыся ёю, абрадаваўся Тарэнта.

— Памагаты мой бяжыць нешта.

Супроць сонца Марыля ішла, жмурачы вочы, але бачыў бацька, што нясе на твары з сабой усмешку, і, змеціўшы гэта, пахваліў яе:

— Малайчына дзеўка, яна такі мне багата пасабіла. З ёй жа мы і павазілі лес: дзень у дзень са мной ехала ў лес яна.

Але падышла да зруба Марыля, зірнула зразу ж у твар Мікоду і сагнала ўсмешку з губ і раптам разгубілася, а тое, што хацела сказаць бацьку галасна, сказала зусім пaціху:

— Вайны ўжо няма, тата, Кастусь ліст прыслаў.

Пасля яе слоў бліснулі бацькавы вочы, абрадаваўся ён, што сын жывым астаўся, а Мікода ўставіўся ў яе поглядам, ці не скажа, што піша Кастусь пра ягонага сына.

— Ну!..— вырвалася ў бацькі.— А што яшчэ ён піша?

— Ага, ага, што ж яшчэ? — запытаў і Мікода.

— Піша, што, як камсамолец, ён пакуль што яшчэ будзе ў арміі, а пасля мяркуе паехаць некуды вучыцца.

— Вось табе і на! — вырвалася ў бацькі.— Вось табе і памочнік у гаспадарцы.

— Справішся ты з ёю і адзін, няхай едзе ды вучыцца.

— Ды няхай, цяпер жа толькі і вучыцца ім.

— І я тое кажу,— падтрымаў Мікода.— А пра майго ці піша што?

— Пра Рыгора? — зірнула палахліва вачыма ў Міко-

даў твар, пасля на бацьку і зноў на Мікоду, а як гаварыла, патупілася вачыма ў зямлю.— Не-а, нічога не піша...

— Нічога? — затрывожыўся раптам Мікода.— Чаму ж гэта ён? Яны ж, здаецца, разам былі ўвесь час. Ты, мажа, сказаць не хочаш? — ён заміргаў палахліва вачыма, уставіўшыся поглядам у вочы Марылі.— Мажа, нядобрае што здарылася, а? Ды ты сказаць не бойся, я ж бацька яму...

— А што там магло здарыцца? — пачаў супакойваць Сузон.— Гэта ж ён зусім яшчэ нядаўна пісаў, здаецца.

— Ды пісаў,— паспакайнеў Мікода, але змеціў, што хавае Марыля пад кофту сабе ліст, які несла, каб перачытаць бацьку, і ўстрывожыўся яшчэ больш, а рукамі пацёгся да ліста, адгадваючы, што ў ім нешта нядобрае напісана пра Рыгора. Марыля ўскрыкнула і адхінулася ўбок.

— Ты чаго ж гэта, дурная?! А мажа, сапраўды што нядобрае, дык хавацца ж няма чаго.

— Забілі Рыгора! — ускрыкнула яна і дрыглівай рукой працягнула да бацькі ліст, а сама крутнулася да іх плячыма і пайшла за зруб са схіленай да зямлі галавой.

— Як жа ж гэта? — Мікода на хвіліну аслупянеў на месцы, аглушаны спуджаным Марыліным крыкам, а пасля засумяціўся, не ведаючы, што рабіць. Кінуўся быў пайсці дадому, але зачапіўся нагамі за грудок трэсак і вярнуўся назад.— Дык што ж гэта такое? Сынок... Адзін быў, і таго...— Сам збаяўся вымавіць слова, усё яшчэ не жадаючы верыць у яго. Узяў з Тарэнтавых рук ліст, зірнуў на яго і пайшоў з лістам, цяжка пераступаючы цераз трэскі і жэрдкі, на якіх ляжала бярвенне. Пайшоў не на дарогу, а нацянькі цераз поле. Ідучы, спатыкаўся, але паскараў увесь час свае крокі, спяшаючыся як мага хутчэй данесці ліст да Івана Пятровіча. Як пайшоў ён, Тарэнта з Сузонам так і застылі на месцы, пазіраючы ўслед яму. У Тарэнты нарадзілася раптам адчуванне, нібы неяк нядобра выходзіць, што вось ягоны сын жывы, здаровы і мяркуе ехаць вучыцца, а Рыгора забілі. Падумаў ён, што ў Мікоды будзе на ягонага сына з-за гэтага крыўда, і хоць ведаў, што нічым Кастусь не вінен у Рыгоравай смерці, усё ж не мог вызваліцца ад гэтага адчування і адтаго першым загаварыў, выказваючы спачуванне Мікоду.

— Гэта ж трэба, такое гора чалавеку...

— Ды ў такі час, акурат, як вайна скончылася, калі ў самы раз ісці дадому ды жыць бы. І такі хлопец...

— Хлопец з галавой быў.

З-за зруба выйшла, патупіўшы ў зямлю вочы, Марыля.

— Дык што ж ён там піша? Як жа гэта яго забілі?..

— Як наступалі.— Голас Марылін дрыжаў, зрываўся.— Куля трапіла ў грудзі, у сэрца, мусіць. Як упаў, дык і слова не сказаў.

Тарэнту прыпомнілася вайна, акопы, параненыя. Усё гэта было для яго знаёмым. Ён уявіў сабе, як ішлі чырвонаармейцы ў наступ, і ўгадаў, што ўпаў Рыгор напевана, тварам на зямлю, бо бег, крыху сагнуўшыся. Падумаў, што, напэўне, побач з ім ішоў і Кастусь. Значыць, гэтак жа тварам на зямлю мог упасці і ён, і ад думак толькі задрыжаў увесь і, адчуўшы, як балюча крывіцца твар, каб не заўважылі гэтага Сузон з Марыляй, мятнуўся з месца і палез на зруб.

На рыштаванні гнуліся пад нагамі ў Тарэнты тонкія дошкі, і дрыглівыя ногі ішлі па рыштаванні нясмела, нядоўпэўнена. Баючыся ўпасці, ён рукою трымаўся за бервяно, аж пакуль падышоў да сцяны, а тады стаў на месцы каля вугла, дзе была ўваткнута ў бервяно сякера, і доўга застаяў там, аж пакуль супакоіўся. Стоячы, пазіраў на зараснік, за якім ляжала шырокае і спакойнае возера. Калі рукі супакоіліся, выняў з бервяна сякеру, паклаў яе на рыштаванне, перавярнуў бервяно і пачаў, спрытна і ўпэўнена працуючы сякерай, выбіраць з яго драчку. Сузон тады зірнуў угору на зруб, кінуў слова на развітанне і пайшоў да дарогі. За ім, набраўшы ў мяшок свежых трэсак, пайшла і Марыля, а Тарэнта сам пайшоў толькі тады, як зусім прыладзіў да зруба бервяно, як спакойна мякка лягло яно сваім цяжарам на густа пасланы пад яго белы мох. Тады пачало змяркацца.

## ПАДЗЕЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ

Яшчэ ў вагоне, калі праязджалі апошні перагон, Кастусь пачаў заўважаць, што ім авалодвае нязвыклая для яго млявасць. Гэная млявасць павялічылася, калі ў забітым людзьмі памяшканні станцыі ён прымасціўся на акне нанач побач з Еськам. Яшчэ праз нейкі час ён, як ні захінаўся шынялём, пачаў зябнуць. Каб сагрэцца, курчыўся і нацягваў шынель на галаву, дыхаў сабе за пазуху, але пачыналі ныць ногі і рукі, пачыналася ламата ў спіне і доўга сядзець, скурчыўшыся, ён не мог. Усю ноч не мог заснуць. Як толькі саграваўся троху і пачынаў драмаць,

абрадаваўшыся, што ўрэшце прыйшоў сон, раптам пачынала ламаць ногі, хацелася выцягнуць іх на ўсю даўжыню, здавалася, будзе тады лепш. А калі размінаў ногі і звешваў іх з акна, супакойваўся толькі на пару хвілін, каб зноў задрамаць, а тады ногі пачынала падкурчваць, ды так, што балюча нылі косці, і, каб сцішыць боль, ён падкурчваў ногі пад сябе. З гэтым, на некалькі хвілін, прыходзіла заспакаенне і сон, але ўсяго на некалькі хвілін, пакуль нейкая нутраная сіла пачынала разварачваць косці, ламаць іх. Некалькі раз з'яўлялася жаданне злезці з акна і пайсці паблукаць па двары, але, угледзеўшыся ў акно, ён бачыў, як кружыць там мяцеліца, і выходзіць не адважваўся: ды і нялёгка было выйсці і асабліва папасці пасля зноў на сваё месца, бо ўся падлога вакзальнай залы была занята людзьмі. Мужчыны, жанчыны і дзеці ляжалі і сядзелі на падлозе, абапёршыся друг на дружку, і гэтак спалі. Каб выйсці, трэба пераступаць цераз людзей, рызыкуючы наступіць каму-небудзь на руку ці на нагу. Цэлую ноч прамучыўся на акне без сну Кастусь, а раніцою, калі Ёська развязаў мяшок і дастаў з мяшка хлеб і сушанага тарана, здзівіўся, што зусім не хочацца есці. Да ўсяго, калі злезлі з акна, каб пайсці ў горад, у павятовы камісарыят па вайсковых справах, пачала кружыцца галава.

На двары кружыла мяцеліца. Яна замятала дарогу снегам, шчыльна набіваючы яго між платоў па ўскраінных вуліцах. Ісці па снезе было цяжка, і, заняты хадзьбой, стомлены ёю, Кастусь на нейкі час зусім запамятаў на боль у галаве, а галавакружэнне, якое было з'явілася, вытлумачыў тым, што адразу выйшлі з напоўненага людзьмі памяшкання станцыі на двор, на вецер. Цяпер ён наўмысля прыслухоўваўся, ці не баліць галава, але, акрамя агульнай стомленасці і нейкага неадчэпнага шуму ў вушах, нічога не адчуваў. Гэта супакоіла. З гэтай прычыны ён адразу і не звярнуў увагі, калі ў памяшканні ваенкамата зноў далі аб сабе ведаць і боль у галаве, і надакучлівая ламата ў касцях, і гэткі ж надакучлівы шум у вушах. Паступова боль у галаве пасіліўся, галава пачынала кружыцца, а целам авалодвала млявасць. Цягнула да цёплай печы, каб прытуліцца да яе плячыма і пацягнуцца, размяць ацяжалелыя рукі, але пячэй цёплых не было, і, каб не стаяць на адным месцы, пакуль чакалі ў ваенкамаце сваёй чаргі, Кастусь паціху блукаў па калідоры паміж чырвонаармейцаў. Устрывожаны такім станам, ён пачаў баяцца, што захварэе. Ён

ведаў, што калі захварэе, дык захварэе тыфусам, і таму, калі падышоў да яго Ёська, папярэдзіў:

— Ведаеш, ты каля мяне дужа блізка не хадзі, я, здаецца, хутка буду гатовым.— Ён шырока ўсміхнуўся, але па тым, як неахвотна расходзілася ўсмешка па твары, і па чырвані ў вачах, Ёська дагадаўся, што Кастусю нядобра.

— Ты чаго такі? — устрывожыўся Ёська.

— Нешта нядобра. Зябнуць пачынаю, а ў вушах шум, і галава пачынае кружыцца. Адным словам, у мяне, здаецца, тыфус.— Кастусь зноў паспрабаваў усміхнуцца і на гэты раз сам адчуў, што ўсмешка даецца з болем, пасіляецца ад яе боль у галаве.

— Ну, ты кінь,— не знайшоў Ёська чым супакоіць таварыша.— Можа, вецер надуў у вушы.— І паверыў у сваю здагадку. Быў паверыў у яе і Кастусь, калі выйшлі з ваенкамата на вуліцу, каб ісці ў павятком камсамола. На двары галава астывала і балела не так моцна, але калі прыйшлі ў павятком, Кастусь адчуў сябе зусім разбітым і адразу, нават не сказаўшы ні слова худашчавай вастраносай дзяўчыне, якая была за сталом, апусціўся ў крэсла. Яна здзіўлена зірнула на Кастуся, ды так і не зводзіла нейкі час погляду з яго, змеціўшы ягоны чырвоны, злёгку адутлаваты твар, што было зусім ненатуральным для здаровага чалавека. Яе здагадку пацвердзілі складкі на ягоным ілбе і нерухомы погляд як бы застыглых, ашклянеўшых вачэй.

— Ты, таварыш, нездароў? — запытала яна.

— Чорт яго, нешта не зусім добра, але гэта глупства,— і Кастусь паспрабаваў усміхнуцца. Па ўсмешцы дзяўчына дагадалася, што яму зусім нядобра.

— Табе трэба ў бальніцу, таварыш. На цябе зірнуць страшна.

— Ну, ужо і ў бальніцу! — зноў злёгку ўсміхнуўся Кастусь.— Мы толькі што дэмабілізаваліся, нам дадому трэба, у сваю ячэйку, а не ў бальніцу.

— Дадому ты такі не пойдзеш,— запярэчыў Ёська.— Ты і ног туды не давалачэш.

— Яшчэ і цябе давалаку, гавары вось хутчэй пра справу ды пойдзем.

— А далёка вам ісці?

— Да Пагулянкі, а там яшчэ дваццаць вёрст з гакам.

— Ну, то табе, таварыш, няма чаго ісці ў такую далеч. Табе трэба ў бальніцу.

— У бальніцу я не пайду. Пайсці мне ў вашу баль-

ніцу, значыць, і ногі там выцягнуць. Я прастудзіўся троху. Прыйду дадому, адпачну, і ўсё пройдзе, і ніякая бальніца не патрэбна будзе мне. Добрая справа: к самай вясне ў бальніцу класціся. Ды мне варта дадому прыйсці ды пад'есці добра, дык усе хваробы як рукой здыме.— На гэты раз, паверыўшы, што так і ёсць, як ён гаворыць, Кастусь, падбадзёраны сваімі словамі, усміхнуўся радасней, так што і дзяўчына ўсміхнулася, захацела паверыць у ягоныя словы.

— Ну, глядзі, а то каб не было яшчэ горш.

— Горш не будзе. Заўтра ж сонца засвеціць, вясна,— ён зірнуў у акно, дзе ўсё яшчэ хоць не так, як уначы, кружыцца мяцеліца.— А калі ўжо так спатрэбіцца бальніца, дык я і ў Пагулянцы яе знайду, хоць бліжэй да хаты. А тут ляж толькі ў бальніцу, дык і не ўстанеш ніколі больш. Вы нам дайце для ячэйкі, можа, што ёсць, кніжак хоць якіх, і мы пойдзем.

— Добра, я зараз.— Дзяўчына ўстрасянула падстрыжанымі валасамі, прыгладзіла іх рукой і пайшла некуды ў суседні пакой, адкуль хутка вярнулася з ахапкам кніг, свежых газет і плакатаў. Усё гэта яна паклала на стол, а тады аднекуль з-пад кніг выняла пакет, з яго дастала схему, па якой павінна ўлічвацца ўся работа ячэйкі, і пачала растлумачваць Ёську, як яе запоўніць. За ёю дастала яшчэ адну схему, пасля яшчэ, па якіх павінны давацца справаздачы аб рабоце ячэйкі, трохмесячныя і паўгадавыя, і, змеціўшы, што Ёська з насцярожнасцю паглядае на бяздонны пакет, усміхнулася.

— Больш няма. Там толькі яшчэ інструкцыя, у якой і паказана, як усё рабіць. Вы толькі не пазакідвайце іх нікуды, бо інакш павяткам зусім не будзе ведаць, што ў вас робіцца, ці жывеце вы там.

— Не, не пагубім. Будзе ўсё ў парадку.

Пакет Ёська паклаў сабе ў кішэнь, а кніжкі і газеты — частку ў Кастусёў мяшок, а частку ў свой. За гэтым яны з павяткома пайшлі і яшчэ цераз нейкі час ехалі гасцінцам на шырокіх сялянскіх розвальнях, пазахінаўшыся шынялямі ад ветру.

Гадзіны цераз чатыры яны былі ў Пагулянцы ў Ёськавага дзядзькі і, падмацаваўшыся ў яго такім-сякім полуднем, прымасціліся на сані да Арцёма Піскуна, які ехаў з валасці, і ноччу былі дома ў Шапятоўцы. А назаўтра, троху праспаўшыся з дарогі, Кастусь паспрабаваў падняцца, але калі пайшоў па хаце да лаўкі, каб памыцца, галава закружылася і павяла яго ў бок да печы. Спало-

хаўшыся, ён абапёрся рукой на печ, перачакаў трошку і неяк памыўся, але калі сеў каля стала, галава пачала абвісаць, цягнула легчы, пацягвала, а калі падала маці снедаць, узяў кавалак аладкі, спечанай наўмысля для яго, і не даеў. Паціху падняўся з-за стала і зноў лёг на ложак. Калі падышла да пасцелі маці і зірнула ў твар яму, перапужалася, нават ёмку выпусціла з рук.

— Чаго ж гэта ты, сынок? Ці не захварэў? Можа, прастудзіўся? Можа б, я вады падагрэла з малліннікам, ды напіўся б, а?

У Кастуся галава была цяжкая, і не хацелася скрануць яе з месца, і таму, не павяртаючы воч да маці, пазіраючы ўгору, у столь, ён сказаў:

— Нешта нядобра мне, горка ў роце,— разявіў трошку рот і пачаў ротам дыхаць часта і глыбока, як бы хацеў выдуць з сябе гарачыню, якая апальвала нутро.

— Ды што ж гэта з табой, сынок? — маці паклала на ягоны лоб сваю далонь.— Гарачка ў цябе. Можа, ручнік намачыць у вадзе ды прыкласці?

Пад полудзень прыйшлі хлопцы: Ёська, Самусь Піскун і Ганорык Міхаль. Яны павіталіся з Кастусём і селі каля ложка на лаўцы.

— Вось табе і на! — сказаў Ёська.— А храбрыўся яшчэ. Ты ж глядзі, ненадоўга толькі, а то мы п'еску ўжо новую выбралі, пад вялікдзень будзем рыхтаваць яе. Табе ў ёй ролю прызначылі.

— І харошая п'еска,— падтрымаў Ёську Самусь Піскун.— Як чыталі, з рогату клаліся ўсе.

— Можа б ты, Ёська, мне якую кніжку прынёс пачытаць,— папрасіў Кастусь.— А то так ляжаць надакучыць.

— Добра, я выберу, што найцікавей.

— Вы ж хоць прыходзьце часцей,— папрасіў ён, калі хлопцы сабраліся ісці дадому.

Пасля полудня Ёська зноў прыйшоў да Кастуся і прынёс яму аж тры кніжкі.— Толькі чытай, ды не сумуй,— сказаў ён, кладучы кніжкі на лаўцы, каля пасцелі. Сеў на лаўку і сам.

— Ты думаеш, што я хварэць буду, аж пакуль усе тры прачытаю?

— Зусім не, я на выбар прынёс, якая цікавей. А калі на хваробу разлічваць, дык чытай гэтую,— ён паказаў самую тонкую з кніжак. У гэты час у хату зайшла Аксана Сузонава. З парога яна сказала ў хату агульнае прывітанне, пасля прывіталася за руку з Марыляй, якая ся-

дзела за прасніцай, а ўжо тады павольна, чырванеючы, пайшла да ложка, каб павітацца з Кастусём.

Кастусь ляжаў на спіне, з выцягнутымі на ўсю даўжыню нагамі, так было яму лепш, і толькі да грудзей быў укрыты коўдрай, зверху на якой ляжалі ягоныя рукі. Быў ён у чырвонаармейскай гімнасцёрцы. Каўнер у гімнасцёрцы расплікнуты, і з-пад каўнера відаць белая шыя. Зірнула на шыю Аксана, бліснула з вузкіх шчылін чорнымі вугалькамі воч і пераняла вочы на Кастусёву галаву, на зблытаныя, мяккія, светлыя валасы. Як падала яму руку, Кастусь узяў яе руку і ў сваёй затрымаў на момант, пазіраючы ёй у твар.

— Ну, як вы тут жывеце? Уцягнулі яшчэ каго з дзяўчат у камсамол ці не?

Аксана пачырванела, як адчула гарачую цяплынь Кастусёвай рукі, правяла поглядам па ягоным твары і вызваліла сваю руку.

— Больш ніхто не хоча запісвацца,— адказала яна на запытанне пра дзяўчат.— Баяцца, а каго бацькі не пушчаюць.

— А вашы бацькі не крычаць?

— Нашы прывыклі ўжо. А чаму вы,— Аксана яшчэ раз кінула поглядам на Кастусёў твар,— так рэдка пісалі нам у ячэйку? Як адыходзілі, казалі, будзем пісаць вунь колькі, а пайшлі, дык за паўтара года лістоў дзесяць ці прыслалі.

— Не было як пісаць.

— А хіба вы па нас сумавалі? — умяшаўся ў гаворку Ёська, які да гэтага часу маўчаў.

— Няўжо ж не,— на яго Аксана кінула задзірысты погляд і зразу ж зірнула мелькам на Кастуся.— Яшчэ як сумавалі, вунь Марыля па табе ўсе вочы праплакала.

— Ну, ты пагавары,— пачала бараніцца Марыля.— Сама ты вочы праплакала.

— А яна па кім жа?

— Няхай сама скажа.

Аксана густа пачырванела, адышла ад пасцелі да Марылі і закрыла яе твар рукамі.

— Ты хаця не прыдумай чаго.

— Нашто мне прыдумваць, калі гэта праўда.

— А ну цябе, маўчы... Скажы лепш, куды сёння на вячоркі збярэмся.

— Ай, якая хітрая,— Ёська разрагатаўся.— Адразу ж пра іншае загаварыла.

Аксана азірнулася на Ёську, змеціла Кастусёў белы твар і адвярнулася.— Нічога я не хітрая. Ну, пайду. Давайце сёння ў нас збярэмся, а? Давайце! Я пайду смалякоў насяку, каб на ўвесь вечар хапіла.

— А нам можна прыйсці? — запытаў яе Ёська.

— Калі хочаш, прыходзь, месца на лаўцы хопіць. Можа, раскажаш нам што-небудзь.

— Ага, прыходзь, сапраўды,— падтрымала яе Марыля.

— Калі так — прыйду. Вось шкада толькі, што Кастусь не можа хадзіць. На фронце не здаваў, а тут здаў. Прыйшоў дадому, тут табе толькі ведай гуляй, на вячоркі хадзі, а ён лёг і ляжыць.

— Я пасля сваё адхаджу,— сказаў Кастусь,— як ачуняю.— Гаворачы, зірнуў на дзяўчат і на момант спаткаўся поглядам з Аксанінымі вачыма.

— Ну, пайду. Мне ж трэба яшчэ смалякоў насекці.— І, нічога больш не сказаўшы, яна першай пайшла з хаты.

Дзён цераз сем у Шапятоўцы спынілася, размясціўшыся ў сялянскіх хатах, рота чырвонаармейцаў. Чырвонаармейцы пешшу, пераходамі ішлі да мяжы, куды прызначана была рота, і па дарозе спыніліся для адпачынку ў Шапятоўцы. У той жа вечар Ёська, даведаўшыся, што ў роце ёсць фельчар, пайшоў да камандзіра роты і папрасіў яго, каб ён дазволіў фельчару паглядзець хворага Кастуся. Камандзір ахвотна згадзіўся і адразу ж паслаў чырвонаармейца з Ёськам, каб знайсці фельчара, а яшчэ хвілін цераз дзесяць — пятнаццаць фельчар сядзеў на лаўцы ў Тарэнтавай хаце і гутарыў з жанчынамі, якія сабраліся да Шкробаціхі пасядзець. Быў фельчар нестары яшчэ, нізкарослы, у чырвонаармейскай вопратцы, шапку сваю ён, як прыйшоў у хату, зразу павесіў на сцяне на круку, сам сеў на лаўку, пачаў церці рукі адна аб другую, каб хутчэй нагрэць іх. Калі ж рукі сагрэліся, ён падняўся з лаўкі і, скінуўшы шынель, пайшоў да ложка, на якім ляжаў Кастусь.

— Паднясіце сюды бліжэй лямпу,— папрасіў ён і, узяўшы Кастуся рукой за спіну, пасабіў яму падняцца і сесці. Да ложка падышла з лямпай маці, а за ёю і Ёська, і жанчыны, якія падняліся з лаўкі. Яны абступілі ложак паўкругам.

— Што ж ты, хлопча, здаў,— паспрабаваў жартаваць фельчар. Кастусю дужа захацелася ўсміхнуцца ў адказ яму і нешта сказаць, але кружылася галава, муцілася нешта ўваччу, і ён нічога не сказаў, і не ўсміх-

нуўся, толькі зірнуў угору, у твар фельчара, і, каб не ўпасці на ложак, упёрся ў яго рукамі ў сябе за спіной.

— Покаж, браце, язык. Во так... Ага... На самым сяродку белы, а па краях і канец самы чырвоны... Так...— Узяў у гаспадыні лямпу і павёў ёю ў Кастуся перад вачыма. На лямпу Кастусь спачатку палахліва заміргаў вачыма, а пасля схіліў уніз галаву, каб не бачыць святло.— Так... Вочы чырвоныя, баяцца святла. А галава баліць? Шуміць галава?

— Баліць,— ціхім голасам адказаў Кастусь.— Шум увесь час, як бы што сядзіць у вуху.

— А цяпер, браце, сядзь да мяне спіной. Вось так,— пасабіў Кастусю павярнуцца, падняў да самай галавы ягоную кашулю і ўважліва агледзеў спіну, правёўшы па ёй сваёй рукой.

— Сыпняк у яго,— сказаў ён, павяртаючыся да жанчын.— Сыпны тыфус. Ён даўно ўжо хворы?

— Дзён восем.

— Значыць, цераз чатыры дні крызіс будзе.— Зірнуў на ложак.— А хто тут яшчэ спіць?

— Ды ўсе ж мы,— адказала гаспадыня.— Хата ж такая, што ў ёй дужа не разгонішся.

— Гэта небяспечна. Вы хоць троху ложак ад яго адсуньце. Каб раней, тады б яго ў бальніцу варта было б завезці, але цяпер лепш ужо не чапаць. Дні цераз чатыры відаць будзе. Калі мы не пойдзем яшчэ ад вас, я наведаюся вечарамі.— Фельчар накрыў Кастуся коўдрай і зноў адышоў ад лаўкі.— А як ён спіць, спакойна?

Гаспадыня ўсё яшчэ стаяла на сярэдзіне хаты з лямпай, разгублена пазірала то на фельчара, то на сына. Слоў фельчаравых яна не зразумела і не адказала на іх. Тады суседка кранула яе за плячо.— Ганна! Пытаюць, ці спіць ён? Ці спакойна спіць?

— Які ўжо там сон? Гаворыць усё нешта ў сне, варочаецца. Мой вы дарагі таварыш фельчар. Можа б вы, калі гэта няцяжка, яшчэ наведалі б яго. Дужа ж баюся я...

— Я наведаю, вечарамі буду заходзіць. Цераз чатыры дні міне крызіс, і хлапец ачуняе, вы толькі сцеражыцеся, каб яшчэ хто ў хаце не захварэў.

— Мы, старыя, можа, не захварэем, мы гэта тут во спім,— яна паказала рукой на ложак,— а дачка на палацях спіць.

— Гэта добра, што на палацях. Але і самім трэба сцерагчыся.— Фельчар загаварыў пра тыфус, пачаў тлумачыць жанчынам, як ад яго можна ўберагчыся. Да га-

воркі прыслухоўваўся, лежачы на ложку, і Кастусь. Ні жанчын, ні фельчара ён цяпер не бачыў; пазіраў на чырвоную сцяну, спакайней так было для воч. Ляжаў нерухома, выцягнуўшыся на ўсю даўжыню, і думаў пра фельчаравы словы адносна крызісу. Пра тое, што можна ад тыфусу памерці, ён нават не ўмеў падумаць, настолькі гэта было незразумелым. Думка пра смерць асацыявалася з уяўленнем пра адчуванне, якое было, калі фельчар дакрануўся да яго спіны халоднымі пальцамі сваіх рук. Здавалася, смерць можа прыйсці толькі так, падкраўшыся ззаду, і Кастусь інстынктыўна яшчэ шчыльней туліўся плячыма да падушкі, баючыся павярнуцца да яе тварам. На сцяне ўгары перад вачыма мітусіліся нейкія цені, і, углядаючыся ў іх, Кастусь чуў аднекуль, здалёк нібы, ціхую фельчараву гаворку. «Навука такога яшчэ дасягне,— гаварыў фельчар,— што чалавеку зусім не трэба будзе столькі багата харчоў. Вынайдуць вучоныя такія пілюлі, што праглыне іх адну або дзве чалавек і сыт будзе, зусім сыт будзе, як бы і багата чаго з'есць...» І Кастусь уяўляў, што пілюлі будуць у маленькіх каробачках з кардону, і чамусьці ўяўляў, што абавязкова яны будуць белыя. Яму нават здалося, што такія пілюлі ён дзесьці раней ужо бачыў. Напружваючы памяць, ён прыпомніў, што бачыў іх некалі ў поездзе ў аднаго чалавека, які быў у даўгім штацкім паліце. Ён час ад часу вымаў такую кардонную каробачку з кішэні, даставаў з каробачкі кончыкамі пальцаў кругленькія, як зерні, белыя, як снег, пілюлі і глытаў іх, а пасля запіваў вадою.

З гэтымі думкамі Кастусь задрамаў і не чуў, калі ўсе разышліся з хаты. Прачнуўся ж ноччу і здзівіўся, што ў хаце цішыня і ўся хата запоўнена ружовым святлом, у якім лётаюць сіняватыя іскры. Іскры выляталі на сярэдзіну хаты з-за печы, ад парога, і пасля доўга насіліся па ёй, пакуль ападалі на стол, на падлогу або на ложак. Падалі яны і на яго коўдру. Упадзе іскра і свеціцца сінім агеньчыкам. Каб не згарэла коўдра, ён рукою змятае іскры на падлогу. А якія не можа дастаць рукою, лежачы, скідае, падняўшыся з падушкі. Але іскраў у хаце ўсё больш і больш. Цэлымі табунамі носяцца яны па хаце, вылятаючы з ружовага полымя, якое з'явілася каля парога. Цэлымі табунамі садзяцца іскры на коўдру. Схінаецца над коўдрай Кастусь, змятае іх абеімі рукамі, пасля проста strэсвае іх з коўдры, але яны ляцяць на ложак, што ў ягоных нагах, на якім спяць бацькі, і тады

голасна, на ўсю хату, скідаючы з сябе коўдру, ён крычыць:

— Пажар! Тата! Пажар!..— а сам спуджана падае на падушку, адчуўшы за плячыма холад, і пальцамі драпае сяннік, шукае коўдры і яшчэ крычыць аб пажары. Перапалоханыя бацькі злезлі з ложка. Бацька стаіць над ім, укрывае яго коўдрай і супакойвае, а побач стаіць і дрыжыць уся маці. У руцэ ў яе кварта з вадой, якую яна сама не ведае для чаго ўзяла, як закрычаў Кастусь. Ад страху дрыжыць яна ўся і дрыжыць рука, у якой кварта з вадой. Вада боўтаецца ў кварце і патроху выліваецца ёй на ногі. Ад ног па целу падымаецца холад. Калі холад дабіраецца да плеч, у яе самі пачынаюць стукацець зубы.

— Што ж гэта, божа мой...— шэпча яна і не можа скрануцца з месца, каб паставіць на лаўку кварту, якая ёй зусім не патрэбна. Шэпт яе чуе Кастусь і, паказваючы рукой у парог, кажа:

— Пажар! — там гарыць, патушыце...

— Нічога, сынок, не гарыць. Табе здалося.— Бацька хавае Кастусёвы рукі пад коўдру.— Засні, хоць троху.

— Патушы, там гарыць,— настойвае Кастусь і падымае з падушкі галаву, каб паказаць, дзе гарыць.

— Добра, я патушу, зараз патушу, а ты засні. Заплюсні вочы і засні.

Кастусь заплюсквае вочы і ляжыць нерухома і ціха. Асцярожненька на цыпачках ідзе з месца маці і ставіць на лаўцы каля вядра кварту, а сама становіцца плячыма да печы, каб сагрэцца, і стаіць так ледзь не да самага ранку. Адтуль, з-за белай печы, непрыкметная маці, яна ў белай кашулі, пахвілінна пазірае на Кастусёў ложак і прыслухоўваецца, ці не варочаецца ён, ці не трэба яму чаго. На запечку нерухома сядзіць, прытуліўшыся плячыма да печы, бацька. Ён доўга сядзіць моўчкі, пасля паціху гаворыць жонцы, каб яна легла спаць, а ён сам пасядзіць, бо выспаўся. Але жонка таксама не ідзе спаць, і абодва яны не спяць, і абодва разам на золку бачаць, як, прачнуўшыся, доўгі час нерухомымі, як бы ашклянеўшымі вачыма пазірае Кастусь на коўдру, якая прыўзнята і скамечана ў яго каля ног. Нейкі час пазіраў так Кастусь, пасля правёў па вачах рукой, выцер іх, зноў зірнуў на коўдру і, раптам ірвануўшыся целам да сцяны на падушку, нагамі шыбануў з сябе на падлогу коўдру.

— Бомба! — крыкнуў ён.— Дыміцца! Зараз разарвецца! А-ай!..— закрываючы твар рукамі, мятнуўся з ложка, але бацькавы рукі ў час падхапілі яго і не далі ўпасці

на падлогу. На гэны раз прыпадак паўтарыўся тры разы. І калі Кастусь супакоіўся зусім, бацькі не адыходзілі ад ложка, схіліўшыся над сынам, стаялі каля яго. Бацька як накрыў Кастуся, так і стаяў, трымаючы ў руцэ коўдру, а маці рукою лёганька гладзіла коўдру на выцягнутых на ўсю даўжыню сынавых нагах, а другой рукой пахвілінна выцірала вочы.

У прыпадках прайшло пяць дзён. У гэныя дні Тарэнтаву хату па некалькі разоў наведваў фельчар, правяраючы хворага. На шосты дзень раніцою, распытаўшы бацькоў пра хворага, фельчар супакоіў іх:

— Цяпер ён будзе жыць. Крызіс мінуў. Гэта самае галоўнае, каб крызіс мінуў.

— Дай жа вам бог,— гаспадыня прыпынілася была,— хоць, можа, вы і не верыце ў бога, але няхай ён дасць вам здароўечка. Вялікае дзякуй вам.

— Не веру, але хай дае здароўя, калі мае, калі вы ўжо так хочаце. Здароўе мне патрэбна, гэта добрая рэч.

І ў той жа дзень, пасля полудня, Кастусь пачуў, як спявае маці. Пела яна ціха, упаўголаса, думала, што Кастусь спіць, і баялася разбудзіць яго. Пела пра сваю маладосць, а можа, і пра сынаву маладосць, за якую так перабаялася за ўсе гэныя дні.

За гарою, каменнаю,—

пела яна,—

Галубы лятаюць.
Не зазнала раскошы я,
Ўжо леты мінаюць.

Запрагайце, хлопцы, коні,
Коні вараныя.
Ды давайце даганяці
Леты маладыя.

Даганялі і дагналі
На кляновым мосце.
Вярніцеся, леты мае,
Ды да мяне ў госці.

Не вярнемся, не вярнемся,
Паляцім за мора,
Бо не ўмела шанаваць нас,
Як свайго здароўя...

Пяючы, зірнула на ложак, змеціла, што сын не спіць, і перастала пець, а паднялася і пайшла да яго, каб па-

правіць падушку.— Вышэй галаве будзе,— сказала яна,— лепш.

Кастусь падцягнуўся вышэй на падушку і рукой пацёгся да лаўкі, на якой ляжалі прынесеныя Еськам кнігі, і адну з іх узяў, хацелася паспрабаваць чытаць. Але калі паднёс да вачэй кніжку, перад вачыма ўсё засумяцілася, а літары і словы ў кніжцы замітусіліся па белай паперы, і разабраць слоў ад гэтага нельга было. Млела і рука, не хацела трымаць кніжкі, і, паклаўшы руку з кніжкай на коўдру, на калені сабе, ён доўга ляжаў так, здзіўлены сваёй кволасцю, а пасля паклаў кніжку на месца.

Яшчэ цераз дзён шэсць, калі Кастусь мог ужо сядзець на ложку, абапёршыся спіной да сцяны, захварэла маці. Пра тое, што маці хворая, першым і даведаўся Кастусь. Маці хацела паставіць раніцою ў печ чыгун з бульбай. На руках данесла яго да прыпечка, а як узяла на вілкі і падняла, каб падаць яго далей у печ, рукі задрыжалі, закружылася галава і чыгун перавярнуўся ў печы на самай чарэні. Падняць чыгуна маці ўжо не здолела. Галава так закружылася, што, каб не ўпасці, яна пасунулася, трымаючыся рукамі за печ, да пасцелі і, як села, паклала на падушку галаву, дык так і ляжала, слухаючы, як сіпіць у печы на чарэні разлітая з чыгуна вада. З гэтага часу маці з ложка не ўставала, і ў хаце гаспадарылі Марыля і бацька.

Дзён цераз сем пасля таго, як злегла ў ложак маці, падняўся ўпершыню з ложка Кастусь і паспрабаваў хадзіць па хаце. Ён быў настолькі кволым, што доўга не мог устаяць на нагах і амаль увесь дзень сядзеў на лаўцы каля акна, любуючыся на сонечны, блізкі да вясновага, дзень. На двары яшчэ ляжаў снег, толькі ў полі пакazaліся чорныя лапікі голай зямлі, але так свяціла сонца, так дружна, цэлымі цуркамі, цяклі са страхі кроплі вады, так дружна чырыкалі на двары на сметніку вераб'і, што вясна здавалася зусім блізкай. І каб адчуць яе яшчэ больш, Кастусь ускінуў на плечы світу і выйшаў на двор. На ганку яго адразу асляпіла сонца, і галава ажно закружылася ад чыстага паветра. Каб пастаяць на сонцы, накіраваўся пайсці за вугал хаты, але з-за вугла зразу падуў мацнейшы вецер, і ён ледзь не ўпаў. Утрымаўся на нагах толькі таму, што ўхапіўся рукамі за драбіну, якая стаяла каля хаты, і, адпачыўшы, паціху пайшоў назад у хату, несучы з сабою на вуснах горкую ўсмешку. Смяяўся з сваёй такой вялікай кволасці. Затое

яшчэ дзён цераз сем ён зусім амаль не адчуваў кволасці і мог ужо спраўляцца з працай каля двара.

Ачуняўшы канчаткова, Кастусь аддаўся не новым ужо для яго думкам. Хутка вясна. Не ўгадаеш, калі яна пройдзе, а там праміне і лета. З восені яны з Еськам парашылі абавязкова паехаць куды-небудзь вучыцца. Калі сур'ёзна брацца за гэта, значыць, трэба брацца з самай вясны, каб даведацца, дзе што ёсць, куды кінуцца. Сам Кастусь марыць пра такую школу, пасля якой мог бы ён стаць «тэхнікам па электрычнай справе», так ён найменаваў сваю спецыяльнасць, да якой і марыў дайсці. Захапленне электрычнасцю прыйшло да Кастуся раптам пасля таго, як, будучы ў арміі, ён у адным з прыфрантавых гарадоў схадзіў з групай чырвонаармейцаў на экскурсію ў фізічны кабінет мясцовага вучылішча, дзе настаўнік фізікі дэманстраваў ім вопыты па электрычнасці. Пасля гэтага чорныя, што круцяцца ў розныя бакі, кругі, з наклеенымі на іх бліскучымі паперкамі, і ўспышкі электрычных іскарак засталіся ў ягонай памяці назаўжды, і імі як бы азначыўся Кастусёў шлях у будучыню. І хоць бачыў Кастусь гэны свой шлях яшчэ толькі ў марах, быў ён асляпляюча яркім і вабіў і клікаў за сабою, абуджаючы ў ім дрымотныя, невядомыя яшчэ самому сабе, сілы. Адтаго праменні сонцавы, якія паблісквалі на дрэвах, на дарозе і час ад часу краналіся ягонага твару, прабіраючыся згары праз гушчу хвой, здаваліся Кастусю бліскамі электрычных сіл, рассыпаных па-над зямлёю, і ўжо зусім зачараваны і аслеплены імі, як выйшаў з лесу, Кастусь з зажмуранымі вачыма сеў на капец, што стаяў пры дарозе. Там доўга сядзеў ён пад сонцам, схаваны лесам ад ветру, аддаўшыся марам.

## ПАДЗЕЯ ДВАНАЦЦАТАЯ

Як і тры гады таму назад, калі шапятоўская ячэйка выпраўляла на фронт трох лепшых сваіх хлапцоў, цяпер зноў у тым жа самым пакоі сход, якім ячэйка выпраўляе хлапцоў у далёкі, нікім з хлапцоў нябачаны, горад Маскву. Той жа стол, моцны, шыраканогі, на старым сваім месцы каля глухой сцяны, непадалёк ад акна ў другой сцяне. За сталом сакратар ячэйкі Міхаль Ганорык. Заглядаючы ў паперкі, разгорнутыя на стале, ён робіць даклад.

Міхаль доўга, не спяшаючыся, чытае надрукаванае ў газеце, якую ён дастаў з-пад паперак, а пасля яшчэ пе-

раказвае прачытанае сваімі словамі. Паклаўшы, па звычцы, падбародкам галаву на свае кулакі, Кастусь дзівіцца, як складна і проста гаворыць Міхаль. Час ад часу ён павяртае галаву да Аксаны, якая сядзіць побач з ім і шэпча:

— Маладзец Міхаль, сапраўды маладзец. Ён гэта на якіх курсах быў?

— На палітасветных. Але колькі ж ён быў там, усяго ж тры месяцы. Вось вы як паедзеце, дык невядома калі і вернецеся.

— Вернемся, а то дзе мы дзенемся.

— Неяк мне страшна, калі я думаю, што паедзеце вы. Мне здаецца, што зноў нехта адзін з вас не вернецца, як тады Рыгор.— Аксана пазірае то ў твар яму, то на стол і мігае пачырванелымі вачыма.

— Ну, што ты, цяпер жа мы не на фронт едзем.

— І я ведаю, што не на фронт, але неяк страшна мне, як успомню пра Рыгора. Вельмі шкада мне яго.

— Усім шкада, ды нічога ж не зробіш. У той дзень нашых вельмі багата пабілі. А Рыгор жа на маіх вачах памёр; мне дакументы свае аддаў і скончыўся. Я пасля некалькі дзён як непрытомны хадзіў і, каб не Ёська, можа, звар'яцеў бы. Дужа неяк пасля гэтага страшна зрабілася, смерці, як ніколі, баяўся... А цяпер чаго ж баяцца? Рабфак гэта табе не фронт...— Ён усміхаецца, і за ім, патупіўшы вочы ў стол, усміхаецца Аксана.

Пытанне пра пасылку на вучобу ў рабфак пры маскоўскім Ламаносаўскім электратэхнічным інстытуце стаяла апошнім у павестцы дня сходу. Калі дайшла чарга да гэтага пытання, Міхаль растлумачыў, што з Масквы з рабфака атрымана паперка на імя Кастуся Шкробата і Ёські Гобермана, якім ячэйка і дае сваю рэкамендацыю.— Даём мы ім ад бюро ячэйкі такія прыблізна рэкамендацыі, я прачытаю рэкамендацыю на Кастуся. Вось... «Шапятоўская ячэйка КСМБ рэкамендуе для паступлення на рабфак Ламаносаўскага электратэхнічнага інстытута члена камсамола з дваццаць трэцяга сакавіка тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года, або з першага дня арганізацыі ячэйкі КСМ, таварыша Кастуся Шкробата, як прыкладнага і вытрыманага камсамольца і зусім палітычна надзейнага грамадзяніна Савецкай рэспублікі. Таварыш Шкробат К. у дзевятнаццатым годзе, па мабілізацыі камсамола, добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію на фронт, дзе прабыў да сканчэння грамадзянскай вайны, што і сведчыцца. Сакратар бюро ячэйкі КСМ такі-

та, члены бюро ячэйкі КСМ такія-та...» — Міхаль паклаў паперку, на якой была напісана рэкамендацыя, на стол.— Згодны з такой рэкамендацыяй?

— Згодны.

— Усё правільна.

— Тады, хто за такую рэкамендацыю, прашу галасаваць. Так. Усе. А цяпер рэкамендацыя Гоберману Ёську.

Рэкамендацыя на імя Гобермана Ёські слова ў слова паўтарала рэкамендацыю Кастусёву.

На гэтым сход скончыўся, але перад тым, як зачыняць яго, Міхаль памеркаваў аб нечым, стоячы каля стала, і пасля нейкім, па-незвычайнаму ўрачыстым і чамусьці сарамлівым голасам, прыпомніўшы свой выпускны вечар на павятовых палітасветных курсах, сказаў:

— У дзевятнаццатым годзе, прыблізна ў гэткі ж час, мы выпраўлялі трох сваіх лепшых камсамольцаў на фронт бараніць Савецкую рэспубліку. Абавязак гэны таварышы нашы выканалі з гонарам. Адзін з іх, вядомы ўсім вам таварыш Жук Рыгор, з фронту не вярнуўся, аддаўшы сваё жыццё за рэвалюцыю. Я прашу ўшанаваць яго памяць уставаннем і спець пахавальны марш.— І сам моўчкі схіліў галаву над сталом так, каб ніхто не змеціў на вачах слёзы, якія немаведама адкуль узяліся. Паціху, але разам падняліся з месц камсамольцы, і тады з пакоя паплыла на двор ціхая, поўная тугі пахавальная песня па таварышу.

Калі песня змоўкла і камсамольцы асцярожна селі на месцы, Міхаль хвіліну памаўчаў, стоячы з патупленымі ў стол вачыма, пасля перамог сябе, зірнуў на камсамольцаў і зноў загаварыў.

— А цяпер,— сказаў ён,— мы выпраўляем нашых лепшых камсамольцаў у Маскву вучыцца. Хто з нас або з нашых братоў мог дзе вучыцца пры старым рэжыме? Тады вучыліся толькі сынкі ды дочкі буржуяў ды панкоў, а рэвалюцыя нам у навуку дзверы адчыніла, як і ва ўсё жыццё адчыніла дзверы рабочым і сялянам. Значыць, не дарэмна нашы таварышы за рэвалюцыю на фронт ішлі і не дарэмна за яе таварыш наш аддаў сваё жыццё. На гэтым дазвольце мне скончыць і абвясціць сход зачыненым.

А хвіліны цераз дзве камсамольцы, усім гуртам, як ішлі, стаялі на самай сярэдзіне таполевай прысады і дзівіліся ў поле. Полем да рэчкі рушыў вялікі натоўп мужчын і жанчын. Спачатку камсамольцы падумалі,

што зноў, як і пяць дзён таму назад, сяляне спраўляюць у полі малебства, каб пайшоў дождж, але, прыгледзеўшыся да натоўпу, яны не змецілі ў ім ні прошчы, ні крыжа. Гэта здзівіла іх, і, каб даведацца, у чым там справа, камсамольцы ўсе разам пайшлі да сялян.

Каля рэчкі натоўп, на чале якога ішлі Мікіта Шкробат і Арцём Піскун, ды яшчэ дзевяностагадовы бацька Давыдзюка Ахрэма і такога ж узросту Піскуноў бацька, спыніўся ў такім месцы, дзе акурат да самай рэчкі амаль даходзіла поле, засеянае ярыной. Каля пяці тыдняў мінула з таго часу, як прайшоў над шапятоўскім полем невялічкі дождж. З таго часу ўсе дні над Шапятоўкай стаіць спакойнае ў сваёй сіняве, чыстае неба. Дзесьці бокам з глухімі грымотамі або без іх, паказаўшыся з-за небасхілу толькі краем сваім, праплываюць хмары. Кожны вечар хмары з усіх бакоў з-за небасхілу паказваюцца, неба над небасхілам мутнее, усё паказвае як бы на тое, што ноччу ці да ранку збярэцца дождж, а раніцою зноў неба чыстае і ў ім гарачае сонца. Ад сонца перасохла зямля на полі, патрэскалася і ляжыць голымі камякамі, ашчаціні́ўшыся рэдкімі вузкімі і вострымі калівамі нізкарослай ярыны. Побач з полем паплавамі, як ніколі за гэныя гады сухімі, цячэ Хвошчаўка. Перасохла і яна, апала, агаліла крутыя свае берагі і прысмірнела.

Ад натоўпу аддзяліліся Арцём Піскун з Мікітам Шкробатам і знеслі па беразе да рэчкі, дзе не так крута, саху, якую прынеслі з сабою. Следам за імі Давыдзюк Ахрэм знёс туды ж ярмо і пастронкі. Тады адышлі ад натоўпу яшчэ самыя старыя з усіх бацькі, Давыдзюкоў і Піскуноў, апранутыя ў чыстую бялізну, packasвалі за калені ажна ісподнікі на тонкіх, худых нагах і асцярожна палезлі з берага да ракі. Там ім надзелі на галовы ярмо, прывязалі іх да сахі пастронкамі, і нясмелымі дрыглівымі нагамі яны пайшлі ў ваду, а каля сахі стаў, гэтаксама закасаўшы штаны за калені, Арцём Піскун.

Над берагам, расцягнуўшыся паскай, стаялі сяляне і сялянкі, дарослыя, моладзь і малыя дзеці, пазіралі на раку, упоперак якой працягвалі саху, запрэжаныя ў яе пастронкамі, сівабародыя дзяды. За сахой, павольна і ўрачыста ступаючы ў ваду босымі нагамі, трымаючы яе за ручкі, хадзіў Арцём Піскун, а над берагам, наперадзе ад натоўпу, без шапкі стаяў сам Давыдзюк Ахрэм. Калі дацягвалі дзяды саху да другога берага і павяр-

таліся, Давыдзюк голасна крычаў, звяртаючыся да Арцёма:

— Памагай бог, чалавеча! Што ты робіш?

— Дзякую, добры чалавек! — гэтак жа голасна крычаў з ракі Арцём.— Раку вось ару, засяваць дабром буду.

Тры разы перацягвалі ад берага да берага цераз раку саху дзяды, замуцілі ў рацэ мелкую ваду, і тры разы гэтак пераклікаліся Давыдзюк Ахрэм з Арцёмам. Пяць дзён таму назад шапятоўцы былі прывезлі да сябе з лесавіцкай царквы папа і хадзілі з ім па полі, служылі малебен, спадзеючыся на дождж. Але прайшло колькі дзён, а дажджу не было, і тады, змарыўшыся чакаць яго, прыпомнілі старыя шапятоўцы даўні звычай дзядоў сваіх і павалаклі на рэчку саху, каб тры разы перааараць раку сахой па дну ўпоперак ад аднаго берага да другога, каб гэтым папракнуць свайго бога за тое, што не дае ён дажджу.

Над берагам стаялі моўчкі старыя мужчыны і сялянкі, напружана, уважліва сачылі, як пераворвае раку Арцём, а за іхнімі плячыма, перакідваючыся ціхімі шэптамі, цясніліся маладзейшыя жанчыны, стрымліваючы дзяцей, якія лезлі да ракі. Убаку троху, парамі, стаялі хлопцы і дзяўчаты, якія наглядалі за тым, што рабілася на рацэ, і кідаліся жартамі па адрасу Арцёма, які, ходзячы па рацэ, высока ўздымаў ногі і плюхаў, апушчаючы іх у ваду. Да моладзі далучыліся і камсамольцы. Кастусь рассунуў наперадзе дзяўчат, абняў іх дзвюх зразу і, прасоўваючы паміж іхніх сваю галаву, дзівіўся:

— Вой, хлопцы, дзіва! Арцём на дзядах рэчку арэ: зусім ужо здзяцінеў.— Моладзь зарагатала. На рогат азірнуліся старэйшыя, але нічога не сказалі.

Тым часам з рэчкі вылезлі дзяды, мужчыны вынеслі з рэчкі саху і ярмо, і, пагаманіўшы над берагам, натоўп не дружна пачаў разыходзіцца. І тады змецілі ў натоўпе Міхалку Хвойчыка. Убачыўшы камсамольцаў, ён правёў рукою па сваіх даўгіх вусах, як бы выклікаючы гэтым рухам рукі ўсмешку, і, шырока, на ўвесь свой вуглаваты твар, усміхаючыся, пайшоў да іх, прытрымліваючы адной рукой гармонік, які вісеў на плячах у яго.

— Ну і дзіва ж! — сказаў, падыходзячы.— Як радзіўся, такога яшчэ не бачыў я. Што гэта яны рабілі?

— Бога дакаралі, чаму дажджу не дае.

— Фу ты, чорт іх!— Хвойчык зарагатаў.— А я стаяў, вылупіўшы вочы, і не разумеў, чаго яны ў тую рэчку

лезуць, на што дзядоў тых няшчасных мучаць. Ніколі ж я пра гэта не чуў. Паскакаць, дзеўкі, хочаце? — звярнуўся ён да моладзі.

— Пайграй, дык паскачам.

— Тады хадземце да клуба.— Міхалка зняў з пляча гармонік, узяў яго ў рукі і пайшоў з месца, шырока расцягнуўшы яго. Спрытныя тонкія пальцы ягоныя прабеглі па жаўтаватых гузіках галасоў, і гармонік, задзіраста ўскрыкнуўшы, зайграў барыню. Нехта за гармонікам пачаў падпяваць, і прыпеўка, як і гармонікавы галасы багатыя, была вясёлай, задзірастай.

На што барыні чапец,
Любіць барыню купец...

І за гэтым і голас спевака, і гармонікаў голас ласкава так, што аж уяўлялася, як песціць купец барыню, вымаўлялі:

Ба-а-рыня ты мая,
Суда-а-рыня ты мая...

Натоўп, які ішоў па дарозе наперадзе, пачаў рассыпацца. Старэйшыя пайшлі дадому ў вёску, а хто маладзей спыніліся, пачакалі моладзь і следам за ёй пайшлі прысадай на былы панскі двор, да камсамольскага клуба. Па дарозе Кастусь непрыкметна прытрымаў трошку Аксану і пайшоў поруч з ёю.— Я папрашу Міхалку карагод іграць, а ты паскачаш. Добра? Ты такая прыгожая, як на кругу ў карагодзе ідзеш...

— А так непрыгожая? — Аксана бліснула на яго вугалькамі воч.

— Вось табе і на, ледзь не папаўся я. Прыгожая і так, ого, але тады яшчэ прыгажэй.

— Так і кажы! — пагразіла яму Аксана пальцам.

— Так і буду казаць. А ты паскачаш? Для нас... Бо калі ж мы яшчэ цябе ўбачым... паскачаш?

— Добра...

На двары, як размясціліся ўсе на лаўках, вынесеных з клубнай залы і Міхалка сыграў першую польку, Кастусь пашаптаўся з ім, а тады выйшаў на сярэдзіну круга.

— А цяпер я прапаную, каб Міхалка сыграў нам «За рошчаю зеляной». Згодны?

— Згодны!

— Іграй!

— На круг Аксану!..

— Выходзь, Аксана!

— Не саромейся!

— Выходзь, Аксана,— папрасіў і Кастусь.— Міхалка, давай! — А сам узяў за руку Веру і павёў у круг карагод састаўляць. За ім сталі ў круг парамі хлопцы і дзяўчаты. Выйшла на круг і Аксана і з-пад сарамліва апушчаных вастракрылых брывей зірнула на Кастуся. Міхалка ўзняў галаву, ледзь-ледзь назад яе закінуў, пазіраючы ўгору, і заіграў, і адразу, паклаўшы левую руку, адстаўленую локцем убок, на бядро сабе, пайшла па кругу, у сярэдзіне карагода, Аксана. Яна ішла з паднятай угору правай рукой, у пальцах якой трымала белую насоўку, калыхала яе па ветры над галавой і, то набліжаючыся да карагоднага круга, які ішоў парамі насустрач ёй, то аддаляючыся ад яго, як бы клікала за сабою лепшага ў кругу хлопца. Клікала, завабляючы яго песняй.

За рошчаю зяляной
Пасеялі дзеўкі лён...

Голас у яе чысты, лёгкі, і песня гэткая ж лёгкая і гуллівая, як бліскучыя чорныя яе вочы. Аксана запявала, і не паспявала яна змоўкнуць, яшчэ цягнула сваё даўгое звінючае «лё-о-он», як скранаўся з месца карагодны круг, які быў прыпыніўся на момант, і ўсімі галасамі падхапляў песню, і, спяшаючыся, паўтараў апошнія яе словы, і, як і Аксана, доўга цягнуў на ўсе галасы тое ж звонкае «лёо-о-он», а Аксана хутчэй ішла па кругу, кідаючы на хлапцоў погляды, і, пераняўшы на ляту песню, гаварыла песняй, несучы яе па кругу:

Пасеяўшы, палолі,
Белы ручкі калолі...

І карагод зноў падхапляў песню:

Калолі, калолі,
Белы ручкі калолі...

Аксана ішла па кругу, лёганька махала над галавой насоўкай, але ўжо не кідалася поглядамі на хлапцоў, несла погляд, патуплены ў зямлю. Хлопцы ж ад гэтага яшчэ мацней стукалі нагамі аб звонкую зямлю, ласкава ўсміхаліся ёй, спадзеючыся на яе выбар, на тое, што заспявае зноўку, падыдзе, махне перад тварам хустачкай, клікне за сабою ў круг.

Панадзіўся белы конь,
Памяў, пацёр дзеўкам лён...

Аксана прыпынілася перад Кастусём, сарамліва зірнула ў вочы яму і, нібы гэтым хацела адагнаць сваю сарамлівасць, хустачкай-насоўкай дакранулася да Кастусёвага твару. Кастусь звёў за спіной у сябе руку Верыну і дзяўчыны, якая была злева ў яго, каб замкнуць гэтым карагодны круг, а сам, гэтак жа як і Аксана, паклаўшы толькі на бядро правую руку, пайшоў следам за ёю. Два разы абышоў ён круг, даганяючы яе, пасля ўзяў узнятую ўгору яе руку і так павёў за сабою па кругу пад гуллівую звонкую песню.

А позна ўвечары таго ж самага дня, цалуючы на развітанне Аксану ў вусны, Кастусь прасіў:

— Ты ж пішы толькі, часцей пішы... Добра?

— Добра,— згаджалася Аксана, не здымаючы рук з ягоных плеч.— І ты ж пішы. А як прыедзеш узімку на вакацыі, зноў карагод наладзім...

— І ты выбераш мяне?..

— Цябе... Толькі цябе! — Сашчаперыла рукі на ягонай шыі, ірванула да сябе ягоную галаву, звонка пацалавала ў губы і, вырваўшыся ад яго, пайшла на свой двор. Ад самага парога, смеючыся, вярнулася, рукой паманіла пайсці за сабою да парога, а там зноўку абхапіла рукамі Кастусёву шыю, шчыльна прыхінулася да яго целам і, зажмурыўшы вочы, пакорліва паднесла вусны для пацалункаў.

Самым ранкам назаўтра роснай сцежкай Кастусь, а з ім Ёська Гоберман пешшу ішлі з Шапятоўкі на станцыю, каб адтуль паехаць у далёкі, вялікі горад Маскву.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## ПАДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Прафесар вяртаўся з участка. Заняты пытаннямі, над якімі працавала хімічная лабараторыя апошнія дні, ён зусім не заўважыў, як падышоў да службовага пасёлка. Гэтак мінуў бы ён і самы пасёлак, каб не кінулася яму ў вочы ледзь прыгорбленая постаць высокага танклявага мужчыны, які стаяў побач з дырэктарам торфазавода Лёйкам. Прафесару здалося, што некалі ён дзесьці сустракаў гэтага высокага мужчыну, і ён прыпыніўся, каб уважлівей разгледзець яго.

Прафесару прыпомніўся адзін са шматлікіх завулкаў вялікага горада. Завулак той быў асабліва шумным і ад чалавечых галасоў, і ад шоргату ног, бо тратуарамі рушыў бясконцы струмень пешаходаў, і ад аўтамабільных сірэн. На тратуары, каля высокай глухой сцяны, стаяў скрыпач. На плячах у скрыпача было паднашанае даўгое паліто. Каля ног на тратуары ляжаў футляр ад скрыпкі, шэры, аблезлы, і на ім шапка, у якой ляжала некалькі медзякоў. У скрыпача валасы былі гладка, акуратна прычасаны, і ўвесь ягоны выгляд паказваў на збяднелага інтэлігента. Ён іграў, хоць скрыпкі амаль зусім не чуваць было за вулічным гоманам, і кідаў на пешаходаў незадаволеныя, злаславыя погляды. Рэдкі з іх прыцішаў крокі, каб сунуць у кішэнь руку і, намацаўшы там дробязь, кінуць яе ў шапку скрыпачу. Большасць проста не звярталa на скрыпача ўвагі, а некаторыя толькі здзіўлена пазіралі на яго і абміналі, нічога не даючы яму, ды яшчэ дзеці часам спыняліся каля яго, каб паслухаць, як ён іграе, і падзівіцца на ягоныя гамашы з ашчэранымі насамі. Прафесар нічога не кінуў у шапку скрыпачу. Ён не зрабіў гэтага, бо выгляд скрыпача абразіў яго. І ён хутка запамятаў бы скрыпача, каб не напаткаў яго ў той жа вечар у аптэцы.

На двары, асабліва вечарамі, зусім холадна, і скрыпач зайшоў у аптэку грэцца. Стаяць у аптэцы без ніякай справы не дазвалялася, і ён стаў у чаргу на атрыманне зелля. Пад пахай левай рукі ён трымаў футляр са скрыпкай, а правую пахвілінна засоўваў у кішэнь падранага свайго паліто, адшчыпліваў пальцамі кавалачкі хлеба, клаў іх непрыкметна ў рот і жаваў. Так пасоўваўся ён з чаргой наперад, аж пакуль не засталося перад ім усяго чатыры чалавекі. Тады ён сказаў нешта жанчыне, што стаяла пасля яго, а сам выйшаў з чаргі і прайшоў на другую палову аптэчнага памяшкання. Пастаяўшы там хвіліны дзве, ён зноў вярнуўся і стаў у чарзе апошнім. На гэты раз яго хутка заўважыў правізар і папрасіў пайсці з аптэкі.

— Выйдзіце з чаргі,— сказаў ён,— і ідзіце. Вам тут няма чаго рабіць.

— Я пайду, я зараз жа пайду,— адказаў скрыпач.

— Ідзіце, я вас прашу.

— Пайду, пайду, які дзіўны чалавек,— скрыпач азірнуўся на чаргу, якая з цікавасцю слухала ягоную гутарку з правізарам.— Пастаю вось, вазьму, што мне трэба, і пайду.

Пасля гэтага некалькі хвілін яны абодва маўчалі. Правізар выдаваў зелле і ўвесь час сачыў поглядам за скрыпачом, так што таму ніяк нельга было адысці ад чаргі, і, апынуўшыся тварам з правізарам, ён папрасіў цытраваніліну.

— Цытраваніліну для вас няма, ён вам не патрэбен,— сказаў правізар, схіліўшыся да акенца.— Ідзіце лепш з аптэкі, я прашу вас як чалавека.

— Я пайду, зараз жа пайду. Даю вам слова.

Скрыпач адышоў да дзвярэй, як бы збіраючыся ісці на вуліцу, але ў гэты момант у аптэку ўвайшло некалькі новых наведвальнікаў, і, стуліўшыся за імі, скрыпач шмыгнуў за печ, за якой правізар бачыць яго не мог. За печчу ён сеў на лаўцы, усё гэтак жа жуючы хлеб. Цяпер яго ніхто не трывожыў, аж пакуль скончылася чарга. Калі чарга скончылася, правізар выйшаў з-за перагародкі і зірнуў за печ.

— Гэта несумленна,— сказаў ён да скрыпача, нервова цярэбячы маленькую, абстрыжаную сваю бародку.— Я вас прасіў. Вы сказалі, што пойдзеце, і не пайшлі. Калі не пойдзеце і зараз, я пайду званіць у міліцыю. Ідзіце ж. Неадкладна.

Прафесар увесь час сачыў за скрыпачом і пазнаў у ім

чалавека, якога сустракаў некалі раней, яшчэ напярэдадні вайны. Калі скрыпач падняўся з лаўкі і пайшоў на вуліцу, прафесар пайшоў следам за ім.

— Мне здаецца, што я сустракаў вас раней,— сказаў прафесар.

— Мяне? — скрыпач спыніўся і павярнуўся тварам да прафесара.— Можа быць, вельмі можа быць. Мне таксама здаецца, што я дзесьці бачыў вас. Так, так, я памятаю вас, прафесар.

— Я хацеў бы запытаць вас, чаму вы так вось?..— сказаў прафесар.— Хіба для вашай прафесіі няма працы?

— Вы хочаце ведаць, ці ёсць праца аграному. Але гэта не мая прафесія.—Скрыпач як бы засаромеўся.—Тое было выпадкова. А чаму я так? — Скрыпач агледзеў сябе і іранічна ўсміхнуўся.— Калі б я быў аграномам, я не быў бы ў такім стане, але я не аграном, я работнік мастацтва.

— Вы прафесіянал па скрыпцы?

— Не. Скрыпка таксама выпадковае. Сутнасць мая ў паэзіі, і, бясспрэчна, калі б я не быў сумленным у адносінах да сваіх пераконанняў, я лёгка мог бы жыць, зарабляючы на вершах, услаўляючы вершамі савецкія дні.— Пры гэтых словах скрыпач неяк падазрона зірнуў на прафесара.— Але я не належу да людзей, якія лёгка мяняюць свае пераконанні, і таму я вось такі.

— Але мне здаецца, што вашыя пераконанні не вымагаюць, каб вы жылі так. Гэта не варта інтэлігента. Не мяняючы сваіх пераконанняў, вы ўсё ж маглі працаваць, як паэт, каб жыць.

— Працаваць? Для каго? — скрыпач ганарліва ўскінуў галаву.— Для іх?

— Не хочаце для іх, рабіце для мастацтва, для паэзіі.

— Ха-ха! Вы нічога не разумееце, паважаны прафесар. Тое, што вы раіце мне, можна раіць чалавеку вузкай спецыяльнасці, а не паэту. Сутнасць паэзіі, як мастацтва, у яе ідэйнай цэльнасці. Паэтам не можа быць чалавек раздвоены, які мысліць не так, як гаворыць у вершах. Рабіць так, значыць, хлусіць перад самім сабой.

— Я не хачу з вамі спрачацца. Але, пакольki я прыпамінаю, вы пісалі ўжо і тады, да рэвалюцыі, і аднак жа служылі ў земстве і служылі абшарніку, такому зусім не перадавому чалавеку, як Пілацееў. Я не думаю, што гэта адпавядала вашым пераконанням?

Скрыпач са злосцю сунуў абедзве рукі ў кішэні паліто.

— Паколькі мне прыпамінаецца,— у голасе скрыпача пачулася іронія,— вы, паважаны прафесар, сябравалі з абшарнікам Пілацеевым?

— Гэта не зусім правільна.— Гэтак жа з іроніяй адказаў прафесар.— Я сябраваў з ім, але я ніколі не пагаджаўся з ягонымі перакананнямі, я не быў ягоным паслядоўцам.

— А я быў паслядоўцам праграмы дэмакратычнага ператварэння Расіі і такім застаюся.— Скрыпач пагардліва зірнуў на прафесара. На гэтым яны развіталіся, і з той пары прафесар Ягуплу не сустракаў больш. А цяпер ён прызнаў Ягуплу ў танклявым, які стаяў з Лёйкам. Канчаткова ён пераканаўся, што не памыляецца, калі Лёйка павёў мужчыну да сябе на кватэру. Ішоў той, нізка схіляючы бокам галаву, павяртаючы яе тварам да Лёйкі, калі слухаў, як гаворыць той, або як сам хацеў што-небудзь сказаць. Гэта быў ён, Ягупла, былы земскі аграном. Адгадка на момант вярнула прафесара ў мінулае і гэтым адначасова абрадавала яго і спалохала.

Быў канец чэрвеньскага дня. Прафесар на хвіліну зайшоў у лабараторыю, зрабіў некаторыя запісы ў сваім рабочым дзённіку і пайшоў да сябе на кватэру. Роўна два гады, як жыве ён тут. Ён прыпамінае, як прыехаў сюды ўпершыню. Быў гэтак жа канец чэрвеньскага сонечнага дня. Проста перад вачыма высокая сцяна стромкіх сосен, за якімі хавалася сонца. Зрэдку яго прамень іскрамі блісне праз гушчар зялёных цёмных верхавін, рассыплецца па жоўтым пяску пляцоўкі і згасне. Пляцоўка ў цяньку. У цяньку і будынак новага паўстанка. І толькі на верхавінах сосен, што за паўстанкам, гойдалася яшчэ густая сонечная чырвань.

На пясчанай пляцоўцы, куды перанёс з каламажкі рамізнік абодва прафесаравы чамаданы, «кукушкі» чакала чалавек трыццаць пяць. Для прафесара ўсё было новым: і сам паўстанак каля вузкакалейкі, і сяляне-барадачы, якія стаялі на пляцоўцы каля сваіх сундучкоў, абкаваных жалезам, і моладзь, якая паўкругам сядзела на сваіх карзінках. Пасля цесны ад людзей дрыглівы вагон вузкакаляёвага поезда, збіты з новых, гладка выгабляваных дошак, пільня ў лесе, і новы мост цераз рэчку. Усё гэта зусім не было падобным на тое, што даводзілася бачыць прафесару напярэдадні вайны.

Поезд ішоў на балота. Прафесар добра памятаў сінеючую паску нізкарослага балотнага лесу, што стаяў сцяной непадалёк ад вёскі. Цяпер зямля як бы прастар-

нейшай стала. Мутнаватая заслона балотнага лесу рассунута шырока ў бакі, і прафесар убачыў роўны прастор новай зямлі, падзеленай на клеткі да дзівоснага простымі канавамі. І на ім абмазаныя чырванню вячэрняга сонца постаці людзей, якія збіралі тарфяныя цагліны, і раскіданыя адзінкамі па клетках элеватарныя машыны, і новыя сцены рабочых барачных пасёлкаў, ды сухі ўжо, роўна складзены вастраверхімі штабялямі торф, на якім сонечная чырвань была па-незвычайнаму густой, цемнавата-пунцовай.

Пасля гэтая ж кватэра, куды прывяла яго жанчына. Гэтак жа, стоячы каля дзвярэй, пазіраў прафесар на свой першы квадратовы пакой і абрадаваўся, калі распазнаў, што вокнамі пакой глядзіць на ўсход і на поўдзень. Зусім свежыя тады яшчэ драўляныя сцены пакоя пахлі смалой, і гэтаму паху смалы абрадаваўся прафесар, адчуўшы цераз яго, што ўрэшце ўдалося яму адысці ад людзей, у прысутнасці якіх ён адчуваў сябе як бы звязаным, прысутнасць якіх перашкаджала думаць, не давала магчымасці разабрацца ў тым, што апошнія гады мучыла яго. Апошнія гады ён шукаў адзіноты, адзіноты хоць на нейкі час, каб спакойна перадумаць усё, каб, адышоўшы неяк у бок ад навакольнага, уважлівей прыгледзецца да яго, асмысліць і азначыць свае адносіны да яго. З гэтай прычыны, калі ўрадавыя арганізацыі прынялі пастанову аб стварэнні на Яснаўскім балотным масіве навукова-даследчай тарфяной станцыі і запрапанавалі яму паехаць туды для работы, ён адразу ж даў сваю згоду. Мысліў, што тут знойдзе патрэбную адзіноту і зможа адсюль, як ні з якога другога месца, уважліва прыгледзецца да падзей, што адбываюцца ў краіне, і ў адзіноце, без чыіх-небудзь уплываў, зможа асмысліць бачанае за ўсе пражытыя гады. Ён паверыў у гэткую магчымасць, адчуўшы пах смалы, убачыўшы за акном свайго пакоя шэрую балотную роўнядзь, і ад гэтага, злавіўшы руку жанчыны, горача падзякаваў ёй, сам не ўяўляючы за што.

Усё гэта прыпомнілася ў сувязі са з'яўленнем на балоце Ягуплы. Яно было зусім нечаканым і загадкавым. Пра Ягуплу ў працягу апошніх год, з часу спаткання ў аптэцы, ён нічога не чуў і запамятаў на яго. Калі б Ягупла з'явіўся такім, якім памятае яго прафесар з часу апошняга спаткання, гэта, можа, і здзівіла б яго, але не было б у гэтым нічога такога, што магло б занепакоіць. Ягупла з'явіўся іншым, і, жадаючы разгадаць яго, прафесар парашыў абавязкова заўтра ж спаткацца з ім.

Спатканне адбылося раніцою ў кабінеце дырэктара торфазавода. Калі прафесар прыйшоў туды, Ягупла стаяў каля акна з прыўзнятай рукой, мерыўся лавіць муху, а сам дырэктар Лёйка, высокі, здаравенны мужчына, стаяў у куце на зэдліку і, абрадавана ўсміхаючыся, нешта асцярожненька загортваў у паперку. Ягупла, калі прафесар уваходзіў у кабінет, махнуў па акну рукой, заціснуў у жменю злоўленую муху і павярнуўся тварам да Лёйкі, але змеціў прафесара і збянтэжана замітусіўся. Ён пазнаў прафесара, пра якога багата чуў у апошнія часы, імя якога часта сустракаў у газетах, і пайшоў насустрач яму.

— Паважаны Міхаіл Палікарпавіч? — Голас быў усхваляваны. Гаворачы, ён раскрыў жменю, і прафесар убачыў, як са жмені вырвалася муха.— Я так багата наслухаўся пра вас і пра станцыю, што парашыў наведаць гэныя месцы. Як жа жывеце?

— Жыву? Добра.— Прафесар падаў Ягуплу руку і хуценька адабраў яе. Здалося, што рука яго мокрая ад раздушанай мухі, захацелася сваю руку абцерці. Збянтэжыўшыся, злез з зэдліка і Лёйка, а паперку сунуў у нутраны кішэнь пінжака. Ён падслепавата, па звычцы, прыжмурыў левае вока, пазіраючы на прафесара, і той убачыў на ягоным павеку вялікую бародаўку. Лёйка нагой адсунуў зэдлік яшчэ далей у кут, а сам падаўся наперад, каб прывітацца з прафесарам.

— Прафесар, відаць, здзівіўся, што я гэтак вось,— ён паказаў рукой на кут, дзе стаяў зэдлік.— Слабае маё месца. Я не казаў вам, а маю вялікую слабасць да прыродазнаўчых навук, раблю некаторыя назіранні за павукамі. І сёння я павучка злавіў, як вы прыйшлі.

— Так, так,— голас у Ягуплы памацнеў.— Таварыш Лёйка надзвычай захапляецца прыродазнаўчымі навукамі і робіць цікавыя назіранні за жыццём павукоў. Калі б таварышу Лёйку больш павучыцца, я ўпэўнен, што з яго быў бы выдатнейшы даследчык.

Ягупла ветліва ўсміхнуўся, схіліўшы твар да Лёйкі, пасля зірнуў на прафесара і пачырванеў. Усмешка сышла з ягонага твару. Але хутка ён паправіўся. Змеціўшы, што прафесара здзівіла тое, што ён убачыў, ён захацеў надаць сваім словам пра Лёйку характар іроніі, баючыся, што прафесар палічыць за дзівака і яго.

— Так, так,— сказаў ён ужо тонам лёгкай іроніі.— З таварыша Лёйкі мог бы быць добры даследчык. Я кажу зусім сур'ёзна,— і ён, каб не заўважыў Лёйка, хітравата

ўсміхнуўся прафесару. Але прафесар змаўчаў. Тады Ягупла ўраз перавёў гутарку на іншае, запрапанаваў пайсці на возера пакупацца.

— Я магу пайсці,— сказаў прафесар, зразумеўшы Ягуплу.— Да дванаццаці гадзін я вольны сёння. А вы, таварыш Лёйка, усё занятыя?

— Так, не маю я часу, хоць і дужа хацеў бы паплёхацца ў вадзе. Хіба ўжо ў выходны дзень.

— Шкада, а то прагуляліся б. Але ж як няма як, дык нічога не зробіш. У мяне да вас маленькая справа ёсць.— Прафесар сеў у крэсла каля дырэктаравага стала.— А вы, Сузон Іванавіч, пачакайце, я ненадоўга.

— Добра. Я пачакаю на дворы.

Ягупла пайшоў. За дзвярыма кабінета ён нездаволена зморшчыў твар і пачаў прыкусваць верхнюю губу, што рабіў заўжды, як хваляваўся. Ён спыніўся на ганку каля лавачкі і стаяў, барабанячы пальцамі, пахвілінна заглядаючы ў калідор канторы, ці не ідзе прафесар. Ягупла быў у злосці на самога сябе. Прафесар, напэўне, дагадаўся аб тым, што, ловячы муху, Ягупла жадаў дагадзіць Лёйку.

— Дурань,— сказаў ён упаўголаса сам да сябе і азірнуўся, ці няма каго за дзвярыма.— Трэба ж было таму дурню надумацца лавіць павука акурат у гэны час. Даўбня, а не даследчык! — Апошнія словы ён сказаў зноў упаўголаса і зноў зазірнуў у калідор.

Збіраючыся ехаць на Яснаўскае балота, Ягупла ведаў, што тут працуе прафесар, яго даўні знаёмы, і зараней абмеркаваў, як будзе трымаць сябе, калі спаткаецца з ім. Запамятаць на мінулае і трымаць сябе ў прысутнасці прафесара зусім незалежна, гэта было асноўным прынцыпам, якім меркаваў ён кіравацца. Напэўна, ён і вытрымаў бы гэны прынцып, каб не гісторыя з мухай. Дзякуючы ёй, Ягупла паказаў сябе прафесару такім, якім быў і некалі раней, у часы першага знаёмства. Гэта тым горш, што спроба ператварыць гісторыю з мухай у жарт не ўдалася. Цяпер трэба будзе дзейнічаць па-іншаму, трэба будзе зрабіць усё, каб толькі згладзіць першае прафесарава ўражанне.

Калі прафесар выйшаў з канторы, Ягупла спаткаў яго з усмешкай.

— Дырэктар вялікі дзівак,— сказаў ён,— на нейкіх курсах ён ад лектара пачуў, што для павука-крыжавіка момант яго злучэння з самкай з'яўляецца апошнім момантам яго жыцця, бо самка ў гэты час з'ядае яго. Ён

настолькі захапіўся жаданнем бачыць гэты момант, што пераловіў усіх павукоў і перасадзіў іх у бутэлькі. Цэлыя дні ён сочыць за павукамі і пакуль што, здаецца, нічога не ўбачыў. Мне сёння захацелася над ім пажартаваць, і я падбіў яго на тое, каб ён палез лавіць павука.— Ягупла ўсміхаўся, стараючыся пазіраць прафесару ў твар, і не вытрымліваў спакойнага прафесаравага погляду, вочы чамусьці затуманьваліся слязьмі.— А я сам паабяцаў злавіць для павука муху, каб пакарміць яго. Ха-ха-ха! — Рогат быў штучным і нясмелым.

— Гэта сапраўды дзівацтва,— ні то пра яго, ні то пра Лёйку сказаў прафесар.— А вы як жа трапілі ў нашыя месцы?

— Як я трапіў сюды? Пра гэта можна багата расказаць... Дыялектыка...— Ягупла загадкава пацісну ў плячыма і іранічна ўсміхнуўся. Нейкі час яны ішлі моўчкі. Як апынуліся за пасёлкам на балоце, Ягупла зноў загаварыў:

— Я наўмысля запрапанаваў купацца, каб мець магчымасць пагаварыць з вамі.

— Я зразумеў вас.

— Так, так, я зрабіў гэта наўмысля, каб пабыць з вамі. Ведаеце, Міхаіл Палікарпавіч, мне хочацца сёння філасофстваваць аб мудрай складанасці быцця і ягоных законах. Так багата пражыта за гэны час. Так багата змен! І такіх змен!

— Скажыце, а вы вершы пішаце і цяпер?

— Так, пішу. Гэта мая асноўная праца.— Ягупла не зразумеў схаванай іроніі ў словах прафесара.— Вы— людзі навукі, не цікавіцеся паэзіяй і маленькіх нас не заўважаеце. А мы таксама робім вялікую і карысную справу. Нейкае, хоць і не першае, можа, месца ў гэтай справе займаю я. Я паэт яшчэ малады, з радоў так званага паслякастрычніцкага прызыву. Маю два зборнікі паэзіі. Днямі выйдзе з друку трэці. Ён будзе як бы падагульняць напісанае мною за дзесяць год.

— А-а, вельмі рад, вельмі рад за вас. Вы, пэўне, карыстаецеся вялікай папулярнасцю?

— Як вам сказаць? Вы ж вось пра мяне нават не чулі?

— Я што ж, я агулам рэдка чытаю кнігі, ды яны да нас амаль не трапляюць ніколі. Маімі ведамі папулярнасці паэтаў мераць нельга.— Цень лёгкай ухмылкі прайшоў па твары прафесара.

— А я хацеў бы, каб вы што-ніпіто з майго пачыталі

і сказалі сваё ўражанне. Крытыка, трэба сказаць праўду, мае зборнікі заўжды хваліць.

Увайшлі ў балотны хмызняк. Прафесар ішоў збоку і дзівіўся, як Ягупла няўдала бароніцца ад галля.

— Ну, а да нас вы па справе ці проста захацелі зірнуць на нашы месцы?

— Як вам сказаць? Прыехаў я карэспандэнтам ад газеты, гэта афіцыйна, а не афіцыйна, як паэт, прыехаў, каб паблукаць па месцах, з імем якіх звязана так багата народных паданняў і што-ніўшто з асабістага.

Хвойнік змяніўся густым бярэзнікам, перамешаным з алешнікам, і сцежкай, пратаптанай у высокай траве, яны хутка прыйшлі да возера. Густы алешнік і месцамі лаза зялёнай сцяной апляялі азёрныя берагі з усіх бакоў. Схаванае ў зарасніку возера было зусім спакойна, бо вецер не даходзіў сюды. Над люстрана-гладкай паверхняй возера ледзь прыкметнае дрыжала пералівамі жывога срэбра нагрэтае сонцам паветра.

— А як тут хораша! — Ягупла спыніўся на сцежцы, ды так і стаяў нейкі час, залюбаваўшыся возерам.— Які спакой. Соннае царства. «Над сінім прасторам таемных глыбінь...» — пачаў дэкламаваць і змоўк, не прыпомніўшы другога радка верша.— Дзівосна! А якая чыстая вада! — Схіліўся над вадою і зачэрпнуў яе ў далонь. Кроплямі вада збегла з далоні.— Я пакупаюся, люблю купацца.

— Купайцеся, а я трошку пасяджу і, мусіць, таксама палезу ў вазу. Люблю і я яе.

Прафесар адышоў убок і сеў на купіне, а Ягупла паклаў на мураву свой вялікі жоўты партфель, распрануўся і, сароміючыся за сваё худое, кашчавае і даўгавязае валасатае цела, спяшаючыся, палез у ваду. Але ступіўшы ў ваду, ён спыніўся, сагнуўся і нейкі час стаяў так, трымаючы далонямі выцягнутыя рукі на нагах над каленямі, пасля намачыў рукі ў вадзе і пачаў імі націраць ногі, а за нагамі і ўсё цела і толькі тады пайшоў далей ад берага. Калі вада падышла яму пад пахі, Ягупла лёг на ваду грудзямі і паплыў, а прафесар, слухаючы няроўныя звонкія ўсплёскі вады, думаў пра сваё, зноў абуджанае з'яўленнем Ягуплы.

Дзесьці далёка пакінуты людзі, разам з якімі пражыў ён добрую палову свайго жыцця. Прафесар думае, што тыя людзі ніколі не былі зусім блізкімі яму. Наадварот. Амаль ніколі, так, ніколі ён не быў згодзен з іхнімі поглядамі. І ўсё ж нешта трымала яго каля іх. І ўсё ж у

нечым ён быў крэўна звязаны з імі. Ён думае, што ў тыя часы нават не змог бы існаваць без іх, як чалавек са сваімі ўласнымі пераконаннямі. Асяроддзе, складзенае з такіх людзей, як былы дэпутат некалішняй Дзяржаўнай думы Пілацееў ды іншыя, было як бы глебай, на якой мог выгадавацца і ён са сваімі поглядамі на жыццё. Было каму супроцьстаўляць свае погляды, і ад гэтага было сваё ўласнае месца ў жыцці. Прафесар моцна адчуваў яго тады, так ва ўсякім выпадку ён думае цяпер. Гэнае месца ён страціў у дні рэвалюцыі. І тады асабліва дала сябе адчуваць крэўнасць з тымі. Было жаданне стаць, як іншыя, эмігрантам, нават вельмі моцным было гэнае жаданне. Чаму не здарылася гэтага, ён і сам добра не разумее. Але хоць і не стаў эмігрантам, не мог вызваліцца ад свае блізкасці да тых. У працягу многіх гадоў ён быў значна бліжэй да іх, чым да новага, што прыйшло пасля рэвалюцыі, хоць ён гэтага не хацеў, як і не хацеў разрываць са старым. Урэшце гэта стала не па сіле цяжкім. Блізкасць да тых мучыла, звязвала на кожным кроку.

У яго не было свайго месца, трэба было шукаць яго. Для гэтага, ён разумеў, трэба было вызваліцца ад асяроддзя, якое звязвала. Але як? Парваць ■ ім раз і назаўжды? На гэта не хапала сіл, і часта ім авалодваў адчай, безнадзейнасць, думалася, што ўсё і назаўжды страчана. А пасля прыйшла магчымасць, якую ён і выкарыстаў, прыехаўшы сюды. Праўда, гэта было падобным на ўцяканне. Так яно і было. Ён не парваў ■ тым асяроддзем, а ўцёк ад яго. Часам ён дакараў сябе за такую баязлівасць, але ўсё ж быў задаволены менавіта гэткім канцом, разрывам ён пакрыўдзіў бы тых, а гэтага не хацелася, ён баяўся канфлікту з асяроддзем, у якім выгадаваўся. І справа абышлася без канфлікту. Усё з тымі скончана, ён пазбавіўся ад іх, ён адзін. Ён мае магчымасць спакойна думаць над тым, што робіцца вакол яго, і быць самім сабой, не падпадаючы ў залежнасць ад навакольнага, ад новага асяроддзя, як гэта было ў мінулым. Ён знайшоў сваё ўласнае месца сярод людзей, з якімі даводзіцца быць разам. Ён выразна азначыў свае адносіны і да іх і да навакольнага і, стоячы ўбаку, робіць сваю справу. Галоўнае — усё скончана з тым, з мінулым. Вось Ягупла, чалавек з мінулага. Яшчэ ўчора, пазнаўшы яго, прафесар адчуў трывогу. Ён спалохаўся быў, што Ягуплава прысутнасць зноў верне яго да старога, зноў працягне балючую ніць ад мінулага да яго, і насцеражыўся. Але спат-

каўся з Ягуплам і супакоіўся, трывога знікла. Відаць, час зрабіў сваю справу.

Ягупла стаў цяпер непадалёк ад берага ў вадзе і, набіраючы ваду далонямі, паліваў ёю сваё цела, падоўгу расціраў валасатыя грудзі. Пасля, як падышоў да самага берага, сагнуўшыся дугой, пачаў абмываць ногі. Прафесару стала смешна, што яго магло ўстрывожыць з'яўленне гэтага прыгорбленага, не ў меру кашчавага, чалавека на тонкіх скрыўленых нагах. Захацелася смяяцца над сваёй баязлівасцю, захацелася рагатаць, і, не ўмеючы стрымацца, прафесар падхапіўся з месца, распрануўся і адразу пайшоў у ваду, разбіваючы яе застыглую пругкасць моцнымі каленямі, падстаўляючы разгарачанае цела пад іскрыстыя халодныя пырскі. З разгону нырнуў у ваду ў самы холад яе глыбінь і паплыў там, краналючыся рукамі пясчанага, усыпанага каменнямі, азёрнага дна. Пасля лёганька адштурхнуўся кончыкамі пальцаў ад дна, варухнуў плячыма, падняўся наверх і паплыў, займаючы ўсё большы і большы круг, адмяраючы вадзяны прастор шырокімі ўзмахамі рук.

Калі прафесар выйшаў на бераг і стаў на мураве, падстаўляючы сонцу абсыпаныя кроплямі вады грудзі, Ягупла, апрануўшыся, сядзеў на зямлі, абхапіўшы рукамі падабраныя да сябе, сагнутыя ў каленках, ногі.

— Добра,— сказаў прафесар, думаючы і пра купанне, і пра пачуцці, якія штурханулі яго ў ваду.— Значыць, будзеце пісаць пра нашу станцыю? Гэта добра. Пішыце. У нас багата цікавага. Станцыя пачалася з аднаго драўлянага доміка, у якім змяшчаліся лабараторыі і кабінеты, а цяпер нашаму памяшканню лабараторый пазайздросціць сталіца. Нашы лабараторыі і кабінеты абсталяваны самымі навейшымі прыборамі і машынамі. У нас свая цёпласілавая станцыя, свае заводы.— Прафесару хацелася менавіта так гаварыць пра станцыю. У гэты час, хоць і сам ён не ведаў чаму, хоць і не жадаў гэтага, ён ненавідзеў Ягуплу, гэтага прыгорбленага, танклявага, да смешнага бездапаможнага ў хітрасці, чалавека. Прафесар ведаў, што Ягупла хацеў гаварыць з ім пра іншае. Спачатку было з'явілася такое ж жаданне і ў прафесара, але яно цяпер прайшло, прафесар наўмысля не даваў Ягуплу магчымасці загаварыць. Сваімі словамі ён паралізаваў, яшчэ больш прыгінаў да зямлі гэтага скурчанага чалавека, на твары ў якога блукала хваравітая ўхмылка разгубленасці.— Мы навучыліся рабіць з торфу каштоўнейшы будаўнічы матэрыял. Мы навучыліся ра-

біць высокагатунковы брыкет. На сваім заводзе мы навучыліся здабываць некалькі гатункаў тарфянога коксу, ад буйнога кускавога да коксавай мукі. На нашым коксе будзе працаваць і каваль, і ліцейныя, і акумулятарныя батарэі, электроды для якіх мы робім ужо з коксавай мукі.

Мы шукаем шляхоў для найбольш мэтазгоднага выкарыстання каксавальнага газу, і мы зробім яго высокакаларыйны газ, так патрэбны ў побыце, у прамысловасці. Мы распрацавалі метад бескіслотна-бесперапыннага працэсу гідролізу тарфянога ачосу пад ціскам з выхадам цукру да сямідзесяці пяці — васьмідзесяці працэнтаў, што дае дзевяноста пяць — сто пятнаццаць літраў спірту з адной тоны сухога тарфянога ачосу. З гэтага спірту зможам рабіць сінтэтычны каўчук. Важнейшы прынцып нашай работы — грунтавацца на вытворчым эксперыменце і тым самым стварыць аснову для пабудовы вялікай і ўзорнай тарфяной гаспадаркі,— прафесар падаўся бліжэй да Ягуплы.— І пачакайце, мы зробім гэта. Мы навучымся рабіць з торфу і высокагатунковыя фарбы, і высокія гатункі паперы і тканін, так, так, і тканін, і такіх рэчаў, крэўнасці якіх з торфам не можа нават уявіць ваша паэтычная фантазія...

— Гэта надзвычайна цікава,— сказаў Ягупла, падымаючыся з зямлі.— Я азнаёмлюся з гэтым і напішу. А перад усім я хацеў бы, Міхаіл Палікарпавіч, калі вы дазволіце,— Ягупла па звычцы нахіліў бокам галаву,— напісаць спецыяльны нарыс пра вас.

— Пра мяне? Гэта навошта ж?

— Ваша роля на станцыі... Вы так багата зрабілі... і, ведаеце, я пачаў бы гэны нарыс з нашага падарожжа на возера. Я наглядаў, як вы купаліся. Цікавейшы вы чалавек, у вас багацейшая натура...

— І ўсё ж пра мяне пісаць не варта. Вы лепш пішыце паэтычны твор, паэму ці раман, як гэта там у вас завецца. Вазьміце хоць бы гісторыю балот. Гэта ж тысячагоддзі! У глухіх, дзікіх, закінутых чалавекам месцах, у месцах, ад якіх уцякаў чалавек, ляжаць пад імховымі сховамі каштоўнейшыя багацці. Балота не хацела паказаць чалавеку гэтых багаццяў, яно засмоктвала смельчакоў. Вы ведаеце паданне пра возера «Сыты мох»? Ну, вось. А пасля чалавек выкраў гэтыя багацці і пачаў браць іх сабе, урэшце пазнаўшы іхнюю каштоўнасць, і былое, дзікае, закінутае чалавекам месца стала... Ну, там ужо месца для вашай фантазіі...

— Так, так! — абрадаваўся Ягупла.— Пра гэта можна напісаць цікавейшы твор... Я абавязкова напішу пра гэта вершаваны раман. Вы, Міхаіл Палікарпавіч, нават не ўяўляеце, які гэта багаты матэрыял для рамана. Я вось амаль яшчэ нічога не бачыў, а толькі паслухаў вас, а ўжо адчуваю, як уваходзіць у мяне гэны матэрыял, як ён паглынае мяне.— Ягупла захапіўся думкамі аб вершаваным рамане і пачаў гаварыць пра ягоны змест. Захапіўшыся, ён не заўважыў, што пераказвае нядаўна пачутае ад прафесара, не заўважаў ухмылкі, якая лягла на прафесаравым твары.

— Хадземце дадому,— запрапанаваў прафесар. Пакуль Ягупла гаварыў аб магчымым змесце свайго рамана, прафесар апрануўся.— На станцыі я пазнаёмлю вас з таварышам Мілоўскім, дырэктарам нашай станцыі. Ён зробіць усё патрэбнае для вашай працы. Сам я з вялікай ахвотай пасабіў бы вам, але заўтра раніцою я паеду, мяне выклікае Савет народнай гаспадаркі па вельмі адказнай справе.

— І вы доўга прабудзеце там, Міхаіл Палікарпавіч?

— Пэўна, доўга.

— Ах, як я шкадую, што вы едзеце. Вы разумееце, я хацеў разам з вамі агледзець усю станцыю і напісаць нарыс так, каб разам з вамі правесці па станцыі чытача. Я хацеў бы, каб гэны нарыс быў напісаны пра вас. Як шкода... Але я прыеду сюды іншым разам і тады ўжо абавязкова напішу пра вас. Абавязкова.

— Пра мяне пісаць няма чаго.

— Не! Вы ўжо як сабе хочаце, а я напішу і пачну той нарыс сёння ж з нашага купання.

Ад возера прафесар павёў Ягуплу на тэрыторыю навукова-даследчай станцыі па мастку, насланым з дошак ускрай канавы, якая злучала возера з цёпласілавой станцыяй. Месца, дзе злучаецца канава ■ возерам, і масток, насланы цераз канаву каля возера, усё было за кустамі, у баку ад месца, дзе яны купаліся. За гэныя кусты і правёў прафесар Ягуплу, які здзівіўся ад нечаканасці, убачыўшы роўную, з абабітымі дошкамі берагамі, канаву, якая канцом сваім упіралася ў трохпавярховы будынак.

— Бачыце, вада ідзе з возера. З дапамогай гэнай канавы станцыя заўжды забяспечана чыстай азёрнай вадой. А побач ёсць другая канава. Па ёй цячэ назад у возера вада, якая пабывала ў рабоце.

— Ах, як гэта ўсё цікава. Як бы я хацеў, каб агледзець усё гэта з вамі. Але нічога не паробіш... А там вы

ж, напэўне, будзеце бачыць таварыша Андрэя. Вы ведаеце яго? Незвычайны чалавек. Як убачыце, абавязкова прывітайце яго ад мяне. Яго я вельмі добра ведаю, здаралася разам з ім выязджаць у раёны. Незвычайны ён чалавек.

Ягупла на хвіліну змоўк і ішоў, пазіраючы сабе пад ногі, прыкусваючы верхнюю губу. Пасля, кінуўшы на прафесара ўстрывожаны погляд, сказаў:

— Так... Я мог бы філасофстваваць пра мудрую складанасць быцця і яго законы, але я думаю, я спадзяюся,— Ягупла прыкметна хваляваўся,— што вы, Міхаіл Палікарпавіч, зразумееце мяне. У кожнага з нас,— ён зірнуў на прафесара,— было тое або іншае мінулае. Усе мы прыйшлі да сённяшняга не па простай сцежцы і пра тое не хочам, не любім прыпамінаць. Я не хачу гаварыць пра сваё мінулае, вы яго прыблізна ведаеце. Я багата перажыў за гэныя гады і хачу на ўсё былое запамятаць. Пра яго я ніколі і нікому са сваіх новых знаёмых не гаварыў. У гэтым няма патрэбы. Я шкадую, што не магу сёння пагаварыць з вамі так, як бы я гэтага хацеў, як думаў зрабіць, калі спаткаў вас. Спадзяюся, што мы яшчэ ўбачымся і пагутарым пра ўсё іншым разам. А сёння, я прасіў бы, каб вы нічога аб маім мінулым не гаварылі таварышу Андрэю. Справа не ў тым, што я чаго-небудзь баюся. Баяцца мне няма чаго, але я дужа паважаю яго і не хачу, каб ён падумаў пра мяне што-небудзь нядобрае. Калі-небудзь я сам усё раскажу яму і ўсё вытлумачу, прызнаю, так сказаць, свае памылкі.— Пасля апошніх слоў Ягупла ўсміхнуўся і зірнуў прафесару ў твар.

— Можаце быць спакойнымі,— адказаў прафесар.— Мяне гэткія справы менш за ўсё цікавяць,— ён пацiснуў плячыма ды адразу пачаў гаварыць пра іншае.

Ішлі каля частаколу, за якім быў будынак цёпласілавой станцыі. Прафесар паказаў рукой на будынак.— У гэтай палове сама станцыя,— сказаў ён,— а злева сушыльнае аддзяленне брыкетнага завода. Надбудова тая — элеватар для фрэзернага торфу, з якога мы робім брыкет.

За станцыяй, з-за бяроз хутка паказаўся вялізны трохпавярховы будынак, у якім змяшчаліся лабараторыі і кабінеты. А за ім, далёка ўбаку, дзе самы край сухадолу, размясціліся ўсе заводскія ўстаноўкі станцыі ды падсобныя майстэрні і машына-выпрабавальная станцыя.

Усё гэта бачыў прафесар кожны дзень, але і цяпер не без цікавасці ўглядаўся ён у прастору, над якой радамі ўсталі камяніцы і гэтым як бы паднялі з нізін былую балотную твань.

Мілоўскі быў у геабатанічным кабінеце, адкуль яго і паклікалі, калі прыйшоў прафесар з Ягуплам.

— Да нас прыехаў карэспандэнт газеты, ён жа і паэт, знаёмцеся. Таварыш хоча паглядзець працу станцыі і напісаць пра яе.

— І пра людзей, галоўнае пра людзей, якія працуюць на станцыі,— ветліва ўсміхаючыся, сказаў Ягупла, падаючы Мілоўскаму руку. Мілоўскі зірнуў Ягуплу ў твар шырока раскрытымі вачыма і абрадавана патрос ягоную руку.— Міласці просім, як гаворыцца,— сказаў ён,— мы з ахвотай пакажам, што ў нас ёсць.

Ягупла спаткаўся поглядам з вачыма Мілоўскага і хуценька адвёў вочы ўбок, збянтэжыўся, бо змеціў, што Мілоўскі пазірае на яго з нейкім здзіўленнем. Праверыўшы сваё ўражанне, ён увесь час стараўся не сустракацца вачыма з поглядам Мілоўскага.

Прафесар пазнаёміў Мілоўскага з Ягуплам, сказаў яму, што пойдзе збірацца ў дарогу, і, папрасіўшы прабачэння, пайшоў, пакінуўшы іх у кабінеце Мілоўскага. Як толькі прафесар знік за дзвярыма, Мілоўскі кіўнуў галавой на дзверы.— Залаты чалавек Міхаіл Палікарпавіч у нас. Як ніхто — працавіты. Пра яго сапраўды варта было б напісаць. Як вы думаеце?

— Пастараюся. Гэта будзе відаць пасля таго, як збярэцца матэрыял. А перш за ўсё ў мяне ёсць заданне газеты напісаць пра вас, таварыш Мілоўскі.— Ягупла схіліў набок галаву і зірнуў Мілоўскаму ў твар.— Я чуў пра вас і трошку знаём з вашай біяграфіяй. Вы ў дзяцінстве былі газетчыкам? Пасля працавалі на суднабудаўнічай верфі? Вось, бачыце, я гэта ведаю. І ведаю пра вас, як пра былога камсамольца, а цяпер арганізатара важнейшай справы і вучонага.

— Які ж з мяне вучоны? — Мілоўскі махнуў рукой.— Як арганізатар, кажуць, што я нядрэнны, а да вучонага мне яшчэ далёка. Мне вось каб хоць палову таго, што ёсць у Міхаіла Палікарпавіча, і то я рад быў бы без меры. Мне да вучонага яшчэ ісці, ісці, ды каб не прыстаць хаця. Павучыцца каля вучоных раней трэба. Я вучань, а не вучоны.

— Ну, ведаеце, гэта скромнасць.

Мілоўскі здзіўлена варухнуў плячыма.— Думайце, як хочаце. Я не супроць таго, каб быць вучоным, пастараюся. А вы, значыць, пішаце вершы. Прозвішча Ягупла? Здаецца, сустракаў у газетах.

— Так, напэўне. Я ў газетах часта друкуюся. Вы пра-

бачце, што я так гэта прыйшоў і не паказаў сваіх дакументаў.— Ягупла адамкнуў свой партфель, апаясаны шырокімі сырыцамі, разгарнуў яго на дзве паловы і дастаў з аднаго са шматлікіх аддзяленняў сваё камандзіровачнае пасведчанне, угары над якім буйнымі літарамі была надрукавана назва газеты, карэспандэнтам ад якой ён і прыехаў. Пасведчанне падаў Мілоўскаму, а сам непрыкметна дастаў з другога аддзялення невялічкую кніжку сваіх вершаў, разгарнуў яе і наўскасяк напісаў на тытульнай старонцы:

«Таварышу Мілоўскаму, прадстаўніку сапраўды новых людзей, якімі трымаецца гонар нашай вялікай краіны, зараней з удзячнасцю за дапамогу ў справе азнаямлення з працай навукова-даследчай тарфяной станцыі». За гэтым шырока, размашыста падпісаўся пад напісаным.— Як будзе вольны час, пачытайце.

— А, з прыемнасцю. Я люблю вершы, дзякую.

Мілоўскі разгарнуў кніжку і прачытаў зроблены на ёй надпіс. Прачытанае, як і тое, што ён пачуў ад Ягуплы за час свае гутаркі з ім, не спадабалася, і, каб не быць з ім, Мілоўскі спаслаўся на неабходнасць тэрміновай працы, а Ягуплу накіраваў да загадчыка балотнага музея, якому і даручаў запіскай азнаёміць Ягуплу ■ працай станцыі.

Ягупла ўзяў запіску і адразу падняўся з крэсла. Стоячы, згарнуў свой партфель, падаў Мілоўскаму руку на развітанне і, разумеючы, што ім не зусім задаволены, адразу ж пайшоў.

Колькі часу ён пастаяў на ганку, нешта абмяркоўваючы, а адтуль накіраваўся ў Шапятоўку.

Хвілін цераз трыццаць пяць Ягупла падыходзіў да вёскі. Шукаючы матэрыялу для нарыса, Ягупла надумаўся звязаць «балотны матэрыял», як ён называў яго, з вясковым. Ён шукаў кантрастаў. Балота ў мінулым і балота цяпер. На думку аб гэтым навялі прафесаравы словы. А цяпер ён знайшоў і іншае: балота і вёска, тэма для другога нарыса. Ягупла задаволена ўсміхаўся.

У вясковай вуліцы ён прыпыніўся каля Сузонавага неабкутанага двара. Хата Сузонава, прыплюснутая да зямлі, побач з Давыдзюкавай высокай, як стары закінуты хлевушок. Ледзь не ў рост ёй парасла на былой Піскуновай сядзібе зялёная лебяда і адгарадзіла шэрую, спарахнелую, глухую сцяну яе ад густой пшаніцы, пасеянай на былым Піскуновым двары. Як спыніўся Ягупла супроць двара, Сузон зірнуў на яго з цёмных нізкіх варот хлева, паднёс

па даўняй звычцы руку да казырковай шапкі, а за гэтым і сам выйшаў на двор.

— Можа, справа якая да мяне, таварыш? — палахліва зірнуў Сузон на вялікі Ягуплаў партфель.

— Справы ў мяне да вас асаблівай няма,— адказаў Ягупла.— Я прыехаў здалёк, ад рэдакцыі, і хачу пагледзець, як людзі жывуць. А гэты сусед ваш,— Ягупла паказаў рукой на Давыдзюкову хату,— багата жыве?

— Чорт яго не бярэ. Ён і пры старым парадку багата жыў, стараставаў, і цяпер жыве гэтак. Нешта ніяк да іх не дабяруцца.

— Та-а-к. Зусім выразны малюнак дыферэнцыяцыі вёскі,— сказаў Ягупла сам да сябе, і Сузон не зразумеў яго. Сузон, як Ягупла змоўк, загаварыў пра сябе, парашыў паскардзіцца.

— Я вось сяджу на ягоным хутары. Нас былі падзялілі яшчэ перад вайною, але багата хто не згаджаўся, то яно неяк так і цягнулася праз увесь час. Думалася ўжо, што хутары, можа, і адменяць. Аж пазалетась зноў пачалі парадкаваць зямлю і хутары пацвердзілі. Не супроць таго і я, мне на панскім хутар нарэзалі, толькі ж куды мне з такімі будынкамі перасяляцца? Вы ж падумайце: крані яе,— Сузон паказаў на хату,— вуглы паадвальваюцца і бярвенне ў парахню рассыплецца, а на новую ў мяне сіл аніяк няма цяпер. Я на каня і то цераз сілу ўзбіўся, дзякаваць, што ў крэдытным грошай пазычылі. А на хату ж так лёгка не ўзаб'юся. І ці ж мне самому мёд сядзець тут, а рабіць туды бегаць кожны дзень? Смак з гэтага мне невялікі, але сіл жа маіх няма, я ж калека, на вайне скалечылі, а не на печы, і па новаму закону як бы за мяне заступацца трэба, а не за яго, багатыра, а тым часам мяне судом высяляць пагражаюцца. Я не ведаю, канечне, ці вашая гэта справа, але паколькі вы ад рэдакцыі, то, можа, што і параілі б, куды мне кінуцца? Мне каб хаця гады два яшчэ дазволілі тут пажыць, то я падняўся б неяк.

— Та-а-к... Але ж такі закон. Раз яму па закону ваш двор прырэзалі, то ўжо цяжка што-небудзь зрабіць. Хоць я пагавару дзе след.— Ягупла разгарнуў на калене ў сябе партфель і дастаў з партфеля невялічкую кніжачку з пазлочанымі краямі.

Убачыўшы, што ён збіраецца пісаць, Сузон подбежкам кінуўся ў сенцы і вынес адтуль невялічкі ўслон.— Сядайце ды ўжо, зрабіце ласку, закіньце дзе-небудзь слова за мяне. У Шапятоўцы я цяпер самы амаль бядняк. А нека-

лі ж, як бралі панскую зямлю, я не апошнім быў. А пасля ўвесь час у камбедзе састаяў...

Сочачы, як запісвае нешта Ягупла ў сваю кніжачку, Сузон схіліўся над ім кароткай сваёй барадой і спяшаўся сказаць аб сабе ўсё, што, на ягоную думку, належала ведаць прадстаўніку рэдакцыі, каб заступіцца за яго. Змоўк ён, калі Ягупла згарнуў сваю кніжачку і паклаў яе назад у партфель.

— А хто ў вас самы багаты? — запытаў Ягупла.

— Самы багаты? А так што Шкробат Мікіта. Ну, і Кот Ермалай, і Давыдзюк.

— А дзе Шкробат жыве?

— Вунь тая новая хата ягоная.

— Ну добра, бывайце здаровы. Я праведаю, як ваша справа, і пастараюся што-небудзь зрабіць, хоць дужа цяжка, бачыце, законы і савецкія строгія, гэта не тое што ў першыя гады пасля рэвалюцыі. Але я пастараюся.

— А ўжо ж пастарайцеся, зрабіце ласку. Мяне каб хаця гады два не трывожылі, а тады я сам перабраўся б.— Сузон на развітанне паднёс руку да патрэсканага казырка, але, хутка нешта прыпомніўшы, падаўся да Ягуплы.— А можа, мне каб у горад па гэтай справе кінуцца, можа, там лепш разабраліся б?

— У горадзе? Не ведаю, ці ёсць у гэтым сэнс. Закон жа адтуль ідзе, а не адсюль.

З Сузонавага двара Ягупла пайшоў адразу на Мікітаў. Як забрахалі на двары сабакі, з хаты выйшла Мікітава жонка, падзівілася на Ягуплу і пайшла адганяць сабак.

— Хачу зайсці да вас,— вытлумачыў Ягупла здзіўленай гаспадыні.

— А ці вы нас ведаеце? — Гаспадыня ўставілася вачыма ў твар яму.— Нешта ж я ніяк не магу прызнаць вас. Спачатку падумала была, можа, з каморнікаў, аж не.

— Мяне вы, цётачка, не пазнаеце, я далёкі.— Ягупла пайшоў за гаспадыняй у хату на чыстую палавіну.

— А хто ж вы такі будзеце? — запытала гаспадыня, усё яшчэ дзівячыся на Ягуплу, і паказала яму сесці на ўслоне каля стала.

— Я з тых, што кнігі пішуць,— вытлумачыў Ягупла.— Хаджу, гляджу, як людзі жывуць, і пішу кнігі, песні пішу.

— А-а-а. Ну, то пасядзіце. Вось толькі гаспадара няма, ён у воласць паехаў. Панапісвалі на нас, нібы мы зямлю схавалі ад падатку. Нібы зямля лыжка, што яе можна схаваць. Цяжкавата жыць цяпер працавітым лю-

дзям, таварыш дарагі. Хто нічога не робіць, яму і скідкі, і льготы розныя, а калі другі мазалём сваім зажыў нешта, нешта на яго ўся бяда: яму ўсё дай ды дай. Ну, ото ў нас новая добрая хата, дык жа яе не хто-небудзь нам паставіў, самі ж.

— Ну, вядома ж.

— А на гэта і не памятаюць. Або зямлі ў каго было, можа, трошкі больш, ніж у іншых, дык зноў жа не дарма яна прыйшлася, на яе ж і сілы ўсе, і грошы паклалі. Гэта ж не тое, што іншым панскай зямлі без ніякіх грошай надавалі.

— А вам хіба не прырэзалі з панскай?

— Сколькі ж яе там прырэзалі? Як дзеля насмешкі, каб адчапіцца, далі дзесяціны чатыры.

— А сваёй колькі было?

— Сваёй? — гаспадыня палахліва кінула на Ягуплу поглядам.— Столькі тае і сваёй. Вы, можа, малачка напіліся б? Я ото падам зараз жа.

Гаспадыня пайшла з пакоя, а Ягупла падняўся і пачаў разглядаць багата прыбраныя на куце іконы, перад якімі вісела лампадка. У баку ад ікон вісеў на сцяне заседжаны мухамі плакат. На плакаце нізкарослы барадаты селянін. З аднаго боку ў яго поўны мяшок дабра, а з другога — насыпаны дабром менш, чым напалову. Нешта яшчэ напісана на плакаце, але Ягупла чытаць напісанага не стаў, ягоную ўвагу заняў фатаграфічны здымак Мікітавай сям'і, абсаджаны пазалочанай рамай з былой іконы, пра што сведчылі прыбітыя да рамы з сярэдзіны па кутках афарбаваныя пад золата бляшкі.

Побач з жанчынай, у якой Ягупла адразу прызнаў гаспадыню, сядзіць на здымку мужчына з кароткай негустой барадой, над якой, падаўшыся ў бакі ад носа і ўгору да шчок, тырчаць востра закручаныя вусы. Твар у мужчыны круглы і прыплюснуты. Ён сядзіць, трымаючы рукі з выцягнутымі на ўсю даўжыню пальцамі на каленях і пазірае ў прастору перад сабою. Збоку каля жанчыны стаяць яшчэ дзве дзяўчыны і пад імі наўскасяк роспіс: «Ф-графія Рэмбрандт». Ягупла ўсміхнуўся, пагардліва скрывіў губы і адышоў. «Наша сіла,— сказаў ён сам да сябе.— Носьбіты нашых ідэй. Дурні».

Калі гаспадыня ўнесла гладыш з малаком, на двары затарахцелі калёсы. Гаспадыня зірнула ў акно і сказала, што прыехаў парабак.— А сам ён на жарабку ў воласць паехаў. Нікому жарабка не давярае,— сказала яна пра мужа.

— Жывеце вы ўсё ж нядрэнна, як відаць, неяк жа трымаецеся?

— Трымаемся пакуль што, каб даў бог і надалей хоць гэтак. Адно, што падатак цяжкі, але ўжо неяк адчэпішся ад яго і жывеш.

Пайшоў ад Мікіты Ягупла надвячоркам і на балота прыйшоў, як сонца было зусім нізка. Зморany хадзьбой, сеў на ўскраіне лесу. Лес быў на самым грудку, і цераз лес, прыгледзеўшыся, Ягупла мог бачыць паміж дрэвамі жоўтыя сцены пасялковых баракаў. Адтуль даходзіў да Ягуплы гоман галасоў, і рогат, і спевы. Але ўвагу ягоную заняло іншае. Ён убачыў на грудку, на самай сярэдзіне лесу, чалавека, які стаяў на каленях тварам да сонца і раз-пораз хрысціўся, пасля чаго схіляўся галавой да самай зямлі.

«Як запалоханы звер, уцякае ад іх чалавек са сваімі пачуццямі, як першабытны чалавек». Ягупла разгарнуў партфель, дастаў з яго сваю кніжачку з залачонымі краямі і пачаў нешта запісваць. Пісаў ён, седзячы на ўскраіне лесу, аж пакуль зайшло сонца, і тады толькі пайшоў дадому.

## ПАДЗЕЯ ДРУГАЯ

Прафесар любіў сядзець, абапёршыся локцем правай рукі на стол, а левую, з адведзеным убок локцем, трымаць на назе. Гэтак ён сядзеў і цяпер.

— Я хачу абрадаваць вас, Міхаіл Палікарпавіч,— сказаў Буднік.— У мяне для вас навіна. Урадам прынята пастанова пра пабудову на Яснаўскім балотным масіве энерга-хімічнага камбіната. Вось чытайце.— Буднік падаў прафесару паперку, якую трымаў у руцэ.— А ўсё ваша станцыя. І цяпер справа якая будзе, а? І не дзе-небудзь на Урале або ў Данбасе, а на балоце, разумееце? Дзе нават каровы грузлі, дзе адным ваўкам толькі і можна было жыць.

Прафесар прачытаў паперку, згарнуў яе і перадаў Будніку.

— Ваша ідэя, Павел Андрэевіч,— віншую.— Прыўзняўся з крэсла і цераз стол падаў Будніку руку.

— Вас віншаваць трэба, а не мяне. Мая ідэя так і засталася б ідэяй, каб не вашы даследаванні. Адных ідэй мала.

— І ўсё ж я тут ні пры чым. Я проста рабіў сваю справу, якой займаюся два дзесяткі гадоў, і зусім не думаў

пра тое, будзеце вы будаваць калі-небудзь камбінат на балоце ці не.— Апошнія словы прафесар вымавіў з адценнем злосці.

Трэба сказаць, што паміж прафесарам і Буднікам склаліся надзвычай цікавыя і своеасаблівыя адносіны.

Ведаючы прафесарава мінулае і ведаючы самога прафесара як каштоўнейшага чалавека, Буднік у працягу ўсіх гэтых гадоў уважліва сачыў за ягоным лёсам, аказваючы на яго нямалы ўплыў у большасці так, каб прафесар гэтага зусім не адчуваў. Так, у прыватнасці, па яго ініцыятыве прафесару было запрапанована паехаць працаваць на навукова-даследчую тарфяную станцыю, а пазней, калі з'явілася ідэя пра пабудову камбіната, было запрапанована кіраваць працай, задачай якой было давесці мэтазгоднасць пабудовы камбіната. І прафесар Галынскі, урэшце, кіраваў і апошнімі тэхнічнымі і тэхналагічнымі даследаваннямі, якія праводзіліся на балоце.

Інстынктыўна адгадваючы ўплыў Паўла Андрэевіча на свой лёс, прафесар баяўся яго і спрабаваў, як умеў, пратэставаць. Да апошняга часу прафесар лічыў сябе зусім незалежным у сваёй працы на станцыі, і, памятаючы, як дорага каштавала яму шуканне гэнай незалежнасці, баяўся страціць яе. Перш за ўсё ён баяўся пасяганняў на гэную незалежнасць з боку Паўла Андрэевіча. З гэтай прычыны ён некалькі баяўся добрых адносін да сябе з боку Будніка і быў бы рад, калі б гэтыя адносіны былі больш афіцыйнымі, і ўсё, што мог, рабіў, каб было менавіта так. Ён свядома падкрэсліваў у гутарках з Паўлам Андрэевічам сваю непрычыннасць у справах, якімі жыў апошні, хоць сам і не так ужо моцна верыў у гэную сваю непрычыннасць. Ад гэтага была часта і раздражнёнасць і нават адценне злосці ў словах прафесара. Павел Андрэевіч адчуваў іх, разумеў, адкуль яны, і нават некалькі рад быў гэтаму. Ён ніводнага разу не паспрабаваў угаварваць прафесара або дакараць яго, як ніводнага разу не спрабаваў і прасіць яго аб чым-небудзь і загадваць яму. Ён проста быў з прафесарам, як роўны, і, даручаючы яму якую-небудзь работу, ён як бы падзяляў яе з ім, рабіў усё так, каб прафесар ніколі не адчуў сябе на становішчы чалавека, які некаму служыць. Служыць можа лёкай або чалавек, якога сілай прымусілі служыць. Служыць можа чалавек, наняты за грошы. Рэвалюцыі не патрэбны людзі, якія служаць ёй, бо яны заўжды гатовы здрадзіць ёй. Рэвалюцыі патрэбны людзі, якія яе справу лічаць за сваю і выконваюць яе, як самы ганаровы свой абавязак. Так разва-

жаў Павел Андрэевіч і гэтым кіраваўся ў сваіх адносінах да прафесара.

— Я паважаю людзей, якія мысляць незалежна,— дасказаў Павел Андрэевіч.— Людзей, якія не прымаюць дадзенага намі на веру, а толькі пераканаўшыся ў тым, што дадзенае намі ёсць найбольш правільным з усяго, найбольш мэтазгодным з пункту гледжання чалавецтва. Вы менавіта такі, і я рад гэтаму.

— Гм... думайце пра мяне, як хочаце, справа ваша. Хоць я, безумоўна, рад, што вы так пра мяне думаеце, а не інакш.

— Пра вас інакш думаць нельга, Міхаіл Палікарпавіч. Я каб і хацеў інакш падумаць, ды неяк яно ў мяне не выходзіць. І ўжо хай так і будзе. Яшчэ ў мяне навіна. Вы адказны кансультант работ па праектаванню першай чаргі камбіната.

— Я?

— Вас гэта здзіўляе? Па сутнасці ж тут нічога новага для вас няма. Проста афіцыйна пацвердзілі тое, што вы робіце, што вы напалову амаль зрабілі.

— Але ж гэта адказнейшая справа!

— Таму вам яе ўрад і даручае, а я надзвычай рад, што буду працаваць разам з вамі. Мне даручана кіраваць будаўніцтвам. Я, праўда, сам хацеў гэтага.

— Паколькі гэта ваша ідэя, такое жаданне зусім законнае, а я вось не ведаю, мне кансультацыя будзе не пад сілу.

— Наконт сіл гэта вы дарэмна, Міхаіл Палікарпавіч. Хапіла сіл на адну палову працы, хопіць і на другую. Не з такіх вы людзей, каб у свае сілы не верыць.— Буднік хітравата, але адкрыта, як пазіраў на прафесара, усміхнуўся.— Тут яшчэ адна справа ёсць: праз два тыдні нам давядзецца з вамі выступаць з гэтага поваду з дакладамі на Савеце Народных Камісараў.

— Чаму ж мне? — прафесар здзіўлена прыўзняў левую руку.— Вы будзеце кіраваць будаўніцтвам, вы і рабіце даклад, а я... Ну, пасабіць вам магу ў чым-небудзь, падрыхтаваць патрэбны матэрыял, а даклад — гэта ўжо ваша справа. Я прасіў бы вызваліць мяне.

— Нічога не меў бы супроць, каб гэта залежала ад мяне, але, бачыце, тут проста так і напісана: заслухаць даклад прафесара Галынскага. Вось.— Буднік падаў прафесару паперку, з якой чытаў. Паперку прафесар узяў, кінуў на яе поглядам і паклаў на стол.

— Але я ж проста не ўмею гаварыць, які ж з мяне

дакладчык? Вы, Павел Андрэевіч, відаць, па злосці мяне ў дакладчыкі ўпісалі.— Прафесар зірнуў Будніку ў твар.— Я ж разумею, даклад вам даручалі, а вы і мяне ў яго ўпрэглі.— Прафесар усміхнуўся, а Буднік зарагатаў.— Значыць, так і ёсць?

— Ну, не, Міхаіл Палікарпавіч, што вы? Тут без мяне абышлося.

У гэты час прыадчыніліся дзверы і ў кабінет зайшла жанчына ў лёгкім шэрым паліто. Змеціўшы яе, Павел Андрэевіч ветліва заківаў галавою і прыўзняў над сталом руку ў знак вітання.— Вы ў самы раз прыйшлі, таварыш Каляда. Вось, знаёмцеся. Прафесар Галынскі, Міхаіл Палікарпавіч. А гэта новы інжынер, прызначаны для работы на нашай станцыі.

Жанчына сарамліва падала прафесару руку, і ён разглядзеў зусім яшчэ малады яе твар, з вузкіх шчылін воч на якім бліснулі насустрач ягонаму погляду ледзь прыкметныя вугалькі зрэнак.

— Вы калі, Міхаіл Палікарпавіч, паедзеце? — запытаў Буднік.

— Сёння ж.

— Вось разам і паедзеце.

— Я рад,— згадзіўся прафесар,— калі таварыш згодна.

— Я з прыемнасцю.

— Ну, вось і добра,— Буднік падняўся з-за стала і намерыўся ісці да дзвярэй.— Я зараз жа папрашу свайго сакратара арганізаваць вашыя дарожныя справы, а тады вы, таварыш Каляда, трошкі пачакайце, мы па адной справе ўмовімся з Міхаілам Палікарпавічам, ды я хачу пагаварыць з вамі.

— Добра, мне пайсці туды?

— Навошта ж? Сядзіце тут, справы нашы не таемныя.

Пакуль Буднік умаўляўся з прафесарам, Каляда Аксана, былая камсамолка шапятоўскай ячэйкі, а цяпер камуністка, блукала вачыма па велізарнай карце, што вісела ў кабінеце Будніка, шукаючы на ёй знаёмыя назвы.

— Вы на тую, на меншую зірніце,— адгадаў яе жаданне Буднік.

Аксана перавяла погляд на другую карту, вісела яна побач, прачытала надпіс, зроблены ўнізе ў кутку, і зноў вярнулася да вялікай. І толькі тады, як спыніўся палец на невялічкім кружочку, дзе было мястэчка Пагулянка, а вочы каля самага пальца разгледзелі ледзь прыкметную, крывую і шырока разгалінаваную рысу ракі Хвошчаўкі і

накрэсленыя густа адзін на другі няправільнай формы кружочкі азёр, каля якіх, паўкругам рассыпаных ледзь прыкметных рысак, ляжала Яснаўскае балота, толькі тады Аксана перайшла да меншай карты. Тут яна зноў знайшла і раку Хвошчаўку, і возера Сыты мох, і некалькі меншых азёр, якія былі злучаны з Хвошчаўкай невялічкімі балотнымі рэчкамі. На карце была адзначана і тэрыторыя навукова-даследчай станцыі, і тая частка балота, якая была ўжо асушанай.

Аксана ўявіла месцы, вызначаныя на карце, такімі, якімі памятае іх, і падумала, што зусім не пазнае іх цяпер. Тады за кароткімі канцамі сенажацей, якімі ўпіралася шапятоўскае поле ў балоты, глухой сцяной зялёнага алешніку або напалову сухога нізкарослага касматага хвойніку, пачынаўся балотны лес. Для Аксаны з канцом сенажаці канчалася ў гэтым баку і зямля. Далей не было ходу.

Можна ісці з Шапятоўкі на поўдзень па шляху да Пагулянкі. Можна вясковай дарогай ісці на захад у Кірпатаўку, а з яе палявымі і лугавымі сцежкамі за рэчку, у Замасточча, Смыкі, Альхоўку, але няма дарог на поўнач і на ўсход. Там канец дарогам. Там яны, ледзь прыкметныя, разбрыліся па полі паміж хутарамі і губяцца каля іх, зарастаючы ўлетку густой сакавітай муравой. Дзесьці за балотамі невядомая чужая воласць, людзей з якой Аксана ніколі не бачыла ў Шапятоўцы, якіх уяўляла зусім іншымі, непадобнымі на сваіх.

З балот ішлі ўвосень на Шапятоўку студзёныя вятры. Зімой адтуль жа налятаілі мяцельныя і самыя марозныя. Увесну плылі вільготныя густыя туманы і цэлую вясну і лета густыя хмары куслівых камароў і машкары. Такімі, па-старому, жылі ў Аксанінай памяці гэныя месцы, хоць думала яна пра іх інакшае.

Калі б у дні свайго дзяцінства яна аднойчы знайшла рассунутай на баку сцяну густога балотнага лесу і ўбачыла б замест яго далёкі, загублены ў туманавай сіняве, небасхіл, яна адчула б у гэтым бяскрайнасць зямных прастораў. Нешта ад гэтага дзіцячага ўспрыняцця свету жыло і цяпер у яе ўяўленні пра тое, што стала з даўно знаёмымі ёй месцамі, якія яна ўбачыць цераз некалькі дзён. Яе погляд блукае па выведзеных на карце крывых і простых лініях розных форм і велічыні і, карта была каля самага акна, па густых зялёных верхавінах высокіх ліп у гарадскім садзе, што побач з пляцам. За ліпамі нябачна камяніц. Над імі ў глыбокім блакіце павольна пра-

плываюць белыя кавалкі хмар. Аксане здаецца, што за ліпамі няма горада, а пачынаецца поле. Ёй хочацца хутчэй туды. Пра гэта думае яна і не адразу разумее, што гаворыць да яе прафесар. Зразумеўшы, што прафесар развітваецца з ёю, Аксана сарамліва чырванее і вінавата ўсміхаецца.

— Значыць, а сёмай гадзіне мы з вамі ўбачымся?

— Так, так, абавязкова.— Ад карты Аксана пайшла да стала і села ў крэсла. Павел Андрэевіч правёў прафесара да дзвярэй кабінета і там развітаўся з ім.

*

Пасяджэнне Саўнаркома, на якім слухаліся даклады пра пабудову энергахімічнага камбіната на Яснаўскім балоце, адбылося роўна цераз шаснаццаць дзён пасля гэтага.

Машына, на якой прыехалі Павел Андрэевіч і прафесар, з павароту паціху прайшла за высокую загароду прасторнага былога архірэйскага двара, і, калі, завярнуўшыся, непрыкметна спынілася непадалёк ад высокага ганка, прафесар, выйшаўшы з яе, разгледзеў двухпавярховы былы архірэйскі асабняк. Знадворку быў гэта будынак старога казённага тыпу, з нізкаватымі, не ў меру тоўстымі сценамі, якія ўгадваліся па вокнах. Вокны вузкія, хоць і даволі высокія, напомнілі прафесару сваёй формай царкоўныя.

За падвойнымі дзвярыма, за ганкам, сядзеў каля століка міліцыянер. Ён прывітаўся з Паўлам Андрэевічам і папрасіў ісці на другі паверх.

Свой партфель прафесар паклаў на стале побач з месцам, якое абраў сабе Павел Андрэевіч, а сам адышоў да сцяны, каб разгледзець карціны, размешчаныя там. Ідучы да сцяны, прафесар зазірнуў у сад, які пачынаўся адразу за домам у некалькіх метрах ад яго і цягнуўся радамі па схіле ледзь не да самай рэчкі. Нахіл быў круты, і прафесар бачыў з акна роўныя верхавіны нізкіх садовых дрэў і над імі, у канцы, рад высокіх ліп, якім дрэвы садовыя былі ў палову росту.

Карціны, размешчаныя па сценах залы пасяджэнняў, былі сведчаннем барацьбы за Савецкую рэспубліку. Самым крайнім на сцяне, супроць стала прэзідыума, мясціўся вялікі фотаздымак групы дэлегатаў першай партканферэнцыі былых паліткатаржан. Сярод іх прафесар знайшоў і таварыша Андрэя. У чорным паліто і высокай

шапцы-кучомцы ён сядзеў сярод іншых, закінуўшы нагу за нагу, прытрымліваючы рукой палу паліто. Ззаду за плячыма групы высілася глухая, з плямамі голай цэглы, дзе адвалілася атынкоўка, сцяна. Побач, каля сцяны, крывое, бязлістае, сукаватае дрэва. Дэлегаты зняліся каля турэмнай сцяны. Адсюль яны пачыналі свой шлях у далёкую заснежаную Сібір, на катаргу, а на дрэве некалі быў павешаны іхні таварыш, партрэт якога прафесар бачыў на сцяне побач з іншымі.

Усхваляваны стаяў прафесар каля здымка і не заўважыў, як падышоў і стаў побач з ім Павел Андрэевіч. Ён таксама задумёна глядзеў на фатаграфію.

...З двара выехала чатыры падводы з багажом, а за імі ў беспарадку даўгой чарадой пайшлі катаржане. У многіх на плячах зношаныя і падраныя турэмныя халаты, у другіх так-сяк пасшываныя кавалкі старых, парыжэлых аўчын, напамінанне пра былыя кажухі.

Людзі, кожны з самім сабой, са сваімі думамі, ідуць павольнай і цяжкай хадой, а ззаду за імі, ляніва ступаючы ў снег цяжкімі ботамі, ідзе салдацкі канвой.

Засталася ззаду даўгая вуліца Вусць-Карыйскага паселішча. Ужо завярнулі падводы на раку Шылку і пайшлі па ільду. І тады, калі Кара, дзе многімі былі пражыты гады катаргі, засталася ззаду, ім захацелася азірнуцца. Падводы павольна паўзлі па ільду, а людзі без згавору спыніліся і стаялі так некалькі хвілін, сагнуўшыся ад холаду, хаваючы ў рукавы халатаў, паліто і кажухоў змёрзлыя рукі.

— Бывай, катарга!

Крычыць адзін, але ў кожнага хваравіта крывіцца твар, кожны прыкусвае губы, каб прамаўчаць гэныя кароткія хвіліны.

— Пазналі? — голас у Паўла Андрэевіча ціхі, усхваляваны.

— Так, так, пазнаў адразу,— кажа прафесар і дзівіцца на ажыўленыя ўспамінамі вочы Паўла Андрэевіча.— Катарга, дарога на катаргу,— кажа ён.— Гэта тысячы кіламетраў пешшу? Я не разумею, як вытрымлівалі чалавечыя ногі.— Прафесар усё яшчэ дзівіцца Паўлу Андрэевічу ў твар. Па ягоных вачах прафесар угадвае ціхую нутраную дрож успамінаў.

— Я і сам цяпер добра не разумею, як у мяне пасля таго асталася такая сіла. Цяпер гэта як бы сон.

— Цяжкі сон,— кажа прафесар, і абодва яны ўсміхаюцца і павяртаюцца, каб пайсці на свае месцы. У гэты

час з задрапіраваных дзвярэй, у якія можна прайсці, абмінуўшы край стала прэзідыума, выйшла трое чалавек. Адзін з іх падаўся на крок наперад, прывітаўся з Паўлам Андрэевічам, а пасля падаў руку Міхаілу Палікарпавічу.

— Прафесар Галынскі? Імяніннік наш? Ну, давайце, Міхаіл Палікарпавіч, пазнаёмімся бліжэй, мне павіншаваць вас хочацца.— Гаворачы, пазіраў проста ў твар прафесару.— Я вельмі ўважліва прачытаў ваш даклад і, па праўдзе кажу, рад за вас. Ведаеце, Міхаіл Палікарпавіч,— падаўся бліжэй да стала і паклаў на стол партфель,— вы інтэлігент яшчэ старой закваскі, і вы прабачце, калі я скажу што не зусім прыемнае на адрас усяе карпарацыі старых інтэлігентаў. Шмат у каго з іх некалі было больш любові да прыгожых слоў аб народзе, чым зараз да прыгожых спраў для яго. І ўсё неяк падазрона паглядаюць яны на нас, нібы не вераць, што мы існуем, і не бачаць, што рэвалюцыя даўно ажыццявіла іхнія ідэалы і пайшла ў сваіх справах значна далей. А некаторыя гэтага спужаліся і чагосьці чакаюць. А варта было б кінуць такое. Я не кажу пра нягоднікаў, якія шкодзяць нам: тыя ворагі. А вось так званым лаяльным варта было б смялей за работу брацца, па-сапраўднаму. І я вельмі рад, што вы з намі, вельмі рад. Ды інакш і нельга. Хіба не праўда? а? — ён усміхнуўся, пазіраючы ў твар прафесару, і яшчэ раз падаў таму руку.— Вось і згода, а ты, Павел Андрэевіч,— звярнуўся да Будніка,— за сведку будзь.

Тады і Буднік заўсміхаўся, і Міхаіл Палікарпавіч адчуў сябе ў гэтай зале зусім сваім чалавекам і з удзячнасцю націснуў руку старшыні Саўнаркома.

Прафесар упершыню бачыў так блізка гэтага худашчавага чалавека, твар якога сведчыў аб моцнай волі і бязмерна вялікай энергіі, настойлівасці, што бытавалі ў ім. Некалі ён бачыў скульптурны злепак гэтага твару. Часта бачыў яго на партрэтах. Цяпер ён упэўніўся, што ні мастакі, ні скульптар не хлусілі. У сапраўднасці твар быў яшчэ багацейшы ў яго рухавасці і ветлівасці, якая час ад часу выглядала з-за суровага аблічча. Гэтага не змаглі перадаць ні мастак, ні скульптар. Прафесар паглядаў на ягоны твар, звяраючы сваё ўражанне, слухаў, як гаворыць гэны чалавек, і дзівіўся ўпэўненасці, што гучала ў ягоных словах. Было нешта агульнае ў гэтым паміж ім і Паўлам Андрэевічам, тое, што прафесар згодзен быў прылічыць да якасцей, уласцівых гэткай катэгорыі людзей. Як і ў словах Паўла Андрэевіча, у словах гэтага чалавека была яшчэ большая сіла сцверджання.

— Пад уплывам вашай запіскі,— сказаў старшыня Саўнаркома,— я зусім стаў падобны да лірычнага паэта.

— Нашаму часу лірызм вельмі патрэбен.

— Правільна. Нам патрэбна ўсё добрае і карыснае. А скажыце, Міхаіл Палікарпавіч, як у вас там жывецца? Можа, патрэбы вялікія ў чым маеце? Вы павінны часцей наведваць нас і патрабаваць, калі што трэба, бо, як будзеце маўчаць, мы будзем думаць, што ў вас усё добра.

— Мы гэта ўлічым,— прафесар усміхнуўся,— дзякую.

— Так, абавязкова часцей нам дакучайце. А цяпер будзем пачынаць пасяджэнне. Ваш даклад другі па парадку,— старшыня Саўнаркома кіўнуў галавою і пайшоў за стол на сваё заўсёдашняе месца.

Ні першага даклада, ні спрэчак, якія разгарнуліся пасля яго, прафесар амаль не чуў. Ён перагортваў старонкі сваіх матэрыялаў, раіўся з Паўлам Андрэевічам і час ад часу дробнымі, ледзь прыкметнымі літарамі рабіў новыя запісы на старонках даклада. І калі старшыня Саўнаркома назваў яго прозвішча, даючы яму слова для даклада, прафесар некалькі разгубіўся. Гэтая разгубленасць пасілілася, калі ён падняўся з-за стала і пайшоў да трыбуны.

— ...Яснаўскае балота разам з блізкімі да яго складае адзіны масіў у пяцьдзесят сем тысяч трыста гектараў. Тыповае верхавое балота, якое па сваіх памерах, магутнасці, канфігурацыі, геаграфічнаму стану і якасці торфу ўяўляе велізарную каштоўнасць. Сярэдняя глыбіня пакладу 3,56 метра. Цеплатворная здольнасць ад трох тысяч шасцісот калорый пры дваццаці пяці працэнтах вільготнасці да чатырох тысяч ста. Попельнасць у сярэднім два і пяцьдзесят шэсць сотых працэнта. Па сярэдняй арыфметычнай мы атрымаем шэсцьдзесят шэсць кілаграмаў паветрана-сухога торфу з аднаго кубаметра сырцу, а ўвесь запас паветрана-сухога торфу, які мы атрымаем з балота, складае сто сорак адзін мільён тон...

Пністасць сярэдняя. Першы гарызонт пнёў на глыбіні аднаго метра, другі на глыбіні двух з паловай — трох метраў... Для лясістасці характэрна карлікавая сасна ў два-тры метры вышыні. Дзе сушэй,— бярэзнік, на сухадолах і каля азёр — вялікія хвоі, нават годныя для будоўлі...

Пукатая паверхня балота, з нахіламі ад сярэдзіны, якія павялічваюцца з набліжэннем да водапрымальнікаў, стварае добрыя ўмовы для асушэння яго. Асноўны водапрымальнік — рака Хвошчаўка, шматлікія прытокі

якой забяспечваюць сцяканне балотных вод з усіх бакоў балота...

Прафесар адышоў ад трыбуны да шчыта, на якім мясцілася карта Ясмаўскага балотнага масіву. Блукаючы па карце тупым канцом алоўка, паказваючы на ёй і раку, і яе прытокі так, каб іх бачылі прысутныя ў зале, накрэсліваючы паўкруглымі рухамі алоўка ад сярэдзіны напрамкі гарызонтаў, ён бачыў перад вачыма жывыя імшары балот, раскінутыя на дзесяткі кіламетраў, і спакойна апавядаў пра іх, запамятаўшы на разгубленасць, якая ўпачатку перашкаджала гаварыць.

— ...Электрастанцыя магутнасцю ў чатырыста тысяч кілават, якая ў наступным годзе будзе ўключана ў адзіны энергавузел Саюза. Яна дасць энергію заводам некалькіх гарадоў, сельскай гаспадарцы і электрыфікаваным чыгункам... Брыкетны завод з вырабам двухсот пяцідзесяці тысяч тон брыкету ў год... Завод тарфяных ізаляцыйных пліт з вырабам шасці мільёнаў квадратовых метраў у год... Трыста пятнаццаць тысяч тон коксу... Завод сінтэтычнага каўчуку. Папярова-картонная фабрыка... Заводы — смалаперагонны і газавы. Заводы па перапрацоўцы сапрапеляў, пакладамі якіх надзвычайна багаты шматлікія азёры, што знаходзяцца на тэрыторыі Ясмаўскага масіву. Яны дадуць тысячы тон маторнага паліва, парафінаў, мецілавага спірытусу, ацэтону, воску... Заводы селікатнай прамысловасці... горад, які павінен умясціць у сабе дзесяткі тысяч рабочых з іхнімі сем'ямі...

Далёкія балотныя імшары ажываюць ва ўяўленні прафесара. Ён бачыць, як падымаецца з багны затоптаная туды тысячагоддзямі зямля. Амаладжаная, падымае яна бясконцыя свае багацці і, шчодрая ў сваіх дарунках, перадае іх людзям. Прафесар бачыць гэных людзей. Яны не падобны на тапельца, які некалі на яго вачах кінуўся ў возера. Яны не падобны і на тых, што некалі прыходзілі ў панскі двор прасіць Пілацеева аб сваёй зямлі. Яны іншыя.

Прафесар скончыў і сеў. Некалькі кароткіх адказаў на запытанні. Кароткае паведамленне Паўла Андрэевіча пра арганізацыю падрыхтоўчых работ па будаўніцтву камбіната, а пасля зноў, як і перад пасяджэннем, прафесар з цікавасцю сочыць за тварам худашчавага сярэднярослага чалавека. Зараз гаворыць ён. Спакойна, усё з той жа ўпэўненасцю ў голасе і з той жа сілай сцверджання ў словах.

А пазней, седзячы ў аўтамашыне поруч з Паўлам Ан-

дрэевічам, прафесар нанава разглядаў і яго. Упершыню за ўвесь час знаёмства знікла насцярожанасць у адносінах да яго, якую заўжды адчуваў, і не было жадання спрачацца. Прафесар нават злавіў сябе на тым, як некалькі разоў ён горача падтрымаў Паўла Андрэевіча ў ягоных меркаваннях, і гэта некалькі здзівіла яго.

## ПАДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Быў самы ранак, час, калі пачынае сыходзіць з зямлі туман і з туману, паступова разгортваючы сваімі промнямі яго заслону, выходзіць сонца. Яно не грэе. Цьмянае сонцава кола кружыцца за туманавай заслонай над самымі балотамі і вільготнай мякаццю яго сцірае з сябе санлівасць. Туман радзее, а сонцаў круг усё чысцей, усё яскравей і рухавей. Пакуль сонца ў тумане, сабраная ў кроплі раса нерухома трымаецца на мураве, і колер муравы мутнавата-зялёны. Птушкі не спяваюць яшчэ, а як бы пераклікаюцца адна з другой пасля ночы. Як толькі ўзнімецца ўгору абмытае росамі сонца, а туман пачне аплываць за асмялеўшым ветрам на ўсход, як бы згаварыўшыся, разам пачнуць свой ранішні спеў птушкі, і густалісты асіннік і бярэзнік заварушацца, гойдаючы тонкімі верхавінамі, падстаўляючы гнуткія свае галіны пад лёгкія і ўчэпістыя птушыныя ногі. Варухнецца мурава пад ветрам і заіскрыцца расой. Залочанымі пырскамі будзе ўзлятаць з-пад ног раса, збітая з муравы, а прымятая нагамі мурава будзе павольна падымацца насустрач сонцу.

Іх трое: Павел Андрэевіч, галоўны інжынер будаўніцтва і прафесар Галынскі. Інжынер час ад часу спыняецца, азіраецца навакол і паказвае, дзе размесцяцца заводы камбіната. Інжынер хваліць мясцовасць.

— Праўда,— кажа ён,— ёсць свая прыгажосць і ў стройнасці заводскіх гмахаў, і ў рухах машын. Яе нават не менш там, чым у прыродзе, але яна іншая, і мы пакуль што не ўмеем зрабіць так, каб побач з ёй захаваць і вось гэта.— Ён паказвае на прыазёрны лес.

— Навучыцца гэтаму не так цяжка,— кажа да яго Павел Андрэевіч, і прафесару да злосці хочацца спрачацца з ім.

— Думаеце, што няцяжка? А мне здаецца, што гэта дужа цяжка. У нейкім сэнсе гэта нават цяжэй, чым пабудаваць самы камбінат, чым стварыць новую прыгожасць, пра якую гаворыць інжынер.

— Чаму? — дзівіцца Павел Андрэевіч.

— Хоць бы таму, што, каб будаваць, зусім не трэба ўсім рабочым быць інжынерамі і нават кваліфікаванымі будаўнікамі. А каб захаваць гэта,— прафесар паказвае рукой на лес каля возера,— неабходна ўсім, хто будзе жыць тут і хадзіць па гэтых месцах, быць культурнымі. Навучыцца класці з цэглы сцяну лягчэй, чым авалодаць нават самымі пачаткамі культуры.

Прафесару сёння, як ніколі, хочацца спрачацца з Паўлам Андрэевічам. Ён злуе і ад гэтага адыходзіць трохут ўбок, за інжынера, каб не ісці поруч з Буднікам. Асобна ідзе ён і тады, калі ўвайшлі ў асіннік. Інжынер пайшоў следам Паўла Андрэевіча, а прафесар адзінцом збоку. Густы асіннік перашкаджае ісці. Ён расхінае галлё, каб прайсці. Часта згінаецца, часта павяртаецца бокам, на твар чапляецца павуцінне. З лісцяў ападае на яго раса, але ён ідзе так адзінцом аж да самага возера.

Возера яшчэ ў цяньку. Сонцам асветлены толькі напалову лес на супрацьлеглым беразе ды верхавінне асінніку. Ля возера густая і высокая трава. Ад расы мокнуць боты і штаны.

— Велізарнае возера,— кажа інжынер.— І якая тут цішыня. Лес той,— інжынер паказвае рукой на высокія алешыны на супрацьлеглым беразе,— далёка цягнецца? Які там прыгожы бераг!

Прафесар даўно пазірае на той бок возера. Ён бачыць высокі абрывісты бераг і ў ім вузкую сцежку да самай вады. Сцежка як бы вырытая. Па абодва бакі яе алешыны і густыя кусты. Угары густое галлё алешын, і сцежка цямнее чорнай плямінай тунеля, прарытага ў зелені лісця.

— Тут надзвычай прыгожая мясцовасць,— гаворыць і Павел Андрэевіч.— Мы захаваем лес каля возера некранутым. Возера будзе месцам здаровага адпачынку.— І запознена адказвае інжынеру.— А лес цягнецца вельмі далёка.

— І якое багацце колераў і фарб! — дзівіцца інжынер.— А там зялёны тунель. Тудой, напэўне, некалі прыходзілі да возера піць ваду мядзведзі і ласі.

— А цяпер ходзяць звычайныя сялянскія каровы,— перабівае яго прафесар.

— Гэта, напэўне, так,— згаджаецца інжынер і, не разумеючы прычыны прафесаравай раздражненасці, нейкі час здзіўлена пазірае на яго. Украдкай пaглядае на яго і Павел Андрэевіч і злёгку ўсміхаецца. Прафесар угадвае гэную ўсмешку і яшчэ больш злуе.

— Некалі людзі не заўважалі прыгожасцей прыроды.— Словы гэныя вымаўляе паціху, як бы гаворыць іх самому сабе.— Кавалак хлеба чалавеку даводзілася вырываць у яе з зубоў. Прырода помсцілася. Яна была страшнай для нашых даўніх продкаў, а не прыгожай. Вы не ведаеце падання аб гэтым возеры, якое жыве ў народзе? Яно сведчыць пра тое, што я кажу. У тую пару ў чалавека не было разладу з самім сабой. Цэльнасць, адзінства натур было вялікае. Не было канфлікту ў сабе. Канфлікт быў з прыродай, з яе стыхіямі, супроць якіх чалавек меў усяго сябе. А ў наш век трагедыя чалавека ў ім самім, у канфлікце з самім сабой.

— Наш век знішчыць гэны канфлікт.

— Пакуль што атрымліваецца акурат наадварот. Рэвалюцыя абвастрыла яго, а не змякчыла.

— І ўсё-такі, Міхаіл Палікарпавіч, наш час створыць чалавека цэльнай натуры. Гэта будзе незвычайна багатая натура і цэльная. Такія людзі ўжо ёсць і сёння.

— Адзінкі такіх былі заўжды.

— Сёння гэта ўжо не адзінкі, а нешта большае.

— Быў бы вельмі рад, калі б гэта было так.

— А яно так і ёсць, Міхаіл Палікарпавіч. Вы ў сваіх вывадах грунтуецеся на назіраннях за інтэлігенцыяй, у адносінах да якой вашы вывады ў значнай долі правільныя, але сёння грунтавацца толькі на гэтых назіраннях нельга, каб рабіць вывады для больш шырокага кругу людзей.

— Прабачце, Павел Андрэевіч,— прафесар спрабуе іранічна ўсміхнуцца.— Я запамятаў, што на сённяшні дзень інтэлігенцыя перастала быць мерНікам чаго б там ні было. Я часта мыслю па аналогіі з былым, калі інтэлігенцыя азначала напрамак грамадскай думкі, густаў, калі можна было сказаць, што інтэлігенцыя — гэта ўсё грамадства.

— Гэтага ніколі не было, Міхаіл Палікарпавіч. Інтэлігенцыя ніколі не была нечым цэльным.

Інжынер нейкі час моўчкі слухае спрэчкі Паўла Андрэевіча з прафесарам, а пасля і сам увязваецца ў іх і то згаджаецца з прафесарам, то спрачаецца і з ім і з Паўлам Андрэевічам.

Сонечныя промні дасяглі азёрнага берага, спаўзлі з яго ў ваду і пачалі расплывацца па ёй, усцілаючы неспакойнымі бляскамі паверхню возера, над якой падымалася пара.

Паўз бераг возера яны дайшлі да месца, дзе недаўгім рукавом возера злучаецца з Хвошчаўкай, і пайшлі далей да рэчкі і паўз рэчку да чыгуначнага маста.

— Горад будзе тут,— Павел Андрэевіч паказвае рукой за рэчку.— Здаровае, высокае месца. Значную частку лесу можна будзе не кранаць.— Ён павяртае твар да лесу, і за ім павяртае туды твар і Міхаіл Палікарпавіч.

Спрэчкі іхнія абарваліся шчэ па дарозе да маста, і цяпер Міхаіл Палікарпавіч маўчыць. Ён ведае, што цераз нейкі час Павел Андрэевіч прыедзе сюды назаўжды. Ім рабіць адну справу. Давядзецца часта быць разам і разам вырашаць вельмі важныя пытанні. Як жа складуцца іхнія адносіны ў далейшым? Сёння ў спрэчках з Паўлам Андрэевічам ён залішне гарачыўся. Гэтага не трэба, гэта зусім лішняе. Трэба быць спакойным. Урэшце, яму якая справа да Паўла Андрэевіча? З чым можна будзе — згодзіцца, а з чым нельга — не згодзіцца, не прыме таго, і ўсё. Ніякіх спрэчак не трэба.

Так думае Міхаіл Палікарпавіч і сочыць поглядам за селянінам, які ідзе з лесу па вузкакалейцы. Яму здалося, нібы ў селяніна левая рука абвісла збоку, як нежывая, і ён прыглядаецца да рукі. Селянін ідзе, не спяшаючыся, і хутка прафесар здагадваецца, што ў яго левай рукі зусім няма, што левы рукаў світкі пусты. Пад шэрай, выліняўшай і парыжэлай світай у селяніна белая, з свайго палатна, кашуля. Па кашулі падпяразаны пояс. Пачосныя штаны ўнізе падвязаны аборачкамі, каб не матляліся. Ногі босыя.

З балота да рэчкі ідзе поезд. Поезд здалёку дае папераджальны свісток, і ўсе трое сходзяць з маста насустрач селяніну. Калі поезд абмінае іх, спыняецца і селянін і, як і яны, пазірае на рэйкі, па якіх коцяцца даўгой паскай вагончыкі, гружаныя торфам.

Калі поезд праехаў мост, селянін паімкнуўся быў ісці, але Павел Андрэевіч прывітаўся з ім і запытаў, скуль ён.

— Я шапятоўскі.

— А як ваша прозвішча?

— Каляда. Сузон Каляда.— І селянін пазірае ў твар Паўлу Андрэевічу.

— Сузон Каляда? Я памятаю вас. Непадалёк ад школы жылі?

— Ага,— селянін зусім здзіўлены і прыглядаецца да Паўла Андрэевіча, каб пазнаць яго. Ён нават на крок падаецца наперад, каб уважлівей прыгледзецца да чалавека, які яго ведае.

— А памятаеце,— пытае Павел Андрэевіч,— двое вашых у Сібір ездзілі, як яны?

Селянін не спяшаецца адказаць, ён ведае, пра каго пытаюць, і пачынае аб нечым дагадвацца.

— А няўжо ж гэта вы? — селянін падаецца яшчэ бліжэй да Паўла Андрэевіча.

— Я.

— Таварыш Буднік?

Цяпер зусім здзіўленымі стаяць і інжынер, і Міхаіл Палікарпавіч, якія ўпершыню пачулі гэтае прозвішча Паўла Андрэевіча.

Селянін, міргаючы вачыма, працягвае Паўлу Андрэевічу руку.

— Дык жа добрага дня вам. Як жа гэта вы да нас патрапілі? Ага! — Ён прыпамінае пытанне Паўла Андрэевіча.— Жывы і Тарэнта Шкробат, і Мікода Жук. Гэта вось,— селянін паказаў рукою за рэчку ў напрамку былога панскага двара,— акурат Тарэнтаў хутар.

Павел Андрэевіч запрапанаваў сваім спадарожнікам пайсці на хутар.— Я некалі ў гэных месцах жыў,— кажа ён,— і шмат каго ведаю з тутэйшых сялян. Вось яго, Шкробата гэтага самага, добра ведаю і яшчэ некаторых. Калі не пярэчыце, я дужа хацеў бы пайсці на гэны хутар. У яго знойдзецца паснедаць?

— А то чаму ж не? Жыве ён цяпер добра, лепш за ўсіх нас. Некалі мы як бы роўныя былі,— кажа селянін з крыўдай у голасе,— а цяпер няроўна жывем.

— Зойдзем на хутар? — пытае Павел Андрэевіч у прафесара,— вы не пярэчыце, Міхаіл Палікарпавіч?

— Давайце, давайце, я ў ахвоту вып'ю малака, калі яно знойдзецца.

— Чаму ж не знойдзецца, грамадзянін? Малака ў яго хоць заліся. Гэта, калі б да мяне вы, скажам, прыйшлі, то ўжо за малако прабачылі б, няма яго ў мяне, а ў Тарэнты і малако знойдзецца, і да малака штосьці знойдзецца.

У голасе селяніна Павел Андрэевіч угадвае крыўду, якую ён наўмысля як бы выказвае, каб яе пачулі. Па дарозе селянін паказаў пусты левы рукаў.

— Шчэ на старой вайне страціў,— сказаў ён,— а цяпер цераз яе пакутую ўсё жыццё. Скажам, зямлю і я атрымаў, як і іншыя, але які ж я на той зямлі работнік з адной рукой? Палавіны мяне няма.— Селянін выставіў здаровую руку наперад.— Каля зямлі хадзіць адной рукі мала. Тарэнта вось некалі таксама нічога не меў, але

ўстаў на ногі, а ў мяне ва ўсім няўпраўка. Я і на хутар свой ніяк вось не перабяруся, усё на старым двары сяджу. І не тое, каб я не хацеў перабірацца, на чужымземле сядзець не соладка, але куды ж я тую парахню перакідаць буду? Я таму і хадайнічаў, каб хоць два гады яшчэ пажыць на месцы, можа б хату якую паставіў сабе.

Селянін спадзяецца, што Буднік зможа яму пасабіць у нечым, і таму падрабязна апавядае пра сябе, спяшаючыся сказаць усё, баючыся, каб хаця што не засталося нявыказаным.

Ён ідзе побач з Паўлам Андрэевічам аж да самага Тарэнтавага двара. Двор Тарэнтаў абгароджаны частаколам. З-за частаколу хата двума вокнамі пазірае на паўднёвы ўсход, двума — на паўднёвы захад. З хаты Тарэнта бачыць увесь свой хутар, кожнага чалавека, які забрыдзе на яго зямлю. І на гэны раз ён даўно змеціў чатырох чалавек, што ішлі па сцежцы ад рэчкі. Ён пазнаў Сузона і пачаў прыглядацца, хто з ім яшчэ. Нікога, акрамя Сузона, не пазнаў, калі чацвёра падышлі і да самага двара. Сузон адчыніў калітку і даў чужым людзям раней зайсці, а пасля ўжо сам зайшоў і ўсміхнуўся да Тарэнты, які збянтэжыўся і падаўся насустрач прыйшоўшым.

— Нябось, не пазнаеш? — Сузон спыніўся перад Тарэнтам з хітраватай усмешкай.— Дзе табе пазнаць. Як разбагацеў, то цяпер ён не пра тое думае,— кажа Сузон да Паўла Андрэевіча.

— А такі і не пазнаю, мусіць,— Тарэнта падае руку Паўлу Андрэевічу, пасля інжынеру і прафесару.— Можа, калі дзе і бачыліся, ці мала людзей было ў акопах? Я ж пяць гадоў ваяваў.— Ён прыжмурвае вока, ад чаго правая шчака падцягваецца ўгору, і на твар з кутка, паміж прыўзнятым правым вусам і барадой, выпаўзае хітраватая ўсмешка.

— Разбагацеў, на старое запамятаў,— жартуе Сузон.— Запамятаў, як некалі на маім двары збіраліся?

— Нічога я не запамятаў.— Тарэнта пазірае, як і раней Сузон, здзіўлена і проста ў твар Паўлу Андрэевічу. Павел Андрэевіч маўчыць і ўсміхаецца.— Хіба ж настаўнік наш?

— Вот жа ж — настаўнік, а ты і не пазнаў. Мала цябе, відаць, настаўляў таварыш Буднік,— зноў жартуе Сузон і задаволена ўсміхаецца. У ягоным голасе адчуваецца і злосць. Тарэнта гэтак жа, як і раней у лесе Сузон, яшчэ раз падае Паўлу Андрэевічу руку.

— Глядзі ты! А я ніколі не пазнаў бы, калі б адзін на адзін сустрэліся.— Ён уважліва ўглядаецца ў Буднікаў твар.— Дзе там! Ніколі не пазнаў бы, ні за што!

Абрадаваны такім спатканнем, Тарэнта кінуўся да хатняга ганка і адчыніў дзверы.— Заходзьце ж, гэта ж такія госці! Мы з таварышам Буднікам,— звяртаецца ён да прафесара і інжынера,— некалі яшчэ зналіся, як ён у нас дзяцей вучыў. Нас таварыш Буднік рэвалюцыі навучаў тады.

— А таварыш Тарэнта ніяк мяне слухаць не хацеў, усё справядлівасці шукаў.

— Ды яно шукаў, аж пакуль у астрог трапіў. І вы ж, здаецца, некуды трапілі тады?

— Я трошку далей, чым у астрог. Я ў Сібір схадзіў.

— Такі, значыць, былі на катарзе?

Гаворачы, Тарэнта завёў гасцей на чыстую палову хаты і запрасіў іх сесці. У хату ўвайшла гаспадыня, павіталася з незнаёмымі людзьмі, пакланіўшыся ім, і ручніком, які трымала ў руцэ, сцерла з услончыкаў пыл.

— Сядайце,— запрапанавала яна.— Сядай і ты, Сузон, чаго ж стаіш? — Мятнула яшчэ ручніком па стале і выйшла. Следам за ёй выйшаў і сам Тарэнта.

Прафесар, які слухаў гутарку Паўла Андрэевіча з Тарэнтам, прыпомніў, што некалі, ад'язджаючы з гасцявання ў Пілацеевых, ён нагнаў сялян, якіх гналі стражнікі ў астрог, а за гэтым прыпомніў і народнага вучыцеля, з якім некалі пазнаёміўся быў у гэных месцах. Прыпомніўшы, зірнуў на Паўла Андрэевіча, падумаў, што часта ж бачыў яго і не пазнаў. Няўжо ж гэта ён той самы?

Прафесар уважліва разглядае Паўла Андрэевіча. Павел Андрэевіч адгадвае ягоны погляд і ўсміхаецца.

— Мы і з Міхаілам Палікарпавічам вельмі даўнія знаёмыя, толькі Міхаіл Палікарпавіч мяне не памятае, бясспрэчна,— гаворыць Буднік, звяртаючыся хутчэй да інжынера, чым да прафесара.

— Вось як? — дзівіцца інжынер.

— Так, так. І я ніколі не падумаў бы, што гэта былі вы. Мы ўсяго ж два разы бачыліся, здаецца. І ў такіх умовах.

— У гэтым няма нічога дзіўнага, што вы, Міхаіл Палікарпавіч, не пазналі мяне. У нашай гаворцы не было, наколькі я памятаю, нічога такога, што магло б навесці вас на здагадку.

— А ўсё ж гэта надзвычайна дзіўна.— Міхаіл Палі-

карпавіч варухнуў плячыма.— Я так часта бачыў вас за апошнія гады і ні разу нават не падумаў, што той народны настаўнік і вы — гэта адна і тая ж асоба. Таго я памятаў і нават цяпер уяўляю як другога чалавека. Хоць, безумоўна,— прафесар угледзеўся ў твар Паўла Андрэевіча,— у вас багата падабенства з вобразам настаўніка, якім ён застаўся ў маім уяўленні. Так, так. Бясспрэчна, вельмі багата падабенства, я цяпер гэта зусім добра бачу.

У хату зайшоў гаспадар. Ён прынёс з сабою яшчэ адзін услончык і паставіў яго да стала. Сам не сеў. Сам стаў каля гасцей так, каб быць трошку ў баку ад іх.

— Мая гаспадыня што-нішто згатуе зараз, перакусіце. Гэта ж такая сустрэча! Вы толькі падумайце! — Тарэнта нахіліўся да прафесара.— Чалавек вучыў нас, як жыць на свеце, цераз нас на катаргу трапіў. Вось цяпер, таварыш Буднік, і дзівіся, што з таго выйшла. Словы вашыя так сабе не прапалі. Тады, вядома, можа, я, або другі хто, і не ўсё як след разумелі. Як вы кажаце, я ўсё справядлівасці шукаў, але пасля я тое кінуў, зразумеў, што праўда, яна ў кулаках, а не ў паясніцы. Пасля астрога я ні перад кім паясніцы не гнуў больш. А яшчэ, каб жа чалавек ведаў тады, што так вось будзе! — Тарэнта развінутымі рукамі паказаў наўкола сябе.— Я ж чалавекам стаў! — Зноў нахіліўся спачатку да прафесара, пасля да інжынера.— Вы падумайце толькі: загону зямлі ў мяне не было за старым часам, а цяпер вунь што маю.— Падаўся тварам да акна і зірнуў за акно ў поле.— Цяпер не горш ад іншых жыву. І не толькі я, а яшчэ і сын. Цяпер ён, сын мой, інжынерам на электрастанцыі ў нас, а тады па сваёй ахвоце ў шаснаццаць год на фронт пайшоў.

— Не каешся, што некалі мяне слухаў? — запытаў Павел Андрэевіч.

— Чаго ж бо мне каяцца? Ці ж бы я, скажам, што-небудзь меў такое, каб не рэвалюцыя? — Гаспадар азірнуўся на хату, на прыгожа засланы ложак і на сіні высокі сундук, які стаяў побач з ложкам каля сцяны.— Мне грэх было б каяцца.

— Каяцца табе такі няма чаго,— сказаў Сузон.

— Ды няма,— лішні раз згадзіўся Тарэнта.

— Ну, а дзядзька Сузон як жа жыве? Іншыя як?

— З іншых, каго вы ведалі, яшчэ Мікода Жук хіба. Ён таксама сярэдне жыве, трошку, можа, і горш за мяне.

— Каб жа толькі трошку,— не згадзіўся Сузон.

— І не на багата ж бядней ён ад мяне. А Сузон беднавата-такі жыве, нешта яму не шанцуе ў жыцці.

— Каб жа мне дзве рукі ды тваё здароўе, то, можа, і пашанцавала б.

— Я супроць таго нічога не скажу. З адной рукой дужа не наробіш. І не пашкодзіла б, таварыш Буднік, каб улада яму пасабіла неяк.— Тарэнта паказаў на Сузона, які адзінцом сядзеў на ўслончыку каля сцяны.— Чалавек б'ецца колькі, а на ногі ўсё ніяк не стане.

— Улада, можа, і пасобіць,— сказаў Буднік,— але і вы ж, як старыя дружбакі, тым-сім пасабіць маглі б.

— Чым жа мы яму пасобім? Ды нам і няма калі, сваёй работы не перарабіць.

— Ён пасобіць! — Сузон махнуў безнадзейна рукой.— Ён, як разбагацее яшчэ больш, зусім мяне не пазнае, не тое каб яшчэ пасабіць.

— Ты, Сузон, лішняе гаворыш,— адказаў Тарэнта спакойна, але кінуў на Сузона зласлівы погляд.— Гонару ў мяне няма такога, каб людзей не пазнаваць, а што я добра жыву, на тое і рэвалюцыя была, на тое і час наш прыйшоў. Не з чужога жыву, з свайго.

— А для мяне, па-твойму, рэвалюцыі не было, што я так вось?

— Была і для цябе, ды ўжо я ў тым ніяк не вінен, што жыццё тваё не ладзіцца.

— Цябе я і не вінавачу, а толькі сказаць хачу, што як разбагацеў ты, то нос задзіраць стаў, на дружбу запамятаць можаш.

Бачачы, што спрэчкі гатовы перайсці хоць і ў схаваную, але ў сварку, Павел Андрэевіч парашыў перабіць іх. Пасабіла гэтаму і гаспадыня, як прынесла снеданне. Яешня з салам, тонка парэзаны скібачкамі цераз усю куліду, свежы хлеб і ў шырокім гліняным гладышку малако, усё гэта яна паставіла на стол, пасля падала відэльцы і шклянкі і запрапанавала гасцям сесці да стала.

— Садзі ж гасцей, чаго ж ты стаіш,— звярнулася яна да мужа. І адразу падняўся з месца Павел Андрэевіч і пайшоў да стала. Панёс за сабою і ўслончык. Як сеў, перш за ўсё хлеба адламаў сабе і паспытаў яго.

— Хлеб вельмі смачны,— сказаў ён.— У гаспадыні рукі, відаць, залатыя.

— Дзе ўжо там залатыя,— засаромелася жанчына. Высокая, яна адышла да грубкі і стала там, хаваючы рукі пад фартух.— І хлеб так сабе, вы ўжо наўмысля яго хваліце. Добра, што хоць такі ёсць.

— Ды добра, некалі ж зусім яго не было.— Гаспадар

уздыхнуў.— Некалі я і думаць баяўся, што як людзі жыць буду. У Сібір ездзіў долі шукаць, на край свету, аж яна, доля тая, пад бокам у мяне ляжала.— Гаспадар і сам падаўся да стала.— Вось таварыш Буднік нас і навучаў, як тую долю ўзяць. Цяпер я ўсім гэта кажу, а тады часцяком і не верыў, не хацеў слухаць.

— Я хутка зусім сюды да вас прыеду,— сказаў Павел Андрэевіч,— от тады зноў разам, толькі ўжо не шукаць будзем долю, а рабіць будзем яе. Тады мы і зробім справу, добрую справу. Створым у вас арцель, ды такую, каб яна на ўсю рэспубліку прыкладам была. Людзям трэба паказаць, як жыць. Адзінцом сядзець у сваім двары — гэта яшчэ не ўсё жыццё, далёка не ўсё. Ці, можа, ты, Тарэнта, зноў будзеш баяцца слухацца маіх слоў? — Павел Андрэевіч зірнуў Тарэнту ў твар.

— Баяцца я не буду, а падумаць — падумаю над гэтым.

— Падумаць варта.

— Ён падумае і ў арцель не пойдзе.

— А ты, Сузон,— гаспадар кінуў на яго злосны погляд,— лепш сядзь да стала, паснедай. Куды трэба было, я раней за цябе ішоў, не чакаў, покуль ты мне пра тое скажаш.

— А ў арцель вось і не пойдзеш.

— Гэта, як я захачу, так і зраблю, воля мая будзе. А тым часам сунься да стала, снедай.

— За снеданне дзякую, я дома снедаў.

Сузон снедаць не стаў, і, укрыўдаваўшыся на яго, не стаў снедаць і сам гаспадар. Як і Сузон, ён адсунуўся далей ад стала і маўчаў, нерваваўся. Правая шчака, падцягнутая вузялком да вока, цяжка ўздрыгвала, паказваючы на ягоную ўсхваляванасць. З Сузонам у яго даўно такія спрэчкі, і пачынае іх заўжды Сузон. Ён як бы папракае Тарэнту за тое, што той жыве лепш, чым ён. Звычайна Тарэнта не надае папрокам вялікага значэння. Але Сузон не ўтрымаўся ад іх і пры чужых людзях, ды яшчэ пры чалавеку, які ведае абодвух іх здаўна, калі акурат Тарэнта горш жыў і калі яны заўжды былі ў аднэй хеўры. Думае Тарэнта, што зрабіў гэта Сузон наўмысля і з зайздрасці да яго. Ад гэтага злуе яшчэ больш і, памаўчаўшы, гаворыць:

— Не разумею я, Сузон, чаго ты ад мяне хочаш. Заўжды ты чэпішся да мяне, нібы я вінен у тым, што і жыць табе цяжка, што і рукі ў цябе няма. Я гэта пры старонніх людзях кажу. Жылі мы з табой у адно і за адно ішлі.

Пакутаваў я за ўсё больш, чым ты, тваёй долі ад цябе не адабраў, жыву, як сам умею. Чаго ж ты?

— А нічога я і не хачу ад цябе, па мне жыві, як хочаш. Я пайду,— кажа Сузон, падымаючыся з услона.— Мне трэба яшчэ на пільню схадзіць.— Ён моўчкі падае руку Міхаілу Палікарпавічу, пасля інжынеру і, урэшце, Будніку.— Вас я хацеў бы папрасіць, таварыш Буднік, каб пасабілі мне, каб не перабірацца мне пакуль што на хутар.

— А ты і не перабірайся. Я пра арцель сур'ёзна гавару: прыеду і пасаблю вам арганізавацца. Тады і ніякай патрэбы пераязджаць на хутар не будзе.

— Але ж да таго яны мяне сілай адтуль выкінуць. Я на Давыдзюковай зямлі сяджу, а ён першы ў нас багатыр, у яго сіла, ён мяне выцісне.

— Не выцісне. Як зробім арцель, яго адтуль выціснем, а цябе ён не выцісне, гэтага не бойся.

— Ну, то дзякую, калі так. Я пайду ўжо.— І Сузон моўчкі падаў руку гаспадару.

— Перакусіў бы чаго,— запрапанаваў гаспадар.

— Ці я ў госці прыйшоў, што буду перакусваць?

— Ат! Злуеш ты нямаведама чаго.

— Я і не злую, чаго мне на цябе злаваць? — падышоў да гаспадыні — яна стаяла каля грубкі — і развітаўся з ёю.

— Нешта, мусіць, ёсць паміж вамі? — запытаў Павел Андрэевіч, калі Сузон пайшоў з хаты.

— Што ж паміж намі будзе. Я яго не чапаю, да мяне яму мець няма чаго.

— А чаго ж ён, сапраўды, так трымае сябе з вамі? — запытаў Міхаіл Палікарпавіч.

— Хто яго ведае: можа, зайздросна чалавеку, што я жыву не так, як ён, можа, іншае што, толькі ён заўжды ўпікае мяне, вяжацца ў сварку.

Гаспадар узяў гладыш і паналіваў у шклянкі малака.— Запівайце малачком.

— Індывідуалізм заядае,— заўважыў інжынер.— Селянін, як ніхто, індывідуаліст, а індывідуалізм сялянскі — сіла, вялікая яшчэ сіла.

— Калектыўнае гаспадаранне ў арцелі прытупіць пачуццё індывідуалізму.

— Я баюся, што індывідуалізм перашкодзіць стварэнню самой калектыўнай гаспадаркі.

— З такімі ў арцелі не ўжывешся,— сказаў гаспадар пра Сузона.

— Ну, а вы, самі вы пайшлі б у арцель? — інжынер уставіўся ў Тарэнтаў твар.

— Хто ж яго ведае,— Тарэнта зірнуў на інжынера, пасля на Паўла Андрэевіча і ўхіліўся ад адказу на запытанне.

— Пойдзеш ці не пойдзеш, гэтага так лёгка не скажаш, над гэтым падумаць трэба, як яно і што там будзе, хто ў тую арцель збярэцца.— Гаспадар зірнуў на Паўла Андрэевіча.— Агулам жа, хто яго там ведае. Як па мне, то я мог бы жыць яшчэ і без арцелі пакуль што, а там пабачу, як прыедзе таварыш Буднік.

— Арцель зробім, дзядзька Тарэнта, добрую арцель зробім. Тады ў вас і сваркі з Сузонам ніякай не будзе.

— Я не супроць таго. Калі да толку — яно ўсё можна зрабіць, чаму ж не, абы гэта жыццё не псавала.

Госці папілі малака і падняліся ісці. З гаспадарамі развіталіся ў хаце, але і сам Тарэнта, і жонка выйшлі на двор следам за гасцямі і правялі іх аж за калітку, і там Тарэнта яшчэ раз падаў усім руку на развітанне.

— Як будзеце тут, таварыш Буднік, прыходзьце. І вы прыходзьце,— звярнуўся ён да інжынера і да Міхаіла Палікарпавіча.

— Мы заўжды будзем рады такім гасцям.

— А ўжо ж абавязкова прыходзьце.— Гаспадыня кіўнула галавой. Яна стаяла каля калíткі, як і ў хаце, трымаючы рукі схаванымі пад фартухом.

Ішлі на былы панскі двор, дзе чакала аўтамашына.

— Гісторыя гэнага селяніна вельмі цікавая,— сказаў Павел Андрэевіч, павяртаючы галаву да Шкробатавай хаты.— І ведаеце, Міхаіл Палікарпавіч, я хачу прызнацца, што ўвесь час я сачыў як за вашым лёсам, так і за лёсам гэнага селяніна. Нешта, прабачце, агульнае між вамі было, што мяне надзвычай цікавіла.

— Але навошта ж я быў патрэбен вам? — здзівіўся прафесар.

— Я быў зацікаўлен у тым, каб вы засталіся на баку рэвалюцыі.

— І таму вы ніводнага разу не сказалі мне, хто вы, што мы даўно знаёмыя з вамі?

— Я лічыў, што не павінен вам перашкаджаць самім прадумаць усё, чым вы жылі. Напомніць аб сабе, значыла напомніць вам пра што-ніштo, у чым вы цяжка расчараваліся. Ведаючы вашу натуру, я не хацеў уразіць таго, што загойвалася.

— Я нічога не разумею.— Прафесар не ведаў, як зра-

зумець Паўла Андрэевіча. Ён патрэбен быў ім, хацелася, каб ён застаўся на баку рэвалюцыі? Але ён жа не збіраўся быць супроць яе. Можа, баяліся гэтага? Тады дарэмна ўсё гэта, і не варта было хавацца столькі часу. І гэта несумленна. Гэта значыць — яму не зусім верылі, а можа, і ў чым-небудзь западозрылі, а пасля вывучалі яго-ныя настроі і паводзіны? Пэўне, наўмысля для гэтага заводзілі з ім гутаркі на тэмы, якія для яго былі спрэчнымі? Хоць ён і сам звычайна і зусім свядома пачынаў спрэчкі, нават часта проста для саміх спрэчак. Але чаму ж Павел Андрэевіч ні разу не спыніў яго ў спрэчках? Пэўне, хацеў, каб ён выказаўся да канца, каб ведаць усё, што ён думае?

Міхаіл Палікарпавіч ідзе моўчкі і здзіўлена паводзіць плячыма. Ён не ведае, як вытлумачыць паводзіны Паўла Андрэевіча. Тое, што ён у працягу двух з лішнім гадоў, часта сустракаючыся з ім, ніводнага разу не падаў поваду думаць, што ён ведае яго. А можа, Павел Андрэевіч сапраўды ведаў, як хацелася яму вызваліцца ад старога, і па гэнай прычыны не прызнаваўся, каб гэтым не прыпамінаць, што некалі вясковы настаўнік з правінцыі выказваў больш гістарычнага прадбачання, чым ён, прафесар з сталіцы? Тады гэта праява незвычайна глыбокай чуласці і вялікай увагі. У прафесара багата агульнага ў поглядах з селянінам, які спадзяваўся на праўду? Можа быць. Прафесар вялікія надзеі ўскладаў на так званую сапраўдную дэмакратыю. Можа быць, нешта агульнае паміж першым і другім ёсць. Прафесар прыпамінае свае тагачасныя гутаркі з вясковым настаўнікам пра сялянства і дэмакратыю. Калі б Павел Андрэевіч прыпомніў яму тыя гутаркі, прафесар пачырванеў бы ад сораму, што не ўмеў у сваё разуменне дэмакратыі ўкласці канкрэтнага зместу. З боку Паўла Андрэевіча вельмі тактоўна, што ён не прыпамінае гутарак. Прафесар удзячан яму за гэта, хоць гэта некалькі і крыўдзіць яго, бо, значыць, Павел Андрэевіч ставіцца да яго, як да слабейшага, як ставяцца старэйшыя да дзяцей, калі не хочуць прыпамінаць дзецям іхніх нядобрых учынкаў.

— Дзіўна! — кажа прафесар.— Я шмат чаго не разумею ў нашых адносінах з вамі, Павел Андрэевіч. Тое, што я сёння пачуў ад вас, мяне вельмі здзівіла.

— А вы, Міхаіл Палікарпавіч, не надавайце ўсяму гэтаму ніякага асаблівага значэння. Усё гэта дужа проста.

Машына стаяла на былым панскім двары. Шафёр сядзеў на ўслоне на верандзе і піў малако, прынесенае жан-

чынай. Жанчына стаяла побач, прытрымліваючы за вушка гарлачык, пастаўлены на ўслон. Каля машыны таўпіліся дзеці. Яны абмацвалі машыну рукамі, спрабавалі пальцамі шыны каткоў, гладзілі далонямі бліскучыя чорныя крыллі над каткамі і заглядалі ў сярэдзіну машыны. Змеціўшы незнаёмых людзей, дзеці адышлі ад машыны ўбок.

У машыне Павел Андрэевіч сеў побач з шафёрам, а Міхаіл Палікарпавіч з інжынерам. Інжынер ад гарачыні і ад хадзьбы стаміўся, сядзеў, адкінуўшыся плячыма да сценкі, і маўчаў, слухаючы, як Павел Андрэевіч апавядае пра былога дэпутата Дзяржаўнай думы Пілацеева. Міхаіл Палікарпавіч, услухоўваючыся ў ягоныя словы, чакае, што вось-вось Павел Андрэевіч возьме і скажа пра свае тагачасныя сустрэчы з ім. Ён не хоча гэтага. Цяпер ён так і разумее, што Павел Андрэевіч ставіцца да яго, як да слабейшага. Значыць, напэўне, думае, што ён, Галынскі, шмат у чым бездапаможны сам. І, напэўне, лічыць магчымым і зусім законным, каб прафесар Галынскі быў пад ягоным уплывам. Але ж прафесар зусім не даваў на гэта ніякай згоды. Цяпер ён нават гатоў дакараць сябе за тое, што пасля даклада на Саўнаркоме некалькі расчуліўся, менш за ўсё ў іхніх адносінах павінна быць такога. Павел Андрэевіч надзвычай чулы і ўважлівы чалавек, на яго няма за што крыўдаваць, але гэтак жа няма патрэбы і падпадаць пад ягоны ўплыў. Адносіны павінны быць зусім выразныя: Павел Андрэевіч робіць сваю справу, як камуніст, як арганізатар і кіраўнік будаўніцтва, а ён будзе рабіць сваю, як работнік навукі, і ўсё. Дзесьці іхняя работа будзе сутыкацца, дзесьці ў ёй будзе агульнае, дзе работа прафесара будзе дапаўняць работу Паўла Андрэевіча, будзе прыносіць карысць ягонай справе. Але што ж з таго? Такі аб'ектыўны сэнс падзей. І прафесар ніколі не думаў ісці супроць гэтага. Ён толькі не хоча ісці на повадзе ў каго б там ні было. Ён хоча быць самім сабой і будзе. Трэба толькі зразу ж, цяпер жа азначыць свае адносіны з Паўлам Андрэевічам, і ўсё будзе так, як ён хоча, як ён думае.

Машына ідзе паціху, уздымаючы за сабою цэлае воблака пылу. Час ад часу каткі машыны трапляюць у вузкую глыбокую каляіну вясковай дарогі, і тады прафесар чуе, як шуршыць шына, трэцца бакамі аб сухую цвёрдую зямлю. Машына ўздрыгвае, падскоквае на разорах, абмінаючы сялянскую фурманку, нагружаную мяшкамі, падкідвае інжынера ўгору, і ён палахліва хапаецца адной

рукой за дзверную ручку, а другой за руку Міхаіла Палікарпавіча.— Прабачце,— гаворыць ён, усеўшыся на сваё месца.— Такія дрэнныя дарогі ў нас яшчэ, можна выскачыць з машыны.

Гадзіны цераз паўтары яны развіталіся. Павел Андрэевіч з інжынерам паехаў у горад, каб цераз два тыдні ўжо зусім пераехаць на пабудову камбіната, а Міхаіл Палікарпавіч накіраваўся ў лабараторыю. Па дарозе яго нагнаў Мілоўскі. Быў Мілоўскі ў ботах. Халявы ботаў задужа кароткія для ягоных ног і далёка не дастаюць да кален. Мілоўскі загарэў. Ён зусім чорны і ад загару, і ад тарфянога пылу. З-пад запыленай бурай кепкі выглядаюць бялявыя валасы. Ён усміхаецца, і тады блішчаць белыя зубы і блішчаць усмешкай вочы.

— Ну, прафесар, віншуйце нас,— кажа ён.— Мы правялі сёння першыя вопыты збірання фрэзернага торфу пнеўматычным спосабам. І вельмі ўдала. І ўсё залатыя рукі нашага інжынера.

Ён ідзе побач з прафесарам, загарэлы, высокі, моцны. Сілай вее ад кожнага ягонага руху, і прафесар любуецца ім.

— Вы гаворыце пра Аксану? — пытае ён, хоць добра ведае, што Мілоўскі гаворыць пра яе. Ён уяўляе Аксану ў яе рабочай вопратцы. Яна не загарэла так, як Мілоўскі, але, напэўне, гэткая ж чорная ад пылу, напэўне, гэтак жа бялеюць яе зубы, калі яна ўсміхаецца, але вачэй яе амаль зусім не відаць, бо шчыліны воч звужаюцца ў часе ўсмешкі.— Яна вельмі здольная,— кажа прафесар.

Пакой, у які ідзе прафесар — ягоны кабінет. Побач хімічная лабараторыя. Там лабаранты, памочнікі прафесара і некалькі чалавек студэнтаў-практыкантаў. У кабінеце, акрамя прафесара, нікога. На стале ляжыць нясконччаны рукапіс ягонай кнігі. Шырокія аркушы паперы спісаны густымі дробнымі літарамі. На стол свеціць сонца, і літары, і словы, напісаныя густым, чорным атрамантам, як бы налепленыя зверху на паперу: здаецца, пагладзь паперу пальцам і адчуеш іх.

Прафесар рад за сваю кнігу. Зусім на днях пра яе пытала Аксана, прызнаўшыся, што даўно ўжо ведае яго па «Хіміі торфу». Яна пытала, ці піша прафесар новую кнігу. Але чаму ён думае пра Аксану? І гэта не ўпершыню ўжо з таго часу, як яны разам былі каля возера. Прафесар адрывае погляд ад рукапісу і ідзе да акна. За акном балота, засаджанае капустай. Маладыя, шыракалістыя качаны стаяць, натапырыўшыся, радамі. Сакавітыя, ма-

ладыя лісты блішчаць на сонцы срэбрам. Усё заліта сонечным святлом: і гарод, і кавалак балота, што за гародам, і сялянскае поле за балотам. У гэтым сонечным святле дзесьці і сама Аксана. Машына, цяжкая і нерухомая, паволі сунецца па роўнаму фрэзернаму полю, усмоктваючы ў сябе тарфяную крошку і пыл. На двары вецер. Тарфяны пыл уздымаецца з-пад машыны і кружыцца над ёй. У пыле Аксана. Яна назірае за машынай вузка зажмуранымі вачыма.

За дзень перад тым, як вярнуўся прафесар на балота пасля даклада ў Саўнаркоме, на Яснаўскую электрастанцыю прыехаў новы інжынер. Яго і напаткаў, разам з Аксанай, назаўтра пасля свайго прыезду, прафесар. Аксану прафесар пазнаў адразу і, пазнаўшы, абрадаваўся. Для самога прафесара ў гэтым не было нічога дзіўнага. Ён вытлумачыў гэта тым, што яшчэ зусім свежымі былі ў памяці ўражанні ад дарогі, у часе якой прафесар доўгі час прабыў разам з Аксанай. У гэты час яшчэ прафесара бязмерна здзівіла б, калі б яму хто-небудзь сказаў пра тое, што адбылося паміж ім і Аксанай пазней. І не паверыў бы ў гэта.

Прафесару ішоў сорак другі год. Нягледзячы на гэткі ўзрост, ён адчуваў сябе зусім яшчэ юнаком, ды і з выгляду нельга было даць больш трыццаці. Ноччу перад гэтым прафесар працаваў, скончыў адзін з раздзелаў сваёй кнігі і быў незвычайна задаволены гэтым. Да ўсяго быў росны сонечны ранак, а ўсё разам радавала і бадзёрыла.

Калі б спатканне адбылося дзе-небудзь на гарадской вуліцы, прафесар, напэўне, ветліва прывітаўся б з Аксанай, можа, зірнуў бы з простай цікавасці чалавека на яе спадарожніка і прайшоў бы далей. Але тут зусім іншае. І ён першы спыніўся, прыўзняў левай рукой лёгкую, светлага колеру, кепку і падаў Аксане руку, а пасля пакланіўся і падаў руку, назваўшы сваё прозвішча, яе спадарожніку. Тое, што адбылося пасля, нельга назваць нават гутаркай. Прафесар запытаў у Аксаны, ці прызвычаілася яна да сваёй працы на станцыі, і падзякаваў, калі яна, сказаўшы, дзе жыве, запрасіла наведаць яе. Гэта было ўсё, але калі яна пайшла са сваім спадарожнікам далей, прафесар азірнуўся і пазайздросціў маладому інжынеру. Да зайздрасці прымяшалася і яшчэ нешта, калі, азірнуўшыся, прафесар напаткаў уважлівыя погляды Аксаны і яе спадарожніка. Прафесар зразумеў, што Аксана апавядае свайму спадарожніку аб ім.

Заняты работай, прафесар Аксану ў той дзень больш

не бачыў, як і ў наступныя два дні. Ён нават ніводнага разу не ўспомніў пра яе аж да апошняга спаткання каля возера.

У той дзень ён, як і звычайна, прыйшоў дадому назадоўга перад захадам сонца. У пакоях было горача і да дробязей усё даўно знаёма, і прафесар парашыў схадзіць на возера. Ідучы да возера, напаткаў Аксану. Яна стаяла на мастку над канавай. І на гэты раз прафесар абрадаваўся, пазнаўшы яе, і абрадаваўся таму, што яна адна. Яна здалёк яшчэ заўсміхалася і кіўнула галавой.

— Мы сёння ўпершыню спрабавалі на рабоце багер Віланда,— сказала яна.

— Ну і як? — запытаў тады прафесар.

— У ім рад каштоўнейшых якасцей, але нам трэба нешта іншае. Вы бачылі багер Бірукова?

— Так, так, бачыў. Які ж з іх лепшы?

— Ні той, ні другі. Варта было б узяць усе лепшыя якасці і аднаго, і другога і зрабіць нешта новае. Гэта не так ужо і цяжка. А вы куды ж, Міхаіл Палікарпавіч?

— Хачу схадзіць да возера. Ваш час вольны? Хадземце разам.

Пазней яны побач стаялі над берагам возера. Цені ад кустоў з супрацьлеглага берага ўкрывалі сабой возера, кладучыся на спакойную яго паверхню, і як бы звужалі яго берагі. Ледзь прыкметна пасцілаўся над возерам ля берагоў туман. І хоць трапляў яшчэ праз гушчар кустоў на твар апошні промень сонца, і хоць поўнымі галасамі передвячэрніх птушак жылі яшчэ прыазёрныя кусты, быў час, калі па ўсім адчуваеш, як з кожнай хвілінай набліжаецца ноч. Яшчэ троху, і прыйдзе пара ўсеагульнага заспакаення. У такія хвіліны ў чалавеку з найбольшай сілай абуджаецца пачуццё аддалення ад свайго першага дня. З найбольшай вастрынёй адчуваецца адзінота, і хочацца мець каля сябе блізкага чалавека, які зразумее цябе і скажа табе патрэбныя словы.

Міхаіл Палікарпавіч Галынскі агулам любіць адзіноту. Ён бывае ў таварыстве часта блізкіх, злучаных нечым агульным, людзей, але і сярод іх ён часта ў адзіноце. Будучы здольным моцна прывязацца да чалавека, ён не знаходзіў людзей, якія маглі б выклікаць у ім пачуццё гэткай прывязанасці. Да ўсяго ён свядома ставіўся да людзей з некаторай насцярожанасцю, баючыся, што, сышоўшыся з імі, падпадзе ў нейкай ступені пад іхні ўплыў і не будзе адчуваць сябе вольным. У асабістых адносінах да людзей ён хутчэй прывыкаў да тых, з кім сустра-

каўся, з кім як бы сябраваў. У яго была прывычка, а не сяброўская прывязанасць, і калі такія сувязі выпадкова або свядома абрываліся, ён ніколі не шкадаваў аб іх. Амаль гэта ж можна сказаць і пра адносіны Міхаіла Палікарпавіча да жанчын. Ён здольны быў лёгка захапіцца, і кожнае захапленне здавалася яму мацнейшым, чым папярэдняе. Часта ў такую пару ён здольны быў паверыць, што ўрэшце прыйшло каханне і ён зможа сысціся з жанчынай назаўжды, але праходзіў нейкі час і, не знайшоўшы ў жанчыне патрэбнай яму паўнаты, Міхаіл Палікарпавіч раптам адыходзіў ад яе, заўжды адчуваючы ў такім выпадку як бы вызваленне ад чагосьці цяжкага, і тады пачынаў пачуваць страх перад тым, што магло ж бы здарыцца, што ён сышоўся б з гэтай жанчынай і назаўжды. З гэтай прычыны ён пачынаў прывыкаць да думкі, што не здольны пакахаць калі-небудзь моцна, па-сапраўднаму, і парашыў, што на ўсё жыццё або застанецца халасцяком, або сыдзецца назаўжды з жанчынай, якой менш за ўсё будзе захоплены. З гэнай прычыны, калі ён абрадаваўся, напаткаўшы Аксану, у ягонай свядомасці мільганула думка, што Аксана будзе пасля значнага перапынку чарговым захапленнем, і цяпер, стоячы поруч з ёю, слухаючы яе жвавую гаворку, успамінаючы, што яна маладзей за яго больш як на дзесяць год, прафесар думаў, што, можа, лепш было б не даваць пачуццю волі.

Аксана апавядала аб сабе. Яна радзілася ў гэтых мясцінах. Зусім яшчэ маладой дзяўчынай, неяк інстынктыўна ўгадваючы сваё прызначэнне ў новым, разам з вясковымі хлапцамі пайшла ў камсамол. З гэтымі мясцінамі ў яе звязаны самыя лепшыя ўспаміны. Ёй асабліва захацелася пабыць тут у той раз, як яны пазнаёміліся ў таварыша Андрэя. Калі прыехала сюды і пайшла паблукаць па знаёмых месцах, не пазнала іх, усё было не тое, усё іншае, абноўленае. Гэта, як і сама яна. Яна ў працягу некалькіх дзён і сябе ў сабе не пазнала. Даўно, упершыню ў сваім жыцці, яна тут пакахала. Той, каго песціла дзявочымі думкамі і пачуццямі, спачатку паехаў ад яе на фронт, зусім яшчэ юнаком, а пазней вучыцца. Яны вельмі рэдка бачыліся, зусім мала былі разам. Яна кахала яго да самага апошняга часу. Як прыехала сюды, пачуцці, здавалася, абудзіліся з новай сілай. І вось раптам прыехаў ён. Яна абрадавалася, спаткалася з ім, пабыла з ім некалькі дзён, а пасля думала пра ўсё гэта і нічога не разумела. Не разумела, што з ёю здарылася, ніяўжо ж яна ашуквала сябе? Нельга ж успаміны аб мі-

нулым пачуцці прымаць за самое пачуццё? А ў яе так і было, як яна думае.

— Вы яго не кахаеце? — неяк абрадавана запытаў тады прафесар, адгадаўшы, што гаворка ідзе пра Аксанінага спадарожніка, якога ён напаткаў быў з ёй.

— Не.

— А вы думаеце, што здольны пакахаць каго-небудзь?

Аксана запытання не зразумела і збянтэжана ўсміхнулася.

— Не ведаю, яго я кахала па-сапраўднаму.

— А я не здольны кахаць. Я ніколі ў жыцці нікога не кахаў,— прызнаўся прафесар. Аксана не паверыла, падумала, што ён жартуе.— На вялікі жаль, я не жартую,— сказаў прафесар. Апошнія словы прафесар вымавіў такім тонам, што Аксана не ўтрымалася, каб не зарагатаць, а за ёй зарагатаў і сам.

— Відаць, у вас дужа вялікія патрабаванні да жанчын?

— Або ў жанчын дужа малыя да мяне. Не было такой жанчыны, якая ўзяла б мяне ў свае рукі.

— Ха-ха! А вы хацелі б гэтага?

— Гм... Гледзячы, вядома, у чыіх руках быць. У вашыя рукі папасці я не баяўся б.

— Я пастараюся ўзяць вас у свае рукі,— жартуючы адказала Аксана, зразумеўшы прафесаравы словы, як жарт.

— Спрабуйце. І калі вам гэта ўдасца, буду вельмі рад.

— Пастараюся. Глядзіце, каб не давялося пасля каяцца.— Аксана зарагатала.— Улічыце гэта.

— Буду мець на ўвазе.— Міхаіл Палікарпавіч узяў Аксаніну руку і пацiснуў яе.— Значыць, умоўлена?

— Так, цяпер толькі сцеражыцеся.

Сонца знікла. Туман ад берагоў падняўся і папоўз на возера, павісаючы над вадой. За туманам краліся з прыазёрных зараснікаў змрок і прахлада. Яны пайшлі дадому. У той вечар Міхаіл Палікарпавіч адчуў, што прынёс у пакой з сабой нешта новае. Ён ведаў, адкуль яно, і, рыхтуючыся да сну, кпіў над сабою: «Табе, Міхаіл Палікарпавіч, сорак два гады. У такім узросце захапляцца дужа небяспечна. Ты можаш апынуцца ў дужа смешным становішчы».

...Міхаіл Палікарпавіч шырока адчыняе акно і, абапёршыся рукамі на падаконнік, нейкі час стаіць нерухо-

ма, блукаючы поглядам дзесьці далёка ў прасторах за небасхілам. Туды аплывае густая сінява далёкіх паветраных прастораў. Шырокімі, разгоннымі хвалямі коціцца туды ж вецер. Ад гэтага шырока мыслям, і яны ідуць кругамі, кожная звязаная з наступнай, што ідзе за ёй. Прафесар ведае такія хвіліны. Ён непрыкметна кантралюе думкі, накіроўваючы іх туды, дзе пачынаецца яшчэ непазнанае ім, дзе блукае ён штодня са сваімі шуканнямі. Думка ўваходзіць у невядомае, вастрынёй дапытлівасці свідруе нязведаныя яшчэ пласты існуючага. Губіцца ў шматлікіх здагадках, вяртаецца да свайго пачатку і зноў імкнецца туды, правяраючы свой шлях, і з гэтым, усё больш пашыраючыся, зрэнкі воч напружана ўглядаюцца ў адлегласць, як бы шукаюць там так патрэбнае думкам.

Перашкаджае пінжак, ён цісне на плячах. Міхаіл Палікарпавіч хуценька скідае яго з плеч і вешае на акно. Пасля вяртаецца да стала, да сваіх рабочых сшыткаў, дрыглівай рукой перагортвае старонкі аднаго, пасля другога, перакрэслівае запісы, зробленыя раней, і, дыктуючы самому сабе новыя словы і лічбы, робіць новы запіс. Момант углядаецца ў бліскучыя — яшчэ не высахла чорнае чарніла — літары, пасля кідае ручку на стол і ходзіць па пакоі, ад дзвярэй да кніжнай шафы і назад, а пазней, супакоіўшыся, садзіцца да стала. Са стала кладзе на крэсла, якое стаіць злева ад яго, напісаную частку свайго рукапісу, зноў перагортвае адзін з рабочых сшыткаў, перачытвае напісанае ў ім, акрэслівае круглай рысай асобныя месцы і пасля піша на чыстых шырокіх аркушах паперы.

Правяраючы па рабочых запісах, ён час ад часу ўпісвае ў напісаны тэкст літары, значкі і лічбы формул, лічбы табліц, патрэбных для ягоных доказаў, і старанна вырысоўвае цэльнымі рысамі, пункцірам і рысамі з працяжнікаў і кропак рухі сіл, што бытуюць у цёмна-рудай масе торфу.

Вочы бачаць сырую, толькі што знятую з элеватарнай машыны, з-пад нажа, тарфяную цагліну. Яна, як цеста, густая і ліпкая. Яе можна мясіць пальцамі, можна сціскаць далонямі, і тады з цагліны будзе сачыцца цёмнаруда вадкасць. Цагліну можна высушыць на сонцы. Часткі яе, што сцякалі з вадой, надаючы ёй цёмна-руды колер, можна сцёрці ў драбнюткі парашок. Сухую цагліну можна ўкінуць у каксавальную печ і атрымаць з яе кокс і густую смалу.

Тарфяная цагліна вырастае ў казачную сілу. Яна дзейнічае ў рухавіку нутранога згарання і ў аўтамабільнай шыне, яна ў дубільным барабане на скурзаводзе і ў сценах будынкаў; яна на друкарскай машыне і ў ваграницы металургічнага завода; яна ў прыгожа вытканым абрусе на сталах кватэр і ў вучнёўскіх торбачках у сшытках. Яна скрозь, гэтая, непазнаная яшчэ да канца, сіла, што жыве ў густой і ліпкай, як цеста, тарфяной цагліне.

Па таму, як перасоўваецца ўправа па стале і павялічваецца ягоны цень, Міхаіл Палікарпавіч дагадваецца, што набліжаецца вечар. Па густой, рухавай чырвані на сцяне пад самай столлю ён пазней дагадваецца, што заходзіць сонца. Час ад часу ён кладзе ручку на стол, развінае і зводзіць над плячыма моцна звязаныя мускуламі рукі, падымаецца з крэсла і, стоячы, перачытвае напісанае або звярае яго з запісамі ў рабочых сшытках, але ад работы не адрываецца, з-за стала не выходзіць, каб не парушыць усталяваўшайся цішыні і не страціць знойдзеных у ёй шляхоў сваіх думак.

Потым у кабінеце цямнее. З куткоў ад падлогі ўздымаюцца змрокі, і падыходзяць да стала, і кладуцца на стол, засланяючы ад вачэй дробныя рады літар. Міхаіл Палікарпавіч бярэ новы аркуш паперы і робіць на ім нейкія новыя запісы, а тады кладзе ручку і некалькі хвілін сядзіць за сталом моўчкі. У канцы даўгога калідора нараджаюцца гулкія лянівыя крокі, па якіх Міхаіл Палікарпавіч пазнае стоража. Тады павяртае твар да акна. За акном густая цемра, далёкі брэх сабак на хутары і роўны гул электрастанцыі. З левага боку электрычны ліхтар, ахутаны густым туманам. Угары дрыгліваe святло зор і між імі глыбіня прастораў, якія не маюць сабе канца.

Аднекуль з цемры даходзяць неразборлівыя галасы. Міхаіл Палікарпавіч ведае, што непадалёк праходзіць дарога да заводаў, акурат каля ліхтара. Святло ліхтара разрэдзіла цемру, згушчаную туманам, і ён бачыць, як адыходзяць з асветленага месца дарогі ў цемру дзве постаці. Ідуць задужа павольна, занятыя гутаркай.

Міхаіл Палікарпавіч адрознівае два галасы. Адзін таропкі, усхваляваны. Ён то мацнее, то прыціхае так, што зусім не чуцён. Другі голас спакайнейшы. У спакайнейшым Міхаіл Палікарпавіч чуе знаёмае. Услухоўваецца і, упэўніўшыся, што ён ведае, каму належыць гэны голас, хуценька адыходзіць ад акна і нейкі час нерухома стаіць паміж акном і сталом. Здзіўлена слухае, як часта і ча-

мусьці палахліва стукаціць сэрца. Да акна ён больш не вяртаецца, нават не хоча падысці зачыніць яго, а збірае ў адно месца рукапіс і сшыткі, кладзе ў шуфляду стала і, апрануўшы пінжак, ідзе ў калідор, у далёкім канцы якога бачна каля акна сагнутая постаць і акругленая, да грудзей, барада стоража.

Сторож адразу пачуў крокі Міхаіла Палікарпавіча і, адарваўшыся ад акна, пайшоў насустрач яму, каб дагледзець кабінет. Міхаіл Палікарпавіч накіраваўся да выйсця. На двары ён пайшоў не да службовага пасёлка, а да дарогі, што вяла ў заводы. На дарозе, непадалёк ад ліхтара, прыпыніўся і прыслухаўся. Момант хістаўся, не хацеў падацца жаданню, якое цягнула пайсці да заводаў. Спрабаваў іранізаваць над сабой, але калі галасы сталі набліжацца, пайшоў насустрач ім.

## ПАДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

У самым пачатку вясны наступнага года прафесар Галынскі вярнуўся ў Савецкі Саюз са свайго чатырохмесячнага падарожжа па заходне-еўрапейскіх краінах. Вывучэнне пытанняў, звязаных з праблемай торфу-сыр'я для хімічнай і газавай прамысловасці, а таксама пытанняў, звязаных з тэхнікай торфаскарыстання, было мэтай падарожжа прафесара Галынскага за межы. Ён пабыў у Чэхаславакіі, Аўстрыі і Германіі і цяпер вязе ў чамадане разам з двума дзесяткамі кніжак, прысвечаных тым жа пытанням, свае сшыткі, запоўненыя запісамі і шматлікімі рысункамі схем заводскіх установак, з якімі давялося азнаёміцца.

Ні на хвіліну не адрываючы погляду ад сшыткаў, прафесар сочыць за тым, як уважліва, старонку за старонкай, праглядаюць запісы ў сшытках чыноўнікі мытні. Іх двое, а побач стаіць яшчэ чыноўнік прымежнай паліцыі і з-за іхніх плеч гэтак жа ўважліва заглядае ў сшыткі ды час ад часу кідае спадылба погляды на прафесара. Прафесар просіць чыноўнікаў залішне не турбавацца і дае тлумачэнне аб напісаным у сшытках, але яны ветліва ківаюць яму ў адказ галовамі і з яшчэ большай увагай праглядаюць сшыткі, а пазней гэтак жа ўважліва пераглядаюць кніжкі і, урэшце, абмацаўшы ўсе пакункі і вопратку, якая была ў чамаданах, перадаюць чамаданы яму.

У памяшканні мытні, у зале, дзе робіцца агляд багажу, некалькі дзесяткаў чалавек. Частка іх прайшла агляд

да прафесара, частка чакае сваёй чаргі. Да прафесара ідзе насільшчык. Ён згортвае развязаныя чыноўнікамі мытні пакункі і дапамагае прафесару скласці рэчы. Пазней нясе чамаданы ў вагоннае купэ, кладзе іх на паліцу і, хаваючы грошы, атрыманыя ад прафесара, перад развітаннем гаворыць яму:

— Савецкія людзі шчаслівыя.

— Чаму? — пытае прафесар, падазрона аглядаючы насільшчыка.

— Я не быў там,— насільшчык паказвае рукой у прастору,— але ў мяне там мой малодшы брат. Ён піша, што яму добра жывецца.

— А табе дрэнна жывецца?

— Я не ведаю, як мне жывецца,— адказвае насільшчык здзіўленаму прафесару.— Калі б хто ведаў тут, што мой брат савецкі, мяне звольнілі б. Ён піша мне цераз дзесятыя рукі, і ніхто не ведае пра гэта. У брата дзеці вучацца ў гімназіі савецкай.

У вагон хтосьці зайшоў. Насільшчык хуценька раскланяўся, пажадаў прафесару шчаслівай дарогі і пайшоў на станцыю. Следам за ім з купэ выйшаў прафесар і ў дзвярах сутыкнуўся з вайскоўцам. Вайсковец прайшоў па вагоне, заглядаючы ва ўсе купэ. Калі ён знік у другім канцы вагона за дзвярыма, прафесар падышоў да акна. Перад вачыма перон станцыі. На пероне толькі вайскоўцы, якія ходзяць уздоўж поезда то ў адзін, то ў другі канец яго, ды яшчэ зрэдку пройдзе чыгуначнік. Прафесар разглядае вакзал і казённыя будынкі за вакзалам. Пасля ўвага пераходзіць да саламяных стрэх сялянскіх хат, якія стуліліся за ўзгоркамі, што лявей станцыі. Прафесар доўга пазірае туды, аж пакуль не спыняе ягоную ўвагу на сабе насільшчык, які прынёс з купэ і ягоныя чамаданы. Цяпер насільшчык пасьпяшае з двума цяжкімі чамаданамі за мужчынам, які сваім выглядам прыпамінае прафесару сярэдняй кваліфікацыі інжынера з тых, што ён сустракаў на заводах Германіі. Калі мужчына паварочвае твар да насільшчыка, каб нешта сказаць таму, прафесар інстынктыўна туліцца бліжэй да аконнай шыбіны, каб уважлівей разгледзець мужчыну. Даўгаваты ягоны твар здаўся прафесару знаёмым. Ён перабірае ў памяці знаёмых, але мужчына хутка праходзіць да вагона, і прафесар больш не бачыць яго. Заняты думкай аб ім, прафесар ідзе ў купэ і, пакуль не кранаецца поезд, стаіць над столікам, абапёршыся на яго рукамі.

Цераз колькі хвілін, зрушыўшы з месца, поезд ідзе, і,

адарваўшыся ад століка, вяртаецца ў калідор прафесар. Менш чым цераз чвэртку гадзіны будзе мяжа, за якой радзіма прафесара. Яму хочацца хутчэй туды. Тут чагосьці не стае. Чагосьці не ставала ў працягу ўсіх чатырох месяцаў падарожжа. За мяжу ехаў прафесар з вялікай ахвотай. Жаданне пабыць за мяжой было настолькі моцным, што ён стрымліваў сваю радасць, баючыся выказаць яе. Гэткая ж радасць была і тады, калі ў першыя вечары ён блукаў па багата асветленых вуліцах Прагі, а пазней Вены. А пасля адчуў, што чагосьці не стае, і адчуванне нястачы засталося аж дагэтуль. Прафесар не хоча пайсці ў купэ сесці, здаецца, што поезд хутчэй дойдзе да мяжы, калі стаяць ля акна, за якім ляжыць чыстае ўжо ад снегу, але не пазелянеўшае яшчэ, поле.

Дарогай па полі да чыгункі едзе сялянская фурманка з гноем. Селянін спыніў каня і дзівіцца на поезд. Ён ведае, што поезд ідзе ў Савецкі Саюз. Можа, і ў яго, як і ў насільшчыка, там ёсць брат.

Поезд ідзе далей. Далёка ззаду астаўся селянін са сваёй фурманкай. Поезд наганяе другую фурманку, фаэтон, у які запрэжана пара коней. Абодва кані сівыя. Коньмі кіруе мужчына, які сядзіць наперадзе, а ў фаэтоне сядзіць другі і, адкінуўшыся плячмі да спінкі, пазірае на поезд.

Гоней за колькі ад чыгункі гасцінец, абсаджаны старымі бярэзінамі. Ад гасцінца ўбок ідзе яловая густая прысада да ўзгорка, на якім даўнія шыракаверхія вербы. Вербы голыя, яшчэ без лісця, і за імі прафесар бачыць белую камяніцу. Пэўне, туды і едзе фаэтон. Калі поезд абганяе фаэтон і прысада застаецца ўбаку, прафесар прыпамінае нешта такое ж бачанае дзесьці раней. Збоку белая камяніца відаць больш, і прафесар прыпамінае сядзібу Пілацеевых. Гэта дзівіць яго. Ён ніяк не можа ўявіць, што ў гэнай сядзібе яшчэ і цяпер усё, як некалі было ў Пілацеевых. Прыпомніўшы Пілацеевых, прафесар вяртаецца думкамі да мужчыны, якога бачыў на пероне станцыі. Мужчына дужа падобен на Адама Пілацеева, але прафесар думае, што гэта выпадковае падабенства, і толькі, бо чаго ж бы Пілацееў ехаў з-за мяжы? І потым прафесар, напэўне, адразу ж пазнаў бы яго.

Поезд набліжаецца да лесу, які сцяной насоўваецца на голае яшчэ поле, зрэзанае вузкімі паскамі сялянскіх палос. У полі аніводнай душы, як бы зусім няма тут жывых людзей, а толькі голая шэрань зямлі. З-за лесу на поле насоўваецца цень хмары, за якую хаваецца сонца.

За лесам хутка мяжа, рыса, за якой пачнецца нешта іншае, тое, чаму прафесар загадзя рад.

Па лесе поезд ідзе цішэй, падаючы аб сябе сігналы, і, калі лес астаецца ззаду, на хвіліну прыпыняецца. Гэта апошні прыпынак на гэтым баку. Яшчэ колькі метраў, і будзе першы прыпынак па той бок мяжы, на савецкай зямлі. Гэта зусім блізка. Калі б адчыніць акно і зірнуць з вагона, напэўне, можна было б ужо бачыць памежныя слупы, што каля чыгункі. Прафесар дзівіцца з самога сябе, калі тварам шчыльна прытульваецца да шыбы, каб убачыць, што наперадзе. Поезд зноў рушыць з месца і ідзе зусім павольна. Прафесар бачыць высокі масток, на ім вайскоўца, які зверху аглядае поезд, каб каго не было на вагонных дахах. Насустрач поезду павольна спаўзае з зямлі цень хмары. Вагон мінае памежныя слупы, праходзіць вузкую паску нейтральнай зоны і ідзе пад драўлянай аркай, якую прафесар часта бачыў на фотаздымках у часопісах.

Прафесар шчыльна туліцца тварам да аконнай шыбы. Ён бачыць перад сабой чырвонаармейца, які стаіць непадалёк ад чыгункі, каля невялічкай будыніны. За будынінай голыя, яшчэ бязлістыя дрэвы, а далей шырокая палянка, абхутаная частаколам, а за палянкай хвойнік. Поезд скранаецца з месца і ідзе да хвойніку. Некалькі хвілін яшчэ, і прафесар бачыць зусім непадалёк ад чыгункі вялікі сад і побач размешчаныя паміж садам і раўчаком старыя і новыя будынкі. Ад будынкаў бягуць, махаючы рукамі і шапкамі, дзеці.

Не адыходзіць ад акна прафесар і тады, як ужо савецкі поезд кранаецца пасля доўгага прыпынку з першай станцыі. Сонца зайшло. Набліжаецца ноч, і ўгары ўжо можна змеціць першыя, нясмелыя яшчэ, зоры.

Унізе, пад высокім чыгуначным насыпам, поплаў. Над поплавам туман, над туманам сцелецца і дым з паравоза, і праз дым і туман прафесар бачыць першыя агні вясковых хат. Агні то з'яўляюцца, як бы падымаючыся ад зямлі, то знікаюць у тумане, калі набягаюць насустрач поезду ўзгоркі. Прафесар сочыць поглядам за аганькамі і ўяўляе, што менш як цераз гадзіну ўбачыць шматлікія агні горада, які стаў для яго за апошнія гады незвычайна блізкім.

Вясновыя ночы прыходзяць хутка і непрыкметна. Поезд імчыцца ў густой цемры, рассыпаючы ў ёй грукат жалеза, час ад часу кідаючы насустрач ёй кароткія папераджальныя гудкі. За акном нічога не відаць, і прафесар

ідзе ў купэ. Ён сядзіць, паклаўшы галаву на рукі, пастаўленыя на столік локцямі. Ён хоча сядзець моўчкі, спакойна, каб ні пра што не думаць. Наўмысле сплюскае вочы, каб задрамаць. Але дзесьці ў падсвядомым нараджаецца думка, што варта было б цяпер, калі ён зноў вяртаецца да свайго сталага месца, прадумаць пераўжытае за чатыры месяцы падарожжа і сабраць у адно свае ўражанні аб бачаным.

За мяжу прафесар ехаў не толькі для таго, каб дасканальна вывучыць хімічную і газавую прамысловасць еўрапейскіх краін. Было нешта і іншае, пра што ён нікому не гаварыў, але што вельмі моцна штурхала паехаць туды.

Прафесар ніяк не мог сказаць пра сваё жыццё, нават і самых апошніх год, а, можа быць, асабліва пра гэныя апошнія гады жыцця, што яно было спакойным. Спакой быў страчаны даўно дзесьці на мяжы пераходу ад старога да новага. Прафесар не быў ворагам старому гэтак жа, як і не быў ягоным прыхільнікам. Ён не мог прыняць старое цалкам, як яно было. У яго былі свае ідэалы, выпешчаныя ім, ідэалы, якія фарміраваліся ў працягу гадоў і якія прафесар супрацьстаўляў старому, як яно было.

У часы падзей паміж дзвюма рэвалюцыямі прафесар быў падобен чалавеку, які трапіў у вір. Яго кружыла з такой шпаркасцю, што, нягледзячы на вялікае жаданне, ён не мог не толькі выплысці з віру, а нават затрымацца на месцы, каб зірнуць, што робіцца вакол яго. Адзін час яму здалося, што ён трапіў нагамі на цвёрдае месца, адчуў яго. Ён убачыў узняты над Расіяй сцяг, за якім ішоў, на якім быў напісаны дэвіз вольнасці, роўнасці і братэрства. Ягоныя ідэалы ператвараліся ў рэчаіснасць. Ён дагадваўся, што спраўляе ўрачыстасць дэмакратыя, пра якую ён марыў. І тады раптам прыйшло яшчэ нешта іншае, зусім незразумелае.

Прафесар не быў ворагам таму, што прыйшло. Не хацеў быць ворагам, але быў ён упэўнены, што прыйшло гэнае новае не ў свой час і заняло чужое месца. Варта было б асмысліць і адно, і другое і параўнаць. Але як жа зрабіць гэта? Яно жыло ва ўяўленні прафесара, уцелясненае ў вобразе Еўропы. Трэба было бачыць Еўропу, дэмакратычныя еўрапейскія дзяржавы, каб асмысліць страчанае і параўнаць яго з існуючым. Толькі тады, напэўне, будзе знойдзены даўно страчаны спакой.

І вось ён чатыры месяцы быў там, у Еўропе. Ён меў

магчымасць сустракацца і з інтэлігенцыяй, і з простымі рабочымі заводаў.

У асяроддзі інтэлігенцыі ён знайшоў даволі пашыраныя настроі, якія скрыжоўваліся з ягонымі, ідучы ў адваротнае. Так, як ён думаў аб Еўропе, вельмі многія інтэлігенты там думалі аб новай Расіі, бачачы ў яе вобразе, часам не зусім зразумелым для іх, уцеляснененне сваіх ідэалаў. Гэта перашкаджала прафесару пазнаць ісціну, якой ён шукаў, і яшчэ больш ускладняла шуканні. І ён адчуў жаданне хутчэй паехаць назад. Жаданне гэтае здзівіла яго, але прафесар вытлумачыў яго тым, што затужыў па радзіме, і пераканаў сябе, што нічога іншага ў гэтым жаданні няма. Гэтак жа вытлумачыў ён і сваю ўсхваляванасць, якая прыйшла з тым, як поезд наблізіўся да мяжы. Але справа ж зусім не ў гэтым, прафесар разумее, што справа ў тым, што знайсці страчанага некалі спакою ён не змог і ў Еўропе. Ён адчуваў сябе бездапаможным. Бездапаможнасць параджала жаданне яшчэ глыбей увайсці ў самога сябе, у сваю адзіноту, каб назаўжды захаваць сябе, як чалавека, нікому непадуладнага. І прафесар парашае, што гэта будзе самым найлепшым.

З-за акна мігаюць агні блізкага ўжо горада. Прафесар таропка ўздымаецца з месца і, згінаючыся над столікам, туліцца тварам да акна. Агні выплываюць з цемры і то рассейваюцца ў ёй светлымі кроплямі ў беспарадку, то выроўніваюцца лініямі, то радамі густа ўстаюць адзін над другім, імкнучыся ўгору. Поезд павольна гойдаецца ў прывабным моры агнёў і задзірыста, абрадавана ўскрыквае. Поезд набліжаецца да станцыі. Прафесар яшчэ больш згінаецца і яшчэ шчыльней туліцца да акна, да прахлады аконных шыб.

## ПАДЗЕЯ ПЯТАЯ

Па высокай прыгорбленай постаці прафесар Галынскі адразу пазнаў Ягуплу і абрадаваўся яму. Ягупла стаяў спіной да прафесара і прыглядаўся да бутэлечкі, якую трымаў у руцэ Лёйка. Паставіўшы бутэлечку на ўслон, Лёйка ўзяў другую і яе, як і першую, паказаў Ягуплу. Паказваючы бутэльку, Лёйка аб нечым апавядаў і так быў захоплены гаворкай, што зусім не пачуў, як падышоў прафесар і стаў побач з ім. Ягупла ж, як змеціў прафесара, неяк спалохана азірнуўся на яго, пасля на Лёйку і тады падаўся ў бок ад Лёйкі і працягнуў прафесару руку.

— Як нечакана! Міхаіл Палікарпавіч!

Тады, трымаючы ў абедзвюх руках па бутэльцы, павярнуўся тварам да прафесара і Лёйка. Каб падаць прафесару руку для прывітання, Лёйка бутэльку з правай рукі пераклаў у левую. У бутэльках прафесар, пакуль вітаўся з Лёйкам, паспеў разгледзець павукоў, якія нерухома сядзелі ў наблытаным павуцінні. Павукі сядзелі амаль на дне бутэлек, а ўгары, пад рыльцам, поўзалі мухі. Прафесар прыпомніў час, калі ён упершыню зайшоў да Лёйкі ў кабінет. Прыпомніў той час і Ягупла і пачырванеў. Каб не выказаць сваёй збянтэжанасці, Ягупла загаварыў з прафесарам пра ягонае падарожжа. Але прафесар гутаркі не падтрымаў.

— А вы ўсё сочыце за павукамі, таварыш Лёйка? — запытаў ён.— Ці бачылі ж што за гэны час?

Лёйка задаволена ўсміхаўся, абрадаваўся, што і прафесар цікавіцца ягонымі доследамі, і паднёс да самага прафесаравага твару вялікую бутэльку, якую ўзяў з услончыка. У бутэльцы было тры павукі. Яны сядзелі ў розных месцах па адным. Акрамя іх, было ў бутэльцы некалькі жывых і некалькі здохлых ужо, задушаных павукамі мух, ды яшчэ трымаліся на павуціннях крыллі з'едзеных мух і рэшткі з'едзеных павукоў. Лёйка торкнуў пальцам у бутэльку, паказваючы на іх:

— Заўважыў, што яны з'ядаюць друг дружку, але прасачыць, з якога повaду з'ядаюць, дасканальна не прасачыў.

— Шкада, шкада. А я думаў, што да гэтага часу ўжо будуць вынікі вашага даследавання,— іранізаваў прафесар.

Лёйка іроніі не зразумеў.

— Мала ў мяне вольнага часу,— паскардзіўся ён.

— Так, так, гэта правільна. Вы,— сказаў прафесар,— відаць, недасканала вывучылі пабудову цела павукоў. Вам варта было б спісацца па гэтаму пытанню з кім-небудзь з вучоных заолагаў. Паблукаў я па Еўропе. Таксама рознымі доследамі, як і таварыш Лёйка, займаўся.— Прафесар кіўнуў галавой у бок да Лёйкі.— А вы, Сузон Іванавіч, надоўга да нас?

— Надоўга.

— У такім выпадку заходзьце да мяне. Цяпер я спяшаюся, хачу зайсці да начальніка будаўніцтва. Бывайце здаровы, таварыш Лёйка.

Прафесар выйшаў на гасцінец і спыніўся, мяркуючы, ці то пайсці пешшу, ці пачакаць, калі будзе ісці поезд.

Хвіліну пастаяў і пайшоў пешшу. Пайшоў, каб паглядзець на месцы, якіх даўно не бачыў. Вабілі пайсці і веснавое сонца, і свежае, па-вясноваму цёплае, паветра.

Зямля адтала і цяпер высыхае. Па абодва бакі дарогі глыбокія, метра ў паўтара шырынёй, канавы. У канавах, запоўніўшы іх ледзь не да самых берагоў, стаіць вада. У вадзе адлюстроўваецца чыстае веснавое неба, і малады лазняк, і алешнік, які стаў за гэныя гады паўз канавы. Прафесар ідзе павольна. Ён свядома не спяшаецца, каб трапіць да Будніка пасля дванаццаці і каб па дарозе падумаць над некаторымі пытаннямі.

Час ад часу прафесар кідае погляд наперад і бачыць паміж хутарамі стрэхі новага пасёлка, які ўзнік каля возера Сыты мох, і рыштаванні над высока выведзенымі цаглянымі сценамі. Ён углядаецца ў далячынь і чуе, прыглушаны адлегласцю, гул машын, што працуюць на будаўніцтве камбіната, і размераныя звонкія ўдары жалеза аб жалеза.

З-за палявых узгоркаў усё вышэй і вышэй уздымаюцца стрэхі драўляных дамоў і рыштаванні ля сцен каменіц, і разам з гэтым мацнее гул машын і званчэйшым робіцца лязгат жалеза. Хутка ў машынны гул уплятаюцца і чалавечыя галасы. Прафесар параўноўвае гэныя месцы з тым, як яны выглядалі, калі ён трапіў сюды ўпершыню. Цяпер усё інакш. Простая лінія новай, пракладзенай ад балота, дарогі. Удоўж дарогі, па правы бок яе, даўгім кварталам напалову выкладзеныя сцены заводскіх гмахаў і высокі чатырохпавярховы гмах электрастанцыі. Свежыя, абплеценыя рыштаваннямі сцены цягнуцца радамі ад дарогі і ў глыб поля.

Куды ні зірні — людзі. Яны на высокім даху электрастанцыі, на рыштаваннях не скончаных яшчэ сцен і на зямлі, каля цэглы, каля дошак і каля даўгіх жалезных балак. Вось яны коцяць цяжкую жалезную балку на драўляных кругляках да сцяны. Балка перагарадзіла дарогу фурманкам, якія вязуць з поля да будынін пясок і гліну. Фурманкі стаяць адна за другой даўгім радам, і прафесар глядзіць, як запылены, жоўты ад пяску і гліны мужчына скручвае папяросу. Мужчына стаіць, абапёршыся плячыма на біла калёс, і ў сваю чаргу пазірае на прафесара, на чалавека ў зусім чыстай вопратцы і ў капелюшы.

— Не наш? —закідвае ён галаву назад, паказваючы галавой на сцены, і, лізнуўшы папяросу языком, зноў пазірае на прафесара.

— Я з балотнай станцыі,— кажа прафесар.

— Гэта відаць, у нас такім чыстым не будзеш,— расставіўшы рукі, ён паказвае на сваю вопратку, абмазаную глінай, і смяецца.— Мы во якія.

Фурманкі з глінай і пяском едуць далей, а прафесар ідзе да канторы, якая месціцца ў драўляным будынку за электрастанцыяй. На канторскім двары — рабочы кааператыў і хлебная крама. Каля крамы натоўп жанчын. У натоўпе некалькі немаладога ўзросту мужчын. Мужчын больш у чарзе каля хлебнай крамы. На ганку канторы сядзяць рабочыя, якія толькі што прыехалі на будаўніцтва. На зямлі пад ганкам і пад сцяною іхнія сундучкі і мяшкі з рэчамі і тапары, абвязаныя анучамі, і пілы.

Прафесар сабраўся ісці на ганак, як яго аклікнулі. З боку поля на канторскі двор ішоў акружаны сялянамі Буднік.

Буднік здалёк яшчэ працягнуў прафесару шырокую далонь сваёй рукі.

— Віншую і радуюся,— кажа ён, ідучы насустрач прафесару.— Я такі здорава засумаваў без вас, Міхаіл Палікарпавіч. Бачылі, што ў нас робіцца? — Буднік паказвае левай рукою ў прастору за канторскі двор на будынак новай электрастанцыі.— З першага мая дадзім святло і пусцім два заводы — брыкетны і ізаляцыйных пліт, а цераз паўгода і смалаперагонны, а там каксавальны і газавы. Пяць заводаў. Нядрэнна? — Буднік рагоча і ўжо з ганка, паказваючы рукой на сялян, якія прыйшлі разам з ім, кажа:

— Дзеці іхнія на заводах працаваць будуць у нас і, нябось, не будуць такімі, як бацькі.

Адзін з сялян безнадзейна махнуў рукой.

— Яны і цяпер ужо не такія. Вы вось зямлю адбіраеце, а ім хоць бы што. Па-іхняму, хоць бы яе і зусім не было, і то нічога. Толькі вось нам іх карміць трэба пакуль што.

— Яно як быццам і не зусім так. Хіба ў нас дрэнныя заработкі? На мой розум, вашым гаспадаркам ад камбіната нямалы прыбытак. Яны тут у нас і з канём, і з рыдлёўкай, і з тапаром, хто як,— вытлумачыў Буднік прафесару.

— Прыбытак нямалы,— згадзіўся селянін,— няма чаго казаць. А толькі жывем мы ад зямлі, а не ад прыбыткаў. Прыбыткі яны былі, і, глядзіш — іх і няма, а зямля заўжды пры мне будзе... Як жа ж будзе, таварыш Буд-

нік? — Селянін раптам змяніў голас, пачаў прасіць.— Дужа ж вы нас крыўдзіце. Колькі таго часу прайшло, як людзі перанесліся, а тут зноў.

— Ну, ведаеш, Мікіта, не табе б гаварыць. З табой мы і так лішне няньчымся. Усё вось няма мне часу пагутарыць з табой, адну справу высветліць варта было б. На тваё шчасце, у нас важнейшых спраў хапае.

Мікіта адразу змоўк і палахліва застыў на месцы. Ён зразумеў Будніка, здагадаўся, аб якой справе гаворыць той, і цяпер не рад быў, што трапіў яму на вочы. Ён доўга маўчаў, збянтэжана пераступаючы з нагі на нагу, баяўся падняць ад зямлі вочы. Як асмялеў, каб апраўдацца і каб не падумаў Буднік, што ён нечага баіцца, сказаў:

— Я не за сябе кажу, за людзей, хоць і сам я нічым так ужо не грэшны перад савецкай уладай.

— Некалі ў цябе не было прывычкі за другіх заступацца, я бо дзіўлюся, што ты падабрэў. А грахі свае ты, напэўне, лепш за мяне ведаеш.

Мікіта змоўк і на гэны раз так, каб больш не абзывацца.

— А ты не палохайся, за каўнер цябе ж яшчэ не бяруць.— Буднік зірнуў Мікіту ў спалоханы твар.— І давайце скончым гэную гутарку,— звярнуўся ён да ўсіх сялян, якія прыйшлі за ім.— Як падсохне, зразу ж і выязджайце араць на новае месца, а будынкі вашы мы перанясем, вам аб гэтым турбавацца не будзе патрэбы. Вось і ўсё. Крыўды ў гэтым для вас няма ніякой. Зямлю вам далі не горшую, а лепшую. Далі ім на асушаным балоце,— вытлумачыў ён прафесару.— Якая ж тут крыўда? Бачылі ж, як родзіць на балоце? А заводаў перакідаць на балота мы не станем, не дзеці ж, разумееце ж гэта. Так што і ўсё, давайце на гэтым і скончым, бывайце здаровы.— Ён прыўзняў шапку, кіўнуў сялянам на развітанне галавой і тады запрасіў прафесара ісці ў кантору.

— Да незвычайнага кансерватыўны селянін у сваіх прывычках,— сказаў ён.— Вось жа даём ім не горшую, а лепшую зямлю, спецыяльна для іх падрыхтаваную, і самі перавозім туды іхнія будынкі і маёмасць. Здавалася б, няма чаго ўпірацца, а яны тыдні два ўжо ходзяць да мяне і ў раён і ўсё спрабуюць, а ці нельга застацца на старым месцы.

— Што ж тут дзіўнага? Усё новае заўжды і кожнага палохае.

— Гэта няпраўда, Міхаіл Палікарпавіч. А калі і будзе праўдай, то толькі ў адносінах да такіх вось сялян і...

— І да некаторых інтэлігентаў? — перабіў Будніка прафесар.

— Вы ўгадалі. Некаторыя інтэлігенты ніяк не набяруцца смеласці, каб цалкам перасяліцца ў новае, усё за свае «хутаркі» трымаюцца.

— Гм. А вы, Павел Андрэевіч, хоць бы ж дзеля першага нашага спаткання не нападалі на мяне.

— Самі напрасіліся, я не вінаваты.

Яны абодва рагочуць, пакуль Буднік адмыкае дзверы свайго кабінета, а калі ён на ўсю шырыню адчыняе іх, прафесар ідзе ў пакой, запоўнены сонцам.

— А на таго селяніна вы за што напалі? Ён даўні ваш знаёмы?

— Мікіта? Так, ён мой вельмі даўні знаёмы. Бачыце, ягоны швагер некалі служыў у жандармерыі, і я ўпэўнены, што і сам Мікіта не зусім чыстым быў у тых справах. Дужа часта соваў ён не ў сваю справу нос, любіў падслухаць, дзе хто што гаворыць, паглядаў, хто куды пайшоў. Без яго не абыходзілася, калі ўраднік цягаў сялян у астрог.

— І вы збіраецеся высвятляць гэную справу?

— А мы ніколі не абяцаліся не памятаць такіх спраў.

— Класавая помста?

— Нашто помста? Гэта задужа вялікі гонар для такой казяўкі. Але папярэдзіць магчымасць якой-небудзь гадасці з боку такіх вось, як ён, гэта наш абавязак.

— Абавязак даволі не ганаровы.

— Нічога не зробіш. На ганаровыя абавязкі і без нас прэтэндэнтаў хапае.

Буднік з усмешкай падсоўвае прафесару крэсла і, гаворачы, пазірае проста ў твар яму. Прафесар угадвае ягоную іронію.

— А ў нас з вамі, Міхаіл Палікарпавіч, без сваркі ніяк не абыдзецца. І за гэта я вас... гм... прабачце за шчырасць, такі паважаю. А вось другога інтэлігента, які завёўся ў нас, я не паважаю.

Прафесар дагадваецца, пра каго гаворыць Буднік, і не ведае, ці то сказаць яму, што Ягуплу ён даўно ведае, ці то сказаць, што ён з ім пазнаёміўся тут на балоце і чакаў пытання аб ім. Пытанне засцігла яго, калі ён не вырашыў яшчэ, што скажа.

— А вы гэтага паэта ведаеце, Міхаіл Палікарпавіч? — запытаўшы, Буднік не чакае адказу, а гаворыць сам.— Мне ён не падабаецца і не падабаюцца ягоныя вершы.

Сухія яны задужа і крыклівыя. Тарабаршчына, а не паэзія. І пасля ў ягоных вершах на першы погляд столькі рэвалюцыйнасці, што яе хапіла б на дзесятак сапраўдных паэтаў.

— Не разумею,— дзівіцца прафесар.— Вам не падабаецца, калі мала рэвалюцыйнасці, і не падабаецца, як багата яе.

— Нам агулам крыклівая рэвалюцыйнасць не падабаецца, не патрэбна. Раз задужа крычыць чалавек за нас, ці то трэба, ці не, значыць, нешта ў ягоных справах не зусім чыстае. У крыклівым голасе заўжды хрыпата будзе, ён не чысты. Сапраўдны паэт не крычыць. Гаворыць сваім голасам, і ўсё. А гэны альбо крычыць, альбо ўжо як загаворыць, дык абавязкова пад тон псаломшчыку. І словы невядома адкуль павыкапвае адпаведныя, саладкаватыя. Пра сваю справу, пра тое, што самі робяць, людзі так не гавораць. Не. Я яму не веру. І дрэнны паэт ён, па праўдзе кажучы. Ягоныя вершы ці чытай, ці не чытай, нічога не атрымаеш і нічога не страціш. Паэзія не такая. У сапраўдным я свой уласны голас чую, тое, што сам думаю, а не тое, што крычыць чалавек, а ты і не разумееш, чаго ён крычыць, што яго так захапіла. Ты мне не кажы, што «ўзняліся сцены фабрычна-заводскія», а пакажы, як я праз шчыліны ў дошках украдкам падглядаў, ці на багата тая сцяна ўзнялася за дзень. Пакажы так, каб у мяне тут заскрэбла.— Буднік паказаў рукой на свае грудзі. — А не так, значыць, не сваё пяеш.

— Можа, таму, што свайго пець нельга?

— Нельга? Гм. Гледзячы, што гэта за сваё. Калі гэнае сваё з таго боку прывезена, мы такога слухаць не станем. А ў агуле мы ад паэтаў іхняга і хочам, каб гаварылі пра жыццё так, як разумеюць яго. Гэта і будзе іхняе «сваё». А калі гэнае «сваё» ды будзе яшчэ і зусім нашым, тады вунь як добра. Значыць, вы яго не ведаеце? — зноў запытаў Буднік.

— Сузона Іванавіча? Ведаю, як не ведаць.

— Гэты мяне раздражняе сваімі паводзінамі. Яму варта было б хоць крышку больш паважаць сябе. Вы яму як-небудзь пры выпадку парайце гэта.

Цераз колькі хвілін яшчэ прафесар расказваў Паўлу Андрэевічу пра сваё падарожжа, а тым часам сяляне, якія прыйшлі на канторскі двор з Паўлам Андрэевічам, выйшлі з двара на дарогу і, параіўшыся, накіраваліся дадому. Мікіта ж пайшоў на хутар да брата. Ён не пайшоў на Тарэнтаў двор, а проста ў поле, дзе Тарэнта араў. Іду-

чы да Тарэнты, меркаваў, з чаго пачаць гаворку, і, як наблізіўся да яго, нагнуўся над раллёй, каб узяць у руку камяк зямлі. Зямлю расцёр пальцамі на далоні.

— Высахла амаль,— кажа ён, кідаючы з далоні камячкі ліпкай зямлі.— Добрая вясна ў гэтым годзе.

Тарэнта ад плуга ідзе да каня, выцягвае з-пад хамута грыву, а тады гладзіць каня па шыі і чакае, пакуль наблізіцца Мікіта. Ён пазірае на Мікітавы боты, якія пакідаюць на свежай раллі шырокі след. Сам Тарэнта босы: босаму зручней хадзіць за плугам. Ён пазірае на свае ногі, чорныя ад ліпкай, вільготнай зямлі, пасля на Мікітавы боты і адчувае, што нагам сцюдзёна, зямля яшчэ халодная.

— Шчэ, мусіць, халодна босаму? — пытае Мікіта.— Зямля-то яшчэ не ўвагрэлася як след.

— Троху халодна. А ты не браўся яшчэ за ворыва?

— Не ведаю я, за што мне і брацца ўжо, во што. Ото ж хадзілі мы, наконт зямлі прасілі.

Тарэнта маўчыць. Ён ведае, што ад Мікітавага хутара адразаюць клін дзесяціны ў чатыры і замест гэтага не даюць, як іншым, зямлі на балоце, бо ў Мікіты і так застаецца зямлі больш, як выпадае на ягоную норму па законе. Супроць таго, што бяруць зямлю пад камбінат, ён нічога не мае, але троху крыўдна робіцца за брата, што таго абдзяляюць.

Маўчыць і Мікіта нейкі час, а пасля пачынае гаварыць пра іншае ўжо, не пра зямлю.

— І чорт яе бяры, тую зямлю, нeяк пражыву ўжо і без яе, але ён яшчэ страшыць, упікае, што швагер у жандарах служыў. А хіба я вінаваты за швагра?

Тарэнта і цяпер маўчыць. Ён ведае, чаго баіцца Мікіта, і ведае, што думае пра Мікіту Павел Андрэевіч. Ён прыпамінае тыя даўнія часы, калі Паўла Андрэевіча арыштавалі, і пазірае ў Мікітаў твар.

— Дужа трэба было табе з імі звязвацца.

— Божа мяне ўпасі ад такога, во што...— Мікіта разумее, што думае брат, і гэта яшчэ больш палохае яго.— Каб жа я хоць чым быў вінаваты.

— А чаго ж ты лазіў па падаконні ды скрозь соваў свой нос ці трэба было, ці не? — злосна адказвае Тарэнта.

— Не грашы хоць ты богу, я людзей не губіў, во што...— Мікіта лыпае вачыма, пазірае знізу Тарэнту ў твар.— Не пакутаваць жа мне нямаведама за што. Я з гэтым і прыйшоў. Ён жа цябе ведае, а ты ж брата мо ведаеш, схадзіў бы, пагаварыў бы з ім, во што...

Тарэнта маўчыць.

— У мяне ж дзеці, завошта ж ім пакутаваць?

У Тарэнты пачуцці раздвойваюцца: крыўдна за брата, ён баіцца, каб і ўсур'ёз не здарылася з братам чаго нядобрага, і ў той жа час задаволены, што брат баіцца, бо ведае, што сумленне братава не зусім чыстае.

— Прасіць я за цябе не пайду,— кажа ён.— Ніякі чорт цябе і так не кране, хоць і варта было б правучыць, а то дужа ўжо дагаджаў панам ты, як сабака за імі бегаў.

— Хоць бы ты ўжо не плявузгаў лішняга.

— Я-то ведаю, што кажу.

— Ведаеш ты... Я, можа, некалі больш пра цябе ведаў і то не плявузгаў лішняга, не тапіў цябе, як брата шкадаваў, во што.

— Я ж цябе не ўтапіў яшчэ, здаецца,— узлаваў Тарэнта.— Без гэтага ў мяне спраў хапае, але і прасіць ісці за цябе не збіраюся. У кожнага свая галава ёсць. Я не ведаю, ці рабіў ты там што, ці не рабіў.

— Чаму ж гэта ты не ведаеш? Мо ж брату гора, а не чужому каму.

— Гора, здаецца, невялікае, яшчэ ж не бяруць цябе.

— А ты, можа, і хацеў бы, каб забралі?

— Я ж не тваёй натуры.

Мікіта стаіць моўчкі. Каб не такая справа, каб не Тарэнтава знаёмства з Паўлам Андрэевічам, ён даўно плюнуў бы, узлаваўшы, сказаў бы што-небудзь крыўднае Тарэнту і пайшоў бы дадому. А так маўчыць, усё яшчэ спадзяецца, што Тарэнта дасць абяцанне схадзіць і пагаварыць за яго.

— Не грашы богу, Тарэнта, во што я табе скажу.— У Мікіты ад злосці вочы набягаюць слязьмі, і ён павяртае твар у бок ад Тарэнты.— Яшчэ ніхто не ведае, што за наш век здарыцца можа. Тады не да іх кінешся, а да брата. Во што.

Сказаў гэта Мікіта і змоўк, не ведае, што яшчэ гаварыць, бо баіцца раздражніць Тарэнту, не хоча сварыцца з ім. Не хоча сварыцца і Тарэнта, хоць і ёсць у яго чым упікнуць брата. І, каб утрымацца ад сваркі, бярэцца за плуг, устрэсвае яго і, шмаргануўшы за лейцы, гоніць каня па пачатай баразне. Калі Тарэнта ад'ехаў у канец гоней і на завароце нагнуўся над плугам, ачышчаючы з лемеха ліпкую цвёрдую зямлю, Мікіта буркнуў нешта сам сабе і пайшоў з поля да Тарэнтавай хаты. Ён ніводнага разу не спыніўся і не азірнуўся на Тарэнту, мяркуючы,

што той цяпер назірае за ім. Ідзе паціху і сагнуўшыся. Ідучы, думае пра словы Паўла Андрэевіча і не можа сабе даравацъ таго, што трапіў яму на вочы. Бо так, пэўне, Павел Андрэевіч не прыпомніў бы яго, а з цягам часу і зусім бы запамятаў на яго існаванне. А можа, як абыдзецца? Сустракаў жа Павел Андрэевіч Мікіту некалькі разоў і раней, але не прыпамінаў жа яму яго мінулага, можа, і на гэты раз запамятае, і тады каб толькі ніколі больш не сустракацца з ім. І можа, лепш было б, каб Тарэнта не пайшоў да яго, бо калі пойдзе, толькі лішні раз напомніць таму пра Мікіту, і тады хто яго ведае, што ён зробіць?

Спыніўшыся супроць Тарэнтавага двара, Мікіта мяркуе, ці не вярнуцца яму да Тарэнты і сказаць, каб той лепш не гаварыў з Паўлам Андрэевічам. Ён бачыць здалёк, як ходзіць за плугам Тарэнта, і парашае, што гаварыць з ім болей не варта. Лепш, каб і Тарэнта запамятаў пра іхнюю гаворку. Так думае Мікіта і ідзе ад Тарэнтавай хаты на хутар да Ермалая Трыфанавіча.

Дадому Мікіта варочаўся надвячоркам. У палове дарогі яго нагнаў аўтамабіль. Мікіта па сігналу пазнаў аўтамабіль начальніка будаўніцтва камбіната і, каб не паказвацца таму на вочы, сышоў з дарогі да лазовых кустоў, як бы мерыўся выразаць дубец сабе. Калі ж аўтамабіль абмінуў яго, Мікіта азірнуўся. У аўтамабілі ехаў начальнік будаўніцтва, якога Мікіта пазнаў адразу, і з ім мужчына ў капелюшы, якога Мікіта бачыў на канторскім двары. З дарогі Мікіта адразу звярнуў на поле і полем накіраваўся да свайго хутара.

Аўтамабіль жа хутка спыніўся на балоце каля службовага пасёлка, і Павел Андрэевіч, не выходзячы з аўтамабіля, развітаўся з прафесарам.

— Шчасліва аставацца і шчаслівай работы. Я ўпэўнены, Міхаіл Палікарпавіч, што ваша новая ідэя ў самы бліжэйшы час стане рэальнай справай. Тады мы да нашага камбіната яшчэ што-ніпіто дададзім.

— Будзем спадзявацца. Я рад буду, калі буду мець поспех.

— Я веру ў поспех, Міхаіл Палікарпавіч. Бывайце.

— Бывайце. Дзякую, што падвезлі.

Аўтамабіль падаўся заднім ходам у глыб двара і, павярнуўшыся, выехаў на дарогу. Калі аўтамабіль крануўся з дарогі, Павел Андрэевіч прыўзняў шапку на развітанне і тое ж зрабіў прафесар, прыўзняўшы капялюш. У гэны час за плячыма ў прафесара нехта кашлянуў. Ён

надзеў капялюш і азірнуўся. На ганку стаяў Ягупла. Ён нядаўна прыйшоў да прафесара на кватэру і, не знайшоўшы прафесара дома, быў накіраваўся ісці ў заезджы дом, як на двор прыехаў аўтамабіль. Пакуль аўтамабіль быў на двары, Ягупла прастаяў у калідоры за адчыненымі дзвярыма, яму не хацелася сустракацца з Паўлам Андрэевічам. Цяпер жа, як аўтамабіль ад'ехаў, Ягупла выйшаў на ганак і наўмысле кашлянуў, каб папярэдзіць аб сабе.

— Вы даўно чакаеце мяне?

— Я толькі што зайшоў.

— У такім разе хадземце назад.— Прафесар прапусціў наперад Ягуплу і пайшоў следам за ім у калідор. У пакоі паказаў рукой на крэсла, а сам спыніўся каля кніжнай этажэркі.

— Засумаваў я па гэных месцах. Цяпер я з асаблівай сілай адчуваю гэта.

— А я, прызнацца, вельмі рад быў бы паехаць туды, адкуль вы, Міхаіл Палікарпавіч, вярнуліся.

— Такое жаданне меў некалі і я. Я спадзяваўся знайсці там нешта значна большае, чым знайшоў. А ў агуле пабыць там карысна. І асабліва вам: паэты павінны ўсё бачыць на свае ўласныя вочы.

Ягупла павярнуўся тварам да прафесара.

— А я не хацеў бы бачыць на свае ўласныя вочы шмат чаго з таго, што робіцца цяпер у нас,— сказаў ён.— Я шмат чаго не разумею.

— Хіба што здарылася незвычайнае? — дзівіцца прафесар.

— Вы яшчэ нічога не бачылі, вы былі дужа далёка ад нашай рэчаіснасці. І пакуль вы там ездзілі, аказалася, што ў нас няма хлеба, не хапае хлеба. Разумееце? І ўсё гэта пачалося зусім нечакана, раптам. У горадзе жыццё зрабілася немагчымым.

— Гм. Цікава, хоць я і не разумею, што такое магло здарыцца. Вас гэта павінна трывожыць. Паэт павінен або прымаць або не прымаць рэчаіснасці, інакш муза змоўкне.— Прафесар гаворыць тонам лёгкай іроніі.— А ў мяне зусім іншае.— І як бы для таго, каб паказаць, што ён абыякава ставіцца да таго, пра што гаворыць Ягупла, прафесар падсоўвае да сябе крэсла і, сядаючы ў яго, пачынае збіраць са стала пажоўклыя спісаныя паперкі. Ён бярэ іх па адной, пераглядае, чытае напісанае і адну за другой кідае, скамячыўшы, у глыбокі кошык, які стаіць у куце паміж сталом і сцяной. Робячы гэта, ён слухае Ягуплаву

гаворку. Ён мог бы спрачацца з Ягуплам, але не хоча рабіць гэтага.

— Ці не лепш было б пагутарыць пра што іншае? — прапануе прафесар. Ён амаль цэлы дзень прабыў з Паўлам Андрэевічам, гутарыў з ім і цяпер, калі ў Ягуплы ёсць жаданне слухаць, прафесар раскажа што-нішто пра сваё падарожжа па Еўропе, дзе ён бачыў шмат цікавага.

Ягупла згодзен. Ён вельмі рад пачуць жывое слова пра Еўропу ад чалавека, які ўсё на свае вочы бачыў. Ён назараней так захоплены, так захоплены, што не ведае нават пра што і пытаць. Ён не ведае, што яго найбольш цікавіць у дадзены момант. Берлін! Вена! Парыж! Тры вялікія еўрапейскія сталіцы. Гэта ж зусім іншы свет, такі цікавы, такі недасяжны! Ах, як хочацца яму пабыць там, паблукаць па старых вуліцах гэтых гарадоў! Здаецца, зусім бы інакшым стаў. Там жа такія багацці культуры! Ягупла, вядома, зусім не думае адмаўляць велізарнага значэння і таго, што робіцца на яго радзіме, зусім не. Ён вельмі рад культурнаму ўздыму Савецкай краіны, але хіба ж гэта тое самае? Ого! Усё, што робіцца тут, гэта, між сабой кажучы, так званая ліквідацыя непісьменнасці, і толькі. А там жа сапраўдная культура з багатымі векавымі традыцыямі. Гэта не адно і тое ж. Розніцы могуць не разумець некультурныя масы, а ён жа паэт, ён разумее палітыку, ён усё разумее, будзьце спакойнымі, і ён разумее, вядома, якой беднай выглядае яго радзіма ў параўнанні з Еўропай, старой, культурнай Еўропай... Багацці архітэктуры! Старыя багатыя музеі — схоўні памяці аб гістарычнай мінуўшчыне! Тэатры! Універсітэты, у сценах якіх вучыліся выдатнейшыя людзі, найвялікшыя паэты чалавецтва. Смешна нават і думаць, што ўсё гэта нехта спрабуе параўноўваць няхай сабе і з тысячамі краязнаўчых музеяў, самадзейных тэатраў і нават з дзесяткамі новых, толькі што ўтвораных універсітэтаў. І няхай прафесар не дзівіцца, што Ягупла яму не верыць. Бясспрэчна ж, прафесар прыкідваецца, калі гаворыць, што чакаў большага, чым убачыў. Добра жартаваць, пажыўшы аж чатыры месяцы ў Еўропе. Ягуплу хоць бы адной нагой ступіць на тую зямлю. Ён нават не ўяўляе, як бы выглядаў на вуліцах Вены. Пэўне, у такім гарнітуры туды і не пусцілі б? І Ягупла дзівіцца на свой, ужо троху паднашаны, гарнітур.

— Дужа мы бедныя,— кажа ён, закідваючы правую нагу на левую, і загладжвае рукой на каленях складку.— Такіх гарнітураў там, напэўне, не ўбачыце?

— Чаму не ўбачыце? — дзівіцца, не разумеючы Ягуплавых слоў, прафесар. Ён акурат пачаў гаварыць, як першы раз прыехаў на газавы завод Зімерынг у Вене, і Ягуплавых слоў пра гарнітур не зразумеў.— Чаму гарнітураў не ўбачыце? — пытае ён.— Гэтага дабра там багата.

— Вось, вось, а ў нас няма. І я, паэт, нашу гарнітур горшы, напэўне, чым там носіць рабочы.

— Ах, вы пра гэта? — Прафесар падымаецца з крэсла, ідзе да століка і дастае з шуфляды жменю цукерак, якія прывёз з-за мяжы. Цукеркі ён кладзе на стале перад Ягуплам.

— Частуйцеся, замежныя,— усміхаецца і сядае на сваё месца. Седзячы ў крэсле, павольна разгортвае цукерку і палову яе адкусвае. Тое ж робіць і Ягупла, толькі цукерку адкусвае маленечкімі часткамі. Прафесар сочыць за рухамі Ягуплавых рук. Ён прыпамінае словы Паўла Андрэевіча пра Ягуплу і зусім нечакана для Ягуплы кажа:

— Ведаю я вас, Сузон Іванавіч, даўно, а з творчасцю вашай зусім мала знаёмы. Хацелася б, каб гэнае знаёмства было большым.

— Вельмі рад такому вашаму жаданню. Едучы сюды, я прыгатаваў для вас апошнюю сваю кнігу вершаў, але неяк саромеўся раніцой аддаць яе вам.— Ягупла з кішэні пінжака дастаў кніжку і паклаў яе на стале перад прафесарам, разгарнуўшы так, каб прафесар змеціў зроблены на ёй надпіс. Надпісам паэт выказваў жаданне, каб прафесар Галынскі шчырым сэрцам палюбіў сваю краіну родную і каб ніколі не цураўся яе, ні пры якіх варунках. Прафесар прачытаў надпіс, усміхнуўся і падаў Ягуплу руку, каб падзякаваць за кнігу.

— А хіба вы не верыце ў маю шчырасць? — усміхаючыся, запытаў ён.

— О не, што вы, Міхаіл Палікарпавіч. Я хачу толькі, каб вы любілі Беларусь так, як любім яе мы, паэты.

Нейкі час абодва яны сядзяць моўчкі, а пасля, раптам нешта прыпомніўшы, Ягупла нахіляецца над сталом і кажа:

— Да нас у блізкім часе прыедзе адзін замежны інжынер, мой знаёмы. Я хачу папярэдзіць вас, бо вы яго таксама ведаеце,— Ягупла паціху называе прозвішча інжынера, і пасля гэтага прафесар нейкі час сядзіць моўчкі, здзіўлена пазіраючы Ягуплу ў твар.

— Вы не жартуеце? Ён што, свядома сюды едзе ці гэта выпадкова так атрымалася?

— Гэтага я не ведаю.

— А ён ведае, што я тут працую?

— Пэўне, не ведаў, а цяпер ведае і рад будзе спаткацца з вамі.

— Гм...— прафесар здзіўлена паводзіць плячыма.— Зусім нічога не разумею. Не разумею, чаму ён надумаўся менавіта сюды прыехаць. Мяне спатканне з ім, вядома, не палохае, але мне здаецца, лепш яму было б не прыязджаць сюды. Безумоўна, так. А ў агуле няхай робіць як хоча, гэта мяне не тычыцца.

— Бясспрэчна, так. Але ён вельмі рад будзе бачыць вас.

— Ягоная справа,— прафесар зноў здзіўлена паводзіць плячыма.— Але мая думка такая.

Пазней, калі Ягупла пайшоў, прафесар доўгі час не мог супакоіцца, думаючы пра навіну, аб якой сказаў Ягупла, і, ходзячы па пакоі, абмяркоўваў, як складуцца ягоныя адносіны з чалавекам, які павінен у блізкім часе, калі верыць Ягуплу, прыехаць на будаўніцтва камбіната. Прафесар прыпамінаў усё, што ён ведаў пра гэтага чалавека, прыпамінаў свае даўнія спатканні з ім. Ён адчуваў сябе цяпер гэтак жа, як некалі, калі на балоце ўпершыню напаткаў Ягуплу.

## ПАДЗЕЯ ШОСТАЯ

Сварка з Давыдзюком, пасля якой Сузон Каляда пайшоў да Паўла Андрэевіча, адбылася самым ранкам за тыдзень да вялікадня.

Сузон нерухома стаяў перад адчыненымі варотамі хлева і, як заварожаны, пазіраў у ягоную цёмную пустэчу. Карова, адзіная жывёліна, якую меў Сузон, стаяла на двары і церлася бокам аб вугал хлева. Хлеў нізкі, стары, сцены яго даўно спарахнелі, і Сузон сам дзівіўся, як яшчэ трымаюцца вуглы. Паміж бярвён вялікія шчыліны, праз якія свеціцца гарод. Шулы ў варотах абселі і нахіліліся ў бакі адна ад другой так, што калі хочаш зачыніць вароты, яны толькі нізам упіраюцца ў шулу, а верхам правальваюцца ў сярэдзіну хлева. І паправіць гэтага ніяк нельга, бо калі станеш папраўляць, трэба кранаць сцяну, а тая і так ледзь трымаецца. Згніла, спарахнела і салома на страсе, і на страху ажна ў некалькіх месцах ён насыпаў кастрыцы, з-пад якой відаць яловае галлё. Не ў лепшым стане і гумно. І Сузон думае, што рабіць.

Новая вясна. Варта было б даўно сядзець на сваім хутары. У яго дачка інжынер, якая дапамагае яму час ад часу грашыма. Яе грашыма ён расплаціўся з крэдытным таварыствам, у якім браў грошы на каня. Яна можа пасабіць яшчэ, але што з таго? Хіба зможа ён і хату новую паставіць, і хлявы? Сам ён гэтага не зробіць з адной рукой. Нават лес вазіць трэба наняць чалавека. А ставіць хату адным чалавекам не абыдзешся. І Сузон разумее сваю бездапаможнасць. І зусім не разумее, што яму рабіць і з чаго пачынаць гэты новы свой год. Бяссілле авалодвае целам, ташнатой падгортваецца пад грудзі, сціскае горла і прыкоўвае да месца, і Сузон доўга не чуе, калі яго кліча да сябе Давыдзюк.

— Ты што ж гэта, аглух ці зафанабэрыўся так ужо, што і не чуеш,— іранічна пытае Давыдзюк, узыходзячы на сярэдзіну Сузонавага двара. Давыдзюк збіраецца ісці ў царкву і таму з самага ранку ў святочнай вопратцы, у сваім чорным, у белую паску, гарнітуры. З вуліцы заходзіць на Сузонаў двор і Мікіта. Ён вітаецца з Давыдзюком за руку, а потым крычыць да Сузона:

— Дзень добры, камбед!

Сузон на прывітанне не адказвае. Нейкі час ён стаіць на месцы, пазіраючы на Давыдзюка, пасля сходзіць з месца і ідзе да сярэдзіны двара, дзе Давыдзюк з Мікітам.

— Камбед, кажаш? — пытае Сузон, спрабуючы ўсміхнуцца.— Не ўсім жа мець твае рукі заграбушчыя, некаму ж трэба жыць і так, як даводзіцца.

— Бач! — Мікіта паказвае рукой на Сузона.— Ён яшчэ агрызаецца. Чалавеча! Ты пра мае рукі лепш памаўчы. Агрызацца табе няма чаго, во што. На чужым сядзіш і з чужога жывеш, а я, слава богу, на сваім...

— Толькі сваркі не ўшчыняйце,— перапыняе Мікіту Давыдзюк.— А ото хачу запытаць цябе, Сузон, як жа яно будзе? Няўжо ж ты і гэнае лета думаеш сядзець тут во?

— А што ж я, пераляку куды, ці што? — з адценнем злосці пытае ў сваю чаргу Сузон. Ён пакуль што стрымлівае злосць, якая камяком падгортваецца да горла. Злосць і ад таго, што ён увесь у пачосным, а Давыдзюк і Мікіта ў святочнай вопратцы, і ад таго, што яны, напэўне, сыта паснедалі па-святочнаму, а яму давядзецца з'есці бульбы з агурковым расолам і, урэшце, ад крыўды, што не Давыдзюку, у каго і будынкі моцныя, і сілы багата, даводзіцца зрушаць гаспадарку з месца, а яму.— Бачыш жа, што няма мне чаго перавозіць, чаго ж яшчэ пытаеш?

— А мая ж каторая справа? Ці ты чуў, чалавеча? —

Давыдзюк павяртае твар да Мікіты.— Я з ім па-добраму абыходзіўся, дык ён вунь што!

— Абыходзься з ім добра, то ён яшчэ гадоў дзесяць з свайго двара не сыдзе, во што я табе скажу.

— І я ўжо гэта думаў. Неяк, Сузон, трэба нам з табой разабрацца, каб або тое, або другое. А то сядзіш ты на маім, добрыя гоні такой зямлі займаеш, і хоць бы што.

— А ты ці не збяднееў цераз гэта? Ці, можа, хочаш, каб я табе плаціў за двор?

— А як жа, чакай, ён табе заплоціць,— іранізуе Мікіта.

Сузон момант моўчкі пазірае на Мікіту, пасля ідзе да яго бліжэй. Ён не можа больш стрымліваць злосці.

— А ты не лезь не ў сваю справу, цяпер табе не тыя парадкі...

— Гм, гм, бач! — Мікіта развінуў рукі.— Бач, звар'яцеў ужо, нібы я яго чапаю. Па мне ты хоць сотню гадоў тут сядзі, во што, то мне ўсё роўна! Хоць бы пасаромеўся дзеля свята.

— Мне саромецца? Іч які!

Давыдзюк не хоча, каб распачалася сварка, і павяртае гутарку на старое.

— Сварыцца няма чаго, хлопцы. І табе, Сузон, няма чаго злавацъ. Сядзіш-то ты на чужым і мог бы змаўчаць. Лепш от скажы, як рабіць будзеш?

— Нічога я рабіць не буду.

— Як гэта нічога?

— А так і нічога. Нікуды я перабірацца не буду. Не адным вам жыць ды раяваць, некалі трэба пажыць і нам. Яшчэ паглядзім, каму гэны двор нарэжуць. Вось, як зробім арцель, то, можа, акурат табе адсюль выбірацца давядзецца, а не мне.

— Ты гэтак? То вось жа табе паперка ад самога сакратара ячэйкі Лёйкі і ад сельсавета. Ён мяне, бач, выганяць збіраецца. А не дажджэш ты! — Давыдзюк пачаў корпацца дрыглівай рукой па кішэнях пінжака.— Бач, разышоўся! Арцель ён арганізуе! Ён мяне адсюль прагоне! Ды калі ты не пачнеш перабірацца заўтра, то я табе да святой нядзелі і хлеў, і хату тваю раскідаю, вуглоў не збярэш.— Давыдзюк урэшце знайшоў патрэбную паперку, выняў яе з кішэні і патрос ёю ў Сузона перад вачыма.— Тады ты ў мяне парызыкуеш. А цяпер я з табою і гаварыць не хачу. Граху на душу прымаць цераз цябе не хачу.

— І я ж так.— Сузон павярнуўся і пайшоў у хату.

А калі Мікіта з Давыдзюком пайшлі з двара, выйшаў з хаты і адразу накіраваўся да Мікоды Жука.

А яшчэ цераз нейкі час Сузон крочыў побач з Мікодам. Яны зайшлі да Міхалкі Хвойчыка, а ад яго пайшлі на будаўніцтва камбіната. Але Паўла Андрэевіча на камбінаце яны не знайшлі. Ён самым ранкам яшчэ выехаў у раён і абяцаў вярнуцца толькі ўвечары.

Раніцой на другі дзень Сузон адзін прыйшоў на камбінат. Буднік быў ужо ў канторы, але быў заняты з інжынерам, і Сузон, седзячы на ганку, чакаў, калі выйдзе інжынер. Чакаць давялося доўга, але Сузон не крыўдаваў, гэта было як бы адпачынкам для яго. Ён бачыў перад сабой незнаёмых людзей. Людзі стаялі каля крамы і то прыходзілі ў кантору, то выходзілі з яе, людзі, якія неслі за сабою пах цэглы і смалы. Аднекуль даходзілі на канторскі двор чалавечыя галасы, гул машын і лязгат жалеза. І гул машын, і чалавечыя галасы не змаўкалі. Услухоўваючыся ў іх, Сузон думаў, што жыццё ў арцелі ў нечым будзе абавязкова падобным на тое, што робіцца на камбінаце. У чым будзе падабенства, ён не ўяўляе, але думае, што яно абавязкова будзе.

Інжынер, які быў у Будніка, выйшаў з канторы, і Сузон змеціў яго толькі тады, калі ён збег з ганка. Сузон падхапіўся, строс з сябе пыл і нерашуча падаўся ў калідор канторы. Яшчэ больш разгубіўся, як падышоў да дзвярэй Буднікавага кабінета. Але, калі адчыніў дзверы, асмялеў. Буднік падняўся з-за стала і пайшоў яму насустрач.

— Дзядзька Сузон! Як жа здароўе? Як жывеце? Збіраюся я ўвесь час схадзіць да вас, пагасцяваць у сваіх старых знаёмых, ды ўсё неяк не выпадае. Бачыў, што робіцца,— пытае ён у Сузона, падводзячы яго да акна, за якім непадалёк будынак новай электрастанцыі. Сузон бачыць высокія сцены будыніны і не скончаныя яшчэ, у рыштаваннях, сцены заводскіх будынкаў і маўчыць.

— Хутка, дзядзька Сузон, зусім па-іншаму жыць будзем,— гаворыць Буднік.— Па-чалавечаму жыць будзем.

— Хто яго ведае, калі тое чалавечае жыццё пачнецца.— Сузон уздыхае і ідзе ад акна ў глыб кабінета.— А пакуль яно пачнецца, з мяне і дух вон.

— Ужо і так? Чаму дух вон? Яшчэ дажывеш і ты.

— Мо і дажыў бы, але не дадуць жа дажыць.— І Сузон падрабязна апавядае пра сваю справу і пра апошнюю сварку з Давыдзюком.— Вось прыйдзе і разбурыць, што ж я з ім зраблю, калі закон на ягоным баку.

— Хто табе сказаў, што закон за яго?
— У яго паперка, за яго і сакратар ячэйкі...
— Сакратар ячэйкі? — здзіўлена перапытвае Буднік.— Ну, гэта, ведаеш, не сакратарская справа, зусім не сакратарская. З сакратаром я пагавару аб гэтым, а разбураць тваіх будынкаў мы яму па закону не дазволім. Ты што ж гэта, дзядзька Сузон, думаеш, што савецкія законы не цябе бароняць, а багатыра, кулака?
— Неяк жа так яно выходзіць,— смялее Сузон.
— Так не выйдзе. А потым наогул хопіць ужо вам важдацца з гэтымі хутарамі. Не было нам часу, каб дужа глядзець за гэтым, вось нехта і напладзіў іх. Не ваша гэта справа чапляцца за хутар: і не твая, і не Мікодава, і не Тарэнтава. Такія хлопцы былі! Ці ж мы на тое ў паноў зямлю адабралі, каб новых панкоў гадаваць? Ці каб ты вот гэтак жыў? Жартуе Давыдзюк, калі думае, што яму можна ездзіць на табе і цяпер. Мы ні на кім ездзіць не хочам, і на сабе ездзіць не дадзім. Часы тыя скончыліся. Памятаеш, як мы на тваім двары збіраліся? — Шыракаплечы Буднік, усміхаючыся, стаіць перад Сузонам на моцных, шырока расстаўленых нагах.— А ты ўсё на тым жа месцы жывеш?
— На тым,— Сузон махнуў рукой.— Хутар на панскім, а хата на тым самым двары.
— Хата твая, мусіць, ужо саўсім спарахнела. Гэта ж столькі часу! — дзівіцца Буднік.— Трэба нам сабрацца. Такія людзі! Прападаць такім людзям няма чаго, трэба, каб і цяпер жыццё так варочалі, як тады, а то паселі на хутарах за плотам і маўчаць, як бы іх не было зусім. Гэта я вінаваты, што дагэтуль не сабраў вас. Мікода, Міхалка, Тарэнта, ты ды і яшчэ колькі чалавек і мы такое жыццё ў арцелі наладзім, што другім павучыцца не будзе сорамна.
— Тарэнту ад хутара не адарвеш, ён як п'яўка прысмактаўся да свайго хутара, а другія хлопцы, як і былі.
— Адарвем і Тарэнту. Такога чалавека аддаваць Давыдзюкам нельга.
— Ён і так ужо больш іхні, чым наш.
— Будзе нашым. Я схаджу да яго, пагавару з ім.
— Нічога не будзе!
— Тады тое скажаш, а цяпер давай-такі ўсур'ёз параімся, як арцель стварыць. Хто ў вас там яшчэ з лепшых, з кім можна пачынаць справу?
Сузон памаўчаў, мяркуючы, потым падсунуўся з крэслам бліжэй да стала і пачаў, загінаючы пальцы, прыпамі-

нацъ шапятоўскіх мужчын. Тады сеў побач з ім Буднік і пачаў прозвішчы мужчын запісваць сабе ў блакнот. Гэтак прасядзелі яны каля гадзіны, а калі Сузон сабраўся ісці дадому, Буднік выйшаў з ім аж на дарогу за канторскі двор. На дарозе яны на хвіліну прыпыніліся, пазіраючы на будынкі электрастанцыі і заводаў, што сталі ўдоўж дарогі.

— Зусім як у горадзе ў нас будзе,— кажа Сузон.

— Там горад,— Буднік паказаў за раку, дзе будаваліся першыя два дамы для рабочых электрастанцыі.— Тут камбінат, а там,— паказаў у супрацьлеглы бок, на Шапятоўку,— новая калектыўная вёска, у якой не будзе такіх хат, як твая. А тваю хату мы, як музей, захаваем для памяці, каб людзі потым ведалі, як мы жылі.

Нейкі час яны абодва моўчкі пазіраюць у прасцяг дарогі, па якой вецер кружыць узняты пыл. Пыл цэлай сцяной стаіць над дарогай і над прыдарожным полем. Вецер дзьме ў твар, і, прыжмурваючы вочы, яны абодва бачаць за шэрай мутнай заслонай пылу новую Шапятоўку.

— Можа, калі і будзе людзям жыццё,— кажа Сузон.

— Будзе,— кажа і Буднік.— Хутка будзе.— Ён паціскае на развітанне Сузонаву руку і ідзе да сябе ў кантору, а Сузон папраўляе на галаве шапку, нашчупваючы пальцамі сшыты ніткамі казырок, і, насунуўшы казырок на лоб, каб затуліць вочы ад ветру, ідзе па дарозе да шэрай заслоны з пылу.

Вярнуўшыся ў кабінет, Буднік адразу ж парашыў пазваніць на тарфяную станцыю да Мілоўскага. У працягу амаль усіх год, пачынаючы з Пецярбурга, гэны высокі юнак, які заўжды некалькі здзіўлена пазірае на жыццё шырока раскрытымі вачыма, як здань новага пакалення, ішоў поруч з Буднікам. Буднік ведаў яго і хлапчуком-газетчыкам і зусім спелым ужо камуністам. Буднік любіў Мілоўскага. Больш, як каму іншаму, ён верыў Мілоўскаму і пакладаўся на яго ў любой справе і таму па справе стварэння ў Шапятоўцы арцелі перш за ўсё пазваніў яму. Мілоўскага тэлефонны званок на станцыі не засціг. І тое, што Буднік збіраўся сказаць яму ў гэны дзень, ён змог сказаць яму толькі цераз два месяцы.

Па даручэнню Цэнтральнага Камітэта партыі Мілоўскі аж два месяцы прабыў на торфазаводах. Выкарыстоўваючы практыку станцыі, ён кіраваў на заводах арганізацыяй механізаванай здабычы торфу і вярнуўся на станцыю толькі ў чэрвені. Дома ён і знайшоў на сваім стале запіску, у якой Буднік выказваў жаданне спаткацца з ім,

каб пагаварыць па вельмі важнай справе. І хоць запіска была вельмі даўняй, Мілоўскі назаўтра ж, самым ранкам, накіраваўся на камбінат да Будніка. Тады і адбылася іхняя гутарка, сведкай якой быў і Хвойчык Міхалка, і вынікам якой сталася тое, што пачалося ў Шапятоўцы пазней, ужо зімою.

## ПАДЗЕЯ СЁМАЯ

Ужо ў каторы раз варочаецца Тарэнта Шкробат дадому такой позняй парой. Сёння ён не чакаў, пакуль скончыцца сход. Яшчэ неяк з восені да яго надвячоркам зайшоў Буднік з Мікодам Жукам. Тарэнта з радасцю прыняў яго як госця і частаваў яго і Мікоду самым лепшым, што мелася ў хаце. Яны прасядзелі ледзь не да паловы ночы, заняўшыся ўспамінамі. У той вечар быў дома і Тарэнтаў сын — інжынер. Падбадзёраны некалькімі чаркамі віна і абрадаваны тым, што да яго па-простаму, як да роўнага, зайшоў начальнік будаўніцтва камбіната, і тым, што ягоны сын інжынер, якім можна пахваліцца, Тарэнта амаль ніводнай хвіліны не праседзеў на месцы. Госці сядзелі на лаўках, а сам ён то тупаў каля стала, частуючы іх, то прыпамінаў што-небудзь з мінулага і тады падсоўваў да стала зэдлік, садзіўся, каб бачыць усіх, і пачынаў гаварыць.

— А памятаеш,— пытаў ён у Мікоды,— як мы ў Сібір збіраліся? Зямля пад бокам ляжала, а мы ажно ў Енісейскую губерню ехалі шукаць яе.

— Таа-к,— уздыхаў Мікода,— ездзілі і нічога не выездзілі.

— Каб жа на той час ды цяперашні розум, хіба ж бы папёрся чалавек у такую далеч! — І Тарэнта павяртаўся тварам да Будніка, кладучы перад ім на стале вялікія, агрубелыя ад працы свае рукі.— Не было ў нас тады яшчэ такога чалавека, як таварыш Буднік. Ты, таварыш Буднік, людзьмі нас зрабіў, дарогу нам паказаў. Хіба ж меў бы я за старым часам такога сына? — Тарэнта паказваў на Кастуся, які сядзеў побач з Мікодам, і хаваў хітраватую ўхмылку ў кутку паміж вусамі і барадою.— І я не шкадую, што вось так мяне зрашэцілі,— вёў рукой па сваім твары, паказваючы сляды даўніх ран. Пасля ўставаў, ішоў да ложка, выцягваў з-пад яго нізкі чорны сундучок, даставаў асцярожна складзеныя паперкі, дакументы з часоў грамадзянскай вайны і, нізка схіліўшыся над сталом, раскладваў іх перад Буднікам.— Гэта ўсё роўна, як

сляды мае, па іх кожны можа даведацца, дзе я быў.— Стаяў, схіліўшыся над сталом, упёршыся ў яго далонямі рук.— Сузон вось упікае мяне часам маім багаццем, што я сыта жыву. А хіба я не маю права так жыць? Я за такое жыццё біўся, каб чалавекам стаць, галаву пад кулі падстаўляў. Не ў тым справа, як я жыву, [redacted] які я? Няхай пачнецца заўтра што, і я зноў пайду ў чырвонагвардзейцы. Хутар кіну, усяго ацураюся, а пайду, як і ў васемнаццатым годзе.— Дрыглівымі рукамі разгортваў старое выцвіўшае пасведчанне чырвонагвардзейца, падаючы яго Будніку.— Цябе, таварыш Буднік, я тады не пазнаў, як запісваўся, бачыў, а не пазнаў. А гэта дэкрэт аб зямлі.— Тарэнта разаслаў на стале ля пасуды шырокі аркуш пажоўклай паперы, на якой быў надрукаваны дэкрэт.— Гэта, як запаведзі для мяне. За такі дэкрэт я куды хочаш пайду, на які хочаш фронт пайду, бо гэтым наша дарога ў жыццё назначана.— І клаў за гэтымі словамі на дэкрэт усёю далонню сваю руку.

Буднік слухаў, што гаварыў Тарэнта, і гаварыў сам. Тарэнта тады садзіўся на зэдліку і, абапёршыся на стол локцямі, моўчкі пазіраў на Будніка, сачыў за ягоным тварам, прыпамінаючы час, калі Буднік быў настаўнікам.

У той вечар гаварыў Буднік і пра арганізацыю калгаса. Тарэнта не сказаў Будніку, што ён першым запішацца ў калгас, ды Буднік і не патрабаваў ад яго такога слова, але ён не сказаў і таго, што не хоча ісці ў калгас. Нічога не сказаў ён і на першым сходзе шапятоўцаў, на якім Буднік зрабіў даклад і на якім сам Тарэнта быў за старшыню. На сходзе ад яго таксама ніхто нічога не патрабаваў.

Хто што думаў пра Буднікавы словы пасля таго сходу, Тарэнта не ведае, але сам ён цэлую ноч праварочаўся на ложку без сну і досвіццем, ні да чаго не дайшоўшы думкамі, падняўся з хворай галавой.

Да самага поўдня Тарэнта прабыў у гумне. Дамалочваў акалот. Хацелася быць толькі з самім сабою, каб ні з кім не раіцца, каб да нейкага канца дайсці самому. У таку было цёпла, і Тарэнта пры малацьбе скінуў і верхнюю кашулю. Рукі ігралі цэпам, кружылі яго ў паветры і цяжка клалі гладкі дубовы біч на паўпустыя снапы акалоту. Снапы ўздымаліся за цэпам пасля ўдараў, пырскалі рэдкім зернем, і Тарэнта біў яшчэ мацней, мецячыся ўдарамі ў лёгкія, абабітыя некалі аб жлукта, каласы. Час ад часу ён спыняўся. Абапёршыся на цэп рукамі, на якія клаў

падбародак схіленай галавы, Тарэнта падоўгу стаяў нерухома, пазіраючы то на тарпу тоўстых, адабраных з лепшай саломы, кулёў, то ў чорную пляму дзверак ёўні, дзе сохлі снапы. Стаяў, аж пакуль настывала цела, а тады зноў біў цэпам па снапах, біў са злосцю, з усёй сілы, каб разгубіць думы, якія не давалі спакою.

Пасля поўдня, хоць пасад і не быў дамалочаным, у ток не пайшоў, а выбраўся на тарфяную станцыю да сына. Сын толькі што прыйшоў з работы. Ён умываўся, потым змяняў вопратку, а бацька моўчкі сядзеў на зэдліку і чакаў, пакуль ён будзе зусім гатовы.

Сыну цяпер дваццаць сем год. Ён інжынер і камуніст, з ім можна гаварыць пра сур'ёзнае, і бацька чакаў. Кастусь ускінуў на плечы пінжак, не надзеючы яго ў рукавы, сеў супроць бацькі.

— Надзень пінжак, так прастынеш, прастудзішся. Гэта ж такая халадэча. Вось цяпер, пэўне, і нам давядзецца так жыць у каморках, ды ў халадэчы такой, як возьмеце нас у свае рукі.— Тарэнта захінуў полы кажуха і стаіў хітраватую ўсмешку ў кутку пад вусам.— Я думаў, што жартуе, так сабе гэта гаворыць, аж аказваецца, ён і ўсур'ёз надумаўся зганяць нас у кучу.

— Каго зганяць, а цябе ж, па-мойму, заганяць у калгас не трэба, сам зойдзеш.

— Сам? А ці пайду ж я яшчэ туды?

— Чаму не пойдзеш? — здзівіўся сын.

— А чаму ж мне абавязкова ісці туды? Што мне, свой двор не ў ласку, ці што?

— Ты, бацька, нешта як падменены сёння. Дома ж ты, здаецца, трохі па-інакшаму гаварыў. Але гэта не важна, калі ўсур'ёз хочаш аб гэтым гаварыць, давай пагаворым.

— А што ж я да цябе жартаваць прыйшоў, ці што? Сын жа ты мне, мо ж і на цябе рабіў некалі, а цяпер што ж, рашыцца ўсяго і ў табун ісці? Добра — на сваіх дзяцей рабіў, а цяпер на чужых рабіць?

— Нешта ты, бацька, не тое гаворыш.

— А ты тое? Ты мне не як камуніст, ваша партыйнае я ведаю, а ты мне, як сын бацьку скажы, ад сэрца скажы, як рабіць. Табе хіба не шкада дабра бацькавага? Столькі сіл я на яго паклаў: на хату тую, на гумно... І ўсё ж з свайго мазаля, не чужымі рукамі. Каб яшчэ троху, на каня добрага ўзбіўся б, на маладзейшага, кароў лепшых завёў бы... А цяпер як жа, як жа, а? Ці ў цябе сэрца няма, што ты так гаворыш?..

Кастусь разумеў бацьку. Ён надзеў пінжак, нібы гэтак лягчэй было гаварыць з бацькам, і падняўся з крэсла.

— А ты чаго ж у Чырвоную гвардыю ішоў, калі думаў увесь век душыцца на сваім кавалку?

— Я жыву на сваім кавалку, а душыцца там будзем.

— Дэкрэт на стале раскладваў, гаварыў, што як запаведзь ён табе, а цяпер запамятаў, што ў ім напісана?

— Там не напісана, каб мяне сілай у камуну заганялі.

— Хто ж цябе заганяе? На фронт цябе ў васемнаццатым годзе хіба сілай гналі? Сам пайшоў. Ведаў жа, за што ідзеш. І, нябось, не каяўся пасля, не ашукалі цябе, а цяпер чаго ж баішся? Перадавік! Рэвалюцыянер! Ці ўжо запамятаў, як некалі ў стопцы жылі?

— Гэта ты, мусіць, запамятаў і мяне туды загнаць хочаш. А я не запамятаў, я рад, што як чалавек хату маю. Я па-людскаму жыць хачу...

— Такім хочаш стаць, як дзядзька? Можа, парабкаў хутка наймаць станеш? Рэвалюцыянер! А я думаў, слухаючы цябе тады, што мой бацька першым пойдзе, прыклад пакажа.

— Ты мяне не ўпікай! — Тарэнта крануўся з крэсла, ухапіўся рукамі за полы кажуха, расхінуў іх.— У цябе малако на губах не ўсохла, каб вучыць мяне. Сам вучаны!..

— Я цябе вучыць не збіраюся, хоць, можа, і варта было б. Ці ты думаеш, што Буднік на катаргу ішоў, каб цябе назад у стопку пасадзіць? Ты чаго шкадуеш? Што конь будзе не ў тваім хлеве? Што ток твой могуць узяць? Пра жыццё думаць трэба, а не пра гэта. Жыць табе ж лепш будзе, прастарней. І табе, і Сузону, і ўсім. Ці мо хочаш, каб толькі табе жыць, а другі каб з голаду пух?.. Я ж не думаю гэтага...

Тарэнта пры гэтых сынавых словах падняўся з крэсла, паклаў на галаву шырокую, з маладой аўчыны, шапку і, не гаворачы ні слова, пайшоў да дзвярэй. Кастусь не спыніў яго і нічога не сказаў яму на развітанне.

Пасля гутаркі з сынам Тарэнта на другі сход зусім не пайшоў, баяўся напаткаць на сходзе Будніка. А на другі дзень даведаўся, што далі сваю згоду на калгас сямёра гаспадароў, у ліку якіх былі і Мікода, і Ганорык Сымон, і Сузон, і Міхалка Хвойчык. І гэта зрабіла яго як бы хворым. Была крыўда і злосць на ўсіх і ні на кога. Не хацелася сустракацца з тым, хто пайшоў у калгас, і з тымі, хто не хацеў ісці, і ён аднолькава злаваў і тады, калі яму раілі ісці ў калгас і калі хвалілі за тое, што ён не хоча

ісці туды. З гэтай прычыны не хацелася быць на людзях, але яшчэ цяжэй было заставацца дома.

На трэцім сходзе Тарэнта прысутнічаў, але да самага канца непрыкметна прастаяў ззаду каля дзвярэй і ніводным словам не абазваўся за ўвесь вечар, каб не выказаць сваёй прысутнасці і не трапіць на вочы Будніку.

Хацеў Тарэнта, каб і на сённяшнім сходзе так абышлося. Прыйшоў ён на сход па сваіх разліках не рана, але сход яшчэ не пачаўся, і ён наўмысля доўга стаяў на школьным двары, каб у сярэдзіну зайсці тады, як сход пачнецца. Ён думаў, што Буднік ужо ў школе, і спакойна стаяў сярод мужчын, услухоўваючыся ў іхнюю гаворку. Там да яго і падышла Вера.

— Нешта не відаць цябе, дзядзька Тарэнта, на сходах,— сказала яна.— Ці мо хварэў? — і ўсміхнулася.

Тарэнта хацеў змаўчаць, але Вера пачакала, што адкажа ён, і зноў загаварыла.

— Гэта ж мужчыны ўсё чакаюць, як ты запішашся. І мяне ўжо шмат хто пытаў, ці не ведаю я па-суседску, што ты думаеш, а я хоць і не ведала, а за цябе сказала як за калгасніка.

— Ці не калгасніца ўжо сама ты? — яшчэ стрымліваючы раздражнёнасць, абазваўся Тарэнта.

— А так што і ўжо. Хопіць з мяне распраклятага такога жыцця. Хоць, можа, яшчэ троху да старасці па-людскаму пажывем. А цябе, дзядзька Тарэнта, старшынёй калгаса зробім. Цябе паважаюць, за табой нашы ўсе пойдуць.

— А калі я сам не пайду? — не стрымаўся Тарэнта.

Вера збянтэжана змоўкла. У гэты час з вуліцы ўвайшлі на школьны двор Буднік і Мілоўскі. Тарэнта, як пачуў Будніка голас, мятнуўся ў школьныя сенцы. Хацеў зайсці ў сярэдзіну, але каля дзвярэй было цесна, і ён падаўся назад у сенцы, у цёмны кут, і там стаў, увагнуўшы ў плечы галаву, як бы піў ваду, і слухаў, калі зойдзе Буднік у сярэдзіну школы. Толькі тады павярнуўся і пайшоў да дзвярэй і ў дзвярах ужо сутыкнуўся з сынам. Кастусь падаў бацьку руку, запытаў пра здароўе маці і ў школу зайшоў разам з ім. Пра былую гаворку і не ўспомніў. Але калі пачаўся сход і Буднік правёў сваю гутарку пра калгас, Кастусь непрыкметна падышоў да бацькі.

— Сёння пара ўжо табе сваё слова сказаць,— параіў ён.— Іншыя, на тое спадзеючыся, чакаюць. Упірацца без дай прычыны няма чаго.

Тарэнта прыўзняў вочы, зірнуў на сына. Захацелася, як некалі, калі Кастусь быў зусім малым, тупнуць нагой

і сыкнуць на яго, каб не лез са сваімі парадамі. Але не сказаў нічога. Сын падумаў, што бацька згодзен з ягонымі словамі, і пайшоў на сваё месца. А Тарэнта доўга яшчэ стаяў узрушаны і разгневаны словамі сына і бязмэтна блукаў рукамі па кажуху. Ён то расшпільваў кажух і, раскінуўшы полы, папраўляў на сабе кашулю, спрабуючы расцягнуць цесны каўнер, то зноў зашпільваў кажух і абцягваў яго на сабе, а то скуб пальцамі бараду і бязмэтна круціў прыўзняты ўгору правы свой вус.

Нервавалі і Буднікавы словы. Буднік гаварыў пра колішняе. Ён прыпамінаў сходкі на Сузонавым двары, справу з панскай адменай зямлі і апавядаў пра павятовы з'езд сялянскіх дэпутатаў, з якога Шкробат Тарэнта пайшоў у Чырвоную гвардыю. Тое, што гаварыў Буднік, ільсціла Тарэнту, але чаму ён гаворыць менавіта цяпер, калі справа ідзе аб калгасе? Значыць, ён нават і не думае, што Тарэнта можа не пайсці ў калгас? Ён упэўнены, што Тарэнта і ў гэтай справе будзе першым? Чаму ж гэта так выходзіць, што ўсе яны: і свой сын, і Мілоўскі, і Буднік, і нават Вера, не пытаючы ў яго, зараней парашылі, што будзе так, а не інакш! Ім хочацца, каб было так? А калі гэтага не хочацца самому Тарэнту? Пра што іншае, а пра тое, як жыць, ён ні ў каго пытаць не збіраецца. На гэта ён сваю галаву мае. Захоча — без іхніх парад у калгас пойдзе, усяго ацураецца, а пойдзе, а не захоча — так жыць будзе, як і да гэтага, без указчыкаў.

Буднік гаварыў, дапытліва аглядаючы сход, як бы шукаў каго патрэбнага, а Тарэнта дагадваўся, што выглядае Буднік яго. Потым Буднік нахіліўся да Кастуся, нешта пацiху запытаў у яго і гаварыў ужо, углядаючыся ў пярэднія рады. І ўжо Тарэнта пачаў супакойвацца, думаючы, што Буднік не ім цікавіцца, як той нечакана запрапанаваў яму гаварыць.

— Дзе там Тарэнта Шкробат? — пытаў ён, аглядаючы сход.— Ён на сходзе ці не?

— Ёсць, ёсць,— азвалася некалькі галасоў, і за імі сам Тарэнта прыглушана адгукнуўся, але з месца не сышоў, толькі шапку зняў з галавы.

— Ёсць? Тады давай, таварыш Шкробат, раскажы і ты ім хоць што. Як ты думаеш, па-новаму жыць пачынаць ці так на хутары і будзеш сядзець да старасці? Давай-ка разам шапятоўцаў на новую дарогу выцягваць, як і некалі. Ну, выходзь, таварыш Шкробат, гавары.

Буднік сеў за сталом і чакаў. З лаўкі пазіралі на Тарэнту, чакаючы, што ён скажа, Мікода Жук, Сузон Каля-

да і Міхалка Хвойчык. А за імі павярталі галовы ўсе, хто сядзеў і стаяў наперадзе і нават тыя, што стаялі побач. Тарэнту зрабілася раптам горача, і густа выступіў на твары пот. Ён расшпіліў кажух, азірнуўся разгублена на знаёмыя твары аднавяскоўцаў, зірнуў на Будніка, які чакаў ягонага адказу, і прыглушаным хрыплым голасам сказаў:

— Я пра новае жыццё нічога сёння сказаць не магу.

— Гэта чаму ж? — запытаў Буднік.

— Я пакуль што яшчэ нідзе не бачыў яго.

Сход, здавалася, толькі і чакаў гэтых Тарэнтавых слоў. Мужчыны заварушыліся, замахалі рукамі і разам, перабіваючы адзін аднаго, загаварылі:

— Праўду кажа! Не бачылі мы яшчэ таго новага, не ведаем, якое яно.

— Які смак у ім...

— Каб тое новае не было горш старога.

— А ўжо ж.

— Жыццё змяніць — гэта табе не каня на рынку памяняць.

— І каня памяняць не так проста: бывае, прамяняеш быка на індыка.

— А нё ж... Чалавек рабіў, рабіў, і раптам аддай ім усё...

— А як жа: каня аддай, карову аддай, насенне аддай...

— А сам вясной хоць з торбай ідзі прасі.

— І пойдзеш...

Галасы мужчынскія перабіў Буднік:

— Ты, таварыш Шкробат, таксама баішся?

— Я нічога не баюся, баяцца мне няма чаго,— Тарэнта зламаў, што сход так падтрымаў яго.— Баяцца няма чаго,— сказаў ён яшчэ раз.— І кожны няхай сам за сябе гаворыць, я тут нікому не ўказчык, і торбы табе каторamu ніхто не начэпіць, калі будзеш у калгасе, а не ў цянёк бегаць...

— Дык як жа рабіць?— вырвалася ў кагосьці.

— Як хочаш рабі, галаву ж мо маеш? Цяжка так жыць, ідзі ў калгас...

— А ты як?

— Як прыйдзе час, я сам скажу.

— Яму хутара шкода!— кінуў з месца Сузон і падняўся з лаўкі.— Пасаромеўся б, Тарэнта!

Буднік нешта сказаў Сузону, і той сеў. Словы Сузона ўразілі Тарэнту. Ён ірвануўся з месца, ускінуў на галаву шапку і, зашпільваючы кажух, пайшоў да дзвярэй.

— За сваё жыццё мне няма чаго саромецца! — кінуў ён ад дзвярэй ужо.— За жыццё сваё я крывёю сваёю плаціў, у другіх яго не ўкраў...

Сход на момант змоўк, пасля з яшчэ большай сілай загаманіў разам усімі галасамі, і ў гомане не чутна было, як бразнулі за Тарэнтам дзверы.

На двары цёмна. Мяцеліца замінае хадзе, замятаючы дарогу. Ногі грузнуць у снягу, збіваючыся з цвёрдай саннай дарогі. Ісці цяжка, душна. Ніхто не ідзе следам за ім, ніхто не гукае яго вярнуцца, але Тарэнта не сцішае хады, хоць і стаміўся.

У полі ветру больш раздольна, і мяцеліца тут яшчэ гусцей. Снег шыецца за полы кажуха, у рукавы, пад шапку, слепіць вочы. А злосць і крыўда падганяюць. Тарэнта расплікае каўнер кажуха, адхінае яго ад твару і ідзе, не сцішаючы крокаў.

Каля свайго хутара ён доўга стаіць на адным месцы, пазіраючы то на бярэзнік, што каля возера, то на былы панскі двор. Ягоная зямля ад усіх убаку. З правага боку возера, наперадзе рэчка, а тут парабкоўскія гароды, і толькі з аднаго боку хутар суседзіць з другім хутарам. Да яго Тарэнту справы няма. Жыў адзін, ні з кім не апастыраючыся, нікога не крыўдзячы. Хутар быў як бы ўзнагародай за некалішнія пакуты і шуканні зямлі. У Томскай губерні зямлі шукаў, у Табольскай шукаў і ў Енісейскай; сілы разгубіў, шукаючы яе, і вось знайшоў, пачаў жыць, а цяпер як жа? Зноў без свайго кавалка зямлі застацца? Столькі вёсен і лет, запоўненых працай, перажыта тут, на гэным кавалку зямлі, так цяжка здабытым. А цяпер, як прыйдзе вясна, як жа будзе? Каля хаты зямля і не свая? Куды захочуць, туды пагоняць рабіць? Усё роўна зямля? Як жа ўсё роўна, калі ты не будзеш мець месца, за якое заўжды трымацца можна, якое толькі тваё, а не нейчае яшчэ?

Так кругам, якому няма канца, ідуць Тарэнтавы думы, следам за імі ідзе Тарэнта сваім хутарам па глыбокім снезе, намацваючы ботамі пад снегам зямлю, на якой пасеяна жыта. Вясной зарунее жыта, вырасце, уздыме на высокіх пруткіх сцёблах цяжкае калоссе, паспее, наліўшыся буйным зернем, а жаць хто ж яго будзе? Тваё яно ці не тваё?

На гумне высокі азярод. У дзірках рашэцін свішча мяцельны вецер. Снег кружыцца ў прасторы паміж плотам і азяродам, завяршае высокія гурлакі. Тарэнта сочыць за снегам, а потым пазірае ўгору на самы верх рашэціны.

Значыць, не будзе чаго і азяродзіць? І посцілак не трэба будзе падсцілаць пад азярод, каб скідаць на іх зверху сухія снапы?

Ад гумна пайшоў на двор, паціху адчыніў калітку, пастаяў, пазіраючы на хату і на хлеў, і пайшоў цераз двор да хлева. За хлевам зацішна, няма ветру, і ён чуе, як шамаціць у яслях конь, перабіраючы губамі сена, і чуе, як цяжка сапуць каровы. «А тады як жа? — думае ён.— Адна карова на ўвесь хлеў? А конь будзе дзесьці там? І другая карова таксама будзе там, і ўжо не твая будзе, а агульная?»

Доўга стаяць каля хлева ён не можа. Думае пайсці ў хату, але на ганку спыняецца. З-пад варотніцы ад каня вылез сабака і лашчыцца каля ног, трэцца аб ногі бакамі. Тарэнта не заўважае яго. Яму не хочацца ісці ў хату. Там жонка. Яна не менш, чым ён, устрывожана тымі ж думамі і, напэўне, неспакойна варочаецца на ложку, думаючы пра кароў і пра зямлю. Прыйдзеш у хату, яна пачне гаворку пра тое, пра што думаеш сам, і ад гэтай гаворкі будзе не лягчэй, а яшчэ горш. Лепш не ісці ў хату.

Тарэнта паварочваецца і нагой трапляе сабаку на хвост. Сабака ўжо лёг быў каля ягоных ног. Сабака ад болю яўкнуў, падхапіўся і зноў намерыўся пацёрціся аб гаспадарову нагу.

— Вон!

Тарэнта падчапіў нагой сабаку пад жывот і з сілай адкінуў яго ад сябе. З перапуду сабака зноў яўкнуў і шырока растапыранымі нагамі стаў на снягу. Ён стаяў на месцы, пазіраючы на гаспадара, аж пакуль той не пайшоў са двара, а тады вылез са снегу і нясмела патупаў за ім.

Тарэнта пайшоў у гумно. У таку, упоцемках, пастаяў колькі хвілін, услухоўваючыся ў ветравы шум над саламянай страхой, потым падышоў да ёўні, адчыніў яе нізкія дзверы, намацаў упоцемку каля сцяны ў ёўні снапы, скінуў некалькі штук іх на падлогу і, як стаяў, лёг на снапы тварам уніз, выцягнуўся на ўсю даўжыню і моўчкі ляжаў аж да рання. Спрабуючы заснуць, ён клаў пад твар сабе то адну, то другую руку і падцягваў, адкідаючы ўбок ногі, то клаў твар на сноп, а рукі выцягваў удоўж цела, але не клаўся на бок, усю ноч праляжаў уніз тварам і не заснуў, не ўмеючы вызваліцца ад балючых і дакучлівых дум.

Як зусім развіднела, Тарэнта пайшоў у хату. Жонка была ўжо на нагах, тапіла ў печы. Яна палахліва пазірала на мужа і нічога не пытала ў яго, баючыся чым-не-

будзь не дагадзіць яму, і загаварыла з ім толькі тады, як ён зноў сабраўся ісці з хаты.

— Куды ж ты? Хоць бы ж перакусіў чаго,— сказала яна.

— Каровам я прынёс мешані,— сказаў ён замест адказу на яе словы.— І каню сена прынёс. Калі затрымаюся, напоіш.— Сказаў гэта і пайшоў з хаты.

Цераз колькі часу ён быў каля Буднікавай кватэры. Буднік толькі што падняўся і збіраўся ісці снедаць. Тарэнту ён спаткаў абрадавана і адразу падаў яму крэсла, прапануючы скінуць кажух і сесці. Але Тарэнта кажуха не скінуў і не сеў.

— Я ненадоўга,— сказаў ён і паднёс да галавы руку, раздумваючы, ці то зняць шапку, ці не. І шапку не зняў.— Я пра тое сказаць хачу, што ў калгас не пайду, каб на мяне не спадзяваліся.

Цяпер падняўся з крэсла і Буднік.

— Ты што ж, Тарэнта, жартуеш ці ўсур'ёз? Чаго гэта так раптам?

— Жарты тут невялікія. Нутро маё парагніло, пакуль думаў пра гэта. Як без галавы хадзіў... Пра тое і сказаць прыйшоў, каб на мяне не спадзяваліся. І не няволіце мяне лепш, я ўсё роўна не пайду. А будзеце няволіць, у злосць увайду і калгаса зусім не будзе, мужыкі мяне слухаюцца пакуль што,— прыгразіў ён, ускінуўшы на Будніка з-пад ілба вочы.

— Супроць нас пойдзеш? Супроць самога сябе, чырвонагвардзейца? Ты толькі глядзі, нікому другому гэтага не кажы. Гэта глупства, Тарэнта. Супроць нас ісці табе, значыць супроць сябе ісці. Галаву на гэтым ураз зломіш. Ермалаю Кату гэтым пасобіш, Давыдзюку пасобіш, а не сабе. Пілацееву пасобіш, які сядзіць дзесьці за мяжой ды чакае. Ці, можа, запамятаў на тое, што было, хто такі Пілацееў?

— Я нічога не запамятаў, але я не магу і не пайду,— яшчэ раз паўтарыў свае словы Тарэнта пра тое, што не пойдзе ў калгас. Ён хацеў, каб Буднік чуў гэныя ягоныя словы. Калі ён першы раз сказаў іх, як бы з плеч скінуў нешта цяжкае, што гняло ўсе дні.

— Хутара шкадуеш? Сямі дзесяцін шкадуеш? Я цябе разумею, гэта пройдзе. У калгасе ўся шапятоўская зямля тваёй будзе, усе коні будуць тваімі. Хіба ў тым справа, што конь у тваім хлеве стаіць? Каб толькі навучыцца табе шанаваць не толькі гэтага аднаго, а — дваццацёра, скажам, каб навучыцца аднолькава любіць работу на любой

зямлі, не толькі на тым кавалку, на якім сядзіш. Вось у чым справа. Шкода, што мне сёння ж аж на месяц цэлы ехаць адсюль трэба, а то мы з табой пра гэта пагаварылі б падрабязней, і не на сходзе, а вось так, дома. А ў агуле не так гэта страшна, пагаворым, як прыеду. Ты толькі глупства больш нікому не гавары і не лезь у хеўру да такіх, як Ермалай Кот. Не яны табе пара. Не можаш ісці ў калгас цяпер, цяжка табе гэта, лепш і на сходы не хадзі, дома пабудзь, падумай. З сынам пагавары. Сын у цябе добры, сапраўдны камуніст. Ды што я цябе вучу, сам галаву маеш, не дзіцёнак. У васемнаццатым жа годзе цябе ніхто не вучыў на фронт ісці, сам і ў калгас пойдзеш.

— Не пайду я ў калгас,— яшчэ раз сказаў Тарэнта і пачаў заплікаць каўнер кажуха, збіраючыся ісці.

— Ну, добра, не ў гэтым цяпер справа. Рад я, што ты зайшоў, хоць і з такой навіной. Дзякую, а то ўчора падняўся і ўцёк са сходу, нічога не сказаўшы.

— Я пайду, бывайце здаровы, таварыш Буднік.

— Хутка спаткаемся, бывай, таварыш Шкробат.— Буднік падаў Тарэнту руку і, развітваючыся з ім, пазіраючы яму ў твар, усміхнуўся: — Бывай. Пасварыцца яшчэ паспеем пасля.

— Сварыцца з вамі я не хачу.

— Часам і сварка на карысць.

Тарэнта пайшоў. Ён павольна сышоў з ганка і, ні разу не азірнуўшыся на вокны Буднікавай кватэры, прайшоў цераз увесь двор. Ён хутка знік за суседнім домам, а Буднік яшчэ нейкі час прастаяў каля акна, разглядаючы шырокія, цвёрда пакладзеныя на мяккім свежым снезе сляды Тарэнтавых чобатаў.

## ПАДЗЕЯ ВОСЬМАЯ

Паміж прафесарам Галынскім і Паўлам Андрэевічам, нягледзячы на іхнія больш частыя сустрэчы па рабоце, захаваліся ўсё тыя ж адносіны людзей з рознымі поглядамі. Але думалі яны пра гэтыя адносіны кожны па-свойму. Буднік добра ведаў прафесара і, уважліва наглядаючы за кожным крокам яго ў рабоце, усё больш і больш пераконваўся, што ў гэтым чалавеку ён не памыліўся.

Прафесар у сваю чаргу не ў меншай ступені паважаў Будніка, але пераконваў сябе ў тым, што ён паважае Паўла Андрэевіча толькі за ягоныя чалавечыя якасці і не больш, а баючыся падпасці пад ягоны ўплыў і інстынктыўна ўгадваючы гэты ўплыў, прафесар не пераставаў

гадаваць у сябе і пачуцця насцярожанасці ў адносінах да Будніка, выкарыстоўваючы ўсё, што можна было супрацьпаставіць ягоным уплывам. З гэтай жа прычыны, калі на балоце з'явіўся Адам Пілацееў, абраў абшчэнне з ім, як зелле супроць Будніка. Прафесар меркаваў, што ён будзе, дзякуючы гэтаму, на аднолькавай адлегласці ад іх абодвух і, значыць, зможа захаваць і надалей сваё ўласнае месца ў падзеях.

Першы раз прафесар убачыў Пілацеева каля чыгуначнай станцыі. Гэта было падвячоркам, акурат у палове зімы. Прафесар ішоў з Аксанай у памяшканне лабараторый, дзе абяцаў пазнаёміць яе са сваімі апошнімі работамі. Калі яны падышлі да станцыі, прыбыў поезд. І тады адразу ж прафесар пазнаў чалавека, якога ён бачыў мінулай вясной на апошняй станцыі, як варочаўся з замежнага падарожжа. На гэты раз ён адразу ж пазнаў Пілацеева і ад нечаканасці разгублена спыніўся і чуць не аклікнуў яго.

— Мне здалося, што я дзесьці сустракаў гэтага чалавека,— кіўнуў прафесар галавой у бок да Пілацеева, які стаяў з другімі пасажырамі, пра нешта пытаючы ў іх. Сказаў гэта прафесар свядома, разумеючы, што яму давядзецца сустракацца з Пілацеевым, і Аксана, напэўне, будзе ведаць пра іхняе знаёмства.

У той вечар прафесар больш ні разу не ўспомніў пра Пілацеева. Ён увесь вечар прабыў з Аксанай і быў рад гэтаму. Аксану прафесар любіў. Цяпер ён прыпамінае той вечар. Адбірае скарыстаныя ўжо, апрацаваныя рабочыя свае запісы, непатрэбныя яму больш, і прыпамінае, як, па-юнацку проста, узяў на развітанне Аксаніны рукі і сказаў, што любіць яе.

— Памятаеце,— запытаў ён,— як я прасіў вас узяць мяне ў свае рукі?

— Ну? — не зразумела Аксана, што ён хоча сказаць.

— Я такі папаўся, я пакахаў вас. І дужа рад. Вы дзіўны чалавек. Вас нельга не пакахаць.

— Вы жартуеце, Міхаіл Палікарпавіч.— Аксана вызваліла свае рукі і схавала іх у рукавы паліто.

— Дзе ўжо мне жартаваць з такім? Гэта не жарт, праўда. І я рад гэтаму.

Аксана не ведала, што сказаць, яна ўсміхнулася, спрабуючы тлумачыць словы Міхаіла Палікарпавіча як жарт, і пайшла. Але пасля гэтага яна часцей і заўжды абрадавана сустракала Міхаіла Палікарпавіча, зусім не хаваючы сваіх да яго адносін, якія ён угадваў.

Міхаіл Палікарпавіч падаўся ад стала да акна і ля яго спыніўся, слухаючы, як падаюць за акном са страхі кроплі вады. Раставаў снег. Стоячы ля акна, ён не чуў, як стукалі ў дзверы, і ад акна адвярнуўся, як у пакой увайшлі Пілацееў і Ягупла.

Ягупла з часу з'яўлення Пілацеева значна змяніўся. І ў ім прафесар больш пазнаваў Ягуплу — былога земскага аграненома, чым Ягуплу-паэта, якім ён спаткаў яго на балоце. А Пілацееў быў такім жа, якім ведаў яго прафесар яшчэ па Петраграду. Ён па-старому злосна ненавідзеў усё, што рабілася вакол яго. Прафесар рэдка згаджаўся з Пілацеевым, часцей пярэчыў ягоным словам, і ў спрэчках з прафесарам Пілацееў як бы задавальняў сваю злосць.

— Працуеце, Міхаіл Палікарпавіч? — пытае ён.— Хочаце ўзбагаціць іх?— І ходзіць па пакоі з канца ў канец.

— Я не на іх працую. Навука ніколі не належала аднной якой-небудзь партыі або класу.

— Хо-го! І вы сапраўды думаеце, што не на іх робіце? — Пілацееў спыняецца перад прафесарам, і Ягупла, як і ён, чакае адказу.— Яны будуюць свае заводы, выкарыстоўваючы вынікі вашай працы.

—Што ж з таго, Адам Феакціставіч? Заводы патрэбны не толькі ім, і менш за ўсё ім.

— Але пабудова заводаў узмацняе іх.

— Значыць, аб'ектыўная хада падзей за іх і я тут ні пры чым,— паціскае плячыма прафесар.— Тое ж можна сказаць і пра вашу работу.

— Пра маю? — Пілацееў кідае погляд на Ягуплу і рагоча, а за ім рагоча і Ягупла, і прафесар збянтэжана пазірае на іх, не разумеючы прычыны рогату.— Вы думаеце, што я таксама буду рабіць на іх?

— Але вы ж прыехалі як спецыяліст, як інжынер, чаго ж вы ехалі, калі не думаеце нічога рабіць?

— Рабіць буду, а вось ці будзе з гэтага карысць ім, гэта іншае. Я ім нараблю, я ім так нараблю...— І Пілацееў зноў рагоча.

— Але ж гэта будзе злачынствам!

— Супроць іх? Затое будзе сумленным у адносінах да самога сябе. А я ніколі не заракаўся ад гэтага.

Прафесар здзіўлена паводзіць плячыма.

— Гэтага я не разумею і не апраўдваю, зусім не апраўдваю,— кажа ён.— Вы можаце не згаджацца з імі, можаце ненавідзець іх, але рабіць злачынства гэта, пра-

бачце, не варта культурнага чалавека. Ваш абавязак — рабіць сваю справу. Вы спецыяліст, вы ведаеце машыны, вы можаце злучыць асобныя часткі іх і зрабіць іх жывымі. Гэта і рабіце. Машынам няма справы да белых або чырвоных пасля таго, як спрэчкі паміж імі вырашаны вайной. Машыны працуюць на таго, на каго працуе жыццё. А жыццё, хочам мы гэтага ці не хочам, за іх.

— Вы так думаеце, Міхаіл Палікарпавіч?

— Я вымушаны так думаць. Тое, што я вакол сябе бачу, прымушае мяне так думаць.

— А што ж вы, дазвольце запытаць вас, Міхаіл Палікарпавіч, убачылі такое асаблівае? Заводы будуюць?

— Хоць бы і так. Яны ператварылі балота ў вельмі важны прамысловы вузел. Зрабілі Расію пісьменнай...

— Ха-ха! — Пілацееў, рагочучы, адкінуўся на спінку крэсла.— Ці не думаеце вы, Міхаіл Палікарпавіч, што нямецкія і французскія капіталісты горш за іх умеюць будаваць заводы? А наконт пісьменнасці, ха-ха! Еўропа даўно, даўно пісьменнай стала і без бальшавікоў.

— А Расія ж не магла стаць!

— Думаеце, што не магла б? Мне здаецца, што вы перасталі верыць у сілу дэмакратыі!

Тады прафесар прыпомніў свае падарожжа па Еўропе, думы, з якімі вярнуўся адтуль.

— Я ўсё ж ніколі не згаджуся з вамі, Адам Феакціставіч, і не апраўдаю вашых намераў.

Акурат у гэты час жанчына прынесла заказаны прафесарам чай. Як толькі прыйшла яна, прафесар падняўся з крэсла, а Ягупла падаўся да яго і выняў з кішэні кніжку сваіх вершаў.

Шчэ шмат змагацца трэба нам,
Каб край наш незалежным стаў,—

прадэкламаваў ён, перадаючы кніжку прафесару.— Гэныя радкі я напісаў вам, Міхаіл Палікарпавіч, на сваёй новай кніжцы. Хай яны будуць адказам на вашыя спрэчкі. А цяпер я прапаную вашай увазе адзін з маіх, вельмі даўніх, вершаў, прысвечаных Адаму Феакцістравічу.— Ён дастаў з кішэні партманае, выняў з яго скрэпленыя ў адно некалькі блакнотных лісткоў і, спыніўшыся каля стала, пачаў чытаць. Чытаў ён доўга, то сцішаючы, то пасіляючы голас, а калі скончыў, збянтэжана зірнуў па чарзе на Пілацеева, потым на прафесара і сказаў:

— Гэта напісана мною пасля нашага спаткання з Адамам Феакцістравічам у дваццаць першым годзе. Адам Фе-

акціставіч расказаў тады багата жудаснага пра лёс рускага афіцэрства, і я напісаў гэны верш.

— І верш незвычайнай моцы! — пахваліў Пілацееў. Працягнуў руку і ўзяў у Ягуплы лісткі. Перагарнуўшы іх, уголас прачытаў канец верша:

> ...Тогда, пережив бесконечные муки,
> Со знамем святого креста
> Протянем к союзникам доблестным руки:
> «Подайте во имя Христа».
>
> Вы сами видали так много примеров,
> Как нас наш народ избивал,
> Как рвал он погоны своих офицеров
> И как он их в грязь затоптал.

— Незвычайна моцна напісана! — сказаў Пілацееў і падаў Ягуплу лісткі, а потым паціснуў ягоную руку.— Дзякуй, вялікае дзякуй.— Нейкі час Пілацееў маўчаў, блукаючы поглядам па цемры, якая стулілася за акном. Прафесар дастаў з шафы пакункі з пячэннем і цукеркамі і паклаў іх на стале. Жанчына прынесла яшчэ яблычнага варэння.

— Піце,— запрапанавала яна, выходзячы з пакоя.— Прастыне, піце ж.

— Такі давайце вып'ем,— запрапанаваў і прафесар.— Адам Феакцістaвіч, падсоўвайцеся бліжэй.

— Дзякую.— Пілацееў прыўзняўся і падсунуў крэсла бліжэй да стала. Пачаў даставаць лыжачкай варэнне. Варэнне клаў у шклянку з чаем, доўга размешваў яго ў шклянцы.— Жудасны час быў. Нехта страціў на гадзіну ісразум, парашыў паільсціць натоўпу, і Расія перастала існаваць. Так-так, Міхаіл Палікарпавіч, Расія перастала існаваць. Ніхто, ніхто, акрамя рускага афіцэрства, не любіў Расіі. Інтэлігенцыя не любіла Расіі, і было модай не любіць сваёй бацькаўшчыны. Калі Расія гінула, інтэлігенты стаялі або ўбаку, або нацкоўвалі на яе натоўп. Як я шкадую, што ў нас было толькі па дзве рукі, што нельга было страляць адразу з некалькіх кулямётаў!.. За Расію было б заплочана значна больш. Хоць ведаеце што, Сузон Іванавіч! — Пілацееў паднёс да губ шклянку і набгом выпіў чай, пасля дастаў лыжачкай з дна шклянкі варэнне і з'еў яго. Пакуль ён рабіў гэта, Ягупла чакаў, трымаючыся рукой за сваю шклянку.— Ведаеце што? — паўтарыў Пілацееў.— Дапішыце ў вашым вершы яшчэ некалькі радкоў, паколькі ўжо верш прысвечаны мне. Наша, мая Расія яшчэ падымецца, будзе яшчэ і наша ўваскрошанне.

— Старой Расіі, Адам Феакцістaвіч, больш ніколі не

будзе. А пасля не ведаю, ці згадзіўся б на яе існаванне і Сузон Іванавіч, як беларускі паэт. Старая Расія наўрад ці дазволіла б яму пісаць для свайго народа.

— Вы запамяталі, што старэйшыя беларускія паэты пачалі пісаць у старой Расіі.

— Гэта не зусім тое,— не згадзіўся з Пілацеевым і Ягупла.— Магу прыняць Расію толькі як саюз роўных і вялікіх дзяржаў, вялікіх славянскіх народаў, і ў такой Расіі хацеў бы бачыць вялікага беларускага палкаводца Пілацеева.

— Ха-ха! — не стрымаўся прафесар.— Давайце лепш пакінем такія гаворкі. У іх задужа наіўнага.

— Вы так думаеце? — прыўзняў Пілацееў вочы ад стала.

— Мне так здаецца, хоць я і зусім дрэнны палітык.

— Такі ж палітык і з мяне,— далучыўся да прафесара Ягупла. Ён падумаў, што сказаў у прысутнасці прафесара лішняе, і хацеў цяпер, каб словы ягоныя прафесар прыняў як выпадковыя.— Нам з вамі, Міхаіл Палікарпавіч, у палітыцы ніяк не знайсці дарогі, мы ў палітыцы заўжды наблытаем і нагаворым такога, што божа спасі. Куды лепш толькі пісаць вершы.

Пілацееў хутка падзякаваў прафесару за чай і сабраўся ісці. Разам з ім сабраўся і Ягупла. На развітанне Ягупла падаў прафесару руку і, схіліўшы набок галаву, лісліва ўсміхаючыся ў твар яму, усё яшчэ памятаючы пра сваю неасцярожнасць са словамі, якія быў сказаў, спрабаваў згладзіць уражанне, якое яны маглі зрабіць на прафесара.

— А ведаеце, Міхаіл Палікарпавіч, куды лепш не быць нам палітыкамі. Няхай Адам Феакцістані,— ён гэтак жа лісліва ўсміхнуўся Пілацееву,— займаецца палітыкай, няхай Мілоўскі займаецца палітыкай, Буднік, а з нас хопіць і сваёй справы. Праўда?

— А я наўмысле буду прыходзіць у ваша жыццё з палітыкай і буду ёю палохаць ваш спакой. Хочаце, Міхаіл Палікарпавіч?

— Чаму ж? Прыходзьце, буду гатовы паспрачацца з вамі.

Прафесар гаварыў гэта зусім шчыра. Чаму ж бы яму і не сустракацца з Пілацеевым? Пілацееў зусім чужы? Што ж з таго? Прафесару да гэтага ніякой справы няма, гэтак жа, як і ад таго, што, да прыкладу, Павел Андрэевіч Буднік з'яўляецца пераконаным і паслядоўным бальшавіком. Гэта іхняя справа. І нават цікава наглядаць за гэты-

мі абсалютна супрацьлеглымі сіламі, не прыстаючы ні да адной, ні да другой. Праўда, прафесаравы сімпатыі значна ў большай меры на баку Будніка, можа, у сілу таго, што ў дзейнасці гэтага чалавека ён знаходзіць шмат такога, што сваім значэннем выходзіць далёка за межы інтарэсаў толькі яго асабістых, як палітыка, або інтарэсаў ягонай партыі. Але ён задаволены тым, што можа спакойна назіраць за сутычкамі гэных дзвюх сіл, што стаяць за Буднікам і за Пілацеевым. Ён задаволены тым, што яшчэ і сёння ён нічым не вымушаны быць цалкам з адной з гэных сіл. І мае магчымасць, калі гэта спатрэбіцца, сказаць нешта сваё ўласнае так, як ён сказаў сёння Пілацееву, што не апраўдвае ягоных намераў рабіць злачынства.

Прафесара часта папракалі ў тым, што ў сваім імкненні да аб'ектывізму ён аж педант. Можа, такія папрокі і мелі пад сабой падставу, але прафесар не прымае іх. Быць заўжды і ва ўсім аб'ектыўным,— гэта адзін з асноўных прынцыпаў прафесара. А па-другое, ён хоча быць не толькі аб'ектыўным, а яшчэ і сумленным у сваёй аб'ектыўнасці. А як жа інакш? Не, не. Ён зусім не можа прыняць папрокаў у педантызме. А хіба быць да педантычнага сумленным, хіба гэта дрэнна? Інакш ён, напэўне, увязаўся б у нейкую палітычную гульню і зусім бы не мог працаваць па свайму прызначэнню як вучоны. Сёння ж ён працуе, і працуе, як хоча, і працуе, менавіта, таму, што змог аб'ектыўна паставіцца да таго, што рабілася вакол яго. Пілацееў папракае яго ў тым, што ён з бальшавікамі, што ён робіць на іх? Можа быць, можа быць, што гэта і так. Ён заўжды быў староннікам аб'ектыўнай хады падзей. Ён зусім не вінаваты ў тым, што бальшавікі, а не хто іншы, паспяваюць ісці ў нагу з падзеямі.

Так думаў прафесар, працягваючы перарваную было з'яўленнем Пілацеева і Ягуплы сваю работу, а ў гэны час Пілацееў развітаўся з Ягуплам, калі яны выйшлі на дарогу за балотам, і накіраваўся дадому. Але дадому ён не пайшоў, а хутка звярнуў на хутар да Мірона Сапуна.

У Міронавай хаце, калі прыйшоў туды Пілацееў, было ўжо некалькі чалавек. Былі абодва Каты: Ермалай і Халамей, быў Давыдзюк Ахрэм і Мікіта Шкробат і яшчэ трое ці чацвёра мужчын, якіх Пілацееў бачыў упершыню.

— Убачыў я ў вас агонь у хаце і парашыў зайсці,— сказаў ён.

— Будзьце ласкавы, дзякуем, што зайшлі,— азваўся з ложка гаспадар.— Грэйцеся, сядайце.

Мужчыны, якія сядзелі на лаўцы каля стала, адсуну-

ліся, саступаючы месца Пілацееву, але ён не пайшоў да стала, а сеў на зэдліку, які запрапанавала гаспадыня. І калі ён сеў, у хату зайшоў Шкробат Тарэнта. Таму што ў хаце было каля дзесятка мужчын, Тарэнта не здзівіўся. Жыла Шапятоўка ў гэтыя дні ўся аднымі думамі, і мужчыны шапятоўскія кожны вечар схадзіліся па некалькі чалавек у той або іншай хаце і да позняга часу праседжвалі, заняўшыся гаворкамі пра калгас. Тарэнту мужчыны спаткалі ветліва, хоць і былі крыху здзіўлены ягоным з'яўленнем, і далі яму месца каля самага стала. Кот Халамей пасунуўся далей за стол на кут і паказаў рукой на месца каля сябе.

— Сядай, Тарэнта, пасядзі, усё роўна свята ў нас цяпер суцэльнае: ходзім, гаворым, а рабіць, мусіць, нехта будзе.

— Рабіць будзем, як у калгас сыдземся,— сказаў Сапун і сам ні з таго ні з сяго зарагатаў. Тарэнта на яго зірнуў, пасля на Пілацеева і нахіліўся да Халамея.

— Хто гэта такі? З раёна?

— Пэўне ж. Іх цяпер не разбяры-бяры колькі ходзіць.

З ложка абазваўся гаспадар на Сапуновы словы.

— Гэта табе не хаханькі, Мірон,— сказаў ён.— Колькі там таго асталося, і вясна. Рабіць хочаш ці не хочаш, трэба будзе, але як рабіць будзеш, як? Ты мне пра гэта скажы. Мы, таварыш дарагі,— звярнуўся ён да Пілацеева, які сядзеў непадалёку ад яго,— змучыліся зусім ужо ад такіх думак, галовы пагубілі, розум страцілі.

— Гэтага не варта рабіць,— азваўся Пілацееў.— Розум заўжды патрэбен ці ў калгасе, ці без калгаса будзеце, а да вясны такі недалёка.

— Недалёка,— згадзіўся Кот Халамей.— І пара ўжо нам неяк цвёрда сваё слова сказаць, каб і людзей не мучыць, бо ходзяць яны да нас кожны дзень угаварваць, і каб самім нешта рабіць.

— Думаеш, адчэпяцца? — Мікіта махнуў рукой.— І не спадзявайся лепш на тое, во што.

— А я, можа, запісацца хачу, навошта ж ім адчэплівацца?

— Запісацца? — здзівіўся Мікіта.— Хай мае ворагі туды пішуцца.— Азірнуўся на Пілацеева і ўсміхнуўся.— Хай толькі таварыш не падумае пра нас чаго нядобрага.

— Гаварыце што хочаце; гаварыць нікому не забаронена.

— Каб хоць ведаць, як яно там у другіх людзей з гэтым,— выказаў сваё пажаданне Кот Ермалай, які ўвесь

час моўчкі сядзеў за сталом, на самым куце.— Калі ўжо ўся Расія, людзі вы мае добрыя, запісваецца, тады яно не так страшна было б і нам запісацца. А так страшна. І пісацца страшна, як бы на паншчыну тую ідзеш, і не пісацца яшчэ страшней. Не разбярэш тут, куды лепш кінуцца, ці ў пельку, ці ў пяцельку. Як паслухаеш, што вакол робіцца, то лепш не жыў бы, здаецца...

— Баюся я,— перабіў Ермалая Ката Пілацееў,— што, калі і будзе калгас у вас, ці доўга ён пажыве. Маем мы такія ўжо ў Крыму, на Каўказе, дзе ўжо сеюць. Папісаліся, плугі знеслі, бароны, коней звялі ў агульныя хлявы, і ўсё, здавалася б, добра, улада мясцовая супакоілася, задаволена, што справа ідзе да парадку, а пасля глядзяць ды толькі дзівяцца: выехалі калгаснікі сеяць кожны на свой шнур. Пакуль начальства бегала туды-сюды, людзі сеяць пачалі кожны на сваім, і калгаса як і не было ніколі. Баюся я, што і ў вас такое здарыцца.

— І разышліся? — перапытаў Ермалай Кот.

— Так, разышліся. Цяпер да восені будуць чакаць.

— А да восені ці мала яшчэ што можа быць,—падхапіўся Мікіта.— А што ты думаеш, каб і ў нас так, а?

— Ты вось надумайся! — За ўвесь час Тарэнта абазваўся ўпершыню. Не падабалася яму, што такая гаворка ідзе, але нікому ён пярэчыць не стаў, пакуль не загаварыў брат.— Лепш памаўчаў бы,— параіў ён Мікіту.— Не хочаш пісацца, не пішыся, за горла цябе туды не пацягнуць.

Больш ён нічога не сказаў за ўвесь час, пакуль сядзелі мужчыны ў Міронавай хаце.

Дома Тарэнта Шкробат як лёг у пасцель, доўгі час ляжаў моўчкі дагары тварам, з падкладзенымі пад галаву рукамі, а пасля перавярнуўся на бок і, мосцячы сабе падушку, голасна дакончыў думку, з якой ляжаў да гэтага:

— Гм... надумаліся, у круцельства пайшлі, нібы нехта жарты з імі ладзіць...

Жонка яшчэ не спала. Яна пачула, што сказаў муж, але не зразумела сказанага і перапытала. Тарэнта ў апошнія часы стаў, як ніколі, маўклівым. Прычыну гэтай маўклівасці жонка ўгадвала. На гэны раз, пакуль Тарэнта ляжаў моўчкі, яна таксама маўчала, ведаючы, што ён не спіць, і чакала. Таму так і ўхапілася за ягоныя словы, спадзявалася пагаварыць з ім, але ён змоўк, лёг плячыма да яе і больш не сказаў ніводнага слова. І жонка так і не зразумела, да чаго адносіліся ягоныя словы пра круцельства.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕВЯТАЯ

За акном клуба высокія, гонкія хвоі, а за іхнім веццем зусім па-веснавому чыстае неба. Унізе пад хвоямі голая ад снегу зямля, так даўно нябачаная, не кранутая яшчэ нічыімі нагамі. За хвоямі ў лажбіне лапік пачарнелага стапнеўшага снегу. Снег плямамі і ў нізіне каля зараснікаў, якія відаць Мілоўскаму з клубнага акна. Ён пазірае туды і слухае, як падаюць за акном на пясок з даха кроплі вады. Апошні снег растае.

Над хвоямі праносіцца мяккі веснавы вецер. Верхавіны хвой гойдаюцца і то засланяюць сабою неба, згортваючы веццe, то паказваюць яго. Зусім вясна. Мілоўскі прыпамінае час, калі ён упершыню трапіў у Шапятоўку ў дзевятнаццатым годзе. Побач з ім сядзіць Кастусь Шкробат і новы для гэных месц, нізкарослы, круглатвары Каплан Мішка. Так па даўняму, па камсамольскаму часу заве яго Мілоўскі.

— Памятаеш наш сход у гумне? — нахіляецца Мілоўскі да Кастуся, а з другога боку нахіляецца Каплан. Ён хоча паслухаць, пра што будзе ісці гаворка.— Усё роўна, што нелегальны сход быў, а цяпер якія справы ў вас! І каб у такіх умовах не асіліць пытання з калгасам? А не мы будзем! Праўда?

Кастусь моўчкі ўсміхаецца ў знак згоды.

— І да чаго ён вярзе такое, я не разумею? — Мілоўскі ківае галавой на Лёйку, які гаворыць да сходу. Тады Каплан адсоўваецца ад іх, бярэ аловак і алоўкам бразгае па пустой шклянцы.

— Праўда такі,— кажа ён, згаджаючыся з Мілоўскім.— Не да толку твая прамова вялікая, канчай.

— Я яшчэ не сказаў галоўнага, не прыспешвай,— агрызаецца Лёйка, горбячыся над сталом, пазіраючы на Каплана, пасля на Мілоўскага і Кастуся прыжмураным левым вокам.— Не такія справы, таварышы, каб не гаварыць пра іх.

Па ўсім відаць, што ён недалюблівае Каплана, які змяніў яго, як сакратара шапятоўскай партячэйкі, прыехаўшы ў вёску дваццаціпяцітысячнікам. Гэта пракрадваецца і ў словах Лёйкі, калі ён хоча папракнуць Каплана, што той, па сваёй рабочай звычцы, не зусім правільна падыходзіць да вырашэння сялянскіх пытанняў.

— Што рабочаму здорава, то мужыку, можа, і смерць,— кажа ён, ківаючы галавою.— Спяшацца трэба не тут, а ў справе.

— Ого! — дзівіцца нехта.— Лёйка за тэмпы.

— А такі правільна мы зрабілі, што сакратарства ад яго вызвалілі,— з ірoніяй кажа да Кастуся Мілоўскі.— Блытаны ён.

— А ўсё-такі канчай,— зноў звоніць алоўкам аб пустую шклянку Каплан.— Або кажы, якія твае прапановы.

— Прапановы я скажу, як дойдзе да іх чарга.

— А цяпер пра што ж ты гаворыш?

— Варта было б слухаць, то і разумеў бы,— яшчэ больш прыжмурвае Лёйка вока ад узбуджанасці.

— Ну, ведаеш, гэта глупства.— Каплан падымаецца з-за стала і, пакуль Лёйка маўчыць, звяртаецца да сходу з прапановай спыніць спрэчкі і адразу абмяркоўваць спіс тых, каго думае вызначыць сход для раскулачвання.

— Справа тут зусім ясная,— звяртаецца ён да сходу.— Не за гарамі вясна. На гэта разлічваюць і кулакі, ведучы сваю работу супроць калгаса. Іхні разлік — дацягнуць да вясны і сарваць арганізацыю калгаса. Калі мы будзем і яшчэ цацкацца з імі, мы такі і калгаса не створым, і сяўбу сарваць можам.— Сядай, таварыш Лёйка,— звярнуўся ён, змеціўшы, што той усё стаіць і чакае, калі яму дадуць дагаварыць да канца.

— Ты што ж, не дасі гаварыць мне больш? — пытае Лёйка.

— Не дам-такі. Няма патрэбы...

Па сходу прабягае лёгкі смех, і, аскаліўшыся на сход, Лёйка ківае галавой і садзіцца, не гаворачы больш ні слова.

— Мы свядома сабралі сумесны сход камуністаў, камсамольцаў і калгаснікаў, каб на сход беднаты прыйсці ўжо з зусім цвёрдымі прапановамі і не нарабіць памылак. На бюро ячэйкі мы мелі гутарку пра гаспадаркі абодвух Катоў,— гаворыць Каплан.— Адзін з іх быў у пана за аканома, а другі, аказваецца, служыў ураднікам. Потым пра Давыдзюка Ахрэма, былога старасту, які ўвесь час меў парабкаў, і па той жа прычыне пра Мікіту Шкробата. Вось і ўсё.

— Нешта ж дужа мала,— кінуў Лёйка.

— Як гэта мала? — не зразумеў яго Каплан.— Маеш яшчэ каго за кулака, называй.

— І назаву. Тых назаву, каго на бюро называў.

— А-а! — Каплан махнуў рукой.— Гэта не важна, я запамятаў. Таварыш Лёйка меў сваю думку яшчэ пра чатыры гаспадаркі. Ён, спадзяюся, скажа, а цяпер да-

вайце абмяркоўваць названых і, калі мы каго прапусцілі, давайце дададзім.

Сход нейкі момант маўчыць. У некаторых з прысутных на тварах разгубленасць, у некаторых узбуджаная зацікаўленасць, а што ж будзе? Пакуль сход маўчыць, з-за стала падымаецца Лёйка. Ён не спяшаецца. Ён хітравата прыжмурвае сваё левае вока, пазіраючы на прысутных, калыша плячыма, якія падтрымлівае сагнутымі рукамі, абапёршыся імі аб стол, і пачынае гаварыць наўмысле прыцішаным голасам.

— Каго мы павінны раскулачыць? — пытае ён, кідаючы погляд на сход, а пасля на Каплана, і адказвае: — Усіх тых, хто з'яўляецца ворагам калектывізацыі. Дык паці ў нас,— ён яшчэ больш сцішае голас і шматзначна пакалыхвае плячыма,— толькі чацвёра такіх? А дзе Сапун Мірон, у якога кулакі, як нам вядома, сходы свае праводзілі? А дзе Піскун Арцём, які ім падпявае, як і Мірон. А дзе,— голас Лёйкаў увесь час мацнеў, пасіляўся,— а дзе, пытаю я вас, нарэшце, Шкробат Тарэнта, самы ўпарты антыкалгасны элемент, з каторага прыклад бяруць серадцякі? Дзе яны? Вось якая мая думка, таварышы, што на бюро была і каторую я прашу абмеркаваць, наколькі яна шкодная.

Лёйка сеў.

— Такі шкодная,— сказаў Каплан.— Не ведаю, як у адносінах на Сапуна і Піскуна, гэта сход скажа: таварышы іх лепш ведаюць, а ў адносінах да Шкробата Тарэнты зусім няправільная прапанова. Шкробат серадняк, у мінулым беззямельны. Ён чамусьці не ідзе ў калгас, але ён не сказаў нідзе ніводнага слова і супроць калгаса.

— А ты хочаш, каб ён яшчэ і слова сказаў? Ты яму ў нутро зірні, чаму ён маўчыць, якія ў яго мыслі?

— Мыслі ягоныя няхай пры ім застаюцца. Шкробат Тарэнта не кулак і не вораг, такіх людзей няма чаго ў варожы лагер сілай піхаць, таварыш Лёйка. Гэта наш чалавек. І не трэба забывацца на Шкробатава мінулае.

Пакуль перакідваліся словамі Каплан з Лёйкам, Кастусь Шкробат сядзеў сам не свой. Ён то разгублена пазіраў на прысутных, густа чырванеючы, то схіляў галаву над сталом, клаў яе на сціснутыя ў кулакі рукі і пазіраў у стол перад сабою. Ён не ведаў, што ж сказаць яму? Трэба было б сказаць што за бацьку, але ці добра ж яму бараніць бацьку? Хоць чаму ж нядобра, калі ніякіх падстаў няма для таго, каб не бараніць? Ён то і павінен, як ніхто іншы, разумець, што робіцца з бацькам, і павінен

сказаць пра гэта. Бясспрэчна ж, бацька не вораг. Калі быў бы ворагам, ён не пасаромеўся б сказаць гэтага. У яго хапіла б на гэта партыйнай смеласці. Гэтак жа павінна хапіць яе і на тое, каб сказаць, што бацька не вораг. І Кастусь збіраецца прасіць слова. Ён уздымае галаву з рук, зноў аглядае сход, кідае разгублены погляд на Аксану, але пачынае гаварыць Лёйка.

— Я прашу даць сходу абмеркаваць маю прапанову,— патрабуе Лёйка,— а не ўгаварваць мяне тым, што вядома мне ці не вядома.

— Давайце абмяркоўваць і толькі без лішняй гарачнасці,— прапануе Каплан. Мілоўскі схіляецца да Каплана і нешта гаворыць яму. Пасля гэтага Каплан падымаецца і просіць, каб гаварылі калгаснікі, і першаму дае слова Сузону.

Сузон ад печы, дзе ён сядзеў, ідзе да стала.

— Адносна Піскуна Арцёма я нічога сказаць не магу. Яго раскулачваць няправільна будзе. Пра Мірона Сапуна іншае скажу. Парабкоў-то ён не меў як бы, але хто ў яго хлеб пазычаў, той ведае. той папарабіў на яго. Той пяць дзён за пуд касой махаў для яго, не разгінаючыся, або сем дзён за пуд жаў. Праўду я кажу? — Сузон махнуў адной сваёй рукой да астатніх калгаснікаў.

— Правільна. Мірон яшчэ хітрэй за Давыдзюка. Возьмеш у яго, то ён табе ўжо не спусціць.

— Мірона трэба ў той спісак.

— Першага яго трэба. Яго паслухаць — горш за ўсякую контру.

— Ну, што я казаў? — кідае, ухмыляючыся, Лёйка і пазірае на Каплана, пасля на Мілоўскага і міргае яму.

— Тут ты, здаецца, такі правільна гаварыў,— кажа да яго Мілоўскі.— На тое і сход, каб падправіць і цябе, і нас.

Сузон, пакуль выказваюць сваю згоду з ім калгаснікі і пакуль перагаварваецца Мілоўскі з Лёйкам, маўчыць, а пасля гаворыць пра Тарэнту Шкробата.

— Тарэнта сапраўды некалі чалавекам быў, хай мне сын ягоны даруе,— Сузон кідае погляд на Кастуся,— а сёння ён з той дарогі сышоў. Па становішчу свайму, я так скажу, ён, безумоўна, не кулак, а па прагнасці да хутара як ёсць кулак. За хутар ён, як клешч за цела, трымаецца. У калгас, як бачыце, не ідзе, хоць рэжце, не ідзе. Кінуць яго на хутары, цераз год, два, як піць даць, акулачыцца. І хоць яго, можа, і не зусім правільна будзе раскулачваць, але паказаць яму яго месца не зашкодзіла б.

Я так прапаную, што яго трэба ссадзіць з хутара і выселіць куды пад лес.

Лёйка зноў павярнуў твар да Мілоўскага.

— Ну?..

— А тут тваё ну і не да месца. Камуніст ты, а такія пытанні аб людзях вырашаеш зусім па-дзяцінаму, пад настроем. Нельга так лёгка Шкробатам кідацца, раз лёс ягоны ў нашых руках. Ён наш чалавек.

— Можа быць і ваш, толькі не мой. Лінію партыі я не горш іншых ведаю.

Хутка за гэтым Мілоўскі ўзяў слова. Калгаснікі, якія выступілі пасля Сузона, і камуністы, і камсамольцы згадзіліся з ім, што да чатырых, якія вызначыла бюро ячэйкі, трэба далучыць і Мірона Сапуна, але ніхто не згадзіўся з прапановай адносна Шкробата Тарэнты, і пра гэта гаворыць Мілоўскі.

— Зусім правільна,— згаджаецца ён з калгаснікамі.— Мірона Сапуна трэба дадаць да тых, а Шкробат наш, і яго, дзядзька Сузон, пакуль што няма ніякай патрэбы зганяць з хутара. Трэба з ім па-іншаму зрабіць. Нам з ім пагаварыць трэба начыстую. Таварыш Буднік, як ад'язджаў, раіў нам зрабіць гэта, узяць і пагаварыць з ім начыстату, як і што, а мы гэтага пакуль што не зрабілі. І Кастусю Шкробату,— Мілоўскі зірнуў на яго,— варта было б больш увагі звярнуць на бацьку.

— Я і пра Кастуся Шкробата пагавару,— перабіў Мілоўскага Лёйка.

— Гэта ты на партбюро пагаворыш, пагаварыць трэба, праўда, не так, як ты збіраешся гаварыць, а пакуль што справа не толькі яго аднаго тычыцца.

Лёйка ўвесь час перабіваў Мілоўскага, не згаджаўся з ім, і ў канцы сходу настойліва патрабаваў, каб Тарэнта Шкробат быў дададзены разам з Міронам Сапуном да тых, хто будзе падлягаць раскулачванню. Таму так і здзівіла Мілоўскага тое, што ён пачуў ад Лёйкі ўвечары пасля сялянскага сходу.

На сялянскім жа сходзе адбылося такое, што было нечакана і для Лёйкі, і для Мілоўскага з Капланам.

Як і ва ўсе разы, сяляне сходзіліся павольна. Ужо даўно былі ў школе камсамольцы і камуністы, даўно прыйшлі і тыя з сялян, хто запісаўся ў калгас, а рэшта прыходзілі па адным ды і то заглядалі ў школу і зноў выходзілі на двор або аж на вуліцу і збіраліся купкамі. Адна такая купка сабралася каля Каплана, а другая каля Івана Пятровіча. Там ішла ажыўленая гаворка. Сяляне тры-

малі сябе не па-звычайнаму, былі больш, як звычайна, гаваркімі, і Каплан, угадваючы нешта новае, хутка пайшоў, каб падзяліцца сваімі ўражаннямі з Мілоўскім.

Мілоўскі з прафесарам, якога прывяла на сход Аксана, ды Кастусь Шкробат сядзелі ў школе. Акурат, калі зайшоў туды Каплан, да іх далучыліся і Лёйка з Ягуплам. А за гэтым у школу адразу зайшлі яшчэ чалавек трыццаць сялян, сярод якіх быў і Іван Пятровіч. Пакуль сяляне з гоманам размяшчаліся па лаўках, Іван Пятровіч стаяў у дзвярах, праціраючы шкельцы сваіх акуляр, пасля асцярожна надзеў іх, агледзеў памяшканне школы і падышоў да Каплана.

— Сёння, здаецца мне, будзе нешта новае,— сказаў ён.— Нешта людзі нашы зусім як бы не тыя.

Гэта «не тое» адчуў і Мілоўскі і ўсе іншыя адразу, як пачаўся сход. Было яно і ва ўзбуджанасці, з якой абіраўся прэзідыум сходу, і ў маўклівасці, з якой сход слухаў выступленні Каплана Мішкі і Аксаніна. Аксана сёння абавязкова хацела гаварыць. Ёй хацелася, каб паслухаў яе выступленне Міхаіл Палікарпавіч, і, урэшце, асабліва прагучала яно ў дружных воплесках пасля выступлення Аксаны.

— А такі час ужо вырашаць ці так, ці гэтак,— падняўся адразу Арцём Піскун і, прабіраючыся да прэзідыума, палез рукой сабе за пазуху.— На новае ўсякі не так смела ідзе, таму і мы ўпіраліся, не хацелі, думалі, пагавораць з намі таварышы і адыдуцца. Аж яны ўсур'ёз нас арганізаваць хочуць. А калі так, адпірацца няма чаго, нам не блага жадаюць, вось я і падаю сваю заяву ў калгас.— Ён дастаў з-за пазухі паперку, на якой была напісана заява, паклаў яе на стале перад Капланам і разгладзіў далонню.

— Правільна! — крыкнуў нехта.

— А ты не думай, Арцём, што адзін ты такі разумны.

Сяляне пачалі падымацца з месц, прабіраючыся да стала з заявамі, пасля пачалі перадаваць іх цераз другія рукі, і некалькі хвілін чуваць было, як шамацяць у іхніх руках чацвяртушкі нязмятай яшчэ паперы, вырваныя з дзіцячых школьных сшыткаў. Калі дайшла да стала і апошняя, Каплан узяў усе заявы ў руку, прыўзняў іх над сталом і паказаў сходу.— Шэсцьдзесят дзве заявы пададзена, гэта нядрэнна,— сказаў ён.

А Лёйка падняўся з месца, на якім сядзеў, шырока растапырыў далоні і запляскаў. За ім запляскаў і ўвесь сход.

— Бачылі, прафесар, што мы накруцілі тут? — падміргнуў Лёйка Міхаілу Палікарпавічу, прыжмурваючы левае вока.— Вы, мусіць, не верылі, што ў нас нешта з гэтага выйдзе.

— Чаму не верыў? — здзівіўся прафесар.— А калі б нават і не верыў, то цяпер бачу і веру.

У прафесара быў прыўзняты настрой. Тое, што адбылося на сходзе, здзівіла і абрадавала яго. Праўда, ён не зусім верыў у магчымасць калектывізацыі, але ён ніколі не хацеў, каб спробы калектывізаваць сялян скончыліся няўдала, бо самыя простыя меркаванні гаварылі аб большай выгадзе калектыўнай працы, і адзінае, што яго палохала, гэта сялянскі індывідуалізм, які, як думаў прафесар, будзе раз'ядноўваць сялянства і ўнутры самога калгаса. А цяпер прафесар зусім шчыра разам з усім сходам пляскаў таму, што адбылося.

Мілоўскі ў часе воплескаў падняўся і пайшоў да Каплана, каб нешта сказаць яму, а пасля вярнуўся на месца і тое ж сказаў Кастусю і Аксане, а пасля і Лёйку. За гэтым адазваў Івана Пятровіча да стала і са спіску, які даў Іван Пятровіч, выпісаў сабе прозвішчы асобных сялян і перадаў сваю паперку Каплану.

Сход папляскаў, пагаманіў, чакаючы, што ж будзе далей, змоўк адразу, калі Каплан падняў руку, каб супакоіліся.

— У нас, як вы ведаеце,— сказаў Каплан,— калгас хоць і маленькі, ужо ёсць і мае сваё праўленне. Праўленне заўтра ж разгледзіць усе заявы, а пасля адразу ж возьмемся за працу. Сёння давайце на гэтым наш сход скончым. Камуністаў і камсамольцаў ды наступных грамадзян,— Каплан прачытаў прозвішчы, выпісаныя Мілоўскім,— прашу астацца яшчэ на гадзінку, каб тое-сёе абмеркаваць.

— Беднату? — здзіўлена запытаў хтосьці з задніх радоў.

— Так, сход беднаты.

— А якая ж бедната цяпер,— абазваўся той жа голас,— раз мы ўсе калгаснікі?

— Нічога, таварышы. Беднякі ж сёння яшчэ не перасталі ад таго беднякамі быць, што ў калгас запісаліся.

— Значыць, і ў калгасе не будзе роўнасці?

— Значыць, будуць там беднякі і серадпякі?

— Толькі кулакоў не будзе, а беднякі і серадпякі будуць. Пра гэта мы, таварышы, пагаворым, а зараз можаце ісці, хто вольны.

Сход пачаў неахвотна разыходзіцца. Відаць было, што многія такога звароту справы не чакалі і выходзілі нездаволенымі. Гэта ўгадвалася па маўклівасці, з якой многія выходзілі са сходу, і па гоману, які хутка падняўся на школьным двары. Услухаўшыся ў гэты гоман, Лёйка адышоў ад акна да стала, ля якога стаялі Мілоўскі з Кастусём.

— Дарэмна ты зараней карты раскрываеш,— сказаў ён Каплану.

— Якія карты?

— А пра кулакоў, што іх не будзе ў калгасе, заявы ж падалі і яны?

— Па-твойму, прыняць іх у калгас трэба?

— Прымаць не трэба, а падумаць, як лепш зрабіць, не пашкодзіла б. Я вось яшчэ не ведаю, што вы тут,— ён паказаў рукой на селян, якія засталіся на сходзе беднаты,— будзеце рабіць?

— Будзем разглядаць кулацкі спісак.

— Я так і думаў! — як бы абрадаваўся Лёйка.

— Што, што? — падаўся бліжэй да Лёйкі здзіўлены Мілоўскі.— То ты хацеў як мага больш раскулачваць, а то, здаецца, запрапануеш і гэтых не чапаць.

— Так, і запрапаную, і лічу гэта зусім правільным.

— Як жа ж гэта? Ці ты думаеш, што, падаўшы заяву ў калгас, кулакі перасталі быць кулакамі?

— Я нічога не думаю, але я ўлічваю канкрэтныя абставіны.

Мілоўскі зарагатаў.— Здорава ты ўлічваеш,— сказаў ён.— Добра-такі, што мы парашылі склікаць сход беднаты зараз жа, вельмі добра.

— Ты зубы не скаль, таварыш Мілоўскі,— агрызнуўся Лёйка.— Я ў палітыцы жартаваць не прывык і катэгарычна патрабую, каб сёння пытанне аб раскулачванні не разглядаць. Калгаса заўтра ж не будзе, калі вы зробіце гэта. Я патрабую перанесці пытанне ў райком.

— Глупства! — Мілоўскі змяніў тон на сур'ёзны.— У райкоме мы пра гэта пагаворым, бясспрэчна, а цяпер я прашу, таварыш Каплан, каб ты ад імя бюро ячэйкі забараніў Лёйку падымаць гэтае пытанне на сходзе беднаты.

— Хочаце рот закрыць? Пабачым яшчэ, каму райком рот закрые.

— Калі таварыш Лёйка выступіць са сваёй прапановай на сходзе, гэта паставіць яго па-за радамі партыі.

— Аж так? — Лёйка кінуў на Мілоўскага злосны погляд.

— Так,— падтрымаў Мілоўскага Каплан.— Я папярэджваю цябе зусім афіцыйна. Усякія гутаркі скончаны. Людзі сходу чакаюць.

— Што ж, я памаўчу. Знішчайце тое, што зроблена, маёй віны ў гэтым не будзе; я, што трэба, сказаў.

— Добра, пасля пагаворым.

Калі Каплан пачаў гаварыць пра раскулачванне, сход змоўк у трывожным напружаным чаканні. Цішыня, якая ўсталявалася на сходзе, заразіла агульным настроем напружанага чакання і прафесара. Ён блукаў поглядам па тварах сялян, жадаючы адгадаць іхнія думы, прымаюць яны словы Каплана ці не прымаюць. Стала крыўдна, што ўрачыстасць, якая зусім яшчэ нядаўна панавала над сходам, якую ўсе прысутныя віталі, змяняецца незразумелым яму, наўрад ці канечне патрэбным і цяжкім.

— Цяжкая гэта справа,— кажа ён да Ягуплы, які моўчкі сядзіць побач і разгублена міргае вачыма. Ягупла адказвае нешта невыразнае, і прафесар парашае да канца маўчаць, каб пасля самому дома паспрабаваць разабрацца ва ўсім, што ўбачыць за гэны вечар, і ён зноў углядаецца ў твары сялян.

— Вось табе і на! — зрываецца з вуснаў аднаго немаладога ўжо селяніна.— Усё роўна, як угадалі.

— Што ўгадалі?— пытае яго Каплан.

Селянін, відаць, незадаволены тым, што вызваўся гаварыць, але адпірацца няма як, і ён дагаварвае:

— Вядома, што ўгадалі. Угадалі акурат, каго раскулачваць.

— Яшчэ ці ўгадалі ж? — кідае яму адзін з сялян.— Шкода, што цябе яшчэ сюды не ўставілі.

— Мяне як мяне, а цябе, можа, і варта было б туды.

Па сходу прарваўся рогат. Селянін усміхнуўся, загінаючы пальцы на левай руцэ, пераказаў прозвішчы, якія назваў Каплан.

— Можа, хіба Мірона ці варта? — сказаў ён.— А за тых, раз такая палітыка, раз так трэба, я нічога не скажу.

— Такі ж і Мірон,— запярэчыў яму Мікода Жук.— Хіба не вы яго кожны год абкошваеце да абжынаеце? Нябось, ён не напінае так на свой пуп з касой, як ты. Не адышоў ад іх Мірон.

— Ды не адышоў,— згадзілася некалькі чалавек.

Але больш ніхто нічога не сказаў, і ў прафесара склалася ўражанне, што сяляне не дагаварваюць таго, што думаюць. Гэтае ягонае ўражанне падмацавалася, калі некалькі чалавек з прысутных не падалі сваіх галасоў за

раскулачванне, хоць не галасавалі і супроць. Адчуваючы сябе некалькі разгубленым, прафесар, як скончыўся сход, адразу ж развітаўся і пайшоў дадому. Пайшоў ён адным з першых. За ім сабраўся пайсці і Тарэнта, але Тарэнту гукнуў да сябе Каплан.

— Ты заявы не падаў сёння? — запытаў Каплан.

— А ты хіба не глядзеў, хто падае?

— Такі не глядзеў. А можа, падаў?

— Я не авечка, каб за табуном хадзіць.

— Цябе варта было б трошкі абстрыгчы, падкараціць воўну, можа б, рахманейшым стаў.

Гэта сказаў Лёйка. Тарэнта Лёйку нічога не адказаў, але адказаў Мілоўскі:

— Не таго, каго трэба, збіраешся ты стрыгчы, таварыш Лёйка.

Тарэнта зірнуў на Мілоўскага, жадаючы разгадаць, усур'ёз ён гаворыць ці з хітрасцю, і супакоіўся.

— Для гэтага мяне і клікалі? — запытаў ён.— Мне спаць пара, заўтра рабіць трэба.

— Клікаў я не для гэтага,— адказаў яму Каплан.— Хацеў бы я з табой неяк спаткацца, каб пра тое-сёе параіцца нам.

— Раіцца табе са мной няма чаго, без мяне ты ведаеш, што рабіць. А ўгаварваць мяне не спрабуй.— Тарэнта ўсміхнуўся.

— Ну, і бацька ж у цябе,— сказаў Каплан да Кастуся.— Ніяк пад яго не пад'едзеш.

— Спрабаваў і я,— адказаў Кастусь,— таксама нічога не выйшла.

— А вы і не спрабуйце. Прыйдзе пара, сам прыйду да вас. Ну, я і пайду, некалі мне.

— А ўсё ж такі, як бы нам параіцца з табой?

— Калі захочаш, параішся.

Тарэнта пайшоў. Хутка і зусім апусцела памяшканне школы, але шапятоўцы доўга не спалі ў гэту ноч. То там, то тут можна было пачуць чые-небудзь крокі і разгледзець постаць чалавека.

Гэткую постаць чалавека невысокага росту можна было змеціць той начы адразу, як пагас у школе агонь, каля Мікітавай хаты, а пазней на дарозе да хутара Ермалая Ката. На хутары ў Ермалая Ката позняга госця як бы чакалі. Як толькі абазваліся ў двары сабакі, выйшаў гаспадар. Ён подбежкам пайшоў да каліткі, упусціў госця ў двор і павёў яго за сабою ў хату. У хаце за гэтым у лямпе падбольшылі агонь, і праз акно можна было з двара ба-

чыць, як стаяць каля стала і гаспадар, і госць. Госць так і не сеў, пакуль быў у Ермалая Ката, а потым сам Кот апрануў кажух і выйшаў разам з госцем на дарогу за свой двор. Там яны разышліся, і Ермалай Кот, спяшаючыся, моцна тупаючы нагамі аб умёрзлую зямлю, здымаючы час ад часу шапку, каб абцерці ўспацелую лысіну, ішоў да службовага камбінацкага пасёлка, дзе жыў нямецкі інжынер Эрнст Пецольд. Непадалёку ад камбіната Кот напаткаў Мікіту Шкробата, які, гэтак жа спяшаючыся, ішоў да Тарэнты, разлічваючы, што той яшчэ пасля сходу не спіць.

Тарэнта толькі што лёг, як захадзіўся на двары сабака. Ён падняўся і падышоў да акна. Па двары, супакойваючы сабаку, падбіраўся да акна Мікіта. Здагадаўшыся, чаго прыйшоў Мікіта ў такую пару, Тарэнта ўпусціў яго ў хату і, не апранаючыся, як быў у ніжняй бялізне, стаў каля печы.

Мікіта стаяў перад Тарэнтам, задыхаўшыся, з расхрыстанымі поламі кажуха. Шапкай ён выціраў з твару пот. Ён стаяў плячыма да акна, і Тарэнта ледзь мог разгледзець ягоны расплюснуты твар, які хаваўся ў шэрсці касматага каўняра і ў цені ад абвіслых ускудлачаных валасоў.

— Ты быў там на сходзе? — запытаў Мікіта.— Ведаў і не зайшоў сказаць, што брата загубіць збіраюцца. Добра, што хоць чужыя людзі сказалі.

— Я ж ведаў, што скажуць, чаго ж мне было ісці.

— Ведаў? Ты, можа, і даўно ўжо ведаў што, а маўчаў. Яно заўжды, пакуль свой спагадае, дык чужы пашкадуе. Думалі, што паны нас мучылі, аж яно паны мучылі, ды жыць давалі, а свае душаць і апошнюю кашулю здымаюць. Ці тут гэны твой? Можа, схадзіў бы, папрасіў...

— Няма яго, не прыехаў.

— Што ж будзе? Божа мой, божа мой! Бег жа я з-за гэтага, на гэта спадзяваўся. А можа, у ячэйкі папрасіў бы, усё ж сын твой там у іх? Ці, можа, каб ты запісаўся, можа, за гэта не чапалі б?

— Што ты плявузгаеш?

— А куды ж мне кінуцца, да каго? Я ж не пабягу мо да пілацееўскага сына, як Ермалай.

— Да якога пілацееўскага сына? — здзівіўся Тарэнта.

— Да якога ж? Служыць жа, можа, на камбінаце, хіба не бачыў, як сядзеў тады ў Мірона? Пану, нябось, і пры бальшавіках нецяжкі хлеб...

— Гэта хіба ён быў? — перабіў Тарэнта.

— А то хто ж?.. Ты толькі не скажы таго дзе, во што,— раптам схапіўся Мікіта, зразумеўшы, што нагаварыў чаго не след было.

— Гэта ўжо, як я захачу, зраблю.

— Я ж зусім тады прападу... Сашлюць. Ён не па свайму прозвішчу жыве.

Тарэнта шкадаваў брата, хоць і не любіў яго і ніяк не мог запамятаць даўняга таго, як Мікіта выгнаў з двара Паўла. Але тое, што ён пачуў ад Мікіты, абудзіла ў ім пачуццё пагарды, якое жыло ў ім у тыя даўнія часы.

— Думаў, хоць пад старасць чалавекам станеш, а ты і цяпер бегаеш за імі, ліжаш... дзе твая галава была? — крыкнуў Тарэнта.— Ты думаў, куды ты лезеш? А цяпер бяжыш, каб я ячэйку прасіў! Такі варта вас, такіх, пасадзіць, варта, а не толькі параскулачваць.

Мікіта спуджаны змоўк, а пасля адумаўся, што сказаў жа ён пра Пілацеева толькі брату, і пасмялеў.

— Ідзі, скажы ім, пасадзі брата, во што... Можа, падзякуюць.

— Рук мараць не хачу, а то, можа, і пасадзіў бы. Ты ж садзіў некалі. Аднаго брата ўтапіў, а другога пасадзіў быў...

— Каб ты так на сваю лаўку садзіўся, як я цябе садзіў, во што.

— А ўжо ж, каб жа так.

— Ну, ідзі, пасадзі...

— Без мяне пасадзяць, калі варта будзе.

— А я думаў, пасобіць брат, выратуе...

— Я цябе да Пілацеева не слаў, чаго ж ты ў мяне ратунку шукаеш? Думаў, што можна будзе хоць у чым заступіцца за яго, а ён з Пілацеевым хеўру павёў, калгасы разбураць узяўся. У-у-у, дурніцы кавалак! Што, я за цябе сваю галаву падстаўлю, або што? Хлопчык ты, не разумееш? Ідзі вось лепш сам раскажы ім пра Пілацеева, то, можа, раскулачаць ды хоць у Салаўкі не сашлюць. А я ўмешвацца ў твае справы не буду, хадзіць за цябе прасіць не буду.

На гэтым яны і разышліся. Мікіта паспрабаваў яшчэ папракнуць Тарэнту, але, не дачакаўшыся ад яго ані слова, пайшоў, а Тарэнта, як запёр за ім дзверы і вярнуўся ў хату, нейкі час моўчкі стаяў каля печы, пасля злосна плюнуў у качарэжнік, мацюгнуўся і вярнуўся на сваё месца ў ложак.

## ПАДЗЕЯ ДЗЕСЯТАЯ

Такое яснае і такое цёплае сонца ўпершыню за ўсе апошнія дні сакавіка. Памяшканне лабараторыі запалонена сонцам. Яно на падлозе, на даўгіх, вузкіх сталах. Ягоны блеск на шкляных прыборах і на медных частках апаратуры і на бялявых валасах жанчыны, якая стаіць перад крыху здзіўленым прафесарам. Жанчыне гадоў трыццаць шэсць. У яе высокі ледзь-ледзь пакаты лоб, на якім гады паклалі дзвюма лёгкімі зморшчынамі свае сляды. Складка зморшчын і паміж брывей.

Прафесар толькі што ад работы і здзіўлена пазірае то на жанчыну, то на Паўла Андрэевіча, якія так нечакана з'явіліся ў лабараторыю.

— Мой вельмі даўні і вельмі добры сябра, Ліда Міхайлаўна Земянкова,— гаворыць Буднік, звяртаючыся да прафесара. А калі прафесар бярэ яе руку і называе сваё прозвішча, Буднік павяртае твар да яе.— А гэта прафесар Галынскі, Міхаіл Палікарпавіч, пра якога я табе расказваў. Вы прабачце, Міхаіл Палікарпавіч,— звяртаецца ён да прафесара,— але я вельмі часта ўспамінаў вас там.

— Добрым словам ці дрэнным? — усміхаючыся, пытае прафесар.

— Павел Андрэевіч пра вас толькі добрае гаварыў,— абазвалася Ліда.— І мне вельмі прыемна было гэта чуць, бо вас, прафесар, я ведала яшчэ па Пецярбургу.

— Вось як?— дзівіцца прафесар.— Ну, я вельмі рад. Я ўсё трапляю на людзей, якіх сустракаў некалі, якія мяне ведаюць,— зірнуў ён на Будніка.

— Шанцуе і мне на гэтае,— сказаў Буднік.— Ліду Міхайлаўну я апошні раз бачыў толькі ў трынаццатым годзе, калі не лічыць зусім выпадковай хвіліннай нашай сустрэчы ў дзевятнаццатым годзе.

— Значыць, спаткаліся вы цяпер у Берліне?

— Так. Ліда Міхайлаўна працавала ў нашым прадстаўніцтве. Я зусім збянтэжыўся, пазнаўшы яе, вачам сваім не паверыў. Наша пісьмовая сувязь перарвалася ў дваццаць другім годзе, з той пары я пра Ліду Міхайлаўну чуў толькі што-нішто самым краем вуха.

— Гэта вельмі цікава,— кажа прафесар.— Я ж, прабачце, дагадваюся, што вы кахалі друг друга яшчэ і ў трынаццатым годзе.

Прафесар пазірае на іх з хітраватай ветлівай усмешкай, і яны абменьваюцца поглядамі і таксама ўсміхаюцца.

— Здаецца, так,— згаджаецца Буднік з словамі прафесара.

— Амаль што так.

— А цяпер Ліда Міхайлаўна назусім да нас?

— Так, назусім, назаўжды.

— Тады я вельмі рад. Спадзяюся, што цяпер Паўлу Андрэевічу больш не трэба будзе шукаць выпадковага спаткання з вамі.

Яны ўсе трое ўсміхаюцца, стоячы сярод лабараторыі, і прафесар раптам хапаецца, што не запрасіў гасцей сесці.

— Прабачце,— просіць ён.— Зусім я запамятаў. Прывык у лабараторыі больш на нагах быць, чым сядзець, дык і вас не пасадзіў. Сядайце ж хоць зараз.

— Дзякую, Міхаіл Палікарпавіч. Мы ўсяго на адну хвілінку да вас. Я што-нішто прывёз з замежных, у прыватнасці з белаэмігранцкіх газет, падумаў, што вас цікавіць, як яны пра нас пішуць, і захапіў іх з сабой. Вось.— Буднік дастаў з партфеля пачку газет і перадаў яе ў рукі прафесара.— І пакуль што бывайце. Іншым разам мы прыйдзем на больш часу, каб агледзець вашу станцыю.

— Прашу, прашу, буду вельмі рад.

— А я вас прашу на Першае мая да нас на камбінат. Будзем даваць наша першае святло і першую партыю прадукцыі.

— Я абавязкова буду.

На гэтым прафесар з сваімі гасцямі развітаўся. Адразу, як пайшлі госці, ён узяў газеты, якія даў Павел Андрэевіч, і пайшоў з імі ў свой кабінет. Стоячы над сталом, ён гартаў газеты адну за другой, пакуль што праглядаючы іх, шукаючы, на чым бы спыніць увагу. І адзін за другім прабягаў поглядам загалоўкі, мяркуючы, што пасля прачытае ўсё. Гэта была не звычайная цікавасць да газет. Гэта была цікавасць да іншага свету, які ляжаў па той бок мяжы. Нешта падобнае на пачуццё, якое было ў прафесара, калі ён збіраўся ў сваё падарожжа за мяжу, тая ж прыўзнятая зацікаўленасць пытаннем: «А што ж там?» І тое ж жаданне ў чужым, у далёкім праверыць тое, што вакол яго.

Прафесар перагортвае газеты. За мяжой ён бачыў іх і чытаў. Тут і «Последние новости» і «Дни», «Берлинер Тагеблат» і венская «Арбейтэр Зонтаг», парыжская «Матэн» і англійская «Таймс» ды іншыя, пачынаючы ад сацыял-дэмакратычных і канчаючы белаэмігранцкімі. І тое, што газеты розныя і што багата іх, радуе прафесара. Ён мае магчымасць пабыць сёння ў асяроддзі, дзе вельмі вя-

лікая рознагалосіца. Гэта акурат тое, што падабаецца прафесару. Ён пачуе голас і адных, і другіх і ў гэнай рознагалосіцы знойдзе тое, што яго цікавіць. І, задаволены гэтым, прафесар мосціцца на крэсла і схіляецца над газетай з артыкулам вядомага французскага сенатара пра ягонае падарожжа па Савецкім Саюзе. Краіну, у якой жыве прафесар Галынскі, французскі сенатар заве «краінай парадоксаў». Гэта цікава, і прафесар уважліва прачытвае артыкул, радок за радком.

Ад аднаго артыкула ён пераходзіць да другога. Ён ніколі амаль з такой цікавасцю не чытаў газет. Змест іхні як бы наўмысля падабраны. Пасля артыкула французскага сенатара ён чытае ў «Последних новостях» справаздачу пра сход рускіх эмігрантаў у Парыжы. Змест справаздачы прыпамінае яму тое, што ён часта чуе ў словах Пілацеева: злосць і бездапаможнасць. Прафесар думае пра змест газет, якія даў яму Буднік. Раптам прыходзіць думка, што Буднік падабраў газеты наўмысля. Інакш, чаму ж ён адразу ж прывёз іх? Але для чаго ён гэта зрабіў? Ведае пра сувязі прафесара з чалавекам таго лагера? Можа дагадваецца пра наяўнасць аналагічных думак у прафесара і наўмысля даў газеты, каб, знайшоўшы тыя ж думкі там, ён зразумеў, чые яны? Ха-ха! Прафесар зусім не крыўдуе за гэта. Калі так, гэта вельмі хітра і разумна прыдумана. І калі б Буднік прызнаўся ў гэтым, ён з удзячнасцю пацісн уў бы ягоную руку. Яго радуе і некальківільсціць яму гэная клапатлівасць з боку Будніка, Буднікава жаданне захаваць яго, так або інакш карыснага для справы.

Час ад часу прафесар адрываецца ад газет і ходзіць па кабінеце з гэнымі мыслямі. Яны цяпер не пакідаюць яго. Вяртаючыся ад газеты, ён знаходзіць у надрукаваным думкі, якія не раз наведвалі і яго, і пачынае смяяцца. Ён зусім шырока рагоча над сабою і раптам згортвае газеты. У іхнім рознагалоссі задужа багата такога, што адно на адно падобна. Збіраючыся дадому, ён думае, ці несці з сабою туды газеты, і кладзе іх у шуфляду стала, а з сабою бярэ толькі нумар «Последних новостей», з намерам паказаць Ягуплу, калі ён выпадкам прыйдзе, справаздачу пра сход рускіх эмігрантаў.

Ягупла прыйшоў да прафесара надвячоркам, яшчэ да захаду сонца. Быў Ягупла нечым асабліва ўзбуджаны на гэны раз і не сеў, калі запрасіў прафесар, а пачаў хадзіць па пакоі. Доўга хадзіў моўчкі, кідаючы абрыўкі незразумелых прафесару сказаў.

— Сядайце, Сузон Іванавіч,— прапануе яшчэ раз прафесар,— а я пайду закажу чай.

Чай? Як жадае прафесар, ён таксама з ахвотай вып'е шклянку чаю, а сядзець ён не можа, як не можа, агулам, у апошнія дні знайсці сабе месца. У чым справа? Што такое здарылася? А хіба прафесара не хвалюе тое, што робіцца хоць бы толькі тут у апошнія часы? І хіба прафесар не думае яшчэ і пра ўсю краіну?

— Вы гаворыце пра раскулачванне?

— Так.— Ягупла мае на ўвазе тое, што цераз пару дзён павінна адбыцца ў Шапятоўцы і што, напэўне ж, адбываецца па ўсіх месцах.

— Але ж гэта няўхільная справа,— супакойвае Ягуплу прафесар.— Я згодзен з вамі, што гэта жорстка, але вы памятаеце пазаўчарашні сход? Самі сяляне апраўдваюць гэную жорсткасць у адносінах да сваіх суседзяў. Гэта ўсё-ткі робіцца ў інтарэсах таго, што павінна зрабіць лепшым жыццё ўсіх. Я ніколі не апраўдваў неразумнай жорсткасці, ніколі. Але калі заўтрашні дзень для ўсіх будзе больш сытым, больш шчаслівым і больш разумным, я схілен апраўдаць гэта.

— А калі будзе не так? А калі ўсё гэта толькі зусім непатрэбная жорсткасць, Міхаіл Палікарпавіч? — пытае, спыняючыся на сярэдзіне пакоя, Ягупла.— Я ж паэт, я, так сказаць, жывы сведка гісторыі, я павінен сказаць слова праўды. Калі паэты не скажуць праўды пра свой час, гісторыя жорстка адпомсціць ім. Наступнае пакаленне людзей абзаве іх хлусамі і баязліўцамі.

Прафесар прыпамінае, як часта ў працягу ўсіх гэных год, калі ён прыглядаўся да таго, што рабілася вакол яго, ён думаў, што праўда ў тым, што думае ён, а не ў тым, што робіцца. І цяпер, слухаючы Ягуплу, ён не можа стрымацца, каб не ўсміхнуцца.

— А чаму вы думаеце, што праўда, якую павінны вы сказаць як паэт, не павінна згаджацца з тым, што ёсць?— пытае прафесар.— Бо калі заўтрашні дзень будзе лепшым, наступнае пакаленне апраўдае ўсё, што робіцца ў нашы дні. І тады яно можа не апраўдаць толькі нас з вамі, якія не хочуць згадзіцца з сённяшнім.

— Але хто давядзе мне, што заўтрашні дзень будзе лепшым? Прафесар зноў усміхаецца? Ягупла, няхай Міхаіл Палікарпавіч прабачыць яго, зусім не бачыць падстаў для смеху. Для яго ва ўсім гэтым вялікі трагізм. Міхаіл Палікарпавіч ведае ягонае мінулае, і яму няма чаго хавацца. Ён будзе гаварыць тое, што думае. Ён быў нека-

лі не зусім добрым прыяцелем бальшавікоў. Ён лічыць, што ў семнаццатым годзе бальшавікі змаглі перамагчы толькі таму, што ў прыватнасці інтэлігенцыя была дужа інертнай і не цікавілася тым, што робіцца, у той час, як ёй бы і трэба было ўзяць у свае рукі лёс Расіі і зрабіць яе сапраўды шчаслівай. Але гэтага не здарылася. Бальшавікі выкарысталі інертнасць інтэлігенцыі і з-пад яе рук узялі ўладу. Пасля інтэлігенцыя паверыла, што пачынаецца нешта новае, і пайшла да іх. Мы адмаўляліся ад вельмі дарагога,— кажа Ягупла,— дзеля неіснуючага, і я ўсведамляю гэта толькі сёння. Цяпер позна. Сіла на іхнім баку. Тэорыямі класавай барацьбы яны раз'ядналі і апошнюю сілу — сялянства, і сёння сялянства — вугаль, які яны кідаюць у топку паравіка, на якім едуць. Прафесар думае, што гэта толькі фантазія паэта? Сялянства жыве лепш, чым да рэвалюцыі? У яго больш зямлі? Але што будзе з ім заўтра? Прафесар думае пра гэта? А потым, калі прафесар так ужо хоча, ён зусім не жадае, каб праўда была абавязкова на ягоным баку. Ён нават хацеў бы ў дадзеным выпадку памыліцца. Так-так, бо сёння яшчэ ён зусім шчыры прыяцель бальшавікоў. Але ён жа паэт! Ён жывы сведка сваіх дзён, і блуканне ўпоцемках, у няведанні — гэта найвялікшая трагедыя ягоная і ягоных калег. Ён таксама хацеў бы бачыць заўтрашні дзень лепшым, але пакуль што ён бачыць перад вачыма сцяну, глухую сцяну і не ведае, што будзе з ёй. Можа, і нешта лепшае, можа. Але што, калі не? Што, калі за сцяной бездань?.. Не, не, ён не можа быць спакойным у такія часы. І калі б гэта было толькі ягонай уласнай трагедыяй, але ж гэта трагедыя цэлага пакалення людзей...

Крыху прыгорблены, высокі, ён ходзіць па пакоі, трымаючыся левай рукой за гузік пінжака. На пальцах левай рукі даўгія, наўмысля загадаваныя пазногці. Відаць, яго трывожыць зуб. Ён часта падносіць да рота руку і, засоўваючы ў рот палец, пазногцем калупае ў зубах. Выняўшы палец з рота, падносіць яго да воч і разглядае, на момант прыпыніўшыся, пасля зноў бярэцца за гузік і ходзіць ад сцяны да сцяны.

Ягупла неяк смешна перастаўляе ногі, высока ўздымаючы іх, як бы ідзе па вадзе ці баіцца за што зачапіцца нагамі. Калі ён падымае ногі, пад вострым кантам добра выгладжаных штаноў выпукляюцца калені ягоных ног, а калі спыняецца, ног за штанінамі не адчуваецца, і прафесар прыпамінае, як ён бачыў Ягуплу каля возера голым. Тонкі, кашчавы, з валасатымі нагамі, згорблены,

стаяў ён тады над вадой, і прафесар смяяўся, што з'яўленне такога чалавека магло напалохаць яго. Гэны вобраз паўстае і цяпер ва ўяўленні прафесара, і, слухаючы, як Ягупла гаворыць пра сцяну, за якой чалавецтва чакае бездань, ён не можа стрымацца, каб не засмяяцца. Яму смешна, калі Ягупла гаворыць пра трагедыю цэлага пакалення. Каб стрымаць сябе, прафесар бярэ з кішэні газету, якую прынёс дадому, і дае яе Ягуплу.

— Пачытайце вось гэта,— паказвае ён пальцам на дзве калонкі справаздачы рускіх эмігрантаў.— Гэта davolі цікава. Я сам здольны часам разважаць так, як разважаеце сёння вы, але гэта даволі смешна. Прабачце, але так. І мне значна больш падабаецца, калі вы гаворыце пра неабходнасць рабіць сваю справу незалежна ад усяго. У гэтым значна больш здаровага сэнсу, чым у тэорыях аб трагедыі чалавецтва. Чытайце, а я пайду-такі папрашу падаць чаю, а пасля пайду ў лабараторыю.

Аб лабараторыі прафесар сказаў наўмысля. Вельмі даўно ўжо прафесар працуе над праблемай прыгатавання з торфу пластычных мас. Апошнія вынікі ягоных работ даюць падставы спадзявацца, што шуканні блізяцца да канца. Апошнія дні ён думае толькі пра гэта, усё яшчэ баючыся хоць каму выказаць свае надзеі. Чаканне запоўніла яго цалкам. І адсюль у апошнія часы ў яго жаданне быць больш часу ў адзіноце. Усё іншае яго хвалюе толькі нейкі час і праходзіць, губіцца ў памяці, астаючыся паза кругам думак, якімі ён жыве. І таму, каб пазбавіцца сёння ад Ягуплы, ён парашае схітрыць з ім і ідзе з ім з дому, каб пасля непрыкметна вярнуцца назад.

Вярнуўшыся дадому, Міхаіл Палікарпавіч у калідоры спаткаўся з Пілацеевым. Пілацееў стаяў каля акна, абапёршыся локцем на падаконнік, і чакаў яго. Павітаўшыся з прафесарам, Пілацееў зайшоў за ім у пакой. Такое з'яўленне Пілацеева перад ноччу ўстрывожыла прафесара. Адразу знік настрой, з якім ён варочаўся дадому, пакінуўшы Ягуплу. Прафесар не хацеў бы бачыць Пілацеева. Ён агулам у апошнія часы думаў, што лепш было б зусім не сустракацца з ім. Іхнія адносіны склаліся не так, як пра тое думаў прафесар. Ягоную абыякавасць, абыякавасць да разважанняў Пілацеева, Пілацееў, відаць, вытлумачыў, як прызнанне ягоных поглядаў, як згоду з ягонымі разважаннямі, і пачынаў злоўжываць цярпеннем прафесара. Іхнія адносіны акурат былі на мяжы, за якой, прафесар гэта пачынаў разумець,— або яны павінны перарвацца, або прафесар, зусім не жадаючы гэтага, можа

апынуцца ў стане, у якім быў некалі ў Петраградзе, жадаючы пазбавіцца ад якога, ён паехаў працаваць на тарфяную станцыю. Апошнія падзеі, да якіх Пілацееў стаўся не абыякава, наблізілі іхнія адносіны да гэтай мяжы.

Увайшоўшы ў пакой, прафесар парашыў, што распранацца ён не будзе, каб паказаць гэтым Пілацееву, што ён заняты. Не ведаючы, чаго прыйшоў Пілацееў, ён разгублена паглядаў на яго. Пілацееў заўважыў разгубленасць прафесара і паспрабаваў супакоіць яго.

— Я да вас толькі на адну хвіліну,— сказаў ён.— Ну, што, Міхаіл Палікарпавіч, вы апраўдваеце палітыку вашых гаспадароў? Ці не? Мне гэта вельмі важна ведаць...

Прафесар абрадаваўся, што гутарка пачалася так. Значыць, усё можна будзе скончыць сёння ж, зараз жа.

— Так, я апраўдваю тое, пра што вы гаворыце,— адказаў прафесар.

— Вы апраўдваеце рабаўніцтва і здзекі над сялянствам? Вы былі, здаецца, вялікім гуманістам?

— Здзекаў над сялянамі я не бачу. Адабраць у пяці багатыроў іхнюю маёмасць, не зусім справядліва нажытую, гэта не значыць здзеквацца над сялянамі. Я апраўдваю гэта зусім свядома.

— Вось як? — Пілацееў паспрабаваў усміхнуцца.— Я пачынаю не пазнаваць вас, прафесар Галынскі. Мне ўвесь час здавалася, што вы крыху інакш глядзелі на такія рэчы. Вы, можа, верыце і ў іхні камуністычны рай?

— Хочаце, каб я адказаў вам? — Прафесар стаў перад Пілацеевым з глыбока засунутымі ў кішэні паліто рукамі.— Я не ведаю, ці будзе заўтра рай, але я, Адам Феакціставіч,— прафесар паспрабаваў змякчыць тон гутаркі,— ведаю, што людзі ў бальшавіцкай дзяржаве хутка не будуць нават ведаць, што такое голад, жабрацтва, беспрацоўе, сіроцтва. Так, так! Я не ведаю, ці будзе гэта рай, але гэта будзе зусім не тое жыццё, якога хочаце для Расіі вы. Вы цягніце Расію назад. І я рад, што з гэтага нічога не выйдзе!..

— Ха-ха-ха!..— Пілацееў, рагочучы, адкінуўся на спінку крэсла.— Прафесар, староннік чыстай дэмакратыі, стаў бальшавіком? Ха-ха-ха! Я зусім не пазнаю вас, прафесар. Вы гаворыце так, нібы чытаеце тэзісы Камінтэрна. Не так даўно вы разважалі па-інакшаму. Чым жа яны так дагадзілі вам, прафесар Галынскі? — ён пазіраў на прафесара, крывячы твар злоснай усмешкай.

Апошнія словы Пілацеева скранулі прафесара з мес-

ца. Ён вызваліў рукі з кішэнь паліто, падаўся бліжэй да Пілацеева і паказаў рукой на дзверы.

— Вон! Вы нягоднік!.. Я дужа шкадую, што не выгнаў вас у першы ж дзень. Я не ведаў, што вы такі нягоднік...

Пілацееў раптам змоўк, адхінуўся ад спінкі крэсла і, не верачы таму, што чуе, падняўся на ногі. Прафесар падаўся да дзвярэй і адчыніў іх.

— Прашу, мне некалі...

— Дык вось як? — толькі і мог сказаць Пілацееў. Потым прыпыніўся ў дзвярах і, спрабуючы іранічна ўсміхнуцца, кінуў:

— Цяпер прафесар напіша данос?

— Гэта, пэўне, ваша спецыяльнасць.— Падышоў і, не паспеў Пілацееў павярнуцца плячыма да дзвярэй, зачыніў іх.

Цераз дваццаць мінут пасля гэтага прафесар быў на сваім месцы ў лабараторыі. Стораж, які часта бачыў прафесара ў памяшканні лабараторыі, не здзівіўся ягонаму позняму з'яўленню і моўчкі перадаў яму патрэбны ключ.

— Калі што, я буду ў сваёй каморцы,— сказаў ён.

— Добра.

Прафесар лёгка падняўся на другі паверх, пакідаючы за сабою шоргат ног. Потым прайшоў даўгім калідорам, у якім асабліва выразна ў такую пару аддавалася рэха крокаў. Гэта крыху супакоіла, і калі ён зайшоў у лабараторыю і зачыніў дзверы, па прывычцы замкнуўшы іх за сабою, тады адчуў асаблівае задавальненне ад таго, што вызваліўся ад блізасці Пілацеева, і, каб хутчэй зусім запамятаць на яго, пачаў рыхтаваць да работы апаратуру.

## ПАДЗЕЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ

З памяшкання лабараторыі прафесар выйшаў а шостай гадзіне ранку. Ён замкнуў хімічны кабінет, дзе прабыў ледзь не ўсю ноч, і ключа сторажу не аддаў. Ключ ляжыць у кішэні. Ён намацвае яго пальцамі рукі.

Над высокім ганкам будынка лабараторыі вісіць электрычны ліхтар. На ганку відна, а прафесару хочацца ісці ў цемру, і ён ідзе па дарозе за круг, да якога дасягае святло ліхтара. Ідучы, ён слухае роўны, мяккі гул электрастанцыі і чалавечыя галасы, якія даходзяць з двара каксавальнага завода.

Міхаіл Палікарпавіч не думае пра тое, куды ідзе. Пальцамі левай рукі ён намацвае ў кішэні цяжкі, вялікі

ключ ад дзвярэй хімічнага кабінета. Дзверы кабінета замкнёныя. Яшчэ ніхто не ведае аб тым, што гэтай ноччу яму, урэшце, пасля бясконцых шуканняў, удалося знайсці спосаб прыгатавання пластычных мас з торфу. У касбінеце на стале ён пакінуў тое, што стала вынікам доўгіх ягоных шуканняў. Шуканні скончаны, і цяпер можна паблукаць вось так. Прафесар развінае перад сабою пустыя рукі, адчуваючы ў руках незвычайную лёгкасць.

Па абодва бакі дарогі, кудой ідзе прафесар, ён угадвае ў цемры за канаўкамі кавалкі тарфяных цаглін. Тарфяны пыл ён угадвае пад нагамі па тым, як мякка ступаюць на дарогу ногі. На прасторах балота стаіць штабелямі здабыты торф. Гэта дзесьці за цемрай яшчэ не адышоўшай начы. І там жа велізарныя запасы яго пад мяккім насцілам імхоў. У прафесара ледзь-ледзь пабальвае галава. Боль ціснe на скроні. Час ад часу ён сплюскае вочы, і боль сціхае.

У доме, перад ганкам якога прафесар спыняецца, усе яшчэ спяць: ніводнага аганька ў вокнах. Ён адчыняе дзверы ў калідор і ідзе да чацвёртых дзвярэй з правага боку. У дзверы пацiху стукае. Раз, потым яшчэ і яшчэ. Адказвае на ціхае пытанне «хто там», чакае, пакуль два разы паварочваецца ў дзвярным замку ключ, і ідзе ў адчыненыя дзверы насустрач прыемнай цеплыні і ціхаму жаночаму голасу. Пасля цёмнага калідора ў пакоі відней, і ён добра бачыць жанчыну, якая стаіць у белым сярод пакоя. Ён бярэ яе рукі, якія жанчына трымае перад сабою на ўзроўні грудзей, і цалуе адну, потым другую.

— З добрым ранкам,— кажа ён, пазіраючы ёй у твар, хоча разгледзець яе вочы.— Павіншуйце мяне.

— Няўжо ж? Міхаіл Палікарпавіч? — Яна вызваліла свае рукі з ягоных, узяла яго за локці і пачала трэсці іх.— Няўжо ж? Міхаіл Палікарпавіч! Хутчэй распранайцеся і расказвайце, вось так.

Сама сцягвае з ягоных плеч паліто, а пакуль ён вешае паліто, ідзе і садзіцца на канапе, падкурчыўшы пад сябе ногі.

— Значыцца, толькі што? — пытае яна.— Якая радасць! А як абрадуецца Павел Андрэевіч. І ўсе. Ух! Не ведаю, што і зрабіць вам за гэта.

— Пацалуйце мяне,— жартуе ён і кладзе свае рукі ёй на плечы. Рукамі адчувае цяплынь яе цела. Яна, трымаючыся за рукавы ягонага пінжака, падымаецца насустрач яму, становіцца на каленкі і пальцамі рук блукае па ягоных руках.

— Міхаіл Палікарпавіч! Дарагі. Ды вас тысячу раз за гэта пацалаваць можна. І больш...

Цяплынь яе рук ён адчувае ў сябе на шыі. Сваімі рукамі абдымае яе за плечы, туліць яе да сябе, пасля бярэ далонямі рук яе галаву, некалькі раз цалуе яе твар, пасля адхінае яе галаву і, трымаючы яе ў сваіх далонях, пазірае ёй у вочы.

— А гэта ўсё-такі вельмі добра, Аксана,— кажа ён.— Яшчэ некалькі гадоў, і мы будзем рабіць з гэтага цікавейшыя рэчы: і дамы, і складанейшую апаратуру. Вельмі многае. Ад простага гузіка да складанейшых дэталей для машын. Я вельмі рад.

— А як я рада! А як абрадуюцца ўсе! Міша! Ды ты ж не ўяўляеш, што будзе! — і не заўважыла, што ўпершыню яго назвала так проста. А яго гэта абрадавала і ўсхвалявала. Ён абдымае яе, хіліць да сябе, цалуе яе ў твар, шыю і прыкрытыя лёгкай кашуляй грудзі, бярэ яе на рукі і нясе да ложка.

Пазней Аксана, па-дзіцячаму скурчыўшыся пад коўдрай, ляжыць на ложку, на якім сядзіць, трымаючы яе плечы і галаву на сваіх далонях, Міхаіл Палікарпавіч.

— Ага, я ледзь не запамятала. Райком урэшце дазволіў Кастусю паехаць адсюль. Ён настойліва прасіў аб гэтым.

— Я рад. Ён таксама, значыць, вельмі моцна кахае вас... Гэная ноч у мяне нейкая асаблівая. Так-так. Вось і я хацеў сказаць. На камбінаце працуе нямецкі інжынер Пецольд. Гэта не Пецольд, гэта сын Пілацеева. Ён учора ўвечары быў у мяне. Я не ведаю, што ён хоча зрабіць, але ён вялікі нягоднік.

— Пілацееў? — Аксана здзіўлена падымае галаву.— Сын былога нашага пана?

— Так.

— Аб гэтым трэба зараз жа сказаць Паўлу Андрэевічу.

— Так, так, трэба сказаць зараз жа.— І Міхаіл Палікарпавіч кідае погляд на акно, за якім пачынаецца веснавы ранак.

*

Мінула яшчэ чатыры гады.

Падабраўшы апошнія пакосы канюшыны, шчыльна ўтаптаўшы ў высокія драбінкі калёс, Тарэнта Шкробат ад'язджае з поля апошнім.

Канюшына маладая і сакавітая. Пакуль падбіраў Та-

рэнта і клаў яе ў драбінкі калёс, а пасля пакуль чакаў яшчэ Марылю з сынам, коні елі канюшыну і цяпер ахвотна ідуць па дарозе, падымаючы капытамі пыл.

Вечарэе. На зямлю паспела легчы раса, і пыл, невысока ўзняўшыся, ападае. Абапал дарогі калгасная ярына. У самай сіле авёс і ў самым цвяту лён.

Тарэнта ідзе побач з коньмі. Ён ідзе шырокімі, цяжкімі крокамі, трымаючы руку на конскай шыі. Слухае, як тарахцяць на жалезных восях лёгкія калёсныя каткі.

На калёсах, на канюшыне, звесіўшы на левы бок ногі, сядзіць Тарэнтава дачка Марыля. Яна сядзіць, нахінуўшыся на правы бок, абапёршыся рукой на шчыльна ўтаптаную канюшыну. Пад яе рукой, жыватом на канюшыне, падпёршы прыўзнятую ўгору галаву абедзвюма рукамі, ляжыць яе сын. У сына чорныя сукрыстыя валасы. Ён пазірае ў прастору перад сабою, адкуль даўгім радам цьмяных агнёў мігае поезд. За поездам сцелецца густы грукат жалеза, і ў ім глухнуць працяжныя паравозныя ўскрыкі.

Калі поезд адыходзіць, Марылін сын пазірае на асветленыя вокны электрастанцыі і заводаў. Плямкамі цьмянага святла свецяцца вокны, і хлапчук спрабуе пералічыць, колькі іх. Ён рытмічна гушкае над сабою ўзнятыя ўгору босыя ногі. Далёкія цьмяныя плямкі вокан ён лічыць, выставіўшы наперад руку з працягнутым у прастору ўпартым пальцам, і з тым, як ён лічыць, будынкі заводаў і электрастанцыі шчыльней абгортваюцца змрокамі, і плямкі вокан святлеюць, вырастаючы ў памерах.

Над лагчынамі ў полі ўстае туман. Туман насцілаецца на ўсё большы прастор, і ўсё гусцей з тым, як выходзіць з-за лесу, за возерам, месяцаў круг. Туман засцілае далячынь, і ў тумане разам успыхваюць цэлай паскай ліхтары на дарозе, якая вядзе ад заводаў да Яснаўскага калгаса і далей, абмінаючы яго, да тарфяной станцыі і торфзавода. Паска светлых зыркіх кропак перарываецца сцяной густой тапалёвай прысады, якая ідзе ад гасцінцу да былога панскага двара, а потым цягнецца далей аж за рэчку, адкуль мігаюць агнямі вокан дамы рабочых камбіната. Там рабочы гарадок. Ён на тым баку рэчкі, а бліжэй паміж рэчкай і тапалёвай прысадай поле, ахутанае туманам і густымі змрокамі.

— Там жыў твой дзед,— гаворыць Марыля да сына, паказваючы рукою ў поле паміж рэчкай і тапалёвай прысадай, і хлапчук, і сам Тарэнта павартаюць галовы ўлева.

— Там? — пытае здзіўлена хлапчук.

— Ага, там.

Хлапчук маўчыць нейкі час, пазіраючы ў цёмную глухую далячынь, а пасля кажа:

— Там страшна. Я там адзін ніколі не жыў бы. А ты, дзед, не баяўся жыць там?

— Я? — Тарэнта здымае з конскай шыі руку і прыцішае крокі, каб ісці побач з калёсамі. Калі калёсы нагаНяюць яго, хлапчук бачыць, як прыўзнімаецца правы Тарэнтаў вус, нараджаючы хітраватую ўсмешку.— Я ці баяўся? — перапытвае ён.— Гэта, як сказаць. Можа, і баяўся... А ці хутка ж Ёська прыедзе? — пытае ён, звяртаючыся да дачкі.— Хоць бы зірнуў, што ў нас тут робіцца. Нябось і не пазнае, падумае, што не туды трапіў...

За гэтым наганяе коней і, адвязаўшы ад дышла лейцы, ускаквае на воз. На возе стаіць каленкамі на канюшыне за плячыма ў Марылі. Раз-пораз злёгку шморгае лейцамі і кідае хутчэй у прастору, чым коням, сваё працяглае «но-о». Коні бягуць дружнай рыссю. Насустрач, у твар Тарэнту, дзьме з поля мяккі, насычаны росамі, вецер. І насустрач з-за ветру і з-за туману, з лагчыны, што за вялікай дарогай і за заводамі, густым россыпам зыркіх зор выступаюць агні, ад якіх адыходзіць палахлівымі зданямі шызы балотны туман.

Мінск — Галіцына, 1933—1934 гг.

*Белорусский роман*

Платон Романович Головач

СКВОЗЬ ГОДЫ. Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке

Рэдактар Хв. Жычка. Мастак Ю. К. Зайцаў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар І. М. Паланейчык.

ІБ № 1656. Здадзена ў набор 14.06.83. Падп. да друку 21.02.84. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. кн.-часоп. № 2. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,32+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 19,74. Ул.-выд. арк. 22,15. Тыраж 15 000 экз. Зак. 2947. Цана 2 р. 20 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

